Бібліятэка
беларускай
прозы



Ілья
Гурскі

# Лясныя салдаты

БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

ІЛЬЯ
ГУРСКІ



# ЛЯСНЫЯ САЛДАТЫ

Апавяданні
і аповесць



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1979

# АПАВЯДАННІ

## ПЕРАД БУРАЙ

Дзьмулі жнівеньскія вільготныя вятры, гналі з узмор'я свінцовыя хмары, засцілаючы блакітнае неба. Усё наваколле, нібы дыванамі, было ўслана цёмна-зялёнымі сенажацямі. На адным баку балотнай паўнаводнай рэчкі, якая змейкай выкручвалася сярод кустоў лазы, на невялічкай градзе ўзвышаліся кучаравыя бярозы. У рэчку ўпалі пакручаныя лісці, вецер пагнаў іх да чаротаў, што раслі навокал багністых берагоў.

Каля рэчкі важна стаяў на адной назе бусел, аглядаючы прасторы. З-за куста выскачыў хлапчук з падкасанымі па калені калашынамі, шпурнуў палку ў бусла. Той, нібы дражнячыся з хлапчуком, пастаяў з паднятымі крыламі, гатовымі да ўзлёту, а потым сабраў іх і паважна, як на шпацыры, пайшоў у бок узгорка, на якім зелянелі прысадзістыя яліны з зубчастымі вершалінамі.

На паплавах узвышаліся крыху парыжэлыя ад дажджу і ветру стагі, пахла духмяным сенам. Каля будана трымцелі на ветры рыбалоўныя снасці, дрыжалі тонкія канцы вудзільнаў, побач з касой ледзь прыкметна пагойдвалася на суку дубальтоўка, кідаючы цень на зямлю. Патрэскваў касцёр, ляцелі ўгару іскры, гаслі ў паветры і чорнымі кропкамі падалі на траву. Віліся чырвоныя стужкі навокал пачарнелага, падвешанага на перакладзіне салдацкага кацялка, у якім варылася небагатая страва. З кацялка тырчаў пучок зялёнай цыбулі, якая яшчэ не паспела змяніць свайго колеру.

За буданом, схаваўшыся ад пранізлівага ветру, сядзіць на пні чалавек. Ён, нахіліўшыся над паперамі, нешта піша. Па ўсім відаць, што праца ідзе добра, бо чалавек піша радок за радком. Ён да таго захапіўся работай, што ў задуменні падняў руку і хацеў пагладзіць галаву, зусім забыўшыся, што ён у шапцы. Ён сёння ўжо напісаў некалькі старонак дробным, уборыстым, косым почыркам. Задаволены, чалавек прыжмурыў вочы, каля іх сабраліся маршчынкі; хацеў быў узяцца за бараду, але ўспомніў, што яе няма; паглядзеў на сціснуты кулак і сам сабе ўсміхнуўся. Ён, відаць, яшчэ не прызвычаіўся да таго, што барада паголена. Потым чалавек зняў шапку і павесіў на сучок. Вецер раздзімаў яго чорныя як смоль валасы.

Хаваючыся ад агентаў Часовага ўрада, Уладзімір Ільіч апынуўся ў будане паблізу станцыі Разліў. Сышчыкі збіліся з ног, каб знайсці месца, дзе хаваўся Ленін, але ім гэтага зрабіць не ўдалося.

— Канстанцін Пятровіч! — занепакоілася жанчына, што варыла яму абед: яна ўгледзела незнаёмага рыбалова, які хадзіў каля рэчкі.— А чаму вы без шапкі?..

Уладзімір Ільіч схамянуўся і, надзяваючы шапку, збіў парык, з-пад якога відаць быў вялікі лоб. Потым Уладзімір Ільіч устаў, выпрастаў спіну, заклаў пальцы ў кішэнькі камізэлькі і звычайнай, сваёй даволі імклівай і паспешлівай паходкай, злёгку ўсміхаючыся, відаць, натхнёны работай, прайшоўся, а потым, паглядзеўшы ў бок рыбалова, насцеражыўся. Не такое ўжо тут рыбнае месца, што яны сюды зачасцілі.

Закружыў вецер, падхапіў лісты рукапісу; хлапчук падбег і сабраў лісты, асобныя месцы былі падкрэслены адной і дзвюма рыскамі, і прачытаў: Ф. Ф. Іваноўскі, «Дзяржава і рэвалюцыя». Хлапчук хітра ўсміхнуўся — ён ведае сакрэт Канстанціна Пятровіча, ведае, пад якім прозвішчам выйдзе яго кніга. А хто такі Канстанцін Пятровіч? Бацькі хлапчуку гэтага не сказалі, аднак дзіцячая душа, відаць, нешта адчувала, і ён вельмі цікавіўся госцем. Яны за апошні час так падружылі, што хлапчук гатоў быў дзень і ноч праводзіць з Канстанцінам Пятровічам, які расказваў яму шмат цікавага.

У хлапчука былі круглыя ружовыя шчокі і кірпаты

рабаціністы нос. Быстрыя сінія вочы падлетка ўсміхаліся, ён гатоў быў сваволіць. А маці непакоіла, што гэта за рыбалоў ходзіць па беразе, але яна не падавала выгляду, што хвалюецца.

Падышоўшы да хлапчука, Уладзімір Ільіч заўважыў, што з падлеткам адбываецца нешта такое, міма чаго даросламу ніяк нельга прайсці — можна пакрыўдзіць чулую дзіцячую душу. Ленін дапытліва паглядзеў на хлапчука, жадаючы дазнацца, якая ў яго радасць.

— Канстанцін Пятровіч! — не вытрымаў хлапчук.— А я таксама пішу... Паглядзіце...

— О-о-о, вершы,— усміхнуўся Уладзімір Ільіч.— Ну, значыць, прыйдзецца даць стрэліць... Ты ўжо амаль паэт...

Хлапчук ад радасці аж падскочыў: Канстанцін Пятровіч разгадаў яго патаемныя думкі.

— А толькі ты перш за ўсё вучыся,— сказаў Уладзімір Ільіч.— Паэту трэба многа ведаць, каб было пра што людзям гаварыць.

— Дзе ён толькі сёння не быў са сваім вершам, нават на станцыю хадзіў, мусіць, каб пахваліцца перад настаўнікам, перад сябрамі...— цешылася з сына маці.

— У яго ўзросце многія пішуць вершы,— зазначыў Уладзімір Ільіч і павярнуўся да хлапчука: — А толькі нешта ў цябе з рытмам не ладзіцца, ды і рыфмы трапляюцца слабаватыя...

— А я яго нанава перапішу...

— Хіба толькі!..— усміхнуўся Уладзімір Ільіч.— Цяжка быць пісьменнікам...

— Канстанцін Пятровіч! Можа, абедаць будзеце? — запыталася жанчына.

— Нешта не хочацца,— адказаў Уладзімір Ільіч і, паглядзеўшы на гадзіннік, дадаў: — Хоць ужо і час. А як у нас з прадуктамі?

— Прадукты ёсць, Канстанцін Пятровіч,— жанчына паглядзела на хлапчука, які пабег да рэчкі, а потым паведаміла: — Таварышы з Піцера паклапаціліся.

— Таварышы з Піцера шлюць, а там ім самім цяжка,— прагаварыў Ленін.— Я яшчэ крыху папрацую.

— Не, Канстанцін Пятровіч,— стаяла на сваім жанчына.— Вы ад самай раніцы працуеце. Адпачылі б трохі, прагуляліся ці схадзілі б на паляванне. Колькі

тут за вайну развялося ўсялякай дзічыны! Мне і так ад мужа хопіць на арэхі. Суровы наказ — карміць вас у пару. Ды абед, пэўна, астыў, хоць я яго ўкруціла і паставіла ў стог.

У голасе жанчыны чуліся ноткі просьбы. Ільіч паглядзеў на яе добрыя, поўныя цеплыні карыя вочы, на загарэлы твар і згадзіўся паабедаць.

— Значыць, абедаць абавязкова? — мыючы рукі, з усмешкай запытаўся Ільіч.

— Так,— падаючы ручнік спрацаванымі рукамі, сказала жанчына і заспяшалася да стога, дзе быў схаваны абед. Яна сама сабе падумала: «Які ён просты і добры, а я баялася — як з ім гаварыць».

Уладзімір Ільіч, сеўшы на траве, пачаў з апетытам абедаць.

Перад ім на пасланай белай сурвэтцы стаяла талерка са страваю, ад якой ішла пара, ляжаў хатняй выпечкі накроены чорны хлеб. Кабета збоку наглядала за Ільічом, шчаслівая, што абед яму спадабаўся.

Хлапчук падбег да агню і пачаў поркацца ў прыску, час ад часу хітра пазіраючы на Канстанціна Пятровіча, каб звярнуць на сябе ўвагу.

— Дык як, Петрусёк,— загаварыў Ільіч,— пасля абеду пойдзем на паляванне?

— Пойдзем,— ажывіўся хлапчук і адразу выпаліў: — А толькі я не Петрусёк, а Віця Разліўцаў!

— Чаму? — здзівіўся Ільіч.

— А чаму вы Фы Фы Іваноўскі? — адказаў пытаннем на пытанне хлапчук, а пасля дадаў: — Віця між іншым, а Разліўцаў таму, што жывём недалёка ад станцыі Разліў.

Ільіч весела засмяяўся, а потым пасураваў і нахмурыў бровы. Прамільгнула думка: «Патрэбна вялікая асцярожнасць: часам людзі, зусім не хочучы зрабіць нічога дрэннага, могуць прагаварыцца і нашкодзіць справе».

— А каб пра мяне хто распытваў,— вырашыў праверыць Ільіч хлапчука,— што б ты сказаў?

Уладзімір Ільіч, прыжмурыўшы вока, уважліва глядзеў на хлапчука, чакаў адказу.

— Гэта наш госць, Канстанцін Пятровіч Іваноў, з Сестрарэцка,— вось што я адказаў бы... Канстанцін

Пятровіч! Бульбу печаную будзеце есці? — прапанаваў хлапчук.— Лепш любога кампоту!

— З прыемнасцю,— згадзіўся Ільіч. Ён пераканаўся, што хлапчук не ведае, хто такі Канстанцін Пятровіч Іваноў, і заспакоіўся.

Уладзімір Ільіч ахвотна ўзяў з рук падлетка падрумяненую сопкую скараспелку і пачаў абскрабаць яе ножыкам.

— Канстанцін Пятровіч! — не сунімаўся хлапчук.— Вы былі ў Піцеры, а ці бачылі вы Леніна?

— Бачыў,— насцярожана адказаў Ільіч і запытаўся: — А што?

— Ды раніцаю на станцыі абкружылі поезд, ва ўсіх правяраюць дакументы, кажуць, шукаюць Леніна. Сабралася многа людзей. А нейкая бабулька хрысціцца і просіць бога, хоць бы не знайшлі Леніна. «Напакутаваўся,— кажа бабулька,— ён за нас пры цару, а цяпер гэты праклятыя Керанскі хоча Леніна зноў у турму пасадзіць і зрабіць з ім расправу». А потым хтосьці крыкнуў: «Не дадзім арыштаваць Леніна!» — «Не дадзім!» — адказаў натоўп. А каб вы бачылі, як людзі былі рады, калі даведаліся, што Леніна не знайшлі.

— Рады? — перапытаў Ільіч.

— Ага,— пацвердзіў хлапчук.— А Лёнькаў тата, стрэлачнік, сказаў: «Нашага Леніна не так проста ўзяць. Ён яшчэ пакажа гэтаму Керанскаму, дзе ракі зімуюць, будзь здароў!»

— Гэтак і сказаў?

— Няўжо ж,— прагаварыў хлапчук, і ў яго загарэліся вочы.— А які Ленін? Мусіць, вялікі-вялікі? Бальшавік?

— Бальшавік,— пацвердзіў Ільіч.

— Канстанцін Пятровіч! — падышоўшы, запыталася жанчына.— Можа, вы адпачнеце? Лезе ён са сваімі размовамі.

— А мы з ім гаварылі пра тое, ці ведае ён, як зваць госця, калі б хто пытаўся,— усміхнуўся Ільіч.— А потым перайшлі на палітыку...

— А ён каб што і ведаў, дык нічога не сказаў бы,— з гордасцю за сына прагаварыла маці.— Ён умее трымаць язык за зубамі. Бацька з маленства прывучыў.

— Мы з ім пойдзем на паляванне.— Ільіч пагля-

дзеў на пачырванелыя ногі хлапчука і спагадліва сказаў: — А толькі ты босы, холадна будзе...

— Нічога, босаму лягчэй,— адказаў хлапчук.

— Канстанцін Пятровіч, можа, чаю вып'еце? — запытала жанчына.

— Пасля.— Ільіч паглядзеў у бок будана і, звяртаючыся да хлапчука, спытаў: — Ну як, Разліўцаў, гатоў?

— Іду, Канстанцін Пятровіч!

— Возьмеш стрэльбу.

— Добра.— Хлапчук быў рады, што яму даверылі дубальтоўку. Ён ускінуў яе на плячо і важна прайшоў каля маці. Кабета правяла паляўнічых добрым позіркам і ў думках пажадала: «Шчаслівай дарогі!»

Жанчына заглянула ў будан, павесіла плашч. Яна лічыла за шчасце, што даглядае за Уладзімірам Ільічом. Яе толькі непакоіла тое, што пачыналіся дажджы, ноччу ў будане было холадна і вільготна, ён сям-там пачынаў прасвечваць. Яна агледзела будан, распрáвіла сена, падбіла падушку. «Такі чалавек,— падумала жанчына,— вымушаны хавацца ў будане. Якая ж гэта рэвалюцыя?.. Буржуі ўзялі верх...» Яна ўспомніла словы мужа: «Але разбушуецца мора людское і выкіне іх, як і цара, на сметнік. Страшны ў гневе народ».

У Разліве, на станцыі, на розныя галасы пераклікаліся паравозы. Жанчына паглядзела ў кірунку станцыі і заўважыла чалавечую постаць — чалавек ішоў у гэты бок. Яна зменшыла агонь, каб не выкіпела ў кацялку страва, узяла граблі і пайшла насустрач незнаёмаму. Ёй здалося, што ідзе нейкі вайсковы. Яно так і было — ішоў чалавек у шынялі. Жанчына зусім неўзаметку для сябе стала кусаць пазногці.

Як толькі незнаёмы параўняўся з жанчынай, ён прыветліва запытаў:

— Вы што, ужо ўправіліся з сенам?

— Ды не яшчэ, надвор'е не спрыяе,— адказала насцярожана жанчына і дадала: — Клімат тут такі, што хутка не ўхопіш. Раніцай сонца свеціць, а ўдзень дождж ідзе. А як у вас?

— А ў нас таксама благі клімат,— націснуўшы на слова «клімат», шырока ўсміхаючыся ў чорныя вусы, адказаў незнаёмы.— Але нічога, Марыя Іванаўна, пераджывём. Будзе і на нашай вуліцы свята...

— Адкуль вы мяне ведаеце?
— Ад вашага мужа, Максіма, ён сказаў мне вашы прыкметы. Вось вам ад яго запіска, каб не сумняваліся,— і незнаёмы працягнуў канверт.
— А вы хто? — іншым тонам запытала жанчына.
— Сярго,— вочы яго смяяліся.— Чулі такога?
— Таварыш Сярго! А як жа! Мне Максім пра вас гаварыў.
— Вельмі добра,— вітаючыся за руку, сказаў Сярго.— Будзем знаёмы. Мне трэба пабачыць Канстанціна Пятровіча. Як зго здароўе?
— Нічога.
— Што ён цяпер робіць?
— Пайшоў з сынам на паляванне.
— Далёка?
— Не. Бачыце, вунь ходзіць каля возера.
— Я пайду туды.
— Калі ласка. Ды толькі адпраўце адтуль сына, каб ён не перашкаджаў вам.
Сярго, відаць, хацеў штосьці сказаць, але Марыя Іванаўна яго перабіла:
— Яму ўжо час ісці дадому. Я каля будана буду яго чакаць.
— Добра,— ласкава ўсміхнуўся ў вусы Сярго.
І ён наўпрост пайшоў да возера. Жанчына, ідучы, наглядала, як Сярго лёгка перабіраўся з купіны на купіну, скарачаючы шлях. «І гэты, відаць, таксама з арлінага племя,— падумала Марыя Іванаўна.— Недарма кажуць: «Скажы, хто твае сябры, і я скажу, хто ты». Кабета вярнулася да будана і стала рыхтаваць вячэру.
Калі Сярго падышоў да Ільіча, дык нават разгубіўся. Хоць ён і ведаў, што Ленін загрыміраваны, але не чакаў, што гэта так зменіць чалавека.
— Што, не пазналі? — засмяяўся Ільіч.
— Зусім перамяніліся.— І Сярго хутка пайшоў насустрач да Леніна.— Як вы тут сябе адчуваеце?
— А нічога, мяне прыходзілі ўжо наймаць касіць,— пасмейваючыся, гаварыў Ільіч.— Вось толькі дажджы... дастаюць і ў будане.
— У ЦК меркавалі знайсці вам бяспечную кватэру. Магчыма, прыйдзецца пераехаць вам у Фінляндыю...
— Іншага выйсця я не бачу.

— Канстанцін Пятровіч! — падбег хлапчук да Ільіча і спыніўся, уважліва разглядаючы з галавы да ног незнаёмага. Панізіўшы голас да шэпту, ён вымавіў: — Вунь там, за аерам, качар!

— Так і быць, адзін набой у нас яшчэ ёсць, паспрабуй ты сваё паляўнічае шчасце,— і Ільіч, падміргнуўшы, даў хлапчуку стрэльбу.

У Петруся ад радасці ажно засвяціліся вочы. Хлапчук, прыгінаючыся да зямлі, як добра спрактыкаваны паляўнічы, пайшоў у бок азерца, берагі якога зараслі аерам. Уладзімір Ільіч і Арджанікідзе сачылі за хлапчуком. Пятрусь зляжыўся і стрэліў. Качар залапатаў крыламі, узняўся і імкліва падаўся ўбок.

— Ах ты, якая прыкрасць! — прагаварыў Ільіч.— Нешта нам сёння не шанцуе, грамадзянін Разліўцаў.

Збянтэжаны хлапчук падбег да Ільіча і, спяшаючыся, сказаў:

— Канстанцін Пятровіч! Не завіце мяне Разліўцаў.

— Добра,— усміхнуўся Ільіч.— З гэтай мінуты ты зноў Пятрусь.

— І дазвольце, я пайду да будана.

— А што ты там будзеш рабіць?

— Дапамагаць маме,— адказаў хлапчук і дадаў: — А можа, якую рыбіну ўдасца падчапіць.

— Ну ідзі і стрэльбу занясі.

Хлапчук ускінуў дубальтоўку на плячо і хутка пайшоў да будана.

— Хіцёр! — усміхнуўся Сярго.— А маці непакоілася, што сам ён не здагадаецца. Тактоўны хлопец!

Уладзімір Ільіч і Арджанікідзе прыселі каля стога сена, які быў так нахілены, што, здавалася, не вытрымае моцнага напору ветру. Арджанікідзе паведаміў, што ўсе ўказанні Уладзіміра Ільіча па правядзенню нелегальнага з'езда партыі выкананы. Ільіч, перагортваючы прынесеныя Арджанікідзе матэрыялы з'езда, які толькі што адбыўся ў Петраградзе, гаварыў:

— Так, так... Вось іменна, саюз пралетарыяту і беднейшага сялянства — умова перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. А які настрой у Піцеры? — запытаўся ён, адарваўшыся ад матэрыялаў.

— Рабочыя і салдаты масамі пакідаюць меншавікоў і эсэраў,— адказаў Сярго.

— Гэта добра,— прамовіў Ільіч і, падумаўшы, да-

даў: — Нам трэба будзе браць уладу сілаю... А што ў Маскве? Як у Мінску?

— І ў Маскве, і ў Мінску, і ў Луганску, і ў Іванаве мы маем паварот народнага руху да нашай партыі.

— Так і павінна быць,— Уладзімір Ільіч падняўся і, ідучы з Сярго да будана, уголас разважаў: — Паўстанне выспявае. У хуткім часе большасць народа будзе за нас. Нам трэба будзе ў час падняць народ на барацьбу. Перад гэтым неабходна мець канкрэтны план паўстання: як выкарыстаць вайсковыя часці, флот і чырвонагвардзейцаў, якія рашаючыя пункты трэба будзе ў першую чаргу захапіць, каб забяспечыць поспех паўстання. Вялікая, архіадказная задача. Усё прадугледзець!.. Трэба будзе стварыць Партыйны цэнтр па кіраўніцтву паўстаннем...

Яны падышлі да будана. Над возерам узнімаліся хмары, завываў і скуголіў вецер, стала холадна. Жанчына прапанавала Уладзіміру Ільічу шарсцяную хустку, але ён адмовіўся. Убачыўшы, што хлапчук ад холаду пасінеў, Ільіч накінуў на яго плечы хустку і прапанаваў маці ісці з сынам дадому.

— Павячэраеце, тады я пайду,— нясмела запярэчыла Марыя Іванаўна.

— Было б што вячэраць, самі ўправімся,— сказаў, усміхаючыся, Уладзімір Ільіч.

— Як жа гэта так? Тады хоць я разалью вам,— жанчына адчувала, што Уладзіміру Ільічу трэба пагаварыць з Сярго, аднак яе непакоіла, што яны застануцца галоднымі. Убачыўшы разгубленасць жанчыны, Ільіч згадзіўся зараз жа павячэраць.

— А чай мы самі згатуем,— сказаў ён.

Жанчына падала ў талерках юшку, якая прыемна пахла прыправаю.

— Выключная юшка! — пахваліў Сярго страву.

Пасля вячэры гаспадыня хутка прыбрала посуд і, задаволеная, што госці павячэралі, пайшла з хлапчуком дахаты. На развітанне яна ад душы пажадала:

— Спакойнай ночы!

— Прыемнага сну! — адказаў Ільіч, праводзячы ласкавымі вачыма гасцінную гаспадыню.

Амаль усю ноч Уладзімір Ільіч прагаварыў з Сярго, абмяркоўваючы пытанні рэвалюцыі ў Расіі, план заваёвы бальшавікамі ўлады, перспектывы развіцця са-

цыялістычнай дзяржавы. У сваім багатым уяўленні ён бачыў ужо народы Расіі свабоднымі, краіну індустрыяльнай і кааперавaнай, з шырокай сеткай магутных электрастанцый. Новая Расія стане на чале прагрэсу свету.

Пачало днець. Паглядзеўшы на гадзіннік, Сярго захваляваўся:

— Мне, Уладзімір Ільіч, трэба ісці на поезд. А вы крыху адпачніце!

— Ідзіце,— развітваючыся, прагаварыў Уладзімір Ільіч.— Дзякуй за весткі, матэрыялы з'езда, кнігі... Дзейнічайце, як умовіліся!..

Раніцаю Марыя Іванаўна застала Уладзіміра Ільіча за касьбой — гэта была яго зарадка. Пасля снедання і да самага абеду Уладзімір Ільіч, не адрываючыся, пісаў, а пасля з хлапчуком пайшоў на прагулку.

Жанчына заўважыла, як нехта набліжаўся да будана. Яшчэ здалёку яна пазнала па паходцы мужа. Пад пахай у яго быў кажушок.

— Як Ільіч? — вітаючыся, запытаў Максім.

— На прагулцы,— паведаміла Марыя Іванаўна.

— З Піцера яшчэ прыслалі прадуктаў. Я іх палажыў у кухонную шафу. Ты нешта хацела сказаць?

— Ведаеш што,— занепакоілася Марыя Іванаўна,— чагосьці зачасцілі каля будана людзі. Учора на світанні прыходзіў нейкі наймаць Ільіча касіць.

— Аб гэтым я ўжо ведаю, мне сказаў Сярго. Я праверыў таго чалавека.— Максім насупіў бровы, з-пад якіх паблісквалі блакітныя вочы.— А яшчэ што?

— Не падабаецца мне адзін рыбалоў, які ўвесь час снуе каля рэчкі. Сёння, каб адчапіцца, купіла ў яго шчупака.

— А як ён адзеты? — устрывожыўся Максім. Ён выцер хусцінкай спацелы лоб, да якога прыліплі русыя валасы.

— У салдацкай ватоўцы, з кацялком на рэмені. У яго цераз усю правую шчаку рубец, мусіць, на вайне параніла.

— А-а-а,— Максім зачасаў пяцярнёю валасы на прадаўгаватай галаве,— я яго бачыў, гаварыў з ім. А ўсё ж трэба яшчэ пацікавіцца...— Максім чмыхнуў носам.— Душа чалавека не кажух, не вывернеш...

— Толькі каб добра ўсё абышлося,— непакоілася Марыя Іванаўна.

— Ільіча трэба берагчы,— пасуравеў Максім.— Ты зразумей толькі, Марыя: тут, у будане,— штаб рэвалюцыі.

— Ведаю. А навошта ты нясеш гэты кажушок? — здзівілася яна.

— Госцю накрыцца.

— Няўжо ж ты нічога лепшага не знайшоў? — упікнула Марыя Іванаўна.

— Няважна, што стары. Каб не было падазронасці,— растлумачыў Максім.— А многа сёння зрабіў Ільіч?

— Многа. Вельмі многа. З самай раніцы, не адрываючыся, працаваў. Я заўважаю: як толькі ў яго хто пабудзе, з'яўляецца прыліў сілы. Уражанне такое, нібы ён спяшаецца...

— Колькі ў гэтага чалавека энергіі, якая працаздольнасць! — разважаў Максім.— А ўсё чалавек для нас робіць, для людзей, якія з мазаля жывуць. Мы, масы, вялікая сіла — гэта правільна, але калі б у нас не было створанай Леніным партыі, калі б не было яго баявых саратнікаў і вучняў, цяжка нам прыйшлося б.

— А чаму яны да нас не прыедуць? — спыталася Марыя Іванаўна.

— З'ездам былі занятыя,— адказаў Максім.— Ой, колькі ў іх работы! — Максім падумаў.— Але яны будуць тут, абавязкова будуць. Бачыш, Сярго ўжо наведаў.

— Вельмі добра! — узрадавалася Марыя Іванаўна, што ўгледзіць памочнікаў Леніна.

— А як Петрусёк трымаецца, не назаляе Ільічу?

— Не,— адказала Марыя Іванаўна і спыталася: — А якія навіны ў Піцеры?

— Павар'яцелі служкі Керанскага: усюды шныраць, робяць вобыскі. На кожнай станцыі правяраюць дакументы, шукаюць Леніна.

— Непрыкметнаму чалавеку спакайней жыць на свеце,— заключыла Марыя Іванаўна.

— Дзіва! — згадзіўся Максім.— Чаго толькі цяпер у Піцеры не плятуць пра Ільіча: адны кажуць, што Ленін уцёк у Германію на мінаносцы, а другія — на падводнай лодцы.

— Выходзіць, Ільіч абвёў сышчыкаў вакол пальца,— задаволена ўсміхнулася Марыя Іванаўна.

— Так,— пацвердзіў Максім.

Яны падышлі да агню.

У кацялку гатавалася вячэра. Марыя Іванаўна асталася каля будана, а Максім пайшоў у бок рэчкі: там хадзіў Уладзімір Ільіч.

Па небе наперагонкі беглі шэрыя хмары, збіраліся ў гурт, і, калі хавалася сонца, было холадна, вецер праймаў да касцей.

Сустрэўшыся з Ільічом, Максім перадаў яму пошту ад ЦК і Крупскай і газеты. Ільіч падышоў да будана, сеў на пень, з прагнасцю прачытаў карэспандэнцыю, прагледзеў газеты і, нібы нешта ўспамінаючы, сам сабе сказаў:

— «Бура! Хутка ўдарыць бура!»

— А як хутка? — запытаўся Максім, а пасля заўважыў: — Мужык не дачакаецца, пакуль узыдзе сонца...

— А мужык чакае ўсходу сонца? — нібы сам у сябе запытаўся Ільіч і адказаў: — Чакае... Вось і створым дзяржаву рабочых і сялян... Мне нават уяўляецца герб першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, там абавязкова павінен быць серп і молат... А рэвалюцыя не за гарамі, яна набліжаецца... Можа, праз месяц ці два...

— Ага, Сярго казаў вам, што Каменеў і іншыя патрабавалі, каб вы з'явіліся на суд контррэвалюцыянераў?.. З'езд выказаўся супраць гэтага, лічачы, што гэта быў бы не суд, а расправа.

— Казаў. Гм-гм.— Ільіч бліснуў разумнымі іскрыстымі вачыма, а потым заліўся смехам.— Дзіўна, простым людзям зразумела, што трэба рабіць, а каменевым і ім падобным... Хоць, што з іх узяць... Балота!..

— А як ідзе праца над кнігай?

— Трэба паскорыць тэмп, таму што пасля не будзе часу,— сказаў Ільіч і, схіліўшы набок галаву, задумліва, прайшоўся, відаць, у яго выспяваў нейкі план дзеяння. Потым сеў і пачаў чытаць кнігу, прывезеную Сярго, робячы на палях нейкія адзнакі, па-рознаму вымаўляючы сваё «гм-гм».

Марыя Іванаўна хоць і зварыла вячэру, але не ішла дадому, ёй хацелася самой дагледзець Леніна. Яна

асцярожна хадзіла каля агню, баючыся патрывожыць Уладзіміра Ільіча. А Максім пайшоў да рыбалова. Асцярожнасць не зашкодзіць.

— Ну, як справы, зямляк? — падышоўшы, запытаў Максім.

— Дрэнь,— злосна адказаў рыбалоў, збіраючыся ісці.— Больш мае нагі на гэтай рэчцы не будзе.

— Якая тут рыба!..— падтрымаў Максім.— Увесь дзень дзеці плюхаюцца.

І яны разышліся. Рыбалоў не выклікаў падазронасці.

Максім заспакоіўся. Цяпер ён сам сядзеў з вудай над рэчкай, але рабіў гэта толькі для прыліку: на самай справе ён ахоўваў свайго госця. З гэтага месца добра відаць былі ўсе подступы да будана.

Хутка садзілася сонца. Неяк дзіўна кігікаючы, праляцела чарада белых з чорнымі крыламі чаек. Нізка, дастаючы да вады, снавалі ластаўкі.

Здалёку чуўся шум лесу. Выў вецер, недзе грымнуў гром, даляцелі сюды яго раскаты, зазіхацелі стрэлы маланак. Насоўваліся ■ узмор'я чорныя хмары. Ільіч цяпер быў зусім не такі, якім яго прызвычаіліся бачыць у часе працы і адпачынку, а нейкі іншы, асаблівы, увесь у будучым.

Пасля Ільіч зноў сеў, узяў паперу, нешта хутка напісаў, паклаў запіскі спачатку ў адзін канверт, а потым у другі, заклеіў і спытаўся:

— А дзе ж Максім?

— Ён рыбу вудзіць,— адказала Марыя Іванаўна і крыкнула: — Максім!

— Іду! — азваўся Максім і хутка падышоў да Ільіча.

— Гэтыя пісьмы трэба хутчэй адправіць з самым надзейным чалавекам у Піцер. Хоць лепей было б, каб вы заўтра самі адвезлі.

— Добра.— Максім паглядзеў на гадзіннік і сказаў: — Ёсць добрае правіла: што можна зрабіць сёння, не адкладвай на заўтра...

— Вельмі добрае правіла,— згадзіўся Ільіч, весела ўсміхаючыся.— Толькі сёння вы не паспееце. І ў мяне будуць яшчэ даручэнні, а сёння я іх не ўпраўлюся падрыхтаваць... Ах, кароткі дзень...

— Можа, павячэраеце? — звяртаючыся да Ільіча, запыталася Марыя Іванаўна.

— Можна,— сказаў Ільіч.— Дый чайку не пашкодзіць... пагрэцца... ноч, відаць, будзе халодная. Але што нам, рыбакам, прызвычаіліся... Вось калі нам кажушок спатрэбіцца!..

Марыя Іванаўна падала вячэру. Уладзімір Ільіч, смакуючы, еў, а потым піў чай упрыкуску з цукрам.

Марыя Іванаўна сабралася дадому.

— Добрай ночы, Уладзімір Ільіч! — пажадала яна.

— І вам таксама! Хустку вазьміце!

— А я сумысля вам яе пакінула, накрыецеся ноччу,— на хаду адказала Марыя Іванаўна. Жанчына ішла дахаты лёгка, бо адчувала, што, дагледаючы Ільіча, робіць вельмі важную справу.

Згушчаліся хмары; аблажыла ўсё неба, стала цёмна, як у калодзежы. Загрукаў гром, бліснула маланка, і як з вядра лінуў дождж.

— Марыя Іванаўна, пэўна, яшчэ не дайшла дахаты,— заклапочана вымавіў Уладзімір Ільіч.

— Нічога, яна ў мяне вынослівая,— адказаў Максім.

— Жанчыну трэба берагчы,— сказаў Уладзімір Ільіч.— Маці і Радзіма — самыя дарагія ў нас словы!.. Ну вось, хутка мы створым сацыялістычную дзяржаву. Для гэтай справы не пашкадуем жыцця...

Яшчэ доўга разважаў уголас Ільіч, прабаўляючы ноч, якая так раптоўна насунулася. Час ад часу бліскала маланка, асвятляючы паплавы. Тады відаць былі бурбалкі, якія падскаквалі ў лужынах, што аблеглі кругом грудок, на якім стаяў будан.

Доўгай была тая ноч. Ірвалі неўгамонныя вятры, і толькі пад раніцу стала ціха, як перад бурай.

*1947*

## ПАРТБІЛЕТ

— Пакажыце ваш партыйны білет,— звярнуўся Нікіцін да ўвайшоўшага ў яго кабінет высокага, стройнага чалавека ў рагавых акулярах, з рыжай клінком бародкай.

Той, захоўваючы ўнутраную ўсхваляванасць, паклаў на стол невялічкую кніжачку ў скураным пераплёце, на якім былі выціснуты літары «ВКП(б)».

Нікіцін, бегла прачытаўшы, акінуў незнаёмага праніклівымі вачыма і, устаўшы, абапёршыся рукамі на стол, здзіўлена спытаўся:

— Старобінскі, Мікалай Кузьміч?

— Але,— сцвердзіў Лявіцкі, сакратар партарганізацыі завода «Усход», які разам з сакратаром гаркома Нікіціным звяраў дакументы членаў партыі свае арганізацыі.— Інжынер. Нядаўна прыбыў.

— Адкуль? — павярнуўшыся да Лявіцкага, спытаўся Нікіцін. Ён быў адзеты ў паўвайсковую гімнасцёрку ахоўнага колеру. У Нікіціна з-пад густых броваў паблісквалі шэрыя вочы. Валасы на галаве былі зачэсаны назад.

— З Урала,— бойка адказаў Лявіцкі, яшчэ зусім малады хлопец і, відаць, неспрактыкаваны партыйны работнік.

Нікіцін ужо каторы дзень асабіста прыводзіў у парадак партыйныя справы, але такога выпадку ніколі не меў. Часам разыходзілася на якую-небудзь адну літару прозвішча ў картачцы і партбілеце. Бывалі выпадкі, калі не сходзіўся год нараджэння: траплялі людзі, якія чамусьці імкнуліся стаць маладзейшымі, а для гэтага, не задумваючыся, «амалоджваліся» на дватры, а то і болей год. Адным словам, былі непарадкі ў партыйнай гаспадарцы. Нікіцін, старанна праверыўшы кожнага чалавека, заносіў у акт адпаведныя папраўкі. Але ў яго практыцы не было такога выпадку, каб чалавек прыйшоў з чужымі дакументамі і тым больш з дакументамі блізкага і дарагога яму чалавека. У першую хвіліну ён здзівіўся, а потым зазлаваў, што аж рукі сціснуліся ў кулакі.

— Кажаш, інжынер? З Урала? — звяртаючыся да

Лявіцкага, перапытаў Нікіцін. У яго вачах з'явіўся гнеў.

— Інжынер, актывіст,— нічога не падазраючы, адказаў Лявіцкі,— такіх, як ён, у нас мала...

Нікіцін падумаў: «Лепей бы іх зусім не было». Перад яго вачыма ва ўсёй велічы паўставаў вобраз баявога начдзіва Старобінскага, аб якім ён кожны раз успамінаў з болем у сэрцы. Гэта быў сапраўдны чалавек, бальшавік, задушэўны таварыш, прыроджаны ваенны. З радавога салдата царскай арміі ён вырас да камандзіра дывізіі. Паміж імі была баявая дружба, якая ніколі не забываецца. Яны часта елі з аднаго кацялка кашу, дзяліліся апошнім сухаром.

Мікалай Кузьміч загінуў на яго вачах. У адным з баёў на Заходнім фронце дывізія Старобінскага, з-за недахопу боепрыпасаў, вымушана была пакінуць занятыя рубяжы. Расстраляўшы ўсе патроны, Старобінскі аддаў загад адступаць і сам кінуўся плысці цераз Нёман. Начдзіў плыў, высока трымаючы над галавою ў адной руцэ партбілет, каб яго не замачыць. Пасля гэтага Старобінскі яшчэ больш стаў блізкім і дарагім.

Партбілет для яго быў самым каштоўным. Разразаючы адной рукой хвалю срабрыстага Нёмана, у другой руцэ Старобінскі, як сцяг, высока трымаў партбілет. Плылі тады яны разам. Нікіцін быў начпалітаддзела дывізіі.

Раптам Мікалай Кузьміч ускрыкнуў. Агледзеўшыся, Нікіцін убачыў толькі кругі ды партбілет, які неслі па цячэнні быстрыя воды.

Так не стала Старобінскага, баявога начдзіва. Нікіцін было паплыў у той бок, дзе загінуў яго таварыш, але чырвонаармеец Храпчанка загарадзіў яму дарогу, крыкнуўшы:

— Таварыш Нікіцін! Белапалякі насядаюць. Прападзём, калі...

А Нікіцін усё ж плыў, але перад ім пачалі лажыцца кулі, і ён павярнуў да берага. Трэба было жывых ратаваць.

Удалым манеўрам тады яму ўдалося захаваць шмат людзей, якія былі асуджаны на смерць. А толькі пасля таго, як бяда мінула, Нікіцін ніяк не мог сабе дараваць, што не дастаў цела начдзіва і не паспеў падабраць партбілет.

Трымаючы ў руках дакумент таго, чыё імя было так дорага для яго і напамінала Нікіціну аб слаўных баявых днях, ён зусім не глядзеў на чалавека, які перад ім стаяў. З маланкавай хуткасцю праносіліся думкі, адна адну пераганяючы. Чалавек, што перад ім стаяў, украдкам паглядаў ва ўсе бакі, з-пад яго акуляраў відаць былі патухшыя вочы. Нікіцін узяў лупу і пачаў разглядаць фотакартку на партбілеце. Сумнення не было: фотакартка не была ў вадзе і літары пячаткі, што заходзілі на фотакартку, крыху не такія. Падняўшы ў руцэ партбілет, гнеўна бліснуўшы вачыма, Нікіцін запытаўся:

— Скажыце, якім чынам трапіў да вас гэты партбілет?

— А гэта доўгая песня,— працадзіў праз зубы чалавек у рагавых акулярах, з рыжай клінком бародкай.

— Вы ведалі таго чалавека, чыё імя насілі?

— Не, не ведаў, але многа чуў.

— Сядайце і раскажыце.

— Дзякую. Не хочацца садзіцца.

— А прыйдзецца.

— Дык там і раскажу.

— Добра.

Нікіцін зняў трубку, набраў патрэбны нумар, пачаў гаварыць па тэлефоне:

— Таварыш Меркулаў! Гэта я, Нікіцін. Прышлі да мяне свайго хлопца. У чым справа? Потым пагаворым. Я табе пазваню. Хоць лепей заедзь сам з тваім чалавекам. Чакаю. Пакуль!

— Та-а-ак,— грузна сеўшы, прагаварыў чалавек з рыжай клінком бародкай. Калі ён нагнуўся, зляцелі акуляры, пабіліся. Ён прамовіў: — Лёс чалавечы, нібы таго карабля: плавае па хвалях мора да той пары, пакуль не наткнецца на скалу якую ці падводны камень...

— Ад гэтага чалавечага карабля асталіся адны трэскі,— паправіў Нікіцін.— Ну, а трэскі — рэч вядомая, хоць і доўга могуць трымацца на паверхні, а толькі немінуча павінны быць прыбіты...

— Што-о? — ускочыўшы, закрычаў чалавек з рыжай клінком бародкай.— Я жыць хачу...

— Прыбіты,— працягваў Нікіцін,— да берага або

выкінуты на мель. Я вас слухаю. Вы нешта хацелі сказаць?

«Не! Лепей загінуць, чым выдаць»,— падумаў чалавек з рыжай клінком бародкай. Паглядаючы на адкрытае акно, адкуль урываліся свежыя струмені паветра, ён зусім нечакана для сябе голасна сказаў:

— Так будзе лепей!

У гэты час у кабінет зайшлі двое чалавек у вайсковым.

— Можна? Нас таварыш Меркулаў да вас прыслаў.

— Калі ласка.

— Таварыш Меркулаў сказаў, што ён тут хутка будзе.

— Добра.

Вайскоўцы не ведалі, за чым іх сюды прыслалі, але ўсім сваім нутром адчувалі, што па важнай справе, іначай бы іх не адрывалі ад работы. Паглядзеўшы на чалавека з рыжай клінком бародкай, адзін з вайсковых, старшы па чыну, прайшоўшы роўным цвёрдым крокам, закрыў акно. Звяртаючыся да Нікіціна, павайсковаму казырнуўшы, ён запытаўся:

— Што загадаеце?

— Разбярыцеся з гэтым чалавекам, хто ён і адкуль.

— Слухаю.

Чалавека з рыжай клінком бародкай вывелі.

Неўзабаве зайшоў Меркулаў. Нікіцін падрабязна яму расказаў аб начдзіве Старобінскім, папрасіў хутчэй правесці даследаванне. Меркулаў абяцаў гэта зрабіць.

Перад канцом рабочага дня Нікіцін даведаўся (яму Меркулаў пазваніў па тэлефоне), што чалавек з рыжай клінком бародкай — птушка вялікага палёту. Гэта быў вядомы разведчык адной дзяржавы, якога доўгі час шукалі і ніяк не маглі напасці на след. Партбілет Старобінскага Мікалая Кузьміча яму быў дадзены яшчэ тады, калі ён быў за граніцай. Нікіцін да таго ўсхваляваўся, што не мог больш прадаўжаць работу.

— Вось табе і актывіст,— з дакорам паглядзеў Нікіцін на Лявіцкага.— У людзях трэба разбірацца, пільным быць...

«Гэта мне добрая навука,— выходзячы з кабінета, думаў Лявіцкі.— Усё жыццё не забуду гэтага...»

І можа б, Нікіцін у гэты дзень больш зусім не працаваў, каб не падзяліўся ўражаннямі аб здарэнні з членамі бюро гаркома партыі, якія яго заспакоілі.

Позна ўвечары Нікіцін пакінуў свой кабінет і выйшаў на вуліцу. За гэты дзень ён праверыў многа членаў і кандыдатаў партыі, сярод іх былі выдатныя людзі, сапраўдныя бальшавікі. Гэта яго радавала. Партарганізацыя завода «Усход» у сваёй аснове была здаровай, здольнай узначаліць барацьбу за пабудову новага грамадства, павесці за сабою масы аднаго з перадавых заводаў краіны.

Па вуліцах горада разгульвалі вятры, прыносячы з сабою дзівосныя пахі квітнеючых садоў. Паволі ідучы, Нікіцін абдумваў свой жыццёвы шлях. Мала ён зрабіў, каб ушанаваць тых, якія загінулі за радзіму. Праходзячы каля рэчкі, ён успомніў начдзіва. А хто яго ведае? А пра такіх людзей павінна ведаць не толькі наша маладое пакаленне, але і ўвесь свет. Былы батрак — стаў генералам. Вось што рэвалюцыя робіць з людзьмі!

Нікіцін зусім не заўважыў, як падышоў да свайго дома. Насустрач яму выбегла светлавалосая, з блакітнымі вачыма дзяўчынка — яго дачка. Яна радасна шчабятала:

— А нашы коцікі ўжо бачаць! Яны ўжо гуляюць! Так смешна куляюцца!

Нікіцін, пацалаваўшы дачку, накіраваўся ў кватэру.

«Калі б людзі ведалі пра Старобінскага, дык не мог бы так доўга пад яго імем хавацца разведчык,— мроіліся думкі ў Нікіціна.— Выходзіць, я ў першую чаргу вінаваты, які добра яго ведаў. Мы, бальшавікі, за ўсё ў адказе. Сапраўды, чаму многія героі асталіся ў цяню? Трэба ў гэтым разабрацца...»

Гэты дзень у сакратара гаркома быў асабліва напружаным.

*1935*

## СЕМНАЦЦАЦЬ

— Мы акружаны,— гаварыў задуменна партызанам Сымон Балатніцкі.— Кругом сцяна, але мы яе павінны прабіць. Іначай...

Ён стаяў на грэбені невялікай гары. Пераганялі адна адну чорныя хмары, вецер варушыў пажаўцелы на сонцы авёс. Каля вуха камандзіра пчалою празвінела куля, урэзалася ў зямлю, падняла пыл. Партызаны сядзелі за гарою, паспускаўшы ногі ў прыдарожную канаву, адпачывалі пасля маршу. А Сымон Балатніцкі, абвешаны патронамі і гранатамі, з біноклем на грудзях, разглядаў, як патрэскалася зямля, расказваў пра абстаноўку, нічога не ўтойваючы. Камандзір падумаў: «Недзе снайпер засеў, па пятах немцы ідуць». Твар у камандзіра быў загарэлы, як бронзавы. Лупіўся нос. Патрэскаліся губы. І ў гэтым не было нічога дзіўнага — яны ўжо некалькі дзён пілі балотную ваду. Сымону Балатніцкаму на выгляд можна было цяпер даць гадоў дваццаць восем, а яму толькі ішоў дваццаць чацвёрты. Апошнія дзесяць дзён ён зусім не галіўся, на шчоках у яго былі рыжыя калючкі. За гэтыя дні ў Сымона Балатніцкага яшчэ глыбей уваліліся карыя вочы. За партызанамі атрада Балатніцкага ішоў эсэсаўскі полк. Седзячы каля канавы, камандзір ціха сказаў:

— Справа ідзе пра тое, каб вось тут, каля гэтых могілак, пакінуць групу людзей. Яны прымуць на сябе галоўны ўдар. Па гэтай дарозе ідуць асноўныя сілы фашыстаў.

— А дзе ж атрад Івана Галашчокага? Ён тут недалёка стаяў... Ці, можа, зняўся і пайшоў? — запытаўся намеснік камандзіра.

— Быў і няма. Вайна. Яны добра біліся...

— Падставіць людзей пад агонь, а самім... гэта ж...

— Так трэба,— рэзка абарваў Сымон Балатніцкі свайго намесніка. Камандзір устаў, падышоў да партызан бліжэй і запытаўся: — Хто згодзен тут добраахвотна астацца?

— Я,— доўга не вагаючыся, адказаў Міхась Грахоўскі, камандзір маладзёжнай групы.— Хто са мною? Да мяне! Адзін, два, тры... васемнаццаць.

— Ваша задача,— звяртаючыся да Міхася Грахоў-

скага, сказаў Сымон Балатніцкі,— скаваць праціўніка, прыкрыць наш адыход і даць мажлівасць вывесці з-пад удару мірных людзей.

У партызанскім атрадзе Сымона Балатніцкага сабралася шмат сялян, галоўным чынам сем'і чырвонаармейцаў, сярод іх багата было дзяцей, старых.

— Аб адступленні не можа быць і гаворкі,— працягваў Сымон Балатніцкі.— Ці ўсе гатовы, калі трэба будзе, прыняць смерць? Можа, хто не ўяўляе небяспекі? Брыгада Капіцы можа не паспець прыйсці нам на дапамогу. Трэба спадзявацца на свае ўласныя сілы,— і, звярнуўшыся да партызана, спытаўся: — Вы хацелі нешта сказаць? Гаварыце!

З радоў выйшаў Ігнат Стома, ён прыглушаным голасам прамовіў:

— У мяне дзіця...

— Паміраць баішся? — устрапянуўся Сымон Балатніцкі.

— Яно, як той казаў, гэтае...

— Баязлівага смерць і на печы знойдзе,— адрэзаў Сымон Балатніцкі.— У кустах не пераседзіш.

— Чаго ты на яго ўссеў, як каршун,— заўважыў намеснік камандзіра, звяртаючыся да Сымона Балатніцкага.— Нікому паміраць не хочацца. Я ведаў адну бабку. Яна кожны дзень малілася і прасіла бога, каб хутчэй памерці. А як прыйшла смерць, дык бабулька і гаворыць: акыш на дзяцей.

Партызаны зарагаталі. Ігнат Стома ўнурыў галаву.

— Ды яно ж так, але, калі трэба, нічога не папішаш,— сурова сказаў Сымон Балатніцкі.— Дзяцей неабходна ратаваць, мы пажылі ўжо, палюдскаваліся, бачылі і добрае, і дрэннае, а ў іх усё наперадзе. Трэба думаць не толькі пра сваіх дзяцей, але і пра іншых... Бачыў, колькі босай, галотнай дзетвары туляецца па лесе? Цэлыя раёны ператвораны ў пустыню... Акрамя здзічэлых катоў, нікога не ўгледзіш на папялішчах. А колькі па дарогах вайны ходзіць малых, якія не маюць прытулку! Бацькі — хто ў Чырвонай Арміі, а хто забітыя... Дык хто пра іх паклапоціцца? Мы! Гэта наш з табою святы абавязак. Зразумела?

— Чаму не?

— Дык тады не каркай. Мы таксама не на шпацыр ідзём. Можа, і нам з табою давядзецца прыняць смерць.

— Годзе табе ўжо, разумею цябе, не падумаўшы сказаў. Прыйдзе часам дурнота ў галаву.

— То, можа, яшчэ хто перадумаў? — спакойна спытаўся Міхась Грахоўскі. Ён стаяў без шапкі, вецер раздзімаў яго русыя кучаравыя валасы. Камандзір маладзёжнай групы сваімі блакітнымі вачыма дакорліва паглядзеў на Ігната Стому.— Яшчэ не позна, выходзь!

— Няма такіх,— гуртам адказала семнаццаць маладых партызан. Яны стаялі з горда паднятымі галовамі, гатовыя змагацца да апошняй кроплі крыві за Радзіму.

— Паўтараю,— звярнуўся Сымон Балатніцкі да Міхася Грахоўскага, але так, каб усе чулі,— ваша задача — як мага даўжэй затрымаць тут праціўніка.

— Ёсць,— казырнуў Міхась Грахоўскі.

— А куды пасля хлопцам адступаць? — пытаўся намеснік камандзіра атрада.— Ты так ім і не сказаў.

— Адступаць? Няма куды,— зазначыў Сымон Балатніцкі. Ён падышоў да Міхася Грахоўскага, абняў яго і моцна пацалаваў.— Слава партыі, камсамолу, якія выхавалі людзей з такімі, як твой, моцнымі характарамі. Трэба, хлопчыкі, біцца да апошняга. Праб'ёмся, тады відаць будзе. Бывайце! Унь паказалася фашысцкая разведка. Не шкадуйце, хлопцы, патронаў.

— Група, за мною! — скамандаваў Міхась Грахоўскі.

Фашысты адкрылі агонь па партызанах. Міхась Грахоўскі са сваёю групаю вымушан быў паўзком прабірацца да могілак, каб заняць выгадны рубеж, адкуль прастрэльвалася ўся навакольная мясцовасць. Іх прыкрывалі партызаны на чале з Сымонам Балатніцкім. Калі Міхась Грахоўскі дапоўз да могілак, ён скамандаваў адкрыць агонь. Фашысцкія матацыклісты, пакінуўшы на дарозе некалькі нерухомых чорна-зялёных кропак, павярнулі назад і хутка зніклі ў лесе. Калі фашысты адхлынулі, Сымон Балатніцкі з сваёй групай пайшоў. Міхась Грахоўскі загадаў акапацца, заняць кругавую абарону.

Заклапочаны Сымон Балатніцкі нарэшце дабраўся да лагера. Па лесе бесклапотна бегалі дзеці, шчабяталі, як птушаняты. Камандзір паклікаў да сябе аднаго хлопчыка і сказаў, каб пазвалі сюды дзеда Ахрэма, старшыню лагера. Неўзабаве нейкі малы хлопчык па-

дышоў да Сымона Балатніцкага. Ён, відаць, хацеў бацькоўскай ласкі, назваў яго «тата». Сымон Балатніцкі да таго быў узрушан, што гэта неяк перадалося і дзіцяці,— хлопчык заплакаў і пабег. Дзіця было круглай сіратою, яно неяк кідалася каля партызан, жыло і расло. «З-за іх, уласна кажучы,— думаў сам сабе Сымон Балатніцкі,— я пакінуў семнаццаць камсамольцаў на верную смерць. А падрастуць, то, можа, нават добрым словам не ўспомняць тых, хто за іх жыццё складзе. Так часам бывае. Але не! Гэтага не будзе, не такія дзеці». Стомлены, ён сядзеў на пні, чакаў дзеда Ахрэма, думаў, як выратаваць ад смерці жанчын, старых і малых. Голле плакучай бярэзіны, пад якою сядзеў Сымон Балатніцкі, нізка апускалася дадолу. Лісце бярэзіны пачынала жаўцець. «А што будзе зімою? — думаў Сымон Балатніцкі.— Дзе я прытулю ўсіх гэтых людзей, чым буду карміць?» Ён закурыў люльку, некалькі разоў пацягнуў і выбіў аб пень тытунь, які яшчэ дыміўся, прытаптаў нагою, каб не зрабіць пажару. А дзед Ахрэм усё не ішоў. «Чым адплаціць фашыстам,— думаў Сымон Балатніцкі,— за прынесеныя людзям гора і пакуты, за знявагу народа? Трэба будзе прымусіць прусакоў адбудоўваць разбураныя гарады і вёскі. Неабходна зрабіць так, каб яны ў дзесятым калене з жахам успаміналі вайну з Расіяй і каб нас доўга памяталі. Мы — ціхія, але да пары да часу. У гневе — мы страшныя. Усе перашкоды сатром на сваім шляху».

— Клікаў мяне, камандзір? — загаварыў падышоўшы дзед Ахрэм.— Ты што ж гэта сёння не такі, як заўсёды? Дзяцей палохаеш. Тугу якую маеш на сэрцы? Хто прынёс боль твайму сэрцу?

— Фашысты.

У гэты час эсэсаўцы адкрылі артылерыйскі агонь па могілках. Уздрыганулася зямля, пасыпалася лісце з дрэў, дзед Ахрэм пахіснуўся; перакасіўся твар Сымона Балатніцкага. Шмат узвалілася на плечы гэтага чалавека людскога гора, як толькі не парвалася яго сэрца. Цягавіты ён быў чалавек, чысты душою і моцны духам.

— Трэба зараз жа падняць усіх людзей,— сурова загаварыў Сымон Балатніцкі.— Асталася адна дарога — вывесці народ праз Чортаву грэблю ў Мікалаеўскі бор.

— Народ нікуды не пойдзе.

— Чаму гэта?

— Людзі ведаюць становішча. Я з імі гаварыў. Будзем абараняцца, пакуль сілы хопіць. А калі няма іншага ратунку, будзем разам паміраць. Гуртам яно лягчэй. Хоць, прызнацца, і не хочацца паміраць.

— Я сам буду гаварыць з людзьмі.

— Дарэмная трата часу,— запярэчыў дзед Ахрэм.— Хіба ты не бачыш, што кругом цябе робіцца? Усе, ад старога і да малога, узяліся за дубіну.

— Што дубіна?! — гарачыўся Сымон Балатніцкі.— З дубінай цяпер не паваюеш.

— Дубіна! — усклікнуў дзед Ахрэм.— Дубіна ва ўсе часы мела і мае значэнне. А чаму? Цяжка народу падняцца, але калі ён паўстане — сагне, зломіць, сатрэ ў парашок... Не ўстаяць фашысты супраць народа. Павер мне, праб'ём сцяну.

— Усё ж я пагавару з людзьмі.

— Пагаварыць з народам ніколі і нікому не пашкодзіць. Вялікія людзі заўсёды абапіраліся і абапіраюцца на народ. Можаш гаварыць з людзьмі, а толькі раней агледзь акопы. Ад самай раніцы працуем. Справа ў тым, што з боку Чортавай грэблі эсэсаўскі батальён.

— Адкуль табе вядома? — занепакоіўся Сымон Балатніцкі.

— Мая разведка данесла,— важна паведаміў дзед Ахрэм.— Я ворага ведаю як аблупленага. А чаму? Яшчэ ў тую вайну з імі ваяваў, два георгіі маю і медаль, унукі з імі гулялі і недзе спляжылі. Хітрыя прусакі, але дурныя, як вароны. Куды ім да нас дапяць. То пойдзем, паглядзім абарону.

Эсэсаўцы з усіх відаў зброі білі па могілках. Міхась Грахоўскі сядзеў у акопе, прыціскаючыся да зямлі. Ён увесь быў мокры, твар у пяску, каля яго валялася шмат пустых гільзаў. «І калі ўжо скончыцца гэтае пекла,— думаў Міхась Грахоўскі.— Не шкадуюць недавяркі снарадаў. Але фашысты пройдуць толькі цераз нашы трупы».

Міхасю Грахоўскаму даносілі:

— Забіты Антон Наркевіч, Юрка Забела, Рыгор Матусевіч, Нічыпар Урублеўскі, Лявон Ганчарык...

Эсэсаўцы ў трэці раз пайшлі ў атаку. Яны лезлі з усіх бакоў. Сунуліся танкеткі.

— Агонь! — камандаваў Міхась Грахоўскі, паліваючы з кулямёта фашыстаў.— Біцца да апошняга, каб не сорамна было перад нашымі продкамі, косці якіх тут патрывожаны.

Вораг і ў трэці раз адхлынуў. На групу смельчакоў наляцелі самалёты. Адна бомба вялізнай сілы разарвалася недалёка ад Міхася Грахоўскага, развярнула магілу, затым паляцелі ўгару аскабалкі пашчапанай труны. Міхася Грахоўскага засыпала зямлёю. Калі ён апрытомнеў, то ўбачыў, што эсэсаўцы ў чацвёрты раз аднавілі атаку. Парадзелі рады партызан. Яшчэ былі забіты Анатоль Валасевіч, Мікола Гурыновіч, Саўка Драгун, Янка Чмялеўскі і цяжка паранены Уладзімір Беразоўскі, Сцяпан Кандратовіч і Мацей Юхноўскі.

— Можа, адступім? — нясмела спытаўся Змітрок Глоба.

— Што? Партызаны не адступаюць!

— Патронаў няма.

— Тады за мною, у штыкі! Ура-а!

Ярасна біліся астатнія партызаны, яны змагаліся да апошняй хвіліны свайго жыцця. Так загінулі семнаццаць адважных камсамольцаў, але не адступілі ні на крок. Яны стрымлівалі на працягу чатырох гадзін эсэсаўскі полк. Каля могілак валялася больш за сто фашыстаў. Міхась Грахоўскі ляжаў на полі бою ўвесь паранены; яго камсамольскі білет быў праколаты штыком. Грахоўскі выканаў да канца абавязак салдата. Каля яго ляжалі тры эсэсаўцы, забітыя ім у рукапашнай схватцы.

«Семнаццаць чалавек стрымлівалі цэлы полк,— думаў камандзір эсэсаўскага палка,— гэта сапраўдныя салдаты».

Эсэсаўцы з боку Чортавай грэблі насядалі на невялікі атрад пад камандаваннем Сымона Балатніцкага. Паміж групай партызан у шэсцьдзесят чалавек і эсэсаўскім батальёнам завязаўся гарачы бой. Партызаны пайшлі ў контратаку. Яны мелі на мэце прабіцца з акружэння. Валіліся партызаны як падкошаныя. Раптам з лесу пачулася магутнае «ўра-а!». Сяляне з дубінамі, на чале з дзедам Ахрэмам, кінуліся на падмогу партызанам. Дрогнулі эсэсаўцы, пачалі ўцякаць. Лавіна разгневаных людзей кінулася наўздагон, усё змятаючы на сваім шляху.

— Ну што? — гаварыў дзед Ахрэм да Сымона Балатніцкага.— Хіба не праўду я казаў, што супраць народа ніхто не ўстаіць?

— Ага, праўду.

— Ура-а! — Не змаўкала на полі бою, заглушаючы гаворку Сымона Балатніцкага і дзеда Ахрэма.— Ура-а-а-а!..

— Бачыш, як Янка месіць Карлу,— гаварыў дзед Ахрэм.— Янка Карлу абсадзіў.

Партызаны атрада Сымона Балатніцкага з дапамогай сялян разбілі эсэсаўскі батальён, а рэштку рассеялі па балоце. Сымон Балатніцкі з групай партызан і дэлегатамі ад сялян прабраўся да могілак, каб сказаць апошняе «бывай» семнаццаці бясстрашным героям. Пахавалі іх у брацкай магіле. На пахаванні не было ні прамоў, ні салютаў, бо людзі былі стомленыя і не было патронаў. Народ гуртам стаяў каля вырытай свежай магілы, пасхіляўшы галовы.

Калі пахавалі забітых партызан, народ праз Чортаву грэблю рушыў на злучэнне з брыгадай Капіцы. Радаваліся людзі, што вырваліся з пасткі.

*1944*

# НАД НЁМНАМ

Ранымрана прачнуўся Алік Смушкевіч: ён, не снедаючы, збіраўся пайсці на рэчку з вудаю. Алік даўно наважыў злавіць галавача, але ніяк не ўдавалася. Не так лёгка рыбіну на кручок увабраць. Гэтай ноччу Алік нават сасніў галавача, які ледзь не ўцягнуў хлопчыка ў рэчку. Толькі Алік хоць паламаў вуду, але ж адолеў галавача, выкінуў яго на бераг.

— Нешта мне не хочацца, сынок,— нездаволена гаварыла Хрысціна,— каб ты сёння ішоў на рэчку. Час трывожны, мала што можа здарыцца. Дый мне будзе сумна без цябе. З Галачкай не пагаворыш, яна яшчэ маленькая. Не ідзі, дзіцятка.

— Ат!

— А памятаеш, калі бацьку праводзілі ў лагеры, дык ты яму абяцаў, што будзеш мяне слухацца.

— Я, мамка, не забаўлюся...

— Ну добра, схадзі, на часінку. Кажуць, немцы ўжо блізка.

— Уга!

— Так. Ад чужынцаў дабра не чакай. Мне хочацца, каб ты быў каля дому, спакайней на сэрцы гэтак...

— Калі не будзе лавіцца, то я... а ты, мамуся, не сумуй... нічога са мной не здарыцца...

І Алік, спяшаючыся, узяў бульбы на прыманку галавача, чарвякоў на акуня, гароху на плотку, зняў з частаколу гладыш і пайшоў на рэчку. Маці правяла сына добрымі вачыма, узяла даёнку і пайшла даіць карову, бо пастух ужо даўно галёкаў: «Выганяй!» Нешта сёння і яму не спалася, ён сваёю дудою раней як звычайна падняў усіх на ногі.

Узышло сонца, яно было ярка-барвовым. Алік, пераставўляючы, як бусел, даўгія ногі, ішоў па роснай траве, пакідаючы сляды. Заслухаўшыся, як у вішняку заліваўся салавей, хлапец на момант спыніўся, а потым пералез цераз плот і прыбавіў кроку. Яго вабіла рэчка, цягнуў галавач з дому. Алік спяшаючыся ішоў, па калені закасаўшы нагавіцы, ішоў напрасткі да лазняку, што звісаў над рэчкай.

Паволі плылі воды срабрыстага Нёмана, відаць было пясчанае дно прыгажуні ракі. Нёман быў на дзіва

спакойны, велічны і магутны. Аліку здавалася, што нідзе ў свеце няма чысцейшай вады за нёманскую, што няма прыгажэйшай ракі.

Вось з-пад карча шмыгнуў язь, прамчалася чарада чырванапёрых плотак, а за імі гнаўся шчупак, разявіўшы зяпу. Раптам у зеллі залапатаў, як цецярук, галавач і схаваўся ў віры. Алік ціхенька, як спрактыкаваны рыбалоў, падышоў да свайго месца. Ён раскруціў вудачку, начапіў на кручок кавалачак бульбіны, напляваў на яе (гэтак заўсёды рабіў яго бацька), закінуў вуду і прагна чакаў улову.

Хлопчык з вудачкаю сядзеў над ракою, забыўшыся пра ўсё на свеце. Раптам імкліва праляцела ластаўка, яна даставала крыллямі ваду і парушала цішыню. А неўзабаве наляцеў вецер, зарабацела вада. «Няйначай будзе навальніца»,— падумаў Алік. Торкнула, пацягнула. Рыбалоў падхапіў вуду, кручок быў пусты. Хлопчык зноў начапіў прынаду, закінуў вудачку і цярпліва чакаў здабычы. Каб злавіць рыбіну, патрэбны спрыт і кемлівасць. Алік падняў вочы, убачыў над сабою блакітнае неба. З захаду паволі плылі хмаркі, пераганяючы адна адну. Яны, як у люстэрку, адбіваліся ў вадзе. Схавалася сонца і зноў выглянула, на гэты раз сагрэла Алікавы ногі. «Як добра пад сонцам,— падумаў Алік.— Хочацца доўга-доўга жыць, толькі каб татка і мамка жылі». Хлопчык так любіў сваю маці, што яму здавалася: нідзе ў свеце няма лепшай мамы за яго. І хоць ён лічыў сябе мужчынам, але неяк ад бацькі далей быў і сам не ведаў чаму, а каб хто маці крануў, то ён з тым гатоў быў біцца.

Прачнулася вёска, загула, загаманіла: гаварылі людзі, рыкалі каровы, бляялі авечкі, пераклікаліся на ўсе галасы пеўні, скрыпелі калодзежы, нехта адбіваў касу, чутно было: «так-так-так»; з комінаў валам валіў дым. Узмацніўся вецер, запахла сырадоем і гноем. Каля старога бору, які шумеў, струною цягнулася гравійная дарога, абапал яе дбайнымі рукамі былі пасаджаны маладыя бярэзінкі, што цяпер гнуліся амаль да зямлі.

Хрысціна падаіла падласую і выганяла яе на пашу. Хрысцінай заўсёды вяскоўцы любаваліся. На ёй цяпер была кужэльная кашуля, вышытая гладдзю, падатканая спадніца, завязаная на галаве белая хустка, з-пад

якой звісалі русыя валасы ў завітках. Шмат яна нацярпелася за гэтыя «завіткі», калісь за гэта нават у камсамол не прынялі, звалі — «паненка». На правай шчацэ Хрысцінінага белага твару была радзімка. Каб у Хрысціны не быў крыху кірпаты нос, яна была б прыгажуняй. Муж Хрысціны, Цімох Смушкевіч, які зараз быў на вайне, бывала, вачэй з яе не зводзіў. Пра Хрысціну ніхто ў вёсцы слова благога не сказаў.

Цяпер Хрысціна была ўстрывожана, нешта сэрца ныла, і хацелася плакаць. «Хоць бы там з Алікам чаго не здарылася,— думала яна.— Паслізнецца і — у рэчку, што я тады бацьку скажу? Гэта ж яго ўлюбенчык!» Яна хацела ісці да рэчкі і гукнуць Аліку, каб ішоў дадому, але малая Галачка ў хаце заплакала, і жанчына павярнула назад.

Знешне ў вёсцы Стары Бор як быццам нічога не змянілася, але ў сэрцах людзей быў вялікі смутак, трывога; усе нечага чакалі. Мужчыны, што падлягалі мабілізацыі, моўчкі рыхтаваліся ў паход; жанчыны плакалі. Перш у Старым Бары прайшоў слых, нібы нашы войскі занялі Кенігсберг, а потым сталі гаварыць, што немцы ў Баранавічах, нават бліжэй, у Стоўбцах, адкуль да вёскі рукою падаць. Праўда, дакладна ніхто нічога не ведаў, дзе немцы, а гэта яшчэ больш непакоіла людзей. Вёска Стары Бор стаяла недалёка ад гравійкі, і немец хутка мог сюды трапіць.

— Які гэта дурань сказаў, што вайна патрэбна чалавеку, як паветра? — пытаўся адзін селянін у другога.

— Хто табе пра гэта плёў?

— Мой падшыванец з школы прынёс.

— А ліха яго ведае,— гаварыў другі.— Як на мой дурны розум, то вайна чалавеку толькі шкодзіць. Колькі гіне дарэмна чалавечае працы, людзей. Але калі вайна пачалася, дык трэба ваяваць. Я хачу, каб маё дзіця мела свой куток, а таму з усіх сіл буду бараніць сваю радзіму. Дзякуючы Саветам чалавекам я стаў, нас людзьмі лічаць!

Раптам пачуўся гул матораў, людзі глядзелі ўгару, але нічога не было відаць. Гул набліжаўся. Паглядзеўшы на захад, людзі ўбачылі пыл, які высока паднімаўся ўгару. Народ нічога не бачыў, акрамя пылу. Нават неба засцілала пылам. З пылам прыходзіла навала.

Ужо чутно было лязганне машын. З лесу выскачылі матацыклісты, яны імчаліся да вёскі і бязладна стралялі.

— Немцы! — крыкнуў нехта.

Людзі кінуліся ў хаты, шукаючы ратунку, але хіба ў хаце схаваешся ад гэтай навалачы? Ехала бяда, закаваная ў броню, везучы з сабою смерць. Стары Бор абдало пылам, пасівелі сады, асунуліся людзі, задыхаліся. Нахлынула ў хаты бяда. Фашысты абівалі ў садах яшчэ няспелыя яблыкі, выдзіралі з вулляў соты. Спыніўшыся ў Старым Бары на кароткі прывал, гітлераўцы жэрлі награбленае ў сялян сала, масла, яйкі, малако, пацягваліся і кракталі.

— От гадаўё, колькі нарабілі смуроду! — бубніў селянін.— І як іх толькі зямля носіць, поскудзь такую. А каб яны спруцянелі. Недавяркі, каб яны свайго цвню баяліся.

У хату да Хрысціны заскочыў немец: ногі дугою, вушы абвіслыя, твар блінам, вочы мышыныя. Па яго пасінелым, як сліва, пляскатым носе відаць было, што ён любіць выпіць. І цяпер обер-яфрэйтар быў пад градусам, ад яго несла перагарам і нейкай кісляцінай. Ён стрыг вачыма, як злодзей. Падкідаючы ў руках гранату, як мячык, мусіць, каб запалохаць жанчыну, немец падышоў да куфра. Хрысціна скончыла карміць Галачку і з дзіцем на руках падышла да граткі, узяла талерку з яйкамі, каб аддаць прышэльцу. А фашыст гэтым часам не драмаў, ён падышоў да куфра, паклаў на лаву гранату і стаў перабіраць рэчы, адкладаючы лепшыя ўбок. Ён кожную рэч разгортваў і разглядаў, што б там ні было: мужчынская кашуля, жаночая кофтачка або нават трусікі. За гэтым заняткам і ўбачыла Хрысціна обер-яфрэйтара. З рук яе выпала талерка з яйкамі. Фашыст адскочыў ад куфра і схапіўся за аўтамат, але пераканаўшыся, што яму нічога не пагражае, працягваў сваю справу па адбору рэчаў. Хрысціна, сцяўшы зубы, маўчала, думаючы: «Рабунак сярод белага дня». Уся збялелая, яна так і стаяла ў нерашучасці да той пары, пакуль фашыст не пачаў адбіраць дзіцячыя рэчы. Нарэшце ён дабраўся да кавалка фланелі, што прызначаўся Галачцы на пялёнкі, і таксама яго адклаў.

— Ах ты, гадзіна! — не сцярпела Хрысціна, схапі-

ла фланель і пачала ёю хвастаць фашыста па твары.— Дык ты за гэтым сюды прыйшоў, каб грабіць! А каб ты сцежкі не бачыў, валацуга! Вось табе, вось табе!

Для немца гэта было зусім нечакана, збянтэжаны, ён адступіў. Потым схапіў за руку і пачаў выкручваць.

— Пусці! — дзіка закрычала Хрысціна, выпусціўшы крамніну.— Пусці, кажу, зладзюга! Цьфу ў твае паганыя бельмы, рыжая морда! — і яна плюнула яму ў вочы.

Фашыст выпусціў руку. Хрысціна, прыціскаючы да сябе Галачку, кінулася ўцякаць. Ёю апанаваў страх, яна ўся калацілася. З вачэй Хрысціны каціліся слёзы. Трывога маці, відаць, перадалася дзяўчынцы, яны абедзве плакалі.

— Хальт! — выцершы вочы, крыкнуў немец.

Але Хрысціна не спынілася.

Тады немец выскачыў на ганак і пусціў кароткую чаргу з аўтамата ў жанчыну з дзіцем. Хрысціна ўпала, сутаргава абнімаючы зямлю, вымавіўшы: «Праклятыя!» А Галачка дык і не пікнула, у яе ■ галоўкі цякла кроў. Немец задраў нос, як быццам ён зрабіў важную справу. Цяпер толькі фашыст агледзеўся, што астаўся адзін, і, спяшаючыся, сеў на матацыкл, паехаў даганяць сваю часць.

— Мама, мамка! А я галавача злавіў! — узрадавана крычаў Алік, хутка ўваходзячы на двор, раптам астыў, выпусціў з рук вуду, галавача і гладыш, ад якога асталіся адны чарапкі.— Хто цябе, матуля?

— Пракляты фашыст, каб ён галавою належыў,— слабым голасам паспела сказаць Хрысціна і страціла прытомнасць; яна пачала канаць.

— А-ай! — закрычаў спалоханы Алік.

— Супакойся, дзіцятка,— суцяшала суседка,— не плач, дай маці спакойна памерці, а то доўга будзе мучыцца.

Хмары, пераганяючы адна адну, закрылі сонца, узмацніўся вецер. Алік паглядзеў перш на маці, а потым на сястрычку, якія ляжалі мёртвымі. Яны на момант здаліся хлопчыку далёкімі. Яму страшна стала, як ён будзе жыць адзін. Аднак Алік не плакаў, неяк сэрца акамянела. Не любы цяпер быў яму і галавач, што ляжаў, разявіўшы рот, увесь упэцканы ў пясок.

Падкралася нечае кацянё, хацела пацягнуць рыбіну, але не дало рады. Зашумела, загуло, бліснула маланка, ударыў гром. Закруціла, замяло, на вуліцы падняўся пыл слупам. Перад вокнамі Смушкевічаў раслі дзве вішні, іх пасадзіў Цімох, калі ажаніўся з Хрысцінай. Наляцеў вей-вецер, скруціў адну вішню, зламаў. Пачынаў секчы дождж. Людзі ўнеслі забітых маці з дачкою ў хату, паклалі на лавы. Гуло ў коміне, пастуквалі акяніцы, бразгацелі шыбы. Алік угледзеў каля акна гранату, узяў яе, вынес у сенцы, схаваў.

Пахавалі Хрысціну і Галачкай у адной магіле. Усе вяскоўцы, ад старога да малога, прыйшлі на могілкі, каб аддаць апошняе: «Бывайце!» Стоячы над свежай магілай, Алік горка плакаў. Гледзячы на Аліка, плакалі мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці, яны плакалі над горкім сірочым лёсам. А толькі суседка заспакойвала:

— Нічога, гэта ж не дзяўчынка, а хлопчык, сябе ў крыўду не дасць.

Аліку ішоў трынаццаты год, на выгляд ён быў старэйшы. Цяпер у хлопчыка ад той бесклапотнасці і жыццярадаснасці, якая была раней, не асталося і напамінку. Аліку чамусьці здавалася, каб ён паслухаўся маці, дык нічога б гэтага не здарылася.

Вярнуўшыся з могілак, Алік нават баяўся заходзіць у хату, але перасіліў страх. Пастух гнаў вароў з пашы. Алік пераняў сваю падласую, загнаў у хлеў. У каровы распірала вымя. Не бачачы гаспадыні з даёнкаю, падласая была неспакойнай, яна прасіла, каб яе падаілі. Не знайшоўшы на месцы даёнкі — вядома, столькі ў хаце народу перабыло,— Алік узяў збанок і хацеў падаіць карову, але яна не дала малака. Мала гэтага, падласая добра насцябала хлапца хвастом па твары. На выручку прыйшла суседка, яна падаіла карову, напаіла Аліка сырадоем, запрасіла да сябе начаваць, бо заўважыла, што ён баіцца адзін аставацца ў хаце. Алік дрэнна спаў, варочаўся, круціўся, кідаўся, праз сон гаварыў: вядома, такое гора звалілася на яго галаву.

Прачнуўшыся раніцою, ён пайшоў дахаты. У Аліка зарадзілася думка — адпомсціць фашыстам, але як, хлопчык і сам яшчэ не ведаў. У яго руках зноў апынулася граната, якую ён доўга разглядаў, круціў у

руках, меркаваў, што з ёю зрабіць: выкінуць ці схаваць, каб ніхто не знайшоў, а можа, калі-небудзь спатрэбіцца. І тут вырашыў: «Фашысцкую гранату запусціць у фашыста»; адпомсціць за маці і сястрычку. «Значыць, каб жыць,— прыйшла Аліку думка,— трэба змагацца. Можа, каб мама забіла таго фашыста, дык сама б асталася жыць».

Алік раней за ўсіх выгнаў карову ў поле, вярнуўся ў хату і з нейкай урачыстай узнятасцю рыхтаваўся палюваць на фашыста. Спакайней у яго стала на душы. Алік зірнуў на фота маці, якое вісела на сцяне, хлопцу здалося, што маці заклікае яго да помсты. Алік надзеў святочнае адзенне і выйшаў на двор. У агародзе пахла тытунём, яго яшчэ бацька садзіў, а маці палівала. У агародчыку перад вокнамі хаты ляжала зламаная вішня, на ёй трапятала пажухлае лісце.

— Куды ты выфранціўся? — спытала суседка.— Лепей прыбраў бы вішню.

— Пайду прайдуся.

— У будны дзень гуляць? — не паверыла суседка.— Што ты наважыў рабіць? З гуляння не наясіся хлеба. Нашы людзі любяць працаваць, яны, як мурашкі, усё цягнуць да гурту. Растрэсці гаспадарку кожны дурань здолее. Трэба думаць, як жыць, паклапаціцца пра будучыню.

— Пайду фашыста біць,— выпаліў Алік.

— Чым, мяшалкаю? — усміхнулася суседка.

— Во, граната,— паказаў Алік,— немец у хаце пакінуў. А гэта запал, уставіў і — гатова. Нам у школе старэйшыя хлопцы паказвалі. Ёю можна не аднаго фашыста забіць, а шмат. Забі фашыста — іначай ён цябе заб'е.

— Вой, вой! — жахнулася суседка.— Не трэба, дзеткі, гэтага рабіць, цябе заб'юць, і мы загінем. Адзін у полі не воін.

— Ого, яшчэ які воін!

— Дзіцятка, не трэба. Хто сцеражэцца, таго бог сцеражэ.

— А нашто яны маму і сястрычку забілі?

— Хіба ты не бачыш, колькі фашыстаў ідзе. Наляцелі, як саранча на нашы палі. Глянь, у паветры кружыць чорнае груганнё. Што ты ім зробіш?

— Пайду,— цвёрда сказаў Алік.

— Не хадзі, Алічак,— прасіла суседка,— можа, татка прыйдзе, а цябе дома няма.

— Не ўгаварвайце, пайду.

— А я людзей паклічу! — гразіла суседка.— Па бацьку пайшоў, хоць ты кол яму на галаве чашы. Не пушчу!

— Калі я сказаў пайду, то пайду,— як стары, гаварыў Алік.

— Тады хоць далей ад вёскі адыдзіся,— бачачы, што не ўгаварыць хлопца, гаварыла суседка,— каб не падумалі на нас, а то са свету звядуць. Ты не ведаеш яшчэ фашыста, гэта такая пошасць, не дай бог. Каб самому нажэрціся, фашыст гатоў другога задушыць. Але ён зломіць сабе галаву.

— Сам не зломіць.

— Але,— згадзілася суседка і параіла: — То ты, дзіцятка, ідзі ў шумігайнаўскі лес, там нідзе блізка вёсак няма і табе будзе спадручней асачыць звера.

— Добра,— абяцаў Алік.— А толькі вы нікому не кажыце, куды я пайшоў і чаго.

— Яшчэ што!

І ён пайшоў. «Ні пуху ні пер'я! — падумала суседка і перахрысціла хлопчыка.— Хоць бы твая рука не дрогнула, каб ты не прамахнуўся». Алік ішоў па прасёлкавай дарозе, ног пад сабой не адчуваючы. З-пад шапкі ў хлопчыка вылезлі выгаралыя на сонцы, падобныя на лён пасмы валасоў. Увесь твар у яго быў у рабацінні, аблупіўся нос. За адны суткі ў Аліка ўваліліся блакітныя, як неба, вочы, хлопчык неяк змізарнеў. Столькі гэтае дзіця перанесла пакут, што другі чалавек за ўсё жыццё гэтага не перажыў. З-пад ног у Аліка выпырхнула птушка. Ён забыўся і пабег за ёю, а потым спыніўся, няёмка стала самому. Як гэта, каб воін даганяў нейкае там птушаня. Калі ж угледзеў васількі ў жыце, то ўспомніў маці, яна летась навучыла яго віць вянок з іх. Ён нарваў кветак, але звіць вянка не здолеў. Забыўся за зіму, як гэта робіцца. «Ну і не трэба,— падумаў Алік,— віць вянкі — справа дзявочая. А мы — мужчыны, нам трэба ваяваць, каб абараніць бацькаўшчыну. Вернецца татка дадому, раскажу яму, як хадзіў паляваць на фашыстаў». У Аліка не выходзілі бацькі з галавы: «Мама так чакала тату, а цяпер яго не ўбачыць. І Галачка добрая, гэта дарма,

што яна цягала мяне за валасы, бо была маленькай, дурненькай, а падрасла б, то ведала б, што мне баліць».

Думы Аліка парушылі нямецкія самалёты, якія ішлі на ўсход. «Яны ж таксама нясуць некаму смерць,— падумаў ён.— Праклятыя! Але нас не чапай, а калі зачапіў, галаву скруцім». Алік мацней сціснуў у руках гранату і прыбавіў кроку. Яму здавалася, што кожная травінка пад нагамі шапацела: «Забі фашыста, іначай ён цябе заб'е». Наперадзе паказаўся шумігайнаўскі лес, ён клікаў да сябе хлопчыка.

Алік увайшоў у лес, як у родны дом. Ці раз ён тут з бацькам збіраў грыбы, хадзіў у ягады, а то маці пасылала вязаць венікі. Стройнымі радамі стаялі хвоі, іх голле цягнулася на поўдзень. Шастаў пад нагамі верас, гулі шэршні, відаць, недзе блізка было іх гняздо. Дзе-нідзе пракідаліся лісічкі, траплялі часам сыраежкі, убаку стаяў мухамор. Алік, праходзячы каля яго, капнуў нагою і далей пайшоў. Ён наступіў на сук, хруснула пад нагамі, аднекуль выскачыў са складзенымі вушамі заяц. «Які порсткі!» — падумаў хлопчык. «І чаму зайцы такія баязлівыя? — прагаварыў Алік.— Усяго палохаюцца». Хлопец у думках разважаў: «А ёсць жа і людзі такія, што ўсяго баяцца. Мусіць, цяжка жыць на свеце чалавеку з заечаю душою. Я такім не буду, не хачу. Толькі каб не памерці. А чаму нельга зрабіць, каб жыць і жыць?» Ён зусім не заўважыў, што апынуўся ў беразняку, па яго меркаваннях, ён не павінен быў так хутка сюды дайсці. Алік угледзеў на бярэзіне пажоўклы лісток, ён ледзь трымаўся, трапечачыся на сонцы. «І чаму гэта дрэвы знізу жаўцеюць? — думаў Алік.— Ага, дык жа яны знізу і зелянеюць». Ён наглядаў гэта на вішнях, якія раслі пад вокнамі. Хлопчык перарэзаў граду, на якой раслі хвоі-разгірэкі, што нахіляліся ў розныя бакі (гэта месца звалі «п'яны бор»), і неўзабаве апынуўся на ўскраіне лесу, недалёка ад палянкі, куды некалі ездзіў з бацькам сена касіць.

Хлопчык ужо гадзіны са дзве сядзеў каля дарогі і, як спрактыкаваны паляўнічы, з-за таўшчэразнага дрэва высочваў фашыста-звера, чакаў зручнага моманту, каб адпомсціць за маці і сястрычку, за ўсіх людзей. «Не, фашысту не ўдасца заняволіць нас»,— успомніў ён словы дзеда Ахрэма. З грукатам праязджалі на-

гружаныя машыны, падвозячы да фронту боепрыпасы. Недалёка ішоў бой, чутна была не толькі артылерыйская кананада, але ружэйная і кулямётная стральба. З таго боку ішло шмат лёгка параненых салдат. Цяжка параненых везлі на машынах. Вось прагналі групу палонных чырвонаармейцаў. Алік углядаўся, можа, дзе бацька ідзе. Адзін палонны не мог ісці, ён сеў, каб адпачыць. Падышоў канваір, нешта сказаў, але палонны не паднімаўся. Канваір спакойна нацэліў аўтамат і застрэліў параненага палоннага. У Аліка аж закалаціліся рукі, ён заскрыгатаў зубамі. А машыны з фашыстамі ўсё ішлі і ішлі да фронту. «Паглядзім, як вы будзеце назад уцякаць,— зноў прыгадаў Алік разважанні дзеда Ахрэма.— От горача вам будзе!» Раптам на дарозе паказалася некалькі легкавых аўтамабіляў. У адной з машын — яны ўсе былі адкрытыя — Алік угледзеў чалавека ў акружэнні афіцэраў. «Мусіць, важная шышка»,— падумаў Алік і, падняўшыся ва ўвесь рост, выбег на шашу і з размаху кінуў гранату. Пачуўся выбух. «Важная шышка», у форме генерала, узляцела ў паветра. З машыны, што ішла за генеральскаю, пачуўся сухі трэск, гэта біў аўтаматчык. Алік убег у лес. Дзынкалі кулі, разрываліся. На галаву Аліка пасыпалася галлё. Хлопчык здагадаўся, што па ім страляюць, ён, прыгінаючыся, што ёсць сілы бег па лесе і хутка знік у гушчары. І генеральская ахова туды хлынула, але дарэмна. Аліка і след прастыў. Ён, калі скончылася страляніна, выйшаў на прасёлкавую дарогу і важна крочыў дадому, адчуваючы сябе пераможцам. Аб адным толькі Алік шкадаваў, што яму не ўдалося авалодаць генеральскаю шапкай, каб пахваліцца перад хлопцамі, чаго ён варты. А так, чаго добрага, яшчэ могуць не паверыць, што ён знішчыў фашысцкага генерала.

Алік ішоў паўз лес. Гаманіў бор. Яму здавалася, што нават лес ухваляе яго ўчынак. Шапацелі жыты, нібы размаўлялі паміж сабою калоссі. Хлопчыку здалося, што ён чуе іх галасы: «Добра зрабіў, што забіў фашыста». На вуліцы Аліка пераняла суседка:

— Што з табою, дзіцятка, чаму ты ў крыві! Адзежа ўся парвана?

Цяпер толькі Алік агледзеўся, што ў яго твар абдзёрты, падрана рубашка, расшастана калашына яго

святочных портак. Суседка абмыла яго, пакарміла, улажыла спаць. Вестка аб гераічным учынку старaборскага хлопчыка хутка абляцела ўсё Наднямонне. «Значыць, фашыста можна біць»,— гаварылі людзі. А свавольству фашыстаў не было межаў. Неспакойна стала над Нёмнам, яго воды разносілі гнеў народны. Знішчэнне генерала было баявым хрышчэннем юнага мсціўца. З таго часу Алік Смушкевіч ходзіць па дарогах вайны, сее фашыстам смерць. І нават калі вайна скончыцца, ён не забудзе свае крыўды, не даруе фашыстам, што гэтулькі прынеслі людзям гора. Вялікая нянавісць у народа да фашыстаў. Партызаны ў кожным кутку б'юць фашыста і прыгаварваюць: «Хто пасее вецер, той пажне буру».

*1944*

# ПЧАЛЯР

Каля балотца, на невялікай рэчцы Дрыгвія, што істужкай вілася сярод дубравы, прытулілася вёска Злынька. Мала хто ведаў злынькаўцаў, ціхія яны людзі, а хто ціхага заўважыць? Злынькаўцы не вельмі пнуліся наперад, яны прытрымліваліся погляду: не будзь горкім і не будзь салодкім — горкае праплююць, а салодкае праглынуць. У Злыньцы жыў пчаляр Ціт Акановіч; ціхі, мірны чалавек, ён, бывала, дзіцяці дарогу саступіць і ніколі малога пальцам не кране. Пра яго казалі: «Хоць малы, але дарагі». За ўвесь час, як Ціт займаўся пчалярствам, ён ні аднаго рою не выпусціў на старану. А пасека ў калгасе была на некалькі сот вулляў. Калі часам пчаляр не ўпільноўваў рою, то ён ведаў, дзе пчолы могуць сесці. Адтуль ён прыносіў рой на пасеку.

Другі год ужо Ціт не займаўся пчалярствам. Ела яго нэндза. Чалавек да таго нудзіўся, што нідзе сабе месца не знаходзіў, не мог спаць. Ён быў працавіты, як пчала. Фашысты яго выбілі з раўнавагі. А здарылася гэта так: у верасні месяцы сорак другога года ў вёску нахлынулі эсэсаўцы, павыдзіралі з вулляў не толькі мёд, але і соты. Як ні стараўся Ціт падкармліваць пчол, нічога не выйшла: да вясны не асталося ніводнай сям'і жывой. Засумаваў пчаляр, кожны дзень без дай прычыны сварыўся з сваёй кабецінай. Аднойчы нават, з гарачкі, замахнуўся на яе кулаком.

— На каго падняў руку? — дакорліва пыталася жонка.— Колькі год пражылі, ніколі голасу не падвысіў. Здзяцініўся на старасці. Пчолы, пчолы, былі б косці, мяса нарасце. На каго ты стаў падобны? Высах як шчэпка. Зжаўцеў, як васковая свечка.

— А ты з васковай свечкі не жартуй, ад васковай свечкі Бялынічы згарэлі,— заглядаючы ў акно, аказаўся Ціт.— А божа ты мой, зноў злыдні, каб на іх пярун! І як іх толькі зямля носіць? Што ім ад нас трэба? От напасць! Прыехалі нарыхтоўшчыкі. Ці не па кароў толькі?

Ціт, згорбіўшыся, сядзеў каля акна. Ён быў у кажуху, падпяразаны салдацкай папругай з бліскучай спражкай. На галаве ў старога паблісквала лысіна, а

на скронях відаць была сівізна. За год вайны ён страшна асунуўся, завастрыўся нос, апусціліся ад тытуню парыжэлыя вусы (раней ён не курыў). Але ў сініх вачах гарэлі агеньчыкі, а цяпер, калі ён убачыў фашыстаў, гэтыя агеньчыкі былі нядобрыя.

— Прыехалі гаспадарнікі мясанарыхтоўкі праводзіць,— стукаючы ў шыбу, паведаміў сусед.— Стараста загадаў у школу ісці.

— Стары я ўжо ў школу хадзіць,— бубніў Ціт.— У маладосці ўсе класы прайшоў і нідзе не затрымаўся. А цяпер тым больш, не палезуць нямецкія навукі ў галаву. Не хочацца знацца з гэтым гадаўём. Каб яны сцежак не бачылі.

Наста страшна непакоілася за свайго старога, яна з ім век пражыла, але такім не бачыла. За гэты год і Наста здала. І хоць яна была маладзейшай за Ціта на пяць год — яму падбіралася пад шэсцьдзесят,— але выглядала шмат старэйшай. Чорная хустка на галаве рабіла яе бабулькай. За гэты час, як прыйшлі фашысты, яна выплакала вочы і дрэнна бачыла.

— Пойдзем. Важная справа,— не ўнімаўся сусед, стукаючы ў акно,— хочуць забраць кароў, на нішчымніцы людзей пакінуць. З'елі, падлы, калгасны статак. А цяпер мужык аддавай апошнюю карову.

— Знайшлі сякеру за лавай,— надзеючы шапку, бурчаў Ціт.— Маці, дай мне свечку.

— Навошта яна табе спатрэбілася, мой голуб? — здзівілася Наста.

— Зайду ў царкву, памалюся.

— Вазьмі ў шафе.

— Няўжо табе цяжка падаць яе мне?

— Не ў царкву ты, бацька, ідзеш, не грашы. І чаго ты гарыш? Карова толькі зачэпка, табе пчалы шкада. Не вельмі па гэтым убівайся. Будзем жывы, будуць і пчолы.

— Не-е, я ім не дарую, вылюдкам.

— Пайшлі, Ціт, даволі валаводзіцца,— гукаў у акно сусед.

— Іду.

— Мой галубок, мой родненькі,— праводзячы за дзверы, прасіла Наста,— не чапай ліха, пакуль ціха.

— Не, маці, больш не магу... Ці я іх, ці яны мяне...

Каля школы тоўпілася шмат народу. Пераступаю-

чы з нагі на нагу, грэючыся на марозе, гаманілі паміж сабою мужчыны. Патрэсквалі платы. У школу ніхто не заходзіў, чакалі, пакуль іх паклічуць. Людзей, як кажуць, «прабіраў цыганскі пот», але яны не разыходзіліся.

— Люблю парадак! — іранізаваў пчаляр, грэючы акачанелыя рукі.— А то, бывала, пруцца ў сельсавет, каму трэба і не трэба. У старшыні пасядуць на стале падшыванцы і праз галаву плююць. Уладу трэба паважаць, за паўкілометра шапку здымаць. Панібрацтву канцы.

— Але ж,— нехта не зразумеў іроніі і злосна прашыпеў.— Скуру з цябе дзяруць, а ты ўсміхайся. Дзяцей пазбавілі навукі, кажы — добра. Пчолкі твае ляснулі, ты за гэта падзякуй.

— І падзякую,— заявіў пчаляр, ідучы за школу.— Фашысты навучылі мяне ўладу паважаць. То я ім аддзячу.

Ужо дыміўся тыльны бок школы (у ёй змяшчалася камендатура), калі Ціт выйшаў адтуль. Калаціліся коні, што былі прывязаны да паркана, фыркалі, стрыглі вушамі. Ажывіліся мужчыны, яны чакалі нечага незвычайнага, у трывозе паглядаючы на камендатуру. На ганак выйшаў гаспадарнік, ён пагардліва паглядзеў на сялян, важна пачаў прамову.

— Грамадзяне! — гаварыў па-руску гаспадарнік.— Нямецкай арміі патрэбна мяса. Злынька павінна даць восем кароў. Параіўшыся, мы вырашылі: адну карову дасць пчаляр, двое старых, на печы седзячы, могуць і без малака абысціся. Ну, а астатнія сем — самі размяркуеце. Мы ў вашы парадкі не ўмешваемся.

Загаманілі мужчыны, кіпела на сэрцы, але ніхто не адважваўся першым пачаць бунт. Тады пчаляр падышоў да гаспадарніка і крыкнуў:

— Пчол замарылі голадам, а цяпер за людзей узяліся. Вось табе брыда, каб не паскудзіў нашу зямлю!

Пчаляр падскочыў і цюкнуў каменем гаспадарніка па галаве, той і асунуўся. Злынькаўцы кінуліся ў школу і там таўклі фашыстаў, як пацукоў; выкідвалі на снег. Ціт загадаў грузіць забітых гітлераўцаў, а сам размашыстым почыркам напісаў: «Мы адваявалі! Так будзе з кожным, хто паквапіцца на чужое дабро». Пчаляр

прыбіў дошчачку з надпісам да саней, пасадзіў забітага гаспадарніка за фурмана і выправіў іх у дарогу.

Увесь дзень злынькаўцы хадзілі як самі не свае, яны ніяк не хацелі згадзіцца з Цітам, што фашысты могуць растрэсці вёску, але кожны паціху, каб сусед не бачыў, рыхтаваў зброю: выцягвалі вінтоўкі з-пад стрэх, выкапвалі з зямлі.

— Навошта ты дастаў гэтую згубу? — непакоілася Наста.

— Эт, яна есці не просіць,— апраўдваўся Ціт.

— А што ты майструеш?

— У хлопцаў у атрадзе няма мін.

— Яшчэ хату ўзарвеш, такі мінёр.

— Уга.

— Растрасеш ты вуглы.

— Усё роўна нам тут не зімаваць, выкураць з вёскі,— заглядаючы ў акно, разважаў Ціт.— Яно так і ёсць. Ну, старая, збірайся ў дарогу. Бачыла, колькі іх прэцца, няпрошаных гасцей. Няйначай, разведка. То мы іх пачастуем!

Тым часам злынькаўская варта, якая была выстаўлена на дарозе, адбіла раз'езд фашыстаў. Школа ўжо дагарала. Злынькаўцы, як мурашкі, цягнулі дабро. Яны рушылі ў лес, неахвотна пакідаючы цёплыя куткі. Толькі злынькаўцы схаваліся ў лесе, як успалыхнуў агонь, гэта гарэла вёска. Валам валіў дым, шугала полымя, высока ляцелі іскры. Чутна была страляніна. Фашысты білі ва ўсе бакі. І так, ціхі, мірны чалавек стаў на шлях змагання з фашыстамі. Цяпер ён паволі ішоў, думаючы думу, як мацней ударыць па фашыстах, бо з гэтымі злыднямі жыць нельга. «Добра ваююць нашы хлопцы,— думаў Ціт,— але можна яшчэ мацней біць фашыста. Трэба зрабіць так, каб яны баяліся кожнага куста».

Позна ўвечары злынькаўцы дайшлі да лагера партызан. На чале атрада народных мсціўцаў стаяў праслаўлены ў баях Цімох Гаркавец. Ён не любіў сядзець без справы, шукаў фашыстаў і іх знішчаў. Гаркавец не мог цярпець, калі бачыў, што той ці іншы атрад бяздзейнічае.

Што да сялян, то ён прытрымліваўся погляду: «Прайшоў час, калі казалі — мая хата з краю. Хочаш мірна жыць, бярыся за зброю. Хочаш жыць — забі фа-

шыста». Пчаляра ён ведаў даўно і лічыў, што стары рана ці позна прыйдзе да яго, бо гітлераўцы наступілі на яго любімы мазоль, пчол звялі. І калі Гаркаўцу данеслі, што злынькаўцы ідуць да яго, ён шчыра ўзрадаваўся.

— Гэтыя будуць ваяваць,— заявіў ён.

Задаволены, Гаркавец, прыгінаючыся, хадзіў па зямлянцы. Ён быў высокім, стройным, чыста паголены. У яго карых вачах свяціліся агенькі радасці. «Народ паднімаецца на барацьбу,— думаў Гаркавец,— не ўстаяць ворагу». З малых год Гаркавец жыў у вялікіх гарадах, перш у Ленінградзе, а потым у Маскве. І хоць ён сам быў беларусам, але добра не ведаў сваіх людзей.

— Вось што, Гаркавец,— гаварыў уголас камандзір атрада,— прызнайся, што ты не ведаў беларуса. Але, але. Ты ўяўляў яго па Некрасаву, худым, згорбленым, забітым, а ён зусім не такі. З сарака васьмі тваіх год дваццаць пяць год ты памыляўся. «Прызнайся, што ты раб, напалову перастанеш ім быць». Цэлая вёска паўстала, гэта табе не жартачкі. Ды што там вёска, увесь народ падняўся за свой гонар, свабоду і незалежнасць. Такі народ будзе жыць.

Гаркавец загадаў сустрэць злынькаўцаў па сялянскаму звычаю, з хлебам і соллю, пачаставаць мяснымі кансервамі (бляшанкай на дваіх) і выдаць па чарцы спірту. Надоечы партызаны разграмілі фашысцкі гарнізон у мястэчку Дрыгвічы і захапілі склад з харчаваннем, так што было чым частаваць. Самому ж Гаркаўцу трэба было ехаць да брыгаднага камандзіра.

— Чаго задумаўся, камісар? — збіраючыся выходзіць з зямлянкі, спытаўся Гаркавец.— Чым будзем жыць заўтра? Яны з намі дзяліліся апошнім. Без іх мы нішто, а з імі ўсё. Каб не народ, то мы тут даўно б загінулі. І не скупіся, стары, на слова, калі чалавек заслужыў, пахвалі яго, ён будзе яшчэ лепшым. Хто з нас не любіць ласкавага слова? Ну, усяго добрага!

Злынькаўцы пад'язджалі да стаянкі партызан, як да сябе дадому. Лагер нагадваў казачны «ледзяны дом». І тут не было так страшна, як уяўлялася, седзячы на печы. У партызан быў узорны парадак. Гэта сялянам вельмі спадабалася. Позна ўвечары, накормленыя і напоеныя, разыходзіліся людзі па зямлянках. Усе былі ў захапленні ад слоў камісара, які назваў

злынькаўцаў «сапраўднымі патрыётамі, вернымі сынамі і дочкамі свае радзімы».

Пад поўнач браўся сіберны мароз, скрыпела пад нагамі, трэскалі дрэвы, свяцілі зоркі. А пчаляр, ідучы са сваёю старою,— ён добра ўзяў у губу, некалькі разоў адно і тое паўтараў:

— От, каб, здаецца, да ўсяго таго, што было на стале ды кіслага гурка з мёдам... язык праглынеш. Ой, пчолкі, пчолкі, яны яшчэ ў мяне загудуць.

— Загудуць,— сцвярджала Наста.

З кожным месяцам усё цяжэй і цяжэй стала дзейнічаць на чыгунцы. Фашысты выпускалі наперадзе паяздоў дрызіны з мінашукальнікамі. Паязды хадзілі толькі днём і то з курамі навыперадкі, пад узмоцненай аховай варты. Вясною да таго стала строга, што не падступіцца да палатна чыгункі.

— А ўсё ж, камандзір, дазволь мне пайсці на аперацыю,— прасіўся Ціт.— Дарма есці хлеб на хачу.

— Ёсць каму і без цябе хадзіць.

— Пу-у-сці.

— Ну што ж, калі табе так зажадалася, то ідзі,— неахвотна згадзіўся Гаркавец.— А толькі больш адной міны я табе не дам. Ведаеш, як іх цяжка даставаць.

— Добра,— узрадаваўся пчаляр,— а другая міна ў мяне ёсць, сам зрабіў.

— Ёю толькі вераб'ёў палохаць,— усміхнуўся Гаркавец.

— Паглядзім!

Каторую гадзіну Ціт з групай старых партызан сачылі за фашысцкай вартай. Вось прайшоў даўгі фашыст, праехала дрызіна, тады пчаляр кінуўся да чыгункі. Ён дзе поўз, а дзе бягом бег. Ціт хутка паставіў міну. Далёка пачуўся паравозны гудок. Пчаляр скаціўся з чыгуначнага насыпу і, прыгінаючыся, пабег у лясок.

Партызаны залеглі і з хваляваннем чакалі набліжэння поезда: ён паволі рухаўся. Раптам поезд спыніўся, з яго выскачыў чалавек, паглядзеў, дзе была закладзена міна (спяшаючыся, не замаскавалі), нешта па-нямецку прагаварыў і пачаў махаць рукамі. Адзін партызан прыцэліўся і хацеў стрэліць, але Ціт яго стрымаў. Пахкалі фашысты ва ўсе бакі, але ніадкуль адказу на іх стралянін не было. Фашысты падбеглі і

пачалі размініраваць. Партызаны ж у гэты час так драпанулі, што апынуліся наперадзе поезда за некалькі кіламетраў. Праўда, у гэтым ім памог адзін фашысцкі шафёр — у партызан былі павязкі на рукавах — ён прыняў іх за паліцэйскіх і давёз да сто першай вярсты, на гэтай жа чыгунцы.

Пчаляр не ўнімаўся. «Галаву складу,— думаў ён,— але не прапушчу гэты поезд да фронту». Дый як ты з'явішся ў атрад без усялякіх вынікаў? Старая не дасць жыцця. Ён надумаўся паставіць міну, якую сам зрабіў, а партызанам загадаў залегчы ў ляску і падагнаць поезд. Праскочыла дрызіна, прайшоў паражняк. Ціт выбраў месца на пералеску і, спяшаючыся, заклаў міну.

Нарэшце паказаўся поезд з-за павароту, гэта быў эшалон з боепрыпасамі і жывой сілай. Партызаны, як дамовіліся, далі некалькі залпаў па паравозе, каб падагнаць машыніста, а потым білі па хвасце. Збянтэжаны машыніст-немец набраў вялікую хуткасць і ўсё яшчэ прыбаўляў пары, каб праскочыць пералесак, і, не заўважыўшы, наскочыў на міну. Пачуўся выбух. Зваліўся з рэек паравоз. Зашыпела пара. Вагоны, насядаючы адзін на адзін, ляцелі пад адхон. А партызаны ўсё білі і білі, не даючы фашыстам апомніцца.

Позна ўвечары пчаляр, задаволены, з'явіўся да камандзіра ў зямлянку.

— Дазвольце далажыць, заданне выканана. На сто першай вярсце пушчан пад адхон эшалон з боепрыпасамі і жывой сілай праціўніка.

Гаркавец выслухаў старога партызана, дастаў флягу, пачаставаў Ціта спіртам і на закуску даў агурка з мёдам. Ён спецыяльна ад брыгаднага прывёз гэты падарунак пчаляру. Ціт доўга ў той вечар не спаў, ён апавядаў старой пра свае прыгоды, часам крыху ад сябе дадаваў, без гэтага на вайне не бывае. Пчаляр марыў пра пасеку ў калгасе аж на пяцьсот вулляў.

— А ўсё ж такі пчолкі загудуць, загудуць,— засынаючы, гаварыў Ціт.— Не буду я, калі не пастаўлю на сваім. Курыць ужо кінуў, пчала не любіць гэтага.

Старая, сцягнуўшы боты, угаварыла Ціта легчы, накрыла яму ногі ватоўкай. Стары захроп. Наста паціху гладзіла яго спрацаваную руку, аберагала сон партызана, што і на старасці год упрыгожваў яе жыццё.

*1944*

# ДЗЯЎЧЫНА Ў ШЫНЯЛІ

Дзяўчыне і ў сне не снілася, што яе чакае ў жыцці, які лёс яе спаткае. Яшчэ некалькі дзён таму назад (дзяўчына вучылася на апошнім курсе Мінскага педагагічнага вучылішча) яна рыхтавалася здаваць выпускныя экзамены. Дзяўчына марыла стаць настаўніцай; ёй уяўлялася жыццё ў ружовых фарбах. І нават калі пачалася вайна і гэтай весткай усе былі ашаломлены, яна не ведала, што гэта значыць, не разумела, якая нахлынула навала. Першы раз устрывожылася яна на трэці дзень вайны, дваццаць чацвёртага чэрвеня сорак першага года, калі Мінск ужо быў у агні. У ноч на дваццаць пятае чэрвеня яна разам [redacted] бацькамі і меншым братам выходзіла з дому, каб перачакаць бамбёжку, таго не ведаючы, што пакідае любімы горад назаўсёды. Гарэў старажытны Мінск — краса і гордасць рэспублікі, абвальваліся дахі, валіліся сцены, абламваючы тэлеграфныя слупы, ірвучы правады. Агонь ахопліваў усё новыя і новыя кварталы, абняўшы ўсю цэнтральную частку горада. Гарэла людская праца пакаленняў, здабыткі чалавечай культуры. Далёка быў бачны пажар.

Цяжка было пакідаць дзяўчыне родны кут: сцежкі, дзе вучылася хадзіць; лялькі, з якімі ў маленстве не толькі гуляла, але і спала; школу, дзе сэрцам адчула хараство свайго краю, прыгаство роднай мовы, яе музыку. Па крывых завулках старога Мінска яны абыходзілі вялізнае вогнішча, каб выйсці на Магілёўскую шашу, больш вядомую ім дарогу, па якой ездзілі ў вёску на дачу. На скрыжаванні Савецкай і Ленінскай вуліц стаяў міліцыянер. Кругом усё гарэла, але ён не сыходзіў з паста, паказваючы людзям, дзе бяспечней прайсці, каб вырвацца з палаючага горада. Зашчымела сэрца ў дзяўчыны. Яна ўспомніла Маякоўскага: «Мая міліцыя мяне сцеражэ». Яны ішлі далей. Пахла гарэлым, казытала ў носе, [redacted] вачэй мімаволі сыпаліся слёзы, душыў горкі, як палын-трава, дым. Толькі досвіткам яны вырваліся з горада, які быў ахоплены полымем. Валам валіў з клункамі за плячыма народ, вядучы за рукі напалоханых дзяцей. У дзяўчыны сціснус-

лася сэрца, навярнуліся слёзы. Баючыся, каб бацькі і брат не ўгледзелі, яна ўкрадкам плакала.

А народ ішоў і ішоў, канца-краю не было відаць, ішоў, сам не ведаючы куды, дзе ён знойдзе прытулак, што яго чакае наперадзе. Некаторыя ішлі, каб перачакаць бамбёжку, а хто да родных і знаёмых у вёскі. Народ ішоў, каб уцячы з пекла, у якім апынуўся горад. Ішлі туды, куды вочы глядзяць, бо ніхто добра не ведаў, дзе вораг. Кіламетрах у пятнаццаці-шаснаццаці ад Мінска на людзей, што ішлі па Магілёўскай шашы, наляцелі фашысцкія самалёты, ці, як іх звалі,— крумкачы са свастыкай. Народ хлынуў убок, у жыта, якое хвалямі пералівалася на сонцы, шукаючы ратунку. Але якая гэта была схова: зверху ўсё было відно як на далоні. Самалёты, знізіўшыся — у іх не было бомб,— кулямётаў палівалі жыты свінцовым дажджом. Фашысты стралялі па людзях разрыўнымі кулямі. Шмат хто, калі фашысты адстраляліся, падняліся і пайшлі. А калі дзяўчына, пасля таго як самалёты зніклі, падбегла да бацькоў, дык яны ўжо былі мёртвыя, а брат у яе на руках сканаў. Дзяўчына ўпершыню ўгледзела смерць. Яе ахапіў такі жах, што яна хацела крыкнуць, але не магла. Падышлі добрыя людзі, памаглі дзяўчыне пахаваць забітых. Яна схілілася над свежай магілай і доўга-доўга плакала, думаючы, што ёй рабіць, як ёй адной жыць.

А людзі ішлі і ішлі, а за імі сунулася гора. Крывіліся дзеці, просячыся на рукі, плакалі. А знямажаныя дарослыя самі ледзь перастаўлялі ногі. Пайшла і дзяўчына, яе падганялі самалёты, якія ляцелі на ўсход, несучы на сваіх крыллях смерць людзям. Абапал дарогі ўсё часцей і часцей трапляліся свежыя магілы. Ішла дзяўчына тоненькая, як былінка, кволая, як бярэзінка. У яе роце ўжо другія суткі не было ні расінкі. Ёй хацелася піць. Але ў прыдарожных вёсках уся вада ў калодзежах была выбрана. Заходзіла сонца, яно было ярка-барвовым. Старыя казалі, што вайна будзе доўгай, а маладыя пярэчылі — цяперашняя вайна не зацягнецца; не хопіць ні тэхнікі, ні людзей. Вайна матораў патрабуе багата металу, а дзе фашыст возьме сыравіны? Дый людзей бракуе, колькі іх гіне кожны дзень. «Не, гэтая вайна хутка скончыцца»,— сцвярджалі маладыя. Але што фашыст не адолее Саветы, у

гэтым усе сыходзіліся. Дзяўчына да таго стамілася, што як прылегла каля прыдарожнай хвоі, так да раніцы і праспала на адным баку. І раптам яна ўгледзела: людзі ідуць назад. Высветлілася, што фашысцкія танкі іх абагналі. Яна была ашаломлена гэтай навіною. У душы адразу стала пуста:ісці далей не было куды, і дзяўчына збочыла ў лес, там яна чамусьці спакайней сябе адчувала. Ёй заўсёды падабаўся адвечна тужлівы шум бору. Ён заспакойваў душу. Яна ішла і ішла ў глыб лесу. Ёй траплялiся стройныя выносістыя сосны, кучаравыя елкі, каржакаватыя дубы, галінастыя ліпы, плакучыя бярэзіны; яны неспакойна шумелі, нібы перагаварваючыся паміж сабою. Так дзяўчыне здавалася. Забыццё, у якім яна была, прайшло, і ёй страшна захацелася есці, але нічога не было. Яна пачала церабіць, як вавёрка, шышкі, выкалупваючы адтуль зярняты, і імі ласавацца. Толькі наедак быў невялікі. Насоўваўся вечар, дзяўчына апамяталася, яе апанаваў страх. Яна баялася адной аставацца ў лесе. Яе пачынала гнесці цішыня засынаючага лесу. Дзяўчына пайшла, маючы намер выбрацца ■ пушчы. Неўзабаве яна апынулася ў хаце лесніка. Знайшлася добрая душа, якая яе накарміла. З тыдзень дзяўчына тут жыла, яна выказала ўсё сваё гора леснічысе. Але аставацца ў лесніка яна не магла, жыццё клікала змагацца. І яна зноў пайшла, пайшла куды вочы глядзяць. Дзяўчына доўга блукала па лесе.

— Стой! Ты хто? — запытаўся вартавы Юрка Грамыка. Гэта было кіламетраў за дваццаць ад лесніка.

— Людміла Грыгаровіч. З-пад Мінска.

— Што ты тут робіш?

— Заблудзілася.

— Ведаем вас! Сёння адну кралю ўвабралі, яна казала, што збілася з дарогі, а высветлілася — шпіёнка. Пойдзем!

— Куды?

— Там убачыш.

— Чаго?

— Трэба.

— А вы хто, свае ці чужыя?

— Не размаўляць доўга, а то я магу стрэліць. Узніму трывогу, тады табе нездабраваць.

— Ого, які ты храбры з дзяўчатамі ваяваць. А нябось фашыстаў баішся.

— Спыніць размовы! Айда!

— Ну што ж, пайшлі.

Юрка прывёў Людмілу ў лагер, да камандзіра партызанскага атрада, Лукаша Шуба,— ён да вайны быў сакратаром райкома партыі. Лукаш так быў заняты распрацоўкай плана свае першае аперацыі, што зусім не заўважыў, як Юрка падвёў да яго затрыманую дзяўчыну. У Лукаша на лбе выступіў пот, звіслі чорныя валасы. Вартавы кашлянуў. Камандзір узняў вочы.

— Гэта ты так стаіш на пасту? — запытаўся Лукаш.

— Я прывёў затрыманую, перш яна сказала, што з-пад Мінска, а потым з самога Мінска. Але гэта, мусіць, не так, пэўна, сочыць за намі?

— Не кажы глупства,— ускіпела Людміла і, звярнуўшыся да камандзіра, папрасіла: — Вазьміце мяне да сябе. У мяне нікога няма, бацькі і брат забітыя. Я хачу змагацца за тое, каб ніколі больш не было вайны. Яна працоўнаму чалавеку не патрэбна!

Перад камандзірам стаяла знясіленая, галодная дзяўчына. Яна пахіснулася. Відаць было, што дзяўчына перанесла шмат пакут.

— А ты сёння ела? — спытаўся Лукаш.

— Не.

— Скажы, каб яе накармілі, а потым пагаворым,— звяртаючыся да Юркі, распарадзіўся Лукаш.— І з табою буду гаварыць, з паста ні пры якіх абставінах не маеш права сыходзіць. Трэба было пачакаць напарніка. Не ваякі, а «дзіцячы сад»! Ідзі.

— Ёсць,— павярнуўся Юрка, ён злосна паглядзеў на Людмілу, паказаў, каб яна ішла наперадзе.

Людмілу прынялі ў партызанскі атрад. Яна памагала варыць страву, але гэта яе не задавальняла. Пабыўшы на свежым паветры, Людміла папраўілася, або, як жартуючы, пра яе казалі, аперылася; паружавелі шчокі, здавалася, яна падрасла, аформілася як дзяўчына, стала стройнай і прыгожай. Юрка пачаў на яе заглядацца. Яму хацелася згладзіць непрыемнае ўражанне аб ім, якое асталося ў Людмілы ад іх першага спаткання. Ён пачаў клапаціцца аб ёй і падараваў дзяўчыне свой шынель, а сам астаўся ў ватоўцы. Люд-

міла спачатку холадна сустрэла заляцанне Юркі, але ёй хацелася стаць у строй. Яна старанна вывучала зброю. І ў гэтым ёй шмат памагаў Юрка, які цяпер быў камандзірам аддзялення. Людміла дабілася, каб яе перавялі ў маладзёжнае аддзяленне Юркі.

З вялікім хваляваннем Людміла ішла на першую аперацыю. Цяжка было ўзрываць паязды. Ноччу яны рэдка хадзілі, а днём небяспечна было прабірацца да чыгункі: не больш як за кіламетр адзін ад аднаго стаялі вартавыя. Да таго каля чыгунак на вялікую адлегласць быў павысяканы лес. Ужо па дарозе Людміла падала Юрку цікавую думку — арганізаваць брыгаду па рамонту і такім чынам выйсці на палатно чыгункі. Прапанова была прынята. Але група з трох чалавек — не брыгада. Яны, крыху збочыўшы, зайшлі ў вёску Асавок, каб падшукаць хлопцаў і дзяўчат, якія б падахвоціліся пайсці з імі ў якасці рамонтных рабочых. Калі яны прыйшлі ў Асавок, то разышліся ў розныя бакі, каб пагаварыць з людзьмі. Юрка напароўся на эсэсаўцаў, якія толькі што прыехалі ў вёску. Эсэсаўцы не разабраліся і прынялі Юрку за паліцыянта.

— Эй, паліцай! Дзе жыве стараста? — спытаўся адзін з іх.

— Унь там,— паказаў рукою ў канец вёскі Юрка.

— Правядзі нас.

— Добра.

Юрка вымушан быў павярнуць назад. Яны ішлі па вёсцы. Людміла была сярод моладзі, яна ўгаворвала дзяўчат і хлопцаў пайсці рамонтнікамі. Падышлі эсэсаўцы да натоўпу. Юрка паклікаў да сябе першага хлопца і сказаў:

— Пакажыце ім, дзе жыве стараста.

Эсэсаўцы з суправаджаючым пайшлі.

— Іх мала, давайце кончым,— прапанаваў хлапец.

— Паглядзім,— вагаўся Юрка.— У нас іншае заданне...

— А што там, раз-два — і ў дамкі. Возьмем іх аўтаматы і пойдзем з вамі.

— Выйсця, мусіць, не будзе інакшага. Хоць не хацелася рабіць шуму...

— Які шум! Старасты няма дома, ён у раёне. Мы хутка з імі справімся. Завалачэм у глінішча...

Эсэсаўцам (іх было трое) Людміла паказалася падазронай (чаму гэта дзяўчына з аўтаматам?), адзін з іх паглядзеў на яе і, кіўнуўшы пальцам, запытаўся:

— Дакументы?

Юрка падміргнуў Людміле і сказаў:

— Пакажы ім дакументы!

Людміла кароткай чаргой з аўтамата зламала іх. Хлопцы кінуліся да аўтаматаў. Трое з іх, тыя, што завалодалі зброяй, адчувалі сябе на сёмым небе. Яны ж і ўправіліся з забітымі, закапалі іх у глінішчы. Аўтарытэт Людмілы адразу падняўся. Набраўшы рамонтную брыгаду, Юрка пайшоў з хлопцамі, каб адшукаць патрэбныя інструменты. Па шашы фашысцкія нарыхтоўшчыкі гналі чараду кароў. «А што, каб адабраць кароў?» — мільганула думка ў Людмілы. Дзяўчына схавалася за драўлянай кузняй, бярвенні якой пачарнелі ад копаці, і адтуль сачыла за нарыхтоўшчыкамі, якія спакваля ішлі, паганяючы кароў. Выбраўшы зручны момант, дзяўчына чаргою з аўтамата скасіла нарыхтоўшчыкаў, а кароў раздала сялянам (тым, якія адважыліся ўзяць). Астатніх кароў з хлопцамі — новымі партызанамі і адным старым — адправіла ў атрад.

Юрка і Людміла надзелі павязкі паліцэйскіх і па палатне чыгункі накіраваліся да пералеску. Неўзабаве паказалася дрызіна. «Рабочыя брыгады» прапусцілі яе, хутка заклалі міну, замаскавалі і, адышоўшыся, залеглі ў ляску. Праз некаторы час паказаўся цяжка нагружаны поезд з двума паравозамі. Успёршыся на міну, паравозы адзін за адным зляцелі з рэек. Узвіліся ў паветры клубы дыму. Насядалі вагоны і адзін за адным ляцелі пад адхон. Чуліся выбухі, бязладная стральба канваіраў з аўтаматаў.

Аперацыя прайшла ўдала. Падзякаваўшы ўдзельнікам «рабочай брыгады» (паабяцаўшы без зброі прыняць у атрад), Людміла з Юркам вярталіся ў атрад. Першай ішла Людміла. Яе дзве русыя касы звісалі ніжэй паясніцы. Людміла была ў гімнасцёрцы, туга падперазана рэменем, у вялікіх салдацкіх ботах з кірзавымі халявамі. Юрка быў адзеты па-цывільнаму, у пінжаку і капелюшы. У яго чорных вачах паказаліся агеньчыкі. Параўняўшыся з Людмілай, хлопец хацеў

узяць дзяўчыну за руку. Людміла кальнула хлопца вачыма:

— Не час цяпер любосцямі займацца.

— А калі ж?

— Як прагонім фашыста.

— Доўга чакаць.

Яны селі пад густою ліпай, каб крыху адпачыць. Звінелі пчолы, пахла мёдам. Людміла з Юркам, седзячы поруч, наглядалі, як нахілілася рабіна да дуба, яны нібы шапталіся паміж сабою. А навокал шумеў лес, скрыпелі дрэвы, гнулася галлё, трапяталася на сонцы лісце.

— Люда,— ледзь не шэптам вымавіў Юрка.— Я хацеў сказаць... што я...

— Пойдзем! — ускочыла Людміла.— Не трэба нічога гаварыць... Так лепш!..

Людміла з'явілася ў атрад, радасная, шчаслівая, скончылася яе адзіноцтва. Ёсць дубок, на які можна абаперціся. Але ніхто, акрамя наглядальнага камандзіра, гэтага не заўважыў.

— Ведаеш што, Юрка? — гаварыў, прыжмурыўшы вока, Лукаш.— Даволі табе ўлегцы хадзіць, я мяркую, варта вам з Людай узяцца за арганізацыю маладзёжнага атрада. Вы ўжо людзі сталыя, трэба падумаць, каб наблізіць нашу перамогу.

— А зброя?

— Дасталі ж вы сёння тры аўтаматы. Зброі ў фашыстаў колькі хочаш! Неабходна толькі яе ўзяць.— Лукаш Шуб усміхнуўся.— Досыць хавацца за чужую спіну, яна ў цябе самога даволі шырокая. Малады дубок! Да таго ж рабіна... падмога надзейная!

— Што ж, можна.

У Юркі былі ў рэзерве хлопцы. Размова з камандзірам падштурхнула яго да больш актыўных дзеянняў. Паступова з яго маладзёжнага аддзялення вырастаў атрад. Хлопцы ў ім былі на падбор: яны лезлі «ў агонь і пекла», наводзілі жывёльны страх на фашыстаў. А пра дзяўчыну ў шынялі хадзілі цэлыя легенды. Народ сам маляваў яе партрэт. Ва ўяўленні людзей Людміла была высокай, стройнай, сінявокай, з вялізнымі русымі косамі, хоць іх яна ўжо не насіла.

— Партызаніць дзяўчына пайшла,— апавядала старая з вёскі Асавок,— пасля таго калі аходала фа-

шыста. Афіцэр хацеў з яе наздзекавацца. Дык яна выхапіла ў яго рэвальвер і ўсадзіла яму ў сэрца кулю. Калі я ілгу, каб я з гэтага месца не сышла. Сваімі вушамі чула...

— Не-е, зусім не так было,— пярэчыў хлопец.— Кажуць: Людміла любілася з адным хлопцам; фашысты вазьмі і павесь каханага. От яна і пайшла знімаць фашысцкія галовы.

— Усё гэта праўда і няпраўда,— разважала бабка Грыпіна.— А мне казалі, што ўсю радню дзяўчыны ў шынялі забілі з самалёта; яна доўга блукала, пакуль прыбілася да партызан. Паздароў божа Людмілу, карову мне дала, ёсць чым крупнік забяліць. Яна, кажуць, замужам за камандзірам атрада і ў яе хутка павінна быць малое.

Ужо другія пеўні праспявалі, калі да бабкі Грыпіны пастукалі ў акно. Вёска Асавок была ў партызанскай зоне, стаяла каля лесу, і цяпер туды ноччу мала калі заглядалі падарожнікі з шашы. Запаліўшы газоўку, бабка выйшла ў сенцы.

— Ты хто, чаму так позна ходзіш? — пыталася бабка Грыпіна.— Акружэнец? Дык ваяваць трэба, а не ацірацца каля бабіных спадніц.

— А ты, бабка, так адна тут і жывеш?

— Адна.

— А чаго ў цябе так рукі калоцяцца?

— А хто цябе ведае, дзіцятка, ці ты добры чалавек, ці дрэнны? Хіба я знаю, што ты носіш за пазухай?..

— Я партызан. У нас адна дзяўчына павінна нарадзіць дзіцё. Ці не маглі б вы яго прыняць?

— Дзяўчына, дзіцё... Гэтага, дзеткі, яшчэ на маім вяку не было. А я пражыла больш за дзевяноста год. Дзяўчаты не родзяць.

— Ну, жанчына.

— Як жа гэта? Яшчэ хто падкажа, што я хадзіла да партызан, тады фашысты звядуць мяне са свету. А я яшчэ хачу пажыць, каб убачыць, як іх адсюль патураць. Мне адна добрая душа карову дала, а цяпер праз яе жыцця няма, хоць ты ў лес падавайся. Але каму патрэбна старая качарга!..

— Што ж тады рабіць? Нідзе блізка няма ўрача.

— А ты сапраўды партызан ці ліхадзей які? — дапытвалася бабка Грыпіна.— Надоечы зайшоў да мяне

паліцай, бярэ масла і кажа, што ён партызан. Лжэш, кажу, сучы сын. А ён: «Пабрашы, ведаю, ад чые каровы ясі малако».

— Партызан, бабка, партызан.

— Тады іншая справа. Так бы даўно і сказаў. Еду!

Каля зямлянкі тупаў Юрка. Яго бабка прагнала, ён чакаў новонароджанага. Юрка пахаджваў з вінтоўкай, мяркуючы, калі будзе сын, стрэліць. Па трывозе сабяруцца партызаны, і яны дадуць салют у гонар самага маладога партызана. Нарэшце заплакала дзіцё. Праз некаторы час бабка Грыпіна паведаміла:

— Даў бог дзяўчынку. Нічога, не гаруй: калі дзяўчаткі родзяцца, то хутка вайна скончыцца. А скажы мне, мілы, дзе б тут хоць адным вокам паглядзець на дзяўчыну ў шынялі, Людмілу.

— Яна перад вамі.

— Або-о,— здзівілася бабка Грыпіна, праціраючы вочы.— Няўжо гэта праўда?

— Праўда,— сцвердзіла Людміла.

— То дай бог, каб ты доўга жыла. Дзякуй табе за кароўку, а то на нішчымніцы сядзела.— Яна паглядзела на Юрку.— А гэта, значыць, твой чалавек? Камандзір атрада?

— Але,— адказаў Юрка.

— Скуль жа ты, хлопча?

— Які ж я хлопча, я цяпер бацька.

— Ага,— заўсміхалася бяззубым ротам старая.

— З Палесся я, бабуля.

— Трэба, каб чалавек, дзе закапана яго пупавіна, туды і цягнуўся, ласку меў да тае зямлі, бараніў яе ад чужынцаў. Птушка і тая з выраю ляціць да свайго гнязда. Дык жывіце, дзеткі, шчасліва, дай вам бог здароўя.

Бабка Грыпіна праслязілася, пацалавала Людмілу. На яе маршчыністым твары паказалася шчаслівая ўсмешка.

— От што я яшчэ скажу, дай божа, каб ты доўга жыла,— яна павярнулася да Юркі: — Такую жонку мець, лепшага шчасця не трэба.

* * *

Ужо другую гадзіну ішоў няроўны бой паміж атрадам Юркі і палком карнікаў. Шмат было забітых

партызан, параненых. Падышлі апошнія рэзервы атрада, а разам з імі і Людміла. Яе дзяўчынцы ўжо ішоў дзевяты месяц. Дзіця было ўцехай у атрадзе. Людміла пакінула Галачку ў зямлянцы на параненага партызана, і надзеяй, што хутка бабка Грыпіна прыедзе, прывязе дзяўчынцы малако. Яна ўзяла аўтамат і пайшла на поле бою, пайшла ўкрадкам, каб не трапіць на вочы Юркі, які як камандзір мог ёй загадаць вярнуцца да дзіцяці. Бой схіляўся на карысць карнікаў. На полі бою ляжаў цяжка паранены Юрка. Людміле не сказалі пра гэта. Юрка, намагаючыся з апошніх сіл, працягваў камандаваць атрадам. Па камандным пункце партызан білі з дзота, які быў пабудаваны ля чыгуначнага моста. Калі Людміла заўважыла, адкуль страляюць, яна папаўзла туды, намерваючыся гранатай вывесці разлік дзота са строю. Людміла ўжо была каля дзота, але паралізаваць агонь ніяк не магла. Тады Людміла падпаўзла да дзота, паднялася і імкліва закрыла сабою амбразуру. Кулямёт захлынуўся. Да месца бою падаспеў камандзір брыгады, Лукаш Шуб, з адным атрадам. Партызаны сабраліся з сіламі і адкінулі карнікаў за палатно чыгункі.

— Як Людміла? — пытаўся слабым голасам Юрка.— Яна будзе жыць?

— Будзе,— адказаў Лукаш, сам не верачы гэтаму.— Ёй як быццам лепш стала...

— Добра. Яна павінна жыць. А я паміраю...

І Юрка схіліў набок галаву. Ён нібы заснуў. Спакойным быў яго твар.

— Як Юрка? — пыталася Людміла.— Хоць бы ён жыў.

— Будзе,— цяжка сказаў Лукаш,— доўга будзе жыць... у памяці народа...

— То і добра,— не зразумела Людміла.— А мне нешта нядобра. Прынясіце да мяне маю дзяўчынку. Галка! Дачушка! Жыві з таткам. Ён у нас добры. Я дзеля цябе і такіх, як ты... каб вы ніколі не ведалі вайны... не бачылі сірочых слёз...

Бабка Грыпіна трымала дзяўчынку. Яна цягнулася да маці, церабіла яе валасы, але маці не сказала больш ні слова. Яе накрылі салдацкім шынялём. А дзяўчынку Лукаш Шуб узяў на рукі і вынес з зямлянкі.

*1944*

# НАБЕГ

Паволі плылі ціхія воды шырачэзнай Прыпяці. На левым беразе рэчкі раскінуліся, як мора шырокае, заліўныя лугі. Справа відаць былі прасторы калгасных палёў, схіліўшы поўныя каласы, стаялі нераспелыя жыты.

Над абрывам, пад купчастаю вярбою, з вудачкаю ў руках, разуўшыся, закасаўшы па калені штаны, сядзеў Фрыц Шпрэхер. Ён марыў пра куфель піва, успамінаў сваю Гертруду, малых дзяцей, што асталіся ў далёкай Баварыі. Галава Фрыца пасля добрай выпіўкі — у гонар перамогі на ўсходнім фронце — была пустою.

Падбіралася пад поўдзень. Пякло жнівеньскае сонца. На сенажаці покатам ляжала нераспелая трава, шапацела. Яе ніхто не касіў: не было рук. Дзынкалі пчолы, пералятаді з травінкі на травінку матылькі, стракаталі конікі.

Шпрэхер ужо каторы раз перачытваў пісьмо ад жонкі: «Мілы Фрыц! — пісала Гертруда.— Не будзь дурнем. Падумай пра тваіх маленькіх дзяцей. Прышлі сваёй дзяўчынцы сукенку. Не страшна, калі яна будзе бруднай ці ў крыві, адмыецца». Ён доўга думаў, дзе дастаць падарунак для сям'і. Фрыц лаяў сябе за непаваротлівасць. Яго сябры за месяц вайны паслалі на радзіму па некалькі пасылак.

Рыбалоў да таго задумаўся, што не заўважыў, як тсркнула, пацягнула ў дно. Ён падхапіў вудачку, падрэзаў рыбіну, на паверхні паказалася чырванапёрая плотка, яна адарвалася, махнула хвастом і рванула да другога берага.

«Кругом не шанцуе!» — падумаў Фрыц, начэпліваючы на кручок чарвяка, які выслізваў з яго нязграбных, як граблі, даўгіх пальцаў.

Аглядаючы шырокія лугі, векавыя дубровы, Фрыц хваліў бога і фюрэра, што яны, нарэшце, падумалі пра «жыццёвыя прасторы» для немцаў. «Навошта гэтым дзікунам,— думаў Фрыц,— столькі зямлі? Дый наогул, ці маюць яны права на жыццё?» Ён марыў авалодаць тут па меншай меры фальваркам, калі не маёнткам, прывезці сюды жонку з дзецьмі і зажыць спакойным

жыццём. «Трэба прымусіць гэтых тубыльцаў (якія астануцца жыць),— думаў Фрыц,— каб яны на нас працавалі». Яму асабліва падабаліся словы фюрэра: «Немцы — клас паноў»; па думцы Фрыца, і ён народжаны, каб кіраваць.

У Фрыца былі непамерна вялікая галава, шэрыя вочы, яны блішчалі, як у ката, пад носам тырчалі падстрыжаныя бялёсыя вусікі. Ён схіляўся над вадою і, як перад люстэркам, круціўся, любаваўся сабою, прыгладжваў непаслухмяныя белакурыя валасы.

У хвойніку, што недалёка быў ад рэчкі, кішмя кішэў народ — старыя, жанчыны з дзецьмі; яны ўцякалі з гарадоў і мястэчак, шукаючы ратунку. Людзі ішлі на ўсход. Яны цягнуліся туды, як цягнецца ўсё жывое да сонца. Але куды ты ўцячэш ад напасці? Людзей абганялі фашысцкія танкі. На ўскраіне лесу сядзела Ганна Бобрык, ураджэнка горада Мінска, з сваёю дачкою Алачкай, якая бесклапотна шчабятала, не разумеючы, што робіцца на свеце, чаго яны ўцякалі з горада, а цяпер зноў туды ідуць.

— А куды мы ідзем? — пыталася Алачка.

— Куды вочы глядзяць,— адказала заклапочаная маці, папраўляючы на галаве ў дзяўчынкі ружовы банцік.— Ды не круціся ты, от непаседа.

— А чаму мы ідзем? — не сунімалася дзяўчынка.

— Злыя людзі зрабілі набег,— тлумачыла маці, думаючы, чым пакарміць дзіця,— хочуць нас пакарыць. Дык ты мяне, птушачка, зусім не слухаеш. Куды так угледзелася?

— Матылькі! Матылькі! Матылькі! — сарвалася з месца дзяўчынка. Яна пабегла на сенажаць, даганяючы матылька. Бялявая дзяўчынка з ружовым банцікам апынулася каля рэчкі. Алачка разгарачылася, шчочкі яе сталі чырвоныя, як макі. Калі дзяўчынка ўгледзела каля рэчкі незнаёмага чалавека ў зялёным, што лавіў рыбу, яна аслупянела. У яе навярнуліся слёзы.

«Сукенка»,— мільганула думка ў галаве Фрыца. Ён паківаў пальцам дзяўчынцы. Яна, напалоханая, кінулася бегчы. Алачка падумала пра «злых людзей», аб якіх ёй толькі што казала маці.

— Хальт! — крыкнуў фашыст.

Дзяўчынка ўцякала. Тады Фрыц прыцэліўся і стрэліў. Дзяўчынка, бездапаможна замахаўшы ручкамі, як матылёк крыллямі, упала. Ружовы банцік з пасмачкай бялявых валасоў адляцеў убок. Усё ў вачах дзяўчынкі перавярнулася, яна ў апошні раз бачыла сонца, якога ўсю зіму чакала. Фрыц, спяшаючыся, ішоў да дзяўчынкі. Ён быў задаволены, што выканаў просьбу жонкі, пашле сваёй дачцэ сукенку. «Ой, як яна будзе рада,— думаў Фрыц.— От, каб яшчэ чаравічкі дастаць, меншым дзецям крамніны, то і пасылку можна ладзіць». Ён накінуўся на дзяўчынку, як каршун на куранё, здымаў з неастыўшага яшчэ цела белую ў чорныя кропелькі сукенку.

— Дарма, што ў крыві, адмыецца,— падумаў угола́с Фрыц.— Каб яшчэ чаравічкі і крамніны, дый жонцы што-небудзь трэба, хоць яна нічога і не піша пра гэта.

— А-ай, дзіця забілі, душагубы! — з крыкам кінулася бегчы Ганна.— Людцы, памажыце! Разбой сярод белага дня!

Вестка пра забойства дзіцяці маланкай абляцела вёску, якая над Прыпяццю стаяла.

Старая сялянка, маці трох сыноў, што ў першы дзень вайны пайшлі ў войска, Кацярына Вярбіцкая, спакойная жанчына, якая, бывала, кураняці не пакрыўдзіць, клікала да помсты.

— Людзі добрыя! — гаварыла сурова Кацярына жанчынам-сялянкам, што сабраліся каля яе, як кураняты каля квактухі ў час небяспекі.— Даравацъ фашысту-кату нельга! Дзяўчынка нашае крыві. Спрадвеку так было, калі да нас прыходзілі чужаніцы, людзі іх білі, хто чым мог. Тутэйшы чалавек цярпець не мог, каб яго зямлю таптала розная там погань. Прагонім з нашае зямлі навалач. Пастаім за свой чалавечы гонар. Не дамо праклятаму фашысту здзекавацца з нашых людзей. За кроў дзіцяці фашыст павінен заплаціць сваёю паганаю крывёю.

І Кацярына, высока трымаючы галаву, гордая, свабодная жанчына зямлі беларускай, са сціснутымі кулакамі, у якіх былі камянні, пайшла да рэчкі, а за ёю сялянкі. Яны ішлі, і здавалася, што трава ім нізка кланялася; шумеў бор, журчала крынічная вада, клічучы да помсты.

Кацярына некалі была лепшая жняя ў полі, першая песенніца за сталом, добрая маці (яна нарадзіла шаснаццацера дзяцей, і ні адно з іх не памерла, усе былі дагледжаныя, хоць і жылі ў нястачы), яшчэ і цяпер яна выглядала значна маладзей сваіх год. Хто яе не ведаў, ніколі б не паверыў, што ёй ішоў пяцьдзесят чацвёрты год. Яе вочы гарэлі агнём нянавісці.

— Ірады! — ідучы, грозна гаварыла Кацярына.— Не бачыць вам пакоранай Расіі, як сваіх вушэй.

«О, знаходка! — думаў Фрыц.— І чаравікі. Будзе маёй маленькай Клары радасці».

Фрыц спакойна сцягваў з ног забітай Алачкі паношаныя чаравічкі. Яны не злазілі, тады ён дастаў складны ножык, парэзаў шнуркі.

Павеяў вецер. Загаманіў бор, застагнаў. Усхваляваныя людзі гулі, як патрывожаныя пчолы ў вуллі. Ганна з распушчанымі валасамі, з жахам і боллю, са злосцю і адчаем на твары падбегла да фашыста. У яе вачах было поўна слёз, калаціліся рукі. З ярасцю яна схапіла Фрыца за горла і пачала душыць. Яны тузаліся. Неяк вылузаўшыся, фашыст стрэліў. Ганна грузна апусцілася на зямлю, хацела нешта сказаць, але не магла. Скрывіўшыся ад болю, яна схіліла галаву, страціла прытомнасць і так нерухома застыла.

Беглі ўстрывожаныя жанчыны, яны трэслі кулакамі, падступалі да фашыста, крычалі на ўсе галасы:

— Крывапіўцы!

— Вон з нашай зямлі!

Напалоханы Фрыц адступаў, ён выставіў аўтамат, але страляць не адважваўся. Жанчыны прыціскалі фашыста да рэчкі. Ён апынуўся над абрывам.

— Чаго глядзіце, жанчыны? — крыкнула Кацярына.— Фашыст сам не палезе ў вір, яго трэба папхнуць. За што ты дзіця забіў? Зялёная жаба! Утапіць гэтую поскудзь, каб не паганіла нашу зямлю.

— Ута-а-пі-і-іць! — зашумеў натоўп.

Жанчыны з крыкам сапхнулі Фрыца ў рэчку. Ён паспрабаваў ухапіцца за бераг, але Кацярына стукнула яму каменем па галаве, сялянкі закідалі яго зямлёй, палкамі. Фрыц Шпрэхер некалькі разоў крыкнуў, набраў вады ў рот, захлынуўся і пайшоў на дно.

*1944*

# ДОКТАР

Мястэчка Ганчары, што раскінулася ў лагчыне абапал рэчкі Беседзь — яе ўлетку куры ўброд пераходзілі,— нічым асаблівым не вылучалася. Але старыя ім ганарыліся, даўней тут рабілі гаршкі, шмат прыязджала людзей на кірмаш, а колькі ў карчме гарэлкі перапілі, то, як казалі ганчароўцы: «Ведаць аднаму богу і карове». Яшчэ і цяпер тут былі гліншчы, там дзеці часта ляпілі лялькі.

У цэнтры мястэчка стаяў дом, ён па акяніцы ўрос ў зямлю, на страсе парос зялёны мох. Тут жыў доктар Тамаш Сымонавіч Сомін. Ён быў звычайны чалавек, не вялікі і не малы, але доктар добры. Слава пра яго ішла далёка. Неяк да Тамаша Сымонавіча звярнулася цяжка хворая вясковая жанчына, на якую другія дактары рукой махнулі — гэта было яшчэ ў старыя часы,— а ён яе за месяц паставіў на ногі.

— Ну, кабетка, а цяпер з богам у дарогу,— пасля абходу бальніцы сказаў Тамаш Сымонавіч.— Вам можна есці малако, масла...

— Добра таму есці, у каго гэта ёсць,— адказала жанчына, яна ўкрадкам праслязілася, неахвотна збіраючыся пакідаць бальніцу.— Каторы год на нішчымніцы сяджу...

Тамашу Сымонавічу шкада стала бедную кабеціну, і ён купіў ёй карову — якая папраўка без малака.

От з таго часу і пайшла пра яго гуляць мянушка «Дзівак». А колькі ён бясплатна лячыў людзей, ліку не было.

На галаве ў Тамаша Сымонавіча рос сівы пух. Доктар насіў акуляры ў залатой аправе, яны нізка спаўзалі на яго завостраны нос. Тамаш Сымонавіч быў страшна няўважлівы чалавек. Аднойчы, гуляючы з жонкаю па мястэчку, ён уступіў казе дарогу і, ступаючы адной нагой на тратуар, а другой па зямлі, ускрыкнуў:

— Што б такое магло здарыцца, маці, у мяне раптам адну нагу падцягнула?..

А ці раз местачкоўцы яго бачылі, калі ён у летнюю спёку хадзіў у галошах, а восенню, калі былі праліўныя дажджы, гуляў без шапкі. Тамаша Сымонавіча

некалькі разоў запрашалі працаваць у мінскую клініку, але ён ніяк не хацеў пакінуць сваю бальніцу. І не дзіва, Тамаш Сымонавіч тут працаваў больш за трыццаць год.

Пасля пахавання першае жонкі Сомін ажаніўся з другой, узяў старую дзеўку, жанчыну сіберную. Фактычна яна яго ажаніла. Ледзь першую жонку прысыпалі жвірам, як другая жонка падаслала да яго сваіх сватоў. Як Тамаш Сымонавіч ні церабіўся, але яму не ўдалося адбіцца ад гэтай жанчыны. Яна хадзіла па яго пятах, як здань, пакуль яны не пажаніліся. За пяць год сумеснага з ёю жыцця Сомін стаў падобны на шкілет. Худзеў ён не па днях, а па гадзінах і не таму, што жонка за ім не глядзела. Яго выводзілі з цярпення празмерныя яе клопаты. А бывала, калі яна пачынала гаварыць, дык Тамаш Сымонавіч непрыкметна затыкаў вушы ватай. Яна ўвесь вечар гаварыла, гаварыла і гаварыла, пакуль ён не хапаўся за галаву і не ўцякаў у другі пакой. Цяпер Тамаш Сымонавіч на практыцы спазнаў, што такое істэрыка. Як толькі жонку пачынала «трэсці», ён падбягаў і клаў яе на канапу, хоць бы яна не ўпала на падлогу, бо тады з яго галавы ляцеў «пух». Кожны дзень можна было пачуць, калі ён скажа адно, дык яна другое і ўсё наўпаперак. Аднойчы, прагульваючыся каля глінішча, яна спынілася над абрывам. Пасыпалася зямля.

— Матуленька, асцярожней, яшчэ ўпадзеш.

— Ну і што тут такога, нічога страшнага. Вось вазьму і скокну.

— Не трэба,— прасіў Тамаш Сымонавіч.

— А я так хачу, і нічога ты мне не зробіш.— Яна такі скокнула.

«Ну, здаецца, скончыліся мае пакуты,— бегучы ўніз, думаў Сомін.— Не было шчасця, дык няшчасце памагло. Да чаго даводзіць упартасць. Ну што ж, пухам табе зямля».

Ужо ў часе вайны, калі фашысты ў мястэчку пачалі гаспадарыць, начальнік шпіталя, Цомерфельд, паклікаў доктара да сябе на кватэру, каб угаварыць яго пайсці ў шпіталь на работу. Ён пра Соміна шмат чуў як пра добрага доктара. «Дзе ён дзенецца,— думаў Цомерфельд,— будзе лячыць нашых людзей. Абавязак доктара не дазволіць шкодзіць. Беларусы — людзі

пачуццяў, а немцы — халоднага разліку». Сомін з Цомерфельдам пілі чай і доўга паміж сабою гаварылі, пералівалі з пустога ў парожняе. Гэта абрыдала Соміну, ён быў чалавек справы. Тамаш Сымонавіч пачаў нервавацца. Перш ён зняў з сябе пінжак, потым камізэльку, нарэшце пачаў разувацца, даючы зразумець фашысту, што яму час ісці адсюль. Фашыст быў асцярожны, як стары ліс, ён пасміхаўся і сядзеў, чакаў, што з гэтага будзе. Тады Сомін не вытрымаў:

— Паслухайце, гер, дакуль вы будзеце тут сядзець? Мне пара спаць. Я чалавек стары, у мяне астма, мне патрэбен адпачынак. Ды, ў рэшце рэшт, я тут гаспадар ці вы?

— Прабачце,— усміхнуўся Цомерфельд,— але пакуль гэта мой асабняк.

— Іменна пакуль,— спахапіўшыся, буркнуў Тамаш Сымонавіч і пачаў адзявацца, каб ісці дахаты.— Я чалавек стары, магу і забыцца, дзе знаходжуся. Што вам трэба ад мяне?

— Я хацеў прапанаваць вам пайсці да нас на работу. Усё роўна вы нічога не робіце. Згодны?

— А чаму не,— падумаўшы, адказаў Сомін,— калі я працую, я жыву. Ці паверыце, на рабоце я адпачываю. Стары чалавек — не спіцца, косці баляць. А калі працуеш, забываеш пра ўсё.

— Ну і добра. Не да твару немцам, каб такі выдатны хірург не меў работы. Мы добра заплацім.

— Калі пра грошы гаворка ідзе, то ў мяне іх хапае.

— Капітан Блемберг! — крыкнуў Цомерфельд.

— Што загадаеце? — увайшоўшы, спытаўся капітан.

— Перад вамі выдатны хірург,— паказваючы на Соміна, гаварыў Цомерфельд.— Гэта дарма, што ў правінцыі жыў, бальшавікі ў цэнтр не пускалі. Ён будзе ў нас працаваць. Паклапаціцеся, каб доктар жыў у дастатку.

— Слухаю! — казырнуў афіцэр і звярнуўся да Соміна: — Можа, машыну падаць?

— Не-е, я прайдуся. Чалавек я стары... У мяне астма... карысна свежае паветра... Бывайце здаровы!

Прайшло больш за паўгода, як Сомін працаваў у фашыстаў. Першыя месяцы доктар усяго сябе аддаваў працы, упэўнены, што, ратуючы людзей ад смерці, ён

робіць карысную справу, а потым пачаў сумнявацца. Зусім нечакана для сябе Сомін прыйшоў да думкі: «Што я раблю? Людзі мне гэтага не даруюць. Як доктар я павінен знішчаць бацылы, а не памагаць іх размнажэнню. Сёння і будзе гуманізмам — знішчаць фашыстаў». Тое, да чаго цяпер дайшоў Сомін, для простых людзей даўно было зразумелым. Яны крывіліся на доктара, бурчалі. Адны толькі местачковыя яўрэі маўчалі, фашысты на «душагубках» усіх іх перавезлі ў глінішчы. Потым салдаты аблілі трупы нейкай вадкасцю і падпалілі.

І Тамаш Сымонавіч ад разваг перайшоў да справы, ён пачаў дзейнічаць. «От цяпер я сапраўды жыву,— думаў доктар,— бо змагаюся, па меры сваіх сіл, разам з маім народам супраць ворага. Праўда, доктарскі абавязак лячыць, але ж калі ты вылечыш фашыста, то ён зноў пойдзе забіваць нашых людзей. А абавязак грамадзяніна — усім, чым можаш, біць фашыста. І я яго б'ю, няхай мне даруюць мае калегі па прафесіі. Дый не без разбору б'ю я, а самых заядлых галаварэзаў».

Неяк, ідучы каля глінішчаў, Тамаш Сымонавіч убачыў, як некалькі гітлераўцаў прасейвалі чалавечы попел. Тут былі спалены местачковыя яўрэі. Фашысты шукалі зліткаў золата ад зубоў, завушніц і пярсцёнкаў. Доктар да глыбіні душы гэтым абурыўся.

«Гэта не людзі, а дзікуны!» — падумаў Тамаш Сымонавіч.

А яшчэ больш Сомін узненавідзеў фашыстаў, калі даведаўся, што Цомерфельд бярэ кроў у рускіх дзяцей для пералівання параненым фашыстам. Ярасці яго не было межаў. Ён гатоў быў сваімі рукамі душыць ворагаў. «Яны паставілі сабе за мэту нас знішчаць,— думаў Сомін,— то мы не дамося. Будзем іх біць!»

Аднойчы, гуляючы ў шахматы з Цомерфельдам, Сомін усхвалёвана загаварыў:

— Паслухайце, гер, як вы асмеліліся браць кроў у дзяцей... Як вы маглі дапусціць, каб вашы, прабачце мяне, каб вашы... слова падыходзячага не падбяру... ну, вашы чалавекі...

— Што вы хочаце сказаць? — спакойна спытаў Цомерфельд.— Я браў кроў у дзяцей бальшавікоў, каб

ратаваць афіцэраў. А вы ж, здаецца, беспартыйны, чаму вас гэта кранае? Яшчэ што? Пешка, наперад.

— Яшчэ тое... ну як бы гэта... Малы чалавечы лексікон... у глінішчы трывожылі людскі прах... Ход канём.

— Хіба вы яўрэяў за людзей лічыце? — пасміхаючыся, гаварыў Цомерфельд.— Вось лепей, ці не сказалі б вы мне, чым вытлумачыць, што ў шпіталі павялічыўся працэнт смяротнасці сярод афіцэрскага саставу. Гардэ каралеве.

— Няма нічога дзіўнага. Фронт аж пад Масквою, пакуль прывязуць параненага, ён жывы нябожчык,— захоўваючы ўсхваляванасць, адказваў Сомін.— Шах і мат.

— Здаецца, раней з-пад вашага нажа меней лажылася ў магілу.

— Бо цяпер да мяне трапляюць параненыя, якіх вы адмаўляецеся аперыраваць, а мне загадваеце. Я вас папярэджваў...

— Згуляем яшчэ!

— Чаму не, гуляць дык гуляць. Давайце!

— Што, не хочаце больш прайграваць?

— Па-мойму, я і раней мала калі паддаваўся.

За шахматамі Тамаш Сымонавіч канчаткова вырашыў спыніць гульню, адкрыта выступіць супроць фашыстаў. Цяпер Цомерфельд здаваўся яму яшчэ больш агідным. Ён быў тлусты, як кормны япрук, на яго нізкім лобе выступалі кропелькі поту, так ён тужыўся абыграць Соміна. Паблісквäючы залатымі зубамі, Цомерфельд гаварыў:

— Вы так паласнулі параненага маёра Іагана Шустэра, што таго не паспелі зняць з аперацыйнага стала, як ён богу душу аддаў. Пад вашымі рукамі сканаў.

— Хо-хо! Якая падазронасць! Паспрабавалі б вы дастаць асколак, які закрануў сардэчную пляву. Дык гэта мне такая падзяка? Я так працаваць не магу.

— Што вы, што вы, калега, я проста не падумаў і сказаў глупства. Мы вас так цэнім, колькі вы выратавалі салдат ад смерці (праўда, гэта былі калекі, яны не вярнуліся на фронт), вось толькі чамусьці ў вас з афіцэрамі не шанцуе.

— Што вы здольны плесці глупства, я гэта ведаю, але сёння няма гэтаму ніякіх межаў,— гаварыў Сомін.— У нас ёсць такая прыказка: «Вось вам хамут і

дуга, а я болей не слуга». А колькі вы сваімі мясістымі рукамі адправілі салдат на той свет. Што, маўчыце?

— Прабачце, я пагарачыўся. На мяне націскаюць, то і я пляту чорт ведае што. Каб я вам не давяраў, то не прадставіў бы да ўзнагароды жалезным крыжам. Дарэчы, вас хутка будзем віншаваць. Мы яшчэ з вамі папрацуем. А што да няўдач, дык у каго іх не бывае? Не крыўдуйце.

І хоць яны разышліся паміж сабою мірна, але паміж імі, як гэта кажуць: «прабегла чорная кошка»; далей сумесная іх праца была немажлівай. А праз два дні доктар Сомін зусім знік. Ён захапіў з сабою аперацыйныя інструменты, зубны кабінет і сваіх памочнікаў. А было гэта так: днём да шпіталя пад'ехала партызанская машына,— шафёр быў у нямецкай форме,— пагрузілі рэчы і падаліся ў лес. У гэты ж дзень быў зроблены налёт на гарнізон у мястэчку, ім кіраваў доктар Сомін, фашыстам былі нанесены вялікія страты. Начальнік шпіталя з перапуду ўцёк, і толькі ўвечары яго знайшлі ў агародзе.

— Што з вамі, гер Цомерфельд, дзе вы так упэцкалі сябе? — пыталася, ухмыляючыся, сястра.— Або-о, ды ў вас жа ўсе штаны ў гразі. Дзе вы былі?

— У каноплях сядзеў. Век не забуду вашых ціхіх людзей.

Доктар Сомін не задаволіўся адкрыццём у лесе шпіталя, ён арганізаваў атрад старых партызан, каб «уцерці нос маладым». Неяк камандзір брыгады даў заданне старым партызанам узарваць вузлавую станцыю ў горадзе Беразнянкі. Сомін узяў на сябе гэтую аперацыю. Па чыгунцы ён прабраўся ў горад — часта немцы падносілі яму чамадан, дзе была ўзрыўчатка. Пазнаёміўшыся ў дарозе з адным нямецкім афіцэрам, доктар зайшоў з ім у вакзал, папрасіў фашыста пагля-дзець за яго рэчамі, а сам выйшаў. Неўзабаве пачуўся выбух. Успалыхнуў пажар. Вакзал як карова языком злізала. Доктар, задаволены, вярнуўся да сваіх.

Як потым высветлілася, Тамаш Сымонавіч у нямецкім шпіталі звёў са свету больш за сто адных толькі фашысцкіх афіцэраў, а з рознымі там падафіцэрамі каля трохсот. А цяпер ён павялічваў свой рахунак кожны дзень.

— Калі ваяваць, дык ваяваць па-сапраўднаму,—

разважаў доктар.— Мы людзі мірныя, чужога не хочам і свайго не аддадзім, не чапай нас, то і мы нікога не кранем, а калі зачапіў — у парашок сатрэм. Такі характар беларуса.

Аднойчы доктар Сомін падаў цікавую думку — прабрацца ў Ганчары на рынак і зрабіць напад на фашыстаў. Камандаванне ўхваліла яго прапанову. Калі сілы бракуе, трэба хітрасцю браць. «Фашысты хочуць нас аходаць,— разважаў Тамаш Сымонавіч,— а мы іх перакулім».

Цомерфельду СД жыць не давала. Як гэта ў яго перад носам сядзеў Сомін, такі небяспечны чалавек. Яшчэ Цомерфельд яго да ўзнагароды прадставіў. Фашыст ад злосці кіпеў. У яго нараджаліся фантастычныя планы, як увабраць жывым Соміна. «Я з яго жылы выцягваў бы,— думаў Цомерфельд.— Ніколі б не паверыў, каб гэты чалавек пайшоў у партызаны. Але ён нідзе не дзенецца, скруціць галаву. І хоць СД здзекуецца з мяне, але ўсё ж спачувае мне. Ну, я нявопытны чалавек, а яны з гэтага хлеб ядуць, і то не раскусілі доктара».

У ясны вясенні дзень у Ганчары быў вялізны наплыў, з'язджаліся на кірмаш сяляне. Фашысты дзівіліся, адкуль узялося столькі прадуктаў. Кірмаш быў у разгары, а падводы ўсё ехалі і ехалі, везучы розныя спажыткі.

Каля шпіталя праязджаў Тамаш Сымонавіч, ён вёз прадаваць смятану. Сомін аброс густою барадою, звісалі пасівелыя вусы. На возе ў доктара было поўна розных кадушак. Пасміхаючыся ў вус, Сомін памахаў Цомерфельду рукою. Цомерфельд сядзеў на ганку, у адказ ён крыкнуў:

— Хайль Гітлер!

«Будуць твайму Гітлеру і табе канцы,— падумаў Сомін.— Народ пераломіць вам хрыбет. Кожнай фашысцкай гадзіне вісець на пераkладзіне».

Цомерфельду самому захацелася прайсціся на кірмаш, купіць сёе-тое, на людзей паглядзець, самому паказацца, пагаварыць з людзьмі, тым больш што ён ведаў мову. Але больш за ўсё яго цікавіў Сомін. Можа, што аб ім пачуе?

Гаманілі на кірмашы:

— Купляю хамут!

— На чорта табе той хамут, ярма яму фашысцкага не хапае.
— Каму сахарына?!
— Ножыкі для брытвы!
— Свежая смятана, каму смятана!
— А колькі каштуе? — пытаўся Цомерфельд.
— За марку дзве шклянкі,— адказаў Сомін.
— Што-о? — вызверыўся Цомерфельд, падстаўляючы пасудзіну.— Дай пробу.
— Добрая проба, такі гладыш.
— Нічога, разлічымся.
— Ага, на тым свеце вугельчыкамі.
— Языкаты?! — усміхнуўся Цомерфельд, вымаючы грошы.— А скажы, стары, ты часам нічога не чуў пра тутэйшага доктара Соміна? Дзе ён дзеўся?
— А ліха яго ведае,— насцеражыўся Тамаш Сымонавіч.— Вам, гер Цомерфельд, лепш вядома, ён жа, здаецца, у вас працаваў.
— Адкуль вы мяне ведаеце?
— Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей,— пасміхаючыся, гаварыў Сомін.
«О, чорт! — думаў Цомерфельд.— Дзе я яго бачыў?»
— Людзі кажуць, што вы нават яго да ўзнагароды прадстаўлялі.
— Халера! Усё ведае. Адкуль будзеш, чалавеча?
— З-пад Мінска.
— Чаму тут апынуўся?
— Вайна закінула.
— А што ты тут робіш?
— Смятанаю таргую.
«Знаёмы голас. Вось толькі забыўся, дзе я яго чуў,— тужыўся ўспомніць Цомерфельд.— А-а-а...»
— Свежая смятана! — голасна сказаў Тамаш Сымонавіч.— Каму смятана? Прадаю смятану!
— Вы?.. Доктар?.. Сомін?..
— Дай фашысту нажом пад рабро — зробіш дабро,— крыкнуў Тамаш Сымонавіч.— Гітлера парадкі — кулі ды падаткі.
Гэта быў сігнал да бою. Пачуліся стрэлы. Ну і пачалі паміж вазоў калашмаціць фашыстаў, ажно пыл ляцеў. Білі прыкладамі, рэзалі фінкамі. Гладышык са смятанаю апынуўся на галаве ў начальніка шпіталя. Але Цомерфельд — ён быў з галавы да ног у смятане,—

як уюн, адкуль толькі ў яго ўзяўся спрыт, выслізнуў з рук Тамаша Сымонавіча — і пад воз. Пакуль Сомін агледзеўся, яго і след прастыў. На зямлі валялася Цомерфельдава шапка, уся памятая нагамі. Колькі Тамаш Сымонавіч яго ні шукаў, так і не знайшоў. Цомерфельд як скрозь зямлю праваліўся.

— Уцякла ваяўнічая свіння! — злаваўся Сомін.

А Цомерфельд у гэты час сядзеў, зачыніўшыся ў жаночай прыбіральні, гэтым толькі ўратаваў сваю скуру.

У Ганчарах ішла калатня. Стралялі з вежы царквы, з рынку, з усіх бакоў, усюды таўклі фашыстаў, як пацукоў. Увечары па ўсім мястэчку з'явіліся аб'явы: «Хто сёння на кірмашы смятану купляў, той доктара Соміна бачыў». Такая ж самая абвестка вісела ў кабінеце начальніка шпіталя. У Цомерфельда ад злосці трэсліся рукі, калі ён зрываў са сцяны аб'яву, перакасілася сківаца, ён гатоў быў на кавалкі парваць Соміна. А больш за ўсё яго непакоіла, што зноў працаўнікі СД будуць насміхацца. Яно так і было. Пачуўся званок, гаварылі з СД, пыталіся, ці смачная смятана. Цомерфельд са злосці кінуў трубку, чутно было, як там зарагаталі.

Доктар Сомін нездаволены быў сваёй аперацыяй. Па-першае, ён упусціў Цомерфельда (каму магло прыйсці ў галаву, што ён забярэцца ў жаночую прыбіральню?), па-другое, не дастаў медыкаментаў, а яму яны вельмі патрэбны, бо не было нават бінтоў, каб перавязаць параненых. І Тамаш Сымонавіч, доўга не задумваючыся, вырашыў на другі дзень паехаць з групай людзей і без шуму дастаць усё тое, што яму патрэбна было для шпіталя. Ён рашыў ехаць днём. Сомін не пашкадаваў нават свае барады і вусоў, пагаліўся, яму трэба было пераадзецца ў форму нямецкага афіцэра. Ён добра валодаў нямецкай мовай і за ўдачу не сумняваўся.

— Ну і чорт! — ходзячы па кабінеце, разважаў уголас Цомерфельд.— Вось дык ён, якую бараду адгадаваў, хацеў бы я цяпер яго пабачыць.

— Можна? — прагаварыў афіцэр, які без стуку ўвайшоў у кабінет начальніка шпіталя з групай малодшых афіцэраў, яны ўсе былі ўзброеныя.— Я перад вамі, гер, што вы хацелі?

— Нічога, — спалохаўся Цомерфельд. — Доктар... Сомін...

— Але. То ў мяне ёсць справа,— звярнуўся да Цомерфельда Тамаш Сымонавіч.— Нам патрэбны медыкаменты. Падпішыце гэту паперу, мы вас не будзем турбаваць, самі атрымаем медыкаменты.

— А з чым я астануся,— падпісваючы, гаварыў Цомерфельд, у яго трэсліся рукі.— У мяне хворыя, гэта не гуманна.

— А кроў браць у дзяцей — гуманна? А мірных людзей кідаць у «душагубку» — гуманна? А чалавечы попел прасейваць — гуманна? Людаеды!

— Доктар-партызан. Дзіўна.

— Нічога дзіўнага. Лепей смерць на полі, чым жыць у няволі.

— Пакіньце хоць трохі медыкаментаў.

— Яны вам больш не патрэбны.

Цомерфельд ухапіўся за трубку, каб пазваніць, выклікаць варту.

— Не турбуйцеся, правады перарэзаны.

— Што ж тады будзе са мною? Хочаце забіць?

— Не, утопім. Кулі шкода.

— Што вы? Капут Гітлеру!

— А ў гэтым мы не сумняваемся. Вазьміце яго, гэту злыбеду, каб ён больш не квапіўся на чужое дабро. Вы хацелі ваяваць, дык будзем ваяваць, усімі сродкамі. Выкінуць гэты смурод з дому.

— Доктар Сомін!

— Не крычыце. Дарэмна. Варта перабіта.

— Ой,— прастагнаў Цомерфельд, ён прасіўся: — Тамаш Сымонавіч! Пакіньце жывым. У мяне жонка, дзеці. Я не хачу больш ваяваць. Ка-а-пу-у-ут!

Партызаны нейкаю анучаю заткнулі рот начальніку шпіталя, узялі пад рукі, вывелі, пасадзілі ў машыну, давезлі да рэчкі і, разгойдаўшы, кінулі ў вір. Таўшчэзны Цомерфельд, як сякера, пайшоў на дно.

— Бывай, прусак! — задаволена прагаварыў Сомін.— Не, не вылезеш, трасцу!

Праехала машына з медыкаментамі. Доктар сеў у другую машыну і паехаў у лес не толькі людзей лячыць, але і ганяць фашыстаў, як зайцаў. Ён, едучы, хітра ўсміхаўся, задаволены сваёй аперацыяй.

*1944*

# ЖЫЎ НА СВЕЦЕ ЛЯВОН

Быў снежань месяц. Белай коўдрай слаўся па зямлі снег. Я ішоў шашою з Віцебска на Полацк. Мне ў твар дзьмуў сіберны вецер, сляпіла вочы, я здарожыўся і засумаваў. Змяркалася, ціснуў мароз, а нідзе не відаць было ні аднаго агеньчыка. Раптам мне здалося, што я ўгледзеў іскры з коміна. Я збочыў, пайшоў па цаліку, усунуўся ў нейкую яміну, падобную да варонкі, і ледзь адтуль выбраўся. Расхадзіліся вятры, разгуляліся, збівалі з ног. Я па калена правальваўся ў снег. Крокаў праз дваццаць я напароўся на пахілены крыж, абапёрся на яго, пастаяў і адчуў, што страшэнна стаміўся. Агледзеўшыся, я ўбачыў, што тут не адзін крыж, а некалькі, і я пайшоў на могілкі, мяркуючы, што недзе паблізу павінна быць вёска. Я пачаў углядацца, але нідзе нічога не бачыў. Мне захацелася закурыць. Я прыхіліўся да помніка і стаў чыркаць запалкі, якія тухлі на ветры, а прыкурыўшы, дастаў кішэнны ліхтарык і прачытаў на помніку: «Жыў на свеце Лявон, спамяні яго добрым словам. У імя жыцця ён склаў галаву». Я пастаяў крыху і, калі вецер трохі ўлёгся, разгледзеў непадалёк вялізныя гурбы снегу. Адтуль паляцелі іскры. «Зямлянкі»,— падумаў я і пайшоў наўпрост.

Я зайшоў у першую зямлянку, якая мне трапілася. Чалавек, што жыў там, ветліва спаткаў мяне, запрасіў пагрэцца каля чыгуннай печы, на якой ён гатаваў вячэру. Гарэла газоўка. Але і пры гэтым святле льга было разгледзець, што хоць чалавек і аброс вялізнай барадою, а толькі яму было не больш як сорак год. На руках у гэтага чалавека выступалі жылы, на далонях былі мазалі; відаць было, што ён жыў з працы рук. Калі ён гаварыў, дык крыху картавіў; яго вочы хітравата ўсміхаліся.

* * *

— А дзе ж жонка? — спытаўся я.

— Выраклася мяне, падалася ў новую хату,— панура адказаў ён.

— Як жа гэта? — перапытваю я.

— А так, яшчэ ў першыя дні вайны на агародзе «юнкерс» з кулямёта скасіў,— сказаў ён і цяжка ўздыхнуў.— Добрая была кабеціна як у працы, так і на людзях — не пачырванееш, бывала, з-за яе: і слова да толку скажа, і за што возьмецца, тое зробіць.

Цяпер для мяне стала зразумела некаторая яго засмучонасць, якая адразу кінулася ў вочы.

— Дык вы, значыць, так адзін і жывяце?

— Прызнацца па праўдзе, не да жонкі было,— падкідаючы ў печ дровы, сказаў ён.— А жыць абы з якою жонкаю, што ў лесе з бараною, толькі замінка...

— Праўду кажаце,— згадзіўся я з ім.— Але ж няўжо думаеце век адзін дажыць?

Ён ухіліўся ад адказу. Мы некаторы час моўчкі сядзелі, у кожнага былі свае думкі, потым зноў загаварылі:

— Дык якое тут жыццё-быццё, раскажыце?

— А якое жыццё? Жывём, як і ўсе добрыя людзі. Працуем. Дбаем пра заўтрашні дзень.

У маёй памяці зноў паўстаў помнік з надпісам.

— А хто такі ў вас быў Лявон,— пытаюся я,— можа, ведаеце?

Ён крыху памуліўся, нібы збіраючыся з думкамі, а потым бліснуў сваімі карымі вачыма і сказаў:

— Жыў на свеце Лявон... Ёсць што пра яго сказаць.— Ён памаўчаў, усміхнуўся і прыжмурыў вока: — Бывала, як адпаліць якую штуку, дык дзіву даваліся, адкуль толькі ў яго бралася. Яшчэ калі малым быў, аднойчы, на вадохрышчы, вылепіў са снегу станавога, але ж рыхтык ён, з такімі вусішчамі, як у прусака. Запрог у санкі сабак (ён бачыў такі малюнак у чытанцы), прывёз на рэчку «станавога» і на вачах у людзей — боўць у палонку. Добра, што яшчэ не ў тую, дзе свянцілі ваду. А то б людзі і самога ахрысцілі, тады не тое было, што цяпер. Як на тое ліха, на вадохрышчы сам станавы быў. У натоўпе падняўся спалох, бо людзі станавога не толькі ненавідзелі, але і баяліся як агню. Дык наш Лявонка — дай бог ногі, а сабакі — за ім... Станавы як паслізнецца, дык шапка ўбок, а «селядзец» угару... Гармідар такі пачаўся... Так Лявон адпомсціў за бацьку і за сваіх аднавяскоўцаў, з якіх станавы ўзяў хабар, а ў судзе стаў на бок памешчыка, з якім сяляне

судзіліся за сенажаць. То і пацягалі ж Лявонавага бацьку за свавольствы сына, ледзь у астрог не запя́калі. І каб не скінулі Мікалашку, дык, мусіць, пасадзілі б старога. А так неяк абышлося.

— От, мусіць, была хлопцу лупцоўка ад бацькі?

— Ды ўжо ж. З тыдзень не мог сесці. Але дзетвары падабаліся Лявонавы «штучкі»...

— Дзіва! — сказаў я.— Іх хлебам не кармі, а дай прыгоды...

— А ўжо будучы падлеткам — што гэты Лявон з Керанскім адмачыў! Сабралі каля воласці сход, эсэры распінаюцца, хваляць сваіх дзесяць міністраў, заклікаюць моладзь у войска. Як сарваць сход? Бальшавікам не даюць гаварыць. То што робіць Лявон? Ён з адным хлопцам, што вучыўся ў гарадскім вучылішчы, прыносіць плакат, які быў прывезены адным чалавекам з горада. Стаіць селянін з выстаўленымі рукамі і пытаецца ў Керанскага: «Калі ж гэта, Аляксандр Хвёдаравіч, ты мужыку абяцаную зямельку дасі?» А Керанскі заклаў адну руку назад, склаўшы яе кукішам, а другую са сціснутым кулаком засунуў за пазуху і насмешліва адказвае: «Чакай, дурань, Пятра, з'ясі сыр...» Лявон узяў ды прыклеіў гэты плакат на воласці. Туды хлынуў народ, каб паглядзець, якое хлопцы выкінулі каленца. Падняўся смех. Але, як на тое ліха, соцкі, соль яму ў вочы, бачыў, як Лявон прыклейваў плакат. Схапілі бацьку — і ў халодную. «Дзякую, сынку,— сказаў стары Лявону,— давёў бацьку да астрога». Невядома, чым бы гэта скончылася, каб бальшавікі не патурылі гэты зброд.

— Аказваецца, палітык быў Лявон,— сказаў я.

— Заўзяты! — адказаў ён, ставячы на стол бульбу.— Гатоў, бывала, біцца за праўду. А пры фашыстах Лявон мудрэйшае адкамарыў: пусціў пагалоску, што цярпець не можа партызанаў і лаяў іх на чым свет стаіць. Ён знаёміцца з шэфам фон Шпульке, прывозіць яму дровы. Немцы хваляць Лявона, хочуць зрабіць старшынёю воласці, збіраюцца накіраваць на экскурсію ў Германію. А Лявон тымчасове ў «падзяку» шэфу фон Шпульке пасылае пакуначак, у якім быў сярэбраны партабак. Задаволены фон Шпульке з гонарам прымае пасылку, адкрывае партабак і разам з паліцаем, які прынёс пасылку, задзірае ўверх ногі. На сцяне до-

ма, дзе фон Шпульке жыў, раніцою з'явілася таямнічая лічба «1», што азначала — адзін фашыст уложаны (паліцай не браўся ў разлік). Потым на камендатуры сталі з'яўляцца новыя лічбы, яны раслі і раслі. І вось аднойчы Лявона ноччу выклікае партызанскі генерал, вешае яму на грудзі ордэн і гаворыць, што яму з яго зваяном больш аставацца ў вёсцы нельга. І Лявон са сваімі людзьмі ідзе ў лес да партызан. А назаўтра фашысты спалілі Лявонаву хату.

— Ай Лявон! — не ўтрымаўся я, каб не пахваліць.

Гаспадар зямлянкі запрасіў мяне на вячэру. Мы з апетытам елі сопкую бульбу. Я спытаўся: — А што далей?

— Далей,— працягваў ён,— Лявон быў у войску. А як скончылася вайна, вярнуўся адтуль — грудзі ў ордэнах і медалях. Так што дарэмна вы яго свавольствы ў дзяцінстве асудзілі ці, больш правільна, некалькі насцярожана да іх паставіліся. Яго прыгоды потым яму не пашкодзілі.

Мяне здзівіла назіральнасць гаспадара, ён угадваў мае патаемныя думкі, і я спытаўся ў яго:

— Адкуль вам гэта вядома?

— Па вачах відаць.

— Мне шкада стала Лявонавага бацькі,— прызнаўся я.

— Лявон потым і сам шкадаваў, што прынёс бацьку гэтулькі непрыемнасцей.

— А далей, што далей? — не цярпелася мне.

— Лявон стаў працаваць у калгасе,— нібы разважаючы сам з сабою, працягваў апавядальнік.— А вы часам не з тых, што бяруць на пяро?

— Не-не,— ухіляючыся, адказаў я.

— Тады іншая справа,— кажа ён.— А то неяк адзін карэспандэнт, не будучы ў нас, напісаў у газету нарыс аб адным нашым брыгадзіру, паказаў яго бязрукім. Не выцерпеў брыгадзір, паехаў у газету, знайшоў таго карэспандэнта дый гаворыць: «Вось як трахну табе той рукой, якой у мяне няма, дык будзеш ведаць, як трэба пісаць!»

Па ўсім відаць было, што гаспадар зямлянкі гаворыць аб Лявоне праз пятае ў дзесятае.

— Дык вы, значыць, ідзяце з Віцебска ў Полацк?

— Так.

— Слаўны некалі быў горад, але за вайну спустошаны.

— А як Лявон? — зноў пытаюся я; мяне зацікавіў лёс гэтага чалавека.— Што з ім сталася?

— Лявон? — спахапіўся мой субяседнік. Відаць было, што ён думаў пра нешта іншае.— Лявон пасталеў, але часам возьме ў яго дый прарве. Ён нават у Берліне пабыў.

— Няўжо? — здзівіўся я.— Куды дапяў!

— Падыходзіць гэта Лявон да іхняга рэйхстага, уся сцяна скрэмзана: «Мы з Ленінграда», «Я са стэпаў Украіны», «Мы з Сталінграда», «Ваяваў вышэй усіх,— піша лётчык,— а падпісваюся ніжэй усіх»... Дык і Лявон прыклаў сваю руку. Ён напісаў: «Калі хто да беларуса з добрым намерам заходзіць у хату — таму чарка і скварка, а хто з благім — атрымае штурхеля» — і распісаўся: «Лявон».

— Ну і Лявон! — усміхнуўся я.

— У кішэню за словам не лазіў,— гаварыў гаспадар зямлянкі.— Яшчэ калі нямецка-фашысцкія войскі былі пад Масквою, у народзе хадзіла такая гутарка. Іхні гэты вар'ят, Гітлер, звяртаючыся да Напалеона, кажа: «Я выпраўлю тваю памылку, Банапарце: як вазьму Маскву, дык і не пакіну». А Напалеон яму адказвае: «Не хваліся раней часу. Калі ты возьмеш Маскву, дык я ў труне перавярнуся». Людзі кажуць, што гэтая гутарка пайшла ад Лявона, і маюць падставу...

— Жартаўнік! — зазначыў я.

— Быў порах у парахаўніцы,— сцвердзіў субяседнік, зацягваючыся самасадам.

Залапатаў певень у куце і праспяваў, заморгала газоўка. Час быў позні, і мы ляглі спаць.

Раніцаю, калі мы выйшлі з зямлянкі, я зноў успомніў пра Лявона. Дастаўшы запісную кніжачку, хацеў занатаваць прозвішча гаспадара зямлянкі, які захаваў памяць аб Лявону.

— Пішыце: Лявон...

— Лявон? — перапытаў я.— Цёзка таму?..

— Лявон, але не той. Лявонаў у Беларусі, як Іванаў у Расіі. Не раўня я яму. Лявон Брагін прыйшоў з вайны, як рэшата — шаснаццаць ран. Аднак адразу ўзяўся за працу. «На працэнты за заслугі,— кажа,— не пражывеш. Трэба дбаць пра будучыню, пра каму-

ну». Ён быў старшынёю калгаса. А толькі нядоўга пакрасаваўся. Хутка здаў. Камуністам быў і сапраўдным чалавекам. Я хачу хоць крыху быць падобны да яго.

Я шчыра паціснуў руку свайму субяседніку. Мне захацелася падысці да помніка, што стаяў на ўскраі могілак, і сказаць апошняе «бывай». Наведваннем магілы я хацеў засведчыць маю да яго пашану.

— Дык не мінайце нас,— сказаў гаспадар зямлянкі.— І не забывайце, што жыў на свеце Лявон... Тое, што ён не паспеў зрабіць, дык мы зробім... Калі хочаце, дык можаце нават пра яго напісаць, а толькі пішыце праўду, каб не было нічога лішняга. Не любіў нябожчык Лявон маны!

Мы развіталіся, і кожны пайшоў у сваю дарогу.

*1945*

# СЯМ'Я БЕЛАВУСА

Нас было пяць чалавек, што ў адзін з ліпеньскіх дзён сорак чацвёртага года, у нядзелю, пасля трох з паловай год вайны, сустрэліся ў родным горадзе Мінску. Мы былі ўзрушаныя — вядома, адчулі пад нагамі хоць параненую, але сваю зямлю, якая нам стала яшчэ даражэйшай. У горадзе было ціха, як пасля навальніцы. Па цэнтральнай вуліцы прагналі некалькі чалавек палонных гітлераўцаў, іх канваіравала русакудрая дзяўчына з вінтоўкай.

— Вось яны, «вышэйшая раса»!.. — заўважыў адзін наш сябра.

— Давуяваліся! — сказаў другі.

— Так будзе з кожным, хто не ўлічыць урокаў гісторыі,— разважаў трэці.

— Надзейка! — крыкнуў чацвёрты. Ён зняў капялюш, пакланіўся дзяўчыне і спытаўся: — Адкуль вы іх выпаралі?

— З сутарэння, зашыліся, як мышы,— адказала дзяўчына з вінтоўкай. Усміхнуўшыся, яна паказала свае белыя, як часнок, зубы.

Мы прайшлі ў гарадскі парк і селі на лаўцы. Усё тут нагадвала аб вайне. Увесь парк быў перакапаны, павывараччаны, павыразаны таўшчэзныя дрэвы, клёны і ліпы, пабіты статуі; а навокал, на руінах, паміж цаглін і друзу прабівалася трава. Недалёка ад цэнтральнай плошчы горада расло жыта, якое хвалямі пералівалася на сонцы. Прайшоўся лёгкі ветрык, апаў скарабачаны ліпавы лісток, яго падхапіў вецер і пагнаў па алеі, на якой, акрамя нас, нікога не было. На вачах у маіх сяброў была заклапочанасць і нейкая схаваная туга. Мы пачулі гудок і ўстрапянуліся, на тварах маіх сяброў паказаліся вясёлыя ўсмешкі — гэта прыйшоў у горад першы цягнік. Мы гаварылі пра аднаўленне народнай гаспадаркі, пра адбудову гарадоў і вёсак, выказвалі меркаванні, што патрэбна будзе некалькі дзесяткаў год, каб аднавіць стольны горад.

— А ведаеце, гэта будзе значна раней,— раптам загаварыў адзін наш сябра, ужо ў гадах мужчына.— Народ наш працавіты, ён здольны рабіць цуды! Хочаце, я раскажу вам пра адну сям'ю?

— Будзьце ласкавы,— прасілі мы яго, і наш сябра пачаў апавядаць.

* * *

— Я прыехаў у горад на трэцюю ноч пасля яго вызвалення ад фашыстаў,— пачаў ён.— У маёй кішэні ляжала паперка, што я прызначаюся галоўным інжынерам завода, на якім я раней працаваў. Злезшы з папутнай машыны на ўскраіне горада, я падаўся ў напрамку да свайго завода. Дарога мне была знаёмая, але я адразу заблытаўся: так усё стала непадобным да таго, што я ведаў, як уяўляў сабе свой горад. Страшна чалавеку ноччу ў разбураным гарадзе, горш, чым у лесе ці на моры. У каробках дамоў, што, як шкілеты, параскіданы, завываюць вятры, пастуквае і ляскаціць бляха, якая завісла на сценах. Калі-нікалі пройдзе чалавек, сям-там у сутарэннях блісне агеньчык, які напамінае, што горад не зусім мёртвы, што ў ім яшчэ цепліцца жыццё.

— Можа б, я ўсю ноч праблукаў паміж руінамі,— працягваў ён далей апавядаць,— але выплыў месяц, і я сяк-так — аднаўляючы ў памяці ўжо не выгляд вуліц, але іхнія напрамкі — дабраўся да таго месца, дзе калісь быў завод. Гэтае месца было абгароджана калючым дротам у адну столку, а за дротам узвышаліся горы шчэбеню і цэглы, і толькі нейкім цудам на заднім плане ўцалелі два карпусы. Завод, на якім прайшлі мае лепшыя гады, нагадваў мне разбуранае гняздо. Не ведаючы, куды дзецца нанач у незнаёмым зараз і разбураным горадзе, я рашыў пераначаваць на тэрыторыі завода: усё ж такі гэта сваё прадпрыемства. Я пайшоў уздоўж агарожы, спадзеючыся дзе-небудзь пералезці на той бок, і тут я заўважыў, што насустрач мне ідзе чалавек з ліхтаром «лятучая мыш», і я падышоў да гэтага чалавека.

— Хто вы і што тут робіце? — спытаўся я.

— Як што? — здзівіўся ён і навёў на мяне ліхтар.— А-а-а, Віктар Андрэевіч! Няўжо мяне не пазналі? Я правяраю варту завода. Вы адкуль? Чаму ў такую позную пару не спіце?

— Калі не памыляюся, Сцяпан Захаравіч Белавус? — няўпэўнена пытаюся я.

— Так,— сцвердзіў ён, і мы абняліся і пацалаваліся.

Я адчуваў сябе няёмка, што яго не пазнаў. Гэта быў майстра завода. Мы зайшлі ў будку. Пры святле ліхтара я яго разгледзеў. У яго звісалі каштанавага колеру вусы, адгадаваныя за вайну, на лбе і каля вачэй былі глыбокія маршчыны. Як высветлілася, гэта ён, Сцяпан Белавус, абараніў уцалелыя карпусы завода ад гітлераўцаў, не даў ім узарваць ці спаліць іх, а потым паставіў варту і штоноч сам правяраў, каб вартаўнікі не спалі, бо па горадзе яшчэ бадзяліся пераадзетыя нацысты. У будцы стаяла бляшаная нямецкая печ, а пад лаўкамі ляжала безліч розных дробных дэталяў, асобна ўзвышаліся грудкі шруб, раскладзеных па калібрах, ляжалі паржавелыя цвікі, усё гэта было сабрана стараннымі рукамі майстра.

Шмат на якіх заводах я працаваў, багата бачыў людзей, але такія, як Сцяпан Захаравіч, не часта мне траплялі. Гэта чалавек адменны. Яго дзед яшчэ ў прыватных майстэрнях быў кавалём, бацька — на заводзе слесарам, а сам ён майстра на ўсе рукі: што ні возьме, тое зробіць.

Сцяпан Захаравіч робіць без крыку і мітусні. Ён ведае, чаго хоча, а таму не спыніцца і не апусціць рук пры першай няўдачы. Ён кажа, што: «Лёгка нічога не даецца», і не любіць рабіць тандэтна. Сцяпан Захаравіч у другі раз паспрабуе зрабіць, у трэці, але даможацца свайго. Будучы ў лесе, у майстэрнях па рамонту зброі, Сцяпан Захаравіч даведваецца, што яго старэйшы сын, Максім, філолаг па адукацыі, ідзе ўзарваць майстэрні, дзе фашысты наладзілі рамонт танкаў, міна аказалася сапсутай, і Максім гіне, не выканаўшы задання, гіне, як салдат. Тады Сцяпан Захаравіч робіць сам міну і пасылае сярэдняга сына, Барыса, студэнта-медыка, гэты бліскуча выконвае пастаўленую ім задачу. Сцяпан Захаравіч падаў думку камандзіру партызанскага атрада — не даць фашыстам узарваць уцалелыя карпусы завода. Камандзір згаджаецца з ім, вылучае пад яго камандаванне некалькі партызан, якія прабраліся ў горад і размініравалі будынкі.

— Ага, цікава,— успомніў наш апавядальнік,— як сям'я Белавуса апынулася ў лесе. У першыя месяцы вайны ў іх быў своеасаблівы шпіталь. Чатырнац-

цаць нашых воінаў у іх лячыліся, доктарам быў сярэдні сын, Барыс, сёстрамі — маці і дачка, Надзейка, а бацька клапаціўся, каб быў кавалак хлеба на стале. І вось аднойчы па горадзе гналі партыю палонных чырвонаармейцаў, а тых, хто не мог ісці, фашысты прыстрэльвалі. Уся Савецкая вуліца аж да Дома друку была ўслана трупамі. Сям'я Белавусаў жыла на ўскраіне горада, да іхняй суседкі шмыгнуў адзін ваеннапалонны. Суседка бачыла, што ён схаваўся ў агародзе. На двор да яе ўскочыў эсэсавец, прыставіў да грудзей аўтамат і патрабаваў, каб яна сказала, дзе ўцякач. Напалоханая суседка махнула рукою ў той бок, дзе падняўся чырвонаармеец. Ваеннапалонны, прыгінаючыся, пабег далей. Нацыст даў чаргу з аўтамата і хутка пайшоў даганяць калону. Сям'я Белавуса падабрала смяртэльна параненага чырвонаармейца, і, як высветлілася, гэта быў сын суседкі, але ён, калі прыйшоў у сябе, прасіў нічога не казаць маці, што яна выдала эсэсаўцам свайго роднага сына. З таго часу сям'я Белавуса стала асцерагацца суседкі, старалася не мець з ёю ніякіх спраў. Гэта паказалася суседцы крыўдным, і яна, калі паліцаі сталі дапытвацца, куды дзеўся труп забітага палоннага, сказала, што яго падабрала сям'я Белавуса. Адчуўшы пагрозу, сям'я Белавуса хутка пакінула горад, і яны ўсе падаліся ў лес.

— А што з суседкай? — не вытрымаў адзін наш сябра, каб не запытацца.

— Калі суседка даведалася, што гэта быў яе сын, яна звар'яцела, доўга блукала па горадзе, а потым бясследна знікла, мусіць, яе фашысты знішчылі,— адказаў апавядальнік.— А чырвонаармейцы разышліся хто куды, але ўмовіліся, хто астанецца жывым, сустрэцца.

Я са Сцяпанам Захаравічам працаваў на заводзе да вайны каля дзесяці год, але добра не ведаў гэтага чалавека. У нас з ім было шапачнае знаёмства, а шкада. Упершыню мы з ім у будцы, ядучы з кацялка бульбу, па душах пагаварылі. Гэта чалавек вялікага сэрца і чыстай душы. Па праўдзе сказаць, я, інжынер, цяпер дырэктар завода, багата ўзяў ад яго, і, што грэх таіць, у аснову адбудовы завода пакладзены думкі гэтага простага чалавека. Я сказаў простага, але ён далёка не просты.

Мы са Сцяпанам Захаравічам за размовамі праседзелі ў будцы аж да самай раніцы, а потым пайшлі да яго на кватэру. Я ахвотна прыняў яго прапанову, бо мне не было дзе дзецца. Сцяпан Захаравіч жыве цяпер за вакзалам, па Бондараўскім завулку, у невялікім драўляным асабняку. Кругом яго дома расце сад, абгароджаны шчыкетам, каля якога шмат кветак. Ветліва нас спаткала гаспадыня, маці васьмярых дзяцей, лічачы і старэйшага забітага сына. Кватэра іх не багата абстаўлена, але ўтульна і чыста.

З апавяданняў ваеннага часу мне больш за ўсё спадабалася, як сын Сцяпана Захаравіча, Барыс Белавус, студэнт апошняга курса медыцынскага інстытута, які быў у лесе хірургам, аднойчы, пераадзеўшыся ў афіцэрскую форму, у Шкадарэвічах арыштаваў вядомага здрадніка і загадаў яго павесіць. І яго сястра, Надзейка, малады педагог, была тады пры ім нібы за перакладчыцу. Фашысты доўга не ведалі, што гэта быў за маёр, які самых надзейных іхніх людзей пакараў. А гэта была добрая навука для іншых, мала хто згаджаўся ісці да іх на службу.

Сцяпан Захаравіч цвёрдай волі чалавек. І гэта адчувалася ва ўсім: у яго іскрыстых вачах, у паходцы, укладзе жыцця, звычаях; ён бязмежна любіць сваю сям'ю і ганарыцца ёю. У хаце яго слова — закон, дзеці любяць і паважаюць яго. І мне здалося, што яго сын Барыс нават імкнецца так хадзіць, як ходзіць яго бацька, і так з людзьмі размаўляць, як бацька размаўляе. Крокі ў Сцяпана Захаравіча шырокія, цвёрдыя, гаворка разважлівая. Сцяпан Захаравіч цікавы субяседнік і ўмее другіх слухаць.

На снеданне была мачанка з блінамі і чарка. Прызнаюся, ці то мне моцна хацелася есці, але я ніколі не еў такой смачнай ежы, хоць мачанка была поснай, грыбной. Пасля снедання, акрамя бацькі і маці, якія былі заняты мною, уся сям'я Белавуса, як мурашкі, працавала. Меншыя дзеці капашыліся на агародзе, большыя — пілавалі, калолі і складалі дровы. Спорна ішла праца, што я пазайздросціў і мне захацелася выйсці да іх і размяць косці.

Я заўважыў, што ў сям'і Белавуса шмат розных інструментаў, і, як высветлілася, усе старэйшыя іх дзеці да вайны вучыліся, але ў вольны час працавалі фі-

зічна і мелі сваю прафесію, якую, па словах Сцяпана Захаравіча, за плячамі не насіць. Філолаг адначасна быў столярам, медык працаваў некаторы час слесарам, і так усе меншыя дзеці. Кожны з іх меў спосаб жыцця.

— Ці мала што на вяку чалавека здарыцца, трэба, каб чалавек умеў усё рабіць, тады ніякія выпрабаванні не страшны,— гаворыць Сцяпан Захаравіч.— Чалавек павінен ведаць, на чым хлеб расце, як цяжка яго здабываць, тады ён будзе паважаць працу другіх людзей.

Сцяпан Захаравіч, будучы ў партызанах, схадзіў уздоўж і ўпоперак усю Беларусь. Каб вы паслухалі, з якой любасцю і замілаваннем ён расказвае пра дрымучыя лясы Беларусі, яе сінія азёры і ціхія рэчкі. Ён бачыць гарады свайго краю ўсе ў зелені, дарогі, абсаджаныя пладовымі дрэвамі. Усюды, на яго думку, павінны быць пастаўлены помнікі людзям, якія гэтага варты, што ў зацятай барацьбе з шматлікімі ворагамі адстойвалі сваю свабоду. А іх шмат, яны праз вякі пранеслі сваю культуру, змагаліся, каб людзьмі звацца, і адстаялі сваё права.

— Мы не Іваны, якія нічога не помняць,— разважае Сцяпан Захаравіч.— У нас былі і ёсць людзі, якімі мы павінны ганарыцца.

Ён бачыць узвышэнне нашых людзей, асабліва ў часе гэтай вайны, дзе паказана іх нацыянальная гордасць і веліч. Людзі пазнаюцца не па парадах, а ў барацьбе з ворагам — там праяўляецца веліч духу народа.

— І чаго б мы былі варты, седзячы ў лесе, каб нас не падтрымалі людзі? — пытаецца Сцяпан Захаравіч і сам адказвае: — Нас бы перабілі, як курапатак. Народ ваяваў з нямецкімі фашыстамі, карміў нас, паіў і адзяваў. Дзякуй яму!

— Нашы людзі ўмеюць не толькі ваяваць, але і будаваць,— разважае Сцяпан Захаравіч.— Яны з маленства прывыклі да працы. Паглядзіце, колькі ў часе аднаўлення прамысловасці і сельскай гаспадаркі краіны з'явіцца новых герояў! Нашага чалавека толькі заахвоціць трэба, ён здольны рабіць цуды.

Слухаючы яго, я захапляўся веліччу нашых людзей, хараством свайго краю, уяўляў тыя сямісотгадовыя дубы, якім ніякія навальніцы не страшны; гонкія сос-

ны, верхавіны якіх амаль не ўпіраюцца ў сонца; прасторы палёў, што вокам не акінеш; роўныя, як струна, дарогі, абсаджаныя яблынямі і грушамі; сінія азёры, запруджаныя залацістымі карпамі; асушаныя балоты, дзе вышэй чалавечага росту калышацца пшаніца; тлустыя статкі кароў; белыя камяніцы ў калгасах; электрастанцыі, гмахі фабрык і заводаў. Я паверыў яму, што хутка нашы гарады будуць найпрыгажэйшымі ў свеце. Гэта такі будзе. Я веру, што яшчэ наша пакаленне ўбачыць наш стольны горад ва ўсёй яго красе і славе. Гэту веру ў мяне ўсяліла сям'я Белавуса. І я скажу: дзякуй ёй! Яна мне падказала, што не толькі трэба вучыць масы, але і вучыцца ў мас.

— Кожны, каму што даручана, рабі добра,— гаворыць Сцяпан Захаравіч,— і раны, нанесеныя вайною, хутка будуць загоены, і шмат раней, чымся мы думаем. Наша партыя вывела народ з найвялікшай у гісторыі вайны пераможцам, яна справіцца з аднаўленнем народнай гаспадаркі і прывядзе народ да вышыні славы.

І сапраўды, калі я сюды ехаў, дык меркаваў, што, для таго каб пусціць завод, патрэбны будуць гады, а мы ўжо яго пусцілі. А пусцілі мы яго таму, што ў нас такіх, як Сцяпан Захаравіч Белавус, мільёны. Праўда, яшчэ ёсць такія, што перашкаджаюць нам, яны і ў часе вайны былі,— бо хуткі струмень заўсёды і шчэпкі нясе,— але ніхто і нішто не спыніць рух чалавека ў светлае заўтра...

Мы яшчэ б сядзелі, але да нас падыходзіў натоўп, сярод іх было шмат людзей у вайсковай форме. Наш сябра падняўся і сказаў:

— Гэта і будзе сям'я Белавуса. Яны аглядалі горад. Мы ўмовіліся тут сустрэцца.

— Дык там жа каля роты,— здзівіліся мы.

— А гэта ў іх на сёння прызначаны злёт усіх тых, хто ў жывых астаўся, якіх старыя і іх сын ад смерці ўратавалі. Усе яны завуць Сцяпана Захаравіча і яго жонку, Барбару Адамаўну, бацькамі... Між іншым, і сын суседкі тут...

Наш сябра зняў капялюш і пакланіўся нам. Ён пайшоў насустрач ім. І мы ўсталі і пайшлі ў той бок, каб паглядзець на сям'ю Белавуса, гутарка пра якую так узварушыла нашы думкі.

*1945*

# НА БЕРАГАХ ПРЫПЯЦІ

Ляснымі сцежкамі ішоў салдат Кандрат Гарбачэня з вайны дахаты. Ён крочыў шырока і ўпэўнена, з высока паднятай галавою, цвёрда ступаючы па роднай зямлі. Гэта неяк адразу кідалася ў вочы. Ці то радасць з таго, што ён, нарэшце, вяртаецца дадому, так яго ўзбадзёрыла, ці то ў думках усплывала тое, пра што ён марыў расказаць сваім людзям пры спатканні,— як ён выканаў да канца свой абавязак салдата і як сам генерал пацiснуў яму на развітанне руку і сказаў: «Дзякую за службу!» — але ў самой постаці салдата адчувалася, што ён вяртаецца дадому пераможцам.

Гарбачэня ўжо з гадзіну ішоў лесам. Як можна было акінуць вокам, нерухома стаялі смалістыя сосны. Сінія зубчастыя вершаліны іх узвышаліся і нібы ўразаліся ў высокае блакітнае неба. Пасля лес пачаў мяняцца: пракідаўся зялёны бярэзнік, пачалі трапляць прысадзістыя елкі, на зямлі, замест карычневай, сухой і слізкай іглiцы, слаліся дываны з сівых імхоў, купчастай папараці і зялёнага брусьнічніку. Гарбачэня выйшаў на паляну. Кругом быў лес, які нагадваў яму мора, якое ён бачыў не так даўно там, на чужой зямлі. Але гэта ляснoе мора было сваім, родным і блізкім. Ён ведаў, што пройдзе яшчэ кіламетры два і пачнуцца шырокія палеткі калгаса «Чырвоныя паляшане», куды ён не раз хадзіў з хлопцамі на ігрышчы. Спачатку яму сапраўды падабаліся паляшанскія дзяўчаты, але калі ён пазнаёміўся з той, якая і цяпер не выходзіла з яго галавы, тады яны неяк збляклі ў яго вачах і памізарнелі.

І калі Гарбачэня ўвайшоў у калгас «Чырвоныя паляшане», у яго зноў з'явілася тое самае пачуццё да паляшанскіх дзяўчат. Насустрач яму траплялі яго былыя сяброўкі па гульнях. Яны спынялі яго, віталіся, часамі ў іх вачах ён мог прачытаць запытанне: ці не знойдзецца ў яго памяці месца для каторай. Але сэрца яго было спакойным, і ён спяшаўся далей.

У канцы вёскі Гарбачэню прыемна ўзрадавала адна з'ява: паляшане гуртам будавалі камяніцу — казалі, калгасную электрастанцыю. На рыштаваннях былі муляры, а навокал цесляры стукалі сякерамі, звінелі пі-

лы. Ґарбачэня спыніўся і доўга разглядаў будову. Ён уявіў будучыню паляшан і радасна ўсміхнуўся. Гарбачэня, яшчэ будучы малым, любіў будаваць гмахі і цярпець не мог тых хлапчукоў, якія разбуралі яго «будову». І вайна была не ў яго натуры. Але калі трэба было ваяваць, дык ён ваяваў, і ваяваў добра, паказаў, на што здольны тутэйшыя людзі.

Паляшанскія дзяўчаты, якія падышлі да Гарбачэні, калі ён спыніўся каля будовы, запрасілі яго зайсці пачаставацца хлебным квасам, пагаманіць. Але Гарбачэня не хацеў бавіцца, яму яшчэ заставалася ісці да свае вёскі добрых кіламетраў пятнаццаць, калі не болей. Падзякаваўшы дзяўчатам за запрашэнне, ён развітаўся з паляшанамі і пайшоў. Скончыліся паляшанскія палеткі, і Гарбачэня зноў апынуўся ў густым цяністым лесе. Панура маўчаў велічны бор, пахла гніллю. У пушчы траплялiся невялікія прагаліны, месцамі лес быў дашчэнту спляжаны, пракладзены новыя дарогі, якіх перад вайною не было,— гэта сяляне тралявалі бярвенні. Гарбачэню пачала душыць смага. Ён, прайшоўшы яшчэ з паўкіламетра, угледзеў на паляне ручаіну і прыбавіў кроку. Паміж густымі чаротамі і шырокай асакой відаць была вада, уся пакрытая нейкай іржою. Гарбачэня разагнуў асаку і хацеў пілоткай зачарпнуць вады, але там нават простым вокам льга было разгледзець нейкую машкару і пацяруху. Калі Гарбачэня разагнуўся, то крокаў за дзвесце ад сябе ўбачыў падгалістую ласіцу з ласянём, якая, відаць, прыйшла на вадапой. Ласіца павяла мызай, угледзела чалавека, спудзілася і так скокнула, ажно суччо з трэскам паляцела ўверх. Гарбачэня рушыў далей. У лесе было ціха, нідзе нават птушка не ціўкне — яны не любяць гушчару. Гарбачэня збочыў, каб ісці нацянькі, і раптам спыніўся. Перад ім стаяў, можа, векавы дуб, мабыць, той самы, пра які яму бабка яшчэ ў дзіцячыя гады расказвала казкі. «Некалькі чалавек не маглі абняць прыгажуна дуба, цара пушчы»,— успомніў Гарбачэня словы бабкі. Кучаравы дуб велічна ўзвышаўся, распасцёршы сваё галлё. Пад ім было зусім цёмна, бо прамені яркага сонца не маглі прабіцца праз густое лісце. Гарбачэня падышоў да дуба і адчуў сябе нейкім прыціснутым да зямлі і малым, хоць быў дзябёлым мужчынам. Ён паволі абышоў кру-

гом магутнага дуба, нібы прыкідваючы вачыма, колькі трэба чалавек, каб яго абхапіць. «Многа пакаленняў перажыў гэты дуб»,— падумаў Гарбачэня і паволі пайшоў.

Бор пачынаў крыху радзець. Часцей траплялі прагаліны, пракідваўся арэшнік, стаў з'яўляцца малліннік. Тут было ажыўленне, спявалі на ўсе галасы птушкі, кукавала зязюля. Асцярожныя глушцы, не падпускаючы і блізка да сябе чалавека, з цяжкім і рэзкім лопатам крылляў узнімаліся ўверх і знікалі паміж дрэвамі. Чырванагрудыя дзятлы парамі, адзін за адным, пралятаалі над дарогай. Паказалася лясное возера, якое кругом зарасло чаротам. Залапатала некалькі качак; яны імкліва, з крыкам падняліся ўверх і падаліся ў бок балотнай рэчкі. Адсюль да рэчкі, што цякла паміж Паляшанамі і Імшарамі, рукой падаць. Ідучы па родным лесе, Гарбачэня адпачываў душою. На ўскраіне лесу пастух пасвіў каровы; аднагучна звінелі начэпленыя на шыях у кароў званкі — гэта рабілася для таго, каб не пагубляць у лесе жывёлу. Мясцовай пароды цёмнa-чырвоная карова з адным белым рогам, уся ў гразі, хадзіла па балоце, злізваючы языком, як касою, рэдкую траву. Наперадзе статка ішоў пастух, а ззаду — падпасак з даўжэзнай, у шмат разоў большай за яго пугай, якой практыкаваўся «страляць». Разы са два ён такі даволі гучна хлопнуў. Каровы паспяшаліся за пастухом.

— Куды цябе нячыстая гоніць! — буркнуў уголас нездаволены пастух на карову, якая вырвалася наперад за яго і ішла, не згінаючы галавы.

Але ўвага пастуха зараз жа адарвалася ад каровы, і ён пачаў углядацца ў падыходзячага Гарбачэню. Калі Гарбачэня параўняўся з пастухом, то, абы з ім загаварыць, спытаўся:

— Ці далёка, дзядзька, да вёскі Імшары?

— Нібыта Гарбачэня, няўжо ж,— прыглядаючыся, гаварыў пастух.— А божачка! Што значыць чалавек пабыў сярод людзей, як абцёрся — не пазнаць. А ты, Гарбачэня, як некалі наш балагол: сядзіць на возе, глядзіць угару і пытае, ці высока сонца...

— А-а-а, дзядзька Тадэвуш! — вітаючыся, гаварыў Гарбачэня.— А балагол яшчэ жывы?

— Дзе ты бачыў. Усю сям'ю іх фашыст знішчыў.

Зваў яго ў лес, не пайшоў, казаў: «Ад таго, што напісана на раду чалавеку, нікуды не ўцячэш». Дык цяпер, небарака, парыць у зямлі косці.

— А што вы ў лесе рабілі? — спытаўся Гарбачэня.

— Рэч ведама, што пастух робіць. Кароў даглядаў.

— Кароў? — перапытаў Гарбачэня.— І немцы іх не чапалі?

— Чаму б не зачапілі, каб чапіла хапіла! Ды, брат, рукі кароткія былі, не даставалі да партызанскіх кароў. Бачыш бугая? Сам прыдбаў. Спрытны бугаёк.

— Дзе вы яго дасталі?

— У фашыстаў адбіў.

— Хіба і вы ваявалі?

— Дзіва! — важна зазначыў пастух.— У нас усе ваявалі... Ты, можа, курыць маеш?

— Ёсць,— дастаючы тытунь, сказаў Гарбачэня. Яму, відаць, карцела хутчэй ісці, не хапала цярплівасці пастаяць з пастухом, пагаварыць. Пастух гэта заўважыў і сам сабе ўхмыльнуўся.

— Эх, салдат, салдат,— скручваючы цыгарку, гаварыў з дакорам пастух,— лепш страціць пяць пальцаў на руцэ, чымся цярплівасць і спакой духу. Гэта ж каб у нас не было цярпення і мы апусцілі рукі, калі Чырвоная Армія адступіла, дык нас бы фашысты па адным перабілі. А так вось жывём! Да ты прысядзь, не спяшайся!

Салдат з пастухом прыселі на купіне і закурылі. Пастух смачна зацягнуўся, ён расказаў пра імшараўскія навіны, паведаміў, што бацькі салдата жывыя і здаровыя і што шмат хто з імшараўцаў партызаніў. Яшчэ пастух сказаў, што немцы ў Імшарах схапілі некалькі дзяўчат і адправілі ў Нямеччыну. Гэтая вестка напалохала Гарбачэню, і ён пачаў распытвацца, каго забралі. Пастух паглядзеў на яго і назваў некалькі імён і прозвішчаў, а пасля расказаў пра імшараўскую настаўніцу Кацярыну Пальчэўскую, якая дручком аходала аднаго фашыста, а пасля невядома дзе знікла. Кацярына Пальчэўская была непрыступнай і гордай, сапраўднай савецкай дзяўчынай, якая казала, што некага кахае і чакае яго звароту. Ды вось не давялося...

Як толькі пастух загаварыў пра Пальчэўскую, Гарбачэня ўвесь ператварыўся ў слых і зрок. Ён некалькі разоў перапытваў у пастуха пра настаўніцу.

— Дзяўчына з характарам,— гаварыў пастух.— Людская будзе кабеціна! І з твару не благая, і розум мае. А што цябе яна так цікавіць?

— Так сабе,— ухіліўся Гарбачэня ад адказу.— Дык яе, значыць, няма?

— Не было яшчэ,— цяжка ўздыхнуўшы, адказаў пастух.— Мае дзеці кожны дзень яе ўспамінаюць. Прыйдзе восень, трэба школу адкрываць. Ого, якая яна настаўніца!

Нядобра стала на душы ў Гарбачэні, заныла сэрца, цяпер ён хацеў быць сам-насам, каб ніхто яму не перашкаджаў падумаць аб Кацярыне, успомніць мілыя рысы.

— Па табе бачу, хлопча, што і ты па ёй нудзішся,— сказаў пастух, праводзячы салдата добрым позіркам.— Дык, можа, яшчэ добра абыдзецца... Вяртаюцца ж некаторыя і адтуль...

— Адкуль?

— Прайшла чутка, што немцы яе недалёка ад Мазыра схапілі і разам з іншымі дзяўчатамі адправілі на работу ў Германію...

...Гарбачэня ўзяў правей вёскі Капаткевічы. Па праўдзе кажучы, вёскі той і не было; тырчалі там, як тычкі, коміны на руінах, і толькі нейкім цудам уцалела адна хата, што стаяла на ўскраіне. Гарбачэня абмінуў яе і, прайшоўшы былым загуменнем, па ўзбалоцці, увайшоў у алешнік. Дарога была звілістай і выбоістай,— вядома, на нізкім месцы,— але яна на нейкія два кіламетры скарачала шлях, бо ішла напрасткі, дый ісці ёю ў спёку было больш прыемна. Тут пахла вільгаццю, грыбамі і галубіцай, якая расла кустамі на купінах.

Хутка Гарбачэня дайшоў да ручая, які пачынаўся недалёка ад дарогі. Тут, каля крыніцы, калісь была капліца і штогод спраўляўся кірмаш, а цяпер калодзеж асунуўся і капліца разбурылася, кладкі пагнілі і заплылі гразёю, абраслі высокай асакой. Каля самага ручая, на прагаліне, нібы салдаты, выстраіліся ў шарэнгу буслы, паглядаючы на чалавека, што спыніўся на дарозе. Гарбачэня крута павярнуў і пайшоў па кладках, каб напіцца халоднай і чыстай вады. Тады буслы нездаволена і цяжка ўзняліся і паляцелі.

Ад крыніцы Гарбачэня пайшоў сцежкай. Ён успомніў, як перад вайною гэтай жа сцежкай ішоў з горада дамоў на пабыўку, калі працаваў у Мінску на станкабудаўнічым заводзе. З галавы не выходзіла Кацярына: дзе яна цяпер, ці жывая? Ястрабіны нос у Гарбачэні, здавалася, завастрыўся, глыбей запалі невялічкія шэрыя вочы, а каля рота з'явіліся горкія складкі.

Гарбачэню перад вайною было дваццаць тры гады, а Каці дзевятнаццаць. Пазнаёміўся ён з маладой настаўніцай на ігрышчы ў Імшарах, і ад таго вечара ўяўленне аб Каці і дагэтуль асталося ў яго памяці, як аб нечым светлым і дарагім: яна і ў танцы была, як пушынка, і смяялася званчэй і мілей за ўсіх, і ўсмешка яе была поўная бляску і зачаравання. Яны ў нейкім забыцці да таго закружыліся ў танцы, што і не заўважылі, як самыя заядлыя танцоры змарыліся і пакінулі скакаць і яны асталіся адны. Моладзь тады надзяліла іх воплескамі. Гэта было з суботы на нядзелю, а ў нядзелю Гарбачэня з Кацяй пайшлі ў поле, гулялі паміж жытоў, на сенажаці, у лесе, пераязджалі на чоўне рэчку, гулялі на берагах Прыпяці. А колькі яна ведае вершаў на памяць! Гарбачэня ўяўляў Кацю такою, якою яна была тады. Пачне чытаць верш, а потым кажа мне працягваць. Часамі даводзілася яму чырванець. Каця бегала разорамі паміж жытоў, ірвучы васількі, ганялася за матылькамі, як маленькая дзяўчынка, пляла вянкі і пускала на ваду. Спачатку яна толькі жартавала, але пасля ўсур'ёз сказала: «А цяпер напраўду пушчу два вянкі». Як на тое ліха, адзін вянок тады закружыў у віры, а другі паплыў.

— Мусіць, не бачыць мне шчасця. Такая ўжо мая доля,— сказала Каця. Яна схіліла галаву і засумавала. Каця хацела ісці дадому, але Гарбачэня ўгаварыў яе астацца. І вось тады Каця, седзячы пад купчастым дубам, над ціхай і паўнаводнай Прыпяццю-ракой, расказала Гарбачэню пра сваё маленства. Яна не ведала свайго бацькі. Ён памёр, калі дзяўчынцы было тры месяцы. Яны жылі ў Мазыры. Маці выйшла другі раз замуж. Каця гадавалася пры айчыму, які, акрамя сябе, больш нікога не любіў, і, ведама, яна не ведала бацькоўскай ласкі, а часам нават адчувала, што яна лішні чалавек у хаце. Айчым заўсёды быў надзьмуты як індык, і яна баялася з ім гаварыць. Адзінай уцехай для

яе была праца. Калі Каця працавала, тады адпачывала душою. А потым, калі вучылася, з кнігай пасябравала. Кніга і вывела яе ў людзі. І ўсё ж ёй хацелася чалавечае ласкі...

— Гэта, пэўна, адбілася на маім характары,— гаварыла Каця.— Я сёння не такая, як заўсёды. Звычайна я бываю панурай, маўклівай, люблю адзіноту. Я вельмі рэзкая, хоць па мне гэтага не відаць. Калі мне было сем год, маці адвезла мяне ў вёску да бабкі. Бывала, я паганю кароў і ўвесь дзень плачу: горка мне, што ў мяне няма дзяцінства. А прыганю з поля кароў, павячэраю — і зноў у слёзы. Вось таму, мусіць, мне хочацца, каб у будучым дзеці па-інакшаму гадаваліся, каб усе мелі маленства. А як гэта зрабіць, я і сама не ведаю. А толькі трэба нешта рабіць.— Каця падумала.— А сёння мне чамусьці было асабліва добра, хацелася гаварыць, бегаць, дурэць, спяваць, зусім як малой дзяўчынцы. Ці не прыйдзецца толькі пад вечар плакаць? А можа, гэта я развіталася з сваёй маладосцю і ўступіла ў сталасць? Я даўным-даўно хацела з табою спаткацца, помніш, як ты зімою прыязджаў у вёску, але ты тады на мяне нават не паглядзеў.

— Не паглядзеў? — сказаў Гарбачэня.— Да цябе нельга было падступіцца.

І Каця, і Гарбачэня нават не заўважылі, як перайшлі на «ты», і ім абоім гэта спадабалася.

— Я ўвесь час думаў пра цябе,— прадаўжаў Гарбачэня,— хацеў пісьмо напісаць, але не адважыўся. Дзеля цябе я, уласна, прыехаў цяпер у вёску. Мяне пасылалі на курорт, але я адмовіўся. І ты ў гэтым прычына.

— А ў мяне, мусіць, душа адчувала, што ты прыедзеш,— прызналася Каця і пачырванела.— Мяне маці з айчымам звалі ў Мазыр, але я напісала, што цяпер не магу прыехаць.

Каця цягнулася да Гарбачэні, як лісце дрэва да сонца. Вялікія сінія вочы яе гарэлі агнём. Яна палажыла Гарбачэню руку на плячо і, як малое дзіця, якое апяклося ад лямпы, адхінулася ад яго.

Хто яго ведае, колькі б яны тады яшчэ сядзелі каля рэчкі ці, можа б, гулялі па полі або ў лесе, каб да іх не падбег меншы брат Гарбачэні і не паведаміў, што пачалася вайна. Адно слова «вайна!», а колькі яно

прынесла людзям пакут, разбіла маладых сэрцаў. Каця адчула, што хутка разлучыцца з мілым сэрцу чалавекам і з жалю расплакалася. Яна доўга чакала спаткання з Гарбачэнем, і раптам такая навала — вайна.

Пад вечар Гарбачэня выбраўся з Імшараў. Ён паехаў у горад, яму ў першы дзень вайны трэба было з'явіцца ў ваенкамат. Нядобра было на сэрцы ў Гарбачэні, нешта трывожыла. Гарбачэня адчуў, што ён пакахаў Кацю не на жарты, усёй душою.

Калі Гарбачэня з бацькам праязджалі каля школы (іх праводзілі ўсе сяляне вёскі), з хаты выйшла Каця. Яна была ў белай сукенцы, якая ішла дзяўчыне да твару. Каця нагадвала маладую, што збіралася да шлюбу. Яна страшэнна хвалявалася, нібы пераступіла парог і ўвайшла ў новае, невядомае ёй жыццё. На яе твары быў смутак.

За вёскай з Гарбачэнем развіталіся людзі, якія ведалі яго з маленства і паважалі. Падышла да Гарбачэні і Каця. Яна была ўзрушана і не ведала, як на людзях сябе паводзіць і што сказаць.

— Каця, будзеш мяне чакаць? — ціха спытаўся Гарбачэня.

— Буду, Кандратка, буду! — узрадаваўшыся, адказала Каця. Яна чакала такога пытання. Каця падаравала Гарбачэню вышытую хустачку са сваімі ініцыяламі.— Абавязкова буду,— паўтарыла Каця. У яе страсянуліся плечы, яна адвярнулася і заплакала.

Прайшло чатыры гады, як яны не бачыліся, а ён не мог яе забыць. Дзе б ён ні быў і што б ні рабіў, яна стаяла перад яго вачыма. Цяпер ён вырашыў абавязкова яе адшукаць і калі не жаніцца з ёю (можа, яна за гэты час пакахала другога і выйшла за яго замуж), то хоць адным вокам паглядзець на яе і пагаварыць. Гарбачэня падыходзіў да Прыпяці. Спакойна плылі глыбокія воды шырачэзнай рэчкі. І Гарбачэню зноў прыйшла ў галаву Каця. Не можа быць, каб яна загінула. Можа, яна вярнулася з Германіі і рыхтуе памяшканне для школы на зіму. Яму хацелася хутчэй дайсці да Імшараў. Моста цераз рэчку не было, а паром стаяў на другім баку.

— Гэй, давай паром! — крыкнуў што было моцы Гарбачэня.

— Адкуль ты такі порсткі? — пытаўся тоненькім галаском паромшчык.— Буду я дзеля аднаго чалавека гнаць паром. Яшчэ чаго не хапала. Падыдуць людзі, тады і перавязу.

Ён зайшоў у будку, што стаяла недалёка ад рэчкі, і доўга не паказваўся. Стомлены Гарбачэня падняўся крыху ўверх рэчкі (там быў жоўты пясок), зняў боты, трохі змыў дарожны пыл, сеў і закурыў.

«Мусіць, за чаркаю забавіўся,— падумаў Гарбачэня пра паромшчыка.— Пратрымае да вечара».

Гарбачэня адчуваў, як стукае ў яго сэрца, лезлі ў галаву розныя думкі: «Можа, яна не ў Германіі, а выйшла замуж і куды-небудзь з'ехала». Каля пераправы ўжо сабралася шмат людзей, а паромшчыка ўсё не было. Цяжка нагружаная, са скрыпам пад'ехала падвода. Узмылены невялікі конік, у якога тырчалі рэбры, ніяк не мог аддыхацца. У яго ходырам хадзілі бакі. Конь быў дыхавічны. Каля воза стаяў высокі худы падводчык. На ім былі караткаватыя шарачковыя порткі і падраная куртка, ён быў падпяразаны кавалкам нейкай аборыны. Падышоў з граблямі гурт дзяўчат, у якіх стракацелі ўсіх колераў сукенкі. Сярод дзяўчат круціўся падлетак. Дзяўчаты з ім гулялі, жартавалі, а часам і без усякай прычыны голасна рагаталі.

— Адзін мужчына і той нейкі нягеглы,— жартуючы сказала дзяўчына, у якой увесь нос быў у рабацінні.— Давайце яго ўтопім.

Дзяўчаты з рогатам неслі хлопца да рэчкі, той брыкаўся, крычаў, але яму самому, відаць, падабалася такая вялікая да яго ўвага. Нарэшце ён вылузаўся з рук дзяўчат і, адбегшыся, дражніўся:

— От сарокі-белабокі! А ўсё-такі не ўтапілі!

— Няхай хоць адзін будзе на развод,— адказала кірпаносая дзяўчына, і ўсе зноў зарагаталі.

Да рэчкі падышла нейкая жанчына з клункам. Яна была да таго стомленай, што ледзь перастаўляла ногі. Нарэшце паказаўся паромшчык, ён хацеў падаваць паром, але ў яго нешта не клеілася, відаць было, што ён п'яны.

— Зноў дзядзька Саўка шклянога бога бачыў,— сказаў хлопец.

Дзяўчаты голасна зарагаталі, падводчык пагразіў пальцам, і яны сціхлі.

— Ну і чаго вы, хочаце заначаваць тут, дык гэтага ў Саўкі не купіць,— гаварыў падводчык.

— Кажаце, Саўка з норавам? — падыходзячы, паглядаючы на другі бок рэчкі, голасна сказаў Гарбачэня і дадаў: — Наравістаму каню пуга памагае.

— Наадварот,— зазначыў падводчык,— ласкай хутчэй скранеш з месца.

— Ах так! — прасіпеў паромшчык, ён пачуў словы Гарбачэні, зазлаваў і амаль [redacted] сярэдзіны рэчкі павярнуў назад.— Калі ж ты такі разумны, то і сядзі сабе на тым баку...

Па натоўпе пракаціўся гул нездаволення, усе з дакорам паглядзелі на салдата. І Гарбачэня няёмка сябе адчуў.

— Нічога, закінем кручок, можа, торкне, а не, дык будзем фарсіраваць рэчку,— не разгубіўся Гарбачэня. Ён, пасміхаючыся, дастаў з кайстры бутэльку. Круцячы ў руках паўлітра, Гарбачэня голасна крыкнуў:

— Гэй, Саўка, бачыў?

— А чаму ж не? — сказаў Саўка і павярнуў паром да берага з людзьмі.— Што ў мяне: вочы не вочы ці я сабе вораг? Тады другі інтэрас!

Усе задаволена пасміхаліся, толькі жанчына з клункам ніяк не рэагавала, яна абыякава на ўсё глядзела сваімі бяздумнымі вачыма, нікога не пазнавала. Гарбачэня паглядзеў на жанчыну з клункам і падумаў: «Відаць, хапіла табе, кабецінка, гора». Хоць твар у жанчыны і быў яшчэ даволі маладым, але яна выглядала старой. Сівыя пасмы валасоў выбіваліся ў яе з-пад хусткі. Гарбачэня, заклапочаны перавозам, спачатку не звярнуў на жанчыну асаблівай увагі. Але штосьці ў вачах жанчыны было вельмі яму знаёмым.

— Каця, любая! — нарэшце пазнаў Гарбачэня і кінуўся да яе.— Што з табою стала?

— Кандратка, родны! — вымавіла Каця, яна захісталася, падняла рукі і паклала іх на плечы падбегшаму да яе Гарбачэню.

— Ты адкуль?

— З Нямеччыны, такі дайшла,— бязгучна прашапталі яе вусны, і дзяўчына абвісла. Гарбачэня падхапіў Кацю. Яна сканала ў яго на руках. Людзі, напалоханыя, сталі наўкол Гарбачэні, спачуваючы яму. Саўка падагнаў да берага паром.

— Эй, хто там дражніўся паўлітрам, давай яго сюды! — сказаў паромшчык.

— Цішэй ты, як табе не сорамна, тут дзяўчына памерла, а ён лезе з паўлітрам,— прагаварыў злосна падводчык.

Паромшчык хацеў нешта сказаць, але яго перапынілі.

— Дзяўчына немаведама адкуль ішла,— разважаў уголас падводчык,— і на табе, можна сказаць, на сваім парозе адышла ў нябыт. І што было б увайсці ў хату, дык не судзіў лёс,— і ён памог Гарбачэню пакласці яе на воз.

— А хто яна? — спытаў паромшчык.

— Імшараўская настаўніца, Кацярына Ігнатаўна Пальчэўская,— адказаў падводчык.

— Пальчэўская? — пацверазеў паромшчык і зняў шапку.

Падвода з паланянкай паволі ўз'ехала на паром. Людзі моўчкі стаялі, перажываючы з Гарбачэнем яго гора. Гарбачэня, з разбітым сэрцам, глядзеў кудысьці ўдалечыню, але нічога не бачыў. З яго вачэй каціліся буйныя слёзы, якія ён выціраў вышытаю нябожчыцай хустачкаю з яе ініцыяламі. Адчаліў паром. Пракаціўся лёгкі ветрык, зарабацела вада. Сонца зайшло за лес, павеяла холадам.

*1945*

# НАСТАЎНІК

Толькі пад вечар Нікانор Парфіравіч і Арына Міронаўна Карчагіны вярталіся са станцыі Мядзвецкае ў вёску Лясное, адкуль яны праводзілі ў войска сваіх былых вучняў. Сярод іх былі радавыя чырвонаармейцы і камандзіры запасу. Уся дарога ад Мядзвецкага і да самага Ляснога была абсаджана слівамі і вішнямі. Настаўнікам прыемна было бачыць вынікі свае працы, яны калісьці з сваімі вучнямі абсадзілі першы кіламетр гэтай дарогі пладовымі дрэвамі, рэшту закончылі людзі.

Сівенькая клінком бародка ў Нікانора Парфіравіча неяк задралася ўверх. Карчагін быў ніжэй сярэдняга росту. З-пад яго густых брывей, якія зрасліся на пераноссі, свяціліся задумёныя шэрыя вочы. Арына Міронаўна была вышэй сярэдняга росту і за апошнія гады папаўнела. Яна сама сябе за гэта не любіла. Арына Міронаўна была адзета ўся ў чорным, гэта некальκі скрадвала яе паўнату. На галаве ў яе быў старамодны чэпчык, з-пад якога вылезлі пасмы спрэс сівых валасоў. На твары і на лбе ляжалі глыбокія маршчыны; іскрыліся невялічкія блакітныя вочы.

Яны моўчкі ішлі па брукаванай дарозе, трымаючыся за рукі, як некалі ў маладосці. У Мядзвецкім шмат было народу, маладых і ў гадах, вясёлых і панурых, якія ехалі ў розныя бакі краіны, каб бараніць радзіму ад напасці, што так нечаканна і раптоўна нахлынула. На вакзале вузлавой станцыі Мядзвецкае спявалі і плакалі, іграў гармонік, танцавалі, там было мора людскіх галоў. Людзі снавалі ў розныя бакі, некуды спяшаліся, усё гэта нагадвала разварушаны мурашнік, адчувалася трывога. Цяпер людзі разыходзіліся па вёсках, ішлі па дарозе, абганялі Карчагіных, спяшаліся дахаты.

Карчагіны былі бяздзетныя. Праводзячы былых вучняў на вайну, яны праводзілі іх, як сваіх дзяцей. Калі старыя развітваліся з імі, то час ад часу выціралі слёзы, лезлі ў галаву думкі, што, можа, шмат з кім яны ўжо больш ніколі не пабачацца.

Хораша пражылі свой век Нікانор Парфіравіч з Арынай Міронаўнай, недарэмна пражылі і калі б ільга

было, то яны б спачатку паўтарылі сваё жыццё. Адно толькі, чым яны былі нездаволены, што ў іх не было дзяцей. Карчагіны настаўнічалі ў Лясным больш за сорак год. Шмат яны вывелі сялянскіх дзяцей у людзі.

Лясное ўтапала ў садах. Нямала Нікаnор Парфіравіч уклаў сваёй кіпучай энергіі, каб людзі ў Лясным зажылі па-чалавечы. Калі ён з Арынай Міронаўнай прыехалі ў Лясное пасля сканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, на гэтым месцы, дзе цяпер узвышаўся прыгожы будынак школы, была карчма. А насупраць школы, дзе стаіць Дом культуры, была царква. Замест саду, які цяпер быў навакол школы, рос быльнёг. Першы год яны настаўнічалі ў курнай хаце, рыхтаваліся да заняткаў пры лучыне. А цяпер не толькі ў школе і Доме культуры, але і ў калгасным хляве была электрычнасць. Святло даваў млын. Шмат прыйшлося паваяваць, каб на месцы карчмы паставіць школу, дабіцца кавалка зямлі.

Першымі саджанцамі каля школы былі два срабрыстых таполі, якія цяпер разрасліся і ўзвышаліся, як маякі. У сонечную пагоду яны далёка былі відаць. Потым Нікаnор Парфіравіч з вучнямі ўзяўся за школьны сад, а пазней і за сялянскія сады, рабіў сам прышчэпы. Кожнае садовае дрэва ў Лясным было ім самім выгадаванае. А з'явіліся сады, з'явіліся і пчолы, нават цэлыя пасекі.

Каля Ляснога некалі былі непраходныя балоты, людзі вясною цягалі кароў за хвасты. Нікаnор Парфіравіч умяшаўся і ў гэту справу. Шмат было гвалту, некаторыя не хацелі лезці ў дрыгву, але цяпер расла Цімафееўка. А ўздоўж невялічкай балотнай рэчкі Крывія, якая падковай агінала Лясное, з'явілася цэлая сістэма сажалак, там гадавалі карпаў. Дабрабыт людзей намнога палепшыўся.

І сам Карчагін абжыўся. У яго была цэлая гаспадарка: карова, свінні, авечкі, куры, гусі і мноства трусоў. Хто б да яго ні зайшоў і ні заехаў, без пачастунку не абыходзілася. Нават жабракі і лірнікі былі частымі гасцямі ў Карчагіных. Нікаnор Парфіравіч любіў пасядзець з людзьмі за чаркай, паслухаць навіны, песні, легенды і казкі. А Арына Міронаўна любіла дагадзіць госцю, хто б ён і адкуль ні быў. На стале з'яўляліся розныя прысмакі, аж вочы разбягаліся. Былі людзі, якія

на Карчагіных крыва паглядалі. А перад самай калектывізацыяй некаторыя настаўнікі, з-за зайздрасці, пагаварвалі нават, каб Карчагіна раскулачыць. І каб сакратар Мядзвецкага райкома партыі не зацікавіўся і не выехаў сам на месца, прыйшлося б настаўніку развітацца з гаспадаркай і самому з Ляснога выбірацца.

Усе, хто вучыўся ў Ніканора Парфіравіча, да самай смерці яму ўдзячны. Пачатак заняткаў у школе быў святам для дзяцей. Трэба было бачыць, з якім хваляваннем і радасцю кожны год уваходзіў настаўнік першы раз у клас. Для яго было вышэйшым гонарам навучыць дзіця чытаць і пісаць першую літару. А як старанна ён выводзіў на дошцы: 1+1=2; ніхто ў ваколіцы з настаўнікаў не ўмеў так зацікавіць дзяцей матэматыкай. Карчагін сам любіў працу і прывіваў гэту любоў дзецям. Любімымі яго словамі былі, якія ён часта паўтараў: «Усё пераможа ўпартая праца». Ніканор Парфіравіч прывіваў любоў да роднага слова, літаратуры, радзімы. У Лясным было шмат музыкаў, і ў гэтым заслуга Карчагіных. Ніканор Парфіравіч і Арына Міронаўна ўвялі ўрок музыкі ў школе, і, што грэх таіць, часам ад Карчагіна некаторыя вучні атрымоўвалі смыка, але на гэта ніхто не крыўдзіўся.

Ніканор Парфіравіч з Арынай Міронаўнай прыйшлі з Мядзвецкага яшчэ завідна. У Лясным стаяла цішыня. Яны моўчкі прыселі на лавачцы пад адным з таполяў, каб крыху адпачыць.

— Ніканорушка, можа, есці будзеш? — парушыла цішыню Арына Міронаўна.

— Нешта, матуленька, не хочацца,— адказаў Ніканор Парфіравіч.

За лесам садзілася сонца. Гнаў пастух кароў. Ніканор Парфіравіч і Арына Міронаўна пайшлі ў кватэру, хоць ім і не хацелася нізавошта брацца, але трэба было прывесці гаспадарку да ладу. З Мядзвецкага яны прыйшлі нейкімі спустошанымі і вялымі.

На трэці дзень вайны на станцыю Мядзвецкае наляцелі фашысцкія самалёты. Было гадзін адзінаццаць ночы. Ад выбухаў бомбаў у Карчагіных пасыпаліся шыбы. Гарэў вакзал, высока шугала полымя, валіў чорны дым. Па пакоях у Карчагіных гулялі вятры. Завыла ў коміне. Пахла гарэлым. Старых апанаваў страх. Ніканор Парфіравіч накінуў на плечы Арыне Міро-

наўне асенняе паліто, а сам ахутаўся нейкай хусткай, і яны выйшлі на двор. То там, то сям чулася гамонка, не спалася людзям у тую ноч. Толькі досвіткам старыя, седзячы на лаўцы пад таполяй, туляючыся адно да аднаго, як галубы, крыху звялі вочы.

А праз тыдзень у Лясное чорнай хмарай нахлынула фашысцкае груганнё. Гітлераўцы ад салдата і да генерала былі нахабнымі, тупымі і самадавольнымі. Яны глядзелі на людзей з пагардай, зверху ўніз, насміхаліся. У школе змясціўся фашысцкі штаб. За некалькі дзён у Карчагіных сцерлася ўся іх гаспадарка.

Ніканору Парфіравічу не так шкода было маёмасці, як крыўдна за знявагу чалавека. Выкінуты з свае кватэры, ён з Арынай Міронаўнай туляўся па чужых хатах. Ён асунуўся і яшчэ больш пасівеў.

Фашысты за некалькі дзён стаянкі ў Лясным усё дашчэнту знішчылі. Не пазнаць, дзе былі палеткі, а дзе сенажаць. А калі Ніканор Парфіравіч па просьбе сялян паскардзіўся начальству, то яго збілі.

Марудна цягнуўся час фашысцкай акупацыі, дзень здаваўся годам, цэлай вечнасцю. Паволі паднімаўся народ на змаганне з фашыстамі. Людзі, якія апынуліся ў няволі, кідаліся з боку ў бок, як падстрэленыя птушкі, шукалі выйсця, ратунку. Лясное стала цэнтрам, дзе гартаваўся чалавек, адточвалася нянавісць да фашыстаў. Сюды збіраліся людзі, якія прыносілі і добрыя і дрэнныя навіны, а адсюль выходзілі акрыленыя, з думкай, што трэба брацца за дубіну і бараніцца, бо інакшай фашысты са свету звядуць.

Ніканора Парфіравіча і Арыну Міронаўну да глыбіні душы патрэсла, калі яны даведаліся, што ў Мядзвецкім за адзін дзень фашысты знішчылі ўсіх яўрэяў. Ніканор Парфіравіч сваім вушам не верыў, калі яму расказалі, што фашысты пераламвалі дзецям хрыбты і кідалі іх у магілу. Каб пераканацца ў гэтым, ён сам пайшоў у Мядзвецкае, паглядзець сваімі вачыма, што там робіцца.

Настаўнік з кіем у руках ішоў у Мядзвецкае. Пераганялі адна адну свінцовыя хмары, якія сунуліся з захаду. Не пазнаць было дарог. Гусеніцамі танкаў паламаны былі, павыварачваны слівы і вішні. А дрэвы, якія сталі, адзеліся ў жоўтае лісце. Адляталі журавы ў вырай, і жалобна чуліся іх крыкі ў вышыні.

На ўскраіне Мядзвецкага не была закапана адна вялізная яма з трупамі, бо яе яшчэ не запоўнілі. Калі Ніканор Парфіравіч угледзеў акрываўленых людзей, у яго пацямнела ў вачах, ён пахіснуўся і ледзь устаяў на нагах. А поруч, на пяску, ляжала маладая жанчына, яна сваімі застылымі рукамі прыцiскала да грудзей хлапчанё, якому яшчэ не было і года. Нікaнор Парфіравіч пазнаў жанчыну, гэта была жонка ўрача, які служыў у войску. Ён ведаў і гэтага хлопчыка, яго звалі Мотка, настаўнік не так даўно гэтае дзіця на руках трымаў і цешыўся з яго. Чорныя ў завітках валасікі ў Моткі зліпліся ад крыві, якая запяклася. На смуглым тварыку дзіцяці застыў спалох. Хлопчык вялікімі чорнымі вачыма глядзеў у неба, але не бачыў сонца.

У Нікaнора Парфіравіча сціснулася сэрца, забалела, пуста стала на душы. Ён закрыў вочы і хутка пайшоў. Толькі праз некаторы час Нікaнор Парфіравіч апамятаваўся, што ідзе не ў той бок. Ён, не заходзячы ў Мядзвецкае, павярнуўся назад і хутка пайшоў у Лясное.

Аднойчы, гэта было ў канцы 1941 года, ноччу, Карчагіным (цяпер ён жыў у сваёй кватэры пры школе) загрукалі ў акно. Цераз шыбу Нікaнор Парфіравіч угледзеў дзве чалавечыя постаці.

— Хто там? — спытаўся Нікaнор Парфіравіч.

— Адчыняй! — пачуўся хрыпаты голас.— Мы партызаны...

У пакой увайшлі два незнаёмыя, дзябёлыя мужчыны, адзін насіў маленькія чорныя вусікі, а ў другога не раслі ні вусы, ні барада, твар быў, як печаны яблык. Абодва яны былі з аўтаматамі.

— Ты, мусіць, баішся нас? — пытаўся чалавек з вусікамі.

— Няўжо ж,— пасміхаючыся, сказаў асіплым голасам чалавек, у якога не раслі вусы і барада.

— А хто вас ведае, што вы за людзі? — прагаварыў Нікaнор Парфіравіч, у яго калаціліся рукі.— Пры дарозе жывём... Шмат рознага люду ходзіць... Калі з добрымі намерамі прыйшлі, то сядайце... Пагрэйцеся...

— Калі пяршак, то давай,— гаварыў чалавек з вусікамі.

— Чаго няма, дык няма...

— Ого! — прасіпеў другі.— У яго днём з агнём ва-

ды не дастанеш! Відаць птушка па палёту... Каб партызанам, дык напэўна б даў... Будзем «бамбіць»!..

Яны развярнулі ўсе спажыткі Карчагіных, узялі лепшую вопратку, дасталі з кубельца апошні кавалак сала, забралі са стала хлеб, бразнулі дзвярыма і пайшлі.

— Хто яны? — спыталася напалоханая Арына Міронаўна.

— Грабіцелі. Плача па іх асіна,— адказаў Ніканор Парфіравіч.

Раптам пачулася стралянiна. Карчагін хутка патушыў газоўку. І так старыя да самай раніцы не спалі. На золку, калі да іх зайшлі сапраўдныя партызаны, яны даведаліся, што адзін эсэсавец (з чорнымі вусікамі) забіты, а другі ўцёк.

Гарачай была сустрэча. Арына Міронаўна і Ніканор Парфіравіч ад радасці плакалі. Яны ўпершыню сустрэлі людзей з чырвонымі істужкамі на шапках. Арына Міронаўна і Ніканор Парфіравіч сцягвалі партызанам боты, каб пераабуцца, частавалі тытунём-мультаном (стары пачаў курыць), падзялілі напалам апошні бохан хлеба. Як высветлілася, барацьба вялася паміж заставай эсэсаўцаў і засадай партызан за млын.

Партызаны ў Лясным папоўнілі свае рады. Адзінаццаць малайцоў з рэзерву настаўніка пайшлі з партызанамі ў лес. Ніканор Парфіравіч перад імі трымаў прамову (усе яны былі яго былымі вучнямі), якую закончыў словамі:

— Пайшлі б і мы з старою ў лес, але сілы бракуе. Каля печы мерзнем. Сэрцам і душою мы з вамі, і чым здолеем, заўсёды будзем вам памагаць. Ніколі не мінайце нашай хаты, будзем рады вас бачыць. Зычым вам шчасця ў ваенных паходах!

Праз некалькі дзён у Лясным адбылося страшнае. Пад поўдзень эсэсаўцы прыехалі ў Лясное. Падпалілі млын, спалілі хаты разам з сем'ямі адзінаццацерых партызан, што падаліся ў лес. Прычапіліся эсэсаўцы і да настаўніка. Арына Міронаўна заступілася за Ніканора Парфіравіча. Тады эсэсавец, у якога не раслі барада і вусы, вывеў яе на двор і з аўтамата прашыў. Яна так і засталася ніцма ляжаць у садзе. А над настаўнікам яны яшчэ доўга глуміліся, білі, дапытвалі, дзе лагер партызан, але нічога не дабіліся. Ён хоць і ведаў, дзе стаяць партызаны, але нічога не сказаў.

Абяссіленага настаўніка таксама вывелі на двор, падвялі да таполі, накінулі пятлю на шыю і павесілі на галіне. Хруснула суччо, абламалася галіна, і настаўнік паляцеў на зямлю.

— А-ах! — у адзін голас пракацілася па натоўпе. Фашысты сагналі шмат людзей на месца кары настаўніка.

— Значыць, суджана настаўніку доўга жыць,— нехта сказаў у натоўпе.

— Чаму? — запытаўся другі.

— Ёсць такі закон,— гаварыў трэці.— Калі адарвецца вісельнік, яго ў другі раз не вешаюць.

Лёгкім ветрыкам па натоўпе пракацілася надзея, што настаўнік астанецца жыць. Але каты, спяшаючыся, прымайстроўвалі пятлю, прабавалі рукамі, ці вытрымае галіна.

— Фашыстам закон не пісаны,— цяжка прагаварыў Ніканор Парфіравіч, калі каты зноў надзявалі яму на шыю пятлю.— Не плачце! Усіх не перавешаюць! Яшчэ ўзыдзе сонца...

Фашыст з дзікай злосцю выбіў табурэт з-пад ног настаўніка, ён страпянуўся і павіс на галіне таполі. Фашысты прывязалі да грудзей настаўніка дошчачку, на якой было напісана: «Я партызант».

Дагарала школа. Людзі з жахам глядзелі на павешанага. Усхадзіліся вятры, пачалася завіруха, гойдалася на вяроўцы цела настаўніка, перакручвалася, паскрыпвала галіна таполі, нібы стагнала дрэва. Фашысты забаранілі знімаць настаўніка з шыбеніцы на працягу двух тыдняў.

Калі Савецкай Арміяй было вызвалена Лясное, людзі агледзелі магілу Карчагіных, паставілі помнік. Пад таполяй, лісце якой срэбрам паблісквала на сонцы, на камені было высечана: «Любімым настаўнікам ад удзячных вучняў».

*1945*

## НА РУІНАХ

Калі поезд спыніўся на станцыі Чорны Бор, Раман Небыліцкі першым выйшаў з вагона. Усё яму тут было блізкім і далёкім. Родны пейзаж здаўся незнаёмым. Фасад некалі прыгожага вакзала ледзь ліпеў, ён пагражаў абвалам. Як вокам акінуць — папялішчы. А больш за ўсё страшыла бязлюддзе: дзе-нідзе пройдзе чалавек; сям-там траплялі старыя і малыя. Твары ў людзей зямлістыя; людзі хадзілі ў лахманах і лапцях. Пабразгвала бляха на абгарэлых каробках дамоў, якія наскрозь прасвечвалі. Там гняздзіліся кажаны і ластаўкі. Наўкол разбітага вакзала старраннымі чалавечымі рукамі складзены цагліны. І цяпер тут працавалі людзі. Збоку ляжала гара лому: пакрышаныя нямецкія чыгунныя, кафельныя і бляшаныя печы («буржуйкі»), пакарэжаныя двухтаўравыя бэлькі, рэйкі і рознае ламачча. Вока Рамана спынілася на адным прывакзальным агародзе, які быў абнесены згарэлымі ложкамі, сярод якіх былі і дзіцячыя. Пасярэдзіне агарода стаяла пудзіла. На крыжы, што стаяў на адной з град, матляўся падраны фрыцаўскі зялёны гарнітур, а наверсе вісела прабітая ў некалькіх месцах фашысцкая каска.

Раман спяшаўся завідна прыйсці ў вёску Пружаны, каб не аставацца ў дарозе на начлег. Яму абрыдла за тры гады вайны туляцца па чужых хатах, у палатках і акопах, хацелася хутчэй дайсці дадому, пабачыць сям'ю. Ён ішоў гасцінцам. Абапал тырчалі пачарнелыя пні. Перад самай вайною тут узвышаліся купчастыя бярэзіны, пасаджаныя яшчэ пры Кацярыне II. Завывалі вятры, кружыла пясок, засыпала вочы.

Ужо сонца было на захадзе, а да Пружан аставалася добрых кіламетраў пяць, а то, можа, і болей, хто іх тут лічыў. Раман углядаўся ў твары прахожых і праезджых людзей, ён меркаваў, што можа каго ўбачыць з сваёй вёскі, каб хоць паходны мяшок ускінуць на калёсы, усё ж лягчэй было б ісці. Сяляне навакольных вёсак з зайздрасцю пазіралі на яго грудзі, упрыгожаныя «Залатой Зоркай», але нікому і ў галаву не прыходзіла, што мог пружанскі чалавек выбіцца ў героі.

Небыліцкі, несучы на плячах паходны мяшок і на руцэ шынель, цяжка плёўся па пыльнай дарозе. Яму хацелася хутчэй пабачыць сына — калі Раман ішоў на вайну, хлопчыку было тры гады; жонку, якая праводзіла яго аж да самай станцыі; угледзець старую маці, што пэўна кожны дзень па ім плакала. Ён думаў, як яго, бязрукага, сустрэне жонка, што будзе гаварыць. Што жонка яго чакала, у гэтым ён ні на хвіліну не сумняваўся. Яна ў яго была сталая кабеціна, з добрай сям'і. Раптам прыйшла ў галаву думка: навошта ў гаспадарцы калека, каму ён патрэбны, хіба толькі гусей пасвіць. Гэтая думка не выходзіла ў яго з галавы, раздзірала яго душу. «А што, каб павярнуў назад,— думаў Раман,— але ж сына шкода, маці». І чым бліжэй ён падыходзіў да вёскі, тым больш трывожыўся, раз'ядалі сумненні, ці правільна ён робіць, што ідзе дадому. А каб спытаць у каго, што робіцца ў вёсцы, Раман не хацеў, баяўся дрэннае пачуць.

Чым далей Раман аддаляўся ад станцыі, тым малюнак быў яшчэ больш жахлівы. І не дзіва — тут праходзіла лінія фронту. Відаць, у гэтым месцы былі вялікія баі, бо стаялі ўперамешку падбітыя фашысцкія і савецкія танкі, самаходныя гарматы і пушкі, валялася паламаная зброя, ляжалі забітыя фашысцкія салдаты і афіцэры, набрынялыя коні. У паветры чародамі лятала варанне, кружылі тлустыя крумкачы. Раман спыніўся каля забітага фашыста. «Ну што, наеўся рускай зямлі»,— падумаў Раман. На полі сям-там пракідаліся шыльдачкі: «Замініравана!», стаялі пабэрсаныя пераспелыя жыты, відаць, людзі баяліся жаць, а можа, не было каму ўбіраць ураджай. «А цікава, ці пазнае жонка?! — думаў Раман.— Малы жук пэўна адвернецца, адмовіцца ад такога бацькі». У адной толькі маці Раман ні на хвіліну не сумняваўся. Вонкава Раман зусім змяніўся, ён адгадаваў рыжыя вусы, якія закручваў уверх, на плячах насіў пагоны сержанта, папаўнеў на салдацкіх харчах, загарэў, узмужнеў. Яго сінія вочы яшчэ глыбей запалі, поўныя жыцця, яны паблісквалі з-пад густых брывей. Цяпер яму ішоў дваццаць восьмы год, як кажуць, «у самай сіле мужчына». І такі сілы ў яго не бракавала.

Раман ужо адмераў больш за адзінаццаць кіламетраў і, хоць рука ацякла, мог яшчэ ісці. А да ранення,

бывала, ён падхопіць супрацьтанкавую пушку і адзін паставіць як трэба, каб біць фашыста простай наводкай. І такі шмат ён пакалашмаціў фашысцкіх танкаў. У апошнім баі, калі гітлераўцы хацелі скінуць іх з захопленага плацдарма ў Дняпро, ён адных толькі «тыграў» тры штукі падбіў. А калі ўвесь разлік супрацьтанкавай пушкі быў перабіты, Раман, паранены, адною рукою страляў і яшчэ падпаліў два танкі. За той бой ён і атрымаў званне Героя.

Дарогай Раман успамінаў пра свае баявыя дзеянні, каб расказаць родным. У паходным мяшку ён нёс падарункі: сыну — цукар, які сэканоміў ад свайго пайка, жонцы меркаваў аддаць атрыманы адрэз на парадны гарнітур, а маці — безрукаўку, якая б замяніла ёй кабат. Ён сеў каля дарогі, каб крыху адпачыць, і мімаволі паглядзеў на паходны мяшок, развязаў, пацікавіўся, ці цэлыя рэчы. Раман хацеў закурыць, папяросы за дарогу ўсе выйшлі, але як ён ні намагаўся скруціць цыгарку, у яго нічога не выходзіла. Нарэшце, усё ж яму неяк удалося зрабіць «казіную ножку». Ён выцер на лобе пот, прыкурыў ад запальніцы і так смачна зацягнуўся, што аж закружылася галава.

Вечарэла. Сцішылася. Накрапліваў дробны дожджык, які прыбіваў пыл. Раман вырашыў не заседжвацца, хоць ён і стаміўся, але падняўся і паціху пайшоў, потым прыбавіў кроку. Недалёка ехала падвода, збоку бегла жарабё. Невядома, ці што ўкусіла жарабё альбо гаспадар пугаю сцебануў кабылу і малое спалохалася, яно стрымгалоў кінулася ўбок і ўсперлася на міннае поле. Пачуўся выбух. Ад жарабяці нічога не асталося, а падводу так ірванула, што ледзь не растрэсла. Раману аставалася падняцца на гару, адтуль ён некалі бачыў кожную хату ў сваёй вёсцы. Пачало змяркацца. Ён выйшаў на гару, але вёскі не відаць было. Раман устрывожана амаль бягом спяшаўся ў вёску.

Ужо сцямнела, калі Раман наблізіўся да таго месца, дзе раней стаяла яго хата. На двары, як свечка, тырчаў абгарэлы комін. Валялася паламаная барана з-пад раскіданага буславага гнязда, што было на дубе. Але дуб хоць і падсмалены, аднак стаяў. Нідзе не відно было ні адной жывой душы. Ён сеў на камень, што ляжаў каля іх прызбы, аб які некалі пальцы на нагах

збіваў, схіліў галаву і, як малое дзіця, заплакаў. Яму страшна стала. Ён устаў і крыкнуў:

— Эй, людзі! Ці ёсць хто жывы? Адгукніцеся!

Далёка разнеслася рэха, але адказу не было чуваць. Раман стаяў з накінутым наапашкі шынялём, углядаўся ва ўсе бакі, але нікога не бачыў. Цемень была беспрасветная. Ён хацеў гукнуць, ды не мог, яго апанаваў такі страх, што, здавалася, на галаве ўзнялася шапка, папаўзлі па целе мурашкі.

— Ёсць жывыя! — аказаўся, як з-пад зямлі, слабы мужчынскі голас. Чалавек вылез з зямлянкі і як гаспадар спытаўся: — А ты хто, чалавеча? Чаго тут ходзіш? Што табе трэба?

— Я шукаю сына, жонку і маці.

— А хто яны такія?

— Небыліцкія.

— Небыліцкія? То ідзі сюды.

— А чаму ты не падыдзеш, няўжо баішся?

— А ты хто?

— Хіба не пазнаў? Э-эх, Раман, Раман! Разам кароў пасвілі, на адной парце сядзелі, да адной дзяўчыны заляцаліся, а толькі ты аказаўся спрытнейшым.

— Мацей!

— Няўжо ж.

— А дзе нашы?

— Вашы? — перапытаў Мацей Баркоўскі.— Маці на могілках, сваёю смерцю памерла.

— А сын? Жонка? Дзе яны? Што з імі? — падыходзячы, адчуваючы нядобрае, усхвалёвана пытаўся Раман.

— Вецер па полі іх попел разнёс.

— Як гэта? Не разумею цябе?

— Лезь у зямлянку, пра ўсё даведаешся.

Яны ўвайшлі ў зямлянку, заморгала газоўка. Патрэсквала ў печы, булькала ў чыгунку, там варылася бульба. Цікаў будзільнік.

— Выходзіць, таварышы па няшчасцю: адзін бязногі, а другі бязрукі,— пачаў Мацей.

— Ды кажы ты, што з сям'ёю? — нерваваўся Раман.

— Фашысты спалілі,— паведаміў Мацей.— Гэта было ў канцы сорак другога года. Сагналі людзей у калгасны свіран, аблілі бензінам і падпалілі. За дзе-

сяткі кіламетраў па ветры быў чутны крык людзей, што ў страшэнных пакутах паміралі.

— За што?

— Без дай прычыны. Вёска, бачыш, каля лесу стаяла, маглі прыходзіць партызаны. Ніхто з пружанцаў, якія былі ў вёсцы, не асталіся ў жывых. Дык хіба можна фашысту даравадь гэта? Ніколі.

— Заклінанняў мала. Трэба было дзейнічаць.

— То няўжо ж мы сядзелі склаўшы рукі. Фашысты доўга будуць помніць беларускіх партызан.

— Гэта я ведаю. А што ты рабіў? Можа, адседжваўся ў лесе?

— Чаму я не пытаю, дзе ты быў? — пакрыўдзіўся Мацей.

— А цяпер што робіш?

— Цяпер... іншая справа.

Мацей, відаць, не чакаў такога дакору, ён устаў, абапёрся на мыліцу, дастаў бульбіну, паспрабаваў, ці гатова. У зямлянцы было душна і парна, як у лазні. Мацей расшпіліў каўнер ватоўкі, падрапаў валасатыя грудзі, відаць, нешта хацеў сказаць Раману наперакор, але як гаспадар зямлянкі стрымаўся. Па кутках былі параскіданы розныя хатнія рэчы, ён прыводзіў іх да парадку, але атрымоўвалася, што перакладаў з месца на месца. Раман гэта заўважыў, ён, відаць, адчуў, што пакрыўдзіў суседа і сябра.

— Дзе ж твае? — пайшоў на прымірэнне Раман.

— Там, дзе і твае,— цяжка вымавіў Мацей. — Калі мы прыскочылі з лесу, ужо было позна. То чаго ты не распранаешся? Давай шынель. Што-о? «Залатая Зорка»? Віншую.

Мацей і сам распрануўся, ён зняў з сябе ватоўку. На гімнасцёрцы красаваўся ордэн Чырвонага Сцяга і медаль «Партызану Айчыннай вайны». Ён адцадзіў бульбу і паставіў на «стол», але які гэта быў стол — звычайная скрынка з-пад снарадаў. З чыгунка валіла пара, смачна запахла бульбай. Раман аж носам зачмыхаў. Мацей гэта заўважыў і ўсміхнуўся. Ён падумаў: «Відаць, даўно еў бульбу».

— То і цябе трэба віншаваць! — гаварыў Раман.— А я, грэшным дзелам, думаў, што ты каля бабінай спадніцы цёрся. Прабач! Толькі цяпер угледзеў, што ты без нагі. Ніяк не мог ачухацца. Ты мяне ашаламіў.

— Кі-і-інь. У цябе што на розуме, тое і на языку. Такія людзі не страшны. Горш, калі на словах адно, а на справе другое.

— Люблю я цябе, Мацей, шчыры ты чалавек. Я лічыў цябе крыху заціхім, але, відаць, гэта не так. Справядлівы ты чалавек.

— Я, Раман, сябе лепей ведаю, чымся хто іншы. У мяне не хапае напорыстасці, якая ў цябе ёсць. Да таго ж нясмелы. Такія людзі, як ты, могуць больш карысці прынесці грамадзе.

— Ты зноў мне пра грамаду, а я яшчэ амаль не жыў асабістым жыццём.

— То сядай за стол. Чым багаты, тым і рады. Цяпер бы не шкодзіла і па чыпурышцы расцісnуць, але, выбачай, няма.

— А ў мяне недзе павінна быць «кропля».

— Колькі фашыст прынёс гора ў нашу краіну. Шмат людзей звёў са свету, а ці мала душ пакалечыў. Але пройдуць гады, і забудзецца навала.

— Не скора, Мацею, гэта будзе,— і Раман заліўся горкімі слязьмі.

Мацей яго не суцяшаў, ён і сам плакаў. Яны абодва думалі, як жыць далей. Прыходзілася ўсё пачынаць спачатку.

Гаспадар зямлянкі наліў чаркі.

Мужчыны за паўквартай прасядзелі аж да другіх пеўняў, яны ўспаміналі дзяцінства, родных, расказвалі адзін аднаму пра баявыя паходы.

— Ну і што ты, Раман, цяпер думаеш рабіць?

— Вярнуся ў полк. Няўжо не прымуць? А ты?

— Якія з нас цяпер ваякі, мяркую, што дома мы прынясем больш карысці. Трэба калгас арганізоўваць, вось толькі няма падыходзячага старшыні, а то мы за якія-небудзь тры — пяць год зноў бы зрабілі пружанскі калгас узорным. Можа б, ты згадзіўся?

— Не-е,— наадрэз адмовіўся Раман. — Я пайду фашыста біць. У мяне з ім свой рахунак.

— А ты да раніцы падумай. Лепшага за цябе старшыні няма. На фронт цябе не пашлюць, а хіба не ўсё роўна, дзе ў тыле працаваць.

— Чаму гэта мяне на фронт не пашлюць? — пярэчыў Раман. — Хіба я ўломак.

— Та-а-му-у, — расцягнуў Мацей.

На гэтым сябры спынілі гаворку, бо абодва хацелі спаць. Яны выпілі па апошняй чарцы, леглі і хутка заснулі. Раніцаю першым прачнуўся Раман, ён хадзіў па зямлянцы, кашляў, але Мацеў спаў непрабудным сном, як пшаніцу прадаўшы.

— Добра такому чалавеку на свеце жыць,— падумаў уголас Раман. — А калі ў калгасе астацца, то што ты зробіш без людзей і з пустымі рукамі. На двары ні кала, у хляве ні хваста, у свірне ні зерня. Прападзеш.

— На зямлі чалавек не прападзе,— прачнуўся Мацей.— Конь з заечым хвастом ёсць, разумееш, трафейны. А ўсё астатняе прыкладзецца. З пайка наш брат жыць не прывык. Калі паробіш ад пупа, то і паясі ўволю. Я не сказаў табе яшчэ пра астатнюю гаспадарку: маем карову, адабралі ад былога начальніка раёна, што ў гітлераўцаў талеркі лізаў. Пару падсвінакаў у начальніка паліцыі забралі.

— А людзі, людзі? Усё ў людзях.

— З франтоў папрыходзяць. Жывыя ўсе збяруцца. Кожнага цягне туды, дзе ён нарадзіўся, да таго месца і ласку мае. Адсюль слова — ра-адзі-і-ма. Гэта зразумець трэба. Падай, Рамане, маю «качаргу».

І Мацей пачаў прывязваць пратэзную нагу, якую яму падаў Раман. Мацей аброс нейкай каштанавай шчацінай, на твары і на лобе адклаліся глыбокія маршчыны. Хоць яны з Раманам былі аднагодкі, але ён выглядаў шмат старэйшым.

— Чаму ты не паголішся? — не вытрымаў Раман, каб не запытацца. — Што гэта ў вас за мода, у партызан,— бароды?

— Не было калі галіцца,— абыякава адказаў Мацей. — То што ж, зноў зварым бульбы?

— Давай! Яна не прыядаецца. Я засумаваў па беларускай бульбе. Стой! У мяне недзе свіная тушонка была, зробім камякоў. Тры гады не еў.

Яны памыліся і пачалі рыхтаваць сняданне, абмяркоўваючы, як далей жыць. Мацей раіў Раману ў Пружанах астацца.

— Пабудуемся на новым месцы,— развіваў сваю думку Мацей. — А на руінах, калі акрыяем, пабудуем помнік як напамінак аб страшнай вайне...

— Гэта дзела! — загарэўся Раман. — Мне нават

уявляецца будучы помнік — Засмучаная маці... Напамінак нашчадкам...

Каб здабытую свабоду
Зналі, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

— Але,— сцвердзіў Мацей.

За сняданнем Раман канчаткова згадзіўся астацца ў Пружанах. Гэтаму памагло і тое, што ўсе пружанцы, якія выпадкам уцалелі (адны былі ў войску, а другія ў партызанах), прыйшлі да яго з просьбай, каб ён астаўся старшынёю калгаса. Мацей і Раман прапанавалі будавацца на новым месцы. З імі ўсе згадзіліся. Яны раіліся, з чаго пачынаць гаспадарку.

— Абагуленыя конь і карова, два падсвінакі ёсць, значыць, трэба будаваць хлеў,— гаварыў Раман. — Кароў трэба будзе займець не менш за дзвесце... Цяжка будзе першыя гады, але нічога. Калі выстаялі перад фашыстамі, то і з гаспадаркай як-небудзь справімся.

Раман паволі, стала, як гаспадар, выкладаў план адбудовы калгаса, пружанцы цалкам яго адобрылі і адразу ж, пасля снядання, усе падаліся ў лес. На кані з заечым хвастом ехалі Раман з Мацеем, яны абмяркоўвалі, як найхутчэй аднавіць гаспадарку. За возам, колы якога глыбока ўразаліся ў пясок, ішлі пружанцы з піламі і сякерамі, гаманілі. Яны ўязджалі ў лес, вечназялёны і гаманлівы. Людзі гатовы былі ісці на любыя цяжкасці, каб зноў зажыць па-чалавечы, пабудаваць новае, яшчэ больш прыгожае жыццё.

*1945*

# ВЕРНУТАЕ ЖЫЦЦЁ

Да вайны Хрысціна і ўставала і лажылася спаць з песняй, і работа ў яе руках спорылася. А цяпер не было таго дня, каб яна не плакала, і ўсё з яе рук валілася.

Некалі таўшчэзныя, даўгія косы Хрысціны патанчэлі, высекліся, выцвілі і страцілі свой ранейшы бляск; блакітныя вочы, якія заўсёды смяяліся, упалі, сталі глыбокія, завастрыўся нос, на лобе з'явіліся маршчыны.

Вайна — вялікае гора, і кожны па-свойму нясе частку яго ў сэрцы. Але і яго лягчэй пераносіць, калі ёсць якія звесткі аб блізкіх. У Хрысціны такіх звестак не было. У першыя дні вайны правяла яна свайго Ігнася ў войска, і з таго часу ні слуху ні духу. Іншыя мужчыны, якія пайшлі з Ігнасём, павандравалі і вярнуліся дадому. Не ўсе, зразумела, а частка. Праўда, пасля яны падаліся ў партызаны і час ад часу давалі пра сябе знаць, а пра Ігнася і чутак не было. І што б цяпер Хрысціна ні рабіла, куды б яна ні ішла, перад ёю стаяў вобраз любага Ігнася. Аднойчы, ідучы па дарозе, абапал якой узвышаліся спелыя жыты, Хрысціна паглядзела наўкол, ці не ідзе хто за ёю, і гукнула:

— Ігнаська, мілы, дзе ты? Калі жывы, дык адгукніся!

Хрысціна прыслухалася. Ёй здалося, нібы нехта адгукнуўся. Жанчыне лягчэй стала на сэрцы, і яна адпрыбавіла кроку. І так часта было: калі Хрысціна ад на ішла лесам ці сенажаццю, яна ўпаўголасу клікала свайго каханага, але дарэмнымі былі яе намаганні: нічога ніколі яна не чула. Ёй станавілася маркотна, і яна аблівалася слязьмі. Дзень станавіўся годам, цэлай вечнасцю. Хрысціна памагала чым магла партызанам: прыносіла патрэбныя звесткі з фашысцкага гарнізона, насіла туды лістоўкі, разносіла добрыя весткі пра народных мсціўцаў.

А Ігнась Налівайка з адступаючым войскам прайшоў аж да Куршчыны. Ён па дарозе ў часе бамбёжкі страціў дакументы, а таму яму не лёгка было давесці, што ён той, хто на самай справе ёсць, а не хто іншы. Яго не хацелі браць у армію, адсылалі ўсё далей і далей у тыл,

а там у ваенкаматах калі-нікалі былі і непрыемныя часіны. І Ігнась падаваўся далей на ўсход, каб усё ж прызвацца ў войска. Валялася на дарогах паламаная тэхніка, ляжалі забітыя людзі. Жывым трэба было дбаць, як спыніць ворага, які стрымгалоў ірваўся на ўсход. Ігнась быў ад прыроды мяккай і добрай душы чалавек, але і ён паступова суравеў, загартоўваўся, у ім адточвалася ярасная нянавісць да фашыстаў, што спусташаюць родную зямлю, калечаць людзей.

Прыйшоў Ігнась у Замастоцкі райваенкамат на Куршчыне, абмакрэлы, адубелы, галодны і босы. Ён да таго падбіўся ў дарозе, што ледзь цягаў ногі. За час вандравання ён аброс рыжаю барадою. Ігнась доўга гаварыў з ваенкомам, па ўсім відаць было, што ваенком у першы час крыху сумняваўся ў ім: «А хто цябе ведае, хто ты, можа, баязлівец ці дэзерцір?» Ігнась усё расказаў пра сябе, і ваенком яму паверыў, ён прызваў яго і накіраваў у запасны пяхотны полк.

І ўсё ж пісар, які ўвайшоў у кабінет ваенкома, каб падпісаць паперы Ігнася Налівайкі, палічыў за абавязак выказаць і свае меркаванні.

— Каб не памыліцца нам, таварыш ваенком,— асцярожна сказаў ён, трымаючы ў руках мабілізацыйны лісток.

— А што? — узняў галаву ваенком.

— Чаго гэта чалавек блізкі свет, аж з Беларусі, сюды пёрся,— гаварыў пісар. — Я сігналізую... а там ваша справа... дый які з яго ваяка, ледзь ногі перастаўляе...

— З гэтага чалавека будзе добры воін,— нездаволена паглядзеў на пісара райваенком. — З-пад Мінска прыйсці пешкі аж на Куршчыну, каб узяць у рукі зброю, можа толькі савецкі чалавек гэта зрабіць. Ён будзе без літасці біць фашыстаў! Трэба вам лепш вывучаць людзей. Няма чаго на чалавека цень наводзіць!

Пісар казырнуў і хутка выйшаў, аддаўшы на калідоры Налівайку падпісаныя паперы, ён пасля размовы з ваенкомам адчуваў сябе як мыла з'еўшы. Такая асечка!

На салдацкіх харчах Налівайка хутка паправіўся. Ён быў моцна складзены мужчына, кемлівы і спрытны. Яго рыжыя вусы, якія ён адгадаваў у часе падарожжа, некалькі яго старылі, і ва ўзводзе яго звалі —

бацькам, хоць яму ішоў толькі дваццаць восьмы год. Хадзіў ён уразвалку, гаварыў мала і запаволена, нібы ўзважваючы кожнае слова. Пра свае пакуты ў часе паходу ён, акрамя райваенкома, больш нікому не расказваў, лічыў гэта непатрэбным. Адзін дурань нават хацеў яго расстраляць, як шпіёна. Але што было, тое прайшло. Цяпер не было таго дня, каб ён не ўспомніў Хрысціну і сына. «Што яны зараз робяць? — думаў Налівайка. — Ці жывыя?» Ён успамінаў кожны куст, кожнае дрэва ў садзе, кожную сцежку, дзе малым хадзіў, і страшна сумаваў па сям'і і радзіме.

Яшчэ будучы ў запасным палку, Налівайка старанна вывучаў зброю, дакладна і хутка выконваў распараджэнні і звярнуў на сябе ўвагу камандавання.

«Дысцыпліна не шкодзіць чалавеку,— разважаў ён,— а памагае арганізаваць сябе, загартоўвае характар, без чаго немагчыма перамога».

А калі Налівайка апынуўся на фронце, пра яго хутка загаварылі. Праявіў сябе Налівайка на Курскай дузе. Сваім супрацьтанкавым ружжом Налівайка падбіў тры нямецка-фашысцкія танкі. Ён быў узнагароджаны ордэнам «Слава». Налівайку віншавалі саслужыўцы палка. Перш ён адчуваў сябе няёмка, а потым прывык да пахвалы. Але больш за ўсё здзівіла і ўзрадавала Налівайку тое, што ён атрымаў прывітальную тэлеграму ад райваенкома, які, як пасля высветлілася, увесь час цікавіўся лёсам салдата з Міншчыны і некалькі разоў пісаў у часць. Полк за гэты час удзельнічаў у многіх баях і шмат разоў папаўняўся.

Дывізія, у якой служыў Налівайка, стаяла ў абароне. Камандзір дывізіі правяраў палкі. Ён наўмысле шукаў сустрэчы з Ігнасём, хацеў даведацца, што можа салдат з той Слабады, дзе генерал калісьці лячыўся. Генерал яшчэ тады запісаў сабе ў блакнот прозвішча салдата, калі прадстаўляў да ўзнагароды. Спаткаўшыся, яны доўга гаварылі пра становішча на фронце.

— Калі ж ўжо, таварыш генерал-маёр, пойдзем у Беларусь? — выцягнуўшыся, спытаўся Налівайка.

— А ў цябе хто там? — генерал прыжмурыў вока і хітра запытаўся: — Жонка чакае?

— Усе людзі нас чакаюць не дачакаюцца.

— Дык ты з Слабады, з Наднёмання?

— Так. А адкуль вы ведаеце?

— У Слабадзе, па-мойму, толькі адзін быў Налівайка?

— Але, мой бацька быў прымаком.

— Ага,— генерал паспешліва запытаўся. — А бацька жывы?

— Перад вайною памёр.

— Шка-а-да,— генерал некаторы час маўчаў, потым, гледзячы на захад, нібы сам з сабою размаўляў: — Дык усё будзе ў свой час, мы — салдаты, загадаюць — пойдзем. А ты, бачу я, любіш сваю Беларусь. Гэта добра!

— Прызнацца па праўдзе, таварыш генерал-маёр, люблю свой кут больш за ўсё на свеце,— гаварыў Налівайка. — Як мне здаецца, нідзе няма прыгажэйшага краю. А можа, таму, што я там нарадзіўся.

— І мы, рускія людзі, любім беларусаў, лічым іх сваімі братамі. Шчыры там народ — апошнім падзеліцца,— прадаўжаў генерал. — Я гэта помню яшчэ па грамадзянскай вайне. Быў я на Нёмане цяжка паранены, мяне падабралі, вылечылі і пераправілі зноў у войска. Гэта не забываецца! — і генерал абняў салдата і пацалаваў.

— За што? — здзівіўся Налівайка.

— За тое, што ты некалі ў гумно прыносіў мне махорку, калі я ў вас паранены ляжаў, помніш? — сказаў генерал. — Крыўдна толькі, што памёр твой бацька, я з ім хацеў пабачыцца — душэўны чалавек,— генерал пасуравеў.

— Пачакайце,— успамінаў Налівайка,— дык жа ў нас тады быў салдат. Вы, мусіць, памыліліся?

— Не памыліўся! Тады салдат, а цяпер генерал.

— Правільна! — углядаўся Налівайка. — У вас на правай шчацэ павінен быць шрам. Бацька часта вас успамінаў... «З Івана Крывашэйна,— казаў,— будзе вялікі чалавек». А я вас не пазнаў...

— Дык ты, Налівайка, не сумуй, хутка будзем у Беларусі, яна нам таксама дарага, як табе Расія,— сказаў генерал, ён развітаўся і пайшоў.

Усхваляваны Налівайка ўспамінаў, як ён, будучы хлапчуком, прыносіў з мястэчка цяперашняму генералу тытунь, хадзіў па грыбы для яго. Яшчэ тады салдат Крывашэйн яго навучаў, што ніколі не трэба вырываць грыбы з карэннем, а ножыкам зразаць, пакідаючы ў

зямлі грыбніцу. Налівайка перабіраў у памяці жыццё ў Слабадзе, сваё маленства, першае каханне, нараджэнне сына, прыпамінаў сяброў і знаёмых. Лежачы ў акопе пад гарачым сонцам, ён прыгадаў цяністыя лясы, калі ён з Хрысцінай хадзіў у арэхі, як шапацеў пад нагамі тады верас, спявалі на ўсе галасы птушкі, славячы жыццё. Налівайку падабаліся гоман лясоў, бязмежныя прасторы калгасных палёў, задумёныя песні дзяўчат.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...

Пяхотная гвардзейская дывізія, у якой служыў Налівайка, з баямі прайшла сотні кіламетраў, гонячы фашыстаў з рускай зямлі. У баі пад Віцебскам Налівайка быў смяртэльна паранены. Нямецка-фашысцкія войскі паставілі сабе задачу — спыніць наступленне савецкіх войск. Яны пайшлі ў контратаку і на вузкім участку пусцілі больш за сорак танкаў. Мужна біліся савецкія гвардзейцы, але танкі рваліся наперад. Яны пагражалі змяць савецкія часці. Наступіў крытычны момант — забілі камандзіра роты і яго намесніка. Налівайка не разгубіўся і прыняў каманду на сябе. Сваім густым барытонам ён крыкнуў: «Памром за Радзіму, а не адступім!» Завязаўся гарачы бой. З-за ўзгорка выйшлі «тыгры», яны пайшлі ламаць нашу абарону. За «тыграмі» паднялася пяхота. У гэтым няроўным баі Налівайка асабіста вывеў са строю чатыры танкі ворага. І хоць страты роты былі вялікія, але фашысты не прайшлі; падаспелі савецкія танкі, і контратака нямецка-фашысцкіх войск захлынулася, іх супраціўленне было зламана, фашыстаў выбілі з умацаванняў і пагналі на захад. У палявы шпіталь санітары прынеслі Налівайку, хоць надзеі на яго выздараўленне і не было.

Навокал гераічнага ўчынку Налівайкі ўжо стваraліся легенды, нібы ён у часе бою гаварыў: «Калі нават будзеш насмерць скошаны куляю, і то падай галавою на захад». На самай справе гэта былі словы генерал-маёра Крывашэйна. Праўда, Налівайку, відаць, яны спадабаліся, і ён, аддаючы распараджэнне — наладзіць сувязь з суседняй часцю, каб адчуць локаць, сваім аксамітным голасам іх паўтарыў.

Налівайка быў у стане шоку: з перабітай адной на-

гою і другой параненай, з акрываўленым тварам, акачанелы, ён нерухома ляжаў на перавязачным пункце. Налівайка не крычаў і не войкаў, ні на што не скардзіўся і нічога не патрабаваў. Цела яго было халодным, твар спалатнелы, як у мерцвяка, погляд нерухомы, нібы ён глядзеў удалечыню, пульс ледзь-ледзь праслухваўся. На пытанні ён зусім не адказваў. Становішча яго было цяжкае, ён ледзь прыкметна дыхаў.

— Бедны салдацік, а старэнькі які,— цяжка ўздыхнула бабулька Марыля, гаспадыня хаты, у якой змяшчаўся палявы шпіталь. А калі ўсе выйшлі ў сенцы, яна стала на калені і ціха шаптала: — Сыходзіліся, зліваліся дзве гары... зрасцецца цела з целам... костка з косткаю... жыла з жылаю...

У хату ўвайшоў малады энергічны хірург Астап Галота. Ён узяўся за аслабелую руку параненага і нахмурыў бровы. Звярнуўшыся да афіцэра сувязі, які з ім прыйшоў, хірург сказаў:

— Далажыце генерал-маёру, што становішча параненага Налівайкі (урач хацеў сказаць безнадзейнае, але ўстрымаўся) вельмі цяжкае... Усё ж паспрабую... прыму ўсе меры... за вынікі не ручаюся...

— Ёсць,— казырнуў афіцэр сувязі і хутка выйшаў.

Хірург вырашыў перш зрабіць пераліванне крыві, а потым аперыраваць. Забегалі сёстры, а больш за ўсіх клапацілася бабулька Марыля: ёй чамусьці асабліва шкада было параненага.

Налівайку хутка зрабілі пераліванне крыві. Становішча параненага крыху палепшылася, і хірург здолеў зрабіць яму складаную аперацыю: ампутаваць нагу, а на другую налажыць гіпс і дастаць з твару невялічкі асколак, які аслабеў і не вылез з-пад скуры. Але ў той момант, калі здавалася, што жыццё Налівайкі выратавана, наступіла рэзкае пагоршанне яго становішча. А праз некалькі хвілін перастала біцца сэрца і спынілася дыханне.

— Памёр салдацік, а недзе, можа, чарада дзяцей, жонка, маці чакаюць і больш не прычакаюцца,— гаварыла голасна бабулька Марыля. Бабка сама сабе мармытала, але ўсе чулі: — Санітар казаў, што гэты салдацік адзін сорак ерманскіх танкаў адагнаў... Колькі ён людзей уратаваў!.. А тут гэтулькі дактароў не могуць адхадзіць аднаго чалавека...

— А што, каб паспрабаваць вярнуць чалавеку жыццё? — уголас падумаў Астап Галота, і цяпер чамусьці ў яго асабліва адчуўся ўкраінскі акцэнт, мусіць, на матчынай мове лягчэй было думаць. — Галоўнае — не ўпусціць часу.

Хірург загадаў хутка падрыхтаваць патрэбную апаратуру. Забегалі ўсхваляваныя ўрачы і сёстры. Калі апаратура была ўстаноўлена, Астап Галота пачаў нагнятаць кроў і адначасна, уставіўшы металічную трубку ў дыхацельнае горла параненага, уводзіў паветра ў лёгкія з дапамогай спецыяльных прыладаў.

Не больш як праз гадзіну ў параненага забілася сэрца, а праз некалькі хвілін з'явілася самастойнае дыханне, і праз некалькі гадзін Налівайка апрытомнеў.

— Дзе я? — слабым голасам запытаўся Налівайка. — Чаму я нічога не бачу?

— Будзеце бачыць,— заспакойваючы, сказаў хірург. Ён быў узрушаны, задаволена пасміхаўся, што ўдалася такая рэдкая і складаная аперацыя.

— Жывы! — узрадавалася бабулька Марыля.

— Хвораму патрэбны абсалютны спакой,— пагледзеўшы на бабульку Марылю, сказаў хірург, і ўсе выйшлі з хаты, акрамя ўрача.

Налівайка трызніў:

— Каля пчалы патрэбна, каб хадзіў акуратны і спакойны чалавек... Пчала любіць догляд... Рой!.. Бачылі, колькі раёў... Хрысціна!.. Я жывы...

Санітары знайшлі ў гімнасцёрцы Налівайкі запіску, у якой гаварылася:

«Дарагія таварышы!

Калі загіну ў баі, прашу лічыць мяне камуністам.

*Ігнат Налівайка*».

У гэты час зайшоў у шпіталь генерал-маёр Крывашэйн. Яму паказалі запіску.

— Налівайка варты таго, каб быць камуністам,— сказаў генерал.

Даведаўшыся ад урача пра стан здароўя хворага, павіншаваўшы маладога хірурга з удалай аперацыяй, ён выказаў меркаванне, што добра было б пакласці Налівайку ў нармальныя клінічныя ўмовы.

— Вы самі не ўяўляеце, што вы зрабілі,— гаварыў генерал-маёр Крывашэйн, звяртаючыся да хірурга. —

Над праблемай ажыўлення нябожчыка працавалі далёкія нашы продкі... Але аднымі заклінаннямі не паднімеш чалавека... Узброіўшыся сучаснай навукай, вы зрабілі скачок у будучыню... Ваш вопыт прадоўжаць і дасягнуць яшчэ большага...

Пад вечар хірург Астап Галота з хворым Ігнасём Налівайка пакінулі палявы шпіталь у вёсцы Брылёўка. Іх праводзілі: генерал, усе супрацоўнікі шпіталя і мясцовыя сяляне. Зрабіўшы круг над вёскай, лётчык паківаў крыллямі і ўзяў курс на Маскву. Бабулька Марыля перахрысціла ў паветры самалёт і ціха прашаптала:

— Шчаслівай дарогі!

Праз двое сутак, ужо будучы ў Маскве, Налівайка ўгледзеў запаленую лямпу, а праз некалькі дзён разгледзеў свайго ўрача, які не адыходзіў ад хворага. Праз два тыдні пасля аперацыі Налівайка прачытаў некалькі радкоў тэксту ў газеце.

Войскі Савецкай Арміі ■ баямі рваліся на захад. Не памагалі гітлераўцам ніякія іх умацаванні. Трэцяга ліпеня тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года быў вызвалены Мінск, а праз некалькі дзён і вёска Слабада, у якой жыла Хрысціна. Цяпер яна кожны дзень чакала весткі ад мужа. І вось аднаго дня Хрысціна атрымала пісьмо з фронту — пісаў мужаў саслужывец; ён паведамляў, што ў баі пад Віцебскам Налівайка быў цяжка паранены і, мусіць, не выжыў. Саслужывец сваімі вачыма бачыў смяртэльна параненага яе мужа, разумеў, што ніякіх надзей на яго выздараўленне не было, бо ён сцёк крывёю. І яшчэ саслужывец пісаў, што яна павінна ганарыцца сваім мужам, ён сапраўдны чалавек. Саслужывец хацеў быць падобным на Налівайку, адважнага і гордага сына свае Радзімы.

Засмуцілася Хрысціна, яна доўга горка плакала, ламала рукі, а нарэшце прымірылася, што не ў яе аднае гора і што не адна яна асталася ўдавою, а дзіця сіратою. Ёй хацелася толькі даведацца, дзе пахаваны яе муж, і яна напісала пра гэта ў часць, дзе ён служыў.

А Налівайка гэтым часам правіўся, твар зарубцаваўся, ён прабаваў ужо хадзіць на пратэзнай назе. Налівайка вырашыў не пісаць дадому, што астаўся кале-

кам, каб не прымушаць Хрысціну раней часу пакутаваць. І прыехаць ён хацеў пад чужым прозвішчам, нібы мужаў сябра, і сказаць жонцы, што яе муж астаўся калекам і ці прыме яна яго такім, а калі адмовіцца, нічога ёй не казаць і пайсці ў свет. Калі рукі ёсць, то будзе на стале і кавалак хлеба. А што Хрысціна яго не пазнае, ён у гэтым быў упэўнены. Шрам на твары і вусы, якія ён за гэтыя гады адгадаваў, зусім змянілі яго аблічча.

Аднойчы пасля паўдня Налівайка злез на паўстанку Пагарэлы двор. Там стаяла адна-адзіная падвода з Слабады, хлопчык з сялянамі прывозіў здаваць збожжа, але тыя паехалі ўжо. Неўзабаве яны рушылі ў дарогу. На мышастым коніку яны трушком ехалі па знаёмай дарозе, падымаючы лёгкі пыл, які адносіла ўбок. Хлопчык расказваў Налівайку пра слабадскія навіны, якія адбыліся за час вайны. Ад хлопчыка ён даведаўся, што ў Слабадзе яго, Ігнася Налівайку, лічаць забітым і нібы ён быў вялікім начальнікам, камандаваў у баі цэлай часцю.

Яны ўехалі ў дрымучы лес. Гаманілі хвоі, сведкі нядаўніх гарачых дзён. Відаць былі завалы, пасткі, якія наладжвалі партызаны. Цяпер у лесе было так ціха, што нават быў чутны камарыны перазвон. Налівайка заўважыў, як упаў жоўты кляновы лісток, падобны на гусіную лапу. «Восень на дварэ,— падумаў Налівайка. — Як там дома?» Хлопчык апавядаў пра кожную падзею, якая тут адбылася, нібы сам быў удзельнікам яе. І чым бліжэй яны пад'язджалі да Слабады, тым больш Налівайка хваляваўся. Са слоў хлопчыка ён даведаўся, што яго сын вельмі ганарыцца сваім бацькам і крыху задзірае нос, а жонка Хрысціна паплакала і перастала. Да Хрысціны прыходзілі сваты, але яна і гаварыць з імі не стала, усё чагосьці чакае, не верыць, што яе муж загінуў. «Ну і малайчына,— падумаў Налівайка,— столькі гора звалілася на долю гэтай жанчыны. Дый я вінаваты, трэба было напісаць, што жывы». Калі хлопчык гаварыў, Налівайка ганарыўся тутэйшымі людзьмі, што ў час суровых выпрабаванняў яны не пакарыліся і не сталі на калені. Такі народ будзе жыць! Калі хлопчык расказаў пра жыццё-быццё яго жонкі і іншых кабет, што, нягледзячы на пагрозу смерці,

усім памагалі партызанам, а потым нават узялі вілы і дубіны,— задаволена пасміхаўся, думаючы: «Горача тут было фашыстам». Змяркалася, калі Налівайка прыехаў дадому. Усё тут было блізкім і родным, а дзве бярэзінкі, якія ён пасадзіў у той год, калі пажаніліся з Хрысцінай, ужо высока ўзнімаліся над хатай. Праўда, у адной з іх асколкам снарада была адламана галіна, але бярэзінка жыла.

— Я сябра вашага мужа, мы з ім разам служылі ў адным палку,— сустрэўшы Хрысціну, гаварыў, хвалюючыся, Налівайка. Хрысціна з падаткнутай спадніцай упраўлялася каля гаспадаркі. Яна занепакоілася і прывяла сябе ў парадак. Налівайку хацелася кінуцца да Хрысціны, абняць яе, прыціснуць да грудзей, расцалаваць, але ён сябе стрымліваў. Яшчэ больш Налівайка захваляваўся, калі ўгледзеў сына, які памагаў маці ў рабоце. — Вам пісалі, што ваш муж загінуў... Але, як высветлілася, ён быў цяжка паранены... і выжыў...

— Жывы! Жывы мой Ігнасёк! Жывы, родны! — узрадавалася Хрысціна. Яна плакала і смяялася. — Вы з ім служылі? Разам? А божухна, якое шчасце! Заходзьце, калі ласка, у хату, расказвайце. Гэта вы пісалі мне? Чаму вы не адказалі на маё пісьмо? Каб вы ведалі, як мы чакалі адказу... Сынок, наш татка жывы!.. Ты не будзеш сіратою...

— Жывы, а толькі... — абапіраючыся на палку, прайшоў да лавы Налівайка.

— Вы хочаце сказаць, што ён калека? Гаварыце. Я да ўсяго падрыхтавана. Які б ён ні быў, хоць без ног, абы жывы... Я яго не кіну, не-е! Ён жа на вайне стаў калекам... нас абараняючы... Жывы, мой саколік! — і Хрысціна запаліла лямпу.

Хлопчык падышоў да «невядомага» дзядзькі, разглядаў яго ўзнагароды; ён думаў: «Пэўна, і ў майго таткі ёсць ордэны, дый напэўна ёсць!»

— Ну, Віця, як ты тут без бацькі гадаваўся? — спытаўся Налівайка.

— Адкуль вы ведаеце, што майго хлопчыка Віцем завуць? — зацікавілася Хрысціна. — Вам муж гаварыў? — і раптам схамянулася, вельмі ж ужо голас знаёмы, пачала прыглядацца. — Ігнаська! Няўжо ты? Мой родны! Дарагі! Нібы з таго свету... Але ж трэба так падрабіць голас... Як з-пад зямлі загаварыў...

І Хрысціна, радасная, павісла на шыі мужа; яна цалавала яго ў вусны, у параненую шчаку, у бровы.

— А такі нібы з таго свету... — пасміхаючыся ў вус, гаварыў Налівайка. — Не завідна там... Сынок мой, ну падыдзі да мяне! Хіба не рады бацьку? А які ты вялікі вырас! А я ўяўляў цябе такім, якім пакінуў!

Налівайка схапіў на рукі сына і моцна прыціснуў да сябе. Ён частаваў сына цукеркамі, якія яшчэ ў шпіталі падрыхтаваў для малога. Налівайка не ўтрымаўся, каб адразу ж не расказаць жонцы, як яму было вернута жыццё. Малады ўрач Галота выратаваў. Сам генерал Крывашэйн на самалёце адпраўляў яго з урачом у Маскву.

— Дзякуй савецкім вучоным,— шчыра вымавіў Налівайка. — Ну, а вы як тут жылі?

— І мы пры фашыстах хадзілі, як пад зямлёю,— гаварыла Хрысціна, шчокі яе гарэлі макавым цветам. — Выходзіць, што Савецкая Армія і нам вярнула жыццё. Яно так і ёсць!

— Хрысціна, а як нашы пчолы?

— Гітлераўцы з сотамі выдралі, ліха на іх галаву.

— Ну што ж, абы жылося — завядзем новыя.

У гэты час зайшоў калгасны пісьманосец, ён прынёс паведамленне ад генерал-маёра Крывашэйна, што Ігнась Налівайка жывы, знаходзіцца ў шпіталі ў Маскве і што ён хутка павінен вярнуцца дадому.

Неўзабаве ў хаце набралася гэтулькі народу, што не было дзе яблыку ўпасці. Усе хацелі паглядзець на свайго аднавяскоўца і паслухаць праслаўленага салдата. На стале з'явілася чарка. Гаманілі людзі. І Хрысціна, узяўшы чарку, упершыню за гады вайны заспявала, а песня была ад сэрца, на поўныя грудзі, песня ад душы.

*1945*

# НА РОДНЫХ ГОНЯХ

Пасля паўдня ў гарачы жнівеньскі дзень сорак пятага года Кірыла Кавыча сышоў з поезда на станцыі Малінаўка і не пазнаў яе. Некалі ўвесь вакзал быў у зелені, навокал раслі ліпы, срабрыстыя таполі і клёны, а цяпер стаялі пачарнелыя ад часу пні. Замест вакзала ляжала бясформенная груда пабітай цэглы, тырчалі пагнутыя двухтаўравыя бэлькі, валялася з'едзеная ржою бляха са страхі, пабліскваль шкло, уціснутае ў асфальт колішняга перона. Было нясцерпна душна ад нагрэтай сонцам цэглы і бляхі, а ў паветры парыла, і ўся далечыня была зацягнута сівою смугой.

Кірыла вяртаўся з вайны. На грудзях яго салдацкай гімнасцёркі пабліскваля «Залатая Зорка». Людзі, якіх няшмат было ў гэты час на пероне, заглядалі Кірылу ў вочы, прыглядаліся да яго і, відаць, ім любаваліся — ганарыліся сваім абаронцам. Ільга было заўважыць, што Кірыла не так даўно атрымаў «Залатую Зорку», бо ён сам яшчэ не звыкся з ёю і час ад часу касавурыў вочы на высокую ўзнагароду.

Не знайшоўшы падводы — ды, па праўдзе кажучы, ён і не спадзяваўся на яе: час летні, гарачы,— Кірыла пайшоў пешкі, спяшаючыся завідна прыйсці дахаты, каб дзеці не палеглі спаць,— ён чатыры гады іх не бачыў. На вакзале яго ніхто не сустракаў, бо ён нікому не пісаў, што вяртаецца з войска. Кірыла ішоў берагам Дняпра па знаёмай дарозе і не пазнаваў некалі ўрадлівых палёў. На межах, якія з'явіліся пры фашыстах, парос быльняк, поле задзірванела, парасло пырнікам, а каля лесу параскідаліся хмызнякі. Відаць было, што цяжка тут жылося людзям пры чужынцах, бо нават зямля не вабіла рук і аставалася пустой і незасеянай. І не было каму сеяць. На месцы некаторых вёсак — адны папялішчы, і жывой душы не было відаць, нібы павыміралі. Ля дарог сям-там трапляліся магілы, а іх раней не было, яны з'явіліся за час вайны.

На ўскраіне лесу былі акопы, месцы нядаўніх баёў. Там лес ляжаў покатам, месцамі тырчалі напалам перацятыя дрэвы. Уяўленне было такое, нібы тут прайшоў страшэнны сілы буралом. Ужо шмат якія дрэвы пусцілі парасткі. Параненыя сосны і елкі не здаваліся,

хацелі жыць і жылі. Паміж параскіданым у беспарадку паваленым лесе лапінамі жаўцелі лісічкі, сям-там пракідаліся карычневыя сыраежкі, а каля зламанага некалі магутнага дуба, у дупле якога мог схавацца чалавек, тырчаў чорнагаловы баравік.

Кірыла ішоў адзін. На дарозе траплялiся ўціснутыя ў зямлю гільзы ад баявых патронаў, валяліся паламаныя дробныя дэталі нейкіх машын і прыладдзя. З выносістай меднастволай сасны слязілася смала. Каля куста ядлоўцу чарнела падбітая танкетка, спрэс абдзёртая навакольнымі каваляміі. Шмат тут валялася жалезнага лому, паржавелага калючага дроту. Гэты год быў дажджлівым. Паламанае і раз'едзенае ржою жалеза не было Кірылу дзівам, салдацкае вока да яго прызвычаілася. Кірыла думаў, з чаго пачынаць жыць.

«Як там дома? — варушылася ў галаве. — Ці жывыя і здаровыя? Яшчэ, мусіць, не ўправіліся з хлебам? Каб хоць не пагніла збажына на полі. Тады прыйдзецца класці зубы на паліцу».

Калі Кірыла апынуўся на родных гонях, то сурова ссунуў бровы, якія і без таго зрасліся на пераноссі. Так і было, як ён меркаваў, усё поле было ўстаўлена крыжыкамі і бабкамі. Ён узышоў на палетак і ўбачыў, што камлі ў снапах пачарнелі, пабэрсана салома, там гняздзіліся мышы. Кірыла з-пад густых брывей нездаволена бліснуў шэрымі вачыма. Яму такі парадак на полі быў не да спадобы. Ён любіў, каб і на полі і ў хаце быў парадак. Да вайны, калі Кірыла быў старшынёю калгаса, то на ржышчы, бывала, не знойдзеш ні аднаго колаcа, усё пазбіраны; у хатах было чыста, з'явілася грамадская лазня, і нават каля праўлення калгаса быў пакладзены тратуар, які — меркавалася — пройдзе па ўсёй вёсцы. Хоць і гэта яго тады не задавальняла: заглядаючы ў будучыню, ён хацеў бачыць родную вёску зялёным горадам. Марыў — пабудаваць камяніцы!

Глядзець доўга на нядбальства — не хацелася. Вярнуўшыся зноў на дарогу, Кірыла пайшоў хутчэй на ўзгорак, дзе паўз крыж — які некалі камсамольцамі быў знесены,— каля крушні, перасякала ніву палявая пясчаная дарога. І там зноў непарадкі: сярод поля агароды; а перад вайною калгаснікі самі ад іх адмовіліся і нават пагаварвалі зусім адмовіцца ад прысядзібных участкаў. Колькі ён за гэта паваяваў з Віткоўскім, які

ў той час быў брыгадзірам і ўпарта чапляўся за якую-небудзь адну граду, што была на полі прырэзана кожнаму калгасніку. Значыць, зноў прыйдзецца пачынаць спачатку. А каб не вайна, дык ён такі б дамогся не толькі адмовіцца ад прысядзібных участкаў, а і ад кароў, бо калгаснага малака хапала для людзей; і каровы і сядзібы (агароды) адрывалі калгасніка ад асноўнай работы. Можа, усё ж яму ўдалося б гэта зрабіць, але ў раёне напалохаліся гэтай навіны. «Няма такой устаноўкі»,— гаварылі. Колькі Віткоўскі потым з Кірылы кпіў! Яму памагаў Камар, які некалі на клірасе спяваў. Дайшоўшы да крыжа, на якім віселі фартушкі — крыж з'явіўся тут у час вайны,— Кірыла спыніўся. Кальнула ў сэрцы. Народ тутэйшы ніколі не быў набожным, навошта яму спатрэбіўся крыж. Значыць, нехта папрацаваў. Хто ж, акрамя Камара? З гэтага месца некалі льга было ўбачыць Макавішчы, але цяпер вёскі не відаць было. Па пісьмах ён ведаў, што вёска пры адступленні фашыстаў спалена. Але няўжо яшчэ ніхто не забудаваўся? «Значыць, сіл бракуе,— падумаў Кірыла і спакваля пайшоў. — Не лёгка будзе ўзбіцца на ногі».

На сваім седале Кірыла ўгледзеў пахілены комін, некалькі абгарэлых бярвенняў — усё, што асталося ад сасновай, як звон, смалістай хаты. На размытай дажджамі печы мяўкаў шэры коцік: ён, відаць, хацеў саскочыць адтуль, але баяўся. Кірыла здагадаўся, што гэта напэўна работа яго дзяцей. Відаць, яны, гуляючы, яго туды пасадзілі і забыліся. Ён зняў коціка з печы і пагладзіў. Яму прыемна было, што з гэтым кацянём гулялі яго дзеці. А саду, што Кірыла перад жаніцьбай пасадзіў, зусім не было. Ён напрост пайшоў па папялішчы на прыгуменне. Там, на месцы колішняй адрыны, густа разросся маліннік, і Кірылу здалося, што ў малінніку нешта мільганула, нібы дзіцячая сарочка. Не паспеў ён аднак зрабіць і некалькі крокаў па непрыемна рыпеўшым вуголлі, як з-за кустоў выглянуў хлапчук і, засланіўшы рукою вочы ад сонца, пачаў угледацца ў яго бок. Перш што кінулася ў вочы Кірылу, гэта непамерна вялікі жывот у хлапчука. За ім паказалася яшчэ двое дзяцей, і яны хутка пайшлі насустрач. Старэйшы хлопчык пазнаў бацьку,— і адно за адным пяцёра дзяцей кінуліся да яго і наперабой абнімалі і ца-

лавалі. Шчаслівейшай хвіліны за ўсе гэтыя гады Кірыла не перажываў. Аднак ён уяўляў дзяцей зусім інакшымі, чым яны былі. Яго здзівіла, што самы меншы хлопчык, які нарадзіўся, калі ён ужо быў у войску, пакруціў у руках кавалак цукру — бацькаў падарунак,— дый аддаў старэйшаму, бо не ведаў, што з ім рабіць.

«Не ведае дзіця смаку цукру,— зашчымела сэрца ў Кірылы. — Хлопец, відаць, за гэтыя гады нават яго не паспытаў».

Кірыла спытаўся ў дзяцей:

— А дзе ж маці?

— Яна пайшла ў раён,— адказаў старэйшы хлопчык,— там абяцалі памагчы прыдбаць карову. Пры фашыстах у нас не было ні каня, ні каровы, пад рыдлёўку садзілі бульбу, дый мама часта хварэла. Яна і сёлета часам занядужае — вядома нішчымніца. Але цяпер што, цяпер калгас памагае, толькі яна не вельмі хоча лезці ў авансы.

— Ох-хо-хо! — вырвалася з грудзей Кірылы. Не па гадах сталасць хлапчука гаварыла пра тое, што ў яго сцерлася маленства. Лоб у бацькі зморшчыўся, і на ім акрэсліліся дзве складкі. — А дзе ж вы, дзеткі, жывеце?

Старэйшы хлопчык паказаў на зямлянку. Наверсе яе расла трава, а там, дзе выходзіў комін, было чорна. Кірыла зайшоў у зямлянку. Замест стала стаяла нейкая скрыня, ложкам служылі нары з аполкаў, а невялічкае акенца ў адну шыбу было завешана фіранкай, выразанай з паперы. Жонка ў Кірылы была акуратнай, і гэта нават цяпер кідалася ў вочы: скрыня заслана яшчэ дзявочым абрусам, земляная падлога чыста падмецена і пасыпана жоўтым пяском, на заслончыку ў куце стаялі памытыя гліняныя міскі, накрытыя ручніком, вышытым гладдзю. Гэты ручнік жонка даставала раней з куфра толькі па святочных днях. Яна ведала, што ён Кірылу падабаўся, вельмі яго берагла. І калі ён цяпер вісіць на «сцяне», значыць, у яе душы свята і, мусіць, яна з дня на дзень чакала мужа. Кірыла сеў на калодку, якая служыла крэслам, а потым схамянуўся і пачаў частаваць дзяцей сухарамі. Пакуль ён даставаў з паходнага мяшка небагатыя салдацкія падарункі, дык меншы хлопчык тым часам прымяраў пілотку. Бацька

паглядзеў на яго і радасна ўсміхнуўся. Ад дзяцей Кірыла даведаўся, што на ўсю вёску Макавішчы было толькі тры каровы і сем коней, астатнюю жывёлу фашысты перавялі. І то, трое коней — кінутыя вайскоўцамі. Коні прыставалі, іх доўгі час паднімалі, а цяпер адзін з іх — буланы — нават падбрыкваць пачаў. Каб не трактары, дык поле асталося б незасеяным. Людзі на сабе, каровах і конях не здолелі б гэтулькі вырабіць.

— Але за трактары трэба плаціць хлебам,— уставіў старэйшы хлопчык.

Убачыўшы на паліцы драўляныя лыжкі, Кірыла з горыччу сказаў:

— Наколькі фашысты адкінулі нас назад. Нічога, нагонім, будзем працаваць да сёмага поту, але давядзём усяму свету нашу жыццяздольнасць! Каб не гэта праклятая вайна, як бы мы цяпер ужо жылі!

Неўзабаве ў зямлянку зайшоў Тарас Камар, з якім Кірыла Кавыча разам вучыўся ў школе. Камар у дзіцячыя гады спяваў на кліpace, а потым старастам царквы стаў. Цяпер ён быў старшынёю калгаса. У яго за плячыма быў аўтамат — у гэтых месцах яшчэ было неспакойна, часам бадзяліся фашысты па лесе і розныя іх падбрэхічы, якім цяпер у вёсках нельга было жыць.

Угледзеўшы Кірылу, Тарас з робленай радасцю кінуўся да яго:

— А-а-а, Кірыла, здароў, жывы!

— Як бачыш,— яны павіталіся.

— От добра, што ты прыйшоў, будзеш зноў старшынёю калгаса. Цябе людзі слухаюць. Памятаеш, нават кароў хацелі здаць і ад прысядзібных участкаў адмовіцца. Дык, можа, цяпер адразу на гэты шлях станем?

— Цяпер пакуль няма ў нас для гэтага ніякіх варункаў. На ўсё будзе свой час. Трэба вось вылезці з зямлянак дый займець што здаваць.

— Дык будзь, братка, старшынёю.

— А ты хіба хворы?

— Такі нездаровіцца. Рэўматызма, не пры табе кажучы, у нагах. За вайну прыдбаў хваробу, бо, вядома, увесь час быў у лесе, у дрыгве.

— Партызаніў?

— Дзе ты, братка, бачыў. Не з маім здароўем. Думаў, канцы мае будуць.

— Па табе гэтага не відаць.

— А што ж на мне ўжо такое?

— От няма чаго крыўдзіцца. Мужчына, як рыжык! Другі падбародак расце! Відаць, што не ўлягаеш у работу. Шчокі ружовыя, да вайны такіх не было. Выгляд у цябе добры.

— Гэта звонку бляск, а ўсярэдзіне дупло. Дый характарам я слабы. Надоечы ўгледзеў на дарозе былога старшыню воласці Віткоўскага, дык і рукі закалаціліся, сорам нават прызнацца. Пакуль я схапіў аўтамат, дык ён гэтым часам шмыг у кусты і даў драла ў лес. То куды я, братка, годны. У калгасе старшынёю патрэбен чалавек з тваім характарам. Ты сам не згуляеш і другім не дасі паляжаць на баку. А цяпер асабліва трэба многа працаваць. Цябе часта людзі ўспамінаюць.

— Добрым словам ці благім?

— Ого, братка, каб мне хоць дзесятую долю твае славы, тады б і я мог кіраваць. Я супраць цябе — нішто, а пра цябе кажуць: «Кірыла Кавыча — чалавек будучага». Ты ва ўяўленні людзей моцны, як корч, працавіты, як вол. А галоўнае — ты ўмееш заахвоціць людзей. Яшчэ і цяпер твая малатарня дзейнічае. Хвацкую, братка, галаву маеш! Каб людзі ведалі, што ты ідзеш, сустракалі б на станцыі ўсёй парафіяй.

— Ты і цяпер царкоўны староста?

— А, братка, каму ж быць. Царква ў вайну адыграла сваю ролю. Мы маліліся за перамогу...

— А сам ні ў армію, ні ў партызаны не пайшоў. Чаго ты глядзіш, як святы?!

— На чым жа я спыніўся? — Камар хацеў перавесці размову. — Ага. А мяне жанчыны і тыя не слухаюць. Добра, што твая кабета такая здатная, а то, мусіць, і цяпер бы яшчэ было не звязаным жыта. Залатыя рукі ў твае жонкі. Гэтулькі жыта звязаць! Я ёй налічыў больш, чым іншым, на пяць працадзён. Яна перадала палову свайго заробку за дзень у фонд Савецкай Арміі.

— Малайчына! — узрадаваўся Кірыла і захадзіў па зямлянцы.— Калі б такіх людзей не было ў тыле, дык хіба ж мы перамаглі б на фронце!.. — Ён спыніўся. — Так, так, таварыш Камар.

— Я, братка, цяпер не Камар.

— А хто ж ты?

— Камароў. Не зручна начальніку быць з такім

прозвішчам. — Тарас зноў хоча перавесці размову: — А дзе ж жонка?

— Дзеці кажуць, што ў раёне карову хоча дастаць,— у голасе Кірылы адчуваўся боль і спагада да жонкі, на лёс якой выпала гэтулькі клопатаў. Кірыла зірнуў на дзяцей, якія ўвіхаліся каля міскі з крупнікам. Бацька дзівіўся, як прагна дзеці малацілі лыжкамі.

— А чаму без хлеба? — спытаў у хлопчыка Тарас.

— Мама сказала, што, гуляючы, можна і без хлеба перабыць дзень,— адказаў, як дарослы, хлопчык. Кірылу гэта, як нажом па сэрцы, краянула. Тарас гэта заўважыў.

— Чаму ж вы мне не сказалі? — дакараў Тарас. — Каму-каму, а вам заўсёды даў бы хлеба. У тваё кабеціны з жанок больш за ўсіх працадзён. Каля работы яна ўпраўная, але гонару не абярэшся. Лепш пабуду без хлеба, але ў авансы не палезу. А гонар часам шкодзіць людзям. Яна ў цябе агонь! Калі закапыліць, дык не падступіся... А ў працы незамянімы чалавек... Усю вясну амаль адны жанчыны працавалі... А ўсё ж поле засеялі... Бачыў, пэўна?..

— А як жа! З нашым народам можна цуды тварыць...

— А мне мама пакінула лустачку хлеба,— пахваліўся меншы хлопчык,— а толькі я з'ем пасля...

Бацька паглядзеў на дзіця, і на яго суровым салдацкім твары з'явіліся слёзы.

— Каму-каму... а табе нават мукі, калі хочаш... Па сакрэту кажучы, невялікі запас ёсць... З мінулага года... Прынамсі, гэта мая рупнасць... Падабаецца, калі ў засеках поўна... І такі, мусіць, я трохі скупаваты...

— А з дзяржавай ты разлічыўся?

— Яшчэ не паспеў. Няўпраўка, дажджы. Дзяржава можа пачакаць.

— У рабочых і служачых таксама ёсць дзеці...

— Самім не хапае...

— Беларус заўсёды апошнім дзяліўся,— Кірыла падумаў. — А ў людзей ёсць хлеб?

— У сяго-таго няма.

— Дык вось што, Тарасе, высветлі, дарагі,— прапанаваў Кірыла,— у каго няма хлеба, і я прашу цябе, каб ты раздаў свой запас... навошта, каб мышы елі,

няхай людзі спажывуць... Гарачая пара, збажына з поля не ўбрана, а людзі не маюць хлеба... Іншая справа, каб яго не было... на няма суда няма... Цяпер для мяне ясна, чаму людзі не хочуць лезці ў аванс, таму што ты іх дакараў...

— Рэч ведама, па галоўцы не гладзіў!

— Вось бачыш, а гэта няправільна... І чалавек гатовы пайсці на ўсё, абы табе не кланяцца... А трэба заўсёды памятаць, што не ты гаспадар, а яны...

— Ой, ой, чорт мяне пацягнуў за язык! — заенчыў Тарас. — Што ты, братка, робіш? Я на праўленні правёў — стварыць запасны фонд... Адзін супраць усіх ідзеш?.. Супраць цячэння...

— Часам трэба,— тлумачыў Кірыла. — І ведай, што супраць цячэння толькі жывое можа плысці...

— Не магу,— пярэчыў Тарас.

— Народ — тваё апірышча,— развражаў Кірыла. — Цяпер ты ўсё, а страціш з людзьмі сувязь — пясчынка, трэска на хвалях...

— Ах, ах, ну і чаго я ішоў! Гэта ж падрыў майго аўтарытэту...

— Дык ты гэта зробіш? — пытаўся Кірыла. — Чым хутчэй ты дасі людзям хлеба, тым лепш будзе для цябе... А то даведаюцца ў раёне, па галаве не пагладзяць, я сам памагу ўставіць табе мазгі... Як гэта, каб у цябе ляжаў запас збожжа, а ў людзей не было хлеба?..

— Пачакай, Кірыла, табе я дам,— войкнуў Тарас.— А што да астатніх... Ведаеш, братка, пакуль усё ж я старшыня...

— Людзей перш трэба накарміць, а потым і работу патрабаваць...

— Я, праўда, братачка, характарам слабы, але разбазарваць хлеб... не дазволю!

— Якое да чорта тут разбазарванне! — падвысіў голас нездаволены Кірыла і прайшоўся, згінаючыся, па зямлянцы, якая была зроблена не па яго росту. — Дай таму, у каго няма... Трэба неадкладна засціртаваць хлеб... Палетак гэты я ведаю, там больш двухсот пяцідзесяці гектараў... Заўтра пойдзем раніцаю і з поля не сыдзем, пакуль з работай не ўправімся... А не паслухаеш мяне, згноіш збажыну, судзіцьмем...

— А божа мой! — успляснуў рукамі Тарас. — От напасць на маю галаву. Дык каму даць хлеба?..

— У каго ёсць працадні і няма чаго есці,— цвёрда сказаў Кірыла.

— Што з табою зробіш... Характарам я слабы... Пра мяне кажуць: чалавек-маятнік, сюды-туды, нашым і вашым... Не магу адмовіць... Прыйдзецца раздаць... А толькі ты будзеш адказваць...

— Добра. Я адказнасці не баюся.

— То і ты бяры мех дый прыходзь,— ужо з-за дзвярэй прапанаваў Тарас. — Няхай будзе па-твойму... Ты ж як упрэшся ў што... так было і ў школе... не пайду пеўчым у царкву...

— Па муку прыйду.

— Дзядзька Тарас шкадуе нават сабе з'есці,— уставіў старэйшы хлопчык. — Масла ад каровы на базар возіць мяняць на мануфактуру. — Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але паглядзеў на бацьку і змоўк. Кірыла мог сябе паставіць не толькі перад дарослымі, але і перад дзецьмі, каб яго паважалі і з ім лічыліся. У ім было нешта такое няўлоўнае, што прымушала людзей да яго прыслухоўвацца і нават прыглядацца, як ён рэагуе на той ці іншы факт. У час вайны Кірыла не толькі загартаваўся, а тут як бы канчаткова склаўся яго характар. Кірыла цвёрда адчуў глебу пад нагамі, ён падыходзіў да ўсяго па-дзяржаўнаму, як сапраўдны гаспадар зямлі. У Кірылы з'явілася ўпэўненасць у свае сілы, вера ў заўтрашні дзень.

На захадзе сонца сустрэліся Кірыла з жонкай Аленаю. Бацька нёс на плячах мех мукі, а маці вяла карову, якая пудзілася папялішча.

— Кірыла! — ад радасці ўскрыкнула Алена.

— Маці! — узрадаваўся Кірыла.

Падбеглі дзеці, яны ўзялі з рук маці повад і павялі карову, у якой быў збіты адзін рог, на прыгумень пасвіць. Бацька скінуў з плячэй мех з мукой. Алена ад радасці плакала. Кірыла гладзіў яе русыя валасы, з замілаваннем заглядаючы ў яе блакітныя вочы,— ён ганарыўся сваёю жонкаю.

— От добра, што ты прыйшоў,— вымавіла Алена. — Дзеці па табе ўвесь час сумавалі. А я, прызнацца, вочы выплакала. Кожны дзень выходзіла на дарогу сустракаць і так не сустрэла...

Яны зайшлі ў зямлянку і доўга паміж сабою гаварылі. Алена расказала Кірылу пра сваё жыццё-быццё

5 Зак. 1899

за гады адзіноцтва, пра крыўду, якую ёй зрабіў Віткоўскі, калі пры фашыстах быў старшынёю воласці: ён у першыя ж дні прыходу фашыстаў растрос калгас, не даў ёй нават хлеба на працадні (аб тваіх працаднях тады і гаворкі не было, злаваў на цябе, што гавяду эвакуіраваў у тыл), і яна вясною сорак другога года збірала скарынкі, бо не было чым карміць дзяцей. І цяпер ён, кажуць, недзе туляецца па лесе.

— Каб ты ведаў, колькі ў яго злосці на цябе. Ён, каб прымеў, у лыжцы вады цябе б утапіў,— гаварыла Алена.— Віткоўскі мяне з дзецьмі звёў бы са свету, але партызаны папярэдзілі: калі ў нас хоць волас з галавы ўпадзе, дык яго галаву здымуць.

— Дзякуй ім! — вырвалася з грудзей Кірылы. — Век родных не забуду.

— І цяпер трэба яго асцерагацца... Вядома, бандзюга... Можа з-за вугла...

— Віткоўскіх баяцца — у лес не хадзіць.

Увечары да Кірылы ў зямлянку зайшоў Тарас. Сям'я Кірылы Кавычы збіралася вячэраць. Тарасу хацелася ўвайсці ў сяброўскія адносіны з Кірылам — пасля дзённай размовы ў яго астаўся непрыемны асадак на душы. Ён дастаў з кішэні паўлітра і прапанаваў выпіць.

— Давай, не адмоўлюся,— згадзіўся Кірыла.

— А толькі па адной,— наліваючы, папярэджваў Тарас. — Няхай будзе пра запас. Спатрэбіцца.

Яны выпілі па чарцы і закусілі цыбуляй — другога пачастунку ў хаце не было.

— Э-эх, так і быць, у гонар твайго звароту, Кірыла, разнясём яшчэ па чарцы па мужчынах,— наліваў Тарас, але ў яго калацілася рука. Ён меркаваў, прапанаваць другую чарку Алене ці не, потым вырашыў, што не варта жанчынам псаваць такі дарагі прадукт. Тарас хацеў закаркаваць бутэльку, але яна неяк выслізнула ў яго з рук і бразнулася аб зямлю. — О-ой! — не вытрымаў Тарас. — Зараза! А такая была чыстая, як сляза. А мацунак які! Спірытус, настоены на палыне, ад жывата добра. Ах, ах!

— Каб ты гэтак не тросся над сваім спірытусам,— усміхнуўся Кірыла,— дык нічога б не здарылася. Скупы чалавек часам двойчы траціць.

— Але,— прагаварыў Тарас, а потым спытаўся: — То як, прымеш ад мяне старшынства? Ведаеш, ніяк не саўладаю з людзьмі. Што ні чалавек, то свой нораў мае. Характарам я слабы... Дый, маятнік... А братачка, хутчэй бярыся, абрыдала мне з імі валтузіцца. Навошта мне гэты клопат? Як ты лічыш?

— А ты мне так і не адказаў, чаму ты не пайшоў ні ў армію, ні ў партызаны? — паглядзеў Кірыла на Тараса. — Толькі адкрыта, не таячыся...

— Хацелася, братачка, выжыць... — выцер хустачкаю лоб і карак Тарас.— Толькі каб выжыць... Богу маліўся за гэта...

— А другія ішлі на смерць, каб радзіма жыла... Калі б яе не было, па фашысцкаму плану «ОСТ», семдзесят пяць працэнтаў беларусаў падлягала высылцы ў Сібір (гэта значыць, павінны быць знішчанымі) і дваццаць пяць працэнтаў германізаванымі (інача́й кажучы, рабамі)...

— А братачка, што ты кажаш... От што значыць несвядомасць... Я гэтага не разумеў... — Ён падумаў. — Прашу цябе, уваж, запрагайся ў калгасны воз... Каму ж, як не табе, яго везці...

— Хоць табе, Камароў, і не хочацца здаваць старшынства,— іранічна вымавіў Кірыла,— але калі людзі пажадаюць, дык я такі ўважу...

— Дзіва! — не ўтрымаўся Тарас. — Цябе хлебам не кармі, а дай кіраваць людзьмі... Ты нібы для гэтага народжаны... А ў мяне нешта не выходзіць,— у голасе Тараса адчувалася крыўда. — Што ж, адпачнем, павучымся... З цяперашнімі людзьмі ніяк не саўладаеш...

— Цяпер зусім не тыя людзі,— згадзіўся Кірыла і нібы сам з сабою разважаў: — Вайна хоць каго пераменіць. Толькі ў які бок? Адзін навучыцца за плечы другіх хавацца, а другі — як самому выстаяць і другіх выратаваць. Вось і трэба абаперціся на тых, каму па горла хапіла чорнага дня і хто не хоча, каб тая галеча, якую фашысты пакінулі, доўга цягнулася. Усё залежыць ад нас саміх. Чым хутчэй мы па-сапраўднаму возьмемся за працу, тым хутчэй выберамся з нястачы.

— Дык што будзем рабіць, Кірыла? — тупаючы на месцы, спытаўся Тарас.— Ты, відаць, нешта сур'ёзнае задумаў...

— Заўтра раніцай збірай усіх людзей, і пойдзем на

5*

поле,— адказаў Кірыла. — З палеткаў не сойдзем, пакуль не засціртуем жыта...

— Што? — здзівілася Алена. — Хоць бы некалькі дзён адпачыў, ты за сваё жыццё і дня не згуляў...

— І я гэта скажу,— падтрымаў Тарас.— Што мы, без цябе не справімся? А я, прызнацца, меркаваў, што, можа, ты адкамарыш нешта ў сусветным маштабе...

— Заўтра раніцай ідзем, і пакуль не засціртуем, з поля не вернемся,— сказаў Кірыла, а потым дадаў: — Дарэчы, ідуць не толькі дарослыя, а і дзеці — збіраць каласы. Можа, ухопім да дажджу, іначай будзем без хлеба. Хлеб — святая святых. Бачыў, увечары сонца заходзіла за хмары... Па народных прыкметах, можа быць дождж. А намочыць яшчэ раз — усё прапала.

Ведаючы характар Кірылы, Алена не пярэчыла, бо ўсё гэта было б дарэмным. Калі Кірыла надумаецца што зрабіць, дык ніхто яго не перайначыць. Затое іх калгас славіўся на ўсю вобласць і людзі жылі ў дастатку, быў хлеб і да хлеба, не сорамна было, калі госць з дарогі зойдзе. Тарас, не марудзячы, выйшаў з зямлянкі.

— Хто яго зрабіў старшынёю, гэтага багамольца?

— Выйсця іншага не было, адзін мужчына аставаўся на ўсю вёску.

— Дык жа цяпер многія вярнуліся з вайны.

— Усіх мужчын ён паставіў начальнікамі, а жанчыны працуй.

— Гэтага больш не будзе.

Яны некаторы час маўчалі.

Мыючы лыжкі, Алена дабрадушна бубніла:

— Хоць бы з тыдзень пабыў з дзецьмі,— але ў душы была рада, што Кірыла адразу бярэцца за работу.

— Бачыш, не выпадае.

— Табе і памерці не будзе калі. Чатыры гады яго не бачыла. Высахла сэрца па ім. Работы век не пераробіш.

— Яно так, але без хлеба блага,— задуменна гаварыў Кірыла. — Думаеш, мне не хочацца пабыць з дзецьмі, але трэба дбаць, каб быў на стале хлеб. Заўсёды было: хто мае хлеб, той гаспадар становішча. А цяпер гэта тым больш важна! Пераможцам уласціва заспакойвацца. Але камуністы людзі асобага складу, яны ведаюць, што наперадзе вялікая барацьба. Трэба адстаяць мір на зямлі.

— І ты, можа, стаў камуністам?

— Пасля штурму рэйхстага мяне прынялі кандыдатам у члены партыі.

— Віншую! — Алена выцерла фартухом рукі, абняла і пацалавала мужа.

— Ты ж некалі пярэчыла...

— Бо дурная была... У вайну, каб не камуністы, я загінула б... Камуністы заўсёды былі наперадзе...

Раніцаю яшчэ Кірыла спаў, а Алена ўжо ўхадзілася каля печы. Не паспелі яны паснедаць, як на вуліцы загаманілі людзі. Алена дакарала мужа, што ён яшчэ не ўсё расказаў, а ўжо на работу ідзе. Кірыла моўчкі насунуў шапку і выйшаў на двор. Яму не хацелася з жонкаю спрачацца, хоць у душы быў з ёю ў згодзе. Ён разумеў Алену і лічыў, што ёй больш, чымся яму, хапіла за гэтыя гады (колькі маці пакутуе, калі дзецям няма чаго есці!), ён ведаў, што ёй хочацца пагаварыць з ім, раскрыць душу, але справа патрабавала ісці на поле. Ён з малых год прывык паважаць працу, гэтаму яго маці навучыла, і калі, бывала, часам ён дзень прагуляе — яму няёмка было садзіцца за стол. «Праца красіць і славіць,— любіў уголас разважаць Кірыла і часта паўтараў словы: — Праца — вышэй за ўсё. Калі чалавек у поце зарабляе хлеб, ніякая дурнота не прыходзіць у галаву, бо няма часу пра гэта думаць. У працы — наша будучыня. Трэба дбаць пра заўтрашні дзень».

Людзі не ведалі, чаго іх склікалі. А калі пачулі ад Тараса, што трэба на некалькі дзён і начэй ісці на поле (са слоў Тараса так можна было зразумець), загаманілі:

— Звар'яцеў чалавек, ці што!

— Звар'яцееш, калі жыта на полі стаіць і можа пагнісці.

— Не пойдзем! — піскнуў Раман Канапелька, які не вельмі гарнуўся да работы, а больш выкіроўваў, каб з вудай на беразе рэчкі пасядзець.

Тарас яго ўгаворваў, але ён і слухаць не хацеў. Тады загаварыў Кірыла, словы яго былі прадуманыя і важкія, ён гаварыў проста, зразумела і пераканаўча.

— Не на пана працуем,— сказаў Кірыла,— усё гэта наша, калгаснае... Сабе горш зробім, калі згноім жыта...

— Праўду чалавек кажа,— пачуўся голас.

Аднак Кірыла не ўсіх пераканаў, чуліся галасы шаптуноў:

— Калі ты такі порсткі, дык ідзі сабе, а нам і дня хопіць, не гарыць. Ці чулі вы, можа, на некалькі дзён... і начэй... Гэта ж, можа, не фронт... — не ўнімаўся Раман.

— Яшчэ які фронт,— заўважыў Кірыла. — Хлеб— гэта палітыка. Мы не можам дапусціць, каб гінуў хлеб. Колькі працы сатрэцца...

Як толькі Кірыла адчуў, што большасць яго зразумела і людзі згодны пайсці, ён прыгразіў:

— А хто не пойдзе, няхай тады наракае на сябе, цацкацца з ім не станем. Не такі цяпер час! Трэба думаць, як хутчэй аднавіць разбураную гаспадарку, каб нас не палохалі сілай. Шаптуны, хочуць яны гэтага ці не, дзейнічаюць на руку ворагу, віткоўскім і ім падобным... Мы да Віткоўскага дабярэмся... Ён паказаў сваё воўчае нутро... дні яго злічаны...

— Трэба ісці, мужчыны! — пачуўся разважлівы голас. — А то і сапраўды можа пайсці дождж. Мы ведаем Кірылу не першы год, чалавек ён гаспадарлівы і ведае, што рабіць... А хіба яму хочацца ў першы дзень ісці ад дзяцей?.. Што ён, сэрца не мае?..

Як бы там ні было, шмат хто муляўся, але выйшлі ўсе, бо ведалі, што Кірыла — не Тарас, які назаўтра можа забыцца, калі яму паставіць чарку. А Кірылу чаркай не спакусіш, хоць ён мог выпіць. Для Кірылы дарагі чалавек тады, калі ён можа пайсці на любыя цяжкасці, паступіцца асабістым, абы людзям гэта ішло на карысць.

Увесь дзень людзі не сышлі з поля, працавалі дарослыя, і дзеці памагалі. Кірыла працаваў за двух. Не адставаў і Тарас, ён намагаўся з усіх сіл. Гладка зачэсаныя назад, змазаныя алеем рудыя валасы на галаве цяпер раскідаліся і звісалі пасмамі. Спорылася праца, людзі адчувалі арганізуючую руку Кірылы, бралі з яго прыклад, як трэба працаваць. З Кірылы ліўся пот градам, кашуля на целе была мокрай. Людзі дзівіліся, адкуль у Кірылы быў такі спрыт у рабоце, некалькі чалавек не спраўляліся падаваць яму снапы. Тут, на полі, у часе абедзеннага перапынку людзі расказалі Кі-

рылу пра Віткоўскага, які фашыстам лізаў боты і, каб выслужыцца, шмат утапіў сваіх людзей.

— Што ж, капаў другім яму,— гаварыў Кірыла,— сам у яе ўваліцца... Трэба толькі паскорыць яго пагібель... Чым менш будзе поскудзі на свеце, тым лепш чалавеку, што жыве з мазаля... Круцельствам свет пройдзеш, але назад не вернешся... — Кірыла паглядзеў на крыж, на якім віселі фартушкі. — Да вайны тут не было гэтага крыжа... Хто яго паставіў?..

— Тарас,— адказаў Канапелька.

— А фартушкі хто начапіў?

— Ён...

— Што ты вярзеш! — абурыўся Тарас. — Фартушкі не мае...

— Вядома, не твае, а старых бабулек, якія прыносяць палатно ў царкву...

— Царква ў вайну адыграла сваю ролю...

— Але, у вайну вы нажыліся, прымусілі амаль усіх дзяцей перахрысціць,— гаварыў Канапелька.

— Каб фашысты не чапляліся...

— Якая справа фашыстам да дзяцей, калі, як гаварыў Кірыла, тры часткі беларусаў падлягалі высяленню ў Сібір (знішчэнню), а адна частка стаць рабамі...

Загулі людзі. Тарас апусціў галаву.

— Крыж струхлеў ужо, і фартушкі пагнілі,— паглядзеўшы на Тараса, прагаварыў Кірыла.— Спадзяюся, што новыя не з'явяцца...

— Не, не,— запэўніў Тарас.

На другі дзень пасля паўдня ўсхадзіліся вятры. Стагналі, енчылі лясы, што сцяною стаялі навокал палеткаў, ляцела сарванае лісце, не затрымліваючыся на ржэўніку, потым закурэла, задымілася. Найшла вялізная чорная хмара, бліснула маланка, грымнуў гром, і як з вядра лінуў дождж. Кірыла злез са сціпрты, ён быў задаволены, што ўхапілі ледзь не ўвесь хлеб прыбраць.

Хаваючыся ад дажджу, людзі абляпілі сцірту. Па разорах пацяклі ручаіны, гонячы саломінкі ржэўніку, пенілася дажджавая вада.

— Дык вось што, Тарасе,— разважаў Кірыла, адышоўшыся ўбок,— ведай, што хоць скупасць — не дурасць, але калі яна становіцца празмернай — набывае адваротную якасць... Каб ты не даў людзям збожжа і мукі, дык мы маглі б астацца на зіму без хлеба. Гэты

дождж пайшоў надоўга, бачыш, вакол аблягло. А цяпер я ўпэўнены, што людзям будзе што есці. Галоўнае — клопаты аб чалавеку!

— Але,— згадзіўся Тарас, гледзячы ў другі бок. Ён заўважыў, што нехта каля лесу мятнуўся, і ўголас падумаў: — Хто б там мог быць? Нашы, здаецца, усе тут...

Раптам пачуўся стрэл. Каля вуха Кірылы пчалою празвінела куля і ўрэзалася ў сцірту. Кірыла не разгубіўся; як чалавек вайсковы, ён адразу вызначыў, адкуль быў палёт кулі. Кірыла выхапіў у Тараса аўтамат.

— Мусіць, дзеці страляюць,— нехта сказаў. — От базэрнікі!

— Добрае дзіця! — прагаварыў, цэлячыся, Кірыла іразануў па ўскраіне лесу. З-за дрэва аддзялілася чорная кропка. Кірыла яшчэ даў чаргу, кропка ўпала. Туды хлынуў народ. Людзі ў забітым пазналі былога старшыню воласці Віткоўскага, які бадзяўся па лесе.

— Гадзюка! — нехта сказаў з натоўпу.

— Але ж і выгуляўся, аж блішчыць! — гукнуў Канапелька.

— Закапаць,— распарадзіўся Кірыла, падняўшы аўтамат забітага. — Які жывот адгадаваў!.. Як ён толькі яго насіў!..

— Уга, ці такі ў яго быў жывот пры фашыстах,— сказаў Канапелька. — Але чамусьці ў апошні час трос галавою... Казаў, нервы...

— Вазьмі, Тарасе, свой аўтамат,— гаварыў Кірыла,— саслужыў ён мне службу верную... Ну што ж, Віткоўскі,— усміхнуўся Кірыла,— сабаку сабачая смерць... Расквіталіся мы з табою за ўсё... І за тых, якія праз цябе павешаны, расстраляны і спалены... і за пакуты людзей... і за слёзы дзяцей... — Ён звярнуўся да Тараса: — Дык з кім ён знаўся?

— Называў нейкага Радаслава Астроўскага,— адказаў Тарас.— Ездзіў па выкліку на нейкі кангрэс...

— А-а-а, таго самага беларускага нацыянал-фашыста Астроўскага, які з дазволу гестапаўца Горберга, што замяніў Кубэ, перад адступленнем нямецкіх фашыстаў стварыў раду... Цьфу, поскудзь! — Ён звярнуўся да Тараса: — Бяры аўтамат...

— А навошта ён мне? Адна замінка... А табе, глядзіш, спатрэбіцца,— адмахваўся Тарас.

— Ну, няхай будзе, ён есці не просіць,— згадзіўся Кірыла. — А гэты трафейны аўтамат будзе брыгадзіру. Пакуль нам зброя патрэбна...

Марасіў дробны дожджык, падобны на восеньскі. Кірыла да ніткі прамок. Ён ішоў разам з людзьмі, стомлены, але задаволены, што зрабілі важную справу — уратавалі хлеб. Ідучы, Кірыла выказваў свае меркаванні, як хутчэй аднавіць Макавішчы, каб людзі зноў зажылі па-чалавечы.

Як толькі ў раёне даведаліся, што з войска прыйшоў Кірыла Кавыча, прыехалі ў Макавішчы, каб павіншаваць са зваротам, параіцца, як хутчэй паставіць калгас на ногі. Тады ж, па просьбе калгаснікаў, быў склікаты агульны сход, на якім Кірылу Кавычу зноў абралі за старшыню. Алена была страшна гэтым незадаволена. Яна наперад ведала, што цяпер Кірыла мала калі будзе дома.

Меркаванні Алены цалкам пацвердзіліся. Хоць плечы ў Кірылы і былі шырокія, але ж узвалілася на іх і ноша цяжкая. Трэба было думаць, як вылезці людзям з зямлянак, як наладзіць гаспадарку.

— Цяжка будзе кожнаму ў паасобку забудоўвацца,— гаварыў на адным са сходаў Кірыла,— трэба брацца гуртам, тады справа пойдзе лепей... І будаваць будзем камяніцы. Я дагаварыўся ў раёне, дадуць крэдыты... Мы пабудуем такія дамы, каб нам пазайздросцілі... Мы гэта можам зрабіць... і зробім!

— Але, сярод лесу жывем, і будуй мураваныя дамы, на чорта,— пярэчыў Тарас. — Вярзеш ты, братка, сам не ведаючы што... Драўляныя дамы хутчэй будаваць, і здаравей у іх жыць... асабліва з маімі нагамі...

— Ага! — загаманілі мужчыны.

— Сам ты вярзеш,— абурыўся Кірыла,— плявузгаеш... от абы-што... Давайце разбярэмся што да чаго... За маю памяць вёска некалькі разоў гарэла... Колькі мы ўклалі сілы і сродкаў у гэтую справу, і ўсё пайшло прахам... Дый лесу не так ужо багата астаецца... А наша зямля патрабуе затрымкі вятроў... І выгляд вёскі будзе зусім іншы... І яшчэ ёсць меркаванні, але ж мы не дзеці, каб усё разжоўваць і ў рот класці...

— Слушна гаворыць,— заўважыў мужчына. — Кірыла наперад глядзіць.

— Якое там слушна,— не ўнімаўся Тарас. — Драўляныя дамы шмат выгадней. А з некаторага часу так павялося, што б Кірыла ні сказаў — усё наперад глядзіць. Ён, бачыце, заслужаны чалавек, а ўсе мы...

— Справа тут не ў заслугах,— сурова вымавіў Кірыла,— а справа ў заўтрашнім дні калгаса «Іскра»...

Людзі разгаварыліся. Гутарка ішла пра тое, з чаго пачынаць: з гаспадарчых пабудоў або будаваць хаты калгаснікам. І адно і другое патрэбна. Кірылу непакоіла, дзе ставіць на зіму жывёлу, якую вярнулі з эвакуацыі. Гавяда не паскардзіцца, калі ёй будзе холадна.

— От што, мужчыны, мяне бацька вучыў,— гаварыў Кірыла,— калі хочаш быць добрым гаспадаром, дык у першую чаргу дбай пра жывёлу... Таму — возьмемся за хлеў... Жылі мы ў зямлянках дагэтуль, пажывем яшчэ... А налета будзем ставіць муры... За зіму трэба падрыхтавацца...

Большасць людзей з Кірылам згадзіліся.

— Бачыш, Кірыла,— гаварыла Алена,— яшчэ толькі закладзены першы падмурак, а ў цябе ўжо на скронях з'явіліся сівыя валасы...

— А яны і раней былі, але ты не заўважала,— сказаў Кірыла і дадаў: — Гады, Аленушка, ідуць... За вайну з'явіліся... Сама ведаеш — не лёгка далася перамога. Нямецкія фашысты пры дапамозе беларускіх нацыянал-фашыстаў тыпу Астроўскага і кампаніі ў Беларусі замучылі і забілі больш за два мільёны дзвесце тысяч чалавек мірных савецкіх грамадзян і ваеннапалонных ды вывезлі ў нямецкае рабства каля трохсот васьмідзесяці тысяч чалавек... — Ён цяжка ўздыхнуў. — Пакуль адбудуемся, відаць, не адзін волас з галавы ўпадзе... Не так усё лёгка робіцца, як гаворыцца... Шмат будзе цяжкасцей, але мы іх пераадолеем... І зажывем яшчэ лепш, чымся жылі да вайны...

Натхнёны тым, што распачаты вялікія работы, якія зменяць аблічча калгаса «Іскра», ён выйшаў з зямлянкі. Алена праводзіла Кірылу добрым позіркам, бо яна таксама жыла яго шчасцем і верыла ў прыгожую будучыню.

*1945*

# НА ГУЦЕ

Яшчэ не паспела скончыцца вайна з фашысцкай Германіяй, як Васіль Азаркевіч, які толькі што выйшаў з лясоў Беларусі, дзе партызаніў, быў накіраваны на станцыю Выгляды — дырэктарам гуты. Злезшы з поезда, Азаркевіч не стаў шукаць больш зручнай дарогі, а пайшоў па вузкакалейцы: яму хацелася хутчэй даведацца, у якім стане тое, што яму трэба аднаўляць.

«Можа, і не так шмат разбурана,— думаў Азаркевіч,— бо гута ж убаку, не ўсякаму чорту вока мазоліла».

Але калі падышоў, надзеі яго апалі. Адзінока стаяла каробка галоўнага корпуса, прасвечвала ва ўсе бакі. Тут вяліся кажаны, снавалі ластаўкі. Навокал ні жывой душы. Азаркевіч у роспачы сеў на чамадан і пачухаў патыліцу. Ці раз Азаркевіч у час вайны быў на валаску ад смерці? Але ніколі не губляўся і не траціў надзеі, а тут задумаўся. Трэба было пачынаць жыць спачатку.

«Добра, што хоць каробка ўцалела, ёсць за што зачапіцца,— падумаў Азаркевіч і ўздыхнуў.— Цяжка з голымі рукамі брацца за такую работу, але нічога не зробіш — ніхто за нас рабіць не будзе. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Але з чаго пачынаць?»

І, нібы шукаючы, на чым спыніцца, позірк Азаркевіча пачаў блукаць па наваколлі, мімаволі адзначаючы розныя дробязі — і хвойнік, які рос на ўзгорку, і тое, што ў адным дрэве вершаліна ішла віламі, і тое, што дзве сасонкі на ўзлессі падаліся ў розныя бакі, як п'яныя. Пасля ён перавёў позірк на невялічкую рэчку, якая істужкай вілася паміж пясчаных берагоў. Ля падножжа ўзгорка рос сівец і параскіданы былі кусты ядлоўцу.

Не лёгкімі былі варункі жыцця ў Азаркевіча. Яму даводзілася з баямі прабівацца ў жыццё. Яшчэ будучы хлапчуком, ён пасвіў авечкі ў сваёй вёсцы Каралінкавічы, каб зарабіць кавалак хлеба і мець мажлівасць зімою вучыцца. У вёсцы было больш за шэсцьдзесят двароў. Васіль ведаў авечак кожнага гаспадара, у чый хлеў каторая зайшла. Сярод дзетвары ён быў завадатарам, за ім, бывала, гуртам хадзілі хлопчыкі. Ён пра-

чытаў незлічоную колькасць кніг, праўда, чытаў іх без разбору, што пад рукі траплялa. І граў ён на зробленай самім жалейцы даволі ўдала. А калі памёр бацька, маці з дзецьмі перабралася ў Свяцілавічы, а ён зусім падаўся на свой хлеб.

Яшчэ будучы студэнтам, Азаркевіч вызначыўся тым, што перад моцнымі не згінаўся і слабымі не пагарджаў. Памагчы чалавеку ў бядзе — для яго было абавязкам. Васіль абраў сабе ўласную пуцявіну і па ёй ішоў. Вядомым Азаркевіч стаў ва універсітэце і тым, што калі яшчэ быў на першым курсе, дык схапіўся ў рожкі з адным прафесарам, разабраў па костачках яго лекцыю, і той вымушаны быў па-новаму перабудаваць матэрыял. Праўда, Азаркевіч за гэта паплаціўся. Ці раз паслужныя пісакі, падхалімы розныя, каб дагадзіць прафесару, хаваючыся пад псеўданімамі, і адкрыта бэсцілі яго ў студэнцкім друку. І калі прафесару Скуратовічу на працягу чатырох год вучобы Азаркевіча ва універсітэце не ўдалося яго «зламаць», дык на выпускных экзаменах паставіў яму «нездавальняюча». Гэта ўжо быў скандал. Большасць студэнтаў і перадавая частка прафесуры хоць і не лезлі ў бойку, не хацелі псаваць адносін са Скуратовічам (ён помслівы чалавек), але былі на баку Азаркевіча. Ён і тут не сагнуўся, прыняў бойку. Прыйшлося стварыць камісію па прыёму заліку, і пры самых суровых патрабаваннях Азаркевіч адказаў на «добра». Атрымаўшы веды і загартоўку, Азаркевіч пайшоў у жыццё.

За вайну Азаркевіч страціў усю сям'ю. Жонка з сынам жыла ў сваіх бацькоў на Случчыне. Фашысты спалілі вёску і ўсіх людзей. Выпадкам асталася жывою толькі адна жанчына. Перад тым як ехаць на аднаўленне гуты, Азаркевіч наведаў папялішча. Вёска ператварылася ў могілкі. Невядомымі людзьмі пастаўлены крыжы і на сядзібе бацькоў і жонкі. Цяпер у былой вёсцы стаяць абгарэлыя коміны, крыжы і крыжы. І зараз Азаркевіч куды б ні ішоў і што б ні рабіў — з галавы не выходзіў кучаравы хлопчык, якога ён моцна любіў. Такая жудасная смерць жонкі і сына моцна падкасіла яго: яму ішоў трыццаць першы год, а яго скроні былі сівымі.

Азаркевіч сядзеў у глыбокім задуменні: з чаго пачынаць адбудову гуты. Час ад часу ён паглядаў на чор-

ную хмару, якая насоўвалася з захаду. Накрапліваў дождж. На небе паказалася дугою вясёлка, тады яго пакінулі цяжкія думкі: ён залюбаваўся злучэннем колераў і не заўважыў, як да яго нехта падышоў.

— Ты што, чалавеча, так задумаўся? Мо ў адну дарогу?

— А вам куды? — падняў галаву Азаркевіч. Перад ім стаяў немаладога веку мужчына з невялікім клункам, але, відаць, цяжкім, бо адно плячо ў чалавека рэзка вытыркалася ўверх.

— На Выспу,— сказаў чалавек і паклаў клунак на зямлю, там нешта забразгацела.

— А мне ў Гарадзішча.

— Было некалі Гарадзішча, а цяпер няма. Фашысты прайшлі, а дзе іх нага ступіць — трава не расце. Вось тут стаяла гута, далёка ішла яе слава, шкельца выраблялі адмысловае, а цяпер — ляжыць груда друзу. І не хутка, мусіць, падымецца наша гута? — Апошнія словы былі так сказаны, што Азаркевіч адчуў у іх боль за народнае дабро, за чалавечую працу, якая так марна сцерлася. І гэта было не дзіва, гута на вачах у таго чалавека вырасла.

— Чаму не хутка? — запярэчыў Азаркевіч.— Трэба толькі дружна ўзяцца. Чалавек усё можа зрабіць, калі толькі моцна захоча. Вялікай сілай валодае чалавек!

— Узяцца не штука,— ухіліўся незнаёмы.— Толькі ж гэта, можа, не кузню паставіць або адрыну пры гумне, тут сілы мала, трэба матэрыял, грошы. А яшчэ вайна не скончана. Колькі яна на вецер пускае грошай!

— І матэрыялы і грошы будуць.

— Будуць, калі ў цэнтры паклапоцяцца. Трэба ім гэтую думку падаць, а то людзям нават зямлянкі няма чым зашкліць. А хутка народ пачне забудоўвацца, дык шкло толькі давай! Дый, прызнацца па праўдзе, рукі работы просяць.

— Вось мяне цэнтр і прыслаў сюды за гэтым,— паведаміў Азаркевіч.— Але з чаго пачаць — і сам не ведаю. А параіцца няма з кім. Нібы вымер народ.

— Авохці! Людзі ёсць. Ды толькі чалавек, што выжыў, з зямлі яшчэ не вылез, у зямлянках сядзіць. Але як пачуе стук на гуце, дык вылезе! Дарэчы, у нас сёетое прыхавана. Дазвольце пазнаёміцца, я — майстра

гуты Сцяпан Андрэевіч Кульчыцкі. Мой дзед, бацька і я з маленства на гуце працавалі.

— Вельмі прыемна! — сказаў Азаркевіч.— Я інжынер.

І яны паціснулі адзін аднаму рукі.

— Авохці,— міжволі прагаварыў Азаркевіч.— Дзе я чуў гэтае слова? Пачакайце, пачакайце, вы часам не ўдзельнічалі ў Лаўскім баі?

— А як жа! — з гонарам усклікнуў Сцяпан Андрэевіч.— А толькі нешта я вас не ведаю.

— А пра Васіля вы часам не чулі?

— А-а-а. То, можа, вы і ёсць той самы партыйны цэнтр?

— Той самы,— усміхнуўся Азаркевіч.

— Дык гэта вы той самы таварыш Васіль, а-я-яй, а божачка!

— Той самы.

— А лоўка вы тады абвялі вакол пальца фашыстаў. Яны вас шукалі, напароліся на вас і прынялі за іншага, пасля пасадзілі на машыну і рукамі памахалі.

— Так, было,— успамінаў Азаркевіч.

— Чуў, чуў. Нам нават пра тое гаварылі, як вы некалі свайго прафесара правучылі.

— Хто? — здзівіўся Азаркевіч.

— Таварыш Сяргей. От гэта быў чалавек! Як бы ён цяпер радаваўся нашай перамозе. Без пары чалавек загінуў. Я з ім быў асабіста знаёмы.

— Больш за два мільёны беларусаў склалі галовы. А колькі вывезена ў Германію.

Яны некаторы час абодва маўчалі, а потым Сцяпан Андрэевіч зноў загаварыў:

— Кідаюць вас з агню ды ў полымя.

— Нічога — трывалейшым буду. А Сяргея шкода, светлага розуму быў чалавек і загінуў салдатам. Вечная яму слава! — Азаркевіч крыху памаўчаў, а потым працягваў: — А вы ўвесь час былі мінёрам? Лоўка вы, «авохці», управіліся з ельніцкім бургамістрам... ён палез сцяг здымаць... і больш не падняўся.

— Былі справы! — і яны абодва засмяяліся. Сцяпан Андрэевіч прадаўжаў: — Але ўспамінамі доўга не пражывеш, цяпер трэба ўдвая працаваць... І мы з вамі зноў будзем рабіць чарнавую работу... будзем салдатамі на будоўлі... Англія, нябось, не мае такіх ран...

Францыя таксама... А Амерыка тым больш... Трэба паказаць, што мы не толькі добрыя воіны, але і лепшыя ў свеце будаўнікі... Сапраўдныя гаспадары. Перад намі ясная будучыня — камунізм. У імя камунізма я гатоў аддаць сваё жыццё. Я хоць і не камуніст, але гатоў з вамі працаваць да сёмага поту...

— Правільна! — Азаркевіч ускочыў і захадзіў.— Да сёмага поту трэба працаваць не толькі нам, але ўсім... Вы разумееце, колькі неабходна адбудаваць заводаў і фабрык, гарадоў і вёсак. Ды не такіх вёсак, якія былі, а мураваных, устойлівых і супраць часу і супраць розных нечаканасцей... А нечаканасці могуць быць, іх неабходна папярэдзіць... На нашых сённяшніх саюзнікаў надзея благая: бачылі, як яны валаводзілі з другім фронтам... І недарма!.. Толькі ў іх нічога не выйдзе... Хацеў бы я пабачыць сваю краіну праз сорак—пяцьдзесят год... Усюды дымяць фабрыкі і заводы... у зеляніне гарады... у вёсках мураваныя дамы... роўныя, як струна, дарогі, абсаджаныя пладовымі дрэвамі... Прыязджаюць людзі з усяго свету ў Маскву, сэрца нашай Радзімы, каб паглядзець, як мы жывем... А для гэтага, як вы кажаце, трэба працаваць, працаваць і працаваць... кожны на сваім месцы... Вы хоць і беспартыйны, але мы размаўляем на адной мове, аднолькава думаем, і розніцы паміж мною і вамі я не бачу ніякай...

— Розніца ёсць, вы і ў час вайны і цяпер ідзеце наперадзе.

Яны збіраліся ісці.

— Што гэта ў вас такое цяжкае, давайце я вам памагу паднесці,— прапанаваў Азаркевіч.

— Эт, розная драбяза, на руінах назбіраў,— адказаў Сцяпан Андрэевіч. З клунка пасыпаліся розных калібраў шрубкі і цвікі. Стары вінавата апраўдваўся: — От пачнем забудоўвацца, то ўсё патрэбна будзе, а цяпер яно пад нагамі валяецца... Каб гэта, як раней, пайшоў і купіў, а то не вельмі што дзе ўхопіш... Пакуль падашлюць — і гэты цвік спатрэбіцца, бо ён пад рукамі...

Сцяпан Андрэевіч запрасіў Азаркевіча да сябе. Па дарозе стары выкладаў свае меркаванні аб аднаўленні гуты. Яны абодва да таго захапіліся, што і не заўважылі, як лінуў дождж. Абапал брукаванай дарогі, па-

між разбураных камяніц, дзе некалі быў рабочы пасёлак, павырасталі маленькія драўляныя хаткі, зробленыя на скорую руку. Вакол былі агароды. Плотам служылі абгарэлыя ложкі. Пакуль гаспадар і госць дайшлі да доміка Сцяпана Андрэевіча, на іх не было сухога рубца. На ганку іх спаткала дачка Сцяпана Андрэевіча, рослая дзяўчына, Аксіння. Ёй ішоў дваццаты год, але на выгляд яна здавалася маладзейшай.

— Авохці! Дачушка, сустракай госця. Памятаеш, я гаварыў пра таварыша Васіля. Вось ён сам і ёсць. Будзем ладзіць гуту. От і ўся мая сям'я,— панура вымавіў Сцяпан Андрэевіч.— Сын на фронце загінуў. Жонку ў часе блакіроўкі страціў. Так, значыць, і жывем. А добра, што вы прыехалі, засумавалі мы без работы. Як адбудуем гуту, латвей будзе.

Вестка аб аднаўленні гуты хутка абляцела ўвесь пасёлак. Пад вечар распагодзілася. Каля хаты Сцяпана Андрэевіча сабраліся з пасёлка ўсе былыя рабочыя гуты, што ўцалелі, у пераважнай большасці ў гадах мужчыны, шмат было жанчын, падлеткаў,— усе гарэлі жаданнем хутчэй пачаць аднаўленчыя работы.

Азаркевіч ажыў душою. Ён гаварыў з веданнем справы, пераканаўча. Тры гады падпольнай работы, работы ў самых складаных і цяжкіх умовах, не прапалі дарэмна. Будучы сам тутэйшым чалавекам, ён добра ведаў людзей, умеў заглянуць у іх душу. Ён не мітынгаваў, не карыстаўся таннымі жэстамі, гаварыў роўна, нібы з кожным паасобку вёў гутарку, пераконваў людзей у неабходнасці хутчэй даць краіне шкло. У яго была жалезная логіка. Такую якасць ён набыў за час вайны.

— І так, сябры мае, заўтра на работу,— заклікаў Азаркевіч.— Не лёгкая доля нам выпала. Мы адстаялі свабоду. Новыя пакаленні не будуць у крыўдзе на нас. А толькі мы не маем права дарэмна траціць ні адной хвіліны, трэба як найхутчэй залячыць раны, нанесеныя вайной. Цяжка вось гэтыя руіны,— ён паказаў у бок гуты,— узняць да жыцця. Але мы павінны гэта зрабіць і зробім у найкарацейшы тэрмін, чаго б нам ні каштавала. Гэтага патрабуюць ад нас партыя і народ.— Ён перадыхнуў.— Збор а восьмай гадзіне, каля галоўнага корпуса. Бярэмся за земляныя работы. Гэта самая марудная і цяжкая праца, але трэба перш за

ўсё ачысціць памяшканне. Кожны прыходзіць са сваім інструментам, хто што мае. Заводаўпраўленне я мяркую скласці з пяці чалавек: дырэктара, намесніка дырэктара, галоўнага інжынера, бухгалтара і аднаго тэхнічнага працаўніка. Астатніх семнаццаць чалавек па штату не буду набіраць — яны мне пакуль што не патрэбны. Сваім намеснікам прызначаю майстра Сцяпана Андрэевіча Кульчыцкага. Мяркую — добры будзе намеснік.

— Лепшага цяжка знайсці! — з ухвалай загаварылі прысутныя.— Наш брат, рабочы!

— А цяпер спакойнай ночы!

Змяркалася. З-за лесу сярпом выплыў месяц, паказаліся зоры, якія адбіліся ў лужыне. Засвяціліся дзве каляіны, залітыя вадою. Па зямлі белай коўдрай слаўся туман. Павеяла холадам. Доўга яшчэ людзі не разыходзіліся, гаманілі. Рабочым спадабалася, што новы дырэктар гуты — чалавек справы. Гэта выявілася хоць бы ў фарміраванні заводаўпраўлення, у разуменні людзей — вылучэнні Сцяпана Андрэевіча сваім намеснікам.

Кульчыцкі і Азаркевіч пайшлі ў хату.

— З такім дырэктарам не прападзеш,— гаварыў стары рабочы.— Ён ведае — чаго хоча, і даб'ецца свайго. Вось што рэвалюцыя робіць з людзьмі. Крылатымі мы сталі!

— Чалавек, відаць, быў на кані і пад канём,— гаварыў другі.— Вайна загартавала. Мне думаецца, што пасля вайны будзе вялікі скачок нашай краіны наперад.

— Але, проста ў камунізм,— згадзіўся стары рабочы.

— Да камунізма далёка дыбаць,— не пагадзіўся другі.— Для гэтага трэба стварыць поўны дастатак, а гэтага дамагчыся не так лёгка. Пройдуць дзесяцігоддзі...

Паволі разыходзіліся людзі па дамах.

Госць і гаспадар сядзелі за чаркай. Аксіння не піла. Бацька падпіў і часта паўтараў адно і тое ж. Аксінні смешна было наглядаць за падвыпіўшымі, але яна не падавала выгляду. Сцяпан Андрэевіч сказаў Азаркевічу, дзе схавана заводскае абсталяванне, якое не паспелі эвакуіраваць. Азаркевіч занепакоіўся, ён баяўся, каб яно не паржавела, але стары яго заспакоіў, што

нічога не здарыцца, бо ён сам упакоўваў. Яны ўмовіліся, што Сцяпан Андрэевіч заўтра ж яго адкапае. Змораны Азаркевіч пачаў прыплюшчваць свае сінюшныя вочы, ён змагаўся з дрымотаю. Сцяпан Андрэевіч гэта заўважыў і прапанаваў легчы адпачыць. Азаркевіч ахвотна згадзіўся. Ён першы раз за тры з паловай гады клаўся спаць у ложку. Азаркевічу яшчэ і цяпер не верылася, што перайшоў на грамадзянскую работу.

Прачнуўшыся раніцаю, Азаркевіч заўважыў, што яго вайсковы гарнітур, які быў прасякнуты потам, што аж соль выступіла, памыты і выпрасаваны. Ён узяў боты і ўгледзеў, што анучы таксама вымыты. Азаркевічу стала няёмка. Ён зразумеў, што гэта работа Аксінні.

«Чым жа я ёй аддзячу?» — падумаў Азаркевіч.

— Авохці! Аксіння! — пачуўся голас Сцяпана Андрэевіча.— Ці хутка будзе снеданне?

— Даўно гатова! — адказала Аксіння.— Будзіце Васіля Мікалаевіча, а то людзі ўжо ідуць на работу.

— Добрай раніцы! — выйшаўшы ў сталовую, прывітаў Азаркевіч. Ён падзякаваў Аксінні за клопаты і пачаў тлумачыць, што толькі некалькі дзён, як выбраўся з лесу, і таму не паспеў яшчэ прывесці сябе ў парадак. Азаркевіч перад Аксінняй чамусьці пачырванеў. І гэта не ішло да яго суровага, абветранага твару, які аброс рыжымі калючкамі. Азаркевіч быў мажны, здавалася, як толькі вытрымліваюць швы на яго гімнасцёрцы.

— Канцы вы, Васіль Мікалаевіч, якія там турботы, дробязь! — усміхнулася Аксіння, паказаўшы свае роўныя белыя зубы. Яна была стройнай, рухавай, як жывое срэбра, часта без дай прычыны смяялася, і перш чым скажа смешнае, дык сама нарагочацца.— На тым свеце разлічымся вугельчыкамі...

Сцяпан Андрэевіч, Аксіння і Азаркевіч паелі бульбы з агуркамі, папілі чаю з чорнымі сухарамі, якія Азаркевіч прынёс з лесу, і пайшлі на гуту. Калі яны туды прыйшлі, было без чвэрці восем, а людзі амаль усе ўжо сабраліся. Сцяпан Андрэевіч з брыгадай пайшоў адкопваць заводскія рэчы, а ўсе астатнія людзі ўзяліся за ачыстку галоўнага корпуса. Работа ішла марудна, палова дня прайшла, а не было амаль ніякага знаку. Пасля паўдня Азаркевіч падышоў да Аксінні

і залюбаваўся яе работай. Ён меркаваў, што такая кволая на выгляд дзяўчына не саўладае з рыдлёўкай. Адно ж яна працавала нараўне з іншымі. Яму шкада стала дзяўчыны, і ён узяў з рук у яе рыдлёўку, падумаўшы: «Няхай крыху адпачне». Дзяўчаты з зайздрасцю паглядалі на Аксінню, яна не вытрымала іх позіркаў, выхапіла з рук Васіля Мікалаевіча рыдлёўку і з новай сілай пачала ўскідаць на машыну друз. Азаркевіч заўважыў, што больш моцныя дзяўчаты абліваліся потам, а ў Аксінні ні расінкі не было відаць на яе смуглявым твары, толькі задзёрыста блішчалі чорныя, як гузікі, маленькія вочы.

Ішоў час. Увесь корпус быў ужо ў рыштаваннях. Нялёгка давалася аднаўленне: то не хапала аднаго, то другога... Нідзе нельга было дастаць бляхі на страху,— накрылі чарапіцаю. Потым колькі валэндаліся, каб зашкліць вокны. І колькі радасці было, калі на рыштаваннях з'явіліся муляры. Шмат тут было рабочых: працавалі цесляры, пільшчыкі; у сярэдзіне корпуса вяліся мантажныя работы. У галоўным корпусе работы набліжаліся да канца, і ўсе асноўныя сілы будаўнікоў былі перакінуты на падсобныя памяшканні. Свая электрастанцыя давала энергію. Работа не спынялася ні ўдзень ні ўначы.

Неяк Азаркевіч з Сцяпанам Андрэевічам узняліся на рыштаванні галоўнага корпуса і сваім вачам не паверылі: перад імі разгарнулася панарама новабудоўляў. Вось муляры ўвіхаюцца, яны кладуць цагліну за цаглінай, растуць сцены жыллёвых дамоў. Не ведаючы стомы, працуюць муляры, паблісваюць на сонцы іх кельмы.

— Недарма кажуць, што з гары лепей відаць,— узрадаваўся Азаркевіч.— Такі ніштавата зроблена... Савецкія людзі, нягледзячы на перамогу, не зазнаюцца!..

— Многа зроблена,— падтрымаў Сцяпан Андрэевіч,— але многа астаецца рабіць... На жыллёвае будаўніцтва трэба націскаць, а то не будзе дзе жыць рабочым...

— Правільна,— згадзіўся Азаркевіч.— Гэта цяпер у нас самае вузкае месца.

— Але галоўнае зроблена,— радаваўся Сцяпан Андрэевіч.— Куды даваеннай гуце да сённяшняй...

Яны сышлі з рыштаванняў.

А ў будцы, што была збіта з аполкаў, у якой была кантора гуты, паміж прадстаўніком наркамата, які прыехаў з рэвізіяй, і дырэктарам адбылася гутарка.

— І спадзявацца не трэба,— гаварыў прадстаўнік наркамата,— больш грошай не атрымаеце.

— Як гэта? — здзівіўся Азаркевіч.

— А так. Хто вам дазволіў распачынаць жыллёвае будаўніцтва? Цяпер будзеце поркацца. А спажывец — чакай шкла.

— А дзе ж бы людзі жылі? Ды ўрэшце мне нарком дазволіў,— гаварыце з ім.

— Вы шмат на сябе бераце. Будзем пра гэта гаварыць у кіруючых арганізацыях. Нарком таксама не меў на гэта права...

— Нарком не з такіх, каб сваім адумам рабіць. Ён, пэўна, з кім трэба, раіўся, калі даў санкцыю на будаўніцтва жыллёвых дамоў.

— Зноў жа, да гэтага часу не ўкамплектаваны штаты ўпраўлення,— дакараў прадстаўнік.— Пасылаем вам людзей, а вы іх назад адпраўляеце. Гэта яшчэ што такое? Прывыклі партызаніць!..

— Пяць чалавек ва ўпраўленні ёсць, і болей пакуль мне не трэба. А ісці працаваць у цэхах вашы людзі не хочуць. Дык навошта мне баласт?

— Глядзіце,— усміхнуўся прадстаўнік наркамата,— штаты вам мы можам скараціць, але каб потым не плакалі ў камізэльку. (Гэтыя словы можна было зразумець: дзівак, хто гэта адмаўляецца ад таго, што табе даюць!)

— У мяне на гэты конт свае меркаванні,— тлумачыў Азаркевіч.— Я хачу, каб менш было накладных выдаткаў.

— Работа на будаўніцтве вядзецца яўна не па сродках,— зусім не слухаючы Азаркевіча, павучаў прадстаўнік наркамата. Льга было заўважыць, калі ў Азаркевіча на твары з'яўлялася пакута, дык прадстаўнік паціраў рукі і задаволена пасміхаўся: ён прычапіўся да дырэктара, выматваў у яго душу.— Не падабаецца мне, не падабаецца. А на вас ускладалі такія надзеі... Вы

будуеце не гуту, а нейкія палацы... Навошта вы фарбуеце памяшканне? Гэта лішняя трата грошай...

— Мы не такія багатыя, каб рабіць дрэнна,— пярэчыў Азаркевіч. Ён рабіў вялікія намаганні, каб не страціць цярпення.— Па-вашаму, рабочыя ўсё праглынуць. Яны гаспадары і хочуць як найлепей зрабіць.

— Нам лепш вядома, што і як трэба рабіць,— пілаваў прадстаўнік. (Іначай можна было зразумець: не сунь носа, куды не трэба.)

— Дык вось што я вам скажу: чужою галавою я жыць не намераны, у мяне свая на карку. Калі вы прыехалі, каб мне памагчы, то калі ласка... У мяне не хапае людзей, матэрыялаў, грошай... Давайце абмяркуем, дзе іх дастаць, а не... дык мне трэба займацца справай, а не пераліваць з пустога ў парожняе. Што ў вас яшчэ?

— Чаму вы не прынялі сабе ў намеснікі чалавека, якога я да вас прыслаў?

— Ах, вось яно што?! — усміхнуўся Азаркевіч.— Дык вы з гэтага б і пачыналі. Таму, што ён да гэтай работы не падыходзіць. Мінуўся той час, калі шаўца прызначалі кандзіцерам. Я з першага дня прызначыў сваім намеснікам былога майстра гуты Кульчыцкага і не намераны яго мяняць. Ён на сваім месцы.

— А калі мы вас прымусім гэта зрабіць.

— Нічога не выйдзе! Не вам з ім працаваць, а мне. І зразумейце раз і назаўсёды, што я ў апякунстве не адчуваю патрэбы.

— О-о-о,— аж прастагнаў прадстаўнік наркамата,— цяжка з вамі мець справу. Мне такі гаварылі, што вы з норавам чалавек.

— Не з норавам, а з прынцыпам,— запярэчыў Азаркевіч.

— Не прызнаеце ніякіх аўтарытэтаў,— папраўіўся прадстаўнік.

— Наадварот,— не згаджаўся Азаркевіч.— Я паважаю сапраўдныя аўтарытэты і надзвычай уважліва да іх прыслухоўваюся.

— «Князьком» захацелі быць!

— Нікольві, з «князькамі» ваюю,— пярэчыў Азаркевіч.— Я заўсёды раюся з рабочымі. Яны адобрылі маё рашэнне прызначыць Кульчыцкага намеснікам.

— Не важна!

— Вельмі важна. Трэба прыслухоўвацца да правячага класа. Вучыцца і вучыцца нам у рабочых і, зразумела, іх вучыць.

— Ха-ха-ха!

— У гэтым няма нічога смешнага,— устаў Азаркевіч.— Падпісаць вам камандзіроўку?

— Як! — ускочыў збянтэжаны прадстаўнік.— Выходзіць, вы мяне праганяеце з будаўніцтва?.. До-о-бра!

— Як хочаце, так і разумейце. Не даеце камандзіроўкі, глядзіце, для вас жа будзе горш. Прыйдзецца вам не толькі перад бухгалтэрыяй, але і перад жонкай рабіць справаздачу, калі не атрымаеце камандзіровачных. Бывайце!

— Пачакайце! Давайце пагаворым... балазе пачалі...

— Няма пра што...

На гэтым размова абарвалася. Яны выйшлі з будкі і разышліся ў розныя бакі. На будаўніцтве Азаркевіч адпачываў душою. Зладжана ішла работа. Чуліся галасы:

— Давай цэглы!

— Падкінь вапны!

— Цягні бэльку!

Адзін з дамоў увесь у рыштаваннях, муляры вывелі будынак аж пад самы дах. У першым паверсе ўжо ўстаўлялі рамы. Бесперабойна працавала лябёдка, падаючы цэглу. Кран падымаў двухтаўравую бэльку. Недалёка працаваў экскаватар, рыхтуючы новыя катлаваны для закладкі фундаментаў. Праносіліся машыны, падвозячы матэрыялы. Недзе празвінела піла, пачуўся стук малаткоў, залязгалі гусеніцы крана, які пераязджаў да другога аб'екта. «Вось яна, сімфонія нашых дзён»,— падумаў Азаркевіч. Заклапочаны, ён абыходзіў будаўнічую пляцоўку, аддаваў патрэбныя распараджэнні, з веданнем справы ўнікаў у самыя дробязі.

— От гэта сапраўдны гаспадар! — гаварылі рабочыя.

Восеньскі дзень схіляўся пад вечар, дзённая змена ішла дамоў. Выйшаў і Азаркевіч. Ён усё яшчэ быў узрушаным ад размовы з прадстаўніком наркамата. Аксіння заўважыла Азаркевіча і сцішыла хаду. Моладзь, ідучы наперадзе, спявала.

— А чаму вы не спяваеце? — спытаўся Азаркевіч.— І нешта вы за апошні час асунуліся? Вы не хворая?

Аксіння нічога не адказала, а толькі паглядзела на Азаркевіча. Яна падумала: «Няўжо ты не бачыш, што я цябе кахаю? Каб ты ведаў, што ў мяне на душы, дык тады б не пытаўся, чаго я асунулася».

У Азаркевіча прамільгнула думка: «Трэба цябе, дзяўчо, перавесці на лягчэйшую работу. І як я раней пра гэта не паклапаціўся!»

Узрушаны Сцяпан Андрэевіч хутка выйшаў з галоўнага корпуса гуты, ён быў заняты мантажом і хацеў сказаць дачцэ, каб яго не чакалі абедаць, але, угледзеўшы Аксінню з Азаркевічам, махнуў рукою.

— Дык што з вамі? — жартуючы, дапытваўся Азаркевіч.— Закахаліся?

— Але,— шчыра прызналася Аксіння.— Я пакахала аднаго чалавека.

— А ён вас кахае?

— Не ведаю,— паціснула плячыма Аксіння.

— А хто ён такі? Варты вас?

— Мусіць, я яго не вартая.

Яны некаторы час ішлі моўчкі. Аксіння павярнула ў бок рэчкі, а за ёю з-за далікатнасці пайшоў і Азаркевіч. Ён быў заняты сваімі думкамі: «Дзе дастаць грошай і матэрыялаў, каб скончыць будаўніцтва хоць бы аднаго жыллёвага дома да зімы». Яны ішлі па сцежцы, якая вяла праз іржэўнік. Сцежка гэта была вытаптана яшчэ тады, калі тут стаяла жыта. Невялічкая рэчка падковай агінала гуту. На другім баку рэчкі раскінулася сенажаць, там расла атава, чарадою хадзілі буслы, відаць, збіраліся ў вырай, а дзін бусел, нейкі малы і нягеглы, быў убаку — яму, відаць, не да палёту было ў вырай. Цяпер толькі Азаркевіч заўважыў, у якім прыгожым месцы пабудавана гута. Ён падумаў: «Чалавек быў з розумам і густам, які выбіраў тут месца для будоўлі».

— Ой, васілёк! — парушыла цішыню Аксіння.— Стаіць бедны адзін, сірацінкаю. Бачылі, які ён вялікі, падобны на вас.

І Аксіння звонка засмяялася.

— Ага! — згадзіўся Азаркевіч і ўсміхнуўся.

— Чаго вам стала смешна?

— Бачылі, як парыжэў ад камля васілёк, стары ўжо, у вянок дзяўчыне не падыдзе.

— Не такі ён стары.

— Дык вы мне скажаце, у каго вы закаханы? — пытаўся Азаркевіч.

— А хіба вас гэта цікавіць? Па-мойму, у вас, акрамя адбудовы гуты...

— Я скажу, ці варты ён такой дзяўчыны,— перабіў Азаркевіч.

— У вас,— выпаліла Аксіння і пачырванела, як спелая вішня.

— У мяне? — здзівіўся Азаркевіч. Ён зусім не чакаў такога адказу і некалькі разгубіўся.— Не-е, Аксюша, я вам не пара. Вы ж ведаеце... Не, не...

— Я ведаю, што ў вас была жонка, сын,— хвалюючыся, гаварыла Аксіння.— Аднак... я вас...

— Не,— стаяў на сваім Азаркевіч.— У маім узросце... Потым, мяне жыццё не песціла... Дый у мяне характар такі... Маладая жонка захоча ў кіно ці тэатр, а ў мяне работа, гэтулькі работы... Не і не...

— Я так і ведала, што вы мяне не кахаеце,— у вачах Аксінні было поўна слёз, на твары выраз адчаю, боль і крыўда. Яны падыходзілі да рэчкі і апынуліся над абрывам. У Аксінні задрыжалі рукі, яна нібы пахіснулася, а потым неяк рэзка падалася наперад, закружыў у рэчцы васілёк...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сцяпан Андрэевіч прыйшоў дадому першым. Ён быў задаволены, што скончаны мантажныя работы. Прывёўшы сябе ў парадак, Сцяпан Андрэевіч падышоў да стала. Там ляжала невялікая запісная кніжачка ў чырвоным пераплёце. Сцяпан Андрэевіч зацікавіўся і пачаў гартаць. Кніжачка была ўся спісана дробным почыркам. Стары надзеў акуляры і прачытаў:

«Праўду людзі кажуць, што каханне — пакута. Я ўсё не верыла гэтаму, бо не ведала, а цяпер сама ў гэтым пераканалася. І чаго ён прыйшоў да нас, чаму ён устрывожыў маю душу? Няўжо ён не бачыць, што я яго кахаю. Няхай што хоча пра мяне падумае, а захоўваць сваё каханне да яго я больш не магу, сёння ж з ім пагавару. Ён мне засланіў свет. А што, калі В... мяне не кахае? Што мне тады рабіць?»

— Ах, вось яно што! — усклікнуў Сцяпан Андрэевіч.— Не кахае!.. А дзе ён лепшую знойдзе?..

На дварэ паказалася Аксіння. Яе вёў пад руку Азаркевіч. Выгляд у дзяўчыны быў стомлены, і з'явіліся нейкія новыя рысы, падобныя на маршчыны на лбе і каля вачэй. Сцяпан Андрэевіч сэрцам адчуў, што паміж Аксінняй і Азаркевічам няма згоды, хоць яны і поруч ідуць. Заклапочаны стары выйшаў на двор.

— Што з табою? — спытаўся бацька.— Аксюша, чаму ты маўчыш?

— Я, татка, я...

— Нічога такога асаблівага,— прыйшоў на выручку Азаркевіч.— Аксіння Сцяпанаўна стамілася на рабоце... у яе закружылася галава...

— Праўда? — занепакоіўся бацька.

— Ага,— кіўнула галавою Аксіння, хаваючы вочы. Ёй цяпер хацелася астацца адной, і яна хутка прайшла ў свой пакой.

Бацька пайшоў следам за ёю. Для яго было зразумела, ад чаго ў дачкі закружылася галава, што ёй, разгубленай і пакрыўджанай, патрэбна абаперціся на цвёрдую мужчынскую руку. Але ён не ведаў, з чаго пачаць, і, калі яны ўвайшлі ў яе пакой, ён няёмка ўзяў са століка маленькую кніжачку і сказаў:

— Не пакідала б ты, Аксіннюшка, вось гэта абы-дзе...

— Ты прачытаў? — устрапянулася дзяўчына, як спалоханая птушка.— Ты ўсё чытаў?

— Не, толькі апошні запіс.

— Дык там, татусю, усё сказана.

— Гарачая ў цябе, донька, галава...

— Не галава, татка, а сэрца гарачае... Асеклася раз, цяпер буду разумнейшай... Не дакарай мяне, татухна, мне і так баліць... Я цябе папрашу...

Сцяпан Андрэевіч, пануры, выйшаў у сталовую.

У кватэру ўвайшоў Азаркевіч, ён па-ранейшаму хацеў трымацца проста, але адчуваў сябе скаваным і, нібы вучань, вінаватым. Ён не ведаў, куды дзець не па яго вялікаму росту кароткія рукі.

— А як сябе адчувае Аксюша?.. — ціха спытаў Азаркевіч, але яму здалося, што ён гаворыць не тое, і густа пачырванеў, а толькі паправіцца не мог, у яго нібы ў абцугах была галава, паскорана білася сэрца. Ён

ніяк не мог сабе даравацъ, што, ідучы з дзяўчынай, думаў пра цэглу і цэмент.— Я сказаў бы... Трэба ёй знайсці другую работу...

— А я сказаў бы, што не да цэглы і цэменту, калі справа ідзе пра чалавека! Ачарсцвелі мы за вайну,— ледзь не шэптам прагаварыў Сцяпан Андрэевіч.— А толькі вы для мяне кім былі, тым і асталіся...— І, жадаючы перавесці размову на другую тэму, Сцяпан Андрэевіч паведаміў: — А таму рызыканціку я камандзіроўку падпісаў... Чаго толькі ён не вярнуў на вас, вушы вялі... Усё выхваляўся, што ён выканаў свой абавязак перад дзяржавай: у вайну — ваяваў, а цяпер — беражэ дзяржаўную капейку... То я яму адказаў: я таксама ваяваў, і вы ваявалі, яшчэ як, яму нават не снілася... Яго трэба асцерагацца...

— Не такі страшны чорт, як яго малююць,— запярэчыў Азаркевіч.— Яно трэба было б мне паехаць у наркамат, але...

— Калі трэба, дык едзьце, тут нічога не здарыцца,— прапанаваў Сцяпан Андрэевіч і паглядзеў у бок пакоя, дзе была Аксіння.— Усё будзе ў парадку... У яе цвярозы розум... — Кульчыцкі падумаў уголас: — Бывае: па роўнай дарозе ідзеш і спаткнешся; затое потым глядзіш пад ногі. Такі ўзрост: усё ў іх гарыць...

— Дык я заўтра еду... а то будаўнічыя матэрыялы канчаюцца... хоць можна і сёння...

— Баюся я, што ён можа вам нашкодзіць,— гаварыў Сцяпан Андрэевіч.— З такімі людзьмі не трэба задзірацца... Яны вельмі помслівыя...

— Эт, будзе мне раней часу балець галава,— вымавіў Азаркевіч.— Дык я еду! А вы тут... наглядайце... І дома і на рабоце... Усякія нечаканасці могуць быць...

Ішлі дні, набліжалася зіма, перад вокнамі ў Кульчыцкіх пачырванела арабіна. Хата Кульчыцкіх стаяла на ўскраіне пасёлка, так што Сцяпану Андрэевічу далёка было відаць апусцелае поле. Ён амаль усю апошнюю ноч не спаў, варочаўся, некалькі разоў уставаў, курыў, браў газету, у якой быў змешчаны допіс прадстаўніка наркамата, што быў на будоўлі, з лаянкай на дырэктара, а потым падумаў: «Калі б наркамат згадзіўся з прадстаўніком, дык не даў бы гэтулькі грошай». Сцяпан Андрэевіч меркаваў, як скарыстаць гэтыя грошы,

якія былі дадзены цэнтрам пасля паездкі Азаркевіча ў Мінск, і стары толькі пад раніцу заснуў. Цяпер ён прахапіўся і бачыць, як мала-памалу бялее ўсходні край неба, як потым барвавее, нібы ад вялікага пажару.

Азаркевіч таксама ўсю гэтую ноч спаў дрэнна: бракавала матэрыялаў,— з вялікімі цяжкасцямі даводзілася знаходзіць неабходнае. А галоўнае, не хапала цэменту, гэта пагражала спыніць будаўніцтва. У Азаркевіча астаўся на душы непрыемны асадак ад лаянкі прадстаўніка, потым падумаў: «Усё мінецца, а праўда астанецца». Сцяпан Андрэевіч пачуў, як Азаркевіч у другім пакоі стукаў ботамі.

«Не спіцца яму,— меркаваў Сцяпан Андрэевіч.— Вядома, гэтулькі клопатаў. Куды ж тут да асабістага!»

Раніцаю цішыню ў пасёлку парушыў гультаяваты, ахрыплы голас суседняга сабакі. Развіднелася. Па крывой вуліцы прайшоў чалавек, уткнуўшы нос у падняты каўнер асенняга паліто і цяжка грукаючы падкаванымі ботамі.

Азаркевіч ціхенька, каб не парушыць людскога супакою, выйшаў у сталовую і здзівіўся, угледзеўшы Сцяпана Андрэевіча адзетым.

— Куды вы так рана сабраліся? — спытаўся Азаркевіч.

— Васіль Мікалаевіч! А што, каб мне пад'ехаць у Даўгінава, на цэментны завод? Там жа дырэктарам Мічульскі, з якім разам партызаніў... Быць не можа... чалавек з розумам... нам жа запланаваны цэмент...

— Трэба паспрабаваць... хоць надзей ніякіх... А не скарыстаем грошай, новы козыр таму... Сам нічога не робіць, а другіх чэрніць... Ну, дабяруся я да яго!.. — Азаркевіч паглядзеў на газету, якая ляжала на стале.

— Дык адклад не ідзе на лад,— апранаючыся, гаварыў Сцяпан Андрэевіч.— Я яшчэ паспею на цягнік...

Азаркевіч зноў загруз у працы і часта нават забываўся, што трэба паесці. З Аксінняй у яго адносіны не наладжваліся. Ён часам і рады быў бы пагаварыць з ёю, але, калі аставаліся сам-насам, у яго з галавы адразу вылятали ўсе падрыхтаваныя загадзя словы, і ён няёмка пытаўся пра што-небудзь будзённае, звычайнае. Ёй, відаць, таксама было няёмка з ім, і яна, паставіўшы на яго столік гладыш з малаком і акрайчык хлеба на вячэру, знарок лажылася раней спаць, каб не

сустракацца па вечарах. Ды, па праўдзе кажучы, ён і прыходзіў позна, а днём яна бачыла яго толькі на рабоце. Аксіння часта думала: «А ўсё ж ён кахае мяне, бо васілёк, як было загадана, прыбіла да яе берага». І Азаркевіч адчуў, што ён кахае Аксінню, а толькі розум падказваў, што ў яго гадах не да твару яму звязвацца [redacted] дзяўчом. А тым часам у Аксінню закахаўся малады бязвусы хлопец. Аксінні ён не падабаўся: і ростам быў невялікі, і рабацінне на твары і носе, як хто маку пасеяў, і ў паводзінах з ёю нібы хто яму не толькі рукі, а і язык завязаў. Але дзяўчыне, як бы яна ні была прыбіта горам, заўсёды падабаецца, калі ёсць каму па ёй уздыхаць, і яна не адштурхнула хлопца. Няхай будзе пра запас. А можа, яна паспачувала яму, добра ведаючы па сабе, як пякуча на сэрцы, калі той, каго ты кахаеш, нават не глядзіць у той бок. Гэта, акрамя ўсяго, абражае чалавека.

Аднойчы пад вечар — гэта было ў нядзелю, калі бацька вярнуўся з камандзіроўкі і прывёз некалькі вагонаў цэменту,— Аксіння прахаджвалася з хлопцам перад сваімі вокнамі. Азаркевіч і па выхадных днях сядзеў над чарцяжамі, і Аксіння ўбачыла праз акно яго схіленую постаць. На сэрца ў яе неяк адразу наплыла злосць і крыўда. «Ну, пачакай жа, мядзведзь!» — мімаволі паварушылася думка, і яна знарок прытулілася да хлапца і голасна засмяялася. Азаркевіч узняў галаву, паглядзеў у акно, убачыў гэтыя залёты, і, відаць, работа больш не пайшла. Ён выйшаў на двор. Тады Аксіння развіталася з хлопцам і, не зважаючы на Азаркевіча, хацела прайсці міма яго на ганак. Азаркевіч затрымаў яе за руку і пачаў дакараць, што ніколі не чакаў ад яе такога выбару. Аксіння маўчала, а ў душы смяялася. Яна вырвала руку і пабегла ў кватэру. Ад радасці, круцячыся і падскакваючы, яна некалькі разоў у думках паўтарыла:

«Кахае! Кахае!»

Але яна не падала і знаку, што нешта змянілася, і праз некалькі дзён, калі хлопец прапанаваў зайсці ў хату, яна не пярэчыла. Цяпер не толькі Азаркевіч, але і бацька таксама здзівіўся яе весялосці, і абодвум стала прыкра, калі яна з хлопцам пад руку пайшла на станцыю ў кіно. Азаркевічу таксама захацелася пайсці ў кіно, каб быць поруч з Аксінняй, але ён не пайшоў,

хоць і дома нічога не зрабіў. Ён тупаў з кутка ў куток, не знаходзячы сабе месца. «Завязала яна мне вочы не на жарты,— злавіў сябе на думцы Азаркевіч.— Каб хто раней мне сказаў, што ў такія гады можна так пакахаць дзяўчыну, не паверыў бы таму. А што, калі яна цяпер мяне адштурхне, гэтак, як я яе тады? Калі так, то мне аставацца тут нельга будзе. Пусцім гуту, і ў дарогу...»

Калі Аксіння вярнулася дамоў, бацька знайшоў прычыну, каб выйсці з хаты. Ён бачыў, што Азаркевіч зусім перамяніўся і паміж ім і дзяўчынай павінна адбыцца размова адзін на адзін, без лішніх вачэй. Сцяпан Андрэевіч бачыў, што ў Азаркевіча ў апошні час не клеіцца работа, і дагадваўся аб прычыне, але нічога не гаварыў: калі пойдзе на добры лад, то і без яго абыдзецца, а калі не на лад, дык і ён не паможа. Сцяпан Андрэевіч на дварэ ўгледзеў, што ўсе стрэхі і зямля былі белыя, з комінаў паднімаліся шэрыя дымы, быў зазімак. Людзі, спяшаючыся, ішлі дахаты.

— Што ты... што вы сабе думаеце, Аксіння Сцяпанаўна? — збіваючыся, пытаўся Азаркевіч.— Няўжо вам пара гэты жаўтароты хлапчук?..

— А што вам да таго? — задзёрыста спыталася Аксіння.— Хіба гэта вас кранае?

— Як — што? А такі кранае. Каб вы ведалі, як мне баліць,— прызнаўся Азаркевіч, а потым паправіўся: — Ён жа яшчэ блазнюк... Матчына малако на вуснах не абсохла...

— Не думайце, што толькі вы герой: у яго ран на целе не менш, чым яму год...

— Праўда?

— Але.

— Усё ж... які ён кавалер...

— А мне ён падабаецца... Ён такі добры... Ласкавы...

— Няпраўда! — злосна прагаварыў Азаркевіч. Потым схамянуўся і сказаў іншым тонам: — Аксюша, даруй мне... Я табе прынёс шмат пакут... Але і ты мне адплаціла... Скажы, што па-ранейшаму мяне кахаеш... Маўчыш?.. Значыць, ты мяне па-сапраўднаму не кахала... Тады... тады... пусцім гуту, і ў пуць-дарогу...

Недзе далёка ўпала зорка, яна не даляцела да зямлі і патухла. Азаркевіч і Аксіння ў той вечар доўга гаварылі: Аксіння не выцерпела і сказала яму ўсю праў-

ду пра хлопца, што ён зусім ёй не падабаецца, але яна, каб выклікаць у Азаркевіча рэўнасць, з ім гуляла. Азаркевіч прызнаўся ёй у каханні.

— І я цябе, аднаго цябе кахаю,— гаварыла Аксіння.— Няўжо ты гэтага не бачыш?

— Цяпер бачу,— узрадаваўся Азаркевіч

Сцяпан Андрэевіч вяртаўся дамоў. Ён яшчэ на вуліцы заўважыў, што Азаркевіч з Аксінняй гавораць мірна. Задаволены, што ўсё скончылася добра, бацька паспяшыў у кватэру.

— Авохці! Васіль Мікалаевіч! Чуў я адным вухам, нібы ты кідаеш гуту і некуды збіраешся ехаць? — усміхаючыся, спытаў Кульчыцкі.

— Перадумаў,— адказаў Азаркевіч.

— Добра,— узрадаваўся Сцяпан Андрэевіч.

— А ўсё ж, Аксюша, чаго ты бегла да рэчкі?..— спытаўся Азаркевіч.

— Каб паглядзець, да якога берага прыб'е васілька... — усміхнулася Аксіння.

— А я падумаў...

— Яшчэ што!.. Хіба мне жыць абрыдала...

І яны весела засмяяліся.

Не пазнаць цяпер стала заводскі пасёлак, фактычна горад. Насупраць галоўнага корпуса зроблена была плошча, узвышаўся помнік Леніну. На захад працягнуўся сквер. На адным баку сквера было заводаўпраўленне. На другім — жылыя дамы, усё ў зелені.

Каля рэчкі быў зроблены парк, пасаджаны дрэвы. Тут ужо былі падрыхтаваны пляцоўкі пад Дом культуры, кіно. Па выхадных днях у парку шмат гуляе народу, яны беражна ставяцца да кожнага дрэва, бо самі для сябе іх садзілі. Людзі адчувалі сябе гаспадарамі зямлі. Чуюцца песні, жарты, вясёлы смех.

Так з руін і попелу, воляй і розумам людзей, паднялася гута. Яна стала прыгажэйшай за даваенную і шкло вырабляе лепшае. Слава гуты ідзе па ўсёй краіне.

— А цікава, з чаго вы пачалі, аднаўляючы гуту? — звычайна пыталіся ў Васіля Мікалаевіча шматлікія наведвальнікі.— Вялікую вы справу зрабілі...

— Не я зрабіў, а народ, кіруемы партыяй,— звычайна папраўляў Васіль Мікалаевіч.— Я пакорны іх

слуга. Не думайце толькі, што гэта лёгка далося,— вялікае нараджаецца ў пакутах. Вас цікавяць людзі гуты? Першым назаву Сцяпана Андрэевіча Кульчыцкага, старога рабочага, які ўклаў душу ў аднаўленне гуты... Вы хочаце паглядзець, што робіцца на гуце, калі ласка, пройдзем, убачыце...

І людзі ішлі, каб паглядзець, як зладжана ідзе работа на гуце, што можа зрабіць розум чалавека для чалавека, каб яму шчасна жылося.

*1945*

## СЫМОНІХА

— Заходжу гэта я да старшыні райвыканкома Круглікава,— расказвала Сымоніха мужу, падпіраючы рукою падбародак,— дый кажу яму: «Памажыце мне, саколік, кароўку прыдбаць».

«А вы хто такая? — пытаецца ён у мяне.— Адкуль будзеце? Я вас штосьці не ведаю. І ніколі я вам кароўкі не абяцаў. Я ў гэтым раёне не так даўно працую, але амаль ва ўсіх вёсках пабыў, а толькі вас нідзе не сустракаў».

«Хіба,— кажу,— не пазнаеце?» — Сымоніха хітра паглядзела на мужа і ўсміхнулася шэрымі невялічкімі вочкамі. Сымон таксама ўсміхнуўся ў шырокую, як лапата, рудую бараду і падкруціў вусы: ён уважліва і моўчкі слухаў жонку. Калі Сымоніха гаварыла, Сымон ніколі яе не перабіваў. Ён ведаў, што жонка на глум слова не скажа.

«Сымоніха я, з Дубровіна, няўжо забылі?» — напамінаю я старшыні. Жанчына аж прыўстала, маленькая постаць яе страпянулася.

«А я вас і не ведаў»,— адказвае ён.

«Новую хату нам памагалі будаваць?» — пытаю я.

Кабета нагадвала птушку ў палёце.

«Ну і што з гэтага? — І ён нахмурыўся, робячы выгляд, што вельмі заняты.— Хіба толькі вам? Цэлую вёску ўзнялі нанава. Праз некаторы час не пазнаць будзе Дубровіна... Бачыце план генеральны. Вось — плошча, а там — помнік Заслонаву. А гэта,— працягвае паказваць старшыня,— будзе сельсавет. Тут школа. Там дзіцячыя яслі. Каля рэчкі — лазня...»

«Чыгуначнікі настойваюць паставіць помнік Заслонаву ў Оршы»,— уставіла я.

«Паглядзім, можа, і ў Оршы»,— сказаў ён.

— І няўжо ў нас не будзе клуба? — хваляваўся Сымон.— Калі я, нарэшце, сыграю караля Ліра...

— Будзе і клуб,— заспакоіла Сымоніха.

— Добра,— вальней уздыхнуў Сымон і важна заявіў: — А то артысту без сцэны не выпадае.

«Дубровінцы,— кажа старшыня,— добра ваявалі з фашыстамі і зноў дружна ўзяліся за гаспадарку. Хто б ні ехаў з Масквы ў Мінск ці з Мінска ў Маскву, то каля

Оршы спыніцца, каб завярнуць у Дубровіна ці на станцыю Орша (такі, мусіць, чыгуначнікі перамогуць) пакланіцца Заслонаву і паглядзець, як людзі жывуць на зямлі, па якой хадзіў Заслонаў і за якую склаў галаву. Дубровіна будзе зялёным горадам».

«Няўжо ж»,— кажу я.

«Але з крэдытам, каб прыдбаць карову, цётка, прыйдзецца пачакаць»,— гаворыць ён, а сам разглядае паперы і робіць выгляд, што не звяртае на мяне ніякай увагі, а толькі сяды-тады паўз рагавыя акуляры возьме дый гляне. А я з яго вачэй не спускаю. Бачу, ён пачынае нервавацца і пастуквае пальцамі па стале. Толькі што мне да гэтага? Я дамагаюся свайго. А чалавек ён, відаць па ўсім, добрай натуры, але яму за дзень натлумілі галаву. Перада мною з яго кабінета выйшаў цэлы гурт жанчын, былі там і дубровінскія.

«Ой, чалавеча,— кажу я,— навошта мне той крэдыт, мне б лепш за ўсё кароўку займець. Ёсць жа ў вас у хляве некалькі штук, што ў адступаючага ворага адбілі. Я ж да вас у партызаншчыну сама прывяла сваю падласую. Гэта дарма, што яна была з адным рогам, але малака шмат давала. Тады Заслонаў, паціскаючы мне руку, сказаў: «Дзякуй табе, цётка Сымоніха. Абяцаю, калі разаб'ем ворага, дык вернем табе лепшую. А калі не я вярну, то мае хлопцы гэта зробяць, у даўгу ў сваіх людзей мы не астанемся».

«Гаварыў мне так Заслонаў?» — пытаюся я.

«Здаецца, некаму так гаварыў,— успамінаючы, сказаў Круглікаў і трохі памякчэў.— А толькі не адна ж вы, цётка Сымоніха, прывялі тады карову».

«Не, не адна,— згаджаюся я.— Што праўда, то праўда, усе ў нас памагалі, хто чым мог, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба».

— Яшчэ б,— зазначыў Сымон,— трэба было ўтрымаць гэтулькі лясных салдат.— Стары дадаў: — Нашы партызаны адны знішчылі больш фашыстаў, чым увесь другі фронт... А цяпер саюзнікі выхваляюцца — мы ваявалі!.. Цярпець не магу маны!..

«Вось бачыце!..— і ён падняў свой даўгі з гарбінкаю нос, на якім былі акуляры.— Прыйдзецца вам пачакаць. Усіх адразу не задаволіш. Нам трэба ў першую чаргу даць карову адной сям'і, іх адзінаццаць ча-

лавек і амаль усе біліся з фашыстамі. Трэба такой сям'і даць карову?»

«Трэба»,— кажу я.

«Гэта сям'я заслужаная,— загарэўся ён і, выцягнуўшы стала нейкую паперку, пачаў сыпаць: — Бацька, калі фашысты пачалі вайну, сказаў: гнеў народа — страшны гнеў. Ён змяце фашызм! Чулі?»

«А як жа!»

«Перш за ўсё ён знішчыў некалькі здраднікаў».

«Туды ім і дарога! Гадзюка раз у год са скуры вылузваецца, а здраднік кожны дзень».

«Адзін іх сын панфілаўцам быў. Пад Масквою біўся. Там фрыцам далі ў хвост і ў грыву. Факт?»

«Факт»,— кажу я.

«Другі сын біўся пад Сталінградам. Там фашысту наладзілі такое пабоішча, што ён больш не здолеў падняцца. Супраць факта не папрэш?»

«Не папрэш»,— кажу я.

«Трэці сын змагаўся на Арлоўска-Курскай дузе, там гітлераўцам добра наламалі бакі. Факт — упартая рэч?»

«Упартая»,— кажу я.

«Чацвёрты сын пад Ленінградам быў снайперам. Ён стаяў насмерць. Гэта важны факт?»

«Яшчэ які важны!»

«Пяты сын — партызанскі генерал. У яго шмат было ляснога войска, а хлопцы якія — агонь! Гэта вам не хаханькі!»

«Якія там хаханькі! Пад нагамі ў фашыстаў гарэла зямля».

«Шосты сын Берлін штурмаваў, памагаў знішчаць фашысцкую нечысць. Гэта, можа, што-небудзь ды значыць?»

«Дзіва! Дайсці да Берліна — патрэбна была сіла».

«Сёмы сын — танкіст. Дачка — лётчыца, другая, праўда, яшчэ пешшу пад стол ходзіць, але, кажуць, не саступіць старэйшай — у разведку хадзіла. У нас жанчына — сіла».

«Ого, яшчэ якая!»

«Маці аднойчы фашысту адсекла: сонца не закрыеш рэшатам».

«Правільна!» — згадзілася я.

«Яна, кажуць, партызанам хлеб пякла, а муж мінёрам быў. Калі ішла «рэйкавая вайна», ён цуды тварыў. На паседжанні райвыканкома многа пра гэтую сям'ю гаварылі. Шкада, сам яшчэ з імі не пазнаёміўся,— і зноў да мяне: — Дык хіба можна ім не даць каровы?»

«Не,— кажу,— язык не павернецца, каб адмовіць».

«Вось бачыце! — заўважыў ён.— А вы што — ужо ў слёзы. Калі я сказаў, што карова будзе ў вас, дык будзе. Слова Заслонава — для мяне закон».

«Плачу я, саколік, не таму,— сказала я,— сына свайго ўспомніла, Паўліка. Дзіцятка — нават ні разу не пагаліўся. Ён таксама пад Масквою біўся і не вярнуўся адтуль».

«Нічога не зробіш,— пасуравеў старшыня.— Перамога не лёгка далася. Шмат наш народ меў ахвяр».

«І дачка мая,— кажу,— згарэла з сваім самалётам».

«Так,— гаворыць ён.— Вайна — гэта мацярынскія слёзы. Праца і мір — думы нашых людзей. А толькі, калі трэба, мы ўмеем ваяваць. Наглядны ўрок далі і сучасным, і будучым ахвотнікам на сусветнае панаванне!»

«Яшчэ які!» — кажу я.

«А вы, Сымоніха,— устаў ён з-за стала,— не гаруйце. Даю вам слова, што мы вам паможам. Другая чарга — за вамі».

«Добра»,— згаджаюся я.

«Мы вырашылі,— працягвае ён,— перш за ўсё даць карову жанчыне-гераіні, Сцепанідзе Аляксандраўне Корчык».

«Каму, каму?» — перапытваю я.

«Сцепанідзе Аляксандраўне Корчык,— паўтарае ён.— Яна сапраўдная гераіня. Выгадаваць гэтулькі дзяцей, выхаваць іх не так лёгка. І вы, цётка Сымоніха, дарэмна сумняваецеся. Вось паглядзіце, пра яе пішуць у газеце. Знатная жанчына! Вы яе, напэўна, ведаеце?»

«Ведаю. Сцепаніда Аляксандраўна Корчык — гэта я, а толькі якая я гераіня? Я ж, можа, гэтак, як мой Сымон, не хадзіла на жалезку міны падкладваць. А што хлеб пякла...»

«Вы Сцепаніда Аляксандраўна Корчык?! — перапыніў ён мяне.— Чаму ж вы раней мне гэтага не сказалі?»

«Няма чым хваліцца»,— кажу я.

«Як гэта! — запярэчыў старшыня і расплыўся, як месяц.— Вось чытайце газету. На першай старонцы. Вы ўзнагароджаны ордэнам «Мацярынская слава». Ну, бачылі? Віншую!»

«Дзякую!» — адказваю я.

«Дык ідзіце, Сцепаніда Аляксандраўна, і бярыце карову. І даруйце, што так выйшла».

Сымоніха заззяла ад шчасця, здавалася, што глыбокія маршчыны, каля вачэй, вуснаў і на лбе, у яе на момант згладзіліся.

— Так што, бацька, мы цяпер з малачком. Будзе чым дзяцей сустракаць з войска, яны, нябось, па малаку засумавалі,— заключыла свой расказ Сымоніха і весела засмяялася.— А помніш, я гаварыла: закінеш наперад, як знойдзеш. Толькі вось, Сымонка, няма ў нас даёнкі.

— Нічога, Сцепаніда Ляксандраўна,— адказаў Сымон, разгладжваючы бараду.— Калі ёсць кароўка, дык будзе і даёнка.

*1945*

# ГАНУЛЬЧЫНА ГОРА

Чатыры доўгіх гады чакала Ганупя звароту мужа з вайны. Не было таго дня, каб яна не ўспомніла пра Яўхіма. Марудна цягнуліся дні. Ганупя ніколі і нікому не скардзілася на свой лёс (цяжка жанчыне адной гадаваць трое дзяцей!); яна цярпліва пераносіла нягадзваць трое дзяцей!); яна цярпліва пераносіла нястачу і іншых суцяшала. А здаралася ўсялякае — часамі не было на стале кавалка хлеба і дзеці перабіваліся на бульбе з саладухаю.

— Ганупя ўмее несці крыж пакуты,— казалі пра яе людзі, дзівячыся яе трываламу характару. Яна з малых год прывыкла да працы, у працы яна бачыла шчасце. Ганупя была ў бацькоў адной дачкою і, яшчэ будучы дзіцем, памагала маці ў цяжкай сялянскай працы. Ганулі не страшна была аніякая работа, і каб не было яе, дык яна, мусіць бы, горш сябе адчувала. А калі яна працавала, то забывалася на гора, якое было прынесена вайною.

Толькі пяць год пакрасавала Ганупя за Яўхімам. За гэты час у іх з'явіліся дзве чарнявыя дзяўчынкі, вельмі падобныя на бацьку. А напярэдадні вайны Ганупя адчула пад сэрцам трэцяе дзіця. Белагаловы хлопчык нарадзіўся, калі бацька быў у войску. Дзеці былі ўцехай для маці. Дзеля іх яна не разгінаючыся працавала. Ганупя выхоўвала ў дзяцей павагу да бацькі, які недзе змагаецца за іх, каб імі ў жыцці ніхто не панукаў і каб жылі яны ў дастатку. Ва ўяўленні дзяцей іх бацька — герой, дый сама Ганупя такім яго бачыла: ён жа ■ першых дзён вайны быў на фронце.

Ганупя і Яўхім па натуры былі маўклівыя і панурыя. Жартуючы, пра іх казалі: «Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль такую пару сыскаў». Але яны адчувалі сябе добра і жылі ў шчасці і радасці. Яўхім быў заўзяты да работы, цягавіты. Яўхімаў бацька некалі меў зямлі — як пані сесці,— у іх да каляд не хапала свайго хлеба, і жылі яны з заработкаў. Дарваўшыся ў калгасе да зямлі, Яўхім працаваў за двух. Пра яго гаварылі: «Яўхім ліпне да працы, як муха да мёду». Дзеці таксама цягнуліся да работы. «Якое,— кажуць,— дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын». Але бацька не вымагаў ад дзяцей працы, наадварот, ён часта гаварыў:

«Я не меў маленства, дык няхай хоць дзеці пабачаць... Пагуляйце, яшчэ паспееце напрацавацца... Ваша ўсё наперадзе...»

Ганула часта ўспамінала словы Яўхіма і праганяла дзяцей, калі яны браліся за цяжкую работу. Яўхім быў вельмі акуратным чалавекам; яго ніколі не бачылі расхлістаным, калі ён яшчэ хадзіў у школу, а ўжо будучы бацькам, прывучаў дзяцей да акуратнасці. Помнячы гэта, Ганула глядзела за дзецьмі і сама заўсёды была ў чыстай, хоць часам і палатанай, адзежы. Асабліва гэта кінулася ў вочы, калі Савецкая Армія прыйшла; Ганула не толькі па-святочнаму адзелася, але людзі нават угледзелі прышпіленую палявую кветку да вышытай белай кофты. Ганула, якую ў Балатнянцы паважалі як клапатлівую маці, першая паднесла савецкаму воіну букет, а за ёю дзяўчаты засыпалі вызваленцаў кветкамі.

Скончылася вайна, прыходзілі дадому пераможцы. Іх сустракалі жонкі і дзеці, суседзі, імі ганарыліся і плакалі ад радасці. Усюды да іх ставіліся з пашанай, яны былі першымі гасцямі, іх запрашалі сесці ў кут. Шмат у Балатнянцы было мужчын у войску, і большасць з іх ужо вярнулася. І не было ні аднаго з балатнянскіх мужчын (ці то яны былі ў войску або ў партызанах), якія б не былі ўзнагароджаны. А Яўхіма Залескага ўсё не было, дый пісем у апошні час ён не пісаў. Ганула, і кладучыся спаць і ўстаючы, успамінала Яўхіма, з дня на дзень чакаючы яго звароту.

І вось аднойчы, у суботу, цёмнай восеньскай ноччу, вярнуўся Яўхім з паходу. Ганула па ўмоўленаму яшчэ да вайны стуку ў шыбу пазнала, што гэта ён, але ўсё ж спыталася: «Хто-о?» — і пачула блізкі сэрцу голас. Яна хутка адчыніла дзверы і запаліла лямпу. Яўхім адгадаваў вялізныя вусы (гонар салдата!), да таго ж загарэлы, абветраны ўсімі вятрамі твар,— зусім змянілася аблічча чалавека. Але карыя вочы былі ўсё тыя ж, яны, здавалася, усміхаліся. Забілася сэрца ў Ганулі, затрапяталася, як не вырвецца з грудзей. З рук выпаў пачак запалак, забразгацеў. Ганула і не заўважыла, што не прыкруціла кнот, языкі агню пацягнуліся ўверх, пацямнела шкло.

— Яўхімка! — толькі і сказала ўзрадаваная Гану-

ля. Яна цалавала яго ў губы і бровы, вочы і шчокі.— Мой родны!

Яўхім абняў Ганулю, прыціснуў да грудзей і пацалаваў, потым падняў запалкі і падкруціў кнот у лямпе. Яўхім гладзіў Ганулiны русыя валасы, якія пасмамі аблеглі шыю, і нібы ўспамінаў, ці такія яны былі, калі ён Ганулю пакінуў, паглядзеў у яе адкрытыя сінія вочы, прыціснуў яе да сябе і яшчэ пацалаваў. Трымаючы Ганулiны шорсткія рукі, вымавіў:

— Дарагая мая! Напакутавалася...

Гануля, нібы апамятаўшыся, кінулася распранаць Яўхіма, сцягнула салдацкія боты і падала валёнкі. У хаце было крыху халаднавата, і Яўхім астаўся ў безрукаўніку. Дзеці спалі. Ганулі прыемна было, як Яўхім углядаўся ў твары дзяцей, а потым асцярожна, каб не разбудзіць, цалаваў іх. Яўхім нават не ўтрымаўся, каб хлопчыка не пакратаць рукою. Ён гладзіў яго попельнага колеру валасы.

— Яўхімка! — шаптаў бацька, ён быў задаволены, што маці назвала сына ў гонар дзеда і яго.— Свісь на дуба! — ён часта без дай прычыны гаварыў гэтыя словы, а таму ў вёсцы гэта была яго мянушка.— Род Яўхімаў існуе! А мая ты мурашачка,— гэта была яе мянушка ў вёсцы,— якое ты мне прынесла шчасце!

— Яўхімка стары! — задаволеная, турбуючыся каля печы, гаварыла Гануля.— Не будзі Яўхімку малога.— Яна паведаміла: — А каб ты ведаў, татка, які ён смешны. Калі ў яго запытаюць, дзе бацька, дык ён адказвае: юе, ёй; гэта значыць — ваюе, герой.

Бацькі радасна засмяяліся.

— А ты што, маці, хочаш рабіць?

— Спяку яечню.

— Не трэба,— гаварыў Яўхім, распакоўваючы рэчы. Ён дастаў падарункі жонцы і дзецям.— Сёння як бог даў, а заўтра... А гэты скрутак, маці, схавай...

— Добра,— узяла скрутак Гануля і палажыла ў куфэрак. Яе радасці, што прыйшоў муж жывы і здаровы, не было межаў.— А сала, бацька, будзеш есці?

— Свісь на дуба! — пасміхаючыся, гаварыў Яўхім.— Хто гэта з тутэйшых людзей не есць сала, гэта можна сказаць, апірышча сілы, а трываласць ад яго якая. Ого, сала, дый яшчэ твае засолкі! А яго можна

ёсці на поўную губу? Ці, можа, яно ў цябе толькі для закрасы?

— Сёлета ў хаце не зводзілася. А тыя чорныя гады, калі гітлераўцы ўладарылі... Але што казаць... горшае перажылі... каб яно болей не вярнулася...

— Дык у мяне недзе былі дзве чацвярцінкі. Службовыя — у нас называлі.

— Няхай твае на потым... Я для цябе прыпасла «Беларускай застольнай»... Кажуць, ніштаватая на смак і мацунак мае...

— Сапёр любіць мацунак... Неяк, па пояс у ледзяной вадзе, я наводзіў пераправу... Меркаваў, выйду са строю... Падышоў генерал і загадаў даць спірытусу... Цяпнуў гэта я, пайшло цёплае па жываце... І, ці паверыш, не было нават катару...

Ганулл нарэзала сала, пакроіла хлеб, паставіла пляшку; яны выпілі па чарцы, па другой і вялі бяседу, пакуль месяц не выглянуў у другое акно, што было ад вуліцы. Ганулл расказала, як яна жыла пры фашыстах, часам зацірцы была рада, але не гэта страшна, горш за ўсё, што фашыст здзекаваўся з чалавечай годнасці. «Як настане дзень,— успаміналв Ганулл,— дык уся перакалоцішся. Як толькі скажуць: «Немцы!», хапаеш дзяцей — і ў лес. Туды ўсе бягуць: і людзі, і каровы, і коні. Усё жывое ўцякае. І так тры с паловай гады: сёння жывеш і не ведаеш, што з табою будзе заўтра. А немцы выхваляліся сваёй культурай, ломанага гроша яна не варта. У нас немцаў называлі: цывілізаваныя варвары. А яшчэ: людаеды». Яўхім падумаў: «Цяжкі шлях тутэйшай жанчыны, але яна прайшла яго з гонарам». Трэція пеўні праспявалі, калі яны леглі спаць.

Раніцаю Ганулл першай прачнулася і адразу ўстала, бо ўжо сонца паднялося і свяціла ў чалесніку. «Сонца выглянула,— падумала Ганулл.— Бабіна лета прыйшло». Ганулл шкадавала, што ўвечары больш яна гаварыла, ёй хацелася, каб Яўхім расказаў усё-ўсё, дзе ён быў і што бачыў, як людзі жывуць на свеце. Ганулл падышла да лавы. Там ляжала набраклая потам і пракураная махоркай салдацкая гімнасцёрка. Калі Ганулл ўзяла яе ў рукі, дык заўважыла, што на грудзях не тое што якой узнагароды, а нават знаку ніякага не было.

«Вось табе і герой! — прамільгнула думка ў Гану-

лі.— Відаць, ён блага ваяваў, калі нічым не адзначаны.— А потым усміхнулася: — Толькі таго клопату, добра, што сам жывы і здаровы. Навошта простаму чалавеку слава?»

І ўсё ж у яе запала сумненне — розум гаварыў адно, а сэрца другое. Яна скамячыла гімнасцёрку і кінула пад лаву. Да слёз крыўдна стала: няўжо ён горшы за іншых? Але хіба ж усіх узнагародзіш! Яе непакоіла, як успрымуць гэта дзеці,— яны чакалі бацьку-героя. Колькі ў Балатнянцы гаварылі, што «Свісь на дуба» прыйдзе з вайны ўвесь у ордэнах і медалях. «От будзе гонару мурашцы!» — казалі. Выходзіць — ён не ваяваў, а недзе аціраўся. «Як жа тады зразумець,— думала Гануля,— што ён пісаў: «Нарэшце наша часць дасягнула Мамаева ўзвышша... Сталінград... уварваліся ў цэнтр горада... горы фрыцаў натрушчылі... Самога Паўлюса ўзялі ў падвале Цэнтральнага універмага з усім яго штабам і бэбахамі... Наш полк узнагароджаны... Пераплыў з двума таварышамі Дняпро, трэці моўчкі пайшоў на дно, але не крыкнуў і гэтым не выдаў нас фашыстам... Атрымаў ад камандавання падзяку... Фарсіравалі Віслу, ідзем у абход Варшавы... Штурмам узялі Берлін...» Гануля кінула погляд на Яўхіма, ён спакойна спаў. Яна мімаволі зноў падняла гімнасцёрку, пакруціла ў руках, з кішэні пасыпаліся медзякі, якія зазвінелі і, падскокваючы, пакаціліся пад ложак. Гануля са злосцю кінула гімнасцёрку. Яна дастала чыстую сарочку, касцюм і палажыла на лаве. «Во-о-ой, будзе ў мяне па гэтым балець галава,— падумала яна.— Простаму чалавеку не да гонару. От добра, што будзе бацька дзецям». Аднак усё ж рупіла Ганулі даведацца, няўжо такі яе муж быў апошнім чалавекам на вайне, што нават медаля не заслужыў. Яна перавярнула ўсе рэчы і так-такі нічога не знайшла. Гануля падумала:

«Каб ведаў чалавек, дзе ўпадзе, падаслаў бы саломы... Дзецям бы ў вушы не ўводзіла... Ніколі я не думала, што буду па гэтым пакутаваць... Я ж чакала толькі яго... А прыйшоў ён, дык каб яшчэ... А што ж, і простаму чалавеку хочацца мець кавалачак славы!..»

Прачнуўся Яўхім і спытаўся:

— Як у цябе, маці, з дровамі?

— З воз галля ёсць і сухое, але ненасечанае,— суха адказала Гануля.

— То што ж ты мяне не будзіш? — ён хутка ўстаў і надзеў боты.— А дзе ж мая гімнасцёрка?

— Унь! — паказала Гануля пад лаву.

— Чаму яна там апынулася? — Беручы гімнасцёрку, спытаўся Яўхім.

— Брудная,— адказала Гануля, гледзячы ў другі бок.— От надзявай лепей касцюм.

— Я ад яго адвык.

— Дык прывыкай.

— Эт, потым пераадзенуся.

— Як сабе хочаш.

Яўхім надзеў гімнасцёрку, падперазаўся і збіраўся ісці на двор. Прачнулася старэйшая дзяўчынка, яна пазнала бацьку і кінулася да яго ў абдымкі.

— Ну добра, дачушка, я толькі маці дроў насяку і прыйду,— Яўхім узяў сякеру і выйшаў. За ноч сцягнула ваду, за рэчкай пабялела трава. У падпаветцы не было парадку, валяліся карчы, якіх жаночыя рукі не маглі рассекчы, на іх шмат было метак ад сякеры. Яўхім некалькі разоў спрытна сekануў, і корч разваліўся напалам.

Гануля дастала з-за коміна карчагі, адкрыла засланку і пачала чыркаць запалку, якая адсырэла і не загаралася.

— Мама, а чаму ў нашага таты няма ніякіх заслуг? — спыталася, як старая, дзяўчынка.

— Бо такі наш тата,— адказала Гануля, у яе закалаціліся рукі, і патухла запалка. Маці схамянулася і паправілася: — Салдат шмат, дочухна, усе не могуць быць заслужанымі. А можа, абышлі, і гэта бывае...

Ганулі запытанне дачкі разанула па сэрцы. Не ладзілася ў Ганулі каля печы, перш паляцела качарга, потым пляснулася чапяла, і, нарэшце, бразнулася засланка. У хату, з бярэмем дроў, увайшоў Яўхім. Ён заўважыў, што жонка нечым нездаволена, але падумаў — можа, сырыя дровы.

— От добра, а то ў мяне дровы не гараць, а пішчаць,— захоўваючы ўсхваляванасць, прамовіла Гануля. Яна хацела выціснуць усмешку, але ў яе нічога не атрымалася.

Падняўся хлопчык, дзіця вялізнымі вачыма глядзела на незнаёмага яму чалавека. Яўхім падышоў да

сына і хацеў узяць на рукі. Хлопчык пацёр кулачкамі вочы і скрывіўся.

— Гэта твой бацька,— сказала Ганула.

— Ну, ідзі да мяне,— гаварыў Яўхім, беручы дзіця. Ён спытаўся ў сына: — Дык хто твой бацька?

— Ёй,— нясмела адказаў хлопчык.

Бацька зарагатаў, а Ганула адвярнулася да чалесніка, яна не хацела сустрэцца вачыма з мужам, каб не ўпікнуць, што ён дрэнна ваяваў.

«І чаму гэта на свеце так робіцца? — думала Гануля.— Чакала яго, радавалася сустрэчы, а цяпер нездаволена. Чалавеку, мусіць, заўсёды чагосьці не хапае. Добра, што ён прыйшоў, рукі-ногі цэлыя, дык хацелася б яшчэ... Хоць у гэтым няма нічога дрэннага, а таму мне не пакрасавацца. А простаму чалавеку хіба нічога не трэба для душы? Мы ж цяпер выйшлі ў людзі! Паспрабуй хто сказаць што-небудзь благое пра тутэйшага чалавека, дарма не пройдзе. Народ наш умее шанаваць свабоду».

Хлопчык хутка з бацькам падружыў і ўжо цягаў яго за вусы. Яўхіму, які паглядаў за Гануляй, ясным стала, што ў яе нешта большае, чым нелады каля печы. «А можа, яна нездаволена падарункам,— падумаў Яўхім.— Дык дзе я ёй лепшых вазьму?»

Яўхіму захацелася загаварыць з Гануляй, каб высветліць, у чым справа, але ён не ведаў, з чаго пачаць.

— Ды, кажаш, ва ўсіх у Балатнянцы ўжо ёсць каровы? Добра.

— Добра, але не зусім,— запярэчыла Гануля. Яна дадала: — А калгасны хлеў усё яшчэ пусты. Калі не будзе жывёлы, то не будзе і хлеба.

Яўхім не пазнаваў жонку, у яе адбыліся нейкія змены, якія, ён яшчэ і сам не ўяўляў.

На вуліцы пачулася гамонка, збіралася радня, суседзі.

— Хоць бы пераадзеўся,— перамагаючы боль, гаварыла Гануля.— Сорамна будзе перад людзьмі... Такі ж ты з перамогай вярнуўся... Надзявай, Яўхімка, касцюм...

— Сёння яшчэ пабуду ў вайсковай адзежы,— заявіў Яўхім.— Няхай людзі паглядзяць...

— Няма чым хваліцца,— не вытрымала Ганула, каб не папракнуць яго.

— І чаго ты пстрыкаеш? — загарэўся Яўхім.— Ануч не прывёз? Дык жа я, можа, не ў заработках быў. А грабіць насельніцтва, як тут рабілі «цывілізаваныя» немцы, рука не паднялася...

— Толькі таго клопату — анучы... Будзе ў мяне па іх балець галава...

— Дык чаго цябе дрэнчыць?..— Яўхім нездаволена паглядзеў на Ганулю і выйшаў у камору, каб пераадзецца, бо ўжо людзі былі на двары.

Збіраўся народ, як на ігрышча. Так у Балатнянцы было заведзена, што кожны лічыў за абавязак наведаць салдата, які вярнуўся з вайны, пагаварыць, пачуць, што робіцца на свеце, даведацца, як людзі жывуць.

Жартавалі мужчыны:

— Нешта сёння наша мурашачка спазнілася?

— «Свісь на дуба» з'явіўся.

— Дык аладкі чамусьці не пякуцца?

— Нечым гаспадар не дагадзіў?!

— А такі сёння Ганула не такая, як заўсёды... дзе толькі дзеўся яе спрыт...

— Па вачах бачу,— загаварыў стары,— што ў Ганулі нейкае гора... А пра Ганульчына гора цяжка дазнацца...

— Дровы доўга не ўгараліся,— апраўдвалася Ганула.— Аладкі не пякуцца.

У сенцах пачулася хада Яўхіма. Ганула ўздрыганулася, яна падумала: «Ну чым мае дзеці горшыя за іншых, каб пахваліцца, што іх бацька — герой». Погляды родных і суседзяў былі накіраваны да дзвярэй, адчувалася нейкая ўрачыстая цішыня. Адчыніліся дзверы, Яўхім паклікаў Ганулю і нешта пачаў ёй гаварыць.

— Скрутак? — перапытала Ганула.— І сама не ведаю, куды палажыла. А-а-а. Я меркавала, што там бялізна, і кінула ў куфэрак.

Ганула хутка дастала скрутак і падала Яўхіму. Яна спяшалася ісці ў хату, каб не нагаварыць чаго-небудзь лішняга мужу. Яўхім разгарнуў скрутак. Там былі тры салдацкіх ордэны «Слава» і некалькі медалёў, якія атрымаў перад самай дэмабілізацыяй і не хацеў надзя-

ваць на старую гімнасцёрку. Ганулья вялізнымі здзіўленымі вачыма глядзела на Яўхіма, прайшлася па твары радасная ўсмешка, густа пачырванелі шчокі.

— Даруй мне, Яўхімка,— прызналася ўсхваляваная Ганулья, памагаючы мужу прымацаваць ордэны і медалі,— дрэнна я пра цябе падумала... А мне здалося, што ты быў не сапёрам, а абознікам... І, як часам бывае на вайне, выхваляўся — мы ваявалі!..

— Прызнацца па праўдзе, што і я пра цябе не лепш падумаў,— усміхнуўся Яўхім.— Мне на момант здалося, што ты належыш да тых жанчын, якія бачаць шчасце ў анучах... Выходзіць, колькі мы разам пражылі, а яшчэ добра не ведаем адно аднаго... Недарма кажуць: «Каб чалавека пазнаць, трэба пуд солі з'есці...»

— За вайну ўсе мы іншымі сталі, выраслі...

Яны зайшлі ў хату.

— Ёй,— махаў хлопчык ручкамі,— на ію імку...

— Што ён кажа? — спытаўся бацька.

— Герой, вазьмі на рукі Яўхімку,— растлумачыла, пасміхаючыся, маці.

— Ну, свісь на дуба, хадзі! — беручы на рукі сына, гаварыў Яўхім.

— Дык вось яно якое, Ганульчына гора,— сказаў мужчына.— Я-то гляджу, такая гаспадыня, а аладкі не пякуцца, а смажацца.

— І скажы ты,— азваўся барадаты стары,— якія ў нас пайшлі жанчыны... Паспрабуй каторы ў навальніцу ў кустах адседзецца, то цябе і на парог не пусцяць...— Ён падумаў: — Дый пра калгасных кароў яна ўчора праўду сказала... У калгасным хляве ні хваста... трэба нам гэту памылку як найхутчэй выправіць... і пра салдатак...

Ганулья, завіхаючыся, рыхтавала снеданне. У хаце было поўна гамонкі. Людзі меркавалі, як наладзіць гаспадарку, каб зажыць яшчэ лепей, чымся да вайны.

*1946*

# РОДНАЯ ДАРОГА

На ўзгорку, непадалёк ад асфальтаванай дарогі, па якой увесь час снуюць машыны, выраслі карпусы новага завода. Яго акружаюць гонкія сосны, якія нагадваюць, што тут яшчэ не так даўно ўзвышаўся цёмназялёны бор, а ў далёкім мінулым, мусіць, была непраходная пушча, і, можа, вось такі самы волат-зубр, які красуецца на заводскай агароджы, вольна разгульваў тут.

З другога боку дарогі будаваўся новы горад. Як ён непадобны на стары Мінск, на тыя крывыя і брудныя вуліцы з урослымі ў зямлю дамамі, у сутарэннях якіх даўней жылі рабочыя. Светлыя фарбы новых дамоў, чыстыя вуліцы, абсаджаныя маладымі дрэўцамі, прыемна цешаць вока чалавека.

І навокал — будоўля. Усюды рыштаванні. Вось узнімаюцца ў неба стройныя заводскія коміны, узвышаюцца кварталы жылых дамоў для рабочых, пракладаецца трамвайная лінія, укопваюцца слупы для вулічных ліхтароў. І ўдзень і ўночы кіпіць напружаная праца.

З варот завода выходзяць магутныя машыны, паблісквають срабрыстыя зубры. На бартах машын размашыстым почыркам напісана: «Беларусь — новабудоўлям». Па шэрай стужцы асфальтаванай дарогі, здаецца, мяккай, як аксаміт, ідуць і ідуць машыны, пад імі дрыжыць зямля. Машыны ідуць да пагрузачнай пляцоўкі. Ад гэтых прыгажуноў-асілкаў не адарваць вачэй.

Раніца. Толькі што ўзышло сонца.

У прысадах, на непафарбаванай лаўцы, сядзіць юнак. Твар энергічны, карыя вочы смяюцца. Малады рабочы адзеты па-святочнаму: ён у светла-шэрым гарнітуры, у белай вышытай кашулі, на адвароце пінжака — медаль. «Як не ганарыцца гэтымі гмахамі! — пагледзеўшы на карпусы завода, думае юнак.— Мы збудавалі іх сваімі рукамі».

Павярнуўшыся і прыўзняўшы галаву, ён глядзіць на таварыша, які толькі што падышоў, трохі старэйшага за яго хлопца ў сіняй блузе. Той пытаецца:

— Куды, Аляксей, выбраўся?

— Суправаджаць машыны буду. Чуў пра Жыгулі?

Аж туды! — паведаміў Аляксей Баркоўскі і з гордасцю дадаў: — Беларускі самазвал! Нам таксама ёсць чым на людзях пакрасавацца. За машыны нашай маркі не будзеш чырванець.

Аляксей глянуў на свой медаль «Партызану Вялікай Айчыннай вайны» і, хітра паглядаючы на Хвядоса Кляшчэвіча, прадоўжыў:

— Трэба сказаць, што будаваць не лягчэй, чым ваяваць. І ўсё ж чалавеку ахвотней ствараць, чым разбураць. За якія-небудзь пяць год такога набудавана, што дзіву даешся. На нашых вачах горад з руін і попелу ўзнялі. А наш завод пасылае ўжо новабудоўлям каторы эшалон з машынамі.

— Усё гэта правільна,— сказаў Хвядос,— а толькі...

— Што? — насцярожыўся Аляксей.

— Непрыемна гаварыць, але мушу, паколькі лічу цябе сваім найлепшым сябрам,— пачаў, хвалюючыся, Хвядос.— Ты дабіўся некаторых поспехаў і на гэтым спыніўся. Не думаеш, як вышэй узняцца.

— Няхай майстры і тэхнікі думаюць.

— А ты сам?

— Ат! — махнуў рукою Аляксей.

— Адкуль у цябе такая парадкасць? — наступаў Хвядос.— Ты, кажуць, учора так выхваляўся нашымі машынамі, што прыкра было слухаць.

— А хіба благую машыну стварылі?

— Не благую, але трэба стварыць яшчэ лепшую. У Жыгулях вадзіцелі могуць даць шмат каштоўных заўваг. Трэба будзе табе да іх прыслухацца, каб нам улічыць у далейшай рабоце.

— Ну!

— Вось паглядзіш!

— Заўтра буду праязджаць па родных мясцінах,— задумліва сказаў Аляксей. Ён хацеў перавесці размову на іншую тэму.

— А чаму ты ніколі не з'ездзіш на радзіму? Птушка і тая ласку мае да таго месца, дзе вывелася, і выраю туды ляціць.— Хвядос з дакорам спытаўся: — Можа, магіла бацькоў не прыбрана?..

— Каб жа была магіла,— цяжка вымавіў Аляксей.— Хіба я табе не казаў? Усіх нашых фашысты сагналі ў гумно і падпалілі... Нічога на вогнішчы не асталося, вецер нават попел развеяў па полі...

Аляксей пасуровеў, у яго заморгалі вочы, і ён адвярнуўся.

Хвядос адчуў сябе няёмка, што сваім неасцярожным дакорам прымусіў сябра засмуціцца. А ўсё гэта здарылася таму, што яны паміж сабою — у Хвядоса таксама бацькі былі расстраляны фашыстамі — стараліся пра гэта не гаварыць, каб не трывожыць нанесеных ран.

— А як хочацца ўбачыць родныя мясціны, паглядзець, чаго дасягнулі землякі,— прагаварыў Аляксей. Ён успомніў сцежкі, дзе бегаў малым у школу, у якой пазнаў хараство роднага слова, успомніў першыя крокі барацьбы, калі быў у партызанскай разведцы.

Пачуўся заводскі гудок, Аляксей нібы прачнуўся.

— А ведаеш, Хвядос, пра што я зараз падумаў?

— Пэўна, што я дрэнны сябра.

— Не.

— А што?

— Вельмі мала мы робім для таго, каб фашысты больш ніколі не глуміліся над людзьмі.

— Мы з табою ці наогул нашы людзі?

— Канешне, мы.

— Тады згодзен.— Хвядос падумаў.— Хоць у тваім кавальскім цэху ўвогуле не дрэнна наладжана праца.

— Чаму ўвогуле? — нездаволена запытаў Аляксей.

Хвядос пачаў тлумачыць Аляксею, што можна было б яшчэ зрабіць у іх кавальскім цэху.

— Адкуль ты так ведаеш кавальскую справу, ты ж слесар? — здзівіўся Аляксей.

— Усё адтуль жа, з палітэхнікума,— усміхнуўся Хвядос.— Ты часам вечар дарэмна страціш, а я, глядзіш, падвучуся трохі. А што ведаеш — за плячыма не насіць!..

— Кавалём можна быць і не вучыўшыся,— унурыў галаву Аляксей.

— Дарэмна,— запярэчыў Хвядос.— Каб быць увесь час перадавіком, для гэтага трэба вучыцца.

— Ты зноў пра сваё!

— Калі ж вельмі балюча за цябе — спыніўся і топчашся на месцы. А нашаму пакаленню рабочых трэба будзе яшчэ і не такое рабіць. Трэба будзе асвоіць атамную энергію ў мірных мэтах. А для гэтага патрэбен

культурны рабочы. Даўно ў нас прайшоў той час, калі выхваляліся невуцтвам...

— Як прыеду, падумаю. Можа, і праўда, што ты кажаш.

Хлопцы весела паглядзелі адзін на аднаго, засмяяліся.

Падымалася сонца. Сваімі яркімі праменнямі яно асвятліла радасныя твары юнакоў.

Пачуліся звонкія дзявочыя галасы, вясёлая гаворка. Хвядос страпянуўся, паглядзеў на сябе, ці ўсё ў парадку, спадзеючыся спаткаць дзяўчыну, з якою дружыў. Яны ўмовіліся тут сустрэцца і разам ісці на завод. На твары Хвядоса з'явілася ветлівая ўсмешка.

Хлопцаў акружылі дзяўчаты, у спяцоўках, з чырвонымі хусцінкамі на галовах. Прысады напоўніліся гамонкай, нібы птушыным шчэбетам лес вясною. Адна з дзяўчат, не зважаючы на таварышак, нахілілася да Хвядоса. Аляксей паглядзеў у другі бок, адкуль падыходзіла смуглявая дзяўчына з доўгімі косамі. У хлопца засвяціліся вочы. Хлопец з дзяўчынай, спаткаўшыся вачыма, ласкава ўсміхнуліся.

— Ты што, Аляксей, хіба сёння не збіраешся ісці на работу? — запыталася дзяўчына з косамі.

— Не, я еду ў Жыгулі, павязу новабудоўлям нашы машыны,— урачыста паведаміў хлопец.

— Праўда? Зайздрошчу табе! — ускліснула дзяўчына.

— Што перадаць будаўнікам? — спытаўся Аляксей. Дзяўчына з доўгімі косамі абвяла сяброўак позіркам і адказала:

— Зямны паклон ад беларускіх дзяўчат. Мы будзем з усіх сіл ім памагаць у іх вялікай працы!

— Правільна! — пачуліся галасы дзяўчат.

— Добра сказала, смуглянка,— адобрыў Аляксей.

— Як, як? — перапытала дзяўчына.

— Смуглянка,— паўтарыў юнак.

Усе засмяяліся. Трапны выраз мог стаць мянушкай дзяўчыны. Гэтак тут вялося. У Хвядоса была мянушка — Сасна, бо хлопец, будучы сакратаром камсамольскага камітэта, абвясціў паход за захаванне лесу вакол завода, а ў Аляксея — Каваль, гэта ішло ад яго прафесіі. Але так іх у вочы ніхто не адважваўся зваць, акрамя блізкіх сяброў,

— Ты, Аляксей, толькі хутчэй вяртайся,— не звяртаючы ўвагі на смех, сказала дзяўчына з доўгімі косамі і пачырванела. Яна схіліла галаву і наском чаравіка выводзіла літары: «Ка-валь».

— Добра,— узрадаваўся Аляксей. Ён упершыню адчуў, што яму прыемна быць з гэтай дзяўчынай, ёсць аб чым гаварыць.

— Аляксей там доўга не затрымаецца,— усміхнуўся Хвядос, паказваючы на выведзенае дзяўчынай слова «Ка-валь».

Хрысціна, так звалі дзяўчыну з косамі, сумелася, яе шчокі паружавелі. Гэта вельмі пасавала да яе твару. Дзяўчына ўсё больш падабалася Аляксею.

Пачуўся другі гудок.

Рабочыя, спяшаючыся, ішлі на завод. Моладзь таксама гуртам рушыла за імі.

Каля заводскіх варот Аляксей развітаўся. Хрысціне ён моцна пацісну руку. Яна адказала яму ўзаемнасцю і, паглядзеўшы ў яго вочы, апусціла галаву. На твары ў дзяўчыны адбіўся смутак, ёй не хацелася хоць на кароткі час разлучацца з Аляксеем. Правёўшы вачыма дзяўчыну за вароты завода, Аляксей павярнуўся і, не спяшаючыся, пайшоў да пляцоўкі, дзе пагружалі машыны на платформы. Хлопец адчуў нейкую асаблівую радасць на душы, яму захацелася спяваць...

Эшалон з машынамі, якія праводзіў Аляксей, імчаўся на ўсход. Поезд на малых станцыях зусім не спыняўся, а на вялікіх доўга не затрымліваўся. Ўсюды яму была адкрыта дарога. Надпісы «Беларусь — новабудоўлям» служылі своеасаблівым пропускам.

Веснавое сонца абпальвала вясёлы твар хлопца, сустрэчны вецер развяваў яго непакорныя русыя валасы. Аляксей прыгадаў даўнюю песню і заспяваў:

Наш паровоз вперед летит...

Аляксей ехаў па роднай дарозе. У гарадах дыміліся фабрычна-заводскія коміны, на палях працавалі трактары, узвышаліся слупы з электрычнымі правадамі. Мільгалі лясы і пералескі, распасціраліся шырокія калгасныя палі. У Аляксея маланкай праносіліся думкі, абганяючы адна другую. І раптам да свядомасці хлопца дайшло, што ён і сапраўды заспакоіўся на дасягну-

тым і далей не расце, не вучыцца, у той час калі шмат хто з таварышаў, ну хоць бы той жа Хвядос, даўно яго абагналі. Аляксею стала непрыемна ад гэтай думкі, ён хацеў адмахнуцца ад яе, але нічога не выходзіла.

Праязджаючы па родных мясцінах, Аляксей пачаў больш уважліва глядзець па баках. Раптам сэрца яго сціснулася, хлопец да крыві прыкусіў губу. На тым месцы, дзе стаяла вялізнае калгаснае гумно, у якім былі спалены фашыстамі бацькі, зелянела рунь.

Над рэчкай, якая сіняй стужкай агінала вёску, стройнымі радамі стаялі новыя хаты калгаснікаў. На вуліцы гулялі дзеці, на старым дубе, які перажыў ужо не адну вайну, бусел майстраваў сабе гняздо. У Аляксея пасыпаліся з вачэй слёзы, і ён іх не саромеўся. З усяго роду Баркоўскіх Аляксей адзін астаўся жывы. «Усё гэта не дае мне ніякага права стаяць на месцы»,— падумаў ён. Прыйшоўшы да такога вываду, хлопец некалькі супакоіўся. Паглядзеўшы на эшалон, якому чыгуначнікі адкрылі «зялёную вуліцу», юнак падумаў: «Ну так, калі не расцеш, дык адстаеш. Трэба вучыцца». І яму стала прыемна на душы.

З хваляваннем Аляксей вёў сваім ходам калону аўтамашын да Камсамольска, да месца прызначэння. Вось і славутыя Жыгулі, прыгажуня Волга — маці рускіх рэк, пра якую людзі стварылі гэтулькі цудоўных песень, казак і легенд. Але якім ні было ўяўленне юнака адносна багацця тэхнікі на будоўлі, тое, што ён тут убачыў, прыемна здзівіла і парадавала.

Аляксей, як гаспадар, абыходзіў будаўнічую пляцоўку. Тут упраўна працаваў экскаватар «Уралец», там пад'ёмны кран транспартаваў металічныя фермы для мантажу блокаў шлюза, убаку ўзнімалі металічныя фермы будучай канатнай дарогі, далей вялі электразварку арматуры на днішчы шлюза. Аляксей спыніўся ў кар'еры, дзе ішла загрузка каменем дваццаціпяцітоннага самазвала.

— Ну, як машына? — з гордасцю запытаў Аляксей.

— А ты хто? — насцеражыўся вадзіцель.

— Прадстаўнік завода,— важна паведаміў Аляксей.

— Дасканалага, як вядома, яшчэ людзі нічога не стварылі,— схільны пафіласофстваваць, разважаў вадзіцель.— Калі б гэта было так, чалавецтва спыніла б развіццё...

— Усё ж? — дапытваўся Аляксей.

— Нядрэнная машына, а толькі...

І вадзіцель, хітра паглядаючы на хлопца, стаў выкладаць, якія, на яго думку, мае недахопы самазвал. Тут і цяжкае кіраванне машынай, і тое, што не ўсюды самазвал можа прайсці, і некаторыя дэталі хутка спрацоўваюцца. Аляксей апусціў галаву і пачухаў патыліцу, яго нібы халоднай вадой абліді. Вадзіцель, убачыўшы, як ён моцна ўразіў сваімі словамі юнака, лезучы ў кабіну нагружанага самазвала, усміхаючыся, кінуў:

— А ўвогуле машына добрая...

— Добрая? — узрадаваўся Аляксей і памкнуўся да самазвала, але вадзіцель закрыў ужо кабіну і ўключыў матор.

Машына загула, закалацілася, застагнала. Цяжка скрануўшыся з месца, яна падмінала пад сябе каменне і розны друз, уціскала ўсё гэта ў грунт, пакідаючы глыбокі след. Узрушаны Аляксей стаяў, праводзячы яе вачыма.

Юнак выйшаў з кар'ера акрылены. Пранізлівы волжскі вецер ледзь не збіў яго з ног. Падставіўшы спіну ветру, хлопец паволі пайшоў у бок плёса магутнай ракі. Апынуўшыся на вялікай будоўлі, якой жыве ўся краіна, юнак адчуў у сабе нейкі новы прыліў энергіі.

І калі раней у хлопца была патаемная думка пафарсіць на людзях сваёю машынаю, дык цяпер з'явілася жаданне пагаварыць з большай колькасцю людзей, каб выявіць усе недахопы машыны і ў далейшым яе ўдасканаліць. Юнак прыгадаў словы вадзіцеля: «Дасканалага, як вядома, яшчэ людзі нічога не стварылі»; добра сказана. «Простая думка, а я да яе не дайшоў,— разважаў Аляксей.— Вось што значыць зазнацца. А ўсё гэта, мусіць, ад таго, што да мяне лёгка прыходзілі адна за адной перамогі».

І ўсё ж Аляксей не хацеў здавацца. «А можа, гэта і не зусім так,— падумаў ён, накіроўваючыся да галоўнага інжынера будаўніцтва.— Буду трымацца так, як і трэба трымацца ў такіх выпадках прадстаўніку завода». І Аляксей, узняўшы галаву, пайшоў у напрамку да ўпраўлення будаўніцтва.

Галоўны інжынер Рудніцкі, ужо сівы, у акулярах з залатой апраўай, без чаргі прыняў Аляксея як прадстаўніка адной з саюзных рэспублік, машыны якой ужо

даўно заваявалі сабе славу. Калі Аляксей зайшоў у кабінет, Андрэй Міхайлавіч устаў, выйшаў з-за стала і з радасцю спаткаў юнака.

— Прывезлі машыны? — паціскаючы руку, сказаў Рудніцкі.

— Так.

— Многа? — прапануючы рукою сесці, запытаў Рудніцкі.

— Эшалон.

— Малавата,— нахмурыўся Рудніцкі.— Абяцалі больш...

— Затое добрыя,— сеўшы ў мяккае крэсла, не без гонару заявіў Аляксей.

— А гэта ўжо нам лепей вядома,— дастаючы з шуфляды стала нейкія паперы, зазначыў Рудніцкі.— Машыны вашы сапраўды добрыя, я дзіўлюся таленту беларускага народа, які ў кароткі тэрмін дабіўся такіх выдатных поспехаў, але... мы вось адносна вашых аўтамашын падрыхтавалі невялічкае пісьмо...

І, перадаўшы Аляксею пісьмо, Рудніцкі, спяшаючыся, стаў гаварыць пра недахопы не толькі дваццаціпяцітоннага, але і сямітоннага самазвалаў.

— Андрэй Міхайлавіч! — усклікнуў Аляксей, у яго ад хвалявання пачырванелі шчокі.— Ці не залішне высокія вы прад'яўляеце нам патрабаванні? У нас на заводзе ў пераважнай большасці працуюць маладыя рабочыя...

— Новабудоўлі чакаюць ад вас больш дасканалай машыны,— спакойна прадаўжаў Рудніцкі.— Калі вы не спыніцеся на дасягнутым, дык неўзабаве створыце такую машыну. А для гэтага трэба вучыцца...

І, нягледзячы на сваю занятасць, Рудніцкі расказаў юнаку, як ён яшчэ ў стары час набываў па крупінцы веды, як, ужо будучы пасівелым, вывучаў класікаў марксізма-ленінізма і як гэта памагло яму ў рабоце.

— Вы, пэўна, камсамолец? — запытаў Рудніцкі.

— Так.

— Вучыцеся?

Аляксей нічога не адказаў, а толькі заліўся чырванню аж да самых вушэй.

— Звярніце ўвагу на акт,— сказаў, устаючы, Рудніцкі.— Мы забракавалі адну машыну, вельмі ж усё ў ёй не да ладу... Гэта, зразумела, выключэнне, але...

— Добра, дзякую,— заспяшаўся Аляксей.— Пастараемся, каб больш гэтага не было... Усяго добрага!

— Бывайце здаровы! — пацiснуў на развiтанне руку юнака Руднiцкi.— Перадайце калектыву завода вялiкае дзякуй.

— Ага,— успомнiў Аляксей.— Нашы дзяўчаты прасiлi мяне перадаць будаўнiкам гiдраэлектрастанцыi зямны паклон... Яны абяцалi з усiх сiл памагаць новым будоўлям.

— Дзякую, шчыра дзякую,— захваляваўся Руднiцкi.— Перадайце iм, што мы будзем працаваць так, як гэтага патрабуе ад нас партыя, народ, Радзiма.

Юнак выйшаў з кабiнета. «Вось табе i пакрасаваўся на людзях»,— падумаў Аляксей. Выцершы хустачкаю лоб, хлопец пайшоў да Волгi, каб на развiтанне палюбавацца прыгажосцю вялiкай рускай ракi.

* * *

Скоры поезд iмчаў на захад. Аляксей не адрываў вачэй ад акна, любуючыся падмаскоўнымi пейзажамi. Белыя бярозы, нiбы кланяючыся, амаль даставалi веццем зямлю. Юнак час ад часу заглядаў удалячынь, дзе ўсё яшчэ вiдаць быў на Ленiнскiх гарах унiверсiтэт, якi будаваўся. Хлопец цвёрда вырашыў: «Як прыеду, адразу бяруся за вучобу!»

Чым блiжэй Аляксей пад'язджаў да свайго краю, тым больш пачынаў хвалявацца. Хлопцу здавалася, што поезд цягнецца вельмi марудна.

Праязджаючы на зары па роднай дарозе, Аляксей адкрыў акно. Уварваўся свежы вецер. Хлопец цяпер убачыў не толькi новыя калгасныя хаты, але i людзей, якiя дружна выходзiлi на работу. Ён убачыў статак тлустых кароў, чароды пародзiстых авечак i гаманлiвых гусей, якiх выгналi на пашу. Юнаку здалося, што яго землякi дасягнулi большага, чымся ён, i яму стала сорамна за самога сябе. Ён пакляўся ў думках: «Буду працаваць i вучыцца ўсё сваё жыццё».

Пад'язджаючы да станцыi Мiнск, Аляксей выглянуў у адкрытае акно i ўбачыў на пероне Хрысцiну i Кацю з Хвядосам. Гэта яго ўзрадавала, бо тэлеграму аб сваiм звароце ён даваў толькi аднаму Хвядосу Кляшчэвiчу.

— Вось дык навуку прайшоў, век буду помніць,— замест прывітання паведаміў Аляксей і дадаў: — Каб каваць шчасце на зямлі, і кавалю трэба вучыцца.

Вясёлая, радасная моладзь выйшла з вакзала і пешшу пайшла ў напрамку да завода, уважліва слухаючы расказ Аляксея аб новабудоўлі, людзях, якія шмат чаму яго навучылі.

*1951*

# НЕСПАКОЙНЫЯ ХАРАКТАРЫ

— Добра кажаш, хлопча, што пра машыны нашай маркі яшчэ будуць песні спяваць,— сказаў Асадчы свайму субяседніку, рассекшы рукою паветра.— Гэта будзе, абавязкова будзе!

Яны сядзелі на лаўцы пад высокай, стройнай сасною. Каля новага дома, у які нядаўна пераехалі Асадчыя, на жоўтым пяску гулялі яго ўнукі. Шчаслівыя бацькі з акна наглядалі за малымі. Вось з чарапічнага даху зляцелі на зямлю галубы, дзеці сталі іх карміць.

— Дык як, Кузьма Аркадзьевіч, можа, пойдзем? — звярнуўся Бортнік да Асадчага.— Хлопцы ўжо збіраюцца...

— А што, уласна кажучы, вам ад мяне трэба? — хітра прыжмурыў вочы Асадчы.

— Пабудзеце з намі на маёўцы.

— Гэтым вы не задаволіцеся, ведаю вас,— усміхнуўся Асадчы.— Неспакойныя характары. Але што зробіш, злавілі на слове. Даў згоду, цяпер трэба ісці.

І Асадчы, пакрэктваючы, устаў з лаўкі.

— Куды ты, бацька? — выйшаўшы на ганак, запытаўся сын.

— Хлопцы запрашаюць да сябе.

— Пасядзелі б лепш дома, вы ж у адпачынку,— з дакорам сказала нявестка, выглянуўшы ў акно.— Што за чалавек!.. Чаго добрага, з камсамольцамі навыперадкі, як учора з малымі, бегаць будзеце?

— А што ж,— засмяяўся Асадчы.— Прыгадаем маладосць. Гэта карысна чалавеку!

— Дзеду, няўжо і вы былі камсамольцам? — здзіўлена спытаўся кучаравы хлопчык, у якога завіткі белых валасоў спаўзалі аж на каўнерык матроскі.

— Быў, унучак, ды яшчэ якім заўзятым,— хаваючы ў футляр акуляры, адказаў Асадчы.

— Не пусцім! — акружыўшы старога, наперабой загаманілі малыя.— А хто нам казку раскажа? Хто з намі ў кошкі-мышкі гуляць будзе? Не пусцім, вось і ўсё!

— Я не забаўлюся,— сказаў Асадчы і пагладзіў па галовах дзяцей.— Абяцаў жа я ў іх быць. А слова, што верабей, выпусціш — не зловіш...

На ўзгорку, каля Дома сацкультуры, сабраліся рамеснікі. Яны з нецярплівасцю чакалі свайго любімага настаўніка і шчырага сябра.

Асадчы некалі працаваў на Пуцілаўскім заводзе, удзельнічаў у штурме Зімняга палаца. У час грамадзянскай вайны з вінтоўкай у руках абараняў маладую рэспубліку. А ў Айчынную вайну партызаніў. На левай шчацэ ў яго астаўся шрам пасля ранення — памятка слаўных партызанскіх баёў. Шмат год Асадчы аддаў такарнай справе, а цяпер перадаваў свой багаты вопыт выдатнага майстра рамеснікам. Нездарма казалі, што ў Асадчага залатыя рукі. Ён па гуку мог вызначыць, у каго як працуе станок. Але не толькі гэта вабіла юнакоў да майстра. У Асадчым яны бачылі чалавека вялікага сэрца і адкрытай душы.

Убачыўшы Асадчага з Бортнікам, рамеснікі задаволена зашумелі.

— Добрага дня, арляняты! — падышоўшы да іх, прывітаўся Асадчы.

— Дзень добры! — дружна адказалі юнакі.— Дзякуем, што прыйшлі! А то мы па вас, Кузьма Аркадзьевіч, хацелі гуртам ісці. Вельмі ж ужо доўга чакаем...

— Даганяць і чакаць — няма горшага на свеце,— згадзіўся Асадчы.— То што вы тут робіце?

— У нас толькі што закончылася пасяджэнне камсамольскага камітэта,— адказаў адзін з юнакоў.

— І што вы абмяркоўвалі на сваім пасяджэнні?

— Як правесці маёўку. А што?

— Так сабе...— Асадчы задумаўся, нешта ўспамінаючы, загаварыў: — У дзевятнаццатым годзе я быў прымацаваны да камсамольскай ячэйкі вячэрняй школы завода. Аднойчы прыходжу на пасяджэнне. Сакратар паведаміў парадак дня. Першае пытанне — аб умацаванні маладой Савецкай улады. З прычыны актывізацыі контррэвалюцыйных сіл — Юдзеніча, Дзянікіна і іншага гадаўя — бюро ячэйкі абвяшчала аб сваёй мабілізацыі. Другое пытанне — аб сусветнай рэвалюцыі. Пастанавілі: выкінуць сусветную буржуазію на сметнік гісторыі.— Асадчы ўсміхнуўся.— А вы што рашылі?

— Прагулянца ў бліжэйшы лясок,— адказаў кірпаносы юнак з круглым тварам у вяснушках і, бліснуўшы

карымі вачыма, паказаў рукою ўдаль,— і там правесці дзень. Люба-дарага!

— Люба-дарага, але не ўсім.

— А гэта зусім блізка, вунь, відаць!

— Блізка відаць, ды далёка дыбаць,— сказаў Асадчы.— Да таго ляска — кіламетраў пятнаццаць з гакам... Вам прагулка, а як мне?

— І калі вы набудзеце сабе «Масквіча»?

— Попыт вялікі, раскупілі ўсе машыны. Запісаўся ў чаргу. Хіба адзін я хачу ездзіць.

— Тады правядзём дзень тут,— прапанаваў Бортнік.— І папросім Кузьму Аркадзьевіча расказаць нам што-небудзь цікавае...

— Просім! — загаманілі рамеснікі.

— Не ведаю, ці будзе цікавае, але затое праўдзівае,— узыходзячы на ўзгорак, сказаў Асадчы.— Вось ён, прыгажун, наш аўтамабільны, як на далоні... Любуйцеся!

Прыгравала сонца. Сваімі яркімі праменнямі яно абпальвала твары юнакоў. Маладое лісце дваццаціпяцігадовых ліп, пасаджаных увосень, было яшчэ мокрае, на траве зіхацела раса. На заводскай агароджы серабрыўся зубр. У небе звінелі жаваранкі. Недзе ўводдалі закукавала зязюля.

Усё жывое славіла вясну.

— Не ў крыўду будзь сказана, ваша пакаленне прыйшло на гатовае,— прамовіў Асадчы, прысаджваючыся на траву.— Дык беражыце ж усё, чаго дасягнулі вашы бацькі і браты,— яно нялёгка далося. Цяжка было будавацца. Яшчэ некалькі год таму назад тут цямнеў густы лес. Але прыйшлі людзі і пачалі будаваць тут завод, ды не адзін, а адразу некалькі.

— Куды ні глянь,— ажывіўся Бортнік,— усюды новабудоўлі.

— Прыгажосць! — радасна асвятліўся твар у Асадчага.— Да часу вашага ўступлення ў жыццё наша краіна не толькі аднавіла зруйнаваныя вайной заводы, але і пабудавала новыя...

— Кузьма Аркадзьевіч! А калі нас паставяць на самастойную работу? — запытаўся Бортнік.— Нам бы хацелася, каб пачаць з хуткаснай апрацоўкі металу.

— Законнае жаданне,— падумаўшы, адказаў Асадчы.— Паспрабуем. Хоць, відаць, будуць праціўнікі.—

Ён засунуў руку ў кішэнь пінжака.— Заўтра вы будзеце ля станкоў. І вось менавіта гэтымі разцамі мы будзем рабіць хуткасную апрацоўку.

Хлопцы цесна акружылі Асадчага, загаварылі наперабой. За шумам нічога нельга было разабраць.

— Цішэй вы, хлопцы,— папрасіў Асадчы.

— Кузьма Аркадзьевіч! — выгукнуў Бортнік.— Вы свае вынаходства аддаяце нам?

— А ў мяне ад вас няма ніякіх сакрэтаў. Гэта не стары час, калі майстар баяўся перадаць свой вопыт другім...

— А што мы будзем вырабляць? — запытаўся вяснушкаваты хлопец.

— Асвойваць магутны дваццаціпяцітонны грузавік-самазвал,— усхвалявана паведаміў Асадчы.— Гэты арэшак не так проста раскусіць. У самазвале больш за дзве тысячы дэталей. Такая машына ствараецца ў нашай краіне ўпершыню. Адно яго кола вышэй за ўвесь аўтамабіль «Масквіч».

— Ого! — здзівіўся юнак.— А навошта такая машына?

— Для новабудоўляў,— адказаў Асадчы, падкручваючы парыжэлыя ад тытуню вусы.— Заўтра і я пайду на завод разам з вамі.

— Дык жа вы ў адпачынку,— запярэчыў Бортнік.

— Не магу сядзець без работы, такі ўжо ў мяне характар.

— Добры характар,— сказаў Бортнік.— Людзі зайздросцяць вашай энергіі...

— А нядаўна,— успамінаў Асадчы,— якіх-небудзь пяць год таму назад, мы сюды прыйшлі з кіркамі і рыдлёўкамі, каб расчысціць пляцоўку пад будоўлю... Тады яшчэ не было такой магутнай тэхнікі, як цяпер. Людзі начавалі ў шалашах, але працавалі па-геройску і верылі, што надыдзе лепшы час... Не так даўно і я пераехаў у новую кватэру. Гэта не дом, а палац... Калісьці, як я працаваў у Піцеры, мне і ў сне не снілася, што я на старасці год буду жыць у такой кватэры.

— Кузьма Аркадзьевіч! А ці праўда, што вы ў семнаццатым годзе штурмавалі Зімні палац? — хітра паглядаючы на хлопцаў, запытаўся Бортнік. Равеснікі ўжо даўно хацелі запытацца пра гэта, але ўсё не адважваліся.

— Праўда,— пацвердзіў Асадчы.

— Можа, вы і Леніна бачылі? — дапытваўся Бортнік.

— А як жа! — загарэліся вочы ў Асадчага.— Уладзімір Ільіч на Другім з'ездзе Саветаў абвясціў Савецкую ўладу. З Леніным былі яго бліжэйшыя паплечнікі: Сталін, Свярдлоў, Дзяржынскі... Як радаваўся народ! Слоў не хапае, каб усё гэта перадаць...

— Шчаслівы чалавек! — вырвалася з грудзей у Бортніка.

— Шчаслівы! — згадзіўся Асадчы.— А толькі і вам няма чаго крыўдаваць на свой лёс. Не ведаю, ці давядзецца мне жыць пры камунізме, а вы будзеце ў ім жыць, абавязкова будзеце! Дык я павінен вам зайздросціць!

— Кузьма Аркадзьевіч! А дзе вы былі ў час грамадзянскай вайны? — дапытваўся Бортнік.

— На поўначы — Юдзеніча білі,— падумаўшы, адказаў Асадчы.— На поўдні — Дзянікіна гналі. На ўсходзе — Калчака грамілі. Гарачыя былі дні... Ну, і я не адзін фронт перамяніў...

— А ў Вялікую Айчынную вайну што вы рабілі? — цікавіўся юнак.

— Таксама не сядзеў склаўшы рукі. Хадзіў на жалезку, партызаніў,— расказваў Асадчы.— Але не трэба жыць толькі ўспамінамі. Давайце лепш падумаем, што будзем рабіць заўтра. Перад нашым заводам пастаўлена вялікая задача — стварыць дваццаціпяцітонны самазвал. Дак давайце, арляняты, закасаўшы рукавы, возьмемся за працу!

— Не сумнявайцеся, Кузьма Аркадзьевіч, не падвядзём,— запэўніў Бортнік.— Усё, што трэба для савецкай Радзімы, мы зробім.

— Правільна! — загаманілі хлопцы. Бортнік выказаў іх думкі.

— З вамі пабудзеш — памаладзееш,— весела сказаў Асадчы і ўзняў галаву.— Думаю я, што пра машыны нашай маркі і пра людзей, якія іх стварылі, будуць песні спяваць...

* * *

На другі дзень яшчэ да першага гудка хлопцы сабраліся ў прысадах, недалёка ад заводскай брамы, каб

ісці на работу. Школьную бестурботнасць як рукою зняло. Яны адчувалі сябе рабочымі. А ў Бортніка сёння, здавалася, нават паходка стала іншая, некалькі падобная да паходкі Асадчага, нібы хлопец цвярдзей стаяў на зямлі.

Відаць было, што хлопцы хваляваліся, як іх спаткае мнагатысячны калектыў ужо спрактыкаваных рабочых, сярод якіх ёсць выдатныя майстры, далёка вядомыя за межамі завода.

— Галоўнае, хлопцы, не бянтэжыцца,— загаварыў Бортнік.— Не ўдаецца каму што, звяртайцеся за дапамогай да старэйшых.

— А чаго нам вельмі палохацца,— азваўся вяснушкаваты хлопец.— Не ў лес ідзём, што заблудзіцца можна. Кругом свае людзі; калі здарыцца якая бяда — выручаць.

Падымалася сонца, якое часам засланялі хмары, што чародамі плавалі ў небе. Дзьмуў паўночны вецер, круціла, узнімаўся пыл слупам. Праляцела некалькі шпакоў, праплыў бусел, несучы галінку ў дзюбе.

Неяк захлёбваючыся, пачаў гусці гудок, яму, мусіць, перашкаджаў моцны вецер. Але потым гудок набраў сілы, загучаў голасна, бадзёра.

У прысадах сталі з'яўляцца рабочыя. Яны ішлі да завода і не звярталі ўвагі на рамеснікаў, хоць спіс скончыўшых рамесніцкую школу сам Асадчы перадаў у аддзел кадраў і хлопцаў ужо залічылі рабочымі.

Нарэшце паказаўся Асадчы. Хлопцы ажывіліся, яны рады былі майстру, як дзеці свайму бацьку.

— Добрага рання, арляняты! — прывітаўся Асадчы, пыхкаючы люлькай, з якой ён мала калі разлучаўся.

— Добрай раніцы! — загаманілі наперабой хлопцы.

— Што ж гэта вы сёння нейкія такія, нібы вам крыллі хто паадразаў? —усміхнуўся Асадчы.

— А што? — запытаў вяснушкаваты хлопец.

— Пасінелі. Калоціцеся як асінавае лісце.

— Бо холадна,— азваўся самы малы хлопец.— А мы рана выйшлі, цярпення не хапіла чакаць у інтэрнаце.

— А гэта ўжо блага, калі людзі трацяць цярпенне,— сказаў Асадчы.— З сённяшняга дня вы рабочыя...

— Якія ж мы яшчэ рабочыя? — з сумненнем у голасе перапыніў яго малы хлопец.

— Сапраўдныя рабочыя! — цвёрда сказаў Асадчы. Вочы ў яго весела смяяліся, ён ганарыўся новым пакаленнем будучых майстроў.

Міма іх праходзілі ўвесь час рабочыя; пераганяючы адзін аднаго, яны віталіся, жартавалі. Пайшлі і хлопцы на чале са сваім настаўнікам. Да вуха Асадчага даляцеў жарт.

— Бачылі, Кузьма Аркадзьевіч дзіцячы сад на завод вядзе,— выгукнуў нехта і дадаў: — Вось і зніжай тут брак і ўзнімай вытворчасць...

Пачуўся смех.

— Будзь пэўны, ідуць людзі з гарачымі сэрцамі, прыйдзецца за імі падцягвацца,— адпаліў Асадчы.

Хлопцы, падтрыманыя ў такі крытычны, як ім здавалася, момант, яшчэ цясней акружылі свайго майстра, гатовыя абараняцца ад любога нападу.

— Яшчэ паглядзім, хто чаго варты,— не вытрымаў Бортнік.

Усе заўсміхаліся.

З нейкай урачыстасцю, усхваляваныя, прайшлі хлопцы заводскую браму, мяжу, ад якой пачыналася сталасць і новае жыццё. Вось яны зайшлі ў прасторны і светлы аўтаматычны цэх. Радамі выстраіліся станкі, дзе-нідзе ўжо стаялі рабочыя, адны надзявалі блузы, другія падрыхтоўвалі інструмент. Асадчы паказаў месцы маладым рабочым. Станкі былі такія вялікія, што з-за іх некаторых хлопцаў і не было відаць.

— Ну што ж, хлопцы, возьмемся з вамі асвойваць хуткасныя метады,— паведаміў Асадчы.

— Ого, маладыя, а раннія,— прагучаў непадалёку нечы голас. Чалавек, які гэта сказаў, хутка знік за станкамі, паказаўшы свае сутулыя плечы.

— Хто гэта? — запытаўся Бортнік.

— Няважна! — голасна сказаў Асадчы, каб пачуў той чалавек.— Малаверы заўсёды бываюць бітыя.

Асадчы выняў чарцяжы дэталей і падрабязна тлумачыў, што і як трэба рабіць. Ён укладаў усю душу, перадаючы свой вопыт. А ў яго было чаму павучыцца. З ім часта раіліся нават інжынеры. Яго прапанова аб вырабе прыстасавання, якое значна зніжае брак пры фрэзераванні квадратаў, прынесла заводу вялікую эканомію, а яму заслужаную славу. Кузьма Аркадзьевіч

выконваў зменную норму больш чым на дзвесце працэнтаў.

Усю сваю ўвагу сёння Асадчы аддаў Бортніку, які, як яму здавалася, павядзе за сабою астатніх. Кузьма Аркадзьевіч уставіў дэталь у патрон, замацаваў разец і, уключыўшы матор, пачаў спакойна паварочваць ручку кіравання.

Бортнік стаяў моўчкі. Ён бачыў, як Асадчы ўважліва сачыў за складанай апрацоўкай дэталі, як ён, спыняючы станок, правяраў дакладнасць размеру. Усё гэта Кузьма Аркадзьевіч рабіў не спяшаючыся, без лішняй мітусні.

— Ну што ж, дружа, у дарогу,— прапанаваў Асадчы.— Асмельвайся!

Бортнік падышоў да станка і сам уключыў матор.

У гэты час у вяснушкаватага хлопца паламаўся разец. Асадчы заспяшаўся да яго, паглядзеў, растлумачыў, у чым прычына паломкі, памог наладзіць работу станка.

Да маладых рабочых падыходзіў інжынер Істомін, ужо ў гадах чалавек, з круглым тварам, у рагавых акулярах. За ім ішоў начальнік цэха Панасюк, з хваравітым тварам і нейкімі напалоханымі вачыма. Ён быў высокі, тонкі і сутулы. Гэта Панасюк раніцаю жартаваў з хлопцаў. Убачыўшы інжынера і з ім ужо знаёмую сутулую постаць, хлопцы захваляваліся. І зноў здарылася няшчасце: некалькі станкоў адразу спыніліся.

— Ну, а што я казаў: ім у дзіцячым садзе ў цацкі гуляць, а яны за хуткасную апрацоўку ўзяліся,— іранізаваў Панасюк.— Вось тут і выконвай праграму!

— Кузьма Аркадзьевіч! — загаварыў Істомін.— Я вельмі вас паважаю як выдатнага перадавіка, але вы задумалі не тое, што трэба...

— Дзіва! Нездаровая фантазія! — падтрымаў Панасюк.— Першы дзень прыйшлі на работу і за хуткасную апрацоўку ўзяліся. Толькі паважаючы вашу сівізну, Кузьма Аркадзьевіч, я...

— Хлопцы самі гэтага пажадалі, яны не хочуць пачынаць работу з пройдзенага,— перапыніў яго Асадчы.— І нічога не зробіш, прыходзіцца з імі згадзіцца, яны глядзяць у заўтра.

— Гм, іх цікавіць заўтра, а мяне сёння,— выгукнуў

Панасюк.— Ад мяне дырэкцыя патрабуе выканання плана.

— План будзе выкананы,— цвёрда сказаў Асадчы, пранізаўшы вачыма начальніка цэха. Гэта азначала, што размова скончана.

— Глядзіце самі,— развёў рукамі Істомін.— А толькі я вымушаны буду далажыць дырэкцыі завода.

— Калі ласка.

А Бортнік, не звяртаючы ўвагі на размову, прадаўжаў старанна апрацоўваць дэталь. Панасюк падышоў да яго і зласліва спытаўся:

— А ў вас як справы, малады чалавек, колькі мне разцоў сапсулі?

— Вельмі прашу вас, не перашкаджайце мне працаваць,— спакойна адказаў Бортнік.— У канцы змены падлічым...

— Ну і людзі пайшлі, да трох не гавары. До-о-бра. Канец змены пакажа, чаго вы варты.

Інжынер Істомін і начальнік цэха Панасюк нездаволеныя пакінулі хлопцаў. Панасюк увесь час нешта нашэптваў Істоміну, той, відаць, з ім згаджаўся і ківаў галавою. Асадчы паглядзеў ім услед і ўсміхнуўся:

— Пачалося сапраўднае жыццё. Што ж, пацягаемся. Іх канёк — невыкананне дзённай нормы. Дык мы яго выб'ем. Я стану за станок, і няўжо нам не ўдасца разам асіліць план?

— Пастараемся! — загаманілі хлопцы.

Увесь астатні час маладзёжная брыгада на чале з Асадчым працавала напружана. Шмат было непаладак, майстар вымушаны быў спыняць свой станок і памагаць маладым рабочым. Ён не гарачыўся, а цярпліва кожны раз тлумачыў няўдачу таго або іншага хлопца.

Да канца змены Кузьма Аркадзьевіч так змогся, што як прысеў, дык не хацеў уставаць. Але калі падлічылі зробленае і высветлілася, што брыгада ў цэлым не толькі выканала, але і перавыканала на дваццаць працэнтаў дзённую норму, у майстра ад радасці засвяціліся вочы. Больш за ўсіх з маладых рабочых зрабіў Бортнік.

— Выходзіць, мы самі з вусамі,— звяртаючыся да Бортніка, задаволена ўсміхаўся Асадчы.

У канцы работы да маладзёжнай брыгады падышлі інжынер Істомін і начальнік цэха Панасюк, які быў упэўнены, што план сарваны, бо паціраў рукі. Насустрач ім падняўся Асадчы і далажыў аб выкананні задання маладзёжнай брыгадай. Істомін і Панасюк разгубіліся, начальнік цэха не ведаў, куды дзець вочы.

— Нічога, пойдзе справа,— упэўнена заявіў Бортнік.— Праўда, у першы дзень Кузьма Аркадзьевіч нам памог, але ў будучым мы самі з усім справімся.— Бортнік падумаў: — І добра зрабілі, што пачалі з хуткаснай апрацоўкі. Накладныя расходы апраўдаюцца. Мы перад дзяржавай не астанёмся ў даўгу. Сказалі — зрабілі.

— Ды ўжо ж,— згадзіўся Асадчы.— Пройдзе час, і вучні перарастуць свайго настаўніка.

— А вы хіба шкадуеце? — усміхнуўся Істомін.

— Наадварот, для мяне будзе вялікай радасцю. Так ужо вядзецца ў жыцці.

Прагуў гудок, які апавясціў аб сканчэнні дзённай змены. З цэхаў пачалі выходзіць людзі. Моладзь, ідучы поруч з Кузьмой Аркадзьевічам, весела гаманіла. Асадчы быў хоць стомлены, але таксама вясёлы — выйграна «першая разведка боем». Ён быў упэўнены, што хлопцы авалодаюць хуткаснай апрацоўкай металу. А што можа быць для камуніста большай радасцю, як бачыць вакол сябе людзей, здольных давесці справу, за якую ён змагаўся, да канца.

Прыемна было на душы ў старога майстра.

*1952*

7 Зак. 1899

# НАРАДЖЭННЕ ГЕРОЯ

Штодня над рабочым пасёлкам, разразаючы паветра, раве заводскі гудок. З утульных і прыгожых катэджаў на вуліцы, абсаджаныя маладымі дрэўцамі, выходзяць поўныя сілы рабочыя. Майстаравыя, спяшаючыся, ідуць тратуарамі і па бруку да прасторных карпусоў завода.

На далягглядзе маячыць лес стройных каміноў, якія ўздымаюцца да сонца. Захлёбваючыся, на ўсе галасы дрыжаць заводскія гудкі. Яны клічуць людзей на работу.

З аднапавярховага дома выйшаў энергічны юнак у сіняй блузе. У хлопца прабіваліся чорныя маленькія вусікі, раздзімаўся кірпаты нос, жмурыліся быстрыя вочы; яны па-гаспадарску аглядалі вуліцу. Угледзеўшы пахіленае дрэўца, юнак спыніўся. Нехта вывернуў калок, да якога прывязаны быў клёнік. Пасуравелі вочы ў хлопца, нахмурыліся бровы. Ён паправіў дрэўца, прывязаў яго да калка і пайшоў далей.

Міхась Гаркавец працаваў у дызельным цэху трактарнага завода. Хлопец лічыўся лепшым токарам цэха, з ім надоечы сам майстар Шульга раіўся, як прадоўжыць тэрмін службы інструмента на кожнай вытворчай аперацыі. Юнак апошні час гэтым жыў. Яму вельмі хацелася што-небудзь зрабіць, але нічога не прыходзіла ў галаву. «Новае нараджаецца ў пакутах»,— прыгадаў хлопец дзесьці прачытанае.

Міхась шырока ступаў па бруку, нікога перад сабою не заўважаючы. Галаву свідравала думка: як скараціць расход каштоўнага інструмента на сваіх аперацыях? Каленчаты вал — складаная дэталь, для яго апрацоўкі неабходна каля дзевяноста назваў толькі рэжучага інструмента, розных прыстасаванняў. А на выраб інструмента ідуць самыя гатунковыя маркі сталі. Трэба эканоміць метал.

«Грам тону беражэ»,— успомніў юнак словы майстра.

Убачыўшы ў прысадах пустую лаўку, Міхась звярнуў убок: яшчэ не было другога гудка, рана ісці на завод. Сеўшы на лаўцы пад ліпай, хлопец задумаўся.

«Відаць, прычынай павышанага расходу інстру-

мента будзе не зусім якасная заточка»,— не выходзіла з галавы думка ў Міхася.

«А можа, сапраўды знойдзена звяно, ухапіўшыся за якое можна выцягнуць увесь ланцуг?» — думаў юнак. «Пры правільнай заточцы тэрмін службы інструмента павінен прадоўжыцца,— меркаваў Міхась.— Тады можна будзе павялічыць падачу, зразумела, стварыўшы моцнае ахалоджванне».

Выйсце, здавалася, знойдзена, і ўсё ж закрадаліся сумненні, як яно там будзе. Неабходна было параіцца са старэйшымі, больш спрактыкаванымі ў жыцці і рабоце людзьмі. У яго хоць і адукацыя ніштаватая: скончыў дзесяцігодку, але практыка малая. А што, як высмеюць яго прапанову: «вынайшаў веласіпед».

«Трэба дзейнічаць! — неяк Міхасю раіў Шульга.— Адзін раз спатыкнешся, другі раз будзеш глядзець пад ногі. Кожная новая справа патрабуе рызыкі».

Да Міхася падышоў майстар дызельнага цэха Антон Гаўрылавіч Шульга, з парыжэлымі абвіслымі вусамі, пыхкаючы люлькай, якая даўно патухла: з ёю стары мала калі разлучаўся; часам пасля абеду, прылёгшы на канапе, ён нават засынаў курачы. Былі выпадкі, калі стары, моцна задумаўшыся, трымаючы ў руках люльку, шукаў яе. З-пад вялізных брывей майстра свяціліся добрыя вочы. На высокім ілбе і каля вуснаў акрэсліліся глыбокія складкі.

— Добрай раніцы! — глухім голасам прывітаўся Шульга і, не чакаючы адказу, пасміхаючыся ў вусы, запытаўся: — Ты што, Міхасёк, так задумаўся? Мусіць, моцна здружыўся з дзяўчынай? А такі Галя Ганчарык удалая! Што ж, тады жаніся. З ёю не прападзеш... Усё ў яе неяк да толку...

— Дзень добры! — ветліва сказаў Міхась і ўскочыў з лаўкі, прапануючы: — Сядайце, Антон Гаўрылавіч! Мы яшчэ маем час.— Юнак падумаў і горача запярэчыў: — А толькі, Антон Гаўрылавіч, жаніцца мне яшчэ рана, нічога такога я не паспеў зрабіць. Дый, па праўдзе кажучы, Галю я мала ведаю... Якіх-небудзь некалькі месяцаў, як мы з ёю знаёмы... А спадарожніца ў жыцці, як вы казалі, вялікая справа...

— Вось ты які! — задаволена вымавіў Шульга.— Хвалю... А я ведаў аднаго хлопца, які пасля паўмесячнага знаёмства з дзяўчынай, не сказаўшы ні слова

бацькам, пабег з ёю ў загс і распісаўся. Ён вучыўся на другім курсе інстытута, а яна на трэцім курсе тэхнікума. А цяпер ад бацькоў цягнуць грошы... Чалавеку, уступаючы ў жыццё, трэба мець талент у руках...

— Да таго ж мае бацькі яшчэ не бачылі ў вочы Галі. Ці адобраць яны нашу дружбу? — разважаў Міхась.— Дый бацькі Галіны нічога пра мяне не ведаюць. Яна чамусьці не адважыцца напісаць. Вось летам возьмем разам адпачынак і з'ездзім да маіх бацькоў у Гомель і да яе — у Старыя Дарогі...

— Вельмі добра! — усклікнуў Шульга.— А той хлопец, пра якога я табе казаў, жывучы ў адным горадзе, ніколі з ёю не зайшоў ні да сваіх старых, ні да яе... «Да чорта,— кажа,— старыя звычкі...» А тое, што ён да дваццаці сямі год жыве на бацькавым карку, лічыць зусім нармальным... Дык куды гэта годна! У моцнай дзяржаве і сям'я павінна быць трывалай...

— У мяне бацькі — самыя блізкія людзі,— падумаўшы, сказаў Міхась.— Я ніколі і нічога ад іх не таіў...

— Правільна! — адобрыў Шульга.— А той...

Шульга меў на ўвазе сына суседа-інжынера, які пакінуў бацькоў толькі таму, што тыя не дазволілі жаніцца з дзяўчынаю, якой ні яны, ні ён сам не ведалі. А можа, усё таму, што залішне песцілі сына, дзьмулі на яго. Вось і вырас ён беларучкай, прывык жыць на ўсім гатовым, не паважаў старэйшых і нават сваіх бацькоў ні ў грош не ставіў.

— Перш чым жаніцца, трэба цвёрда стаць на ногі,— прагаварыў Міхась.— І трэба яшчэ вывучыць характары: хлопец дзяўчыны, а дзяўчына хлопца... для гэтага можа спатрэбіцца год ці два.

— Во, во! Мы з сваёю старою, пакуль пажаніліся, пяць год дружылі... Затое потым век пражылі і ніколі ўсур'ёз не пасварыліся... Перагаворыш часамі, не без гэтага, але каб да сэрца прымаць... А адзін мой знаёмы так зрабіў: прызначыў у садзе тром дзяўчатам спатканне і даў слова: якая першай прыйдзе, з той і пажэніцца; ён так і зрабіў, а цяпер кожны дзень ідзе калатня...— Шульга перадыхнуў.— Дык ты з Гомеля, бацька рабочы... Мусіць, з маленства працуеш?

— Не. Але неяк так здарылася, што я, гуляючы, з шасці год стаў засцілаць свой ложак, чысціць чараві-

кі, а потым дроў прынясеш, вады... гэта ж няцяжка, у ахвоту зробіш!.. Я прывык да працы і без яе не магу жыць... Для мяне нічога не рабіць — гэта пакаранне.

— А як жа! Праца ўзвышае чалавека, робіць яго высакародным. А таму сынку, пакуль не ажаніўся і не пакінуў бацькоў, маці падавала начышчаныя генеральскія камашы: другіх ён не прызнаваў, бо трэба было згінацца і зашнуроўваць... А ў Галі бацькі, пэўна, інтэлігенты?

— Чаму?

— Яна заўсёды такая акуратная. Хоць і проста адзяецца, але з густам.

— Бацька яе працуе машыністам на паравозе, а маці некалі была кухаркай на станцыі. Старая цяпер дэпутат райсавета.

— А ўсё ж, Міхаська, што ў цябе за клопат? Калі, зразумела, не сакрэт?

— Задалі вы мне, Антон Гаўрылавіч, загадку: што зрабіць, каб прадоўжыць тэрмін службы інструмента? Думаў я крыху аб гэтым і вось што надумаў.

І хлопец выказаў майстру свае меркаванні. Расказваў ён хвалюючыся, як вучань на першым экзамене. Твар і нават вушы былі чырвоныя, а вочы іскрыліся агнём.

— А сынок мой! — узрадавана падскочыў Шульга.— А як жа ўсё гэта проста і пераканаўча. А я да гэтага і не дадумаўся. От што значыць навука і розум. Сёння ж параімся з тэхнолагам і прыступім да справы. Мне думаецца, што ў тваёй прапанове ёсць сэнс... А кінутае ў нашу глебу каштоўнае зерне ніколі не прападзе... яно абавязкова ўзыдзе... зарунее... З цябе будзе чалавек!.. От што...

Шульга запаліў сярнічку і задыміў люльку, запыхкаў. Узвіўся шызы дымок, запахла дабротным мультанам. Стары паволі падняўся, за ім лёгка ўскочыў юнак, і яны, ажыўлена размаўляючы, пайшлі ў напрамку да завода. Валам валілі рабочыя, весела пераклікаючыся паміж сабою. Шульга з Міхасём мінулі заводскія вароты. Прахрыпеў апошні гудок. Гаспадарамі майстар і токар зайшлі ў цэх. Каля станкоў ужо варушылася моладзь. Міхась адразу прыкмеціў, што Галя сёння нейкая неспакойная і нечым усхваляваная. Ён падышоў да дзяўчыны і пасля прывітання запытаўся:

— Што здарылася, Галюся, чаму ты сёння не такая, як заўсёды?

— А дзе ты прападаеш? — голас у Галі здрыгануўся, у ім прагучала нотка дакору.— Чаму позніўся на работу?

— Пасля раскажу,— весела ўсміхнуўся Міхась.— Галка, каб ты толькі ведала... Цыганка!..

На гэтым іх размова скончылася, бо майстар з тэхнолагам паклікалі яго да сябе. Не бачыў Міхась, як у Галі задрыжалі вусны, як закруціліся ў чорных вачах слёзы, як наліліся чырванню, нібыераспелыя вішні, смуглявыя шчокі. Не ведаў хлопец, што гэтай раніцай дзяўчына першы раз пераступіла парог яго кватэры, каб павіншаваць з днём нараджэння і разам ісці на работу, але не застала яго дома. Гаспадыня кватэры паказала халасцяцкі пакой. Там быў вялікі беспарадак, чаго раней за Міхасём ніколі не заўважалася. На стале ўзвышаўся стос кніжак, адна ляжала раскрытай, у сшытку былі зроблены нейкія запісы.

— Не ведаем, што робіцца з хлопцам,— паведамляла гаспадыня кватэры.— Позна прыходзіць, кажа, што працаваў у бібліятэцы. Не чуем, калі лажыцца спаць, і раней за ўсіх устае. Сёння мы яшчэ спалі, калі ён пайшоў. Мусіць, нават забыўся пра свае імяніны. Муж уранні хацеў яго за вушы пацягаць. Адно ж уцёк! — дадала яна, усміхаючыся.

Галі хацелася прыбраць у пакоі, але яна не адважылася: яшчэ і так можа дрэннае падумаць пра яе гаспадыня. Дзяўчыне здалося, што хоць жанчына была ветлівай і стрыманай, але, пэўна, у душы насміхалася. Прынамсі, яе вочы казалі пра гэта.

«І навошта я туды ішла,— дакарала сябе Галя,— толькі будуць лішнія размовы. Дый, чаго добрага, Міхась падумае, што я за ім бегаю, заганарыцца. Хлопцы астаюцца хлопцамі! Ім нельга паказваць, што ў іх закаханы. Яшчэ і падарунак пакінула — чайны сервіз». Але яна ўзяла слова з гаспадыні, што тая не скажа, хто да яго заходзіў. Ой, гэтая маладосць, на якія толькі неабдуманыя ўчынкі здольны людзі!.. «І куды ён мог так рана пайсці?.. Дык жа і ўвечары позна прыходзіць... Можа, падружыў з якой дзяўчынай?..»

Галіна нібы прачнулася: яе сяброўкі працавалі, а

яна яшчэ наладжвала станок. Заўсёды шустрая, цяпер дзяўчына чамусьці была вялай. Рознае лезла ў галаву. Няўжо ён пакахаў другую?

Спрактыкаваны майстар Шульга ўбачыў у прапанове Міхася такое наватарства, якое можа даць добрыя вынікі, і хлопца горача падтрымаў. У старога было такое адчуванне, нібы расчынілі вокны і ў цэх павеяў свежы красавіцкі вецер. Лёгка дыхалася. Пасля некаторага вагання і тэхнолаг згадзіўся паспрабаваць, што з гэтага выйдзе, хоць у размове нібы між іншым кінуў: «Вельмі смелы эксперымент».

— А па-мойму, хлопча,— звяртаючыся да Міхася, гаварыў Шульга,— цябе чакае ўдача. На вас, маладых, не ўплываюць старыя прывычкі... Ты любіш працу і дружыш з кніжкай... Дзейнічай!.. От што...

— Дзякую, Антон Гаўрылавіч, за добрае слова,— загарэўся Міхась. Ён адчуваў у сабе сілы, і здавалася, зможа адолець любыя цяжкасці. Падтрымка старога майстра яго акрыліла.— Што ж, паспрабую, а не выйдзе — зноў буду шукаць... Калі ў гэтым будзе неабходнасць, то і прапановы з'явяцца... Пачну!..

— Жадаю поспеху,— сказаў Шульга.— Гонар працы!

— Яшчэ раз дзякую!

Міхась уключыў матор. Як у ліхаманцы закружылася, загуло. Змейкай выкручвалася сіняватая металічная стружка. Раптам здалося, нібы ўздрыгануўся станок. Юнак, хвалюючыся, выключыў ток. Аказалася, выкрышыўся разец. Токар здзіўлена паглядзеў на майстра, які неўзаметку кусаў вус. А ў тэхнолага, хоць ён умеў хаваць свае пачуцці, усё ж па вачах можна было прачытаць: «Ну, а што я казаў?»

Зірнуўшы на тэхнолага, Шульга прагаварыў:

— Што ж, адзін раз не выйшла, гэта не значыць, што другі раз, трэці не выйдзе...

Шмат бяссонных начэй правёў у пошуках юнак. Хлопец не здаваўся, не такой ён быў натуры. «Упарты»,— казалі пра яго.

«А што, калі змяніць геаметрыю разца?» — нарэшце прыйшла думка Міхасю. Юнак ледзь не ўсклікнуў: «Знойдзена!»

Міхась даў свае чарцяжы для заточкі інструмента, змяніўшы крыху вугал разца. Потым павялічыў на та-

карным станку падачу, а на фрэзерных — удасканаліў рэжым рэзання і адрэгуляваў ахаладжэнне.

Цяпер стала ясна, што пачын токара-камсамольца мае вялікую будучыню. Практыка паказала, што фрэзы ад заточкі да заточкі могуць апрацоўваць не восем валаў, як было дагэтуль, а адзінаццаць-дванаццаць. А потым электраіскравае ўмацаванне фрэзаў дазволіла павялічыць колькасць апрацаваных паміж заточкамі валаў да чатырнаццаці-пятнаццаці. Змена ж геаметрыі разца зусім спыніла паломку. Разец больш не выкрышваўся.

Міхась так аддаўся працы, так загарэўся і захапіўся наватарствам, што ў апошні час яму зусім не было калі пагаварыць з каханай дзяўчынай. Гаспадыня стрымала слова: яна не сказала хлопцу, хто яму прынёс падарунак. Гэта юнака вельмі інтрыгавала, ён аднойчы хацеў нават падысці да Галі і запытацца, ці не яна тут замешана, але не адважыўся, бо ведаў, што яна не прызнаецца. Галя ўсе гэтыя дні нечага дзьмулася на яго, а калі часам сустракаліся, дык старалася глядзець у другі бок, каб не сустрэцца вачыма. Ёй сказалі сяброўкі, што Міхась перапісваўся з нейкай гамяльчанкай, з якой вучыўся ў адной школе. Галя пры спатканні з Міхасём злавала на яго, а на адзіноце сумавала па ім і ўздыхала.

Поспехі, якіх дабіўся Міхась, ускалыхнулі ўвесь дызельны цэх. Асабліва імі ганарыўся майстар, бо па яго падліках гэта давала вялікую эканомію. Шульга настаяў, каб неадкладна склікаць сход інжынерна-тэхнічных работнікаў і перадавікоў цэха. На ім быў вызначаны план арганізацыйных і тэхнічных мерапрыемстваў па ўкараненню пачыну токара.

Неяк Шульга, праходзячы па цэху, спыніўся каля Галі. Ён ведаў пра яе адносіны да Міхася, і таму незразумелым быў сумны настрой, які апанаваў дзяўчыну ў апошні час.

— Галя! Чаго ты насупілася? Няўжо цябе не радуе нараджэнне героя?

— Якое нараджэнне?..— перапытала Галя.— У каго?

— Я пра Міхася. Хіба гэта цябе не радуе?

Зашчымела ў Галі сэрца, цёмна стала ў вачах, пабялелі шчокі. «Значыць, праўду дзяўчаты казалі пра

гамяльчанку,— падумала Галя.— А цяпер нараджэнне...»

— Чаго ж мне радавацца? — паглядзела сумнымі вачыма Галя на майстра.— Я такі дагадвалася...

— Як? — здзівіўся Шульга, нічога не разумеючы.— Увесь цэх радуецца, увесь завод. Такая эканомія!.. Патрыятычны пачын маладога рабочага Міхася Гаркаўца радуе не толькі рабочых нашага завода... От што! А ты кажаш, «дагадвалася»...

— Гэта і мяне радуе,— хвалявалася Галя.— Але нараджэнне...

— А як па-твойму, няўжо ты не бачыш, што Міхась — гэта чалавек, які клапоціцца аб заводзе, аб ўсёй краіне? — пытаўся Шульга.— Вось табе і нараджэнне героя...

— Што? — схамянулася Галя.— Дык вы ў Міхасю бачыце нараджэнне героя?

— Канечне.

— От бо дурная, а я немаведама што пра яго падумала,— узрадавалася дзяўчына.— Антон Гаўрылавіч! То вы хоць яму нічога не кажыце...

— Да самага вяселля буду маўчаць. А толькі ці хутка яно будзе?

— Не ведаю,— засаромелася Галя.

— Чаму? — задыміў люльку Шульга, запыхкаў, як паравоз.— Не абавязкова адкладваць паездку да бацькоў на лета... Пры жаданні можна і раней управіцца...

— Адкуль вам усё гэта вядома? — здзівілася Галя.

— Дрэннае далёка чуваць, а добрае яшчэ далей,— прыжмурыў вочы Шульга.— Вось паглядзіш, Галя, пра пачын Міхася хутка будзе ведаць увесь горад, уся рэспубліка... З нараджэннем новых заводаў нарадзіліся новыя людзі... У Міхасю бачу я рысы чалавека будучыні... От што!..

— Ага,— задумалася Галя, паглядаючы на свае ногі.— А людзі будучага ці будуць кахацца? Бо некаторым і цяпер няма часу...

— А як жа,— разгладзіў вусы Шульга, нічога не падазраючы.— Пры камунізме чалавецтва дасягне вышыні свайго росквіту... Людзей не будзе спакушаць ні золата, ні іншыя каштоўнасці... Чалавек стане абса-

лютна незалежны, і каханне будзе самае высакароднае... От што!

У гэты час паказаўся Міхась. Ён ішоў хутка, шукаючы некага вачыма.

— Антон Гаўрылавіч! — радасна гукнуў Міхась.— Можна вас? На хвілінку!

Майстар павярнуўся і павалі пайшоў у бок канторы цэха. Радасна ў Шульгі было на душы. Не прапала дарэмна праца многіх год, растуць новыя рабочыя...

— Антон Гаўрылавіч! — весела спаткаў старога Міхась.— Мяне ўвечары выклікаюць у гарком партыі... Можа, і вы са мною паедзеце?..

— А пры чым тут я? — запярэчыў Шульга.

— Як пры чым? — здзівіўся Міхась.— Вы ўвесь час накіроўвалі маю думку ў пэўным напрамку... І вось вынікі...

— Не, Міхасёк, я шчыра рады за цябе, а толькі не хачу быць вясельным генералам,— цвёрда сказаў Шульга.— Ты расправіў свае крыллі сам, без чыесьці дапамогі, дык і ляці ў вышыню... А калі хто варты таго, каб яго спамянулі добрым словам, дык скажы... Адно ў мяне толькі пажаданне: не спыняйся пасярод дарогі.

— Дзякую, Антон Гаўрылавіч, шчыра дзякую,— і так пацінуў руку, што ў старога аж звяло пальцы.— Я ніколі не забуду вашых клопатаў пра мяне, пра ўсіх нас, маладых...

— Ага,— успомніў Шульга.— Не сушы дзяўчыну... Заняўся наватарствам і яе закінуў... Не адабраю... От што!..

— Паскардзілася? — Міхась хацеў пайсці да Галі, але скончыўся перапынак на абед, і ён узяўся за работу.

На другі дзень у газетах была надрукавана пастанова гаркома аб пачыне токара Міхася Гаркаўца.

Майстар цэха, Антон Гаўрылавіч Шульга, надзеўшы акуляры, чытаў і перачытваў кароткую заметку аб наватары. Вочы яго смяяліся, ён ад душы радаваўся нараджэнню героя. Згарнуўшы газету, Шульга падкруціў свае вусы і закурыў люльку. Спявалі на ўсе галасы станкі, і сэрца старога прасіла песні.

*1952*

## РАСЦВІЛІ ВІШНІ

На многія гектары раскінуўся на правым беразе Дняпра сад калгаса «Будучыня». Як вокам акінуць, зелянелі маладыя дрэўцы антонавак і слуцкіх бэраў, цыганкоў і папяровак, сліў і вішань.

Алёнка Лапцік і Сяргей Беражынскі з сяла Замчышча, дзе змяшчаўся цэнтр калгаса «Будучыня», яшчэ ў школе, калі яна вучылася ў дзевятым, а ён у дзесятым класе, падружылі. Сяргей Алёнцы ні ў чым не пярэчыў, і гэта, відаць, дзяўчыне падабалася. Цяпер Алёнка прыехала з Гродна, дзе яна вучылася на агранома, а Сяргей — з Мінска, з політэхнічнага інстытута, у якім ён скончыў механічны факультэт і быў прызначаны галоўным інжынерам суседняй МТС. Алёнка пасля сканчэння інстытута марыла падацца на Палессе, упэўненая, што і Сяргей за ёю паедзе.

Ужо каторы дзень, як яны былі ў Замчышчы, другія студэнты з першага дня працавалі ў калгасе, а яны ўсё ніяк не маглі налюбавацца адно адным, нагаварыцца. Сяргей не мог нагледзецца на Алёнчыны валасы льнянога колеру, заплеценыя ў дзве тоўстыя касы. Яму падабалася, як дзяўчына, часам забаўляючыся, перакідвала іх з-за спіны на грудзі.

У блакітным небе плавалі пуховыя хмары. Дзьмуў лёгкі ветрык, рабацела рака, а калі выглядала сонца з-за хмар, вада серабрылася.

Папраўляючы свае растрапаныя русыя кучары, Сяргей ішоў следам за Алёнкай і расказваў гісторыю, якая здарылася нядаўна ў іх інстытуце. Адзін са студэнтаў, выпускнік, рашыў кінуць жонку з дзіцем, спасылаючыся на тое, што ў яе толькі сярэдняя адукацыя, а ён як-ніяк інжынер. А між тым, калі муж вучыўся, гэтая жонка карміла, адзявала і абувала яго, яшчэ і на кішэнныя выдаткі прысылала грошы, на якія ён іншы раз частаваў каханку. І вось у гэтую справу ўмяшалася яго маці, простая жанчына, калгасніца. Яна пісала пісьмы ў арганізацыі інстытута, але не атрымоўвала ніякага адказу. Хто гэта будзе ўмешвацца ў «асабістыя» справы студэнта? Маці не вытрымала і прыехала ў горад. Яна прасіла сына ўзяцца за розум, не кідаць жонку, а памагчы ёй, калі ён ужо так хоча,

паступіць у інстытут. Але ён і вухам не вядзе. Тады маці звярнулася да дырэкцыі з просьбай не выдаваць сыну дыплома. «Калі ён такі няўдзячны да жонкі і сям'і, дык гэткі будзе і да дзяржавы»,— сказала яна.

Вось студэнты і пачалі спрачацца. Адны гавораць: якая гэта маці, калі яна не спрыяе роднаму сыну, а другія даказваюць, што маці правільна паставілася.

— А як ты лічыш? — спынілася Алёнка.

— Мне думаецца,— гаварыў Сяргей,— што каб маці па-сапраўднаму любіла сына, дык гэтак бы не зрабіла. Яго могуць пазбавіць дыплома.

— А па-мойму, толькі сапраўдная маці гэтак магла зрабіць,— бліснула сінімі вачыма Алёнка і, паволі ідучы, гаварыла: — Мне пра гэтую гісторыю яшчэ ў Гродна расказвалі.— Алёнка скінула павуцінне з ружовай сукенкі.— Жонка таго студэнта хоць і менш адукаваная, але разумнейшая за яго ў некалькі разоў.

— А доказы? — высакамерна спытаў Сяргей. Яго шэрыя вочы сталі круглымі і вялікімі.

— Яна памагала яму, гадавала дзіця і старых бацькоў даглядала... Ён жа круціўся... А хто старых бацькоў і сваіх дзяцей не паважае, той не паважае і сябе... Калі ён, як маці казала, «не возьмецца за розум», дык скруціць сабе галаву!..

— Маці, відаць, таму і стала на абарону нявесткі, што тая паддобрылася.

— Старыя не хацелі, каб ён з ёю жаніўся, бо яна была яшчэ вельмі маладая... Але калі наперакор бацькам сын ажаніўся, дык, значыцца, гаварыла маці, моцна кахаў, а таму, будзь ласкаў, шануй жонку і не сарамаці старых. А ён, як слабавольны чалавек, пагнаўся за першай сустрэчнай, якая падкруцілася... Ёсць яшчэ ў нас такія жанчыны, якія без разбору кідаюцца ў абдымкі мужчынам... У яе ўжо не адзін такі быў... Ёй няма чаго траціць...

— Адкуль ты ведаеш усе гэтыя падрабязнасці?

— Мне ваша студэнтка расказвала...

— Можа, гэта і праўда,— згадзіўся Сяргей.— Маці, канечне, правільна паставілася...

Алёнка толькі глянула на яго, здзівіўшыся, што ён так хутка здаўся, але нічога не сказала. Яны прайшлі далей і селі пад старой яблыняй на беразе ракі. Гэта было любімае месца Алёнкі: адсюль, з узгорка, як на

далоні, было ўсё відаць. Але яму не зусім падабалася, што яны тут спыніліся. Хацелася выбраць больш зацішны куток, далей ад людскіх вачэй, ды ён не хацеў пярэчыць.

З правага боку Дняпра ўдалечыні сцяною стаяў сіні бор, а з левага раскінуліся прасторы заліўных сенажацей. На поўдзень ад узвышша, у садзе, радамі стаялі рамачныя вуллі, з паўночнага боку выстраіліся маладыя елкі, пасаджаныя ў два рады.

З сяла паціху ішоў у напрамку да ракі Тодар Маркавіч Радкевіч, былы дваццаціпяцітысячнік. Ён доўгі час быў старшынёю гэтага калгаса, а як пастарэў, стаў садоўнікам. Алёнка з Сяргеем яго не заўважылі, дый ён іх не бачыў, іначай скіраваў бы ўбок.

— Колькі, Алёнка, прайшло часу, як мы з табою падружылі?

— А ўжо, мусіць, пяць год. І яшчэ ні разу не пацалаваліся,— яна прыгадала аднойчы сказаныя ім словы, вочы яе смяяліся.

— Калі дазволіш, дык пацалуемся.

У Алёнкі неяк у момант зарумяніўся твар, у вачах забегалі «чорцікі», хацелася сваволіць.

— А можа, Алёнка, мы прайшлі б далей? Вунь да тых вішань? Тут людзі ходзяць.

Гэта прапанова ёй не спадабалася.

— А ты хіба людзей баішся?

— Людзей я не баюся, але не люблю людской звягі,— сумеўся ён, а потым набраўся храбрасці і дадаў: — І сапраўды, колькі ідзе гаворкі пра наша каханне, а мы... я не магу больш...

— Наша ад нас нікуды не ўцячэ,— ужо сур'ёзна гаварыла Алёнка.— Мне яшчэ год астаецца вучыцца...

Радкевіч, апынуўшыся ў некалькіх кроках ад маладых людзей, супыніўся, не вытрымаў і кашлянуў. Алёнка з Сяргеем страпянуліся, пачырванелі, абаім стала няёмка. Будны дзень, а яны гуляюць.

— Тодару Маркавічу прывітанне! — выгукнуў Сяргей і папярхнуўся.— Хадзіце да нас!

— А ўжо ж, прыйдзецца, нявыкрутка,— падыходзячы, гаварыў Радкевіч, хітравата пасміхаючыся ў русыя з сівізною вусы.— Хоць дзе двое, там трэці лішні... Але паколькі мой век на сыходзе, дык можна быць спакойным, ножку не падстаўлю...

— Што вы, Тодар Маркавіч, вы яшчэ такі рухавы чалавек,— нараспеў вымавіла Алёнка.

— Дзе там, нявыкрутка. Бранхіяльная астма, каб яе пярун, даймае,— гаварыў, кашляючы, Радкевіч.— Дык ты, Алёнка, яшчэ не запляла валасы ў адну касу? Правільна! Няма куды спяшацца... Абы выскачыць за каго, не штука... Мужчынам што, а жанчынам нявыкрутка...

Яны засмяяліся.

— А як новы старшыня? — хацеў перавесці размову Сяргей.

— Нічога, сталы хлопец, рабочы! — з гордасцю заявіў Радкевіч.— Праўда, пакуль што яму цяжкавата...

— Няхай бы вы заставаліся старшынёй, а ён у намеснікі,— гаварыў Сяргей.— Кіраваць такою гаспадаркай...

— Нявыкрутка са здароўем,— уздыхнуў Радкевіч.— Хоць яшчэ пацягнуў бы гадоў некалькі, але дзеці настаялі... А толькі зусім працы не магу кінуць... Не сядзіцца дома, руціць што-небудзь рабіць... Дык от у садоўнікі падаўся...

— Тодар Маркавіч! — ускінула вачыма Алёнка.— А вы таксама былі рабочым?

— А як жа! — збіраўся ісці Радкевіч.— У Ленінградзе...

— І ў рэвалюцыі прымалі ўдзел? — Алёнка хацела затрымаць Радкевіча.— Цікава!

— Пра рэвалюцыю ўсё ў кніжках расказана.— Сяргей хацеў хутчэй пазбавіцца ад старога.

— Далёка не ўсё,— запярэчыла Алёнка. Яна гатова была цягнуць за язык садоўніка.— А што вы рабілі?

— Царскіх афіцэраў браў на цыгундар,— у старэчых вачах Радкевіча засвяціліся іскаркі. Ён прысеў.— Далі нам бальшавікі вінтоўкі, і мы пайшлі на Неўскі па кватэрах, скрынкамі рэвальверы знаходзілі, кулямёты і нават пушкі (палявыя) выцягвалі з падвалаў... Але, прызнацца па праўдзе, у першы дзень каб давялося мне стрэліць у беляка, дык была б нявыкрутка... Сароме́ўся, бачыце, сказаць, што не ўмею страляць... Потым толькі авалодаў справай...

— Тодар Маркавіч! — вочы ў Алёнкі гарэлі ад цікаўнасці.— Раскажыце, як вы сталі бальшавіком?

— А вы нікуды не спяшаецеся? — спытаўся Радкевіч у дзяўчыны, але адрасавана гэта было хлопцу.— Можа, я вам перашкаджаю? Выйшлі пагуляць, а тут сур'ёзныя размовы...

— Прашу вас! — не магла дачакацца Алёнка.

— Што ж, калі так, тады можна,— сказаў Радкевіч.— Упершыню мяне бальшавікі заўважылі, калі Керанскі абвясціў прадаўжэнне вайны да «пераможнага канца». На заводзе быў мітынг. Тысяч дваццаць прысутнічала народу. Меншавікі і эсэры затлумілі галовы рабочым, заклікалі моладзь ствараць добраахвотныя атрады і ісці на фронт. Бальшавікам не давалі гаварыць, нават не дапускалі іх да трыбуны. Бачу, атрымоўваецца нявыкрутка. Тады я, упершыню ў сваім жыцці, з натоўпу папрасіў слова. Меншавікі і эсэры, што абкружылі трыбуну, мяне прапусцілі. Ну, то і пачаў я іх часаць, даваць нашатыркі, гаварыў (потым сябры ацанілі), як сапраўдны бальшавік,— што Часовы ўрад клянецца ў вернасці царскім дагаворам і абяцае праліць яшчэ гэтулькі народнай крыві, колькі спатрэбіцца для дасягнення «пераможнага канца», што нам, рабочым, не патрэбна гэтая вайна, і мы не пойдзем на фронт біцца за чужыя інтарэсы. Бачаць яны, што атрымалася асечка, не таму далі слова, каму трэба, і нібы неўзаметку пачалі мяне адціскаць, каб скінуць з трыбуны. Але я моцна ўхапіўся за парэнчу, упіраюся, хачацца сказаць пра ўсё, што набалела, дык не даюць, недавяркі. Адзін нейкі, як цяпер помню, на выгляд плюгавенькі меншавічок, так даў мне ў бок, што ў мяне і дух заняло. Дык я, раззлаваўшыся, наводмаш яму як смальну, то ён і з капытоў далоў. Скончыў я тады сваю прамову словамі: «Далоў вайну!», «Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў», «Уся ўлада Саветам!»

— Здорава! — захапіўся Сяргей, але тут жа замяўся. Яму няёмка стала перад старым.

— Здорава, але не зусім,— успамінаў Радкевіч.— Меншавікі ўсё ж сапхнулі мяне з трыбуны, а навокал іхняя шація-брацыя, сталі штурхаць. Бачу — нявыкрутка, прыйшлося пусціць у ход кулакі, адбівацца нагамі, куды патраплю, і калі адзін нема заенчыў, дык толькі тады расступіліся і далі прайсці. Такім было маё першае публічнае выступленне.

— А што пасля? — пытала ўсхваляваная Алёнка.

— Ну, а ўвечары,— прадаўжаў Радкевіч,— да мяне прыйшоў вядомы бальшавік-падпольшчык Ясноў, я на ўскраіне горада наймаў «вугал»... Ён цікавіўся, з кім я дружу і што чытаю... А я тады чытаў, што пад рукі трапляла... Доўга ў той вечар мы з ім гаварылі, ён параіў мне, што ў першую чаргу трэба прачытаць, і ўвесь час потым накіроўваў мяне, а пасля даў мне рэкамендацыю ў партыю... От як яно ў мяне было...

— Вельмі цікава,— Алёнка крутнула галавою, і косы яе падскочылі.

— Так тады да людзей ставіліся, а ці гэтак мы цяпер робім? — хітравата гаварыў Радкевіч.— Часам каторы гульма гуляе, а каб, скажам, хоць парадай памагчы новаму старшыні, Віктару Трафімавічу Лісоўскаму, як узняць гаспадарку...

— У чый гэта агарод камень? — загарачыўся Сяргей.

— А хоць бы і ў ваш,— усміхнуўся Радкевіч.— Бяражынскі, а не хочаце берагчы ні свой гонар, ні другіх... адно, каб самому было добра... часамі сам не ўмею гэтага зрабіць, а з другога буду патрабаваць...

— І, зразумела, у мой,— здагадалася Алёнка.

— У першую чаргу,— сцвердзіў Радкевіч.— Лісоўскі добры арганізатар, але не аграном. Зглуміць палетак пад кукурузай, новай для нас культурай, не штука.

— Чаму ж вы не паможаце? — пачынаў злавацца Сяргей.— Ці, можа, не падабаецца, што вас замянілі...

— Хе, малады чалавек, ходзіце вы ўпацёмку, слухаеце не таго, каго трэба,— прыжмурыў вока Радкевіч.— Калі хочаце ведаць, дык я дамогся таго, каб з нашага ж завода прыслалі мне замену...— Радкевіч, адкашляўшыся, прадоўжыў: — Аднойчы мяне выклікалі ў Н-скі полк, я ў час вайны захаваў іх сцяг, а таму яны выклікаюць мяне на ўсе свае святы... Пасля палкавога свята я заехаў на завод, зайшоў у партыйны камітэт, так і так, кажу, нявыкрутка, папрасіўся я ў сходу калгаснікаў, каб мяне на старасці вызвалілі ад старшынства, а яны і слухаць не хочуць. «Давай, кажуць, замену, і не абы-каго, а рабочага... пасябравалі мы з рабочым класам на векі вечныя...» Выслухалі мяне на заводскім партыйным камітэце, прыйшлося зрабіць

падрабязны даклад аб справах у калгасе, дый вырашылі: задаволіць просьбу калгаснікаў «Будучыні»... Прыслалі Лісоўскага. Добры хлопец, з галавою, каб яму яшчэ ў дапамогу спадарожніцу з розумам, дык пайшлі б у нас справы... Але ўсё не выбера, пераборлівы надта... — Радкевіч перадыхнуў.— Каб я меў якую крыўду, што мяне замянілі, дык няўжо ж я пайшоў бы ў садаводы... гаворка!.. Але хочацца, каб у нашым калгасе яшчэ развесці вішань... Хораша, як зацвітуць вішні...

— Ну! — усклікнула Алёнка.— Я вам памагу з вішнямі... зраблю прышчэпку...

— А з кукурузай?

— І пра кукурузу раскажу, што ведаю.

— Ты пойдзеш Лісоўскаму памагаць,— насцеражыўся Сяргей,— які цябе абсмяяў... Яшчэ чаго не хапала!..

— Не Лісоўскаму, а калгасу,— крутнула плячмі Алёнка, што азначала: як захачу, так і зраблю.

— Я не дазволю! — выгукнуў Сяргей.

— Уга! — з дакорам глянула на яго Алёнка.

— А што ты за асэсар?! — падняў вочы Радкевіч.— Бачылі вы яго, уласніка... Не адабраю!..

— Як сабе хочаце! — на высокай ноце піснуў Сяргей.— А толькі Алёнка не пойдзе памагаць таму, хто яе надоечы перад усім народам вылаяў...

— Не вылаяў, а пакрытыкаваў,— паправіў яго Радкевіч.

— Усё роўна... Яна на канікулах і мае права адпачыць...

— То хіба Лісоўскі не дае ёй адпачываць?.. Наадварот, спрыяе... А калі спытаўся, як даглядаць кукурузу, дык калі Алёнка ведала, то павінна была сказаць...

— Я ведала, але спяшалася... — Яна вырвала некалькі рамонкаў і круціла ў руках.

— То і атрымала па заслугах...

— Ну,— згадзілася Алёнка, вінавата ўнурыўшы галаву.

У гэты час на матацыкле пад'ехаў Віктар Лісоўскі. Прывітаўшыся, ён устаў з сядзення і расправіў шырокія грудзі. Сіні камбінезон яго быў увесь у пыле. На правай шчацэ прадаўгаватага твару старшыні чырванела барадаўка. Выразна акрэсленая лінія яго рота

гаварыла пра тое, што гэты чалавек калі чаго захоча, таго даможацца. На зямлі ён стаяў цвёрда, і было такое ўражанне, нібы ён урос у яе. Зняўшы кепку і выцершы хустачкаю загарэлы, як бронза, твар, Лісоўскі пяцярнёю загроб уверх цёмна-русыя валасы, павёў праніклівым позіркам і, сустрэўшыся вачыма з Сяргеем, які стаяў ссутуліўшыся, нібы памерыўся з ім сіламі. Звяртаючыся да Радкевіча, Лісоўскі сказаў:

— Гэта ж я, Тодар Маркавіч, спецыяльна заехаў у сад, каб убачыць вас і папрасіць падгледзець некалькі вулляў.

— А навошта?

— Праўленне пастанавіла даць падарункі студэнтам, якія прыехалі на канікулы.

— Усім? — спытаўся Радкевіч.

— Так,— адказаў Лісоўскі.— Тым, якія не працуюць,— трохі менш, няхай ім будзе сорамна.

— Не трэба! — рашуча запярэчыла Алёнка. З яе рук выпалі памятыя кветкі. Яна з дакорам глянула на Сяргея.— Ну!

— Яшчэ выдадзім бацькам авансам пшанічнай мукі і мяса, пусцім ялаўку і парсюка пад нож,— не слухаючы дзяўчыны, гаварыў Лісоўскі.

— Віктар Трафімавіч! — пачырванела Алёнка.— А кукуруза...

— З кукурузай справа высветлена, я ездзіў і пракансультаваўся ў занальнага агранома,— перабіў яе Лісоўскі. Ён сеў на матацыкл, уключыў матор і паехаў на поле. Траскучы гук паволі аддаляўся.

Убаку кружыў каршачок. Вось на яго налящеў крумкач, пасыпалася пер'е. Над ракою імкліва праносіліся ластаўкі.

Алёнка ўскочыла, на яе вачах былі слёзы. Яна злосна глянула на Сяргея, узмахнула белай у сінія гарошкі хусцінкай і пабегла ў напрамку да сяла.

— Алёнка! — гукнуў Сяргей.— Мы ж збіраліся яшчэ прайсціся ў бор!..

Але Алёнка яго не слухала. Разгублены Сяргей пастаяў, а потым унурыў галаву і паволі пайшоў у адваротным напрамку, да бору. Накрапваў дождж. Радкевіч устаў, паглядзеў на вясёлку і пакандыбаў на пасеку падглядаць пчол, каб зрабіць студэнтам ад калгаса падарункі.

Ужо некалькі дзён Лісоўскі хадзіў пануры, нечым нездаволены, нерваваўся. Наглядальны Радкевіч не мог гэтага не заўважыць, але ў чым прычына, не ведаў. «А можа, старшыню абразіла,— думаў сам сабе Радкевіч,— што Алёнка не прыняла ад калгаса мёду, сказаўшы, што яна яго не заслужыла». Ва ўсякім разе, у Радкевіча была патрэба пагаварыць з Лісоўскім, але як да яго падступіцца, каб ён раскрыў душу, выказаў, што яму баліць?

Алёнцы таксама хацелася спаткацца са старшынёю і выказаць усё, што яна думае адносна яго гаспадарання ў калгасе. Яна не падзяляла поглядаў бацькоў: «Калі чалавек усёй душою горнецца да людзей,— дакарала маці,— дык нельга да яго ставіцца спінаю...» На думку Алёнкі, старшыня робіць памылку: трэба падбаць пра калгас, а потым і пра людзей. Нарэшце, што гэта такое — пасылаць ад праўлення падарункі? Нідзе так не робіцца.

Неяк у нядзелю пад вечар, спаткаўшыся на вуліцы з Лісоўскім, Алёнка звярнулася да яго:

— Віктар Трафімавіч! Мне з вамі трэба сур'ёзна пагаварыць.

— Калі ласка. Зойдзем да мяне, а то на вуліцы не зусім зручна абмяркоўваць сур'ёзныя справы.

— Не, лепей пойдзем у праўленне,— запярэчыла Алёнка.

— На жаль, сёння праўленне закрыта, і не ведаю, дзе знайсці вартаўніцу, каб узяць ключы,— сказаў Лісоўскі.— Ды не бойцеся вы зайсці да мяне на кватэру, нічога з вамі не здарыцца.

Дзяўчына хоць неахвотна, але згадзілася зайсці да хлопца ў дом. Будынак быў прасторны: тры пакоі і кухня. Яго Радкевіч на партыйным камітэце завода пабяцаў пабудаваць, і калгаснікі гэта адобрылі. Да прыезду Лісоўскага ў калгас дом ужо быў гатовы.

Сяргей тым часам ішоў да Алёнкі, каб паклікаць яе на вечарынку, якую хлопцы збіраліся рабіць. Убачыўшы Алёнку з Лісоўскім, Сяргей аж затросся ад злосці і подбегам накіраваўся да іх, але дзяўчына з хлопцам ужо ўвайшлі ў кватэру. Нервова круцячы ў пальцах непрыкураную папяросу, тытунь з якой ужо напалову высыпаўся, Сяргей снаваў узад і ўперад каля дома старшыні.

Лісоўскі правёў Алёнку ў кабінет. Там стаяла шафа з кнігамі, пісьмовы стол, канапа і некалькі крэслаў. На сценах, яшчэ не паклееных шпалерамі, віселі партрэт Леніна і некалькі рэпрадукцый з карцін. Жоўтыя бярвенні патрэскаліся, пахла смалою, якая пацеркамі выступіла на пасклюдаваных сценах. На падаконніках стаялі вазоны: кактус, альяс і дрэўца лімона. Алёнка заўважыла, што яны даўно ўжо не паліваліся. У акне білася аб шыбу пчала. Гаспадар асцярожна ўзяў яе за крыльцы і выпусціў у фортку.

— Сядайце,— запрасіў Лісоўскі.

— Дзякую,— Алёнка прысела.

— Слухаю вас,— Лісоўскі дастаў з партабака папяросу.— Не пярэчыце, калі я закуру?

— Вы ў сябе дома,— Алёнка збіралася з думкамі.— Віктар Трафімавіч! Мне думаецца, што вы няправільна гаспадарыце.

— Якія ў вас ёсць падставы так гаварыць? — Лісоўскі абвёў з галавы да ног дзяўчыну.

— Ну-у,— расцягнула Алёнка. Яна сядзела як на іголках.— Што вы лічыце галоўным у сваёй рабоце?

— Клопаты аб людзях,— вонкавы выгляд старшыні быў спакойны, але ўсярэдзіне ўсё гарэла.

— Калі так будзеце гаспадарыць, дык тое, што ваш папярэднік набыў, вы хутка пусціце на вецер,— выпаліла Алёнка.— Радкевіч, нябось, унь пасля вайны як адбудаваўся.

Дзяўчына глянула ў акно — відаць былі вялізныя хлеў і гумно, свіран і сілосная вежа. Пастухі з бляшанымі трубамі за плячыма гналі з пашы нанач кароў, больш за ўсё мясцовай пароды — чырвоных і кастрамскіх-мышастых. Іх сустракалі даяркі ў белых халатах з вёдрамі. Каля цялят круціліся піянеркі, якія любілі іх паіць. Двор напоўніўся гоманам жанчын, рыканнем кароў. Весела шчабяталі дзяўчынкі.

— Па-першае, пры ўсёй павазе да Радкевіча, не ён пабудаваў, а калгаснікі. Па-другое, калі мы падвядзем трывалую матэрыяльную базу, дык здолеем пабудаваць цагляныя грамадскія будовы, а калгаснікі вybудуюць камяніцы,— Лісоўскі выпусціў дым кольцамі.— Я ўжо бачу Замчышча белакаменным!

— Ну? І ў той жа час, замест таго каб выдаць касцам больш мяса, вы далі студэнтам. Ці не будзе гэта

толькі падачкай? Хоць не! Хутчэй за ўсё гэта робіцца для таго, каб задобрыць людзей. Гэта разбазарванне грамадскай уласнасці!..

— Прабачце, але вы, Алёнка, мне нагадваеце дзіця, якое плакала горкімі слязьмі, калі рэзалі парасят, а потым з замілаваннем ела кумпячок... нават костачкі абсмоктвала...

— Або з мёдам... Што гэта такое? — Алёнка нервова круціла ў руках хусцінку.— Добры гаспадар так не робіць.

— Усё для чалавека,— Лісоўскі на момант задумаўся.— Ды ваш жа бацька і другія, адчуўшы, што аб іх клапоцяцца, будуць працаваць, як чэрці! Прызнацца па праўдзе, клапаціцца аб людзях мяне на фронце навучыў камісар Грыбаў, які заўсёды гаварыў: «Перш накармі салдата, а потым патрабуй службы». Паспрабуй, бывала, інтэндант не ўсё выдаць, што палажана салдату, загоніць у трубу... Я паставіў сабе задачу — перш за ўсё ўдосталь накарміць самога хлебароба, а потым як найболей даць прадуктаў гораду. Гэта ў мяне галоўнае!

Пад вокнамі ўжо не хадзіў, амаль бегаў Сяргей, яго даўно заўважылі, зразумелі, у чым справа, але спрэчка працягвалася.

— Некаторыя вас хваляць, але якая цана ўсёй гэтай славе?

— Хваляць?

— Ну. Толькі не ўсе. Што гэта такое: па званку выходзіць на работу? Гэта ж, можа, не завод!

— Работы многа.

— Я думаю, гэтулькі льну насеялі! — Алёнка падышла да самага галоўнага.— Не падумайце толькі, што я супроць гэтай культуры, наадварот, а толькі ўсё трэба рабіць з розумам. Па-першае, лён вельмі спусташае поле — забірае з глебы многа вапны і калія. Гэта ў будучым годзе дасць аб сабе знаць, бо ў вас не хопіць угнаення, каб аднавіць урадлівасць, па-другое, гэта самая працаёмкая культура. Я падлічыла, у калгасе няма сілы...

— Дрэнна ўмееце лічыць...

— Людзі круглы год дзень у дзень ідуць на работу, дысцыпліна...

— Гультаям гэта цяжка, у нас ёсць яшчэ такія, а

сумленным людзям хоць бы што... Добра кажа ваш бацька: «Калі я працую, братачка, я жыву»... А праца ўзвялічвае чалавека, робіць яго высакародным. Усе веснавыя работы акуратна зроблены, спадзяемся...

— Куранят восенню падлічваюць...

— Ага, добра што ўспомнілі куранят. Дзіўная рэч, няма адгону ад каршакоў і груганоў, знікае пародзістая птушка... Калі будзе так, сапраўды, увосень шмат не далічым...

Сяргей не вытрымаў і пастукаў у шыбу. Лісоўскі адчыніў акно. У пакой уварвалася музыка. Ігралі польку, асабліва вылучаўся бубен.

— Алёнка! — гукнуў Сяргей.— Доўга цябе чакаць? Пойдзем на вечарынку!

— Ну! Я хутка! — Алёнка паглядзела на Лісоўскага і сумелася. Вочы ў яго хоць і былі задуменныя, але добрыя і, здавалася, смяяліся.— Чаго вы так на мяне глядзіце?

— Я дзіўлюся, адкуль у вас такі настрой, ці вы яго з інстытута сюды прывезлі, ці тут набраліся. Але ад каго? Пэўна, ад Сяргея Беражынскага?

— Што вы да яго маеце?

— Я чалавека ацэньваю па тым, як ён ставіцца да работы. Сяргея не цікавіць ніякая работа, значыць, чалавек з гнільцой... А мяркуе, што ён — пуп зямлі. Адным словам, па-мойму, Сяргей з адсталымі поглядамі...

— Паглядзім, як вы з вашымі перадавымі поглядамі плюснецеся ў лужыну,— перабіла Алёнка, хутка выходзячы.— Бывайце.

— А можа, да пабачэння! — паправіў Лісоўскі.

Алёнка нічога не адказала. Яна прамільгнула каля адчыненага акна і знікла.

Курачы папяросу за папяросай, Лісоўскі хадзіў па кабінеце, потым сеў на канапе, задумаўся. «Няўжо я такі даў маху, што дзяўчына ўзняла такі вэрхал,— думаў сам сабе ён.— Дый, напэўна, яна яшчэ не ўсё выказала: нарачоны пад вокнамі маячыў». Лісоўскі прыгадаў сваю работу ў калгасе з першага дня. Пачаў ён з таго, што сказаў: «Вы пасля вайны многа зрабілі, але маглі зрабіць яшчэ больш, каб была наладжана працоўная дысцыпліна».

Галоўная задача, якую Лісоўскі паставіў перад калгаснікамі,— падняцце ўраджайнасці. І гэта хоць з

вялікімі цяжкасцямі, але выконваецца. Азімае летась пасеялі па ўсіх правілах, людзі гаварылі, што за іх памяць яшчэ ніколі не вывозілі на поле гэтулькі ўгнаенняў. І яно, нябось, сказала аб сабе: азімае вышэй чалавечага росту. А сёлета з ярыной яшчэ лепей выйшла, ні аднаго кавалка зямлі не засеяна без угнаенняў і па ўсіх правілах агратэхнікі,— гэта таксама дасць свае вынікі. Шмат ільну і канапель пасеяна? Дык жа гэтае пытанне абмяркоўвалася не толькі на праўленні, але і на сходзе калгаснікаў. Зноў жа з дысцыплінай — выходзіць на работу па званку — прапанова калгасніка Ручніка, адобраная сходам. А працаваць круглы год, каб не было перабояў, выказаў думку бацька Алёнкі. «Калі будзем рабіць, браткі,— гаварыў стары Лапцік,— дык будзем і мець». То ў чым тады справа? Людзі? Дык я не толькі сказаў, што сэнс маёй работы ў дабрабыце калгаса, клопатах пра людзей, але гэта і раблю. Мой прынцып: усё для чалавека, каб яму шчасна жылося. Але чалавека-працаўніка, які ўсяго сябе аддае калектыўнай гаспадарцы. «Пачакай, пачакай! — прамільгнула ў яго думка.— Дык гэта ж я прапанаваў вызваліць ад абавязкаў намесніка старшыні бацьку Сяргея. Яшчэ ён крычаў: «Не маеце права, я наменклатурны работнік!» Я тады адказаў: «Не трэба нам макулатуры!» А ён жа да аб'яднання працаваў у калгасе «Прамень» старшынёю і дабіў яго да ручкі. А калі стары Беражынскі адмовіўся ісці на работу радавым калгаснікам, на сходзе я паставіў пытанне аб яго выключэнні з калгаса. Дык вунь адкуль ветрык дзьме! Але дзіўная рэч, дзяўчына нагаварыла гэтулькі ўсяго ўсякага, і няма на яе ніякай крыўды. Што б гэта магло значыць?.. А вось Сяргей — гэта зусім іншая справа. Летась, яшчэ студэнтам, не пайшоў на работу ў калгас, а цяпер збівае Алёнку. Бацькам грошай ні капейкі не дае, тыя збіраюцца ў суд падаваць. На рабоце ўсіх павучае, хоць і не мае для гэтага даных».

У сяле іграла музыка, ды толькі цяпер Лісоўскі яе не чуў. Не пачуў ён таксама, як да яго зайшоў Радкевіч, і толькі калі той кашлянуў у парозе, старшыня нібы прахапіўся ад сну.

— Заходзьце, заходзьце! — запрашаў старога Лісоўскі.— Вельмі добра, што вы прыйшлі. Сядайце!

— Што з табою, Віктар Трафімавіч, ты на сябе не падобны,— занепакоіўся Радкевіч.

— Цяжка мне, Тодар Маркавіч,— прызнаўся Лісоўскі.

— Жаніцца трэба, от што! — Радкевіч падняў галаву.— Павуцінне ў кутку завялося...

— Вы ўсё заўважыце,— сказаў Лісоўскі, дадаўшы: — Не той узрост, каб абы жаніцца, а падыходзячай пакуль не бачу.

— Уг-га! Пашукаўшы, можна знайсці...

— Ох, як цяжка мне,— паўтарыў Лісоўскі,— кругом абстрэл.

— Які абстрэл? — здзівіўся Радкевіч.

— Людзі нездаволены.

— Гледзячы якія людзі. Калі такія, як стары Беражынскі (макулатуршчык), дык плюнь і нагою разатры! Усім не ўнаровіш, дый ніколі не трэба гэтага рабіць, іначай апынішся ў хвасце. Няўжо цябе так усхвалявала заява Беражынскага?

— Якая заява?

— А хіба з табою ў райкоме не гаварылі пра яе?

— Не.

— Значыць, згадзіліся са мною.

— А ў чым справа?

— Праз паўгода надумаўся ўзняць пытанне, мусіць, сын падбухторыў, нібы ты на сходзе ўсіх наменклатурных працаўнікоў назваў макулатурнымі. Запыталі ў мяне, ці было гэтак? Я сказаў, што не, гэта датычылася яго. А ад сябе дадаў, што часцей трэба праз рэшата прасейваць «наменклатуру», каб сапраўды адсейваць «макулатуру», людзей, падобных да Беражынскага. Ён нечым мне нагадвае крумкача, а сын — увішнага каршачка, якія так і наровяць, каб дзе што ўхапіць.

— Скажыце, няўжо і вам так цяжка было пачынаць працаваць у вёсцы?

— Доўгая песня...

— А ўсё ж...

— Ты вось сказаў пра абстрэл, маючы на ўвазе старога Беражынскага, дык гэта дробязь,— успамінаў Радкевіч.— Узяць хоць бы наша сяло Замчышча, я тут праводзіў калектывізацыю. Некалькі месяцаў спатрэбілася, пакуль арганізаваў калгас. А як было? На-

рэшце людзі згадзіліся — навокал ужо былі калгасы,— што аб'яднаюць гаспадаркі, дык нявыкрутка, ніхто не хоча запісвацца першым. Тады вырашылі па кругу распісацца, каб не было відаць, хто першы і хто апошні. Ну, няхай будзе так. Пасля трэціх пеўняў разышліся. Стомлены, але задаволены, што нарэшце пайшла справа, іду дамоў. Раптам стрэл, мяне як агнём апякло.

— Сапраўдны стрэл?

— А ты думаў які, з абрэза...

— Кулак страляў?

— Няўжо ж. Гірс такі быў у Замчышчы, свіньмі гандляваў. Даўгавата прыйшлося мне ў пасцелі пакачацца.

— А як паводзіў сябе Беражынскі?

— Гэтак, як можа сябе паводзіць слабавольны чалавек. Усё спасылаўся на жонку; ён ірвецца ў калгас, але кабета муляецца. А тымчасове апошнім падышоў да стала і пакуль распісаўся, дык абліўся потам. Калі хочаш ведаць, дык Беражынскі свайму роднаму бацьку есці шкадаваў, карміў старога асобна...

— А чаму вы асталіся ў Замчышчы, а не ў другім якім-небудзь месцы?

— Гэта быў самы цяжкі калгас, ніхто не хацеў сюды ісці працаваць старшынёю, а мне ён стаў дарагі, бо каштаваў крыві. Захацелася вывесці людзей з глухамані на светлы прастор. Адсюль і назва калгаса «Будучыня».

— Баюся я, Тодар Маркавіч, каб мне не растрэсці тое, што вы набылі! — унурыў галаву Лісоўскі.

— Яшчэ што! — рашуча запярэчыў Радкевіч.— Ты правільна і, прызнацца па праўдзе, лепей за мяне вядзеш гаспадарку. Пасля вайны ў мяне была нявыкрутка, трэба было адбудаваць хлявы, свірны і іншыя грамадскія будовы, а таму часам калгасніку мала чаго аставалася выдаваць... У нас людзі вялікага сэрца і чыстай душы... доўга цярпелі і ўсё спадзяваліся на лепшае... Да таго ж аднойчы я злавіў сябе на думцы, што часта вяртаюся да мінулага, вось тады я і паставіў пытанне аб новым старшыні... А ты глядзіш наперад... з твайго боку такая вялікая ўвага да чалавека, гэтага не схаваеш... Прызнацца па праўдзе, пры табе і я па-

маладзеў, хочацца жыць, працаваць, убачыць наш калгас, як ты кажаш, белакаменным...

— Дысцыпліна некаторых палохае.

— Сумленнаму калгасніку дысцыпліна не страшна, а для абібокаў... хоць і яны заварушыліся... Я на некаторых ужо махнуў рукою. Людзі, бывала, ідуць на жніво, а яны ў ягады. А ты і такіх прымусіў працаваць. Гэта вялікае дасягненне! — Радкевіч раптам перамяніў тон.— А ўрэшце я не разумею твайго сённяшняга настрою... Няўжо засумаваў па праспекце, па выгадным жыцці? Дык трэба тут яго зрабіць такім жа... Я веру ў твае планы, ты даможашся большага, чым я... для гэтага ёсць усе магчымасці... А можа, пакахаў якую дзяўчыну, а яна адмовіла ва ўзаемнасці? — усміхнуўся Радкевіч.

— Не.

— І не маеш нікога на воку?

— Што з таго, калі...

— А я думаю, у яе нешта робіцца на душы...

— У каго? — падняў галаву Лісоўскі.

— У Алёнкі...

— Дык жа яна з Сяргеем ужо даўно любіцца...

— Па ўсім відно, што не надта... Сяргей па бацьку пайшоў, таксама слабавольны... і такі ж прагны... А такой дзяўчыне, як Алёнка Лапцік, хоць ёй даўно час змяніць прозвішча на якую-небудзь Чаравічкіну або Чаравічак, патрэбен моцны чалавек, на якога можна абаперціся ў жыцці... і з чыстаю душою...

— Адкуль вы ўсё гэта ўзялі?

— А скажы, табе Алёнка падабаецца? — адказаў пытаннем на пытанне Радкевіч.

— Вельмі ўжо яна нейкая порсткая,— ухіліўся ад адказу Лісоўскі.

— Гэта ад лішку энергіі,— гаварыў Радкевіч.— У такім узросце людзям здаецца, што яны ўсё ведаюць, разумнейшыя за другіх, самыя перадавыя і самыя справядлівыя. Ёй жа хацелася мёду, якая гэта дзяўчына не любіць салодкага, але гонар не дазволіў прыняць «падачку»... Яна і астатняе адправіла б, каб была дома, а ўсё з-за кукурузы... Сумленне мучыла, што не сказала, як даглядаць... Спяшалася, бачыш, патанцаваць... Не трэба за гэта на яе крыўдаваць...

— А чаму вы думаеце, што яна не надта любіць Сяргея? Чаго ж яны заўсёды разам ходзяць?

— І нядаўна я іх бачыў удваіх, але як? Ён, унурыўшыся, ішоў наперадзе, нібы яна яго гнала. А ў яе на твары такі выраз, нібы перад ёю не чалавек, а цяля. Значыць, нейкая нявыкрутка,— Радкевіч успамінаў.— Ага, яна дакарала: «І чаго ты ходзіш у хвост за мною? І навошта табе канечне было сланяцца пад вокнамі? Пасеш мяне, ці што? Няўжо ж ты забароніш мне заходзіць да людзей у хату!» А ў каго яна была, дык я не ведаю.

— У мяне.

— О-о-о, дык у цябе ўжо наладжан кантакт.

— Ніякага. Наадварот, разышліся ва ўсім.

— То, можа, яшчэ сыдзецеся,— Радкевіч памаўчаў.— Тым больш што бацьку Алёнкі не падабаецца яе дружба з Сяргеем... Стары цярпець не можа Беражынскіх...

— Чаму?

— І Лапцік і Беражынскі да ўступлення ў калгас былі серадлякамі... Лапцік таксама хістаўся, але потым зусім перамяніўся, з першага дня пайшоў на работу ў калгас і ўвесь час сумленна працуе... А Беражынскі ўсё хітруе. Перш пакінуў жонку ў калгасе, а сам падаўся працаваць у смалярню, пасля нейкім чынам пралез у старшыні, нарэшце, пасля аб'яднання калгасаў крыкуны з «Праменя», хоць я і пярэчыў, падсунулі яго да мяне ў намеснікі...

— Ну, і памагаў ён вам?

— Як кашаль хваробе,— Радкевіч зрабіў паўзу.— Дык ведаеш, чаго я да цябе зайшоў?

— Не.

— Скажы, ты сёння абедаў?

— А як жа!

— Заўсёды ўдаецца паесці?

— Як калі.

— То мая старая не пакідае дзяўбці, каб да таго часу, пакуль ты сабе знойдзеш гаспадыню, у нас жыў. Паглядзі ў люстэрка, на каго ты падобны. Нос завастрыўся, твар змізарнеў, так ты доўга не пацягнеш. А ўсё з-за сваёй упартасці.

— А хіба вашы ніхто не прыедуць у госці?

— Чакаю старэйшага, доктара. Прызнацца, паскар-

дзіўся, што ўдушша даймае, прасіў, каб абавязкова зазірнуў хоць на пару тыдняў «падлячыць». Можа, хіба гэта падзейнічае?

— Дык самі бачыце, што не выпадае мне да вас пераходзіць.

— Тады хоць у нас сталуйся, а спаць можаш сабе дома.

— Добра, дзякую, пагляджу.

— Тады дабранач! — Радкевіч устаў і хацеў ісці.

— І я з вамі прайдуся!

Лісоўскі зачыніў акно і за адным скрыпам выйшаў са старым. Чулася музыка. Яны прайшлі да клуба. Унутры танцавала моладзь, а на двары круціліся падшывальцы. Яны перадалі, што ідуць былы і цяперашні старшыня. Весялей зайгралі музыкі.

— А як з вішнямі? — успомніў Лісоўскі.

— З вішнямі пайшло на лад, Алёнка памагае,— адказаў Радкевіч.— Зацвітуць вішні...

— Алёнка ўсё ж пайшла на работу?

— Пайшла, не ўтрымаў яе Сяргей...

— Віктар Трафімавіч! Тодар Маркавіч! — чуліся вясёлыя галасы моладзі.— Хадзеце да нас, патанцуеце!

— А як жа, толькі мне з вамі выдрынгваць,— усміхнуўся Радкевіч.— Хоць пагляджу, як вы танцуеце, а мне нявыкрутка...

Яны зайшлі ў клуб. Сяргей заўзята біў у бубен, відаць, ён нечым быў незадаволены, а ўбачыўшы Радкевіча з Лісоўскім, пабялеў і зусім збіўся з рытму. Да яго падбег юнак. Сяргей, мусіць, на развітанне са злосцю ўдарыў па талерцы, яна жаласна зазвінела. Алёнка стаяла ўбаку і не танцавала. Пасля невялікага перапынку музыкі зайгралі вальс, дзяўчаты запрашалі хлопцаў на танец. Алёнка смела падбегла да Лісоўскага і пацягнула яго танцаваць. Хлопец быў не ў настроі, але, каб не пакрыўдзіць дзяўчыну, згадзіўся.

— Вы на мяне не злуеце? — танцуючы, спыталася Алёнка.

— А хіба можна на вас злаваць? Малому заўсёды дарогу саступлю,— сказаў Лісоўскі.

— Які вы ўсё ж упарты!..

— О, так!

Сяргей закурыў і, не зводзячы вачэй, сачыў за імі. Задумаўшыся, ён узяў у рот не тым канцом папяросу, з горычы кінуў яе ў адчыненае акно і выйшаў на двор. Адтуль з цемені наглядаў ён за танцорамі, злуючы на сябе і на ўвесь свет. Радкевіч пастаяў трохі, паглядзеў, пацешыўся з моладзі і выйшаў, каб ісці дадому. Яму тут не было чаго рабіць. Праз некаторы час Сяргей, у знак пратэсту — нічым іншым ён не мог даняць Алёнку,— пайшоў дахаты.

...Алёнка за канікулы зрабіла гэтулькі прышчэпак, што хапіла б для некалькіх калгасаў. Але Радкевіч запэўніў яе, што мала будзе нават для таго, каб насадзіць у садзе і абсадзіць дарогі вішнямі. Гэта была яго запаветная мара. Алёнка была на раздарожжы, з Сяргеем у яе пачаліся нелады, асабліва пасля таго, як яна пайшла на работу ў калгас. А з Лісоўскім не наладжваліся сяброўскія адносіны, часта паміж імі ішла перапалка. Лісоўскі больш спрактыкаваны ў жыцці, але Алёнка лепш тэарэтычна падрыхтавана. Адчуўшы гэта, Лісоўскі засеў за кнігі, а Алёнка ўзялася за працу ў калгасе. Хлопец з дзяўчынаю рэдка сустракаліся, а пры спатканні абавязкова спрачаліся і гаварылі адно аднаму колкасці. Часам такія спрэчкі ўзнікалі, што, як кажуць, аж іскры ляцелі. Бачачы гэта, Радкевіч махнуў рукою: «Нічога, мусіць, у іх не выйдзе». Сяргей хоць і заўважыў, што Алёнка пахаладзела, але не траціў надзеі. Алёнка яго ўсё яшчэ канчаткова не адкідала, хоць часамі і можна было ад яе пачуць: «Мне сумна з табою!» Тады пакрыўджаны Сяргей па некалькі дзён увечары не выходзіў на вуліцу, але потым не вытрымліваў і зноў ішоў да дзяўчыны.

— Ці не спадабаўся табе хто другі? — неяк ідучы з Алёнкай па садзе, спытаў Сяргей.— Можа, Лісоўскі?

— А ён хлопец не благі, з размахам,— адказала Алёнка.— Хоць з характарам... Надумаўся — зрабіў... У заўтра глядзіць...

— Эт, які там размах, прыйшоў на ўсё гатовае.

— Паглядзім, як ты размахнешся... Ільноцерабілку не здолеў адрамантаваць...

— Бо не хацеў...

— Ведаю... — Алёнка памаўчала.— А чаму бацькоў крыўдзіш, ні капейкі не даеш?

— Для цябе збіраю грошы.

Дзяўчына пранізала яго вачыма і накіравалася проста да садоўніка, які тупаў каля пчол. Хлопец прайшоў за ёю ўслед некалькі крокаў, а потым павярнуў назад і пайшоў у сяло.

Працуючы ў садзе, Алёнка адпачывала душою. Гэта лета было ёй добраю школай. Ад Радкевіча яна даведалася шмат цікавага як з часоў грамадзянскай вайны, так і вайны з фашыстамі. Але самым галоўным, што дало ёй знаёмства з садоўнікам, гэта разбірацца ў людзях. Яна цвёрда і канчаткова прыйшла да вываду, што людзі, падобныя да Сяргея, якія так ставяцца да сваіх бацькоў, не створаць шчаслівай сям'і. Ад Радкевіча яна чэрпала народную мудрасць. Неяк ён сказаў: «Моцны целам пераможа аднаго, моцны розумам — тысячы»; гэтыя простыя словы здзівілі яе сваёй пераканаўчасцю. Раней яна не магла налюбавацца атлетычнай фігурай Сяргея, а цяпер не хацелася зусім яго бачыць.

Усё часцей Алёнка прыгадвала Лісоўскага. Яна сэрцам адчула, што пакахала яго. З кожным днём ёй станавілася цяжэй. Невядомае дзяўчыне дагэтуль пачуццё раптам праявілася бурна, кіпуча. Яна злавіла сябе на думцы, што ёй хацелася б пасля заканчэння інстытута абавязкова астацца працаваць у сваім калгасе, быць разам з гэтым неспакойным чалавекам. Да гэтага часу яна марыла пра калгас дзе-небудзь на Палессі. Там ёсць магчымасць разгарнуцца, паказаць, на што здольна жанчына. Сяргей згодны быў паехаць за ёю ў любое месца.

Алёнцы падабалася пахадзіць па полі, палюбавацца, як расце ярына, азімае, але яна яшчэ не была на тым палетку, дзе пасеяны лён, яе галоўны саюзнік супраць Лісоўскага. І вось аднойчы дзяўчына завітала туды. Лён ужо зацвіў, калыхаўся, як сіняе мора. На славу вырас лён-даўгунец, ад яго нельга было адвесці вачэй. Ёй прыгадаліся словы любімага з маленства паэта:

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Дзяўчына адчула, нібы яе сэрца пранізала страла. А калі яна вярталася дадому, дык усю дарогу Лісоўскі не выходзіў з яе галавы.

Пад вечар Алёнка, зайшоўшы ў сад, убачыла там Радкевіча. Ён глянуў на дзяўчыну і спытаўся, што за трывога ў яе на душы. Алёнка прызналася старому, як бацьку, што пакахала Лісоўскага, але чамусьці баіцца гэтага кахання.

— А вы, Алёнка, спаткаліся б з ім, пагаварылі,— сказаў стары.

— Не, не! — замахала рукамі дзяўчына.

На гэтым размова Алёнкі з Радкевічам абарвалася. Чамусьці развітаўшыся са старым, дзяўчына ледзь не подбегам памчалася ў сяло, а на другі дзень раніцай пайшла на станцыю. Бацькі здзівіліся, што дачка, не дачакаўшыся канца канікул, раптам абвясціла, што ў яе ёсць неадкладныя справы ў інстытуце, і выехала ў горад.

Праз некаторы час у Радкевіча з бацькам Алёнкі адбылася размова.

— Дзе ж дачка пасля сканчэння інстытута мяркуе працаваць? — пытаў Радкевіч.

— Нібы на Палессі...

— А чаму б ёй не прыехаць да нас?

— Мы са старою яе ўгаворвалі і прасілі, братачка, дык не даецца нават гаварыць. «Не хачу,— кажа,— быць другарадным працаўнікам».

— Як гэта?

— А так, кажа, хто б у нас ні быў аграномам, то старшыня будзе даваць тон.

— Дык гэтак і трэба, на тое ён кіраўнік.

— То і я ёй, братачка, гэтак сказаў.

— А яна што?

— «У калгасе «Будучыня»,— гаворыць,— мне няма чаго рабіць». А толькі, братачка, нешта тут другое, а што, дык ніяк не можам са старой раскусіць...

Пасля ад'езду Алёнкі Лісоўскі доўгі час хадзіў пануры, нерваваўся, вельмі перажываў яе незразумелы ўчынак. Яна выехала, нават не развітаўшыся і не пакінуўшы ніякай запіскі. «Чым я гэтак яе ўгнявіў? — разважаў Лісоўскі, ідучы паглядзець лён.— Няўжо тым, што не згадзіўся з яе поглядам? І не згаджуся! Такі лён зарадзіў, каб толькі ў пару ўбраць, дык ого, які будзе даход. Сама меней дамо грашыма калгаснікам па пятнаццаць рублёў на працадзень». Лён ужо даўно адцвіў, зялёныя буйныя галоўкі пачыналі ры-

жэць, перашэптваліся на ветры. Лашчыў вока даўгунец, або, як тут яго звалі, растун. Паступова яго думкамі авалодала Алёнка... З ёю было пра што пагаварыць, паспрачацца, памарыць пра будучыню. З такою не засумуеш ні дома, ні ў дарозе, усюды добра з ёю! А ў танцы якая яна лёгкая, як пушынка.

Радкевіч выйшаў з саду і збіраўся ісці ў сяло, але, убачыўшы Лісоўскага, які ішоў з поля, прысеў на спілаваны пень вымерзлай грушы і стаў яго чакаць.

— Тодар Маркавіч! — яшчэ здалёк гукнуў Лісоўскі.— Дадому сабраліся?

— Ага, цябе чакаю, каб разам ісці,— устаў Радкевіч.— Дзе ты быў?

— Лён аглядаў.

— Ну і як? Не сорамна будзе на выстаўцы ў Маскве паказваць?

— Ого! Толькі каб убраць.

— Убяром! Усіх паставім на ногі. А калі хто сумняваецца, дык не звяртай на іх увагі. Малавераў, як правіла, заўсёды б'юць.

— Алёнка не з малавераў, але і яна гаварыла, што не ўправімся з работай.

— Ты зноў пра Алёнку. Нідзе яна не дзенецца. Паглядзіш, што прыедзе да нас у калгас працаваць.

— Праўда? — узрадаваўся Лісоўскі.

— Я ў гэтым пераконаны,— запэўніў Радкевіч.

— Адкуль вам вядома?

— Яна не менш цябе кахае, чым ты яе.

— Няўжо?

— Дапраўды.

— Дык чаго ж яна так паспешліва ўцякла?

— Баялася...

— Чаго?

— Сама сябе...

— Не разумею...

— Што можа быць у дзяўчыны з хлопцам, калі ў абоіх у грудзях агонь...

— Тодар Маркавіч! — узрадаваўся Лісоўскі.— То калі так, дык я горы гатоў варочаць...

— Горы няхай сабе стаяць, а вось лён трэба ўбраць у пару. Выбіць у яе апошні козыр... Практыка часта папраўляе навуку...

— Убяром! — упэўнена заявіў Лісоўскі.— І поле не пакінем спустошаным. Я сёння ж напішу ёй пісьмо, няхай не сумняваецца...

— А вось гэтага і не трэба рабіць... Калі яна спалохалася кахання і ўцякла, не развітаўшыся нават і не пакінуўшы запіскі, дык няхай першая падасць аб сабе вестку...

— Што вы! Дзяўчына ніколі гэтага не зробіць... Яна такая гордая...

— А яна табе і не будзе пісаць.

— А каму?

— Мне,— важна заявіў Радкевіч.

— Не можа гэтага быць.

— Паглядзіш. Гатоў ісці аб заклад.

— На што?

— Сам выбірай.

— На тузін шампанскага.

— Расход вялікі. Купі лепей бутэльку натуральнага віна. Рыслінг мне даспадобы... Пастаў, а калі яна прышле да мяне пісьмо, якое будзе тычыцца цябе, дык тады на радасцях разап'ём.

— Згодзен!

Яны моцна адзін аднаму пацiснулі рукі.

— Усё ж адкуль у вас такая ўпэўненасць?

— Не дапытвайся, не скажу, яшчэ заганарышся.

Радкевіч з Лісоўскім развіталіся.

...Людзі дзівіліся, што стала з Лісоўскім. Заўсёды вясёлы, падцягнуты, з усмешкай на вуснах, з любімай песняй «Вараг». «Лісоўскі таму перамяніўся,— гаварылі многія,— што перайшоў сталавацца да Радкевіча. Старая адпаіла сырадоем». Новы старшыня і да гэтага добра працаваў, а ўсё ж не было таго запалу, а цяпер, як казаў Радкевіч, «знайшоў ключ да чалавечых сэрцаў», падняў усіх людзей і павёў у паход за ўраджай. Ніколі яшчэ не нарыхтоўвалі гэтулькі кармоў для жывёлы, як цяпер. Увесь палетак пад азімае ўгнаілі і засеялі толькі гатунковым насеннем; з поля ўсё ўбралі, у тым ліку і лён, не страціўшы ні аднаго каліва; абсадзілі сад і ўсе дарогі прышчэпленымі Алёнкай вішнямі...

— Дык ты часам не ведаеш, Тодар Маркавіч, што дасць нам у гэтым годзе працадзень? — пакуючы скрынкі з антонаўкамі і слуцкімі бэрамі для сельска-

гаспадарчай выстаўкі, пытаўся стары Лапцік.— Мусіць, добра пацягне?

— Падлічана... Толькі грашыма выходзіць па шаснаццаць рублёў,— адказаў Радкевіч.

— А братачка, дык гэта такі праўда?

— На тваю сям'ю, мусіць, прыпадзе тысяч трыццаць... Што ты будзеш з імі рабіць?

— Ой, братачка, дзірак шмат: хата старая, падрубы пагнілі, трэба замяніць...

— А чаму б табе не паставіць новы дом?

— Параюся са старою... А ўсё Лісоўскі. Гэта чалавек, галава варыць...

— От быў бы заяц!..

— А братачка, каб мая воля, але ж цяперашнія дзеці... Напішу Алёнцы, што нам далі ў гэтым годзе тэхнічныя культуры, лён і каноплі... Гэта ж, братачка, як я некалі працаваў на аднаасобнай гаспадарцы, біўся як рыба аб лёд, дык ніколі не меў такога прыбытку...

— А помніш, Лапцік, як ты хістаўся?..

— Уга! Чаму ж не? Затое цяпер, братачка, упэўніўся, што партыя селяніна тады на правільную дарогу скіравала... Зараз ніхто мяне з яе не зверне... Дудкі!..— Лапцік з хвіліну падумаў.— Хоць што ты, братачка, кажаш, хістаўся, такі ўжо характар у нашага брата, сем разоў адмерае, а раз адрэжа, але калі што зробіць, дык грунтоўна... от што! Тутэйшаму чалавеку можна даверыцца і ў радасці і ў горы... Адзінкі могуць быць ні богу свечка, ні чорту качарга, у сям'і не без вырадка... — у Лапціка загарэліся вочы.— Шмат я, братачка, за гэты час перадумаў, адзіная наша дарога — у камуну... га?

— Правільна разважаеш, Лапцік, — сказаў Радкевіч.— Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек дзе лепей...

...Шмат хто з калгаснікаў, у якіх хаты старыя, сталі пагаворваць адносна пабудовы камяніц. Але дзе будавацца і як? Праўленне распрацавала план забудовы. Будучы цэнтр калгаса пераносіўся да рэчкі, там разбілі сквер, насадзілі дрэў. Да самай гравійкі праклалі новую дарогу, роўную, як струна.

Але гэта толькі адзін бок справы. Лісоўскі арганізаваў у калгасе заняткі. Усе людзі па вечарах вучылі-

ся ў розных гуртках. Сам Лісоўскі кіраваў партыйнай вучобай і вучыўся ў агранамічным гуртку.

...Ад Алёнкі ўсё не было пісьма. Неяк напрадвесні Радкевічыха збіралася ісці ў сельмаг. Стары сказаў ёй, каб яна заадно купіла вінаграднага віна.

— Навошта яно табе спатрэбілася? — спыталася яна.— Чакаеш каго?

— Я аб заклад пабіўся з адным чалавекам і, мусіць, прайграў,— адказаў ён.— Нявыкрутка, прыйдзецца ставіць.

У магазін якраз нечага зайшоў Лісоўскі. Ён пацікавіўся, ці не прыехаў хто з дзяцей, бо віно без прычыны не бяруць.

— Мой стары некаму прайграў бутэльку,— нічога не падазраючы, сказала Радкевічыха.— Дык от купіла...

Лісоўскі збялеў. «Усё прапала,— падумаў ён.— Не бачыць мне Алёнкі, як сваіх вушэй. Ну што ж, Віктар, трымайся! Не першы раз табе прымаць удары». Ён забыўся, чаго прыйшоў у магазін, пастаяў трохі ля прылаўка, унурыў галаву і пайшоў у праўленне. А неўзабаве туды забег Радкевіч, каб узяць нарад, яму патрэбны былі людзі для работы ў садзе.

— Дык што будзем рабіць, Тодар Маркавіч, без агранома мне, як без рук,— глуха загаварыў Лісоўскі. — Вясна не за гарамі, хутка пачнем сеяць...

— Пачакаем,— няўпэўнена сказаў Радкевіч.— Абы-каго возьмеш, толку не будзе...

— Няма чаго чакаць, трэба браць... Мне аднаму не пад сілу...

— Што гэта ў цябе раптам стала сілы бракаваць... Горш за ўсё, калі чалавек страціць цярпенне...

— Будзем браць агранома,— цвёрда заявіў Лісоўскі.

— Ну што ж, бяры,— неахвотна згадзіўся Радкевіч. Ён усё яшчэ не мог пагадзіцца з тым, што Алёнка не вернецца ў калгас.

— Дык як, ставіце віно? — крыва ўсміхаючыся, спытаў Лісоўскі.

— Не,— падумаўшы, адказаў Радкевіч.— Пакуль не здаюся... Яшчэ сэрца мяне ніколі не падводзіла...

— Гэты раз, пэўна, падвяло... Іначай, не запасаліся б віном...

— На ўсякі выпадак,— глянуў Радкевіч на Лісоўскага.— Потым можа не быць такога...

На другі дзень увечары на праўленні абмяркоўвалі пытанне адносна агранома. Нягледзячы на тое што Радкевіч настойліва раіў пачакаць выпуску, каб узяць маладога спецыяліста, Лісоўскі настаяў на сваім. Большасць была схільна не адкладваць пытання. Гэта была вострая спрэчка паміж старым і новым старшынёю. Члены праўлення не ведалі яе прычыны і хоць прагаласавалі за прапанову Лісоўскага, але, адумаўшыся, сталі сумнявацца ў правільнасці рашэння. Яны ведалі, што Радкевіч на глум слова не скажа. Хоць ён цяпер і не старшыня, але пра калгас дбае. Праўленцы сталі выказваць свае меркаванні старшыні, але ён не захацеў слухаць. Лісоўскі даў заяўку ў раён, каб прыслалі агранома, аднак падабраць спецыяліста для калгаса «Будучыня» было не так-та лёгка, а пасылаць абы-каго не хацелі, ведаючы, што ў Лісоўскага ён доўга не ўтрымаецца. Таму справа пасылкі спецыяліста зацягвалася.

...Ужо расцвілі вішні ў садзе, зазелянелі маладыя, прышчэпленыя мінулым летам дрэўцы. Сад калгаса «Будучыня» ўпрыгожыўся белымі і ружовымі, сабранымі ў суквецці-парасончыкі, кволымі кветачкамі. І вось аднойчы Радкевічу паштальён прынёс разам з газетамі сіні канверт. Почырк быў незнаёмы. Стары, спяшаючыся, разарваў пісьмо, надзеў акуляры і стаў чытаць.

«Дарагі Тодар Маркавіч!

Вы, напэўна, здзівіцеся, што я Вам пішу. Мяне вельмі цікавіць, ці прыняліся нашы вішні. Мне даўно хацелася Вам напісаць, але я саромелася свайго неабдуманага ўчынку летась: кінула ўсіх і паехала. Пішу Вам, як роднаму бацьку, які ведае мае пачуцці. Не дакарайце мяне, я іначай зрабіць не магла. Наколькі мне стала вядома, вы адзіны чалавек, які не забыўся пра мяне. Ад усяго сэрца Вам дзякую.

У мяне ўсе адзнакі добрыя і выдатныя. Праз некаторы час пачынаюцца дзяржаўныя экзамены. Прызнаюся, я ўвесь гэты год марыла, што прыеду ў свой калгас, насадзім з Вамі сады. Але калі ён (Вы ведаеце, пра каго ідзе гаворка) гэтага не захацеў, запрасіў агра-

нома, дык няхай будзе так. Значыць, не суджана нам быць разам. Я сёлета не прыеду дадому, хоць, прызнацца па праўдзе, вельмі хацелася пабрадзіць па тых сцежках, дзе вучылася хадзіць, заглянуць у школу, дзе пазнала прыгоства роднага слова, падзякаваць маім мілым настаўнікам, мілым бацьку і маці (у тым ліку і Вам), што прышчапілі густ да працы. Мне прапануюць астацца пры інстытуце, але мяне цягне на практычную работу. Відаць, паеду на Палессе.

Бывайце! Моцна цісну Вашы залатыя рукі. Вы, дарагі Тодар Маркавіч, чалавек з халоднай галавой, гарачым сэрцам і чыстай душою. Жадаю Вам добрага здароўя. Жывіце доўга-доўга, працуйце на шчасце людзей.

*Алёнка».*

Радкевіч, крануты высакароднасцю душы дзяўчыны, забыўшыся нават надзець шапку, амаль выбег на двор, каб хутчэй паведаміць Лісоўскаму, што яго, старога, меркаванне спраўдзілася. Ён хутка ішоў па вуліцы, вецер раздзімаў пасівелы пушок на галаве. Па дарозе стары спаткаў Сяргея Беражынскага, які ехаў на эмтээсаўскай машыне.

— Чаму вы прагналі трактарыста з саду? — запытаўся Сяргей.

— А чаго вы пасылаеце да мяне пэцкаля,— буркнуў нездаволены Радкевіч.— Паабломваў мне галіны... агрэхаў нарабіў...

— Што з імі рабіць, не слухаюць,— развёў рукамі Сяргей.

— Калі не ўмееце людзьмі кіраваць, дык не бярыцеся,— раззлаваўся Радкевіч.

— Добра, добра, прышлю больш акуратнага,— паабяцаў Сяргей і спытаўся: — Дык як вы жывяце?

— А вы як, яшчэ не жаніліся? — замест адказу спытаўся Радкевіч.

— Нешта Алёнка не піша, мусіць, з вучобай не ладзіцца. Эт, з жанчыны такі аграном, як з мяне аптэкар...

— І не напіша,— сакануў Радкевіч.— А з яе лепшы будзе аграном, чым з вас інжынер... І чалавек — не вам раўня... Бацькам праз суд аліменты плаціць... Эх, вы...

— Каб добрыя былі бацькі, дык не падалі б у суд...

— Яблычка ад яблынькі не адкоціцца.

Сяргей нешта хацеў сказаць у апраўданне, але Радкевіч не стаў яго слухаць. Ён пайшоў прама да дома старшыні. З грукатам адчыніўшы дзверы хаты, стары абвясціў:

— Танцуй, Віктар Трафімавіч, Алёнка прыслала пісьмо, засумавала па родным краі і, мусіць, больш за ўсё па табе...

Радкевіч паказаў пісьмо. Лісоўскі, прачытаўшы, увесь ззяў і аж памаладзеў.

— Даставай сваю бутэльку,— прапанаваў Радкевіч.— Нябось выстаялася, памацнела...

— Прабачце, Тодар Маркавіч, пасля таго праўлення...— Лісоўскаму стала няёмка.— Але...

— Будзеш плаціць штраф,— перабіў яго Радкевіч.— Не спадзявайся, я не дарую.

— Згодзен хоць цэлую скрынку выставіць,— сказаў Лісоўскі.

— Я жартую. Віно нікуды не дзенецца,— ужо сур'ёзна гаварыў Радкевіч.— А дзяўчына, што птушка, можа пырхнуць і паляцець... Не выпускай шчасця.

— Я зараз жа напішу, каб адразу пасля экзаменаў ехала сюды...

— Бо табе патрэбен аграном...

— Не аграном... Толькі ці паедзе?

— Прыедзе,— запэўніў яго Радкевіч.— Іначай бы не пісала... Жанчын трэба разумець... Вялікія практыкі... Хітрухі... Але і без іх нявыкрутка...

Шчаслівы Лісоўскі сеў пісаць пісьмо. Забыўшыся пра ўсё, ён уголас гаварыў, рука не паспявала перадаваць на паперу яго думкі, гэта быў голас сэрца:

«Мілая Алёнка!

Прыязджай да нас. У нас ужо расцвілі вішні. Калі я гляджу на іх, мне адразу ўспамінаешся ты. І мне робіцца і радасна, і сумна, бо я адзін, без цябе.

Алёнка! Ніяк не магу дачакацца, калі я з табою спаткаюся, каб разам прайсціся па абсаджаных вішнямі дарогах і сказаць табе ўсё...

Каб ты ведала, Алёнка, як я цябе кахаю, дык...»

Задаволены Радкевіч не стаў глядзець, што піша Лісоўскі. Стары ціха выйшаў, радуючыся за чалавечае шчасце.

*1954*

# У ВЯЛІКАЙ ДАРОЗЕ

Высокі і стройны чалавек у паношаным чорным бобрыкавым паліто, у новай сіняй кепцы, насунутай на вушы, ішоў з даволі абтрапаным чамаданам на вакзал. Стаяў люты мароз, шчыпала за шчокі і зліпаліся вейкі. Світала. З комінаў старчма ўзнімаліся шэрыя дымы. На гарадскіх вуліцах ужо было шмат пешаходаў. Усе некуды спяшаліся. На вакзале, як заўсёды, было ажыўлена. Сярэдніх год невысокая жанчына, развітваючыся з дзябёлым мужчынам, пацалавалася; каржакаваты барадач, падобны да камінара, рабіў настаўленні яшчэ зусім жаўтаротаму хлапчыне ў вушанцы на патыліцы, каб той не піў, не курыў і ў карты не гуляў. «Гэта згуба!» — прабасіў барадач. Старая з зямлістым тварам рогам хусткі выцірала запалыя вочы, праводзячы чарнабровую маладзіцу з малым дзіцем на руках. Чуўся скрыпучы голас: «Ты хоць пішы, дачушка, як цябе там прымуць!.. І не гніся!..»

Чалавек падышоў да касы, паказаў пасведчанне і без чаргі купіў білет. Паглядзеўшы на гадзіннік (да адыходу поезда аставалася хвілін трыццаць пяць), пасажыр спакваля пайшоў у буфет. А тут яшчэ больш тлуму! За адным са сталоў чуліся ахрыплыя галасы: «Ты мне друг?» — «Друг!» — «То давай, братка, пацалуемся!» Пасажыр стаяў у нерашучасці каля буфета, яму з горычы карцела выпіць, але раніцаю і тым больш адзін ён ніколі не піў. Да яго падышоў чалавек немаладога веку і, спыніўшыся, загаварыў:

— Прабачце, калі не памыляюся, вы бралі білет да Дзятлавіч?

— Так. А што?

— Я таксама ў Дзятлавічы еду. А які ў вас вагон?

— Дзевяты.

— Купіраваны?

— Дваццаць першае месца.

— А ў мяне дваццаць другое,— узрадаваўся спадарожнік і прапанаваў: — То, можа, на дарогу, малады чалавек, возьмем чаго ў губу?

— З прыемнасцю. Каньячку, ці што?

— Не ўжываю каньяку, клапамі пахне. Лепшай за

рускую горкую нідзе ў свеце не знайсці. Чыстая, як дзіцячая сляза!

Спадарожнікі выпілі, закусілі бутэрбродамі з чорнай ікрою і спяшаючыся пайшлі, бо з рэпрадуктара абвясцілі пасадку на поезд. У купэ было іх двое. Яны разгаварыліся.

— Вы, мусіць, малады чалавек, нечым моцна ўстрывожаны і нездаволены,— пачаў сусед, прычэсваючы пасівелы пушок на галаве. Твар у яго быў пасля выпітага, як рыжык, вочы шчырыя, добрыя, на вуснах ласкавая ўсмешка.— Такое ўражанне, што ў вас нешта не ладзіцца.

— Па чым гэта відаць?

— Па вачах. Вочы — люстра чалавека. Хоць, можа, я вам надакучаю роспытамі. Але трэба мірыцца з суседам, якога бог у дарозе паслаў,— усміхнуўся спадарожнік.— Цярпець...

— Так, не ладзіцца,— прызнаўся малады чалавек. Ён быў хмурны. Яму раптам захацелася расказаць гэтаму чалавеку, як бацьку, пра ўсё сваё жыццё: можа, лягчэй стане на сэрцы.— У мяне не толькі не ладзіцца, але, можна сказаць, развальваецца жыццё.

— Гэта горш. Раскажыце, калі не сакрэт.

— Сакрэту ніякага. А вы хто, кім будзеце?

— Мяне завуць Ціхон Платонавіч Залуцкі, працую я ў Камарынскай сярэдняй школе, выкладаю матэматыку.

— Камарынскай? У вас там калгас «Авангард»?

— Так, так, толькі ідзе не ў авангардзе. Сераднячок. Каб нашаму калгасу кіраўніка [illegible] розумам, ого! Прасілі, не даюць... Хоць, праўда, не адмаўляюць... абяцалі падшукаць сталага чалавека... Старшыня — першая скрыпка!

— Я аспірант сельскагаспадарчага інстытута, Аляксей Баравіцкі, еду ў Камарына. Мяне рэкамендуюць старшынёю аб'яднанага калгаса «Авангард».

— Цікава! — усклікнуў Ціхон Платонавіч.— Дык мы з вамі ў адну дарогу. От будуць рады авангардаўцы!

— Рады будуць, кажаце? — перапытаў Аляксей.

— Вось пабачыце,— запэўніў Ціхон Платонавіч.

І спадарожнікі паціснулі адзін аднаму рукі. У дарозе людзі чамусьці іншы раз хутка сыходзяцца, хут-

ка раскрываюць душы адзін перад другім, а часамі бывае і так, што пасябруюць на ўсё жыццё.

— Толькі выглядаеце вы дрэнна. Цяжка вучоба прыйшлася ці што іншае?

— Было і гэта, і да гэтага. Раскажу вам усё, калі маеце ахвоту паслухаць,— адказаў Аляксей, ускінуўшы ўгару русыя валасы. У яго блакітных вачах свяцілася туга.— За вайну я страціў усю сваю сям'ю. У блакадзе загінулі бацька, маці, дзве старэйшыя сястры і меншы брат. Я быў у партызанах, а потым у войску. А як скончылася вайна, пайшоў вучыцца. Не скажу, каб мне лёгка давалася навука, асабліва на першым і другім курсах — перапынак у вучобе адчуўся,— але на трэцім курсе я набраў разгон і скончыў інстытут добра.

— Пахвальна,— адобрыў Ціхон Платонавіч.

— І вось мяне пакінулі ў аспірантуры,— прадаўжаў Аляксей.— На другім годзе вучобы я пазнаёміўся з дзяўчынай, Лізай Пракаповіч, студэнткай інстытута замежных моў. Аднойчы я ў іх забавіўся — мяне цягнула ў сям'ю — і не прыкмеціў, як праскочыў час. Маці з дачкою, палохаючы мяне ўсялякімі страхамі, не пусцілі дадому. Я праспаў тую ноч у сталовай на канапе. А на другі дзень яны мне прапанавалі наогул перайсці да іх на кватэру, адвялі мне асобны пакой. Я згадзіўся. Мець хоць які куток шмат лепш, чымся жыць у агульным памяшканні.

— Зразумела,— сцвердзіў Ціхон Платонавіч.

— Ішоў дзень за днём. Па вечарах Ліза круціць патэфон, гучыць джазавая музыка: факстрот, чарльстон, танго, румба — гэтыя пласцінкі ў маці з вайны асталіся. Ліза вучыць мяне танцаваць, але поспехі нязначныя. Мне не падабаюцца гэтыя танцы, але я пакуль што цярплю. А Ліза ад іх у захапленні. «Ты,— кажа,— мужык і не разумееш сапраўднай культуры».

— Гм... Нічога сабе культура... Акрамя цынізму ў факстроце і сутаргі ў чарльстоне, больш у гэтых танцах я нічога не бачу,— на высокай ноце вымавіў Ціхон Платонавіч.

— Прыйшла вясна. Ліза здае дзяржаўныя экзамены. І раптам у іхні дом уварваўся скразняк. Ліза атрымала прызначэнне ехаць настаўніцай англійскай мовы ў Быстрыцкую школу.

— Ну і што тут такога? — здзівіўся Ціхон Платонавіч.— Быстрыца — раённы цэнтр, там ёсць дзве школы-дзесяцігодкі, руская і беларуская. Акрамя гэтага — бальніца, Дом культуры, кіно. Там шмат інтэлігенцыі.

— Але ж гэта не сталіца,— зазначыў Аляксей і прадаўжаў: — Пачалася асада, слёзы, папрокі. Асабліва шалела маці. «Цяперашнія хлопцы — не хлопцы, а нейкія бярвенні,— бубніла яна, накрываючы стол.— Беднае дзіця едзе ў глуш, і хоць бы каму якая справа,— гаварыла яна сама сабе, але каб я чуў.— Ну і што яна, ластаўка мая, будзе рабіць у той Быстрыцы, там ад суму можна звар'яцець».

У Лізы пабялеў твар, параскідаліся чорныя локаны, вочы заплаканы, а пад імі — сінцы. Забалела ў мяне сэрца, калі я ўбачыў, як пакутуе дзяўчына. «Куды ёй, такой кволай, як былінцы, у вёску»,— падумаў я тады. Гаспадыня запрасіла нас да стала вячэраць, але сама не села, а потым і зусім сышла з хаты.

Я падумаў пра жаніцьбу. Мне Ліза падабалася, хоць і была мяшчаначкай. Думалася, настаўлю на свой лад.

Мы з Лізай весела гаварылі аб розных дробязях. Раптам у яе пырснулі слёзы, дзяўчына ўскочыла і пабегла ў свой пакой, пакінуўшы адчыненыя дзверы. Чую, як яна ўсхліпвае, а пасля наўзрыд заплакала. У мяне слабасць — не магу пераносіць слёз. Падышоў я да яе, пачаў суцяшаць...

— Н-да,— вымавіў Ціхон Платонавіч.— Слёзы жанчыны — іх зброя... Не кожны перад імі ўстаіць...

— А назаўтра мы з Лізай запісаліся...

— І, вядома, яна ў Быстрыцу не паехала.

— Зразумела, як жа яна пакіне мужа.

— А што далей?

— Далей? — перапытаў Аляксей.— У той жа дзень маці, а мая цешча, разнесла пагалоску, што яе дачка прыняла ў свой дом прымака. Часта ў доме была звадка. Не мог жа я са стыпендыі выстранчыць на ўсялякія там панаксаміты, якімі так стала захапляцца мая маладая жонка. У мяне нават не хапала на набыццё ёй халатаў, якія часта мяняліся. Таму прыйшлося прыхваткамі брацца за пабочную работу, каб хоць у якойнебудзь меры задаволіць патрэбу «маленькай ластаўкі», як гаварыла старая. То ў газету артыкул напішаш,

а то проста вагон дроў разгрузіш. Не прывыкаць мне да работы!

— Не салодкі хлеб прымака,— паспачуваў Ціхон Платонавіч.

— А што да дамка, у якім мы жылі, дык ён мне вантробы ад'еў,— успамінаў Аляксей.— Цешча ўздумала абгарадзіцца, і мне прыйшлося паставіць шчыкеты вышэй чалавечага росту. А сад, агарод — усё было на мне. Суседзі мяне нават празвалі «чорным валом».

— Па ўсім відаць, што яно так і было,— заўважыў Ціхон Платонавіч.

— Але ўсё гэта нічога не значыла ў параўнанні з тым, што пачалося, калі мяне выклікалі ў райком партыі і прапанавалі паехаць у вёску старшынёй калгаса. Некалькі тыдняў ішла калатня. Прызнацца па праўдзе, я і сам некаторы час вагаўся. Разбіваліся ўсе мае планы з дысертацыяй, аднак пачуццё абавязку перамагло, і я даў згоду ехаць. Даведаўшыся пра гэта, цешча накінулася на мяне, што я такі і гэтакі, што мне трэба падбаць, каб скончыць дысертацыю і стаць навуковым супрацоўнікам, а калі дастану добры аклад, тады і жонка, як і ўсе жонкі дбайных мужоў, будзе хадзіць у шаўках. А што буду я мець старшынёю — адны прычэпкі начальства і вымовы. Потым навалілася на мяне, што я не сем'янін, толькі падмануў яе ластаўку, што я нікуды не павінен ехаць...

— А жонка што на гэта казала?

— Матцы падпявала,— Аляксей выняў папяросу, прапанаваў Ціхону Платонавічу, але той адмовіўся, тады ён сам задыміў, хоць відаць было, што курыць ён пачаў нядаўна.— Перш за ўсё жонка зрабіла мне істэрыку, потым стала даймаць, што куды б мяне ні папхнулі, туды я і іду, што я яе не кахаю, бо каб па-сапраўднаму кахаў, дык зрабіў бы ўсё для яе, чаго толькі яна захоча. А калі я ёй заявіў, што ўсё-такі паеду, што я не магу не паехаць, дык яна кінула мне: «Каб і не вярнуўся!» Дык як вы мяркуеце, пасля ўсяго гэтага лёгка ў мяне будзе на душы?

— Та-а-к,— ухіліўся ад адказу Ціхон Платонавіч.— А цешча як?

— На развітанне сказала: «Не ўздумай толькі не даваць разводу!»

— А як вы самі на гэта глядзіце?

— Проста не ведаю,— шчыра прызнаўся Аляксей. На яго высокім ілбе акрэсліліся дзве складкі.— У нашым родзе ніхто ніколі не кідаўся жонкамі. Да таго ж я адчуваю, што кахаю Лізу і, каб не маці, перавыхаваў бы яе. Цяпер жа мяне думка даймае, ці здолею я ў такім стане быць карысным у вёсцы. І яшчэ мне хочацца напісаць дысертацыю.

— Напішаце,— запэўніў Ціхон Платонавіч.

— А калі яны пойдуць на разрыў, дык ці знайду я сабе сяброў? — разважаў уголас Аляксей.— Цяжка чалавеку быць аднаму... нават няма з кім пагаварыць... душу адвесці...

— У вялікай дарозе, у якую вы зараз выбраліся, знойдзеце сабе сапраўдных сяброў,— спачувальна гаварыў Ціхон Платонавіч.— Ці мала што здараецца ў жыцці, толькі ніколі не трэба падаць духам.

— Дзякую за добрае слова,— крыху павесялеўшым тонам прамовіў Аляксей.

— А што да Лізы, дык калі яна вас кахае, то нідзе не дзенецца, прыедзе,— заключыў Ціхон Платонавіч.— А не захоча расстацца са сваім «мяшчанскім кодлам» — не шкадуйце... Добра, што самі вырваліся адтуль... Не ў кожнага хапіла б сілы... Балота засмоктвае...

* * *

Спадарожнікі пад'язджалі да Дзятлавіч. Абапал чыгункі рос змешаны лес, пад цяжарам снегу гнулася долу галлё елак, лёгкай шэранню пакрыліся голыя бярозы і асіны. Уздоўж дарогі ўзвышаліся, паблiскваючы на сонцы, гурбы снегу. Лашчыла вока дзівосная прыгажосць ляснога царства.

Праскочылі поле. Паказаліся старыя ліпавыя прысады. Поезд сцішыў хаду, пастуквалі на стыках рэек колы вагонаў, пазвоньвалі буферы. Нарэшце поезд паволі падышоў да невялічкага светлага будынка станцыі Дзятлавічы. На пляцы стаялі падводы, каля іх папасваліся памаўзлівыя козы. Паміж вазкоў і саней мітусіліся вераб'і, шукаючы сабе спажывы. Каля рослага варанога каня, закрываючы яму вока і моцна трымаючы за павады, стаяла дзяўчына ў кароткім кажушку і ў вялікай шэрай шарсцяной хустцы, якая звісала да каленяў. Ціхон Платонавіч накіраваўся проста да яе.

— Вось бачыце, па нас прыехалі,— звярнуўся ён да Аляксея. І з нездавальненнем дадаў: — Зноў на гэтым злыдні. Гэта не конь, а звер. І чым больш уграецца, тым шпарчэй бяжыць, рукі паздзіраеш, яго стрымліваючы.

— А я дык люблю ездзіць на такіх конях, нечага не спі ў шапку,— адказаў Аляксей.

— Праўда? — падняў вочы Ціхон Платонавіч.— А наш цяперашні старшыня адмовіўся ад яго, дык гэта страказа ім авалодала.

Да Ціхона Платонавіча падбегла дзяўчына і пацалавала ў калючую шчаку. У яго па вуснах прабегла задаволеная ўсмешка, ён прыгарнуў дзяўчыну да сябе і пацалаваў у лоб.

— Знаёмся, дачка, наш новы старшыня.

— Вельмі прыемна,— зняўшы вышытую рукавічку, працягнула яна пульхную руку.— Настася!

— Аляксей Баравіцкі,— прывітаўся ён і звярнуўся да Ціхона Платонавіча: — Яшчэ ці выберуць...

— Выберуць,— запэўніла Настася.— Вам ужо і хату падрыхтавалі. Праўда, невялічкая хатка, але ўтульная, на вашу сям'ю хопіць. З райкома партыі паведамілі, што вас двое. А толькі чаму вы адны, хіба не збіраецеся доўга ў насаставацца?

— Пагляджу, як людзі прымуць,— хітрыў Аляксей.— Можа, прыйдзецца ад варот зрабіць паварот...

— Нашы людзі такія: калі з добрымі намерамі да іх ідуць, сустракаюць, як самых дарагіх гасцей, а калі з благімі — гладкай дарогі.

— Настася! — нездаволена вымавіў Ціхон Платонавіч.— От страказа!..

Яны прайшлі да вазка. На паружавеўшы твар Настасі спаўзалі завіткі валасоў, падобных па колеру да спелай пшаніцы. Свяціліся агнём сінія вочы. Настася зняла з каня гуньку і паклала ў вазок, а потым пачала адвязваць ад слупка кантар. Аляксей залюбаваўся, як умпраўна ў Настасі хадзілі рукі. Вараны не мог устаяць на месцы, грыз цуглі, біў капытамі зямлю.

— Што, застаяўся? — выбіраючы з-пад хамута грыву, прагаварыла Настася.— Зараз табе будзе добрая прамінка.

— Як маці? — пытаўся Ціхон Платонавіч.

— Здаровая,— коратка адказала Настася.

— А Славік?

— Ніяк не можа дачакацца, калі ты прыедзеш. Усім хваліцца, што прывязеш яму пісталет. Ці купіў хоць?

— Купіў,— усміхнуўся ў сівыя вусы Ціхон Платонавіч і, звяртаючыся да Аляксея, пахваліўся: — Унука маю. Вельмі любіць мужчын, мы з ім моцна дружым. Пацешны хлапчук!

Настася выкіравала каня і запрасіла садзіцца ў вазок.

— Давай мне лейцы,— прапанаваў Ціхон Платонавіч.

— Не, лепей я сама,— адмовілася Настася.— Я ведаю ўсе яго норавы.

Мужчыны селі ззаду, а Настася, як запраўскі фурман, уперадку, накрыўшы ногі гунькаю.

— Пайшоў! — злёгку тузанула ляйчынай Настася.

Вазок крануўся з месца, зарыпелі палазы. Нібы правяраючы, ці ў моцных руках лейцы, конь узмахнуў галавою і патрос доўгаю грываю. Настася важна сядзела з выцягнутымі ўперад рукамі. Вараны імчаўся рыссю, зграбна выкідваючы наперад моцныя ногі. З-пад капытоў ляцелі камякі снегу, стукаліся ў фанерны перадок вазка, рассыпаючыся бісерам. Вазок кідала ў бакі, у вушах свістаў вецер.

На ўскраіне Дзятлавіч вараны спудзіўся выбегшай з веснічак дзяўчыны з вядром, ірвануў убок, закусіў цуглі, выцягнуў шыю і панёс галопам. Настася ніяк не магла саўладаць з канём. Вазок ужо гатовы быў перакуліцца, ды Аляксей прытрымаў яго нагою. Настася з усяе сілы намагалася стрымаць каня, але нічога не магла зрабіць. Ціхон Платонавіч падаўся наперад, аднак увішны Аляксей выхапіў у Настасі лейцы, некальні разоў з сілаю тузануў у бакі і асадзіў варанога, які ўвесь аж дрыжаў, а з разяўленага рота камякамі падала пена. Аляксей ударыў каня ляйчынай па баку, вараны, узмахнуўшы галавою, ірвануўся, але яздок асадзіў яго зноў.

— Стаяць! — скамандаваў Аляксей.— Цяпер паехалі ступою, а то яшчэ дыхавіцу нагоніш. Тады гора не абярэшся: не паспеў, скажуць, новы старшыня ўзяцца за работу, а ўжо каня загнаў. Будзь здароў! — гукнуў ён каню, які зафыркаў, прачышчаючы ноздры.

Настася, адчуўшы спрыт і сілу ў руках Аляксея, зірнула на яго з прыхільнасцю, задаволеная тым, што ўсё абышлося добра. Яна паправіла валасы, якія выбіваліся з-пад хусткі, і зноў узяла лейцы. Ехалі паволі. Дарогу замятала пазёмка.

Гаварылі аб тым аб сім, а пасля перайшлі на калгасныя справы. Настася ажывілася. Яна з гумаркам расказвала, што ў іх часам у дванаццаць гадзін выходзяць на работу, што ў чацвёртай брыгадзе на трыццаць восем коней ёсць толькі тры хамуты і пяцёра саней, што ў першай брыгадзе летась не хапіла каровам корму. Людзі, замест таго каб працаваць у калгасе, ідуць у заработкі: адны ў леспрамгас, другія на торфараспрацоўкі, а трэція на чыгунку. Яна гаварыла так, нібы сама была вінавата ва ўсім. Аляксей, слухаючы Настасю, адчуў, што яна хварэе за ўсе непаладкі ў калгасе — гэта быў «смех праз слёзы».

— Што ў цябе, дачка, за настрой сёння? — спытаўся Ціхон Платонавіч.

— І сама не ведаю,— прызналася Настася.— Хочацца па-сапраўднаму ўзяцца за работу! І калгаснікі ў нас ёсць добрыя, і зямля ніштаватая, а справы ідуць, як мокрае гарыць...

— А хто ў гэтым вінаваты? — Аляксей павярнуўся да Ціхона Платонавіча, падставіўшы спіну ветру, каб закурыць.

— Кіраўніцтва,— хутка адказала Настася.— Наш цяперашні старшыня ў некалькіх калгасах працаваў... І ўсюды ў сваю карысць...

— А ў чым прычына? — дапытваўся Аляксей.— Можа, яму не памагалі?

— Прычына? — перапытала Настася і горка ўсміхнулася. На яе разрумяненых шчоках відаць былі ямінкі.— Неяк запаўняў наш старшыня анкету і папрасіў мяне, каб я праверыла, ці не нарабіў памылак... Чытаю... «*Пытанне:* Ваша прафесія? *Адказ:* Кіруючы працаўнік». «На не кіруючай рабоце,— кажа,— я не спраўлюся...» Дык чаго ад такога чакаць?! Не ведаючы справы, не вельмі будзеш кіраваць...

Мужчыны зарагаталі.

— А як сёлета каровы, дагледжаны? — спытаўся Аляксей.

— Сёлета ў парадку, але колькі мне гэта каштуе,— уздыхнула Настася.

— І коні ў целе?

— А што ім зробіцца гуляючы? — усміхнулася Настася.— У нас ёсць гнедая жаробка, хоць якая яна жаробка, двое жарабят мела, а яшчэ ні разу ў хамуце не была. Ад хамута, як ад пудзіла, уцякае... А дровы для калгаса на трактары падвозяць... і ваду таксама... Дык куды гэта годна!..

Уз'ехалі на горку. У нізіне раскінулася вёска Камарына — цэнтр калгаса «Авангард», якую падковай агінала невялічкая рэчка. Узвышалася школа, у якой Ціхон Платонавіч не толькі выкладаў матэматыку, але таксама быў дырэктарам. Аляксей уважліва ўглядаўся, яму пачынала падабацца гэтая мясцовасць. Але калі апынуліся на калгаснай сядзібе, дзе пад пластом снегу ржавелі розныя машыны, стаялі калёсы, як на кірмашы, з пазадзіранымі аглоблямі, Аляксей спахмурнеў. Двор быў неабгароджаны, па ім сноўдаліся коні, падбіраючы расцярушанае сена. Заўважыўшы, як Аляксей змяніўся ў твары, Ціхон Платонавіч спытаўся:

— Што так задумаліся? — і, не дачакаўшыся адказу, дадаў: — Не сумуйце. Народ чакае сапраўднага старшыні, і калі вы ім будзеце, дык у крыўду не дасць, усімі сіламі падтрымае... А па ўсім відно, што вы здолееце кіраваць... Дык бярыцеся аберуч, шчаслівай вам дарогі!..

* * *

Пасля справаздачнага сходу, мнагалюднага і шумнага, на якім Аляксей стаў старшынёю, адбылося не вядомае дагэтуль ажыўленне ў калгасе «Авангард». На другі дзень новы старшыня калгаса Аляксей Баравіцкі за гадзіну да світання правёў лятучку з членамі праўлення і брыгадзірамі, на якой дамовіліся, што рабіць у гэты дзень. Былі вызначаны людзі, сабраны хамуты і сані — набралі пакуль што семнаццаць падвод — пачалі вывазку вапеннага торфу, якога тут аказалася ўдосталь. Старшыня ўзрадаваўся: для паднящця ўраджайнасці кіслай глебы вапнаванне — самы лепшы сродак. А ўвечары Аляксей правёў незвычайную нараду — савет старэйшых. Іх з пашанай прывозілі з брыгад да праўлення.

— Я папрасіў вас сабрацца, бацькі, каб параіцца, што рабіць,— пачаў Аляксей.— У нашым калгасе, сорам людзям сказаць, не хапае ні хамутоў, ні саней... А на сходзе выказваліся супроць пазыкі ў дзяржавы. Як жа тады быць? Можа, варта было б нам, калі вы на гэта згодны, звярнуцца да калгаснікаў за дапамогай... Я адказваю галавою, што праўленне ўсё верне людзям, што толькі на час пазычыць. Каб людзі не сумняваліся, дамо кожнаму распіску з пячаткай... Другога выйсця няма, у касе праўлення — ні капейкі... Можна было б, канечне, знайсці што-небудзь прадаць, але якая з гэтага карысць... Выбракуеш, скажам, карову, а яе цяпер, не тое што летам,— за паўцаны аддасі... А збыць лягчэй, чым набыць... Дый якія там каровы, толькі што хвасты...

У глыбокім задуменні сядзелі старыя. Адзін з іх, з шырокаю сівою барадою, бліжэй падсунуўся да старшыні і наставіў руку да вуха, каб лепш чуць. Сухенькі стары, з гладка паголенымі ўпалымі шчокамі і абвіслымі вусамі, уважліва ўглядаўся ў твар новага старшыні, нібы хацеў заглянуць у душу гэтага чалавека, які аказаў такі гонар бывалым людзям — раіцца з імі, як наладзіць гаспадарку. А адзін стары, высокі і сутулы, з доўгімі натруджанымі рукамі, без канца моргаў вачыма і варушыў губамі, нібы паўтараючы словы Аляксея. Сярод старых быў таксама Ціхон Платонавіч, але наперад не высоўваўся, яго цікавіла, што будуць гаварыць людзі. А на Аляксея ён паглядаў з замілаваннем: «Нарэшце прыйшоў сапраўдны гаспадар, ён навядзе парадак». Некаторы час панавала маўчанне. Потым загаварыў з кутка невялікі жвавы дзед. Пастукваючы кійком і пераступаючы нагамі, ён спытаў:

— А можа, яно ўсё ж каб у дзяржавы крэдыт узяў?

— Як ні пярэчаць многія, а да дзяржавы такі прыйдзецца звярнуцца,— гаварыў Аляксей,— але пра гэта будзе ісці асобна гаворка. Нашы грамадскія будовы нікуды не вартыя. Да будучай зімы трэба будзе абавязкова паставіць кароўнік.

— Па-мойму, мужчыны, як той казаў, гэтак, калі да нас чалавек павярнуўся тварам,— загаварыў дзед,— дык мы да яго ўсім сэрцам і душою. Дзела Аляксей Ігнатавіч гаворыць! Па ўсім відаць, што ён на глум слова не скажа, от што! Дый нам не так ужо шмат і патрэб-

на грошай. У нас ёсць свае і рымары, і сталяры, і кавалі... Абы толькі было з чаго рабіць... як той казаў... гэтак... от што!.. Адным словам, збяром грошы...

— Ды яно ж так,— азваўся дзед з шырокаю сівою барадою,— у калгас на работу мне цяжка зімою хадзіць, сустаўны раматус, каб ён згарэў, да таго ж удушша, ліха на яго, а седзячы ў цяпле, каб быў тавар, дык я магу на ўвесь калгас нарабіць хамутоў... А мае хамуты не горшыя за куплёныя...

— Дзіва! — сказаў нехта.

— А ў мяне і палазы ёсць, і да палазоў, магу сані праз некалькі дзён выставіць, а там колькі ацэніце,— голасна прамовіў высокі і сутулы стары, моргаючы вачыма.— Вось толькі грошай няма, у нядзелю, што зарабіў, робячы кадушкі, дочкам на строі аддаў... Такое насенне, браце ты мой, адна перад адной, навыперадкі!..

— Уга! А каб сказаў, мая каторая там да паркалю ці мультану падышла, дык і ў той бок не глядзіць... Толькі бацька паспявай зарабляць!.. Але ж калі трэба для гаспадаркі, дык трэба памеркавацца, нідзе не дзенецца... На многа няма чаго спадзявацца, а якую там паўсотню...— абарваў на гэтым гаворку з кутка стары.

— Можа, таварыш старшыня, пачнем колы рабіць? — пытаўся высокі і сутулы дзед, яшчэ больш моргаючы вачыма.— Вясна не за гарамі... Закінеш наперад, як знойдзеш... А драбіны яно і без мяне каторы там саб'е... Поўная хата, я ж кажу, дзяўчат, адна перад адной навыперадкі!.. Хлопцы, дык яны ў хату цягнуць, а дзяўчаты з хаты...

— Пачнем рабіць і колы,— адобрыў старшыня.

— Што тут нам доўга гаварыць,— падышоў да стала Ціхон Платонавіч.— Я мяркую, значыць, што выкажу агульную думку савета старэйшых,— мы цалкам адабраем прапанову нашага старшыні звярнуцца да калгаснікаў з просьбаю пазычыць праўленню неабходныя сродкі... У нашых умовах гэта самае разумнае рашэнне...

— Ці ўсе згодны з прапановаю Ціхона Платонавіча? — спытаўся Аляксей.

— Усе,— загулі галасы.

— І яшчэ ў мяне ёсць адна справа,— гаварыў Аляксей.— Вось у нас у свінарніку няма загародак, а хутка пачнецца апарос, колькі будзе страт у гаспадарцы...

Свінні ў нас добрыя, вялікі прыбытак могуць даць... Як бы гэта сабраць дошак... Не пазней лета будуць вернуты...

— Дошкі яно, канечне, у кожнага з нас ёсць, кругом быў лес, хто не ленаваўся... Цяпер, праўда, калгасны лес спляжылі, кала няма дзе высекчы...— гаварыў худзенькі стары.— Але, як той казаў, не пры нас будзь сказана, як каторы дасць дуба... тады што, га?..

— Адкладзем гэты невясёлы занятак, дзед Архіп, гадкоў на некалькі,— усміхнуўся Аляксей.— Мне хочацца з вамі яшчэ папрацаваць...

— Адкуль ён мяне ведае? — сказаў убок задаволены дзед і выйшаў наперад: — Ды яно, як той казаў, спяшацца на той свет няма чаго... Хто як хоча, мужчыны, агітаваць вас не буду, а я дошкі дам...— Стары ўхмыльнуўся.— А толькі, таварыш старшыня, можа, мне распісачку дасце, не на дошкі, канечне, а каб якіх гадкоў колькі яшчэ пажыць на белым свеце...

— Магу з гарантыяй!.. — весела сказаў Аляксей.

Старыя засмяяліся.

— Аб чым гаворка, збяром дошак,— рассек рукою паветра дзед з шырокаю барадою.— Быць не можа, паставім гаспадарку на ногі, а то сорам на людзях паказвацца... Не трэба далёка за прыкладам хадзіць, унь суседзі толькі грашыма па дваццаць рублёў атрымалі... Дык хіба дзіва, што іхнія дзяўчаты будуць купляць шаўкі...

— Вот калі! — падтрымаў высокі і сутулы стары.— А нашы за імі рвуцца, навыперадкі!..

— Аляксей Ігнатавіч! — выйшаў з кутка невялікі рухавы стары з кійком.— На мінулым сходзе, як я зразумеў, вы націскалі на кукурузу... Гаварылі, харч добры, малакагонны, і ўсё такое... А ці не выгадней нам садзіць бульбу? Сала, яно трывалей за малако... га?..

— Не,— запярэчыў Аляксей.— У шматгаліннай гаспадарцы патрэбна і бульба, і кукуруза...

— Зноў жа лён — працаёмкая культура,— прадаўжаў стары.— Ці выцягнем? Рабочых рук мала!

— Пра ўсё гэта ў наступны раз мы спецыяльна пагаворым,— адказаў Аляксей.— Калі не пярэчыце, дык тыдні праз два збяром савет старэйшых... тады і вырашым гэту справу... я падрыхтуюся, і прашу вас падумаць, якія культуры нам выгадней сеяць... А кукуруза

і ў нашых умовах апраўдвае сябе, я ўжо не кажу пра лён, суседзі ім азалаціліся...

— Згодны! — пачуліся галасы.— Пагаворым наступным разам...

— Я тут хацеў спытаць...— пастукаў кійком аб падлогу стары.

— Калі ласка.

— Ці надоўга маеце намер у нас аставацца, га?.. Я гэта да таго, што без жонкі прыехалі...

— Мяркую, калі справы пойдуць на лад, назаўсёды ў калгасе астацца,— падумаўшы, адказаў Аляксей.

— Гэта дзела! — загаманілі мужчыны.

— А што да жонкі,— дадаў Аляксей,— дык з дня на дзень чакаю ад яе адказу... не хацелася ёй ехаць у вёску... можа, перадумала... Добра было б, а то аднаму ні туды ні сюды...

— Пэўна! — прамовіў скрыпучым голасам высокі сутулы дзед.— А калі не паедзе, дык такой жонкі няма чаго і шкадаваць... Гладкай дарогі!..

...Ужо дзён праз дзесяць усе коні калгаса «Авангард» былі заняты на вывазцы ўгнаенняў, недахопу хамутоў і саней не было: што купілі, а што самі змайстравалі. Акрамя гэтага, з'явіліся на полі трактар, некалькі машын і экскаватар, прысланыя шэфамі з горада, на ўсіх відах транспарту ішла вывазка вапеннага торфу. Неабходна было нагнаць упушчанае. З самага рання і да позняга вечара, нягледзячы на марозы, працавалі людзі.

* * *

Аднойчы пад вечар паштальён разам з газетамі на імя старшыні прынёс яму на кватэру і пісьмо. Аляксей па почырку пазнаў, што пісала Ліза. Ён узрадаваўся і занепакоіўся, асцярожна разарваў сіні канверт. Ліза была няўмольная, яна патрабавала неадкладна даць згоду на развод. Аляксей хацеў быў ёй напісаць, каб яна не спяшалася, добра падумала, перш чым разводзіцца, але потым вырашыў: «Разбітае не склееш». Яму сябра перад гэтым пісаў, што бачыў некалькі разоў Лізу з Дубіцкім, які працаваў прадаўцом у ларку і «з пены піва» пабудаваў камяніцу. Аляксей тут жа сеў за стол і напісаў, што згодзен развесціся. Але падняцца

з-за стала не мог — неяк ацежалелі ногі. Апаноўвалі розныя думкі: што рабіць? «Сумна чалавеку толькі для самога сябе жыць, зусім нецікава!..» У стане роспачы і застала яго заатэхнік Настася. Яна прыйшла зацвердзіць рацыён для жывёлы.

— Вы што, Аляксей Ігнатавіч, над дысертацыяй працуеце? — спыталася Настася.— Цікава, якую вы абралі тэму?

— Тэма маёй дысертацыі — «Дзейнасць груналяванага суперфасфату ва ўмовах вапнавання дзірванова-падзолістых глеб»,— паведаміў Аляксей.— А толькі, Анастасія Ціханаўна, я не над дысертацыяй працаваў, а вось жонцы напісаў, што даю згоду на развод. Не захацела, бачыце, паехаць у вёску.

Настася так і села з паперкай у руках.

— Няўжо так далёка зайшоў разлад,— гаварыла яна,— што няма дарогі да прымірэння? Хіба, як кажуць, характарамі не сышліся?

— А сапраўды, характары ў нас розныя,— Аляксей прайшоўся.— Бацьку вашаму ў поездзе я расказваў пра сваё жыццё. Ён нічога вам не гаварыў?

— Казаў пра чутую ў вагоне адну чалавечую гісторыю...

— Тады вам усё вядома. Адзін з герояў гэтай чалавечай гісторыі ваш пакорны слуга.

— Вы?

— Так,— сцвердзіў Аляксей.— Дык як вы думаеце, лёгка мне? Хоць, што я пытаю; хто не перажыў падобнага, той мяне не зразумее...

— Чаму? — здзівілася Настася.

— А таму,— ухіліўся ад адказу Аляксей.— Вы калі-небудзь кахалі?

— Кахала. Нават сына маю.

— Жартуеце! — недаверліва паглядзеў на яе Аляксей.

— Ніякіх жартаў. Славікам завуць.

— Калі ж вы паспелі, вы такая маладая. Колькі вам год? Хоць такіх пытанняў жанчынам не задаюць, але ў вашым узросце яшчэ можна. Я даў бы вам гадоў дваццаць.

— Дваццаць адзін. А сыну тры гады.

— А муж дзе працуе?

— Не ведаю, я назаўсёды выкінула яго з галавы.

— Як?!

— Калі на тое пайшло, магу расказаць пра сваё няўдалае каханне.

— Вельмі цікава.

— Мне было семнаццаць год, калі я закахалася ў *аднаго*,— Настася паклала паперку на тапчан.— А яму было дваццаць сем гадоў, здавалася, чалавек павінен быць сталым. Я тады яшчэ сама вучылася, а ён ужо другіх вучыў.

— Хто ён? — спытаўся Аляксей.— Як яго прозвішча?

— А гэта не мае значэння,— павяла плячыма Настася.— Нават не хочацца ўспамінаць яго, такі ён стаў мне агідны.

— То, можа, вы яго не кахалі?

— Ой, што вы! — рашуча запярэчыла Настася.— Я і клалася спаць і ўставала з яго імем на вуснах. Ён таксама гаварыў, што кахае мяне, кляўся быць верным да магілы, а аказалася...— Настася пасуравела.— Я тады вучылася ў заатэхнікуме. Пачалося ў нас з таго, што на адным з студэнцкіх вечароў ён запрасіў мяне станцаваць з ім вальс. Я ахвотна згадзілася. Мы ўвесь вечар танцавалі. Памятаю, што я была на сёмым небе, калі ён мяне праводзіў у інтэрнат. Я ўпершыню ішла з хлопцам пад руку, у мяне так лёгка было на душы, што я не адчувала зямлі пад нагамі.

Настася перадыхнула.

— Потым мы сталі амаль кожны вечар сустракацца, хадзілі ў кіно, у тэатр, на вечары з танцамі. Я раней вельмі любіла танцы! Адны сяброўкі мне зайздросцілі, лічылі яго вельмі прыгожым, а другія зняважліва называлі «сэрцаедам», але я нічога гэтага не чула. Аднойчы, гэта было вясною, толькі расцвітаў бэз, ён прапанаваў зайсці да яго на кватэру. Я, не падумаўшы, згадзілася. Ён пачаставаў мяне віном, а сам выпіў гарэлкі. Ці ад хмелю, ці ад чаго іншага ў мяне так закружылася галава, што я вымушана была прылегчы на канапу.— У Настасі навярнуліся слёзы.— Ён быў настойлівы, а я страціла над сабою кантроль — і тут здарылася самае страшнае...

Наступіла няёмкая паўза. Насця хусцінай выцірала слёзы. Усхліпнуўшы і глыбока ўздыхнуўшы, яна зноў працягвала:

— Пасля мы яшчэ сустракаліся. А калі мяне пацягнула на кіслае, ён адвярнуўся ад мяне — не захацеў мець дзіцяці... Не ўтойваю, каб дагадзіць яму, я гатова была на такі крок. Я паехала дадому і прызналася ва ўсім сваім бацькам. Яны катэгарычна забаранілі мне гэта рабіць, асабліва бацька. Я вярнулася ў горад, каб перадаць яму сваё рашэнне, але яго ўжо не застала. Ён збег з горада, як апошні баязлівец. Потым толькі я даведалася, што ён не адну мяне так падмануў...

— І вы яго так і не шукалі?

— Не.

— Дарэмна, трэба было правучыць нягодніка!

— Такіх людзей нічым не праймеш,— Настася схамянулася.— Прабачце... Я вам першаму пасля бацькоў расказала гэтую сумную гісторыю. І, можа, толькі таму, што спачуваю вашаму гору.

— Выходзіць, мы з вамі сябры па няшчасцю.

— Так атрымоўваецца,— Настася ўздыхнула.— Дык вось як часам бывае ў жыцці. Цяпер, мусіць, я ніколі не буду мець шчасця.

— А чаму? Значыць, і мой такі лёс?

— Што вам, вы — вольны казак.

— Раны кожнаму баляць.

— З часам загояцца.

— Дык і ў вас таксама.

— У мяне іншая справа...

Яны некаторы час маўчалі: у абоіх было цяжка на душы. Потым Настася ўстала, узяла паперку і падала старшыні.

— Паглядзіце, Аляксей Ігнатавіч, ці правільна я вызначыла рацыён?

— Добра,— прабегшы вачыма, адказаў Аляксей і спытаўся: — Дарэчы, калі мы зоймемся распрацоўкай плана па жывёлагадоўлі? Адклад не ідзе на лад. Можа, сёння? Згодны?

— Трэба малога класці спаць.

— А-а-а. Тады іншая справа.

— Заходзьце калі да нас! А то вы ўсюды ўжо былі, а нас мінаеце. Бацькі крыўдзяцца.

— Дзякую, зайду!

Настася развіталася і пайшла, Аляксей правёў яе да дзвярэй, мімаволі затрымаўшы позірк на яе строй-

ных нагах. Расказ Настасі зрабіў вялікае ўражанне на Аляксея. Ён падумаў, што яе лёс нейкім чынам нагадвае яго, калі яшчэ не горшы. А чалавек яна, па ўсім відаць, не благі, з адкрытаю, шчыраю душою.

Аляксей успомніў, што яшчэ не абедаў. Дастаўшы з печы капусту, звараную вартаўніцай, ён прымайстраваўся на кухонным століку і пачаў есці. Гэта ў яго быў абед і вячэра. Раніцаю ён піў толькі чай. Падсілкаваўшыся, Аляксей пачытаў газеты, прагледзеў часопісы і лёг спаць, але доўга не мог заснуць. Яго непакоіла, што на мінулую ранішнюю лятучку спазніўся адзін брыгадзір, а на сённяшнюю — ужо два, затрымаўшы ўвесь актыў на паўгадзіны. Трэба было адразу ж прыняць меры, а ён гэтага і другі раз не зрабіў. Так да дабра не дойдзеш. Аляксей нават не падазраваў, што гэта было выпрабаванне яго як кіраўніка. Трэба будзе прыняць крутыя меры, каб раз і назаўсёды спыніць нядбальства. Яшчэ трэба будзе сказаць, што летам лятучкі будуць праводзіцца за паўгадзіны да ўсходу сонца. І калі хто з брыгадзіраў любіць позна спаць, дык няхай складзе з сябе абавязкі. Гэта не яго, Аляксея, нававвядзенне, ёсць шмат людзей, якія ўжо даўно так працуюць. А галоўнае — сказаць, што за ўзняцце сельскай гаспадаркі ўзяўся ўвесь народ і варта яму толькі раззлавацца, як тыя, хто свядома ці несвядома перашкаджаюць руху наперад, будуць сцёрты ў парашок.

...А на трэці дзень, раніцаю, як і трэба было чакаць, спазніліся ўжо тры чалавекі. З іх брыгадзір чацвёртай брыгады Адам Грыцкевіч, які першы раз спазніўся на пятнаццаць хвілін, цяпер прыйшоў пазней на цэлую гадзіну. Ад яго яшчэ несла гарэлкай. Паволі збіраўся народ.

— Перш чым ад людзей патрабаваць дысцыпліны, трэба самому кіраўніку быць дысцыплінаваным,— горача загаварыў Аляксей.— А таму я лічу, што брыгадзір чацвёртай брыгады Грыцкевіч не заслугоўвае таго, каб быць кіраўніком. Гэта ён у брыгадзе завёў такія парадкі, што даваў коней узараць агарод або прывезці дроў толькі тым калгаснікам, якія абяцалі паўлітэрку. Стаўлю пытанне перад праўленнем: вызваліць яго ад абавязкаў брыгадзіра.

— Вы што ж, думаеце ўсіх брыгадзіраў змяніць? — адразу ўзняў голас Грыцкевіч.

— Не ўсіх, а вас аднаго. І будзем так рабіць з кожным, хто пойдзе па вашых сцежках,— абарваў яго Аляксей.— Бачылі, як народ узяўся за работу? Не перашкаджайце яму! Усякага, хто стане ўпоперак дарогі, народ змяце са свайго шляху!

— Ён за народ лічыць заатэхніка, з якой вядзе адну лінію,— іранічна вымавіў Грыцкевіч.— Хутка яна яго апрацавала... Але што, вопытная, з маладых, а ранняя...

— Не смець пра Анастасію Ціханаўну так гаварыць,— крыкнуў Аляксей.— Вам трэба яшчэ павучыцца ў яе... Яна дбае пра гаспадарку, а вы разбураеце...

Узняўся шум, некаторым не падабалася «лінія», як гаварыў Грыцкевіч. Яго падтрымалі кумы, сваты, сябры па бутэльцы. У спрэчках выявілася, што ўчора вечарам у чацвёртай брыгадзе з-за гулянкі брыгадзіра не былі падвезены кармы каровам.

Большасцю галасоў брыгадзір чацвёртай брыгады быў вызвален ад работы. Гэта выклікала шмат размоў, пасыпаліся скаргі на новага старшыню, але пераважная большасць людзей адобрыла рашэнне праўлення.

З гэтага часу ўмацавалася думка, што новы старшыня не толькі добра ведае гаспадарку, але і чалавек цвёрдага характару: нават брыгадзір чацвёртай брыгады, які пры былым старшыні хадзіў на галаве, заклікаў да парадку, а значыць, пастаўлены на ногі. Паходзіць у радавых, возьмецца за розум. Гэта лепшыя лекі.

* * *

Неяк Аляксей зайшоў да Залуцкіх. Да гэтага ён пабыў амаль ва ўсіх калгаснікаў, паглядзеў, як жывуць людзі. У Залуцкіх, вядома, было лепей, але нічога лішняга не кінулася ў вочы. Ён застаў дома Ціхона Платонавіча, Настасю і Славіка. Усе былі вельмі рады яго прыходу, асабліва хлопчык. Ён хутка пабратаўся з Аляксеем, узлез да яго на калені, доўга прыглядаўся, а пасля спытаў:

— А ты адкуль прыехаў?

— З горада,— адказаў Аляксей.

— З горада? — перапытаў Славік. Вочы яго акругліліся (хлопчыку ўвесь час гаварылі, што бацька жыве ў горадзе), ён рэзка павярнуўся на каленях у Аляксея і нечакана спытаў: — Ты мой тата ці так сабе?

Аляксей на момант разгубіўся, а пасля, засмяяўшыся, адказаў:

— Так сабе... Мяне завуць Аляксей. Будзем сябрамі. Згодзен?

Хлопчык моўчкі кіўнуў галавою. Усе вальней уздыхнулі. Але Славік зноў атакаваў госця:

— Дзядзька Аляксей, а ты да нас назусім прыехаў ці толькі пагуляць?

— Назусім, працаваць,— адказаў Аляксей.— Вось прыйдзе вясна, мы з табою будзем хадзіць у поле, пабудуем цёплы кароўнік, тады каровы будуць даваць больш малака.

— Аляксей Ігнатавіч, а як будзе з цялятнікам? — спыталася Настася.

— А мы, мамуля, і цялятнік пабудуем,— заявіў важна Славік.

— Нічога, мусіць, не зробіш, прыйдзецца і цялятнік будаваць,— усміхаючыся, гаварыў Аляксей.

— Слаўка, сынуля! Дзевяць гадзін,— абвясціла Настася.— Спаць!

— Я зараз, мамка, толькі яшчэ дам салют.

— За што? — вочы Ціхона Платонавіча смяяліся, стары быў задаволены ўнукам, сваёй уцехай.

— За цялятнік,— сказаў Славік і стрэліў з пісталета.

— Вось і паспрабуй цяпер не пабудаваць,— весела засмяяўся Аляксей. — Тады і па дружбе.

Настася пайшла ўкладваць Славіка, а Аляксей з Ціхонам Платонавічам яшчэ доўга гутарылі.

* * *

Даволі вялікая частка вёскі Камарына па левым беразе рачулкі Цнянкі за вайну з фашыстамі была спалена. Згарэла і школа. Пасля вайны на тым жа самым месцы па тыпавому праекту пабудавана двухпавярховая драўляная дзесяцігодка. Школьны ўчастак з маладым садам абгароджан з двух бакоў шчыкетамі і ад

рэчкі — частакол у шашкі з галін вярбы. Паўз агароджы ўзвышаліся дрэўцы вяза, ліпы, рабіны, клёна, белай акацыі, таполі пахучай і канадскай, слівы ўсурыйскай — усё гэта было пасаджана рукамі вучняў, заахвочаных Залуцкім. З усіх дрэваў у садзе выстаяў вайну толькі дуб, галінасты прыгажун. На яго купчастую вяршаліну вучні старэйшых класаў зацягнулі дзедаўскую барану з драўлянымі зубамі. Хутка тут асталяваліся буслы. Вось і цяпер адзін з іх стаяў на высокіх чырвоных нагах і чырвонай доўгай дзюбай старанна чысціў сваё пер'е. З гнязда шуганула дробнае птаства і шэрымі камякамі рассыпалася па зямлі, жаласна ціўкаючы.

Часта Аляксей не без зайздрасці паглядаў на школу, марачы ў думках зрабіць сядзібу калгаса яшчэ лепшай, бо хоць Аляксей і абгарадзіў грамадскія будовы плотам у тры жэрдкі, аднак гэта ўражання не рабіла. Але больш за ўсё цягнула Аляксея да школы тое, што там жыла Настася. Яна з кожным днём станавілася для яго даражэйшай. Усё больш Аляксей пераконваўся, што ў іх многа агульнага не толькі ў лёсе, але і ў думках, у поглядах на рэчы і справы. Ён ніяк не мог забыць аднаго бурнага сходу, на якім былы брыгадзір Грыцкевіч ледзь не праваліў план пасеву кукурузы і льну. Толькі энергічная падтрымка Настасі і яе важкія довады ў карысць прапаноў Аляксея далі перавагу на некалькі галасоў, і план быў прыняты. Фактычна, вырашылі справу жанчыны, якія паверылі Настасі і пайшлі за ёю. Аляксей адчуў, што Настася глыбока запала яму ў душу, дый Настася, па ўсім было відаць, гарнулася да яго, хоць і стрымлівала свае пачуцці.

Ужо даўно адсеяліся. Прайшла самая гарачая пара, калі, як кажуць хлебаробы, дзень год корміць. І вось аднойчы ў нядзелю Настася з Аляксеем, узяўшы з сабою і Славіка, выйшлі ў поле пагуляць і заадно агледзець палеткі. Аляксей намерыўся пагаварыць з Настасяй па душах, прапанаваць ёй выйсці за яго замуж, ды ўсё ніяк не мог пачаць гаворку.

Удалечыні зелянела рунь, а за ёю ўзвышаліся зубчастыя вяршаліны лесу. Радавалі вока дружныя ўсходы яравых; па ўсіх адзнаках, ураджай павінен быць добры. Яны цешыліся з першых, яшчэ кволых лісцяў маладых бярозак, пасаджаных гэтай вясною абапал

гравійкі. А калі дайшлі да азімых, настрой у Аляксея неяк знізіўся.

— Што вы засумавалі?

— А чаму не сказаць «ты»?

— Ніяк не адважуся.

— Трэба было б падкарміць азіміну, але няма чым і купіць няма за што...

— А хіба крэдыт ужо ўвесь?

— Крэдыт пайшоў на будоўлю.

— Што ж тады рабіць? — заклапочана спытала Настася.

— Прыйдзецца, мусіць, рызыкнуць: частку грошай пусціць на штучнае ўгнаенне. Як ты на гэта глядзіш?

— Другога выйсця не бачу.

— Так і быць. Але ці ведаеш ты, чым гэта пагражае? — павярнуўся да яе Аляксей.

— Зрывам будаўніцтва цялятніка.

— Не зрывам, а невялікай затрымкай.

— Ну што ж, прыйдзецца згадзіцца.

Яны некаторы час ішлі моўчкі, неўзаметку любуючыся адно адным. Нейкая невядомая сіла зближала іх гарачыя сэрцы.

— Мілая Настаська, як мне лёгка, калі ты побач са мною,— прызнаўся нарэшце Аляксей.— Ты для мяне самы лепшы друг і дарадчык...

— І мне, Алёша, з табою прыемна,— Настася і не заўважыла, як перайшла на «ты».

— Настаська, ты ведаеш аб маіх пачуццях да цябе,— хвалюючыся, працягваў Аляксей.— Я крыху здагадваюся аб тваіх... Таму скажы мне адразу: ці згодна ты будзеш звязаць са мною свой лёс?

— Я ж, Алёша, не адна,— пабялела Настася.— Падумай добра, за цябе любая дзяўчына пойдзе... Будуць папрокі...

— Што ты, ніколі,— рашуча запярэчыў Аляксей.— Мы выхаваем Слаўку сапраўдным чалавекам...

— Дзядзька Аляксей, мамка, пачакайце,— гукаў Славік.

— Ты хочаш, каб ён зваў мяне таткам?

— А табе гэта прыемна будзе?

— Яшчэ пытаеш!

— Тады згода.

Яны, узяўшыся за рукі, ішлі, поўныя шчасця.

...Свяціла яркае вясенняе сонца. Настася, Аляксей і Славік стомленыя вярталіся з поля. Яны ішлі другой дарогай. Недалёка ад рэчкі, на месцы будоўлі кароўніка, ляжалі смалістыя бярвенні, узвышалася складзеная цэгла для шулаў. Аляксей нёс на плячах Славіка, той, здавалася, спаў. Аляксей з Настасяй вялі гаворку пра вяселле, сышоўшыся на тым, што не варта надоўга адкладваць. А калі яны падышлі да старога Залуцкага, які сядзеў каля хаты на прызбе, Славік страпянуўся і адрапартаваў:

— Дзеду! Дзеду! У тую нядзелю ў нас будзе вяселле, ага!

— Якое вяселле? — здзівіўся Ціхон Платонавіч, а пасля здагадаўся: — Гэта праўда, дзеці?

Настася кіўнула галавою.

— Калі будзе на гэта ваша згода,— прамовіў Аляксей.

— Абы вы былі згодны,— сказаў Ціхон Платонавіч.— Ну што ж, значыць, ад усяго сэрца жадаю вам у жыцці шчасця.

— Я рады, бацька, што ў вялікай дарозе, пра якую вы мне гаварылі ў поездзе, я ўладкаваў і свае асабістыя справы.

— Мне думаецца,— гаварыў Ціхон Платонавіч,— што вы будзеце жыць добра. У вас абоіх шчырыя сэрцы...

Усе зайшлі ў хату. Ціхон Платонавіч паслаў Славіка да суседзяў па бабку, а сам выйшаў у сенцы, як ён сказаў, «па чыпурышку». Нельга ж не выпіць на заручынах, так ужо заведзена ў гэтых краях.

* * *

Восень у калгасе «Авангард» была багатай, аднак, не ўсё прыйшлося размеркаваць на працадні. Патрэбны былі вялікія сродкі для будаўніцтва, для пакупкі племянных кароў, для насаджэння калгаснага саду і развядзення пчол.

Распачатая Грыцкевічам «кампанія» супраць Аляксея з трэскам правалілася. Яшчэ тады, калі Грыцкевіч выступіў проціў незразумелага новаўвядзення — вапнавання глебы, Аляксей даў яму добрую водпаведзь. Непісьменныя сяляне Крычаўшчыны, гаварыў ён, у

другой палове васемнаццатага стагоддзя ведалі і прымянялі вапнаванне, а ён, Грыцкевіч, прабыў з дзесятак год старшынёю, а потым брыгадзірам і не ведае пра гэты спосаб. А калі ўрадзіла кукуруза і было вырашана пытанне з кармамі ды зарадзіў лён, Грыцкевіч апусціў галаву, хоць часам і падпускаў шпількі.

— Аляксею Ігнатавічу проста шанцуе, нават жонку ўзяў з такім пасагам,— хіхікаў Грыцкевіч, седзячы ў кругу сваіх сяброў.— Ужо адно гэта гаворыць, які ён майстар...

— От не плявузгай абы-чаго, пэцкаль,— не сцярпела Грыцкевічыха.— Лепш бы на работу хадзіў, як усе людзі. Спанеў, як пабыў начальствам.

Усе зарагаталі.

Кпіны Грыцкевіча даходзілі да Аляксея, але ён рабіў выгляд, што нічога не заўважае. Аднак усяму ёсць мяжа. Аднойчы, спаткаўшыся з Грыцкевічам адзін на адзін, Аляксей сурова яго папярэдзіў:

— Памятайце, Адам Адамавіч, калі я хоць раз яшчэ дачуюся, што вы абражаеце Анастасію Ціханаўну, дык тады крыўдуйце на сябе...

— Прабачце, Аляксей Ігнатавіч, больш гэтага не будзе,— неяк сагнуўся Грыцкевіч.— Справа, канечне, не ў Анастасіі Ціханаўне... З вамі я, як кажуць, браўся ў рожкі, але не выстаяў... Паклалі вы мяне на абедзве лапаткі... Нават суседзі, мільянеры, здзіўляюцца, як вы паднялі калгас за такі кароткі тэрмін...

— Не я зрабіў, а людзі...

— Усё гэта правільна,— прадаўжаў былы брыгадзір.— Але першую скрыпку вы ігралі...— Грыцкевіч замяўся.— Вось я хачу папрасіць вас, каб далі мне якую работу...

— Толькі буду рады, калі вы возьмецеся за розум,— сказаў Аляксей. Яму проста не верылася, што Грыцкевіч скарыўся, але гэта была праўда: жонка яго даняла, прыгразіўшы разводам, калі ён і далей будзе «біць лынды».

— Дзякую,— глуха сказаў Грыцкевіч і працягнуў Аляксею сваю дужую руку.

У гэты час выйшла з хаты з рыдлёўкай у руках Анастасія Ціханаўна. Яна прыкметна папаўнела, цяжарнасць адразу кідалася ў вочы.

— Ты куды, Настаська, сабралася ісці? — спытаўся Аляксей, з замілаваннем аглядаючы яе фігуру.

— Сад садзіць,— адказала Настася.

— Табе няможна, без цябе абыдземся.

— У цябе ж людзей не хапае.

— Даруйце мне, Анастасія Ціханаўна, за ўсё,— вінавата загаварыў Грыцкевіч.— А што да людзей, дык хопіць, сёння выйдуць нават тыя, якія ўлетку на печы сядзелі... Запэўніваю вас!.. А вы не ідзіце, гэта зацяжкая для вас работа...

Грыцкевіч павярнуўся і хутка пайшоў у другі бок вёскі.

— Што з ім такое здарылася? — спыталася Настася.

— Не ведаю, паглядзім, што далей з гэтага будзе,— паціснуў плячыма Аляксей.— А ты ўсё ж не ідзі, прашу цябе.

— Добра,— згадзілася Настася.

З хаты выбег Славік, ружовашчокі, з маленькай рыдлёўкай, і весела зашчабятаў:

— Татка, а ты мяне возьмеш сад садзіць?

— Вазьму,— падхапіў яго на рукі Аляксей і пацалаваў.— Будзеце расці разам — паглядзім, хто хутчэй — ты ці сад?

...Ужо ўся першая брыгада была на полі, падыходзілі другая і трэцяя, за імі паказалася чацвёртая брыгада. Наперадзе крочыў Грыцкевіч. Аляксей здзівіўся: ішлі на пасадку саду старыя і малыя, некаторых ён першы раз бачыў на рабоце,— адны з іх былі на «адыходных промыслах», а другія, акрамя свайго агарода і ягад, нічога не хацелі знаць.

— Дзякую вам, Аляксей Ігнатавіч,— усхвалявана гаварыла Грыцкевічыха са слязьмі радасці на вачах,— што вы і майго чалавека скіравалі на добрую дарогу.

— А вы ўпэўнены, што ён будзе працаваць? — спытаўся Аляксей.

— Будзе,— запэўніла Грыцкевічыха.— Я яго не першы год ведаю... Што казаць, выгуляўся... Цяпер ён пачне рваць... Ого!

— Дык тут, па-мойму, больш вашай заслугі...

— Ёсць крыху і маёй,— згадзілася Грыцкевічыха.— Ой загаварылася, пабягу!.. Унь аж дзе нашы...

Калгаснікі рассыпаліся па полі. Трэба было пасадзіць у гэтым годзе дваццаць гектараў саду. Аляксей са Славікам спяшаліся: яны першыя пасадзілі яблыньку.

Прыемна было на душы ў Аляксея. Цяпер ён па-сапраўднаму адчуў, што знаходзіцца ў вялікай дарозе. Ён успомніў пра дысертацыю і сам сабе сказаў: «Я павінен яе напісаць і напішу».

*1954*

# НЕЗГАСАЛЬНЫЯ ЗОРЫ

Ніколі яшчэ на Тураўшчыне не было такога ўраджаю. На шырокіх нівах калгаса «Светлая паляна», акаймаваных зялёнымі палосамі дуброваў, шумелі жыты і пшаніца. Ды неяк пасля навальніцы збажына злягла, як мост.

Камбайнер Рыгор Чупрык са сваёй памочніцай трактарысткай Верай Сляпухай — яны працавалі на прычэпным зернеўборачным камбайне — з дапамогаю нескладаных дадатковых прыстасаванняў, якія яны самі зрабілі, з поспехам праводзілі ўборку палеглага збожжа.

Увесь дзень бесперабойна працаваў камбайн. Адчуванне задаволенасці працай падбадзёрвала маладых людзей. Калі дзяўчына, якая вяла трактар, смеючыся вачыма, аглядалася, хлопец за штурвалам камбайна вышэй узнімаў галаву, і яго выгляд нібы гаварыў: «Ведай нашых!»

Сонца зайшло за сцяну: па народных прыкметах павінен быць дождж. Камбайнер з трактарысткай, спяшаючыся, збіраліся ісці ў сваё сяло. Звычайна яны начавалі там, дзе працавалі, а сёння Веры захацелася пабыць дома. Чупрык быў не супраць праводзіць яе. У яго быў добры настрой.

— Ведаеш, Вера, твой бацька неяк расказваў, што на Палессі спрадвеку шчасце не заглядала ў дом,— гаварыў ён ідучы.

— Гэта праўда, але народ наш не згінаўся, жыў, тварыў, шукаў шчасця... І знайшоў,— сказала Вера.

— Вядома,— згадзіўся Чупрык.— Нашы прадзеды, дзяды, бацькі змагаліся, каб «людзьмі звацца»... Яны паставілі на сваім... Узяць хоць бы твайго бацьку. Былы салдат гвардзейскага Прэабражэнскага палка, ён куляметчыкам у Чапаеўскай дывізіі біў белякоў, устанаўліваў у нашым сяле Савецкую ўладу, арганізаваў калгас, сустракаў са сцягам першы трактар... Яму ёсць што ўспомніць... Адным словам, усё зроблена без нас...

— Ты так думаеш, а па-мойму, не так,— запярэчыла Вера, а потым спыталася: — А чаго ты ■ маім бацькам пасварыўся?

— Я першы год працаваў на трактары і нарабіў

агрэхаў... Бацька паглядзеў на маю работу і пачаў пакепліваць: «Пакалупаў зямлю, як свіння лычом...» Ну, пачалі смяяцца... а смех...

— Зразумела...— Вера задумалася.— І нам, Грыша, ёсць за што весці барацьбу, быць сапраўднымі людзьмі... незгасальнымі зорамі, іх на Палессі шмат... яны былі, ёсць і будуць...

Чупрык спыніўся, да яго не дайшло значэнне сказанага.

— Кім? — перапытаў хлопец.

— Незгасальнымі зорамі,— паўтарыла дзяўчына.

— Што гэта азначае?

— Быць працавітымі людзьмі, сумленнымі, прынцыповымі — глядзець у заўтра. Савецкія людзі — дзелавыя людзі. У нас багатая тэхніка. Трэба ад яе ўзяць усё, што яна ў сілах даць. А хіба мой бацька і такія, як ён, якім дзеці памагалі стаць пісьменнымі, могуць самі далей рушыць наша развіццё ўперад? Не! У іх не хапае ведаў. Гэта ўскладзена на нашы плечы.

Яны ішлі далей. Насоўваўся змрок.

— Вось ты якая! — Чупрык устрапянуўся.— Выходзіць, не ўсё зроблена нашымі папярэднікамі...

— Уга! Далёка да гэтага. Вось узяць хоць бы тваё прыстасаванне да камбайна, якое дазваляе жаць палеглае збожжа: рэч, здаецца, простая, але раней яго не прыдумалі... А не было б у цябе ведаў — нічога не выйшла б.

— Не маё, а наша,— папраўіў Чупрык.— Ды пра што тут гаварыць, драбніца...

— У добрай гаспадарцы ўсё спатрэбіцца...

— Яно праўда, навука — вялікая рэч,— згадзіўся Чупрык.— Яна дае свае вынікі... Гэта ж адно з вашай сям'і выйшлі настаўніца, інжынер, генерал, аграном, дыпламат і, нарэшце, трактарыстка. Пайшлі палешукі ў людзі...

— Я, Грыша, у маленстве марыла стаць лётчыцай,— успамінала Вера.— Бацьку гэта вельмі радавала...

— Вядома!

— А маці вагалася. «Хацелася б мне,— казала яна не раз,— каб хоць адно маё дзіця асталося пры мне і працавала на зямлі-карміліцы...» Гэтыя словы запалі мне ў душу, і іх я не забыла.

— Па-мойму, у вас у сям'і бацька ўсім кіруе...

— Як сказаць! Каб не маці, дык і бацька не быў бы такі прыкметны.

Вера і Чупрык яшчэ даўно, калі вучыліся ў дзесяцігодцы, вырашылі падацца ў механізатары. У свабодны час яны самастойна займаліся вывучэннем камбайна і трактара, а калі пачыналіся канікулы, праходзілі практыку ў мясцовай МТС. Пасля заканчэння школы ён стаў працаваць камбайнерам, а яна трактарысткай.

Вера з Чупрыкам напрасткі ішлі праз лес у сяло Вуглічы, цэнтр калгаса «Светлая паляна».

Лес быў багаты дубам і грабам, часам пападаўся ясень і вяз. Кроны магутных дрэваў паспляталіся ўверсе. Зусім сцямнела. Абуджаліся начныя птушкі, недзе закугакала сава.

— Ой, Грыша, каб не збіцца толькі нам з дарогі,— занепакоілася дзяўчына.

— Што ты! — запярэчыў Чупрык.— Я ў сваім лесе ніколі не заблуджуся...

— Наперад не хваліся...

Насунулася хмара — гэта яна паскорыла набліжэнне цемнаты. Зашалясцела лісце, лінуў спорны дождж. Ісці нельга было, і Вера з Чупрыкам схаваліся пад купчастым дубам. Хлопец зняў з сябе пінжак, і накінуўшы дзяўчыне на плечы, асцярожна абняў яе за талію і прытуліў да сябе.

— Баішся? — ласкава спытаў ён.

— А чаго?! — запярэчыла Вера.— З табою мне нідзе не страшна.

— Праўда?

— А ты хіба не ведаеш!

— Ведаю. А толькі лішні раз не шкодзіць упэўніцца. Цяпер няхай дождж хоць усю ноч лупіць.

— Ой, навошта? І так да ніткі прамоклі... Колькі зараз часу?

Чупрык дастаў гадзіннік, глянуў на чорны цыферблат, які свяціўся фасфарычнымі лічбамі: было дзесяць гадзін.

— Нам да адзінаццаці абавязкова трэба быць дома.

— Будзем,— запэўніў Чупрык і раптам, панізіўшы голас, спытаў: — Вярунька! А ты не шкадуеш, што паслухала мяне і пайшла на трактар працаваць?

— Чаго ж мне шкадаваць, Грышук, калі я адчуваю сябе патрэбным чалавекам. Ды не толькі гэта. Пра нас з табою ўжо ведае ўвесь раён. Учора бацькі былі на кірмашы ў Тураве, дык у маці многія знаёмыя пыталіся: «Ці не твая дачка, Сляпуха, стала такой відушчай, што з Чупрыкам пайшла гэтак угару?»

— Няўжо?

— Дапраўды.

— А цяпер бацька не гаворыць, што збіваю яго дачку з дарогі? «Гадую,— кажа,— дзяўчыну невядома каму, каб хоць людскі хлопец натрапіў...»

— Наадварот, крыўдзіцца, што абыходзіш хату.

— Сёння ж зайду,— паабяцаў Чупрык.

— Ён будзе вельмі рады, а пра маці і казаць няма чаго.

— А адкуль ты ведаеш?

— Бацька на кірмашы нешта купіў, і калі маці спытала, што гэта, дык ён адказаў: «Можа, часам Чупрык пераступіць парог, дык трэба мець пра запас, памірыцца...» Пра нашы адносіны яны крыху ведаюць...

— А што ён мог купіць? — нібы не чуючы апошняга паведамлення, спытаў Чупрык.

— Не ведаю. Калі я з кухні зайшла ў пакой, дык яны змоўклі. Бацька стаў зусім іншы, такі лагодны, хоць да раны прыкладай. Папрасіў мяне, каб я яму, каторы ўжо раз, пачытала пра Антэя.

— І што?

— Сказаў: «Не адрывайцеся, дзеці, ад зямлі-маці, тады ніякія ворагі вас не пераможуць». Мне стала так радасна на душы! А дагадваешся чаму?

— Не.

— Ой, які ты! Ён першы раз звяртаўся да нас з табою.

— І гэта ўсё праўда?

— А хіба я лгаць буду!

— Вярунька! Які я шчаслівы... А каб раз'ехаліся, дык яшчэ невядома, можа б, ніколі і не спаткаліся... А вучыцца ўсюды можна...

Хлопец моцна прытуліў да сябе дзяўчыну і пацалаваў.

— Ой, пусці, Грыша. Хіба можна так... мядзведзь!

— Можна... Каб я ведаў, што твае бацькі згодзяцца на наш шлюб, дык хоць сёння пайшоў бы ў сваты...

Мая маці вельмі любіць і паважае цябе... Я ўжо гаварыў пра гэта з Міхалам Буевічам, гэта ж ён нейкая далёкая радня нам, вазьму яго за свата...

— Ой, п'яніца праклятыі Некалі быў дзякам, а цяпер баптыстам стаў; відаць, нейкі старшы ў іх... Кавалак гультая... За год — дзесяць працаднёў мае... Адно языком добра меле... Не прыводзь яго да нас, бо маці качаргою прагоніць.— Вера памаўчала.— Дык, можа, пойдзем? Дождж амаль перастаў...

— Куды нам спяшацца?

— Чарцей ганяць!

— Ты ў сваім розуме? — спалохана вымавіў Чупрык.

— У сваім,— адказала, усміхаючыся, Вера.— Калі сумняваешся, ушчыкні... Які ты смешны — не бачыш, што ў цябе пад носам робіцца...

Вясною памёр Грышаў бацька. Ён жыў з працы рук і меў сякі-такі запас грошай. Стары, бывала, дня не згуляе, у вольны час ад працы ў калгасе бандарыць. Аднаму кадушку зробіць, другому кубелец, трэцяму цэбар. Глядзіш — лішні рубель завёўся. Хата іх была ў канцы вёскі, недалёка ад могілак. Старая аставалася адна дома, бо сын працаваў у майстэрнях і там кватараваў. І вось неяк вечарам перад багамольнай жанчынай з'явіўся самы звычайны чорт з рагамі і хвастом, увесь калматы. Чорт запатрабаваў ад старой грошы, каб выручыць яе мужа з пекла. Маці, млеючы ад страху, дала грошы. Унадзіўся «чорт» і перацягаў усе грошы нябожчыка, а потым узяўся і за сынавы. Некалькі дзён назад Вера спаткала старую, калі тая ішла ў царкву са свечкай у руках і ўся заплаканая. На запытанне, што з ёй, хто яе пакрыўдзіў, старая пра ўсё расказала, але прасіла нічога не гаварыць сыну, бо чорт ёй прыгразіў маўчаць. Ён прыходзіў у пэўныя дні, у адзін і той жа час. І вось Вера вырашыла прасачыць за «чортам», але адна пабаялася і ўгаварыла хлопца схадзіць з ёю.

Палавіну таго, што расказала Вера, было добра вядома Чупрыку, але паяўленне нейкага чорта ашаламіла яго.

— Ну і навіна,— закруціў галавою Чупрык.— Да чаго дайшло!

— Ты здзіўляешся, а чаму табе, Грыша, не заняцца сваёю маткаю? Яна такая даверлівая і забабонная...

— Што ты хочаш ад старой? Цяжка яе перавыхаваць...

— Але можна... Яна такая добрая...

Дождж зусім сцішыўся. Капала з лісцяў, і, калі кропля пападала за каўнер, было непрыемна. Хлопец з дзяўчынай ішлі лесам ужо даўно, а краю ніяк яшчэ не было відаць. Вера спалохалася:

— Па-мойму, мы адхіліліся ўправа.

— Выйдзем, гэты лес не такі вялікі,— падбадзёрваў Чупрык.

— Хоць і невялікі, а да раніцы можна праблукаць.

— Яшчэ што!..

Можа, яны і заблудзілі б, ды голас з рэпрадуктара паказаў, што яны ідуць у патрэбным кірунку. Спачатку пачуўся трэск — гэта ўключылі радыё.

Паскорыўшы крок, абіваючы густыя кроплі сабе на твар і адзенне, Вера і Рыгор ішлі проста на голас. Паведамлялі навіны апошняга дня, гаварылі пра ўборку ўраджаю.

І раптам: «Маладыя механізатары з Палесся, Вера Сляпуха і Рыгор Чупрык, вынайшлі прыстасаванне да камбайна, што дае магчымасць убіраць палеглае збожжа...»

— Рыгорка! Што гэта, сон? — усклікнула Вера.

— Не, Вярунька, наяве. А толькі няўжо наша прыстасаванне такое важнае?

— Мусіць, бо іначай людзі не гаварылі б.

— Гэта ж так проста!

— У прастаце — сіла...

Вера з Чупрыкам паціху праз агароды падышлі да канцавой хаты і схаваліся за плотам. Якая розніца! Ва ўсіх дамах свяціла электрычнасць, а тут паблісквала лампадка. Чакаць доўга не давялося. Вось нехта крадучыся ўвайшоў у весніцы і наблізіўся да акна, паглядзеў у шыбы, нібы правяраючы, хто ёсць у хаце, а потым пайшоў у сенцы. Хлопец з дзяўчынай перабеглі двор і ўляцелі ў хату ў той момант, калі старая даставала з куфра ўкручаныя ў белую хустачку грошы. Пачалася валтузня. Чупрык хутка паваліў «чорта» на падлогу. Вера запаліла святло. Садралі маску з рагамі і ўбачылі Міхайлу Буевіча.

Маці Чупрыка, апранутая ў чорнае, поўная, з вялізнымі сінцамі пад вачыма, стаяла ні жывая ні мёртвая і са страху шаптала:

— А божухна!.. Свят, свят... Што гэта дзеецца на свеце...

Потым старая наблізілася да «чорта», горка скрывіліся яе вусны.

— Дык гэта ты, Міхайла, гэтак з мяне наздзекаваўся... Вось табе, пачвара!.. Ах, антыхрыст!..

— Даруй, Мікалаіха,— прасіпеў Буевіч.

Яго маленькія, чорныя, як гузікі, вочкі бегалі па хаце. Ён расчмыхаўся, выціраў рукой мясісты нос, пад якім чарнелі падстрыжаныя вусікі. Чупрык, узяўшы яго за каўнер, падвёў да дзвярэй:

— Пойдзем, «сват», разлічвацца за грахі.

Мікалаіха падышла да Веры і, пацалаваўшы яе, глухім голасам прагаварыла:

— Дзякую, ягадка, ты мне адкрыла вочы... А я, дурная, не верыла, што чорта людзі выдумалі... Ты, як тое сонца, прынесла ў наш дом радасць...— Мікалаіха выцерла слёзы.— Здаецца, і я на старасці год паразумнела.

...Апрануўшыся ў сіні гарнітур, белую кашулю з гальштукам, Чупрык нясмела зайшоў у хату да Веры, якая даўно яго чакала, каб пайсці пагуляць. Іграў гармонік, і карцела патанцаваць. Адзетая ў блакітную крэпдэшынавую сукенку, у жоўтых чаравіках, з раскручанымі косамі колеру спелага жыта, дзяўчына была сапраўднай вясковай прыгажуняй. На круглых з ямінкамі шчоках у яе іграў здаровы румянец, сярэдняга росту фігура яе была моцна складзеная, стройная.

Бацька Веры, Антон Сляпуха, убачыўшы ў сваёй хаце Чупрыка, па-святочнаму адзетага і вясёлага, не паверыў вачам. Ён узрадаваўся і занепакоіўся (які гэта бацька будзе абыякавы, калі дачка на выданні!). Высокі, крыху сутулы, з няголеным рыжым шчаціннем на барадзе і выцвілымі вачыма, у акулярах на кончыку таўсматага носа, стары выйшаў наперад і ў адказ на прывітанне хлопца падаў яму спрацаваную руку.

— Пра каго гэта, тымчасове, ты мне чытала, дачка? Ага, пра Геркулеса,— усміхнуўся Сляпуха.— Нічога, сілу маем. Яно і я, тымчасове, некалі разгінаў рукамі падкову.— Убачыўшы, як пабліскваюць у іх або-

іх вочы, стары перамяніў тон: — Нарэшце прыйшоў, скарыў сваю гордую галаву. Перад кім уздумаў задавацца, Рыгор? Злаваць на таго, хто выгадаваў яму гэтакую красуню?.. Дзе ты бачыў, тымчасове, яшчэ такую?.. Нідзе на свеце не знойдзеш!..

— Тата! — перабіла Вера.

— А што тата, пажартаваць няможна? — дабрадушна бубніў ён.— Нябось кахаецеся?

— Кахаемся,— сказаў нясмела Чупрык.

— Моцна? — пытаўся стары. У вачах яго дрыжалі іскры смеху, але ён стараўся быць сур'ёзным.

— Ага,— сцвердзіў хлопец.

— А ты, тымчасове, што маўчыш? — звярнуўся Сляпуха да дачкі.— Або, можа, другі прыглянуўся?

— Не-е,— збянтэжана апусціла галаву Вера.— Грышка мне самы мілейшы...

— Але, Грыша, тымчасове, мусіць, не вельмі, бо без свата заходзіць? — усміхнуўся ў пракураныя вусы Сляпуха.

— І без свата можна абысціся. Але, калі трэба, дык я на адной назе... Ён хутка будзе тут,— і Чупрык памкнуўся ісці.

— Хто-о? Гэты «чорт» Міхайла Буевіч? — зарагатаў Сляпуха.

— У мяне другі сват ёсць,— пераступіў з нагі на нагу Чупрык.

— А куды ты дзеў Буевіча? — пытаўся Сляпуха.

— Здаў сельсавету. Ну, я мігам.

У хату ўвайшла Антоніха — маленькая, хударлявая, уся ў маршчынах, у цёмным мультановым каптане і чорнай спадніцы, у белай хусцінцы, уся нейкая насцярожаная і нібы нечага спалоханая. Яе вялікія, як і ў дачкі, вочы быццам пыталіся: «Што здарылася?»

— Рыхтуйся, маці, сватоў прымаць,— паведаміў Сляпуха.— Упарадкуем апошнюю дачку, а потым можна і на спакой.

— А дачушка мая, а золатка! — усхліпнула Антоніха.— Як жа ўсё гэта нечакана...

— Трэба адбіць тэлеграмы дзецям, каб усе былі на вяселлі,— гаварыў Сляпуха.— Хочацца ўсіх пабачыць. Хоць, можа, генерал і не прыедзе... Справы ўсялякія...

— Як гэта! — страпянулася Антоніха.— Няхай толькі паспрабуе не выканаць загад маці.

Антоніха абняла і прыціснула да сябе дачку, пагладзіла яе тоўстыя косы і праслязілася.

— Ну, хопіць, маці, ідзі стол накрывай,— сказаў гаспадар.

...Падрыхтоўка да вяселля скончылася, паз'язджаліся ўсе родзічы дзяўчыны, толькі не было генерала. Яго чакалі з дня на дзень. У сяле вялося шмат гаворкі пра гэтае вяселле. Сяляне зайздросцілі дзецям Антона Сляпухі, толькі не Веры. «Самай меншай не пашанцавала, будзе корпацца ў зямлі, свету белага не бачачы, заўсёды ў мазуце, гразі і пыле». Гэтыя размовы даходзілі да бацькоў, стары маўчаў, сцяўшы зубы, а маці сяды-тады, схаваўшыся ў каморы, каб ніхто не бачыў, возьме і паплача. Гэта яна вінавата, што Вера пасля дзесяцігодкі асталася на зямлі працаваць.

Ды нечакана адно маленькае здарэнне прымусіла глянуць на Веру па-іншаму. Неяк пад вечар да дома Антона Сляпухі пад'ехала легкавая машына. Усе высыпалі на вуліцу: няйначай генерал прыехаў. Але з машыны выйшаў сухенькі стары ў акулярах у залатой аправе з сівай бародкай клінком і падстрыжанымі вусамі, з вострым носам.

— Скажыце, дзе я магу ўбачыць Веру Сляпуху ці Рыгора Чупрыка? — спытаўся ён.

— Я Вера,— пачырванела дзяўчына.— А Чупрык у МТС. Што вам трэба?

— Вы Вера Сляпуха, такая маладая? — здзівіўся прыезджы і адрэкамендаваўся: — А я — галоўны канструктар завода сельскагаспадарчых машын... Віктар Андрэевіч Зарудны. Завод зацікавіўся вашым прыстасаваннем да камбайна... Вы мне раскажаце?..

— Можна.

Яны зайшлі ў хату, за імі хлынулі мужчыны і жанчыны, дзеці. Сабралася палова сяла. Вера, хвалюючыся, расказвала Заруднаму пра сваё вынаходства.

— А вы, Вера Антонаўна, не маглі б мне начарціць?..

— Калі ласка,— сказала Вера.— Я зараз знайду паперу.

— Не турбуйцеся, усё ёсць.

Зарудны дастаў з партфеля паперу. Вера, спяшаючыся, чарціла. Людзі, як на вяселлі, запоўнілі хату і сенцы, стаялі на двары і вуліцы, гаманілі.

— Выдатна! Прасцей і лепш, чым у нас,— загарэліся вочы ў Заруднага.— Віншую вас, Вера Антонаўна, задача вырашана... мы доўгі час над гэтым працавалі... цэлым калектывам... Цяпер падпішыцеся. Вы атрымаеце ўзнагароду за вынаходства...

— Ой, то мы ўдваіх, з Рыгорам... Што вы, якую ўзнагароду?

— Не пярэчце... А як яго пабачыць, каб паціснуць яму руку? Можа, паедзем у МТС?

— А чаму ж не! — узрадавалася Вера.

У гэты час на «газіку» пад'ехаў генерал-маёр Сляпуха. Ён, разгублены, выскачыў з машыны. Да яго падбегла ўся радня.

— Няўжо без мяне згулялі вяселле? — пакрыўджана прабасіў генерал.

— Чакаем, чакаем,— сказала маці, рогам хусткі выціраючы слёзы.— Дарагія мае дзеткі...

— Тады вылазь, жонка, з машыны,— сказаў весела генерал.— А то мы хацелі вяртаць назад...

— Ой, што ты, братка, вяселле толькі заўтра будзе...

Усе былі рады за Веру і Чупрыка, а больш за ўсіх радавалася маці, што яе дачка, працуючы на зямлі, таксама знайшла сваё шчасце.

Красуйся на векі вечныя, Палеская зямля, свяціце, незгасальныя зоры!

*1954*

## ЖАЛЕЙКАВА ГРАДА

Я чуў гэты расказ ад вясковага паляўнічага.

Залатой восенню, удваіх, мы паехалі ў палескія лясы на паляванне. Стрэльбы ў нас былі адменныя; у мяне — айчыннай вытворчасці, па-мастацку аздобленая бескурковая дубальтоўка, а ў майго сябра — фірмы Заўэра, дарагое ружжо. Мы надзелі камбінезоны для палявання, курткі, асеннія шапкі-вушанкі, балотныя боты і падперазаліся патранташамі. У мяне за плячыма — паляўнічая сумка — ягдташ, а ў майго сябра — крошні. Запасліся мы таксама сеткамі для нашэння дзічыны. Адным словам, выгляд у нас быў сапраўдных паляўнічых.

Чаму мы выбралі менавіта Палессе? Па-першае — ніколі там не былі, хацелася паглядзець гэты край, і па-другое — у паляўнічым магазіне пачулі размову спрактыкаваных паляўнічых, што на Палессі ёсць добрыя бакасавыя і цецеруковыя месцы. Ну, а зайцы — яны ўсюды трапляюцца. Яшчэ ў суботу, прыляцеўшы на самалёце ў Пінск, мы адразу на спадарожнай машыне падаліся ў глыбіню Палесся. Заначавалі ў вёсцы Забалоцце. Хлебасольная гаспадыня частавала нас сопкай бульбай з кіслымі агуркамі, сырадоем, а мы яе малых дзяцей — пячэннем і цукеркамі. Меншы, гадоў трох, хлопчык, з чорнымі быстрымі вочкамі, усё падбіраўся да нашых стрэльбаў: падкрадзецца і гладзіць чахлы, але большыя хлапчукі неўзаметку давалі яму штурхеля і адганялі.

Усталі мы рана, выпілі малака і пайшлі. Першае, што за вёскай кінулася нам у вочы, хоць год быў сухі,— шмат усюды вады і нейкая яна ржавая. Мы прайшлі вялікае топкае балота, травяныя тарфянікі, усыпаныя купінамі, зарослыя асакой і пушыцай. Яшчэ здалёку мы ўбачылі пазалочаны лес, а каля яго стагі парыжэлага сена і сінюю стужку пакручастай, з нізкімі берагамі, рачулкі. Мы спадзяваліся на ўдачу: увечары гаспадар расказваў нам, што тут можна спаткаць мноства дзічыны. А ў апошнія гады нават янота проста ўбачыць, хоць яго і забаронена страляць. Прызнацца па праўдзе, у нас дух займала пры думцы аб блізкасці паляўнічага шчасця. Але прайшлі балота — і

хоць бы ўгледзелі якую-небудзь птушку. Нарэшце ўвайшлі ў лес; пад нагамі зашапацела пажухлае лісце. Глухамань была такая, што нам здавалася — тут і мядзведзя можна напаткаць. На ўсякі выпадак мы падрыхтавалі патроны, набітыя кулямі. Шумеў лес, спяваючы сваю бясконцую песню. Пахла вільгаццю, перапрэлым лісцем. Чым далей мы ішлі па ўскраі лесу, тым больш змяняўся малюнак; чаргаваліся пясчаныя прасторы, астравы, берагавыя валы дзюнаў, віднеліся балоты. Пасля мы павярнулі ў глыбіню сасновага бору і апынуліся ў мохавых балотах, якія плямамі сустракаліся на пясках. Доўга мы хадзілі па градзе; тут раслі шыракалістыя пароды дуба і граба, ліпы і клёна, вяза і ясеня. Асабліва ўражанне рабілі магутныя векавыя дубы; любуючыся прыгажунамі, мы забывалі, што прыйшлі на паляванне. І шум пушчы тут быў нейкі паважны і велічны. Потым мы наткнуліся на магілу-курган і на камені-помніку прачыталі: «Тут пахаваны Лявон Жалейка. Ад сялян вёскі Карэлічы».

Стаміўшыся, мы накіраваліся на ўскрай лесу, каб трохі перакусіць. Нам стала холадна, трэба было раскладаць касцёр, каб крыху пагрэцца, дый каля агню неяк весялей чалавеку. Ламачча ўсялякага тут хапала, хоць гаць гаці. Мы распалілі вялізны касцёр і збіраліся падмацавацца. Раптам даляцела яхканне ганчака, потым грымнуў стрэл — недалёка хадзіў паляўнічы. Нас зацікавіла, якое ж яго паляўнічае шчасце. Чакаць доўга не давялося, да нас падышоў вясковы чалавек з бярданкай, у куртцы з армейскага шынельнага сукна, у старой вайсковай з малінавым аколышам шапцы з патрэсканым брылём, у крамных чорных майтках і ботах з кірзавымі халявамі. Рабаціністы, з вогненна-рыжага колеру калючкамі на ўпалых шчоках і на барадзе з ямкай, твар вясковага паляўнічага свяціўся радасцю, маленькія быстрыя вочкі смяяліся. Дык як было яму не радавацца: ён увесь быў увешаны дзічынаю, а зайца, якога толькі што забіў, трымаў у руках.

— Дзень добры! — ветліва прывітаўся ён, кладучы шэрага. Паляўнічы разрадзіў і павесіў на сук елкі бярданку руляю ўніз.— Можна каля вас прыпыніцца?

— Калі ласка,— адказаўшы на прывітанне, наперабой запрашалі мы, з зайздрасцю паглядаючы на дзічыну.— Просім! Давайце перакусім разам!

Мы сталі раскладаць закуску, дасталі каньяк, дарожныя чаркі. У гэты час над намі закружыў груган. Мы схапілі стрэльбы. Бах-бах! Але з стругана і перца не ўпала.

— А каб яго качкі, апошні набой на гэта паскудства прыходзіцца псаваць,— вясковы паляўнічы хутка зарадзіў бярданку, злажыўся і стрэліў. Груган сутаргава ўзмахнуў крыллямі і каменем паляцеў на зямлю.— Рыжок, прынясі! — скамандаваў ганчаку паляўнічы.

Рыжы сабака з светлымі грудзямі і белымі пярэднімі лапамі імкліва кінуўся ў гушчар. Неўзабаве ён заскавытаў. Мы хацелі бегчы на дапамогу; відаць, груган яшчэ быў жывы і не даваўся сабаку.

— Нічога, рыжы яго аходае,— запэўніў вясковы паляўнічы.

І сапраўды, хутка Рыжок прыцягнуў птушку. Пер'е на крыллях драпежніка аж сінела. Я ўзяў стругана за адно крыло і падняў на ўзровень грудзей — перабітае другое крыло даставала зямлі. Мы пагадзіліся, што з яго будзе добрае чучала.

Мой сябра хацеў зарадзіць стрэльбу.

— Не варта трымаць стрэльбу зараджанай,— параіў вясковы паляўнічы.

— А засцерагальнік для чаго?! — запярэчыў мой сябра.

— Стрэльбы, каб на іх качкі, адзін раз у год самі страляюць,— не згадзіўся вясковы паляўнічы.— Неяк раз я быў на паляванні з адным настаўнікам, дык ён ледзь не забіў майго друга,— вясковы паляўнічы паказаў на ганчака.— Ну што ж, Рыжок, падсілкуемся! — Паляўнічы, перш чым самому паесці, стаў карміць сабаку.— Ты сёння добра папрацаваў.

Мы запрасілі вясковага паляўнічага выпіць з намі па чарцы, ён ахвотна згадзіўся, але ад шпротаў і чорнай ікры з рускай булкай адмовіўся, а закусваў салам, прыпраўленым часнаком і рознымі іншымі прысмакамі («сала шмат трывалей!»), з пахучым чорным хлебам, спечаным на аеры. Ён прапанаваў і нам паспытаць сала вясковай засолкі. Для прыліку мы ўзялі па скрылёку ружаватага сала, але яно было такое смачнае, што мы адклалі ўбок усю нашу закуску.

Падсілкаваўшыся, мы разгаварыліся. Наш новы

знаёмы — Рыгор Рэкуць, былы партызанскі снайпер, а цяпер брыгадзір калгаса «Палессе». Ці то ад кастра, ці ад чаркі вясковы паляўнічы расчырванеўся, ад яго дыхала здароўем. Размова ў нас зайшла пра палешукоў, і мы, гарадскія, сцвярджалі, што вельмі ж ужо яны нейкія нясмелыя і ціхія людзі.

— Нясмелыя — гэта як сказаць, а ціхія — да пары,— рашуча запярэчыў Рэкуць.— Для прыкладу ўзяць хоць бы нябожчыка Лявона Жалейку; які гэта быў чалавек, ого!

— А хто такі Жалейка? — не вытрымаў я.

— Хто такі Жалейка? — перапытаў Рэкуць, збіраючыся з думкамі.— Паляшук,— з гордасцю вымавіў ён.— Амаль усё жыццё Лявон Жалейка батрачыў у тутэйшага пана Жылінскага і толькі тады зажыў па-чалавечы, калі браты з усходу падалі нам руку дапамогі. Дарваўшыся да зямлі, ён працаваў як вол, каб дзяцей вывесці ў людзі. Залаты быў чалавек, з характарам, уга!

— Чаму ён у лесе пахаваны? — спытаўся мой сябра.

— Не забягайце наперад, усё раскажу.— Рэкуць падумаў і працягваў: — Пасля вызвалення ад панскай нявол Жалейка атрымаў зямлю, пабудаваўся і жыў у вёсцы Карэлічы. Росту ён быў — мне рукой не дастаць, крыху сутулы, белавусы, з зыркімі блакітнымі вачыма, доўгімі ў мазалях рукамі. Хадзіў Жалейка ўлетку босы, у белых зрэбных портках і даўгой кужэльнай кашулі, падпяразаны вузенькім паяском, а ўзімку абуваў лапці і апранаў кажух увесь у латках. Першыя свае юхтовыя боты, пашытыя перад вайною, ён так і не данасіў. Жонка ў яго была маленькая, худзенькая, з прыгаршчы кабеціна. У іх было чатырнаццацера дзяцей, праўда, выжылі з іх толькі шасцёра, чатыры хлопцы і дзве дзяўчыны, астатнія памерлі.— Рэкуць глянуў на нас.— Ці мо вы стаміліся?

— Што вы гаворыце! — усклікнулі мы.— Цікава паслухаць.

— Да самай вайны з фашыстамі Жалейка вёў аднаасобную гаспадарку, ніяк не мог нацешыцца з зямлі, пра якую з маленства марыў. У нядзелю, бывала, выйдзе на палетак, возьме ў жменю кавалак глебы, расцісне на далоні і рассее.

Вайна была вялікім горам для людзей. У Карэлічах няма такой хаты, каб каго не пакалечылі або не забілі фашысты. Вядома, вёска на скрыжаванні дарог. Пайшлі і Жалейкавы чатыры сыны ў армію. Дочкі да гэтага часу павыходзілі замуж. Старыя засталіся адны. Калі наша армія адступала, Жалейчыха горка плакала, дзялілася з салдатамі апошнім кавалкам хлеба. Але неўзабаве іх меншы сын, Андрэй, пакруціўшыся недзе, вярнуўся дадому. Хлопец быў такой прыгажосці, што дзяўчаты [illegible] яго вачэй не зводзілі. Ды толькі не доўга ён аціраўся дома, а падаўся на «сабачы хлеб», у «бобікі» (паліцаі) і нечым так выслужыўся, што хутка стаў начальнікам.

Гэта старых надламала. Бацька сланяўся, як цень, але яшчэ трымаўся, маці ж, пасля таго як пабыла ў Андрэя і на каленях прасіла яго кінуць сабачую службу і не ганьбіць увесь іх род, а сын не паслухаў яе,— зусім здалася. Яна не паказвалася ў вёсцы, дні і ночы плакала, аслепла ад слёз, адраклася ад сына і праклінала яго. Нарэшце звар'яцела і неўзабаве памерла. Яе праводзілі ў апошні шлях толькі Жалейка і сусед, стары дзядок. Яны, абодва згорбленыя, ішлі за труною.

Дрэнныя чуткі хадзілі пра Андрэя, шмат людзей ён са свету звёў. Гаварылі, што начальнік паліцыі здзекаваўся з дзяўчат, жанчын і нават дзяцей, якія траплялі ў яго рукі. Потым і старога часта можна было ўбачыць заплаканым. Яму крыўдна было, што ён дажывае свой век сярод людзей, якія пры спатканні пранізваюць яго гнеўнымі вачыма, поўнымі нянавісці. «За што такая кара? — размаўляў уголас Жалейка.— Ды што, у сям'і не без вырадка». І сапраўды, тры сыны яго былі ў арміі, дочкі з мужамі і дзецьмі ў партызанах. Ён і сам не супраць быў пайсці ў партызаншчыну, як ён казаў, але ці ж прымуць? Хто яму паверыць, што ён прыйшоў з чыстым сумленнем? Змыць гэтую пляму можна толькі сваёй крывёю.

У канцы сорак другога года гітлераўцы кінулі на партызан вялікія сілы з артылерыяй і самалётамі. Цэлымі вёскамі ўцякалі ў лес сяляне пад ахову партызан. Аднаго дня ўранні падняліся і Карэлічы, толькі Жалейку і яго суседу, старому дзядку, не было чаго траціць, яны засталіся на месцы. «А чаго Жалейку

непакоіцца? — гаварылі аднавяскоўцы.— Яго не крануць фашысты, іх правая рука — яго сын-галаварэз». Яшчэ шмат чаго абразлівага даходзіла да вушэй старога, і сэрца яго аблівалася крывёю.

А пад вечар у апусцелыя Карэлічы з'явіўся атрад паліцыі на чале з Андрэем Жалейкам — прыйшоў у разведку. Андрэй зайшоў да бацькі. Перад старым Жалейкам стаяў у фашысцкай форме, з жалезным крыжам на грудзях, узброены з ног да галавы, малады прыгажун Андрэй. Сын падаў бацьку руку; сэрца не камень — стары працягнуў сваю. «А дзе ж маці?» — спытаў Андрэй. «Памерла,— цяжка вымавіў бацька.— З-за цябе памерла, ты ёй укараціў век». — «Глупства! — холадна сказаў Андрэй.— Прыйшла пара паміраць, дык і памерла». Стары Жалейка, сцяўшы зубы, змаўчаў. Доўга яны тады гаварылі, Андрэй усё дапытваўся ў бацькі пра партызан, але стары ні слова яму не сказаў, хоць і ведаў, дзе яны. Потым бацька расказаў сыну, з якой нянавісцю ставяцца да яго людзі. «Хто-о?» — запытаў Андрэй. Бацька назваў некалькі прозвішчаў, сын іх запісаў. «А навошта ты ўсё гэта бярэш на заметку?» — спытаўся бацька. «Патрапяць яны да мяне, я з іх жывых жылы выцягну»,— адказаў сын. Бацька пашкадаваў, што сказаў пра гэта сыну, але ўсё ж падышоў да яго, па-мужчынску абняў і вымавіў: «Яшчэ не зусім позна, Андрэй, вазьміся за розум, на небяспечны шлях ты стаў. Маці з-за цябе страціла розум. Яна не магла чуць, што ты да людзей ставішся, як і нашы ворагі, не па-чалавечы; у цябе, як і ў іх, нічога няма святога. Ты страціў аблічча чалавека». Але сын спадылба так кальнуў бацьку вачыма, што стары ўздрыгануўся і змоўк. У гэты час на ўскраі вёскі завязалася перастрэлка. Партызаны пацяснілі паліцаяў, і тыя, адстрэльваючыся, уцякалі. Андрэй спалатнеў: «Дзе б схавацца?» — «Хіба ў гумне,— адказаў бацька, услых разважаючы: — А куды я дзенуся ад людскіх вачэй? Нікуды ад ганьбы не ўцячэш. Як змыць пляму?» — «У цябе, бацька, ёсць чым бараніцца?» — не слухаючы старога, спытаў Андрэй. «У сваёй хаце і нож зброя,— спыніў Жалейка погляд на нажы, які быў убіты ў сцяну каля граткі.— У гэтым мой ратунак». Стары ўзяў нож і засунуў за пазуху. Страляніна набліжалася. «Хавай, бацька, мяне хутчэй, іначай і табе дабра

не будзе». — «Схаваю!» — мнагазначна вымавіў стары. Андрэй выскачыў з хаты і, прыгінаючыся, пабег у гумно, бацька ледзь паспяваў за ім. «А ён не толькі здраднік, але і баязлівец»,— падумаў бацька. У гумне Лявон Жалейка сказаў: «Лажыся, сынку, цябе тут ніхто ніколі не знойдзе». Толькі Андрэй сабраўся класціся, як бацька ўсадзіў нож у грудзі сыну. «Што ты, тата, зрабіў?» — прастагнаў Андрэй. «Я, сынок, выканаў прысуд маці, яна цябе пракляла і хацела бачыць толькі ў труне». Прыкрыўшы труп, Лявон Жалейка выйшаў на прыгуменне. Сыпаў снег, завываў і скуголіў вецер, ірвучы саламяныя стрэхі. Кругом стралялі, свісталі кулі, але Лявон Жалейка не звяртаў на гэта ніякай увагі. Ён зайшоў да суседа, старога дзядка, пра ўсё яму расказаў. «Правільна ты зрабіў, Лявоне, людзі цябе за гэта не асудзяць». У часе перастрэлкі было падпалена некалькі хат, загарэлася і гумно Лявона Жалейкі, але тушыць пажару не было каму. Партызаны і паліцаі пастралялі і разышліся. Усю ноч Лявон Жалейка правёў каля палаючага гумна, у якім згарэў і труп яго сына.

І без таго пасівелы, Лявон Жалейка за тую ноч стаў белы, як голуб. Ён быў нібы ў нейкім забыцці, да ўсяго абыякавы, гатовы і сабе ўсадзіць нож у сэрца. У такім стане яго і засталі раніцаю гітлераўцы.

— Што тут было? — праз перакладчыка спытаўся фашысцкі афіцэр.

— Учора ўвечары крыху пацапаліся партызаны з паліцаямі,— паведаміў Лявон Жалейка.— Вось у гэтым гумне згарэў начальнік паліцыі, мой сын Андрэй.

— Андрэй Жалейка — твой сын? — перапытаў афіцэр.

— Так,— адказаў стары.

— Тады ты правядзеш нас праз Жабіны балоты на Жылінскага граду,— прапанаваў афіцэр.

— Добра,— адказаў Жалейка.

— Пайшлі! — загадаў афіцэр.

— Я толькі пераадзенуся,— паволі ўстаў Жалейка.

Стары зайшоў у хату, дастаў чыстую бялізну, крамныя порткі, яшчэ перад вайною купленыя, але ні разу не адзяваныя, юхтовыя боты, новы кажух, не спяшаючыся адзяваўся, пазіраючы на сцены новай хаты, нібы назаўсёды развітваючыся з ёю. А калі афіцэр адвярнуўся, стары неўзаметку сунуў пад кажух нож.

Потым Жалейка ўстаў, перахрысціўся перад абразамі і сказаў:

— Можам ісці.

— Партызаны на Жылінскагаградзе зімуюць? — павярнуўшыся да Жалейкі, спытаў афіцэр.

— Не ведаю,— адказаў Жалейка.— Партызаны, што птушкі, сёння тут, а заўтра там.— Стары падумаў.— А толькі, пан афіцэр, павінен вас папярэдзіць, што праз Жабіны балоты нават зімою нялёгка прайсці. Глядзіце, каб у дарозе не дакаралі, цяжкі будзе шлях.

— Вядзі! — сказаў афіцэр; гэта быў загад.

Адчуваючы нядобрае, да Жалейкі зайшоў сусед, стары дзядок. На двары яны спаткаліся. Дзед нічога не гаварыў, а толькі сурова глянуў на Жалейку, нібы пытаючыся, куды ён ідзе.

— Як вы мяркуеце, дзед, кудою лепей прайсці па Жабіных балотах на Жылінскага граду, мусіць, цераз Броды? — голасна спытаўся Жалейка, бо сусед недачуваў.

— Угу,— паспакайнеў той, у думках благаслаўляючы Жалейку.— Другой дарогі няма для гэ...— ён на паўслове абарваў гаворку.

...Лявон Жалейка на чале фашысцкага атрада цяжка крочыў па Жабіных балотах, месцамі правальваючыся па калені. За ім мясілі гразь гітлераўцы. Дзьмуў сіберны вецер, мяло, за некалькі крокаў перад сабою нічога не было відаць. Праз некаторы час трохі сцішылася. Ужо некалькі гадзін Лявон Жалейка хадзіў па кругу сярод непраходных балот. Вясковыя дазорцы заўважылі варожы атрад, пазналі правадніка і, здагадаўшыся, у чым справа, паслалі сваіх сувязных, каб сказаць партызанам. Нарэшце Лявон Жалейка завёў фашыстаў у такую дрыгву, што ніякага выйсця адтуль не было: з трох бакоў «зыбуны» — вада ніколі не замярзала, а дарогу назад павінны адрэзаць партызаны.

Лявон Жалейка спыніўся, выцер шапкаю пот на лбе, расшпіліў кажух і, цяжка ўздыхнуўшы, прамовіў:

— Ну вось, шлях мой скончаны... Дзеці, я дзеля вас гэта зрабіў!.. Спадзяюся, што род мой паляшуцкі не ўспамяне Лявона Жалейку благім словам...— Стары выхапіў з-за пазухі нож.— А вам, пачвары, тут будуць канцы...

І, не чакаючы расправы, Лявон Жалейка сам уса-

дзіў сабе нож у сэрца. Гітлераўскі афіцэр, спахапіўшыся, што трапіў у пастку, са злосці разрадзіў у старога пісталет. У стане ворагаў паднялася паніка. Падаспелі партызаны, завязаўся бой. Хто з фашыстаў быў забіты, хто захлынуўся ў балотах, а каго ўзялі ў палон.

Толькі на другі дзень мы адшукалі скрамсанае цела Лявона Жалейкі і пахавалі на Жылінскага, цяпер Жалейкавай, градзе, з партызанскімі ўшанаваннямі. А калі скончылася вайна, сяляне вёскі Карэлічы насыпалі там курган і паставілі помнік.

Рыгор Рэкуць цяжка ўздыхнуў.

— Гэта ўсё, што я меўся расказаць. Вось якія бываюць палешукі.

— І сапраўды,— усхапіўся з месца мой сябра.— Прайсці праз вякі і не схіліцца перад чужынцамі, перадолець нястачу і здзекі, каўтун, захаваць свае песні,— а песня — душа народа,— маглі толькі смелыя і моцныя людзі...— Ён звярнуўся да мяне: — Цікава, гатовае апавяданне...

— Ага, каб хто запісаў,— згадзіўся Рэкуць.

— Калі дазволіце, то я паспрабую,— сказаў я.

Ужо было позна, мы збіраліся ў дарогу. Нам трэба было зрабіць вялікі круг, каб выйсці на шашу. Рэкуць паглядзеў на нашы парожнія паляўнічыя сумкі і прапанаваў нам па зайцу.

— А колькі будзе каштаваць? — спытаўся мой сябра.

— Паверце мне, я ніколі дзічыны не прадаваў,— адмовіўся Рэкуць.— Гэта вам мой падарунак.

— Мы прымаем ад вас зайцоў толькі пры ўмове, што вы возьмеце наш падарунак з горада — порах і шрот,— сказаў я.

— Вельмі буду рады,— задаволена ўсміхнуўся Рэкуць.— А то ў нас цяжкавата ўсё гэта даставаць.

Мы з удзячнасцю ўзялі зайцаў, каб дома з нас не смяяліся. Рыгор Рэкуць напрасткі правёў нас цераз балоты на шашу. Мы запісалі яго адрас і, развітаўшыся, пайшлі ў кірунку Пінска, спадзеючыся сесці на спадарожную машыну.

*1955*

# ЛЕТНЯЮ НОЧЧУ

Нас было траіх. Едучы на рыбалку, мы ўмовіліся, што кожны з нас увечары што-небудзь раскажа аб сабе. Але спаткаўшыся з сапраўдным рыбаком, нам захацелася паслухаць яго. Заначавалі мы на грудку, недалёка ад старога дуба, які дажываў свой век. Гарэў касцёр, доўгія языкі агню ласкава абхоплівалі падвешанае пачарнелае вядро, у якім варылася юшка. Пахла прыправамі. Калі полымя разразала цемру ночы, тады можна было добра разгледзець нашага новага знаёмага — Юльяна Высеўку, старога нарачанскага рыбака. Ён прыйшоў праверыць падвалокі, якія прасушваліся на беразе, і, заглядзеўшыся на лоўлю спінінгам, не заўважыў, як стала цямнець. Вяртацца ў вёску было далекавата, і стары астаўся каля кастра. Над возерам паднімаўся туман. Я зашпіліў каўнер фізкультурнага гарнітура, а Высеўка, мажны і моцны, ляжаў, абапёршыся на локаць, у расшпіленай белай вышытай кашулі, падпяразаны саматканым поясам з кутасамі, нібы сумысля падстаўляючы свае валасатыя грудзі лёгкаму ветру. Загарэлы, як бронза, твар старога каля вачэй і на лбе ўкрыты глыбокімі маршчынамі. Барада рыбака нібы абрасла мохам, тырчалі каштанавага колеру з сівізною калючкі. Ён курыў мультансамасад, выпускаючы з люлькі клубы пахучага дыму. Час ад часу стары чмыхаў дуляю-носам, тады натапырваліся парыжэлыя вусы. Спакойныя задумлівыя вочы пад калматымі брывамі гаварылі аб светлым розуме і вялікім сэрцы гэтага чалавека.

З возера часам наскокваў парывісты вецер. Тады гаманілі выносістыя сосны, змешваючы шум векавога бору з дзіўнай мелодыяй пляскання набягаючых на пясчаны бераг хваляў.

— Дык ты прыехаў паглядзець Нарач? — звяртаючыся да мяне, спытаўся Высеўка.— Кажаш, цікавіць характар тутэйшага чалавека, якога нядаўна быдлам звалі? Што ж, ягамосцю, пахвальна! — Ён падняўся, выбіў попел з люлькі.

Высеўка падрабязна расказваў нам пра возера Нарач, якое ляжыць у маляўнічай катлавіне. На паўночным беразе яго ўзвышаюцца высокія ўзгоркі, а на поў-

дні, уздоўж пясчаных берагоў, стаяць сасновыя бары. На ўсходзе да возера падступаюць балоты, сярод якіх прабівае сабе шлях да мора глыбокая рака Нарачанка — сток возера ў Вілію і далей у Нёман.

— У пахмурнае надвор'е, ягамосці, супрацьлеглага берага амаль не відаць, і возера тады нагадвае марскую затоку,— апавядаў рыбак.— У паўночна-ўсходняй частцы возера, недалёка ад берагоў, ёсць востраў плошчай каля шасці гектараў. Старыя людзі казалі, што нібы некалі ён злучаўся з берагам каменным валам.

Рыбак як быццам па карце чытаў, гаворачы пра падводныя пясчаныя грады і ўзгоркі. Побач з гэтымі падводнымі выступамі глыбіня апускаецца часта да шаснаццаці-семнаццаці метраў. Гэтыя выступы ўяўляюць сабою падводныя дзюны. Яны пераходзяць у часе вялікіх навальніц з месца на месца. Самай каштоўнай рыбай з'яўляецца рачны вугор, але ў апошні час ён рэдка сустракаецца. Колер вугра зверху — сінявата-чорны або цёмна-сіні, знізу — значна святлейшы, звычайна жаўтавата-белы або блакітна-белы. Вугор крыху нагадвае гадзюку, а таму некаторы час яго не лічылі рыбай і не ўжывалі ў страву. Рачныя вугры большую частку жыцця праводзяць у прэсных вадаёмах і толькі для нерасту ідуць аж недзе ў акіян, пасля гэтага яны гінуць. Стары, калі быў хлапчуком, на свае вочы бачыў, як перабіраўся з рэчкі ў рэчку па роснай траве вугор, ды так хутка, што ён не мог з ім сысціся.

— Рачны вугор — вельмі смачная рыба, асабліва вэнджаная, дый марынаваная нішто,— адным словам, ягамосці, лепшую закусь цяжка знайсці,— ухмыльнуўся Высеўка.— Ага! — схамянуўся ён і паглядзеў на мяне.— Цябе, напэўна, больш за ўсё цікавяць людзі. Зразумела! Што ж, ягамосці, яны бываюць розныя. Узяць, напрыклад, Струка, з нашай вёскі чалавека. У бацькі было тры сыны, два працавікі, а трэці падрадчык. Хлопец у шаснаццатым годзе вярнуўся з вайны пакалечаным (прастрэлена плячо) і ў нашых вачах быў героем. Толькі пасля высветлілася, што ніякі ён не герой: яго куля дагнала, калі ён кінуў сяброў у бядзе, а сам з пазіцыі драпаў. Але я забягаю наперад. Хлопец раней быў хоць да раны прыкладзі, а потым, калі пацёрся каля гандляроў, падпанкаў і паноў — ён

рыбу ў горад дастаўляў,— дык стаў немажлівым чалавекам. Падрадчык быў высокім і стройным, з прыгожым бялявым тварам, блакітнымі вачыма і русымі кучарамі. Ён не піў, не курыў, адно толькі дзяўчат мяняў, як некалі пані Тышкевічыха пальчаткі. На рыбе падрадчык нажыўся, купіў фальварак, а потым у родных братоў трацяк зямлі за даўгі заграбастаў. Прозвішча яго было, як я ўжо казаў, Струк, а толькі пасля ён стаў Струкоўскі, прыняў каталіцкую веру, выракся братоў, іх мовы і звычаяў. Браты вымушаны былі пакінуць хату і ісці з торбамі па свеце, пакуль не наняліся парабкамі. Я гэта дзеля таго расказаў, ягамосці, што не ўсе тутэйшыя людзі аднолькавыя, як некаторыя пра гэта гавораць. Але асноўная частка нашых людзей — сумленныя, працавітыя, здольныя, іх не сагнула і не зламала ні нястача, ні здзекі, ні прыгнёт «сваіх» і розных іншых паноў.— Высеўка задумаўся.— А былі ў мінулым у нас людзі, пра якіх і цяпер ходзяць легенды, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Хочаце, раскажу я вам пра аднаго такога чалавека? Будзеце слухаць?

— З прыемнасцю,— папрасілі мы.— Вельмі цікава пачуць пра мінулае.

— Жыў на свеце Дабрэня, вясковы каваль, Янка Дабрэня,— апавядаў Высеўка.— Сілу хлопец меў такую, што лёгка падкову разгінаў. А што да розуму, дык любога найадукаванейшага пана ў спрэчцы зрэжа, хоць бы той смаліў самымі замыславатымі заморскімі словамі. Далёка ішла слава пра Дабрэню, чалавека з чуллівай душою і вялікім сэрцам. Ён не толькі добрым кавалём быў, але і палацы будаваў (ва ўсёй ваколіцы не было лепшага муляра), вырабляў скрыпкі і цудоўна сам іграў. Без яго не абыходзілася ні адно вяселле, ні радзіны, ні ігрышча — усюды ён быў жаданым чалавекам. Дзе толькі павернецца Дабрэня, там знікае сум і чуцен смех. Росту хлопец быў невялікага, каржакаваты, моцна складзены, хадзіў уразвалку. Адным толькі ў маленстве Дабрэня быў пакрыўджаны — воспа пабіла ўвесь яго твар, і калі б не глыбока пасаджаныя, праніклівыя блакітныя вочы, капа русых валасоў на галаве, пышныя, пшанічнага колеру вусы — на хлопца ніколі б не звярнула ўвагі ні адна дзяўчына. Характарам хлопец быў мяккі, заўсёды па-

мяркоўны, дзіцяці дарогу саступіць, на кураня рукі не падніме.

У той жа самай вёсцы, у канцавой хаце, круглай сіратцінай расла дзяўчына, Кацярына Басістая (голас, праўда, не адпавядаў прозвішчу, ён званочкам звінеў), такой прыгажосці, што цяжка другую такую знайсці: стройная, як таполя, шчокі — як ружы, вусны — як вішні спелыя, вочы — як васількі. А валасы мела льнянога колеру і косы таўшчэзныя і доўгія, да пят. Бацьку дзяўчыны ў часе палявання пан нібы незнарок забіў, а маці, маладую жанчыну, калі яна, на полі жыта жнучы, нарадзіла дачку, ён загадаў узяць да сябе за «мамку», паніча грудзьмі карміць. Жанчына адмовілася выканаць волю пана. («Нічога не здарыцца з вашай пані, калі пакорміць сваё дзіця, мне ж трэба сваю сіраціну даглядзець!»). Тады раз'юшаны пан крыкнуў слугам: «Забраць на псярню, будзе «мамкай» шчанятам!» І забралі. Занудзілася кабеціна ў панскай няволі па дачцэ (яе цётка даглядала), занядужала, захварэла на сухоты, пахадзіла па свеце некалькі год і здалася. Усёй вёскай хавалі гаротніцу.

Каця, як падрасла, перайшла ў сваю хату. Ніхто, бывала, танчэй за яе не спрадзе кужалю, і ні ў кога не будзе так выбелена палатно. А калі абрус вытча, дык вачэй нельга адарваць. Паясы ж дзяўчына выраблялa — не налюбуешся. А як у полі заспявае, дык людзі ў дарозе спыняюцца, каб паслухаць.

Надышла пара, і Каця пакахала Дабрэню, а ён яе. Моцна яны любіліся. Хлопец з дзяўчынаю ўжо заручыны згулялі і збіраліся вяселле ладзіць. Пайшла гэта чутка па вёсках і дакацілася да паніча, Вінцука Тышкевіча, таго самага, якога маці дзяўчыны не пажадала карміць сваімі грудзьмі. К гэтаму часу стары пан Тышкевіч памёр, яго маладая жонка, яшчэ пры жыцці мужа, збегла з нейкім гусарскім афіцэрам, адны казалі — за мяжу, а другія — нібы ў Пецярбург. Вінцук ужо сам быў з вусамі і кіраваў маёнткам, праз аканомаў, зразумела. Жыў ён на Нарачанскім востраве, далей ад людскіх вачэй. Там удзень і ўначы балявалі паны, рыбакі не паспявалі дастаўляць вугроў — ласунак яснавяльможнага панства.

Ужо маладыя прыехалі са шлюбу, пабылі за сталом, сват на каравай сабраў, як грымнулі музыкі і ўсе

пайшлі ў скокі. Танцавалі «Лявоніху». І вось, у разгар вяселля, чорнай хмарай нахлынулі гайдукі, схапілі маладую, увапхнулі ў карэту і памчалі ў палац панічу на пацеху.

Дабрэня доўга біўся з гайдукамі — людзі дзівіліся, што з ім стала, адкуль бралася сіла і спрыт,— двaіх панскіх служак адлівалі вадою, а пасля падсаджвалі на коней. Але і жаніху ўсыпалі бізуноў за «непаслушэнства»: ад кашулі асталіся толькі шматкі, усё цела было ў крывавых пісягах. Калі панскія слугі скончылі «экзекуцыю» і, пасеўшы на коней, кінуліся даганяць карэту, Дабрэня ўскочыў на ногі і, як аглушаны, страсянуў галавою. Потым азірнуўся навокал дзікімі вачыма, скрыгануў зубамі і маланкаю ўляцеў у хату. Там ён схапіў вялізны нож сваёй уласнай работы, усунуў яго ў халяву і напраскі кінуўся бегчы ў панскі палац.

Заліты потам і крывёю, Дабрэня дабег да возера, але на каменным валу стаяла панская варта — яна нікога не прапускала ў палац. Дабрэня ў момант вока зняў заставу: ён хапаў вартавых, як снапы, і кідаў у возера. Цяжэй прыйшлося яму пры ўваходзе на востраў, бо там вартавых было больш.

Дабрэня спачатку адбіваўся нажом, а пасля, выбіўшы ў аднаго з вартавых шаблю, пачаў ёю церабіць сабе дарогу. Ашалелыя ад страху перад яго адвагаю, панскія слугі пачалі ўцякаць.

А ў палацы ў гэты час рашаўся лёс Каці. Паніч думаў, што сялянская дзяўчына не пасмее пярэчыць яго жаданню, але сустрэў рашучы адпор. Каця з адчаем змагалася за свой дзявочы гонар. Шлюбная сукенка і вэлюм, парваныя, валяліся на падлозе. А калі раззлаваны паніч убачыў, што здабыча не даецца яму ў рукі, ён схапіў дзяўчыну за горла і хацеў паваліць на падлогу. Аднак Каця, намогшыся з апошніх сіл, вырвалася, сарвала са сцяны востры кінжал і ўсадзіла сабе ў грудзі.

Дабрэня ўбег у панскі палац у той момант, калі ў дзяўчыны асталіся лічаныя хвіліны да смерці. Яна толькі паспела сказаць: «Мілы Янучок! Не судзіў нам лёс разам пажыць. Я цябе моцна кахала. І каб...» Гэта былі яе апошнія словы. На вачах у маладога яго нарачоная адышла ў нябыт. Паніч аслупянеў ад неча-

канасці — дзяўчына пранізала сябе кінжалам, але не аддалася яму, і вось, як прывід помсты, перад ім вырас гэты прысадзісты хлоп з акрываўленай шабляй. Літасці ад яго не будзе... Бледны ад страху, паніч выхапіў са стала пісталет і стрэліў у хлопца, але куля толькі кранула плячо. Дабрэня з ярасцю кінуўся на Вінцука і адным ударам распаласаваў яго.

Позняй ноччу вяртаўся Дабрэня з целам Каці на руках дадому — вартавыя потым расказвалі, што на свае вочы гэта бачылі,— але не давялося яму дайсці. На Нарачы ўзнялася нечуванай сілы бура, магутныя хвалі ўшчэнт разбілі каменны вал. Колькі потым ні шукалі Кацю і Дабрэню, нідзе не маглі знайсці. Адны казалі, што абое загінулі, а другія — нібы Дабрэня тайна пахаваў Кацю — ён гэта зрабіў для таго, каб не наклікаць на людзей бяды,— а сам падаўся ў паўстанцы. Так гэта ці не так, ніхто дакладна не ведае, але неўзабаве палац на востраве быў спалены. І яшчэ гарэлі шмат якія маёнткі. Мне пра гэта расказаў мой дзед, а ён у маленстве чуў на начлезе. Пазней расказвалі гэта самае рыбакі. Ва ўсякім разе, нешта падобнае было. От якія ў нашым краі былі людзі, ягамосці!

— А цяпер хіба няма такіх? — спытаў мой сябра.

— Хо! Ёсць яшчэ мудрэйшыя!.. Надоечы мне ўнук чытаў пра Гастэлу, які ў часе вайны разам са сваім падбітым самалётам кінуўся на ворага... Не перавяліся ў нас смелыя і моцныя людзі...

Высеўка змоўк і, прыўстаўшы, падкінуў дроў у касцёр. Затрашчала сухое галлё, успыхнуў агонь, асвятляючы наваколле.

— Добра летняю ноччу,— мнагазначна прамовіў Высеўка,— можна памарыць, зазірнуць у заўтра, а часамі і ўспомніць мінулае...

— Ага,— згадзіўся я.

— А калі хочаце, дык аставайцеся на заўтра, заб'яце зайца, і юшкі з'ясце, і ўбачыце сапраўдных рыбакоў. Яны народ бывалы, раскажуць вам шмат цікавага аб нашых людзях. Кажаце, часу няма? Ну, што ж, як сабе хочаце!

— А можа, вы нашай юшкі пакаштуеце? — прапанавалі мы.

— Дзякую,— пазяхнуў Высеўка.— Нешта на сон хіліць...

— А калі пад чыпурышку? — спытаўся я.— Згода?

— Хо! Чую сапраўдны голас рыбака,— адклаў убок люльку стары.— Хто ж ад гэтага адмовіцца?

Мы разаслалі мой выгаралы плашч, дасталі прывезеную закуску, перакулілі па чарцы і, сёрбаючы юшку, зноў разгаварыліся. Добра адпачыць летняю ноччу каля кастра. Юльян Высеўка расказваў нам гісторыю за гісторыяй, адна за другую цікавейшыя. Пры выпадку я іх перакажу. Летняя ноч кароткая, за размовамі мы правялі час аж да ўсходу сонца. Не ўнімаліся вятры, хісталіся сосны, толькі стары дуб, калісьці кучаравы маладзец, хоць на яго галінах і парос дзікі мох, не згінаўся. Яшчэ з большай сілай пляскаліся хвалі, набягаючы на пясчаны бераг.

*1955*

## САЎКА ТРАЯН

Неяк пад восень у выхадны дзень мы ўтраіх паехалі на Нарач, каб трохі адпачыць. Прыбыўшы туды, адразу зайшлі да нашага знаёмага, які аднойчы летняй ноччу на беразе возера расказваў нам цікавыя гісторыі. Дома мы старога не засталі. У вёсцы грукаў бубен, заглушаючы цымбалы, кларнет і скрыпку. Падышлі і мы туды. Там аказаўся і наш знаёмы — Высеўка, які абрадаваўся сустрэчы. Дзяўчаты і хлопцы танцавалі «Юрачку», прыпяваючы:

Ах ты, Юрачка,
Што не жэнішся?
Прыйдзе зімушка,
Дзе ж ты дзенешся?

Нас з першага погляду ўразіў адзін дзяцюк. Ён быў на выгляд непаваротлівы, як мядзведзь, але выкідваў такія каленцы, што можна было толькі пазайдросціць.

— Што за ён? — пацікавіўся хтосьці.

— Зарачанскі хлопец, недзе пад Смаргонню ў смалярні працуе,— адказала адна дзяўчына.

— Вунь што... Мусіць, «Смаргонскую акадэмію» скончыў,— усміхнуўся стары.

Мы зацікавіліся, адкуль пайшла гэтая назва.

— Хочаце, раскажу? — прапанаваў нам Юльян Высеўка.

— Вельмі просім! — наперабой загаварылі мы.

Юльян Высеўка адышоўся ўбок, сеў на бервяно каля дома, што стаяў у рыштаваннях. Мы прымайстраваліся каля яго.

— Ужо шмат часу прайшло, можа нават сто год,— пыхкаючы люлькаю, пачаў расказ Юльян Высеўка,— як па загаду аднаго з князёў Радзівілаў недалёка ад мястэчка Смаргонь, сярод дрымучых лясоў, цесляры змайстравалі вялізную адкрытую будыніну — таптыгінскую «акадэмію». Пазней яна стала вядомай, як «Смаргонская акадэмія», у якой навучаліся мядзведзі камедыянству, каб забаўляць у каралеўскіх палацах яснавяльможнае панства.

Але больш за ўсё паны любілі паляванне на мядзведзяў. Часцей за ўсё аблавы наладжваліся ў пушчы, недалёка ад Смаргоні, куды выпускаліся прыручаныя

мядзведзі, якія не вельмі ўцякалі ад чалавека. Тады лес аж звінеў ад прызыўных гукаў ражкоў, гоману прыгонных сялян і рамеснікаў, якіх выганялі на панскае паляванне.

А пасля палявання паны звычайна шукалі дзяўчат, каб пацешыцца ў палацах пасля балявання. Дарэмна вясковыя прыгажуні на паляванне адзяваліся ў рыззё, хавалі твары, горбіліся, прыкідваючыся старымі,— цікаўныя вочы дваровай чэлядзі, войтаў і цівуноў высочвалі іх, паказвалі панам.

Яшчэ задоўга да адкрыцця «акадэміі» асеўшыя ў лесе цыганы дрэсіравалі медзведзянят, а потым прадавалі панам за дарагую цану. Радзівіл нікога з цыганоў не ўзяў у штаты «акадэміі», а прымусіў прыгоннага цесляра, бондара і цымбаліста Саўку Траяна ўзначаліць гэтую справу. Прычынай, што схіліла Радзівіла прызначыць «прэзідэнтам» Саўку, была незвычайная Саўкава сіла. Дастаткова яму было самага раз'юшанага быка ўхапіць за рогі, стукнуць кулаком па галаве, як той валіўся на зямлю. Да ўсяго гэтага дасціпнасць і штукарства Саўкі, весялосць і музычныя здольнасці гаварылі за тое, што з яго можа быць добры камедыянт. Але бадай самым важным было тое, што ў цесляра падрастала дачка, ды такая прыгажуня, што вачэй не адарваць. Трэба было бацьку быць напагатове, каб у патрэбны момант схаваць дачку.

Аднойчы ўлетку, прыехаўшы ў «акадэмію», Радзівіл падышоў да старога бурага мядзведзя, купленага ў цыганоў, і загадаў:

— А ну, Міхайла, пакажы, як п'яны мужык з кірмашу вяртаецца!

Таптыгін злосна глянуў на пана, зароў і падняўся на заднія лапы, з яўным намерам накінуцца на яго.

— Саўка, бараніl — закрычаў перапалоханы Радзівіл.

— Таптыгін! — грозна крыкнуў Саўка, але мядзведзь і вухам не павёў: ён паволі набліжаўся да пана, прыцiскаючы яго да сцяны. Тады Саўка што было сілы ўдарыў кулаком у вуха мядзведзю; той аглушаны зваліўся, пакруціў галавою і паскроб кіпцюрамі карак.

— Што за непаслушэнства? — пасмялеў пан.— Гэта бунт!

— Ніякага бунту, паночак,— з-пад рудых кусцістых брывей Саўкі смяяліся зыркія чорныя вочы.— Таптыгін любіць парадак...

— Які? — Радзівіл выцер успацелую лысіну.

— Перш чым мужыку п'янаму быць, дык трэба ж выпіць,— усміхнуўся Саўка.

Перад Радзівілам, высокім і крыху сутулым выпешчаным франтам, з маноклем, у кіцелі з бліскучымі гузікамі, у белых пальчатках, са стэкам, стаяў, шырока расставіўшы абутыя ў лапці ногі, каржакаваты Саўка, у шэрай світцы, якая, здавалася, трашчала на шырокіх плячах.

— Цікава...— вымавіў Радзівіл.

— Пакажы, Таптыгін, як мужык на кірмашы гарэлку п'е! — загадаў Саўка.

Мядзведзь паслухмяна перакуліў дзве кварты «гарэлкі» (гэта была вада, падсаладжаная мёдам), аблізнуўся і панюхаў скарынку хлеба.

— Фацэцыя! — зарагатаў Радзівіл.

— Ну, а як з кірмашу вяртаецца? — спытаўся Саўка.

Буры, хістаючыся і падаючы, прайшоўся перад панам, які аж заходзіўся ад смеху.

— А як дома жонку б'е? — ухмыльнуўся ў пракураныя вусы Саўка.

Мішка жвава ўхапіў у правую лапу папругу, левай — нібы ўзяў нябачную ахвяру за валасы, нагнуў і пачаў дубасіць.

— Ох-хо-хо! — схапіўся за жывот Радзівіл.— Малайчына Міхайла, вазьмі за гэта пернік!

Пан падкінуў ласунак угару. Мішка хацеў адбіць пернік, але прамахнуўся, злосна зароў і падняўся на заднія лапы.

— Еш, дурань, то з мёдам! — выгукнуў Радзівіл.

— Ой, што вы нарабілі,— спалохаўся Саўка.— Мядзведзь не любіць, калі яму кідаюць, як сабаку...

— А ліха ведае яго норавы! — затросся Радзівіл, адступаючы назад.

— Таптыгін, супакойся! — крыкнуў Саўка, засланяючы пана, але мядзведзь з разяўленай зяпай наступаў. Тады гаспадар ударыў звера ў другое вуха, і той скарыўся, пакруціў галавою і адышоўся ўбок.

— Што яго дрэнчыць? — дапытваўся Радзівіл.

— Ён не любіць блішчастых гузікаў,— паведаміў Саўка.

— Хо! Гэта ты яго так адукаваў...— працадзіў праз зубы Радзівіл.— А што ён яшчэ ведае?

— Многае. Вельмі здатны да навукі.

— Прыкладне?

— Можа паказаць суседняга пана, які ён ласы да дзяўчат,— сказаўшы, Саўка непрыкметна глянуў на Радзівіла.

— Хе-хе! Штукар ты, Саўка, выдумляеш на сваю галаву. Паказвай, паглядзім!

— Таптыгін! Дык як ягамосць Скірмунт хапае дзяўчат?

Мішка крутнуў галавою, спыніў погляд на цурбане, нібы гэта была дзяўчына, соладка пацягнуўся, пакачаўся па зямлі, потым, крадучыся, падпоўз, схапіў цурбан і панёс, равучы ад задавальнення.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Радзівіл і раптам пасуровеў: — Кажуць, дурны мужык, як варона. Хо-хо! З каго надумаў насміхацца? — Князь разрэзаў паветра стэкам.— Няхай будзе так. Міхайла сёння павязе мяне на санях да касцёла...

— Летам на санях? — здзівіўся Саўка.

— А што ж такое: пасыпаць дарогу соллю,— цвёрда сказаў Радзівіл.

Забегалі слугі. Ім вядома было не адно дзівацтва князя, але такога — і ў сне не снілі. Забралі ўсе запасы солі ў навакольных крамах, каб больш як на кіламетр пасыпаць дарогу. Ужо даўно стаяў мядзведзь, запрэжаны ў сані, тут жа пахаджваў Саўка. На яго панурым твары можна было прачытаць вялікую тугу і роспач. Прыгонныя сяляне пасыпалі соллю ўжо апошнія гоні, як падышоў са сваёй світай Радзівіл. Ён спадылба кальнуў вачыма Саўку і загадаў запрэгчы яго прысцяжным.

— Таптыгіну за тое кара, што не паслухаўся пана,— растлумачыў Радзівіл,— а Саўку — што навучыў яго...

Паўтараць загад не прыйшлося, увішныя служкі хутка прыпрэглі і Саўку, які ні слова не сказаў, а толькі сціснуў кулакі ў кішэнях.

Гэта было ў першы дзень лета. Як на дзіва, глядзелі людзі, калі ехаў Радзівіл у мястэчка да касцёла

і вяртаўся ў «акадэмію». Цяжка было на душы Саўкі, затуманіліся яго вочы. Быццам адчуўшы пакуты Саўкі, мядзведзь лізнуў яго руку. Саўка павесялеў:

— Нічога, Мішка, сцерпім!

— Но-о! — крыкнуў Радзівіл.— Абнюхаліся!

Каля «акадэміі» сабраўся вялізны натоўп, тут жа круціўся цыган з мядзведзіцай Машкай, якую хацеў збыць князю, а самому наняцца ў «акадэмію» на работу.

— Гаспадын князь! — звярнуўся да Радзівіла барадаты павадыр, трымаючы на ланцугу бурую калматую мядзведзіцу.— Купі Машку.

— А што яна ўмее рабіць?

— Ма-ля-да дзяў-чы-на, ма-ля-да дзяў-чы-на па ваду пай-ш-ла! — спусціўшы мядзведзіцу з ланцуга, праспяваў цыган.

Машка паднялася на заднія лапы, узяла ў павадыра палку, паклала яе на плечы, нібы каромысла, і пайшла «па ваду», аглядаючыся па баках. Праз некалькі крокаў яна апусцілася на зямлю, зрабіла пярэднімі лапамі такія рухі, нібыта набірала з рэчкі ваду ў вёдры, і потым, зноў падняўшыся на заднія лапы, пайшла да цыгана, ужо апусціўшы галаву і сутулячыся, нібы несучы на каромысле два цяжкія вядры з вадой.

— І ўсё? — спытаўся Радзівіл.

— Яна ма-ля-да, купі і вазьмі, гаспадын князь, мяне на работу, не такія фокусы ўбачыш.

— Пшоў вон!

— Гаспадын князь...— стаў на калена барадаты цыган.

Але Радзівіл не слухаў яго. Ён падышоў да Саўкі, кальнуў вачыма, поўнымі гневу, і злосна сказаў:

— Да зімы Таптыгін павінен стаць ласкавым, як цяля. Яго я выпушчу ў лес, калі з'едуцца заморскія госці на паляванне.

Так і разышліся пан з мужыком. Саўка стаў задуменным, шкада яму стала звера, які прызначаўся для пацехі панам. «Што б такое зрабіць, як навучыць, каб мядзведзь пастаяў за сябе?» — думаў Саўка. Марудна ішло навучанне. Саўка дамагаўся, каб у сценах «акадэміі» Таптыгін быў рахманым, але калі выпускаў яго ў лес, дык прымушаў асцерагацца. Да зімы такі Саў-

ка дабіўся свайго: як толькі Міхайла пераступаў парог «акадэміі», ён насцярожваўся, а калі ў лесе чуў ражок і чалавечы голас, адразу займаў абарончую пазіцыю. Калі ж мядзведзь заўважаў у каго стрэльбу, дык гатоў быў тут жа кінуцца на яе ўласніка і абяззброіць яго.

Ужо скавала зямлю, яна аж звінела. Да Радзівіла з'ехаліся госці з усяе Еўропы. Як толькі выпаў першы снег, было прызначана паляванне на мядзведзя. Паднялі на аблаву насельніцтва наваколля. Абкладчыкі даўно былі на сваіх месцах, як досвіткам у нядзелю прыехаў у вазку на чатырох гнядых, запрэжаных цугам, князь Радзівіл. Пакінуўшы ў вазку футра і стрэльбу, у лёгкай паляўнічай куртцы, падпяразаны патранташам і з кінжалам збоку, пан зайшоў у «акадэмію». Саўка з гадзіны на гадзіну чакаў Радзівіла, а ўбачыўшы яго, зняў шапку і нізка пакланіўся.

— То як, прыручыў Міхайлу? — замест прывітання спытаўся Радзівіл.

— А як жа! — адказаў Саўка.— Калі ёсць які ласунак, можаце з рук даваць.

— Таптыгін! — асцярожна звярнуўся пан.— На пернік!

Мядзведзь падышоў да князя і ўзяў з рук ласунак, з'еў і, стаўшы на заднія лапы, яшчэ прасіў.

— То і добра,— паспакайнеў Радзівіл,— выпускай яго ў лес.

— Мішка! На прагулку! — голас у Саўкі задрыжаў.

Мядзведзь ціха зароў, як быццам заплакаў, выцер лапамі вочы і паволі пайшоў з «акадэміі», нібы адчуваючы, што назаўсёды з ёю развітваецца.

— Ты пойдзеш са мною,— звяртаючыся да Саўкі, сказаў Радзівіл.— Я хачу мець у сваім кабінеце шкуру мядзведзя.

Старшы абкладчык, які на працягу некалькіх месяцаў вывучаў паводзіны мядзведзя ў лесе, адвёў князю адпаведнае месца. Тут жа быў і Саўка. Яго думкі цяпер былі заняты тым, як бы ўратаваць дачку Настасю, каб яна не стала ахвярай магната. Звычайна паны пасля палявання дзе-небудзь на ўскраі лесу паракусвалі, а падпіўшы, хапалі дзяўчат і везлі ў палацы.

Пачалася аблава. Пушча напоўнілася гукамі ражкоў, шумам, трэскам, людскім гоманам. Неўзабаве то ў адным месцы, то ў другім прагучалі стрэлы. Радзівіл захваляваўся: як бы яго не абмінула паляўнічае шчасце. У гэты час зусім блізка паказаўся мядзведзь. Закалаціліся рукі ў Радзівіла. Ён зламыўся і стрэліў, але толькі параніў звера. Таптыгін, дзіка зароўшы, кінууўся на пана.

— ўка, ратуй! — крыкнуў напалоханы Радзівіл.

— Міхайла! — гукнуў Саўка, але раз'юшаны звер ці то не пачуў, ці не захацеў яго слухаць.

Тады Саўка перагарадзіў яму дарогу. Таптыгін лапаю адштурхнуў павадыра, разадраўшы яму шчаку.

— Пся крэў! — аж зароў Радзівіл.— Заб'ю аднаго і другога!

— Гэтак? — цярпенне Саўкі лопнула ўраз.— Таптыгін, пашкадуй пана,— не загадаў, а нібы папрасіў ён мядзведзя.

Мядзведзь, выбіўшы стрэльбу з рук аслупянелага Радзівіла, абхапіў лапамі князя, патрос, як грушу, і кінуў на зямлю. Абкладчык, які ўсё гэта бачыў, пусціўся наўцёкі. Саўка пастаяў у нерашучасці, потым узяў панскую стрэльбу, патранташ і сказаў:

— А цяпер, Таптыгін, дай бог ногі!

І яны зніклі ў гушчары. У той жа дзень і сям'я Саўкі пакінула вёску.

Калі Радзівіл акрыяў, дык загадаў прачасаць усе лясы аколіцы, каб знайсці бунтара Саўку Траяна («Смаргонская акадэмія» пасля аблавы была закрыта). Колькі ні шукалі, нідзе не знайшлі. Толькі пасля гэтага то ў адным месцы, то ў другім пачалі гарэць маёнткі. Паны казалі, што гэта работа «Саўкі-разбойніка». І яшчэ здаралася, што мядзведзь нападаў на паноў. Сустрэне мужыка ў світцы і лапцях — не зачэпіць, а як пана з блішчастымі гузікамі — абхопіць лапамі, прыцісне да сябе, патрасе і кіне. Бывалі выпадкі, што яшчэ і па карку дасць. Потым пайшла чутка, што Саўка Траян падаўся да Кастуся Каліноўскага, нібы ў таго быў правай рукою. Ну і латашыў жа ён паноў! Што з Саўкам далей стала, ніхто не ведае. Але людзі і цяпер яшчэ ўспамінаюць цымбаліста і штукара,— памяць аб ім жыве...

На гэтым Высеўка скончыў. Мы, уражаныя, доўга маўчалі.

— Адкуль вам вядома гэтулькі цікавых гісторый? — не ўтрымаўся мой сябра.

— А вы часцей бывайце ў гушчы народа, яшчэ мудрэйшае пачуеце.— Юльян Высеўка выбіў аб бервяно патухлую люльку, зноў набіў яе мультаном і задыміў.— Толькі да ўсяго трэба падыходзіць з розумам, адбіраць... Я так лічу: людзі павінны ведаць, што вытваралі некалі паны... Яшчэ важна тое, што зямля наша ўскарміла такога Саўку, ды не аднаго, пра іх не толькі нашы людзі, але і ўвесь свет павінен ведаць... Яны загінулі недарэмна...

А дзяўчаты спявалі:

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная,
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Час позні, нам трэба адпраўляцца ў дарогу, але не хочацца, гэтак добра ў ціхім кутку Нарачаншчыны. Развітаўшыся з Юльянам Высеўкам, мы паабяцалі пры зручным выпадку яшчэ да яго зазірнуць.

*1956*

## ВЯРНУЎСЯ

Паволі адыходзіў поезд з Брэста на Мінск, паступова набіраючы хуткасць. Праехалі паўстанак Смалярнае. Відаць, тут яшчэ не так даўно былі велізарныя лясы, бо абапал балотнай рэчкі, куды ні кінуць вокам — тырчалі пачарнелыя пні. Паміж хмызнякоў, што раслі на ўзгорку, пракідаліся паляны. На адной з іх працаваў увішны трактар «Беларусь», яго праводзіла чарада варання. Поезд імчаў, убок адносіла з паравоза цёмны дым, які паволі развейваўся. Мільгалі ў вачах тэлеграфныя слупы, пералескі. На секунду паказалася на пераездзе цяжарная жанчына з жоўтым сцяжком — прапускала поезд. А да гэтага яна, мусіць, садзіла бульбу ў агародзе, бо там стаяў, унурыўшы галаву, запрэжаны ў плуг буланы конь...

— А мы, здаецца, з вамі недзе сустракаліся? — уладзіўшы на паліцах чамаданы, загаварыў Казімір Прыбыткоўскі.— Ці не ў Гомелі?

— Не толькі сустракаліся, але і гасцявалі разам, сядзелі за адным сталом,— шырока ўсміхнуўся Ціхон Паваротны.

— У Варатынскіх?

— Але.

— Паваротны ваша прозвішча?

— А ваша — Прыбыткоўскі?

— То як здароўе, калега?

— Дзякую, а ваша?

— Жывём!..— мнагазначна сказаў Прыбыткоўскі.

— І жыць будзем!..— у тон яму прагаварыў Паваротны.— Хоць, прызнацца па праўдзе, гарызонты нашы звужаюцца...

— Як у каго!..— не згадзіўся Прыбыткоўскі.

І яны пацiснулі адзін аднаму рукі.

— Дык вы ў Мінск? — перапытаў Прыбыткоўскі.— Расце горад, шырыцца, прыгажэе... нават Свіслач у бетон бяруць... кажуць, ваду паднімуць...

— А чаму не, моры ствараюць, а то каб не падняць вады ў рэчцы,— ажывіўся Паваротны, дадаўшы: — Я вырас на адной з ускраін гэтага горада, Старажоўцы, там зазнаў першыя радасці жыцця...

— Выраслі ў Мінску? А ці ведаеце вы на былой Манастырскай домік з верандай?

— Не, не ведаю.

— Тады які ж з вас нарыхтоўшчык? Камерцыйны чалавек ды каб не ведаў доміка з верандай у слаўным горадзе Мінску на Свіслачы! — узняўшы галаву, гаварыў Прыбыткоўскі. Ён уважліва паглядаў на свайго суседа праз акуляры, якія моцна сядзелі над гарбінкай носа.— Чалавек адзін раз жыве на свеце, а жыццё вельмі кароткае, трэба дбаць, як лепей пражыць... Я хачу, каб у мяне заўсёды быў на стале белы хлеб, а ікра хоць бы сабе і чорная...— Прыбыткоўскі хітра ўсміхнуўся.— Вось вы ездзілі ў вобласць, каб набыць насенне для падсобнай гаспадаркі... А навошта гэты клопат?.. Няўжо вам невядома, што ў сталіцы існуе арганізацыя, якая займаецца насенным фондам?.. Вы можаце атрымаць насенне столькі, колькі вам трэба... толькі...

— А як? — падняў Паваротны круглую паголеную галаву. Ён глянуў на Прыбыткоўскага з захапленнем, бачачы ў ім дзелавога чалавека.

— Вельмі проста,— адказаў Прыбыткоўскі.— Вось мне неабходны трубы, а ў вас жа гэтага дабра хапае... Заводу патрэбна насенне... Дык у чым справа? Я вам дастану. Але...

— Што?

— Рука руку мые,— усміхнуўся Прыбыткоўскі.

— Ага!

— Дарэчы, у доміку з верандай бываюць такія жанчыны!

— Якія?

— Прыемныя ва ўсіх адносінах... Пабудзеш у вясёлай кампаніі, памаладзееш...

Поезд падыходзіў да вёскі Кнігаўка. Стройнымі радамі ўзвышаліся новыя хаты. Стаяла калона грузавых машын, калгаснікі разгружалі чарапіцу і шыфер, відаць, прызначаныя для грамадскіх пабудоў. А ці даўно замест гэтай вёскі тырчалі абгарэлыя коміны — тут быў вялікі «кацёл». Хто астаўся жывы, той добра яго помніць. Стаялі раскіданыя па полі, паразбіваныя танкі розных марак. Каля аднаго «тыгра», застыўшага на агародах, тоўпілася дзетвара. Найбольш спрытныя хлапчукі ўзбіраліся на дула гарматы.

— Дзе вы ваявалі? — паглядзеўшы ў акно і ўспом-

ніўшы калісьці бачаную карціну, спытаўся Прыбыткоўскі.

— А вы? — збянтэжыўся Паваротны.

— Будзем гаварыць адкрыта?

— Вядома. Хіба мы не ведаем адзін аднаго?

— У асноўным на рынку.

— То і я там змагаўся.

— Выходзіць, мы выключэнне,— засмяяўся Прыбыткоўскі.— Не ўсім жа ваяваць...

Вёска пачала знікаць з вачэй. Прыбыткоўскі ўспамінаў: не так даўно на ўскраіне гэтай вёскі, пад кудравым клёнам, які пачынаў зелянець, каля танка стаяла палатка, якая замяніла хату людзям, што вярнуліся з гітлераўскай няволі. Тут жа сушылася бялізна, дражнілася дзіця з малым шчанём. Цяпер у баку ад старой вёскі, на беразе паўнаводнай рэчкі, людзі ставілі кроквы на калгасным хляве. Недалёка стаяў новы свіран, на ім бусел ужо змайстраваў гняздо. «Архітэктар» з яго, відаць, няважны, бо ва ўсе бакі тырчалі галіны, бачны былі вялікія дзіркі, у якіх вяліся вераб'і. Узвышалася сілосная вежа. Раскінуўся малады калгасны сад. Калгаснікі забудаваліся добра, па плану. Яшчэ і цяпер падвозілі яны на конях і валах лес і цэглу. Прыемна было глядзець на зладжаную працу, на абрысы новай вёскі.

— Бачылі таго, што ў падраным шынялі быў,— гаварыў Паваротны,— за камель бервяно падняў...

— Ага, жылісты...

Поезд прарэзваў спрадвечную пушчу. І тут асталіся сляды вайны. Стаялі напалам сцятыя снарадамі гонкія сосны, ляжала з карэннем вывернутая бярэзіна, відаць, ужо струхлелая, тырчала ссохлая елка са знятай вяршалінай. Паказаліся лясныя завалы, зробленыя партызанамі. Колькі часу прайшло, а рубцы вайны яшчэ былі. З-пад кустоў ядлоўцу выскачылі два зайцы; ашаломленыя, яны некаторы час беглі навыперадкі з поездам, а потым кінуліся ўбок і зніклі ў гушчары.

— Не займаецеся паляваннем? — спытаў Паваротны.

— Шкадую ног,— адказаў Прыбыткоўскі.— Шмат прыемней правесці дзень з прыгожай жанчынай...

Цяжкую задачу задаў Прыбыткоўскі свайму спадарожніку. Паваротнага спакушаў домік з верандай, толькі ці няма там якой пасткі? Але калі паслізнуўся, дык цяжка ўтрымацца, каб не ўпасці. Маладая жонка Паваротнага патрабавала да сябе многа ўвагі, модных сукенак, а таксама дарагіх упрыгожанняў. Дый першай, старой жонцы, хоць яна і не патрабавала, сяды-тады трэба было што-кольвечы перакінуць. Паваротны са скуры вылузваўся, зусім аблысеў, каб толькі не страціць фасону. У час акупацыі ён гандляваў на рынку, а таму лічыў сябе спецыялістам па гэтай справе, і калі прыйшла Савецкая Армія, падаўся на завод нарыхтоўшчыкам і меў добры «прыбытак». Але ўсё не хапала. Зараз у Паваротнага трашчала галава, ён думаў, што прастудзіўся, і ўвесь час моргаў маленькімі зыркімі вачыма, без перастанку чмыхаў тоўстым, як дуля, носам. На самай справе і «катар» і «боль галавы» ішлі ад таго, што ён вёз маладой жонцы шкурку лісіцы, ад якой пахла нафталінам. Непакоілі і клопаты: ён абяцаў Тамары купіць сукенку — і не купіў; тады б не хапіла грошай на мяккае месца ў вагоне, а ён любіў, грэшнай справай, ездзіць з камфортам.

— Дык як, па руках? — спытаўся Прыбыткоўскі.— Дарэчы, у мяне можна будзе дастаць мануфактуру, зразумела, такую, якой няма ў магазінах.

Апошні козыр ён пусціў, звярнуўшы ўвагу на пах нафталіну і здагадаўшыся, што гэта нейкі падарунак жонцы.

— Давайце! — загарэўся Паваротны.

— Магарыч мой,— сказаў Прыбыткоўскі і дадаў: — Прапаную перакусіць, а ў Мінску сходзім у домік з верандай, паспытаеце хатніх абедаў... пальчыкі абліжаш!..

На невялічкім століку ў купэ мяккага вагона з'явіліся каньяк і бутэрброды з кетавай ікрою і паляндвіцай. Адразу ж пасля першай чаркі твар Паваротнага пачырванеў, ён шмат гаварыў, а Прыбыткоўскі, наадварот, пасінеў, стаў больш стрыманы і падкрэслена ветлівы. За бутэлькай Прыбыткоўскі канчаткова ўмовіўся, што Паваротны дае яму з завода трубы, а ён узамен — насенне для падсобнай гаспадаркі, а таксама падкіне дэфіцытнай мануфактуры. На гэтай справе яны абодва добра зараблялі, дык трэба было як след

замачыць кантракт. За размовамі яны і не заўважылі, як пад'ехалі да Мінска. Горад, што ў недалёкім мінулым ляжаў у руінах, ажыў. Праўда, сёе-тое нагадвала аб вайне, сям-там яшчэ прасвечвалі вокны ў каробках абгарэлых дамоў.

Сышоўшы з поезда і здаўшы цяжкія рэчы ў камеру хавання багажу, Прыбыткоўскі і Паваротны вырашылі пайсці ў домік з верандай. Ад станцыі да доміка было кіламетры чатыры. Таксі яны не ўзялі, а паціху, нібы прагульваючыся, пайшлі па горадзе. Прыгравала сонца, зелянелі ліпы, расцвіталі высаджаныя па баках вуліцы кветкі. Каля аднаго новага прыгожага дома стаяў гурт моладзі, нешта абмяркоўвалі. «А чаму б тут не прыбіць дошку з імем архітэктара, каб людзі ведалі, чый праект і кім пабудаваны дом?» — выказаў думку юнак. «Добра гаворыш!» — падхапіла дзяўчына. Гэта, відаць, была экскурсія школьнікаў старэйшых класаў з раёна, бо з імі была маладая жанчына, падобная да настаўніцы; яна запісала прапанову юнака ў блакнот. Ускінуўшы вочы на дом і зрабіўшы кіслую грымасу, Паваротны сказаў:

— Нічога цікавага! Чаго толькі людзям не ўзбрыдзе ў галаву — дошку прыбіваць, каб ведалі, хто будаваў? Хе!

— А як вам яна падабаецца? — акінуўшы поглядам з галавы да ног экскурсаводку, спытаў Прыбыткоўскі і дадаў: — Ніпто тавар...

— Хо-хо!

Прыбыткоўскі з Паваротным, звярнуўшы з праспекта, доўга ішлі па розных вуліцах. Нарэшце паказаўся і домік, абгароджаны шчыкетамі і абсаджаны клёнамі. Зблізку ён быў не такі ўжо маленькі і меў добры выгляд: пафарбаваны ў зялёны колер, з белымі аканіцамі, уся веранда зарасла дзікім вінаградам.

Гаспадыня спаткала іх яшчэ на ганку, ветліва прывіталася з Прыбыткоўскім, пазнаёмілася з Паваротным, які чамусьці назваў толькі сваё імя і імя па бацьку, і правяла іх у сталовую. Гаспадыня была дзябёлая, з пафарбаванымі кароткімі валасамі, размалёванымі шчокамі і падведзенымі дугою бровамі.

— Абедаць будзеце? — запыталася яна і, весела ўсміхнуўшыся, паказала два рады залатых зубоў, якія бліснулі полымем.

— Абавязкова,— сказаў Прыбыткоўскі.— А пакуль...

— Зразумела,— кіўнула гаспадыня.— З халодных закусак ёсць: селядзец з гарнірам, марынаваныя грыбы, рыба заліўная, цяляціна, смажанае парася...

— Усяго пакрысе,— распарадзіўся Прыбыткоўскі, дадаўшы: — За мой кошт...

Гаспадыня забегала. Яна ведала круты нораў Прыбыткоўскага, яго густ, шырокі размах у гульні. Паваротны акінуў вачыма ўтульны пакой з круглым сталом пасярэдзіне, з хрусталёвым посудам у буфеце, піяніна і карцінамі на сценах. Дзверы ў другія пакоі былі зачынены. У адзін момант быў накрыты стол, з'явілася ў графіне халодная гарэлка. Калі крыху выпілі, Прыбыткоўскі ўстаў, прайшоўся, а потым спытаў:

— Дык вы, кажаце, змянілі старую жонку?..

— Ага! — з гонарам адказаў Паваротны.— Маладая мая жонка — цудоўны чалавек. А старая не дай бог, шалёная нейкая. Колькі я з ёю гора набраўся, але нарэшце разышліся. Дзесяць год з ёю прамучыўся. Лішняе не выпі, не згуляй, дык якое ж гэта жыццё?! Прыгожая ў мяне маладая жонка. І калі ні прыйдзеш — дома. Часамі ўвечары выскачыць на пару гадзін да сваіх сяброўак у дурня ці прэферанс згуляць, і зноў дадому. А вы як жывяце?

— Нарэшце і я пасталеў,— сказаў Прыбыткоўскі.— Мала калі даю волю душы, а гэта ж трэба...

Яны чарку за чаркай выпілі графін рускай горкай. Потым пілі каньяк, зноў гарэлку і нарэшце перайшлі на піва. За півам яны канчаткова ўмовіліся, што трубы, якія выраблялі завод звыш плана, браў Прыбыткоўскі, за што ён даваў заводу гародніну і мяса для сталовай і дома адпачынку, а таксама, калі спатрэбіцца, неабходную мануфактуру.

П'яны Паваротны не пераставаў хваліцца маладою жонкаю, прычым паўтараў адно і тое ж па некалькі разоў, лез цалавацца.

— Што ты ўсё хвалішся, як маладажон? І цалавацца з мужчынамі я не люблю,— усміхнуўся Прыбыткоўскі, ён таксама быў п'яны.— Сумна, брат, з табою. Хоць бы ў карты згуляць, ды толькі няма кампаніі.

— Зараз будзе,— угодліва сказала гаспадыня і,

звярнуўшыся да Паваротнага, спытала: — Як усё ж ваша прозвішча?

— А вам не ўсё роўна? — ухіліўся ад адказу Паваротны.

Неўзабаве ў сталовую ўвайшла чарнявая жанчына з радзімкай на твары. Прыбыткоўскі кінуўся ёй насустрач.

— А, Тамара Маркаўна, прывітанне! Згуляем у дурня ці прэферанс?

Паваротны аслупянеў: перад ім стаяла яго маладая жонка, у доўгай чорнай сукенцы з панаксаміту, уся ў золаце і брыльянтах. Жанчына толькі на секунду разгубілася.

— Ты тут? — здзіўлена-радасна звярнулася яна да Паваротнага.— А я яго шукаю. О, мой ослік! Ты мне лісіцу прывёз?..

І, каб схаваць няёмкасць, узялася патрашыць пакунак, які быў прывязаны да знаёмага ёй дарожнага партфеля.

— О-о-о! Якая лісіца! А дзе сукенка?

— Тамара! — прабасіў нарэшце збянтэжаны Паваротны, не верачы сваім вачам.— Як ты тут апынулася?

— Дарагі мой! Я даведалася, што ты прыехаў, і пайшла ў пошукі,— не задумаўшыся, выпаліла Тамара.

— Як жа гэта так?..— сурова глянуўшы на гаспадыню, ціха спытаў Прыбыткоўскі.

— А чаму ён не сказаў прозвішча,— вінавата апраўдвалася тая.

— Ну і ціхоня! Пайшлі дадому! — схапіла Тамара мужа за руку.

— Прэч! — аж папярхнуўся Паваротны. Ён хацеў падняцца і сцягнуў абрус, зазвінеў посуд.— Прэ-э-эч!

Напалоханая Тамара выскачыла са сталовай, як корак з бутэлькі, але ўсё ж чарнабуркі не выпусціла з рук. Яна на хаду прагаварыла:

— Ну і чорт з табою!.. На ліха ты мне здаўся... Падумаеш, набраўся фанабэрыі... Лысы асёл!

Паваротны, сціснуўшы кулакі, кінуўся за ёю, але Прыбыткоўскі затрымаў яго, пасадзіў у крэсла, наліў піва. Паваротны зрабіўся чырвоны як рак, у яго вачах гарэлі нядобрыя агеньчыкі. Ён залпам выпіў куфель піва і мнагазначна сказаў:

— Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома...
— Дзіва што...— зазначыла гаспадыня.
— Маўчаць! — стукнуў кулаком па стале разгневаны Паваротны.— А хто ў гэтым вінаваты? Вы!
Паваротны ўстаў і пайшоў да выхада. Прыбыткоўскі паспрабаваў яго затрымаць, але не здолеў.
— А як кантракт, у сіле? — запытаўся Прыбыткоўскі.
— Пайшоў ты к чорту! — вызверыўся Паваротны.— Пусці, кажу, іначай нюхаўку растаўку! Прэферансіст!..
— Вось няўдача,— застагнаў Прыбыткоўскі.— На чорта я сюды яго вёў... А мне да зарэзу патрэбны трубы...
Вярнуўшыся, ён грузна сеў на канапу, задумаўся і неўзабаве заснуў.
Гаспадыня не захацела чапаць п'янага і, згорбіўшыся, выйшла.
Доўга Паваротны блукаў па горадзе, абдумваючы сваё жыццё. Ён вырашыў кінуць Тамару і вярнуцца да старой жонкі. Не заўважыў, як апынуўся на Старажоўцы, перад знаёмымі веснічкамі. «Дзеці пэўна ўжо спяць»,— падумаў ён. Паваротнаму захацелася паглядзець на іх, хоць сонных. Ён рашуча адчыніў веснічкі і зайшоў на двор, нясмела пастукаў. У акне мільганула жаночая постаць.
— Хто там? — пачуўся заспаны голас.
— Гэта я, Ціхон.
— Што табе трэба?
— Адчыні! Я да цябе...
Жанчына запаліла лямпу, ускінула на плечы паліто, адчыніла дзверы. Паваротны першы раз за пяць год разлукі зайшоў у кватэру, у якой жыў больш за дзесяць год. На стале ляжаў разгорнуты сшытак старэйшага сына, ён, відаць, увечары рыхтаваў урокі. У кутку сталовай былі акуратна складзены лялькі, якія Паваротны калісьці купляў. Там жа стаяў абшарпаны белагрывы конь, што некалі з Масквы прывёз сярэдняму сыну. Новых цацак не было, бо завошта іх купіць маці? Ёй трэба было ламаць галаву, як пракарміць і адзець дзяцей. Тут кожная рэч нагадвала яму пра роднае, блізкае. У дзіцячым пакоі скрыпнуў ложак, Паваротны зрабіў некалькі крокаў, каб паглядзець

на сваіх дзяцей, але жанчына рашуча перагарадзіла яму дарогу.

— Я хачу паглядзець на дзяцей.

— А ў цябе іх няма,— цвёрда сказала яна.— Ты страціў права на бацькоўства. На слізкі шлях ты ступіў, Ціхон. На грошы з мазаля не вельмі будзеш гуляць. Думаеш, на заводзе не ведаюць, што ты махлюеш?

— Не злавіў за руку, не кажы — злодзей...

— Зловяць! Няма нічога тайнага, каб не стала яўным...

— Наталля, даруй... Я рашыў... Я вырашыў... Тут мае дзеці... Тут мой кут...— гаварыў, запінаючыся, Паваротны, намерваючыся прайсці да дзяцей, але жанчына яго не пускала. Ён адштурхнуў яе.— Пу-у-сці!..

— Не пушчу! — сказала жанчына.— У мяне няма жыцця... І ім хочаш загарадзіць дарогу ў будучыню... Лепей свае скарынкі, чым чужы пірог... Ты крадзеш на заводзе, што пад руку трапляе, і гэтым ганьбіш сваіх дзяцей. Не патрэбен ім такі бацька.

— Пу-у-сці!

— Не,— сказала як адрэзала жанчына.— Дзеці доўга па табе сумавалі... Яны пачалі ўжо цябе забываць... І раптам сёння ўбачылі, як ты з нейкім гарбаносым мужчынам ішоў па былой Манастырскай вуліцы ў бок тупіка... Я наглядала за Юрыкам, як ён увечары браўся некалькі разоў за адзін падручнік і ўсё ж не зрабіў урокаў... Дзецям патрэбен бацька, але што ты зробіш, калі ён валацуга?.. Не трэба да іх ісці... Ты сам... і іх хочаш загубіць...

— Я канчаны чалавек, ты гэта хацела сказаць? — адступіўшы назад і цяжка апусціўшыся ў крэсла, спытаўся Паваротны.— Не верыш мне?

— Тамара да дабра не давядзе... Дзеля яе ты кінуўся гандляваць, не пайшоў ні ў армію, ні ў партызаны, употайкі з ёю сустракаўся... А калі перайшоў зусім да яе, стаў красці ў дзяржавы... Так, так!.. Гэты крадзеж у вас па-другому завецца, але сутнасць адна... Тамары патрэбны транты, а не ты... Яна ўсё кіне пад ногі і растопча, абы мець лішнюю анучу... за анучу і цябе прадасць... Ідзі адсюль, калі ў цябе яшчэ хоць трохі асталося сумлення...

— А-а-а,— нібы прасвятлеў розум Паваротнага. Ён убачыў у дзвярах старэйшага сына, які недаверлівымі

вялізнымі вачыма глядзеў на бацьку.— Сынок, Юрачка, хадзі сюды.

Маці, абяссіленая, апусціўшы рукі, адышла ўбок. «Хоць бы не прачнуліся меншыя дзеці»,— падумала яна і пакутлівымі вачыма паглядзела перш на бацьку, а потым перавяла вочы на сына.

— Ну, падыдзі, сынок, да бацькі,— ціха сказала жанчына. Яна ніколі дзецям пра яго нават благога слова не сказала. Навошта? Каб яны яшчэ пакутавалі? «Падрастуць,— думала яна,— самі разбяруцца».

— Не хачу! — буркнуў Юрка. Вочы яго былі поўныя слёз.— Чаго вы прыйшлі сюды? Што вам трэба ад нас?

— Вось бачыш,— падтрымала маці сына.— Прашу цябе, не трывож ты дзяцей... Ідзі адсюль...

— Гоніце?.. Ну што ж... пайду...

Маці ўзняла галаву, у вачах свяціўся гонар за сына. «Вось і гаспадар ёсць у хаце»,— ласкава падумала яна, бачачы, як сын падае бацьку партфель.

— Нашы дзверы не наглуха закрываюцца,— прагаварыла з болем Наталля.— Ты зможаш пераступіць гэты парог, але толькі пры адной умове: калі станеш жыць сумленна, не з махлярства, а з працы рук сваіх, з мазаля, як усе добрыя людзі жывуць. Тады прыходзь да нас, мы забудзем усё старое... Праўда, Юрачка?

— Праўда,— сказаў Юрка. У яго скалануліся плечы, і ён выбег у свой пакой.

— Называецца, вярнуўся,— горка скрывіўся Паваротны.— Нябось сустрэча!..

— А ты іншай чакаў? — праз зубы працадзіла Наталля.— Па заслугах...

Спустошаны, ён устаў і, цяжка ступаючы, моўчкі выйшаў з кватэры. Паваротны адчуў сябе бяздомным бадзягам. Ён успомніў Прыбыткоўскага і пашкадаваў, што не скруціў яму шыю. Паваротны да раніцы блукаў па горадзе, а калі пачуўся гудок, пайшоў на завод з намерам расказаць пра ўсё і, калі даруюць, прасіцца хоць на самую цяжкую работу,— у гэтым ён бачыў свой ратунак.

*1956*

## СУСТРЭЧА

На ўскраіне горада, дзе раней рос бор і цяпер зрэдку пракідаюцца гонкія сосны, узвышаюцца карпусы трактарнага завода.

Удалечыні відаць фабрычна-заводскія трубы, з якіх узнімаецца дым, паволі разыходзячыся над гарызонтам. Заўсёды ў гэтым баку горада чулася лязганне жалеза, ракатанне і гул цяжкіх аўтамашын; лёгка вуркочучы, праносіліся матацыклы; чмыхаючы, марудна цягнуліся трактары,— уся гэта новая тэхніка сваім ходам, часта нават у святочныя дні, ішла да пагрузачных пляцовак.

Выпушчаныя новыя, пафарбаваныя ў чырвоны колер трактары «Беларусь» ужо выпрабоўваліся на палях шырокіх калгасных прастораў.

— Край палёў і лясоў стаў краем фабрык і заводаў,— сказаў адзін з рабочых, якія — хто з жонкамі і дзецьмі — ішлі на маёўку.

Астатнія задаволена ўсміхаліся.

— Яшчэ не гэта будзе, калі не перашкодзіць новая вайна,— дадаў другі рабочы.

— А што? — спытаўся нехта.

— Уся краіна ў садах зацвіце,— гаварыў даўнішні гараджанін, любуючыся пасаджанымі гэтай вясной ліпамі.— Усё зробім, каб упрыгожыць жыццё чалавека.

Гэтыя словы спадабаліся Тарасу Пінчуку, ужо немаладога веку мужчыне — яму падбіралася пад шосты дзесятак. Ён шырока ўсміхнуўся.

— Недарма мы жылі. Праўду кажу, старая! Ты толькі ўяві, як людзі зажывуць, калі ўсе здабыткі, якія яны ствараюць, пойдуць на іх карысць.

— Калі тое будзе?

— Усё да гэтага ідзе,— упэўнена заявіў Пінчук.

Рабочы, які ішоў побач з Пінчуком, усміхнуўшыся, сказаў:

— Тарас Кандратавіч правільна думае. Што для гісторыі значаць якія-небудзь чатыры дзесяткі год! А за гэты час трэцяя частка людзей свету вызвалілася з-пад ярма капіталу. Мне хочацца дажыць да таго часу, калі золата страціць сваё ранейшае значэнне, не будзе для людзей спакусай.

— Законнае жаданне! — засмяяўся Пінчук.

— Золата!..— цяжка ўздыхнуў рабочы.— Колькі праз яго людзей загінула...

— Дзіва! — усклікнула Марыя Паўлаўна.— А колькі пакалечана — целам і душою...

Прыгравала веснавое сонца, нават у шчылінах асфальту зелянела трава.

Група рабочых увайшла ў лясок і села ў цяньку, пад кашлатай, нібы пазалочанай, сасною, з якой дзе-нідзе жоўтымі пацеркамі сцякала смала. Дзесьці ў небе бесперастанку звінеў жаваранак.

— Хто яго ведае чаму, але я з маленства асабліва люблю гэтую птушку,— прыслухоўваючыся, гаварыў Пінчук.— Яшчэ калі я ў аднаго фальваркоўца на Палессі працаваў парабкам, яна заўсёды мяне сустракала на полі і праводзіла адтуль дадому...— Пінчук падумаў і зазначыў: — Вось з таго часу я і ненавіджу золата...

— Чаму? — спытаў рабочы.

— Доўгая песня.

— А ты ўсё ж раскажы.

— А ўжо ж, цікава паслухаць,— азвалася Марыя Паўлаўна.— Ты мне ніколі пра гэта не гаварыў.

Пінчук ямчэй прымасціўся каля сасны. З-пад кусцістых брывей заіскрыліся карыя вочы. Ён паволі пачаў апавядаць.

— Даўно было тое, аб чым я зараз раскажу. Ужо другі год ішла вайна з войскамі Вільгельма II. Мала тады заставалася мужчын у вёсках,— белабілетнікаў і тых пабралі ў салдаты. А толькі Бараноўскія (тры хлопцы, як дубы) былі дома. Пра іх гаварылі, што яны адкупіліся золатам.

Фальварковец Бараноўскі, вялізны і згорблены, з рудою барадою, зімой і летам хадзіў у пафарбаваных у сіняе зрэбных портках. У некаторых мясцінах яны парыжэлі, а на каленях і на тым месцы, якім садзяцца,— лата на лаце.

Бараноўскі доўгі час служыў у маёнтку Петражыцкага, там і нажыўся, прыдбаў фальварак гектараў на восемдзесят, запрудзіў ручаіну і пабудаваў невялічкі млынок і пры ім лесапілку. Млынок улетку часта стаяў з-за недахопу вады. Тады фальварковец хадзіў хмуры і злосны, прыгаворваючы: «Прыйдзецца, мусіць, ісці па свеце з торбамі...»

Акрамя трох сыноў у Бараноўскага былі чатыры дачкі. Маладзейшыя тры выйшлі замуж, а старэйшая, Разэля, твар якой быў з'едзены чорнаю воспай, астася ў дзеўках і была ў хаце за гаспадыню. Жонка Бараноўскага яшчэ да вайны памерла.

Родам Бараноўскі быў з вёскі Навіны. Перш ён працаваў у Петражыцкіх конюхам, потым старшым рабочым і, нарэшце, стаў кіраўніком маёнтка. Звалі яго ў Навінах Янка Баранчык, але калі ён выбіўся ў падпанкі, дык прыняў каталіцтва і зрабіўся Януком Бараноўскім. Расказвалі, што аднойчы на фэсце ў Піне адзін навінаўскі мужчына, не зусім з палахлівых, першы падаў руку фальваркоўцу. Бараноўскі абразіўся і выставіў яму мезенец. Тады селянін расставіў указальны і сярэдні пальцы і выставіў яму палову вялікага, тыкнуўшы гэтай «камбінацыяй» фальваркоўцу ў нюхаўку. Збянтэжаны падпанак не ведаў, што рабіць. З таго часу Бараноўскага інакш не звалі, як «без фігі не падступіся».

Дом Бараноўскіх, абкружаны маладым садам, стаяў у нізіне, каля запруды, недалёка ад млына. Уласна кажучы, гэта была звычайная сялянская хата на дзве палавіны, пад саламянай страхой, пабудаваная з купленага ў пана свірна. У «чыстай» палавіне жылі гаспадары, а ў другой — парабкі. Там жа была і кухня.

Першыя і апошнія боты стары справіў, калі пакінуў пана Петражыцкага і збіраўся жаніцца. Гэта былі адмысловыя боты, юхтовыя выцяжкі з доўгімі халявамі, высокімі абцасамі, са скрыпам. «Без фігі не падступіся» надзяваў іх толькі ў вялікія святы, калі ехаў на кірмаш. У апошнія гады часам дазвалялася ў іх абуцца старэйшаму сыну, Юзіку, яму ўжо ішоў трыццаць пяты год. Ён настойліва дамагаўся дазволу жаніцца, але без бацькавай згоды не адважваўся.

Нораву стары Бараноўскі быў крутога. Бывала, сядуць за стол, і барані божа, хто раней за бацьку пачне сёрбаць з агульнай міскі капусту або якія там буракі! Стары так гляне сваімі зыркімі мышынымі вочкамі, што той гатоў скрозь зямлю праваліцца. Гэта ў лепшым выпадку. А калі хто асмеліцца першы ўзяць кавалак мяса, дык атрымае ад бацькі лыжкаю па лбе. У час яды звычайна панавала мёртвая цішыня.

Старэйшы сын, Юзік, быў выліты бацька,— і росту

такога ж высокага, з крыху ўпалымі грудзьмі, і меў такі ж, дуляю, пасінелы нос, і такія ж быстрыя вочкі, толькі яшчэ больш прагныя. Ён кіраваў усёй гаспадаркай і патроху краў ад бацькі. Сярэдні сын, Янак, быў падобны на жончын род — каржакаваты, шырокі ў плячах, з вялікімі навыкаце вачыма і задзірыстым кірпатым носам. Ён быў млынаром і таксама налаўчыўся ад бацькі красці. А меншы сын, Стась, не падобны быў ні да бацькі, ні да маці. З твару ён быў нішто сабе дзяцюк: светлыя кучаравыя валасы, бледны твар, блакітныя, заўсёды неяк затуманеныя вочы. Гэта быў «цяля», нейкае нягеглае, кволае стварэнне. Ён заўсёды каля дому ацІраўся.

Самі Бараноўскія елі добра. Стравы, што б там ні было — капуста ці буракі, бульбяная бабка ці верашчака,— заўсёды тлустыя. А парабкі душыліся на нішчымніцы. Калі часам улетку перападзе маслёнка — звычайна ёю гаспадары свіней кармілі,— тады было вялікае свята.

Нягоднейшая за ўсіх была Разэля. Яна, здавалася, на ўвесь свет злавала. Яе за вочы звалі «рабая». Калі часам хто-небудзь ёй не ўнаровіць, дык тады сцеражыся — што трымае ў руках, тым і запусціць хоць у каго з парабкаў ці наймічак. «Рабой» баяліся як агню. Яна за нішто магла збэсціць любога чалавека.

Бараноўскі не задавальняўся набытым, ён намагаўся выбіцца ў памешчыкі, а для гэтага ўсё ціснуў залатыя «гузікі» ў панчоху. Казалі, што ў яго шмат было золата, але ні нябожчыца жонка, ні дзеці не ведалі, дзе ён яго хавае. Адно толькі было вядома, што ён у банку грошай не трымаў.

Вайна набліжалася. З кожным днём усё бліжэй і бліжэй чуліся гарматныя стрэлы. Пацягнуліся на ўсход уцекачы. Стары больш за ўсіх нерваваўся, не ведаючы, што яму рабіць,— шкада было пакідаць абжытае месца і падавацца ў дарогу. Ён дрэнна еў, амаль зусім не спаў, зблажэў і аднойчы пасля поўдня зусім нечакана даў дуба — выпрастаўся на ложку, нічога не паспеўшы сказаць пра золата. Сыны і дачка хадзілі як пад зямлёю, сноўдаліся з кутка ў куток, праклінаючы бацьку, што пазбавіў іх спадчыны.

Яшчэ Бараноўскага не пахавалі, як здарылася такое, пра што загаварылі па ўсёй ваколіцы. Адзін з па-

рабкаў, скончыўшы касіць атаву, ішоў з касою на плячы дадому. Каля гумна на пляцы стары сабака Жук старанна капаў яму, мусіць, чуючы недзе мышэй. Касец паддаў яму ахвоты:

— Шукай, Жук, шукай!

Юзік, які быў у адрыне, дзе рабілі труну бацьку, пачуўшы гэтыя словы, выскачыў на двор. Ён убачыў напалову закапанага ў зямлю сабаку і схіленага над ім парабка.

«Няйначай натрапіў на золата. Бач, сквапны на чужое!» — нібы апаліла яго думка. Калоцячыся ад злосці і ўзбуджэння, выламаў Юзік кол з плота і кінуўся да парабка. Той стаяў, нічога не падазраючы. Юзік з размаху ўдарыў яго. Заліты крывёю парабак зваліўся на зямлю.

Да гумна, як груганы, чуючы здабычу, зляцеліся нашчадкі «без фігі не падступіся»: Янак, Стась і Разэля. Жук не ўнімаўся, капаў. Веерам ляцела з-пад ног кудлатага сабакі тлустая зямля. Паказалася нешта, закручанае ў анучку. Вось яно, бацькава золата!

— Чаго разявіў рот, асталоп! — накінуўся Юзік на Стася.— Сыдзі з вачэй!

— А хіба золата тваё? — заступіўся Янак.

— Маё! — закрычаў Юзік, яго вочы наліліся чырванню.— Я знайшоў!..

Паміж братамі пачалася бойка. Сярэдні з меншым наваліліся на старэйшага, а той, як раззлаваны мядзведзь, падмінаў іх пад сябе, мясіў цяжкімі кулакамі. Тым часам сястра выцягнула з зямлі закручаны ў анучку куфэрак з золатам. Тады ўсе трое братоў кінуліся да яе.

Разэля не выпускала з рук куфэрка. Пачалася калатня. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб не наехаў ураднік, які выганяў усіх капаць акопы. Выклікалі станавога, пачаліся допыты, некалькі дзён цягнулася следства на месцы.

Старога Бараноўскага і касца пахавалі, а нашчадкаў «без фігі не падступіся» разам з золатам забралі ў воласць. Астаўся ў фальварку толькі Жук, які некалькі дзён жаласна выў, а потым і зусім сышоў з дому.

З таго часу я зненавідзеў золата — гэта яно калечыць людзей, робіць іх звярамі.

Марыя Паўлаўна ўважліва слухала, забыўшыся на-

ват пра тое, што ёй трэба рыхтаваць «стол» для маёўкі. Жанчына, цяжка ўздыхнуўшы, прамовіла:

— От бо людзі! Нізавошта звялі са свету парабка.

— У нас у кавальскім працуе нейкі Бараноўскі, нешта ён мне не падабаецца. Можа, які атожылак Бараноўскіх, пра якіх ты расказваў? — загаварыў адзін з прысутных, Міхаіл Аляксандравіч Зуеў, зменны майстар. У яго была шырокая натура, любіў ён кампанію, хутка зблiжаўся з людзьмі.

— Ці мала такіх прозвішчаў? — умяшалася Марыя Паўлаўна.— Мне нехта казаў, што ў Маскве жыве больш за сорак тысяч Іванавых...

— І то праўда,— падумаў уголас Зуеў і шматзначна працягнуў: — Та-а-ак... А заакіянскія акулы яшчэ больш прагныя да золата... Колькі яны за дзве сусветныя вайны яго награбілі! І ўсё мала... Яшчэ не нажэрліся... Рыхтуюць трэцюю вайну...

— Калі толькі ім удасца развязаць яе, дык яны захлынуцца ва ўласнай крыві,— сурова вымавіў Пінчук.— Гэта будзе апошні і рашаючы бой...

Да ўзгорка падыходзілі рабочыя, каб правесці маёўку, прыносілі з сабою закуску і віно, далучаліся да агульнага «стала». У Пінчука і Зуева было прыемнае адчуванне: дзе б яны ні з'явіліся — ці то ў сваіх цэхах, ці на сходзе,— да іх цягнуліся людзі. Пінчук працаваў у ліцейным цэху трактарнага завода, раней жа на заводзе «Бальшавік» (былым Абухаўскім) у Ленінградзе. Пра блакаду, якую ён правёў у асаджаным горадзе і ні на адзін дзень не пакінуў завода, рэдка каму расказваў. Там Пінчук пахаваў свайго старэйшага сына, шмат сяброў. Аставацца далей жыць у горадзе, дзе так багата ён страціў блізкіх сэрцу людзей, было цяжка, а таму, калі яму прапанавалі паехаць на новабудоўлю ў Мінск, ахвотна згадзіўся. Марыя Паўлаўна, не вагаючыся, падтрымала мужа. Тут, на трактарным заводзе, Пінчук завёў новых сяброў, з якімі разам перажываў радасць вялікіх творчых поспехаў.

А людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Пінчук з Зуевым заўважылі, што тут ужо многа было аўтазаводцаў, галоўным чынам моладзь, якая хутчэй знаёміцца, лепш умее весяліцца. Ажыў лес, напоўніўся стракатымі сукенкамі, усіх колераў хусцінкамі, вясёлым смехам дзявчат. «Стол» прыняў акрэсленую фор-

му літары «П». Вось падышоў інструментальшчык Качура Ігнат Міхайлавіч з жонкай Палашкай і чатырохгадовым унукам Славікам. Яны прынеслі з сабою самавар і бочачку з вадою. Качура надоечы ў клубе адзначаў свой саракагадовы юбілей інструментальшчыка. Стары быў любімцам моладзі. Яго абкружылі дзяўчаты і хлопцы. Славік пайшоў па руках, яго песцілі, падкідалі, як мячык.

Пачуліся галасы:

— Калі Ігнат Міхайлавіч прыйшоў, то можна пачынаць!

— Правільна!

— Славік, а кім ты будзеш?

— Стлюментальцыкам,— ледзь вымавіў хлопчык.

— Ах ты, гарбуз!

Усе весела смяяліся.

Ярка свяціла вясенняе сонца. У блакітным небе — ні адзінай хмаркі. І людзям здавалася, нібы сонца таксама смяялася, радуючыся іх шчасцю. Бесперастанку спяваў жаваранак, гулі пчолы, невядома адкуль сюды прыляцеўшыя, заліваліся на ўсе галасы птушкі.

З узгорка відаць былі прыземістыя карпусы заводаў з вялізнымі вокнамі, высокія карычневыя трубы, светлыя катэджы з чырвонымі дахамі, у рыштаваннях клеткі вялізных жылых дамоў, шэрая стужка асфальтаванай дарогі, акаймаванай зелянінай. Па дарозе шпацыруе моладзь, новае пакаленне рабочых. Хлопцы адзеты больш строга, у гарнітуры, а дзяўчаты — у рознакаляровыя сукенкі, ад чаго рабацела ў вачах.

Паселі, хто дзе мог,— на пнях, на газетах, а то і проста на зямлі, усланай ігліцаю. Толькі Славік ніяк не мог угаманіцца. Вырваўшыся з рук дарослых, ён гаспадарыў каля самавара, збіраў і кідаў у трубу шышкі. Адтуль валіў дым, як з паравоза.

— А мой ты ўнучак, працавічок мой маленькі, усё каля гаспадаркі ўвіхаешся, няйначай хочаш бабку падмяніць,— задаволена ўхмыльнулася Палашка.— Дай жа я табе памагу, саколік!

— Я сам! — насупіўся Славік.

Усе засмяяліся.

— Дык што ж, можа, пачнём? — спытаўся Зуеў.

— Ага, чаго марудзіць!

— Хто хацеў, той прыйшоў!

— Будзем пачынаць!

— Можа, выберам тамаду для парадку? — прапанаваў Зуеў.

— А як жа, трэба!

— Каго?

— Пінчука!

— Што вы, браткі, давайце каго-небудзь другога,— запярэчыў Пінчук.— Вось хоць бы Качуру, ён тут старэйшы за ўсіх нас, самы паважаны, яму і карты ў рукі.

— У мяне голас слабы,— азваўся Качура.

— Пінчука тамадою, а Качуру і Зуева — намеснікамі,— прабасіў хлопец.

Усе яго падтрымалі.

— Што ж, голас народа — голас божы,— звярнуўся да Пінчука Качура, жмурачы хітрыя старэчыя вочы.— А толькі, як гэта кажуць: «Кіраваць — кіруй, але не вельмі тузай...»

— Праўду кажаш,— згадзіўся Зуеў.— Менш тостаў! Людзі прыйшлі адпачываць. Захоча чалавек сказаць, няхай гаворыць, але каб не было прымусу.

— То і я баюся, каб не ператварыць маёўку ў вытворчую нараду,— прызнаўся Пінчук. Відаць, ён хваляваўся, не ведаў, з чаго пачаць. «Шмат значыць задаць тон»,— думаў ён.

А людзі ўсё падыходзілі, далучаючыся да агульнай кампаніі.

— Во, глядзіце,— перабіў гутарку Зуеў,— ідзе Бараноўскі з жонкай. Цікава, куды яны звернуць.

Шмат позіркаў скіравалася ў іх бок. Жонка, відаць, цягнула мужа ў агульную кампанію, але ён упіраўся, даказваў нешта і, нарэшце, пацягнуў яе далей ад шумнага месца.

Бараноўскі з жонкаю апынуўся пад хвойкаю-спарышом. Ад камня яна была пакручанай, нібы з яе хто намерваўся віць вяроўкі, уся ў нейкіх гузаках, а вышэй, дзе раздваілася, расла разгірэкай, пайшла ў сукі, тоўстыя, кашчавыя, на іх блішчала на сонцы золатам кара, а месцамі пакручаныя пасмы яе трымцелі, гудучы чмялямі.

— Будзем пачынаць! — выгукнуў хлопец.

— Правільна, чаго марудзіць! — загаманілі прысутныя.

— Дарагія сябры! — усхвалявана загаварыў Пінчук. І адразу ўсталявалася цішыня, адзнака таго, што паміж выступаючым і слухачамі ўстаноўлен кантакт.— Я прапаную выпіць першую чарку за нашу партыю, якой мы абавязаны ўсімі перамогамі. Яна вядзе па слаўным ленінскім шляху. Слава партыі камуністаў!

— Слава! — выгукнуў радасны Славік.

Зазвінелі чаркі, людзі выпілі. Пачалася ажыўленая бяседа. Зноў пачуўся звонкі Славікаў голас: «Хацу галэлкі!» Нехта з моладзі наліў яму ліманаду, дзіця выпіла і скрывілася, пераймаючы старэйшых. Гэта зноў рассмяшыла людзей. Малога падхапілі на рукі, падкідалі вышэй галоў, ён весела смяяўся.

— Хочацца, каб у дзяцей не сыходзіла з вуснаў усмешка,— любуючыся ўнукам, сказала Палашка і заключыла: — А для гэтага патрэбен мір на зямлі.

— Правільна,— згадзіўся Качура.— Але мір трэба заваяваць, ён сам па сабе не прыйдзе. І заўсёды трэба быць напагатове, каб на нас не напалі знянацку.

— Так,— згадзіўся Зуеў.— Мы заняты мірнымі справамі і не да вайны нам. Але калі не хочаш вайны, дык будзь гатовы да яе, каб ва ўзбраенні спаткаць агрэсара.— Зуеў паглядзеў убок і ўжо іначшым тонам заначыў: — А Бараноўскі і тут астаўся верны сабе, унь дзе расселся, мусіць, не хоча падзяліцца сваімі прысмакамі. От скнара!

— А як яго зваць? — спытаўся Пінчук.

— Іван, а жонка Янкам кліча,— адказаў Зуеў.

— Можа, і ён,— падумаў уголас Пінчук.— Жывучы Бараноўскіх род...

— Ліха ведае, што з ім,— разважаў Зуеў,— здаецца, не дурны чалавек, а чамусьці ўпёрся, не хоча ўкараняць бесперапынна-кальцавы метад нагрэву загатовак і цягне назад увесь кавальскі цэх.

— Няўжо ён супраць новага?

— Да той пары, пакуль пераканаецца, што ад гэтага будзе мець лішнюю капейку...

— Прагны?

— Не дай бог!

— А майстар які?

— Нішто.

— Цікава.

У гэты час Бараноўскія выпівалі і закусвалі, але гаворка паміж імі не клеілася. На беласнежнай сурвэтцы ляжалі хатняга вырабу вэнджаная паляндвіца, вяндліна і каўбаса. З купленых прадуктаў былі плаўлены сыр, чорная ікра, булка. Стаяла бутэлька зуброўкі, прыгатаваная гаспадаром, а побач — шампанскае. У Бараноўскага ўжо закружыла ў галаве, а калі ён падап'е, дык становіцца гаваркі.

— От што я табе скажу, Стэфа, мы з табою век зжылі і не блага, ніколі наперад не пнуліся, але і не адставалі.

— Заўсёды ўбаку...

— Ну і што з таго! — перабіў яе Бараноўскі.— Табе не падабаецца?

— Чаму ты цураешся людзей? — спыталася Стэфа і сама спалохалася сваіх слоў, але ўсё ж дадала: — Нашу хату людзі абыходзяць...

— Дык што ж, кліч сюды ўсіх, пажаруць!..— на высокай ноце выкрыкнуў Бараноўскі і закашляўся.

— Не бойся, няўжо ж людзі з галоднага краю?!

— От што, кабета, за мной ты не гаравала.

— Але і шчасця не бачыла, ды толькі не гэта мяне непакоіць.

— А што?

— Дзеці і тыя выракліся дому,— сумна вымавіла Стэфа, кусаючы вусны. Яна заміргала вачыма, адвярнулася, скалануліся яе вострыя плечы.

— Падзяка бацьку за тое, што даў дзецям лад.

— Не ты, Янак, даў ім лад, а Савецкая ўлада. А таму яны і не шануюць цябе.

— Ах, вось што! — пацверазеў Бараноўскі.— Хто цябе так настроіў? Гэта мне за тое, што выцягнуў цябе з балота?

— Ты хочаш сказаць, што я была бядначкай, калі выходзіла за цябе замуж?

— Хоць бы і так. Памятаеш, колькі з мяне тады кпілі, што я прывёз цябе ў сваю хату ў лапцях?

— То ведай, што хоць я з беднай сям'і, але мае бацькі былі сумленныя людзі, з адкрытымі душамі, а як трапіла да вас, што за золата гатовы былі душу прадаць, дык апынулася ў сапраўдным балоце, адкуль ніяк не магу выкараскацца. Шчасце маё толькі ў тым, што

дзяцей я хоць выхавала не такімі, якімі ты хацеў іх бачыць.

— Ого, як загаварыла! — Бараноўскі грозна прыўстаў, але непадалёку загучалі воплескі, і ён, спалохаўшыся, грузна апусціўся, сагнуўся і неяк змізарнеў.— Колькі той кабеты, з прыгаршчы, а гэтулькі злосці! У-ух, шкада, што ты не дома! Я цябе правучыў бы!

— Хапіла мне гэтай навукі за свой век. Што я бачыла ў жыцці? Заўсёды хадзіла ў сіняках. Першы раз выйшла на маёўку і то наводшыбе прымасцілася. Людзі весяляцца, а я...

— Годзе! — узняў голас Бараноўскі.

— Не! — рашуча запярэчыла Стэфа. Яна сядзела маленькая, худая, без пары згорбленая, толькі вочы пабліскваді слязьмі. Уся яе постаць цяпер нагадвала птушку, гатовую абараняць сваіх птушанят.— Біць ты мяне тут не асмелішся, а дадому не пайду. Паеду хоць да катарага з сыноў ці дачок, яны мяне даўно клічуць да сябе, але я ўсё не адважвалася.

— Стэфа! — прастагнаў Бараноўскі. Ён быў разгублены — у яго яшчэ ніколі не было такой размовы з жонкай, яна заўсёды яго слухала.— Чаго ты ад мяне хочаш?

— Каб ты быў чалавекам, сапраўдным рабочым.

— А хіба я не рабочы?

— Ты рабочы, залатыя рукі маеш, але нутро ў цябе ўласніцкае.

— А дзеля каго я стараюся? Хочацца, каб кавалак хлеба быў на стале. Ты за мною ніколі не была ў нястачы. Скажы, хоць адзін дзень сядзела без хлеба?

— Твой хлеб у мяне калом у горле стаіць. Ты заўсёды ім упікаеш. Зараз скажаш, што да цябе ела мякіну.

— А ці ж не праўда!

— Праўда, а толькі гонару чалавечага не страціла.

— Даволі! — прасіпеў Бараноўскі.

— Хоць раз у жыцці выслухай мяне,— хвалявалася Стэфа.— Для людзей завод — родны дом, а для цябе — адыходны промысел. Ты ўсё адтуль цягнеш, нібы завод дойная карова.

— Цішэй ты! Людзі пачуюць.

— Няхай чуюць... Дзеці не такім цябе хочуць бачыць. Адумайся!.. Свет на новы лад перарабляецца...

— Дык што з таго... Якім я быў, такім і астануся.

Гучная мелодыя песні «Ляцяць пералётныя птушкі» заглушыла іх размову. Моладзь даволі зладжана спявала. Паступова да хору далучаліся старыя рабочыя. Песня прыгожа плыла над лесам.

...Даўно пераваліла на другую палову дня. З захаду, насустрач паслабеўшаму ветру, паволі насоўваліся навальнічныя хмары, засланяючы сонца. Старэйшыя людзі, як больш практычныя, паглядаючы на неба, пачалі збірацца дадому, а моладзь па-ранейшаму бесклапотна весялілася. Што ёй навальніца, калі душа спявае!

Папіўшы чаю, Пінчук, Зуеў і Качура, Марыя Паўлаўна з Палашкай і Славікам сабраліся ісці дахаты.

У гэты час сварка паміж Бараноўскім і Стэфай разгарэлася на ўсю сілу. Бараноўскі злосна вылаяўся і памкнуўся да Стэфы, якая прытулілася да дрэва і, згорбіўшыся, чакала ўдару.

— Гэта яшчэ што такое?.. — рашуча закрочыў Пінчук да Бараноўскіх.

— Лаецца?! — нездаволена вымавіў Качура і пайшоў за Пінчуком.

— А чаго ад яго чакаць!..— дробна патупаў за ім Зуеў.— Перажытак...

Бараноўскага абкружыў натоўп. Наперад прашыўся Славік і зашчабятаў:

— Ты не лайся, дзядзя...— і запнуўся, разгублена паглядаючы на бабку.

Яна падказала:

— Пры Савецкай уладзе.

Славік паўтарыў. Усе засмяяліся.

Пінчук нейкі момант глядзеў на мужчыну. Так, гэта быў Янак, толькі стаў яшчэ больш непаваротлівы і поўны, а рысы твару агрубелі — старасць накладвала свой адбітак.

— А-а-а, Бараноўскі, жывы? — расцягнуў Пінчук.— Вось дык сустрэча.

— Не чакаў?..— спытаўся Качура, паглядаючы на Бараноўскага.

— Стэфа! — здзівіўся Пінчук.— На каго ты стала падобна?.. Гэтак пастарэць?.. Мусіць, не з добрага жыцця...

— Што праўда, то праўда,— згадзілася Стэфа.

І яна расказала, што замужам не было дня, каб яна не плакала. Перш паміж братамі і сястрой ішла калатня, што «сплыло» золата. Старэйшы брат, Юзік, шалеў ад злосці, бо растраціў грошы, пакуль адкупіўся ад турмы за забойства парабка. Юзік пастунова авалодваў гаспадаркай: меншага брата Стася, а таксама сястру Разэлю зрабіў парабкамі. Ішло змаганне з Янакам, яе мужам, які гаспадарыў на млыне. І вось аднойчы паміж братамі вырашылася і гэтае пытанне. Юзік так змясіў калом Янака, што яна за некалькі месяцаў ледзь яго адхадзіла. Яны кінулі фальварак — сіла была на баку старэйшага брата: ён падкупіў усіх, аж да самага ваяводы — і падаліся ў Піну. Янак пабудаваў у мястэчку кузню, і з гэтага жылі. Якое там было жыццё, але гэтак гаворыцца. Там пакутавалі аж да таго часу, пакуль не прыйшла Савецкая Армія. Пасля вызвалення перабраліся ў Мінск, Янак пачаў працаваць на заводах. Стала жыць лепш, весялей. Дзеці знайшлі дарогу да жыцця. Але Янака прагнасць заядае, клопаты пра «чорны дзень». Людзі жывуць як людзі, працуюць і весяляцца, а ён усё збірае грошы. Збярог некалькі залатых «гузікаў», дык яны не даюць яму спакою, ноччу нешта сасніць, а раніцаю бяжыць на двор праверыць, ці цэлыя грошы. Дзе ён там іх хавае, яна не ведае.

— Стэфа! — лагодна загаварыў Бараноўскі.— Ты нагаворваеш і на мяне, і на сябе...

— Нічога я не нагаворваю. Мне хочацца аднаго: вытруціць з цябе звера, каб ты стаў чалавекам,— сказала Стэфа.

— Прашу цябе, не гавары лішняга,— прабасіў Бараноўскі.

— Не,— рашуча запярэчыла Стэфа.— Яшчэ не ўсё сказала... Ты ніколі не можаш прыйсці з завода, каб не прыцягнуць дадому якой-небудзь ламачыны... Калі б так усе рабілі, расцягнулі б увесь завод...

— Скончана маё жыццё,— сумна вымавіў Бараноўскі. Згорбіўшыся і хістаючыся, ён паплёўся з маёўкі.

— Вось яно як бывае,— шматзначна прагаварыў Пінчук.— А мне думалася, што ў нас са старым жыццём даўно скончана...

У гэты час бліснула маланка, ударыў гром. Зашу-

меў лес, прадвяшчаючы буру. Старэйшыя пайшлі дадому, а моладзі хоць бы што, яна і з месца не кранулася. Зайгралі на баяне вальс «На сопках Маньчжурыі». Моладзь пайшла танцаваць, на іх з зайздрасцю паглядалі старыя.

— Усё, наша песня праспявана,— сумна зазначыў Качура.— Куды нам да іх? Маладосць!

Раптам закружыў вецер, узняўся пыл слупам, ударыў раскацісты гром, секануў буйны дождж. Марыя Паўлаўна і Пінчук угаварылі Стэфу пайсці да іх. Людзі пад праліўным дажджом разбягаліся па дамах.

*1956*

# ЛЯСНЫЯ САЛДАТЫ

## 1

Батальённы камісар Рыгор Гарашчэня і маёр Сымон Дубрава — ваенком з Палесся, а камандзір з Віцебшчыны — яшчэ да вайны служылі ў адным палку і моцна паміж сабой здружыліся. Пасля бою пад Мінскам, наглядзеўшыся на пакуты параненых, сябры далі адзін аднаму слова, што калі адзін з іх будзе цяжка паранены і не будзе ніякай надзеі на выздараўленне, другі пазбавіць яго пакут.

На Іваноўшчыне, недалёка ад ракі Бярозы, разгарнуўся гарачы бой з немцамі, у якім быў цяжка паранены Гарашчэня. Ён быў на самым небяспечным участку, з першым батальёнам, на ўскраіне дрымучага лесу, які цягнуўся на дзесяткі кіламетраў. Гарашчэня з батальёнам стрымліваў націск цэлага палка, узмоцненага танкамі і дывізійнай артылерыяй. Даведаўшыся, што ваенком сцякае крывёю — Гарашчэня быў паранены ў грудзі,— камандзір падпоўз да яго, каб памагчы сябру, а калі трэба будзе, то і выканаць дадзенае слова. Але ў камандзіра не падымалася рука на абяссілеўшага блізкага і дарагога яму чалавека, з якім прыняў усю сілу першага ўдару гітлераўцаў і адказаў ударам на ўдар.

Гарашчэня ў гарачцы біўся, як падстрэленая птушка, змагаючыся за жыццё. Ён то адкрываў павекі, то закрываў, крывячыся ад неймавернага болю. Рука сутаргава цягнулася да акрываўленай гімнасцёркі. Яго душыла смага.

Маёр напаіў з біклагі батальённага камісара, а потым спытаўся:

— То як, братко, справы?

— Дрэнь.

Сэрца ў камандзіра заныла, стала паскорана біцца. Ён бачыў, як камісар прагнуў жыцця. «Няўжо прыйдзецца падняць руку на свайго лепшага сябра? — думаў камандзір.— Не, я не магу гэтага зрабіць, не магу». Ён разарваў гімнасцёрку на параненым і пачаў яго перавязваць.

Гарашчэня адкрыў павекі і, нібы зразумеўшы думку камандзіра, прагаварыў:

— А можа, і выжыву...

Дубрава вальней уздыхнуў, у яго як гара з плеч звалілася. Жылістаю рукою камандзір украдкам зняў з загарэлага салдацкага твару буйную слязу. Зрабіўшы перавязку камісару, маёр па-пластунску папоўз, цягнучы на палатцы параненага. Вырваўшыся з зоны артылерыйскага агню, аддаўшы каманду адправіць камісара ў палявы шпіталь, маёр пайшоў на камандны пункт. Немцы, перагрупіраваўшы сілы, пасля інтэнсіўнай артылерыйскай падрыхтоўкі і апрацоўкі пярэдняй лініі з паветра, зноў аднавілі атаку. Маёру прыйшлося ўвесці ў бой усе наяўныя сілы палка. Сляпцом лезлі п'яныя фашысты, усцілаючы трупамі прасторы параненай зямлі.

Тры дні полк абараняў гэты рубеж, што дало магчымасць адступаючым часцям Чырвонай Арміі адарвацца ад праціўніка, каб замацавацца на больш выгадных пазіцыях. Трэба было таксама даць магчымасць адысці ўцекачам.

Яшчэ і цяпер відаць былі тут сляды адступлення. Некалькі дзён стаяла неймаверная гарачыня. Людзі, якія ўцякалі ад напасці, што так раптоўна нахлынула, абліваліся потам і крывёю. Іх увесь час бамбілі і абстрэльвалі з самалётаў. Яны ішлі па пыльных дарогах вайны, са скарбамі за плячыма, ішлі на ўсход, не ведаючы, дзе спыняцца і што іх чакае наперадзе.

Абапал дарог гналі жывёлу — кароў і авечак, свіней і коней; стаяў такі пыл, што нельга было дыхнуць. У часе папаскі людзі даілі кароў, частавалі малаком параненых чырвонаармейцаў, здойвалі малако на зямлю. А ў некаторых кароў вымя да таго парасціпрала, што яны не маглі ісці, адставалі; па дарозе іх даразалі, а то і зусім кідалі.

Свежыя магілы, парваныя правады, паламаныя ма-

шыны, забітыя коні і каровы, развернутая дарога — усё гэта гаварыла за тое, што тут прайшло шмат людзей, ратуючыся ад навалы.

І да ўсяго гэтага тры дні ўпартых баёў зусім змянілі пейзаж. Абапал дарогі — Іваноўшчынай звалі тутэйшую мясцовасць — покатам ляжаў лес. Шугалі чародамі напалоханыя птушкі. Тырчалі напалам перацятыя выносістыя сосны, кашлатыя елкі хіліліся долу, як маладзіцы, убраныя ў белае белле, бярозы і нават магутны дуб не ўстаяў супраць бога вайны — цяжкай артылерыі. З пашчапаных хвоек слязілася смала, павяла лісце на бярэзінах, распластаўся купчасты дуб, урэзаўшыся каржакаватымі сукамі ў зямлю, абламаўшы свае маладзецкія кучары.

Яшчэ раніцою тут вёўся бой. Сутыкнуліся дзве сілы. Гулі маторы. Самалёты апускалі бомбавы груз. З карэннямі выварочвала дрэвы, высока ляцела ўгару зямля, засыпала людзей. Праз гушчар прайшлі танкі, падмяўшы пад сябе маладыя сосны і елкі. Але людзі стаялі насмерць. Немцы прайшлі гэты рубеж цаною вялікіх страт.

Кананада пад поўдзень крыху аддалілася, але выразна чуваць былі раскаты гармат. Бітва ішла жорсткая, крывапралітная. Гітлераўцы, не лічачыся са стратамі, іrваліся ў глыбіню нашай абароны, на ўсход.

На полі нядаўняга бою чуваць былі людскія енкі і стогны, пахла чалавечым потам і крывёю, мерцвякамі. Дзіка ржалі коні, бегаючы з сёдламі, без ездакоў, па скалечаным полі. Недаспелае жыта было дашчэнту збіта, пабэрсана, змяшана з зямлёю.

У невялічкім акопе, каля купчастага ядлоўцу, недалёка ад каманднага пункта першага батальёна, раскінуўшы рукі, гледзячы памутнелымі вачыма ў блакітнае неба, на якім, нібы з ваты, плавалі хмары, ляжаў тэлефаніст Дуброўскі са сціснутымі ў зубах абарванымі правадамі. Ён выканаў абавязак салдата і, нават будучы мёртвым, сваім целам змагаўся за радзіму.

Увесь скрамсаны, расціснуты, умяты ў зямлю ляжаў камандзір палка Дубрава, а недалёка ад яго стаяла застыўшае чорнае страшыдла, абгарэлы нямецкі танк з парванымі гусеніцамі. Маёрава смерць дорага каштавала немцам. Перад яго акопам ляжала некалькі забітых фрыцаў.

На крушні каля дзікай ігрушы, якая сіратліва стаяла на полі, уверх тварам ляжаў рыжы прусак у чыне обер-лейтэнанта. Крумкач выдзёўбваў яму вочы.

Усе палеткі, адкуль немцы наступалі, былі стаптаны, поле ўслана забітымі салдатамі і афіцэрамі. Над месцам бою кружыла груганнё.

У вёсцы Іваноўшчына, якая была спалена, тырчалі абгарэлыя коміны. На папялішчы выў касматы сабака. Прыляцеў бусел, пакружыў і, не знайшоўшы свайго гнязда, падаўся на балота.

Ляснік Мірон Грыневіч і калгасны пастух Ігнат Шпакоўскі аглядалі месца пабоішча, забітых людзей, пакалечаныя дрэвы. У лесе параскіданыя ляжалі гранаты, вінтоўкі, нават кулямёт стаяў, а поруч з ім ляжаў малады кулямётчык. Мірон з Шпакоўскім, пабедаваўшы аб загінуўшых, моўчкі ўзяліся за працу. Мірон цярпець не мог, калі ў лесе галлё валяецца, не тое каб зброя была не прыбранай. Ён сцягваў яе ў адно месца. «Можа, спатрэбіцца»,— думаў стары. А Шпакоўскі ўспомніў пра жывёлу, пярэстым племянным быку, які быў прывезены з Кастрамы. Быка могуць не ў час напаіць або абкормяць канюшынай ці зусім страцяць у дарозе. Калгасны статак быў эвакуіраваны на ўсход.

Мужчыны былі ашаломлены сілай удару немцаў, але не гублялі галавы, яны былі ўпэўнены, што немцы вайны не выйграюць. «Яны могуць далёка зайсці,— сам сабе сказаў Мірон,— але назад не вернуцца». «Лезе прусак на палаткі,— падумаў уголас Шпакоўскі,— ды ў начоўках утопіцца».

Кананада сціхла.

— Дзе я? — Гарашчэню стала страшна, ён прыслухаўся: — Эй, хто там?

— Свае,— адказаў Шпакоўскі.

— Што вы тут робіце?

— Вас сцеражом,— падыходзячы, гаварыў Мірон.

— А дзе нашы людзі?

— Шмат іх тут асталося,— уздыхнуў Шпакоўскі.— А астатнія... нічога благога не скажаш, добра біліся. Што ж, другія абернуць ворага. А ты, чалавеча, жыві!

— А што гэта ў вас, дзядзька, дзе вы ўзялі гэты сцяг? — падняўшы галаву, звяртаючыся да Шпакоўскага, запытаўся камісар.

— Сцяг вашага палка,— зашпільваючы палітон, адказаў Шпакоўскі.— Сцяганосец забіты. Камандзір палка таксама. І многа тут нашых злегла, але не заплямілі сцяга, не, не.

— Пі-і-іць!

Гарашчэня зноў страціў прытомнасць. На яго гімнасцёрцы запяклася кроў. Мужчыны напаілі камісара вадою. Гарашчэня паварушыў галавою, праліў ваду, срабрыстыя кроплі яе каціліся па яго абяскроўленым твары.

У лесе пахла смалою. Вавёрка, пераскокваючы з дрэва на дрэва, абламала галінку, якая ўпала на Міронаву шапку. Мірон, узняўшы галаву, патрос кулаком. «Не хочацца толькі чалавека трывожыць,— падумаў ён,— а то быў бы табе халэмус». У яго за плячыма вісела тульская дубальтоўка, якая паблісквала варанёнаю сталлю. Ляснік са сваёю стрэльбаю ніколі не разлучаўся. Часам жонка жартавала, што ён стрэльбе, як палюбоўніцы, больш аддае ўвагі, чымся ёй, старой, з якою век пражыў.

Напаіўшы камісара, Мірон з Шпакоўскім скруцілі цыгаркі, адышліся, селі на пнях, закурылі. Яны заўважылі барацьбу мурашак з гадзюкай. Мужчыны дзівіліся, сваім вачам не верачы. Мурашкі так абляпілі гадзюку, што яна круцілася, як скурат на агні, але ніяк не магла ад іх вылузацца.

— Скажы ты,— парушыў цішыню Мірон,— якая сіла! От каб людзі, што дбаюць аб міры, гэтак дружна ўзяліся, то яны ж у парашок сцерлі б фашыста.

Хруснула суччо, рэха разнеслася па лесе. Потым стала ціха, пачуліся насцярожаныя крокі.

— Хто там можа быць? — падумаў уголас Мірон.— Хада чалавечая, а павадка воўчая.

— Ці мала на свеце злыдняў,— заўважыў Шпакоўскі.— От скажам: гітлераўцаў не сеюць, яны самі родзяцца.

Мужчыны прыглядаліся, але нікога не было відаць. Яны аблюбавалі месца для камісара, прыйшоўшы да выніку, што лепш яго на градзе да вечара пакінуць, сярод дубоў і клёнаў, вось толькі — як яны яго перанясуць? Камісар быў хоць і невялікага росту, але грузны і, як ім здавалася, некалькі непаваротны. А мо-

жа, гэта таму, што ён аслабеў? Спалатнелы камісар нерухома ляжаў.

— Аднак хто там ходзіць? — не мог супакоіцца Мірон.— Калі чалавек, то чаго ён туляецца?

Ляснік углядаўся ў гушчар і, заўважыўшы незнаёмага, спытаўся:

— Чалавеча, ты хто, адкуль?

— А ты хто? Ды вас двое? Што вы тут робіце?

— Я тутэйшы чалавек, ляснік.

— А гэты?

— Калгасны пастух.

— А я думаў, што вы мёртвых абдзіраеце. У мужыка зайздроснае вока, не любіць, калі што дзе валяецца.

— А ты хіба пан?

— Ён на свой аршын мерае!

— Чаго гэта ты так «распух»? — пытаўся ў Шпакоўскага незнаёмы.— Што гэта ў цябе? Па-а-кажы!

— Адчапіся! — сыкнуў Шпакоўскі.— Шмат будзеш ведаць, хутка састарэеш.

— Ну, што,— паглядаючы на Мірона, усміхнуўся незнаёмы.— На палазы некалі людзям шкадаваў дрэва, а тут гэтулькі лесу навалілі.

— Нешта я цябе не ведаю.

— А памятаеш Ціта Пясецкага?

— А як жа,— ажывіўся Мірон,— ён сальнікам быў.

— Вот калі! — расплыўся, як месяц, Шпакоўскі.— Яшчэ некалі — яго дубасіў.

— Ото ж, рэбры паламаў. А за што?

— За тое, што з крупчака сала прадаваў.

— Дык я яго сын, Віктар Пясецкі. Дзень добры, мужчыны!

— Дзень добры! — адказаў на прывітанне Мірон.

— Прызнацца, не пазнаў,— холадна падаўшы руку, гаварыў Шпакоўскі.— Ці даўно быў падшыванцам, а цяпер вырас на лес гледзячы.

— А ты, Шпакоўскі, усё са сваімі штучкамі. Ты, мусіць, і памрэш з усмешкай.

— А куды мне спяшацца, хачу пабачыць, як гэтых валацугаў пагоняць назад. А ты, Пясецкі, адкуль і куды?

— З Польшчы, дадому. Якія ў нас навіны?

— Кажуць, што і яршоўскі канакрад, Сымон Бурачок, вярнуўся,— нібы між іншым гаварыў Шпакоўскі.

— Не брашы,— запярэчыў Пясецкі.— Адкуль табе вядома? Дзе Яршы, гэта ж, мусіць, недзе аж на Нёмане, а дзе Азярышча?

— Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей,— Шпакоўскі сам сабе падумаў: «Прытвараецца, гадзюка, колькі ты з бацькам украдзеных Бурачком коней прадаў!»

— То вы, мусіць, мяне не чакалі? — пытаўся Пясецкі.

— Прызнацца па праўдзе,— гаварыў Мірон,— нават забыліся, што быў на свеце такі чалавек. Каму гэта ў галаве? Сваіх клопатаў багата. У нас тут такія падзеі адбыліся, не пазнаць цяпер вёскі. Людзі знайшлі кветку шчасця.

— Ай, ай, ягамосці! Як на белую варону, накінуліся і дзяўбуць, то хоць не ўсе разам,— пасміхаючыся, гаварыў Пясецкі.— Паглядзім, што за чырвоны рай...

Пачуўся голас Гарашчэні; мужчыны ўстрывожыліся. Пясецкі прыслухаўся. Камісар з гарачкі гаварыў:

— Патронаў... Смаленск... Смаленск... Чаму маўчыць Смаленск... Дайце мне Смаленск...

— Каму там гэтак любы Смаленск? — Пясецкі выняў рэвальвер. У яго з кішэні выпаў гадзіннік, відаць, узяты ў забітага. Падышоўшы, ён здзівіўся: — Што-о? Камісар? Ну так, з нашыўкамі на рукавах. А вы, ягамосці, і не бачыце? Зараз яму будзе магіла!

— Гэта яшчэ што такое? — зазлаваў Мірон.— Схавай рэвальвер!

— Ідзі ты!..

— Каму гавораць? — схапіўшы кол, крыкнуў Шпакоўскі.— Сто-о-ой!

— Чхаў я на вас! Скончылася пара камісараў! Няхай корміць чарвей!

— Ах ты, шалудзька! — замахнуўся Шпакоўскі.— Знайшоўся мне гаспадар! Пайшоў свінням хвасты круціць. Пэцкаль!

Разгарачыўшыся, Шпакоўскі не заўважыў, што ў яго споўз на калені сцяг палка. (Шпакоўскі абкруціў сябе сцягам, мяркуючы яго захаваць да звароту Чырвонай Арміі.) Пясецкі гэта заўважыў.

— Добра, я табе гэтага не дарую! — працадзіў праз зубы Пясецкі.— Век будзеш мяне помніць. Бальшавік!

— Да бальшавіка не дарос, але гатоў ім быць,— гаварыў Шпакоўскі.— Прыйшоў тут парадкі наводзіць. Згінь з вачэй, іначай на пацяруху змалачу! Без цябе хлеб елі. Смурод!

Пясецкі, падняўшы з зямлі гадзіннік, у якім ён, наступіўшы нагою, раструшчыў шкло, злосна паглядзеў на мужчын і падаўся ў кусты.

— І чаму я яго не аходаў,— лаяў сябе Шпакоўскі. Ён быў нездаволены сабою.— Трэ было смальнуць каліом, то меней было б клопату.

— А ён можа нарабіць бяды,— гаварыў сам сабе Мірон.— Трэба табе куды-небудзь сысці.

— Праўду кажаш,— згадзіўся Шпакоўскі і падаўся ў лес.— Далей ад ліха. А ты камісару скажаш, што я сцяг зберагу да прыходу нашых.

Мірон, задумаўшыся, моўчкі стаяў.

Падбегла падгалістая дзікая каза, у яе ўваліліся бакі, тырчэлі рэбры. «Адкуль яна прыджгала?» — думаў ляснік. Напалоханая каза павяла мысаю і так з месца рванула, што ажно зямля паляцела ўгару. Камісар паварушыў галавою. Угледзеўшы Мірона, ён зноў спытаўся:

— Дык хто ты?

— Ляснік.

— Што тут робіш?

— Цябе сцерагу,— паўтарыў Мірон.

— Навошта я табе спатрэбіўся?

— Не выпадае чалавека без дагляду кінуць, калі ён бездапаможны. Трэба мець сэрца.

— Ой, грудзі...

— Пацярпі, саколе! Увечары мы цябе перанясем у вёску, знойдзем фельчара.

— Не ведаю, ці сніў я або ты з некім тут гаварыў?

— Прыцягнуўся якісьці ліхадзей. Гудзе і гудзе над вухам, як камар, табе спаць не дае, дык мы яго адсюль патурылі.

— Дзе немцы?

— Далёка ўжо,— з болем у сэрцы адказаў Мірон.— Але вы біліся, як салдаты. Дорага гэта немцу кашта-

вала. Пра сцяг палка хочаш спытацца? Яго Шпакоўскі так схавае, што ніякі сабака не знойдзе. Паляжы! От жа неяк будзем жыць. Паправішся. Мы яшчэ паваюем.

— Я хачу прабрацца да сваіх,— падымаючыся, гаварыў камісар.— Прынясі мне сцяг. О-ой!

Гарашчэня асунуўся, у яго на лобе выступіў халодны ліпкі пот. Мірон занепакоіўся. Расшчапіўшы Гарашчэню зубы, ён уліў яму ў рот вады. Гарашчэня, цяжка ўздыхнуўшы, скрывіўся, відаць, яму моцна балела. Улажыўшы камісара вышэй, падклаўшы пад галаву procівагаз, Мірон, адышоўшыся, задумаўся: «Паваюем? З голымі рукамі не палезеш у бойку...» Яму прыйшла ў галаву думка прыбраць да рук зброю, якая валялася на полі бою.

Камісар, пастагнаўшы крыху, зноў сцішыўся. У лесе стала ціха, як пасля навальніцы. Чуваць было, як гулі пчолы, недалёка стукаў дзяцел, зашчабятала птушка, нейкая не знаёмая вуху Мірона, што ён аж паглядзеў у той бок, але яе не ўбачыў. Адышоўшыся, Мірон сцягваў зброю да вывернутага дуба. Пад вечар на полі бою з'явіліся немцы, яны, сагнаўшы сялян з некалькіх вёсак, падбіралі зброю, хавалі забітых.

Каля дарогі, як грыбы пасля дажджу, раслі бярозавыя крыжы з каскамі наверсе. Салдат па некалькі хавалі ў магіле і ставілі адзін крыж. Афіцэраў жа хавалі па аднаму, і нават у трунах. На крайніх крыжах з каскамі ўжо сядзелі, каркаючы, вароны.

Мірон, зрабіўшы з ельніку будан, паклаў там Гарашчэню, папярэдзіўшы, каб ён сваімі стогнамі не выдаў сябе. Камісар ляжаў ціха, слухаючы камарыны перазвон. А ляснік меркаваў, як ыратаваць паскіданую ў варонку зброю, якую немцы маглі знайсці і забраць.

Маладыя дзяўчаты — настаўніца з Азярышча Наста і яе сяброўка, студэнтка медычнага інстытута Марыйка, якія былі выгнаны, каб сцягваць забітых,— крыху асвоіўшыся, пасмялеўшы, лаялі немца на чым свет стаіць, а той, не разумеючы мовы, толькі лыпаў вачыма. Сяляне ўсміхаліся.

— Чаго вас сюды прынесла нячыстая? — бубніла Наста.— Чаго ты вылупіў вочы, як баран перад новымі варотамі? Дурань!

— Я, я,— лапатаў немец.

— Пэўна ты,— захоўваючы ўхмылку, гаварыла Марыйка.— Жылі мы без вас, гора не ведаючы. Прывалакліся немаведама адкуль. Усё адно ўсіх вас перацягаем на могілкі. Думаеш, што ты данясеш ногі да свае Гертруды? Трасцу!

— Найн, найн,— ківаў галавою немец.

— Ясна, што не,— іранізавала Наста.— Пацукі вы няшчасныя! Гіцалі! Авечкі бязмозглыя! Каб на вас чэрці смалу вазілі!Ператаўком вас тут, як мышэй! Не сабраць вам сваіх касцей! Гадзюкі!

— Нацюрліх! — усміхаўся немец.

— Чаго ты выскаляешся, як свянцонае парасё на вялікдзень? — прагаварыла старая.— Недавярак!

— А мне казалі — немцы, немцы! — пачынала злавацца Марыйка, а потым, гледзячы на немца, гаварыла: — А вы тупыя і высакамерныя, чванлівыя, наглыя і жорсткія. Ваш «новы парадак» пашыты прускімі іголкамі на жывую нітку. І чаму ты сумны, нібы ў цябе не ўсе дома? Усе вы кроены па фюрэравай мерцы. Вар'яты! Не бачыць вам Расіі як сваіх вушэй.

— От сціхніце вы, перапёлкі, нагаворыце на сваю галаву,— папярэджваў сярэдніх год мужчына.— А можа, ён толькі прыкідваецца, што не ведае мовы... Можа, гэта які гестапчык...

— Я, я,— лапатаў немец, заглядаючы на дзяўчат.— Фюрэр...

Немца паклікаў нейкі начальнік. На гэтым размова абарвалася. Сяляне пераносілі ў труне афіцэра.

— Хлопцы,— падміргнуў Мірон.— Кідай у варонку гэту навалач. Потым прысыплем. А цяпер бярыце вось гэтую зброю і нясіце хаваць. Прыкмячайце толькі магілу. Потым раскапаем. Хто там у кустах?

— Мікалай Дрозд,— паведаміў адзін з мужчын.— Ён жыватом хварэе.

— Хутчэй забівай дамавіну,— гарачыўся Гальяш.— Барзджэй! З вамі прападзеш ні за нюх табакі. От маруда! Папоў парабак! Пайшлі!

Сяляне асцярожна неслі труну са зброяю, немцы станавіліся ва фронт, аддавалі чэсць. Гальяш, задаволены, пасміхаўся ў рыжы пракураны вус. Несучы труну праз канаву, што ішла каля роўнай, як струна, залітай асфальтам дарогі, адзін з сялян спаткнуўся. Забразгацела зброя. Мужчыны ледзь утрымалі труну.

Гальяш, не вытрымаўшы, аблажыў сялян моцным слаўцом.

— Рускі нават на пахаванні не можа абысціся без лаянкі,— гаварыў на ломанай рускай мове афіцэр.— Мы гэта выведзем! Мы навядзем парадак! Абразумім!

— А ведаеце,— гнуўся ў тры пагібелі перад немцам Пясецкі, імкнучыся яму дагадзіць,— мне казалі, што на адным заводзе рускія абвясцілі барацьбу з «матам». І што вы думаеце? Знізілася вытворчасць працы. Дык няхай лаюцца, ягамосць, абы ўпраўна рабілі. Хе-хе-хе!

— Што вы гэтым хацелі сказаць? Вам хочацца, каб яны ўпраўна хавалі немцаў?

— Ой, што вы, бронь божа, у мяне гэтага і ў галаве не было. О, Езус Хрыстус! Я гатоў панам немцам служыць чым магу. Хіба ж у мяне на плячах галавы няма?

— Дык, кажаце, згодны служыць немцам (Пясецкі станоўча кіўнуў галавою), то будзеце за старасту. Але глядзіце акуратна выконвайце нямецкія загады, бо інакш не доўга вам насіць галаву на карку. Дурную галаву з плеч далоў!

— Буду служыць панам немцам верна. У мяне з бальшавікамі свае рахункі. Майго бацьку яны раскулачылі. Ён у Польшчу ўцёк. А які з яго кулак? Толькі таго, што меў лішнюю капейку...

— Зразумела,— перабіў афіцэр Пясецкага.— Толькі ведайце, што калі хоць у аднаго немца волас з галавы ўпадзе...

— Ясна.

— Можа, у вас ёсць на прыкмеце яшчэ верныя нам людзі?

— Паблізу няма.

— А дзе ёсць?

— Кажуць, у Яршах з'явіўся Сымон Бурачок. Надзейны.

— Гут,— запісаў сабе ў блакнот афіцэр.— Ваш абавязак...

Пакуль афіцэр даваў інструкцыі старасту, сяляне пранеслі яшчэ дзве труны са зброяй. А Мірон з Настаю і Марыйкаю за гэты час перанеслі ў другое месца камісара. Там, дзе ляжаў Гарашчэня, асталася толькі яго шапка, якую, спяшаючыся, забыліся ўзяць. Афіцэр

з Пясецкім падыходзілі да Мірона, які ў гэты час закопваў у варонцы трупы нямецкіх афіцэраў. Угледзеўшы афіцэра, які ішоў з Пясецкім, Мірон схапіў шапку камісара і кінуў у яму.

— А дзе камісар? — падышоўшы, запытаў Пясецкі.

— Памёр,— захоўваючы хваляванне, адказаў Мірон.— Хаваем...

— Ну, шчасце тваё! — прасіпеў Пясецкі.— А, не давядзі бог, быў бы ён жывы, то і табе б нездабраваць. А дзе Шпакоўскі?

— Не ведаю.

— Ідзі на могілкі!

— А ты што за асэсар будзеш? Пакуль што мною пан афіцэр распараджаўся.

— Стараста,— задраўшы нос, адказаў Пясецкі.

— Ого! — мнагазначна заўважыў Мірон.

— Я пашоль адпачыць,— звярнуўшыся да Пясецкага, сказаў афіцэр.— А ты глядзі, каб людзі працавалі. Праз дзве гадзіны я тут буду.

Афіцэр, увагнуўшыся, пайшоў у вёску Азярышча, насвістваючы салдацкую песню. Пясецкі з Міронам асталіся з вока на вока.

— Што значыць «ого»? — пытаўся Пясецкі.

— «Ого», значыць, на сабачы хлеб падаўся,— не ўтрымаўся Мірон.— Служыў белапалякам, а цяпер немцам.

— Глядзі, Мірон, не памерці вам з Шпакоўскім сваёй смерцю!

— Ах ты, гадзюка! — сціснуў у руках рыдлёўку Мірон, але, угледзеўшы нямецкага салдата, астыў.— Бачыў, колькі дрэваў навалена, а лес усё шуміць. Насупраціў народа пойдзеш, галаву адкруцяць. Цьфу! Не хочацца толькі рук пэцкаць. Брыда!

— Ну добра, мы яшчэ з табою сустрэнемся,— злосна прагаварыў Пясецкі, трасучы рыжай бародкай.— Будзеш ты ў мяне на каленях поўзаць.

— Сыдзі з вачэй! Чуеш, не крой сэрца, бо калі раззлуюся...

Стараста таропка пайшоў да дарогі, яго постаць нагадвала пытальнік. На блакітным небе адна адну абганялі хмары, згушчаючыся на ўсходзе. Ляснік з рыдлёўкаю стаяў, поўны рашучасці; на сэрцы ў яго кіпела,

рукі сціскаліся ў кулакі. Ён зусім не заўважыў, як да яго падышлі Марыйка з Настай, яны былі заклапочанымі.

— Як камісар? — запытаўся Мірон.

— Дрэнна,— адказала Марыйка.— Тэмпература... Пульс...

— Ты скажы мне, ён выжыве?

— Не ведаю.

— Мусіць, не,— уголас падумала Наста.— Шмат крыві страціў.

— Шка-а-да,— цяжка ўздыхнуў Мірон.— Ён нам вельмі патрэбен.

— Будзем з апошніх сіл ратаваць,— гаварыла Наста.— Перанясем да мяне, за ім патрэбен догляд. Ты, Марыйка, не здолееш пераліць яму кроў?..

— А дзе яе ўзяць? — нахмурыўся Мірон.

— У мяне можна было б,— паведаміла Наста.

— Гэта інтэрас! — загарэўся Мірон.— Як, Марыйка, такі ж ты вучылася на доктара?

— Я гэтага не здолею зрабіць,— адмоўна ківала Марыйка галавою.— Патрэбны клінічныя ўмовы.

— І чаму вас толькі вучылі,— нездаволена вымавіў ляснік.— Умовы... А калі чалавек памірае... А можа, ужо сканаў...

Яны падышлі бліжэй.

— О-о-ой! — пачуўся слабы голас камісара.— Браткі! Ратуйце! Камары заядаюць!

Мірон і Наста з Марыйкаю кінуліся да Гарашчэні, напаілі яго вадою, паправілі пад галавою, накрылі шэрым салдацкім шынялём. Камісар заснуў. Дзяўчаты з лесніком пайшлі цягаць трупы немцаў.

## 2

Ноччу Гарашчэню, акрываўленага, усяго скусанага камарамі, перанеслі на шынялі, які быў у некалькіх месцах прабіты кулямі і асколкамі, прапах салдацкім потам і махоркаю, у вёску Азярышча. Апрытомнеўшы, раніцою камісар аглядаў пакой, не ведаючы, як ён сюды трапіў. У пакоі нікога не было. Пераадзеты ў цывільную адзежу, ён ляжаў на чыстай пасцелі. У пакоі манатонна гула муха, б'ючыся аб шыбу акна.

Пакой вясковай настаўніцы Насты быў абклеены таннымі шпалерамі, стаяла этажэрка з кнігамі, на сценах віселі выразаныя з часопісаў партрэты рускіх і беларускіх пісьменнікаў, рэпрадукцыі з вядомых карцін Траццякоўскай галерэі. На этажэрцы ляжала круглае люстэрка, ад чаго на сцяне над дзвярыма блішчаў «зайчык».

Раніцою, яшчэ не апала раса, Марыйка прынесла букет чырвоных макаў і паставіла на стол, накрыты вышываным абрусам, з прошыўкаю пасярэдзіне. Пад адну ножку стала была падложана акуратна складзеная папера са спісанага сшытка. Макі яшчэ не паспелі абсохнуць. На белы абрус скацілася чыстая, як дзіцячая сляза, расінка.

З кухні несла падгарэлым малаком. У пакоі пахла чадам, хоць фортка і была адчыненай. У Гарашчэні забалелі плечы, ён хацеў павярнуцца: заскрыпеў ложак, застагнаў паранены, як ні намагаўся хворы легчы на бок, у яго нічога не выходзіла. «От прыкавала,— падумаў камісар.— Які цяжкі стаў, нібы сто пудоў важу...»

У пакой ціха ўвайшлі Наста з Марыйкаю. Яны паклалі на стол бінт, медычныя прылады, якія былі ўзяты ў мясцовага фельчара.

Наста была высокай, танклявай, з вялікімі сінімі вачыма. Дзве русыя тоўстыя касы звісалі ніжэй паясніцы. Калі яна гаварыла, відаць былі крыху завялікія, белыя, як часнок, роўныя зубы. Марыйка насіла стрыжку. Яна была сярэдняга росту, з крыху танкаватымі нагамі і, каб згладзіць гэты недахоп, насіла даўгія сукенкі. Чорныя вочы Марыйкі гарэлі агнём, у іх шмат было энергіі. На галаве Марыйкі была гара чорных як смоль валасоў, якія пасмамі звісалі на смуглявы твар і кароткую, як вытачаную, шыю. Калі Марыйка ўсміхалася, відаць былі рэдкія белыя зубы, моцныя, як і яна сама. Гарашчэня заварушыўся.

— Ляжаць, ляжаць, хворы,— з напускной суровасцю гаварыла Марыйка,— зараз будзем рабіць перавязку.

Марыйка разарвала кашулю на параненым, змыла кроў, якая запяклася кругом раны. Усё гэта дзяўчына рабіла хутка, нібы куды спяшалася. Гарашчэня ад болю крывіўся, кусаў губы, але маўчаў.

— Усё? — не вытрымаў ён.

— Зараз,— апрацоўваючы рану, адказала Марыйка.— Пацярпіце крыху...

Наста, убачыўшы адкрытую рану, збялела, пахіснулася і, каб утрымацца на нагах, узялася рукою за ложак.

— Вазьмі нашатырнага спірту,— параіла ёй Марыйка.

— Нічога,— адмовілася Наста.

— Памажы мне павярнуць на бок,— папрасіла Марыйка.

— За што вы мяне мучыце?.. Пачакайце, я вам аддзячу...

— Не страшце! — усміхнулася Наста.— Вось што. З сённяшняга дня вы мой брат, Мікалай. Не пярэчце, так вырашана. Не забудзьце — Мікалай Іванавіч Свірчэўскі, настаўнік. Ён у дзень вайны пайшоў у войска. Частку сваіх дакументаў брат пакінуў у мяне. Пашпарт і вайсковы білет вы страцілі пры бамбёжцы. Дакументы — ляжаць у вас пад падушкай. Яшчэ раз паўтараю — Мікалай Іванавіч Свірчэўскі.

— Як жа...— памкнуўся гаварыць Гарашчэня.

— Усё будзе добра,— перабіла Марыйка.— Не пярэчыць! Вось толькі з харчамі цяжкавата... Але нічога, умовіліся: сяляне па чарзе будуць карміць. Сёння Беразоўскіх дзень. Хацелі палажыць вас у школьным гумне, але Наста адгаварыла. Тут сапраўды будзе лепей.

У пакой увайшоў Міхась Беразоўскі, вучань Насты, з прадуктамі. Ён быў непаваротлівы, як цюлень, з доўгімі нязграбнымі рукамі і радзімкай на шчацэ.

— Міхаська! — прасіла Марыйка.— Памажы нам хворага пасадзіць.

— Мяшок! — злавалася Наста, калі Міхась не так узяў параненага.— Ты ж яму руку падвярнуў... А гэты маўчыць... Гора мне з вамі... мужчыны...

Перавязаўшы Гарашчэню, Марыйка пайшла дадому, а Наста пачала паіць хворага гарачым малаком. Наста гладзіла яго слабую руку, разглядаючы яе, заглядаючы яму ў твар. Не сядзелася Марыйцы дома, яе цягнула да параненага. Праходзячы каля акна, Марыйка ўгледзела, як яе сяброўка нахілілася над хворым. Нахмурыліся чорныя вочы дзяўчыны, яна мімаволі павярнула назад і хутка знікла. Насту якаясьці сіла,

не вядомая дзяўчыне, вабіла да гэтага, здаецца, даўно знаёмага і блізкага ёй чалавека.

Да камісара зайшоў Мірон, прынёсшы з сабою мёду, а неўзабаве — і Шпакоўскі са збанком малака. Гарашчэня ляжаў белы як папера, з пасінелымі губамі. Ён цяжка дыхаў. Закашляўшыся, камісар лыпнуў вачыма. Угледзеўшы мужчын, якія былі яму ўжо знаёмыя, Гарашчэня ўзрадавана ўсміхнуўся.

— Вы што ж гэта, паміраць сабраліся? — загаварыў Мірон.

— Наадварот, хачу жыць, змагацца,— адказаў Гарашчэня.— Каб толькі хутчэй паправіцца.

— Паправіцеся,— заспакойваў Мірон.— Дык ведаеце — хто вы цяпер? Брат Настассі Іванаўны, настаўнік, Мікалай Іванавіч.

— Ведаю.

— Толькі хутчэй папраўляйцеся.

— А тады што будзе?

— Будзем абараняцца,— сказаў Шпакоўскі.

— А трэба наступаць,— паправіў яго Гарашчэня.

— Яшчэ лепей! — усклікнуў Мірон.

— А толькі для гэтага шмат чаго трэба: шапкамі немца не закідаеш; дый «святым духам» не будзеш жыць,— працягваў Гарашчэня.

— Аб харчах не можа быць гаворкі,— запярэчыў Мірон.

— А гаворка павінна быць,— не згадзіўся Гарашчэня.

— І сапраўды, чаго варты салдат з галодным жыватом,— згадзіўся Шпакоўскі.

— А тым больш без зброі,— падкрэсліў Гарашчэня.

— Ну і галава ў вас, залатая! — засмяяўся Шпакоўскі.— Разжуюць і ў рот паложаць. Адносна зброі мы паклапаціліся, а пра харчаванне і не падумалі.

— Ваша праўда,— паглядзеў на камісара Мірон.

— Не завіце мяне на «вы», мы ж, здаецца, так даўно знаёмы!

— Ага! — усміхнуўся Шпакоўскі.— Мэрам год, а ўсяго толькі адзін дзень. Але ваенны дзень даўжэйшы за год.

— Добра,— згадзіўся Мірон.— Але ж на «ты» неяк не выгаварваецца. Такі чалавек!

Да хворага прыйшоў Гальяш, а потым яшчэ некалькі чалавек. Яны вырашылі, калі стараста выдасць немцам Гарашчэню, адстаяць яго што б там ні было.

— Не крыўдуй, камісар, і ты, гаспадыня, што мы прынеслі ў хату гэтулькі тлуму,— гаварыў Мірон.— У вёску прыехаў камендант, усіх правярае. Калі толькі стараста выдасць цябе, задушу яго сваімі рукамі.

— Дзядзька Мірон! — перабіла Наста, паказваючы на Гарашчэню.— Хіба ж...

— А я меркаваў, што тут усе мужчыны,— усміхнуўся Мірон.— Камісар не маленькі, ведае, чым нам з ім пахне, ну і табе... а толькі ты не бойся!

— Я і не баюся...

— Гэта ты толькі гаворыш,— запярэчыў Мірон.— Ніхто не хоча паміраць.— Мірон паглядзеў на букет кветак, што стаялі на стале, і прадоўжыў: — Ідзе такая калатня, а ім кветкі. Але ж якія прыгожыя. От што значыць жыццё!

— Гэта не мае макі,— паведаміла Наста.— Марыйка іх прынесла. Я не люблю макаў.

— Куды Марыйцы да цябе! Адны твае косы чаго варты. Эх, каб мне гадкоў трыццаць назад! — жартаваў Мірон.— Не ўтрымаўся б, каб не прыйсці на вячоркі.

— Ой, дзядзька! Скажу цётцы. Будзе лупцоўка!

На ганку пачулася чужая гаворка. Гэта ішоў камендант у суправаджэнні старасты. Ён голасна гаварыў, запэўніваючы, што ў вёсцы нікога з чужых няма. У пакоі захваляваліся.

— Строгі, кажуць, камендант,— захоўваючы ўзрушанасць, ціха гаварыў Мірон.— Нікому не давярае, усюды свой нос уткне... пакуль яго не растаўкуць...

— Да пары збан ваду носіць,— прагаварыў Шпакоўскі.— Будзе час, калі іх адсюль патурым! Ажно пяткі заблішчаць!

Камендант увайшоў у пакой. Чыста паголены, адкормлены, камендант нагадваў каўбасніка. На яго вузкім ілбе і тоўстым карку выступалі дробныя кропелькі поту. Камендант выціраўся белай хустачкаю. А неўзабаве зайшоў паліцыянт, відаць, аднекуль прывезены.

— А гэта што за людзі? — запытаўся ў старасты на ломанай рускай мове камендант.

— Усе свае,— чмыхаючы, надзеючы акуляры, адказаў стараста.— Вось толькі таго не ведаю. Дзесьці я яго бачыў... Здаецца....

— Гэта мой брат,— хвалюючыся, гаварыла Наста. Яна не ў сілах была захаваць трывогу.— Яго на дарозе з самалёта паранілі...

— Брат? — перапытаў Пясецкі, сілячыся ўспомніць, дзе ён з ім сустракаўся. Нарэшце стараста схамянуўся, разявіў рот, каб нешта сказаць, але, паглядзеўшы на лесніка, спалохаўся і замармытаў: — Бра-а-ат, брат...

— Дакументы,— звярнуўся камендант да Гарашчэні.

— Пад падушкай,— адказаў Гарашчэня.— Дастань, сястрыца...

Наста дастала дакументы і перадала іх каменданту. Той, разглядаючы, па складах чытаў:

— Свірчэўскі, Мікалай Іванавіч. Настаўнік,— камендант паглядзеў на Гарашчэню.— Куды вы паранены?

— У грудзі,— спакойна адказаў Гарашчэня.

— Хто і дзе?

— З самалёта ў жыце.

— У войску служылі?

— Не.

Стараста ўстрапянуўся, канчаткова ўпэўніўшыся, што гэта той чалавек і ёсць, якога ён бачыў у лесе ў форме камісара. Пясецкі, як сабака, завіляў хвастом, заглядаючы ў вочы каменданту, намерваючыся сказаць нешта важнае. Мірон, поўны рашучасці, сціснуўшы кулакі, падаўся наперад. Ён вачыма, як агнём, апёк старасту. За спіною Мірона стаялі Шпакоўскі і Гальяш, гатовыя кінуцца ў бойку. Паглядзеўшы на мужчын, Пясецкі спалохаўся, пабялеў, у яго закалаціліся рукі, задрыжалі ногі, забегалі блудлівыя навыкаце вочы, ён шмаргануў мясістым носам. У старасты язык свярбеў, хацелася дагадзіць немцу, але ён баяўся сялян.

— Дык хто вас падстрэліў? — дапытваўся камендант.

— Вашы з самалёта. Я ішоў па дарозе да сястры. І чаму вы страляеце ў цывільных? Я на свае вочы бачыў забітых жанчын, дзяцей.

— А хіба зверху разбярэш, хто цывільны, а хто вайсковы?

— Ваш самалёт,— гнеўна гаварыў Гарашчэня,— нізка апусціўся, абстраляў статак кароў і авец, забіўшы пастушка. Няўжо ён і тут не разабраўся? А потым ён на дарозе расстраляў натоўп народу. Канешне, ваяваць з мірным насельніцтвам лягчэй. Ці не паставілі вы задачу — знішчыць народ?

— Вайна ёсць вайна,— гаварыў камендант.— А хто можа пацвердзіць, што вы яе брат?

— Усе людзі і... стараста.

— Ён брат настаўніцы? — перапытаў камендант, гледзячы на старасту.

— Брррат,— разгублена сцвердзіў Пясецкі, хаваючы акуляры, імкнучыся не сустрэцца ні з кім вачыма.

— Як ачуняеце, зойдзеце ў камендатуру,— збіраючыся выходзіць, загадаў камендант.— Мне трэба будзе з вамі пагаварыць адносна знішчэння народа...

— Добра.

— Бра-а-т,— выходзячы, паглядаючы скоса, чмыхаючы носам, прамармытаў Пясецкі.

Апошнім з пакоя выйшаў паліцыянт. Ён моўчкі, рэзка паправіўшы перш адзін рыжы вус, а потым другі, якія тырчалі, як у ката, дэманстратыўна пайшоў, зазначыўшы:

— Ой, гэтыя грамацеі, з імі гора не абярэшся!

— Выдасць стараста ці не? — уголас падумала Наста.

— Пабаіцца,— няўпэўнена сказаў Мірон.

Камендант са старастам і паліцыянтам пайшлі ў другі бок вёскі. Брахалі, зазываючы на розныя галасы, сабакі. Азярышчанцы збіралі падаткі: хто сыпаў у мяхі збажыну, хто нёс на пункт яйкі, хто курэй лавіў; сяляне, каб ніхто не чуў, кожны сам сабе, лаяў немцаў.

— То трэба нешта рабіць,— перамагаючы страшэнны боль, гаварыў Гарашчэня.— Сядзець ля мора і чакаць пагоды нельга. А то немцы абчысцяць усіх як ліпку,ператаўкуць людзей, як мух. Фашысты для гэтага і прыйшлі сюды. Ім патрэбны «жыццёвыя прасторы». Славян яны лічаць ніжэйшай расай. А таму можна знішчаць. Трэба неадкладна дзейнічаць.

— Праўду чалавек кажа,— загаварыў пасля роздуму Мірон, ён на вачах пераўтварыўся.— Прыйдзецца

нам з вамі, Шпакоўскі і Гальяш, узяцца за арганізацыю справы барацьбы з немцамі. Збяром зброю, падрыхтуем харчы. А ты, Міхаська, будзеш пры камісару. І так, мужчыны, за дзела. Няхай чалавек адпачне.

Мужчыны збіраліся выходзіць, твары іх былі рашучыя, гарэлі вочы. Адчуванне ў іх было такое, што яны нешта важнае зрабілі, перайшлі нейкі рубеж.

— Зачыні, Настачка, за людзьмі дзверы,— прагаварыў Гарашчэня і папрасіў: — А ты, Мірон, на мінутку астанься.

— Добра.

— Дык што будзем рабіць? — калі ўсе выйшлі, уголас падумаў Гарашчэня.

— Рабі, як кажа сэрца. Мы цябе ўсёй душою падтрымаем,— пасля раздумы загаварыў Мірон.— Скажу табе па праўдзе, у мяне адзіная надзея на партыю. Так думаю не толькі я, але і іншыя беспартыйныя. Партыя не кіне людзей у бядзе.

— Мяне цікавіць, хто тут пакінуты для наладжвання падпольнай работы?

— Каб жа ведаў чалавек.

— Пачнем з малога,— прапанаваў Гарашчэня.— Трэба знайсці надзейнае месца ў лесе і там стварыць базу.

— То і я так думаў!

— Там назапашваць зброю і харчы.

— Во, во!

— А галоўнае — падбіраць людзей. Не трэба гнацца за колькасцю. Створым пакуль невялікі рухомы партызанскі атрад.

— Ясна.

Правёўшы за дзверы людзей, Наста вярнулася ў пакой, адчыніла акно, зашалясцелі фіранкі. На вуліцы чуваць было галашэнне жанчыны, як па нябожчыку. Наста выглянула ў акно і ўбачыла, як стараста з паліцыянтам цягнулі за рогі карову, тая ўпіралася, равучы, нібы адчуваючы сваю хуткую пагібель. Салдатка праводзіла падласую за вёску. Трымаючыся за матчыну спадніцу, за жанчынаю цягнулася чарада белагаловых босых дзяцей, у якіх ногі былі хоць рэпу сей. Дзеці выціралі кулачкамі слёзы. Паліцыянт пагразіў жанчыне, тая адстала.

— Праклятыя! — крычала салдатка ахрыплым го-

ласам.— Дзяцей на нішчымніцу пакінулі! Забірайце і іх, гіцалі вы няшчасныя!

— Не плачце,— супакойваў слабым голасам, як стары, хлопчык сястрычак.— Слязьмі ворага не б'юць. Прыйдзе татка і дасць ім дыхту...

— Бацькі, можа, ужо і ў жывых няма,— гаварыла салдатка.— Людзі, што ж вы маўчыце?! Сёння ў мяне карову забралі, а заўтра ў вас возьмуць. Эх, прападзі ты пропадам такое жыццё! Вось навала, вось напасць! І чаго яны прыйшлі сюды, гэтыя валацугі!

— Хто гэтай жанчыны муж? — спытаўся Гарашчэня.

— Камандзір запаса, мабілізаваны ў першы дзень вайны,— адказаў Мірон.— Ён быў старшынёю сельскага Савета...

— Трэба гэтай жанчыне памагчы.

— Добра,— Мірон дастаў з кішэні два рэвальверы і прапанаваў Гарашчэню.— Няхай будуць, можа, спатрэбяцца. Хаця Наста і не ўмее страляць, але ж можна навучыць,— і ён выйшаў.

— Няўжо Пясецкі выдасць? — уголас пыталася Наста і сама адказала: — Усё можа быць, яму чалавека ўтапіць — раз плюнуць. Што можна ад яго чакаць, калі ён радзімы адрокся? Без радзімы чалавек — жабрак. У яго нічога няма за душою. Такія людзі бацьку могуць прадаць, маці... А можа, пабаіцца? Не! То я за нішто сваё жыццё не аддам. Пастараюся, каб яно даражэй каштавала! Вы навучыце мяне страляць?

— Абавязкова!

Наста адзін рэвальвер палажыла Гарашчэню пад падушку, а другі ўзяла сабе. Гоман на вуліцы нарэшце сціх. Камендант, праходзячы каля школы, паглядзеў на Насту, як кот на мыш, і, нешта сказаўшы старасту, зарагатаў. Пясецкі таксама смяяўся, заглядаючы каменданту ў яго памутнелыя вочы.

Гарашчэню не зачапілі. Стараста пабаяўся яго выдаць. Навальніца пакуль мінула.

### 3

Паўз вёску Азярышча цякла ціхая, паўнаводная рэчка Дрыгвія. Яна дугою абгінала азярышчанскія сенажаці. З незапомных часоў на гэтай «дузе» на Купал-

ле пускалі на рэчку вянкі, распальвалі касцёр, спявалі. Сярод іншых чулася песня:

Зазвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песня наша, як воля, магутная!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў свет рэхі грымучыя.

Выйшла на рэчку некалькі чалавек моладзі і ў 1941 годзе, але не ■ вянкамі, а з рыдлёўкамі, каб зрэзаць «дугу» каля вёскі Капачы. Іх падштурхнуў на гэта Сяргей Васільеў, былы начальнік МТС. Ён быў пакінуты для падпольнай працы. Сяргей апынуўся ў Беразнянцы з пуцёўкаю ЦК ВКП(б). Да гэтага ён працаваў у Ленінградзе, на Кіраўскім заводзе, токарам. Адправіўшы сям'ю з апошнім эшалонам на Урал, Сяргей вярнуўся ў Беразнянку і пачаў арганізоўваць падполле, узнімаючы людзей на змаганне. Але ў Беразнянцы яму жыць нельга было, таму што там яго ўсе ведалі.

Зрэзаць «дугу» каля вёскі Капачы трэба было для таго, каб дастаць адтуль зброю. У часе адступлення там была пераправа, і людзі казалі, што ў рэчцы павінна была быць нават гармата.

Выставіўшы на гары варту, каб часам якая немач не прывалаклася — ці мала тут злыдняў у зялёных шынялях па дарогах ездзіць,— моладзь старанна працавала. Кіраваў усім гэтым Шпакоўскі. Ён трапным словам, прыказкаю падбадзёрваў дзяўчат і хлопцаў:

— Гэта ж каб узяліся ўсёю вёскай, дык колькі тае работы,— разважаў услых Шпакоўскі, каб пачуў Сяргей.— А так правалэндаемся ўвесь дзень. Нашых людзей, як таго мядзведзя, пакуль раззлуеш...

— А ты хто, немец?! — усміхнуўся Сяргей.

— Не, беларус.

— Дык чаго ты на сябе клеплеш,— пярэчыў Сяргей.— Шмат дзе я быў на свеце, багата бачыў людзей, а на беларуса не паскарджуся. Беларус памяркоўны да сяброў і грозны да ворагаў. Тутэйшага чалавека не сагнеш і не зломіш. Ён наперад глядзіць, у будучыню. Добра разбіраецца, што святло для яго ідзе не з захаду, а з усходу. Гэта трэба ведаць!

— Ведаю,— ганарыўся Шпакоўскі.

Яны адышліся ўбок.

— Я хацеў бы пабачыць Мірона,— паведаміў Сяргей.

— Ён паехаў у Беразнянку.
— Чаго?
— Дастаць зброі.
— На базары?! — усміхнуўся Сяргей.
— На базар ніхто не павязе... але купіць можна... зброю хаваюць у лесе...
Сяргей з Шпакоўскім доўга гаварылі, а потым, развітаўшыся, разышліся. Яны былі даўно знаёмыя, не раз сустракаліся на паляванні, а цяпер вялі сумесную барацьбу супраць немцаў.
Па пясчанай прасёлкавай дарозе, на каламашцы, трушком, ехалі Мірон п Гальяшом на кірмаш. Яны чулі, што на базары ў Беразнянцы можна часам абзадачыць вінтоўку, а то і аўтамат за недарагую цану. Мужчыны ехалі моўчкі, аб'язджаючы дарогі, дзе маглі натрапіць на немцаў, баючыся, каб у іх не адабралі спажыткаў, на якія яны намерваліся прыдбаць зброю.
Сцяною стаяла спелае жыта, поўныя каласы хіліліся долу, чакаючы жней. Даўно ўжо на гэтым палетку не было такога ўраджаю. Калыхаліся на полі залацістыя хвалі. Месцамі зерне асыпалася на зямлю. Спявалі на ўсе галасы птушкі. Балела душа ў мужчын. «Каму давядзецца есці гэты хлеб? Няўжо праклятым гітлераўцам?»
Паголены, Мірон выглядаў даволі маладым, хоць яму падбіралася пад шэсцьдзесят год. Ён быў апрануты па-святочнаму. У апошнія гады Мірон рэдка калі надзяваў кашулю, якую яму жонка, будучы яшчэ дзяўчынай, вышыла і падаравала перад самым вяселлем. Як і тады, калі ён браў шлюб, Мірону здавалася, што няма на свеце лепшай вышывальшчыцы за Кацярыну, яго жонку, так і цяпер ён не змяніў свае думкі. І на самой справе, кашуля была прыгожай. З-пад чорнага палітона, у якім быў Мірон, відаць былі кутасы вытканага Кацярынай пояса.
Характар у Мірона быў цвёрды: калі ён што наважыць зрабіць, дык, хоць ты кол у яго галаве чашы, ён усё адно дамажацца свайго. Кацярына добра ведала мужа, а таму ніколі ні ў чым не перашкаджала, бо ўсё гэта было дарэмна. Ён прытрымліваўся погляду, што чалавек усё можа зрабіць, калі толькі захоча. І цяпер Мірон быў упэўнены, што дастане зброю. Калі б немцы не стаялі ў Падгайнаўцы, дык ён бы паехаў туды, бо

ведаў, што там шмат у каго з сялян была схавана зброя.

Гальяш быў іншай натуры: трапяткі, заўсёды некуды спяшаўся,— ён і цяпер падганяў каняку,— гарачыўся, хоць і кахаў сваю жонку, але часам ёй ад яго пападала. Ён з маленства не цярпеў нічога даматканага, заўсёды хадзіў у крамным. Зрэбніна яму муляла, кусалася. Гальяш быў высокі, худы і некалькі сутулы. Чалавек ён быў крутога характару. Жонка ў Гальяша была добрай, але злоснай. Усе ведалі, што Гальяшыха часам бралася «ў рожкі» з мужам. Але калі з'явілася малое, то з'явіўся і клопат, і яны абое крыху паспакайнелі.

Мірон з Гальяшом на хаду скруцілі цыгаркі, закурылі; шэры дым кольцамі падымаўся ўгору і знікаў. Конь, увесь узмылены, што нават галава і вушы былі мокрымі, ледзь цягнуў воз, цяжка беручыся на гару. Цяпер у яго можна было пералічыць рэбры, вытыркаліся клубы, ён быў дашчэнту спрацаваны,— а калі быў у калгасе, то на незацугляным, бывала, не паедзеш.

— Но-о, трыбухаты,— махаў пугаю Гальяш.

— Каб ты ведаў, хлебаробе,— разважаў Мірон,— як у мяне свярбяць рукі. Мусіць, хутка схопімся з прусакамі. Я з-за іх спаць не магу. Улезлі, як свінні, у чужы агарод і зямлю рыюць. Славяне за сябе пастаяць!

— А каб цябе, воўчае мяса,— ударыў са злосцю Гальяш каня. Мышасты спыніўся.

— От так, не раўнуючы, і чалавек,— заўважыў Мірон.— Цягне з усіх сіл, а ўдарыш яго, стоп, даволі. Няхай крыху адсапецца, заганяў немец і коней, і людзей. Але савецкага чалавека не паставіць на калені!

Яны ўзабраліся на гару; адтуль, як на далоні, відаць былі калгасныя палеткі. Мужчын абдало свежым ветрам, і — раптам запахла гарэлым. Яны з трывогай глядзелі на захад. Усе палі, што за ўзгоркам, абняло агнём: гарэла спелае жыта. Языкі агню то падымаліся, то апускаліся, абдымаючы шырокія прасторы. У некалькіх месцах паказаліся чорныя прагаліны.

Мірон з Гальяшом, сеўшы на воз, з горкі паганялі каняку. Хутка яны ўбачылі чалавека, які ішоў напераразэ, сцежкай праз жыта. Гэта быў Сяргей. Ён першы з імі загаварыў.

— Дзень добры! — прывітаўся Сяргей.— Мо часам агонь маеце?

— Калі ласка,— дастаючы крэсіва, прапанаваў Гальяш.— У мужыка ніколі не зводзіўся.

— Але ж нейкі агонь у вас першабытны, яшчэ ў каменным веку яго ўжывалі,— усміхнууся Сяргей.— Цяпер тэхніка далёка пайшла наперад.

— Да гэтай тэхнікі патрэбна бензіну,— дастаючы запальніцу, ухмыльнууся Гальяш.— Пстрык, пстрык і і не гарыць.

— Гэта ў вас нямецкая?

— Няўжо ж. Культура. А толькі без агню.

— Адкуль будзеце? — прыкурыўшы, ідучы каля воза, запытаўся Сяргей.— І куды?

— Мы азярышчанскія,— адказаў Мірон.— А едзем у Беразнянку газы купіць. Без святла сядзім.

— А-а-а,— расцягнуў Сяргей.

— А самі хто? — углядаўся Мірон.

— Майстравы, каму шыбу ў акно ўстаўлю, каму лямпу або прымус запаяю, каму гаршчок абпляту,— ухіліўся ад адказу Сяргей, ён хацеў перавесці гаворку.— А вы часам не ведаеце лесніка Мірона Грыневіча?

— А як жа, добра ведаем,— насцеражыўся Мірон.— А што?

— Мой сын з яго хлопцам, Лявонам, разам служылі. Пад Гомелем ён загінуў.

— Лявонка,— ледзь вымавіў Мірон, у яго з рук выпала цыгарка, пасыпаўся агонь.

— Ваш сын у майго на руках сканаў,— працягваў Сяргей.— Іх полк некалькі дзён стрымліваў ворага...

— Сынок мой, хлопчык,— шапталі вусны Мірона.— Кароткі, дзіцятка, твой век. Не далі чужынцы табе палюдскаваць. Не будзем ведаць, дзе твая магіла. Ну, падлюгі!..

— А цябе, па-мойму, завуць Гальяшом?

— Гальяш, Гальяш.

— На рыбу ходзіш?

— Якая цяпер рыба, паглушылі. Вы нешта іншае хацелі сказаць?

— Я хацеў сказаць, мае дарагія, каб вы бераглі камісара, як саміх сябе. Нам вельмі патрэбны вайскоўцы. Толькі будзьце асцярожны. Меркаваў да Гарашчэні па-

дысці, але мне нельга. Калі ён паправіцца, дык няхай пад'едзе ў Беразнянку да Фальковіча і запытаецца: «Дзе можна пабачыць чалавека, які б уставіў у акно шыбу, а то па хаце вецер гуляе». А ў цябе, Мірон, сам буду, мне трэба з табою пагаварыць. Усяго добрага!

— Хто гэта? — паціснуў плячыма Мірон.

— Няўжо не пазнаў? Гэта ж былы дырэктар МТС, Сяргей Паўлавіч Васільеў,— паведаміў Гальяш.— Яшчэ са Шпакоўскім на паляванне хадзіў, а са мною на рыбе сустракаўся.

— А божачка, як мяняюць чалавека вусы і барада,— прагаварыў Мірон.— Мусіць, партыя яго тут пакінула?

— Пэўна,— пагадзіўся Гальяш.

— Дык глядзі ж, каб нікому ні слова!

— Яшчэ што! Магіла!

Мужчыны моўчкі ехалі па бальшаку. Зашчымела ў Мірона сэрца, скаланулася, млосна стала, як гарох, пасыпаліся слёзы. Ён успомніў Лявона малым, рухавым хлапчуком, калі насіў яго на плячах. Вырашыўшы, што ён абавязкова павінен сустрэцца з Сяргеем Паўлавічам і распытацца пра сына, Мірон супакоіўся. Мужчыны з болем у сэрцы глядзелі ў бок, дзе быў пажар. Цяжка селяніну бачыць, як гарыць збажына. І хоць розум кажа, што правільна зроблена, але сэрца не згаджаецца. Па дарозе праехала грузавая машына з немцамі, якая абдала іх пылам. То там, то сям траплялі бярозавыя крыжы з каскамі наверсе.

Горкі дым, як лёс людзей, што апынуліся ў палоне, рассцілаўся на дзесяткі кіламетраў. Агонь разрастаўся, пагражаючы ачысціць палі. Немцы кінулі тушыць пажар войска. То ў адным, то ў другім месцы чуваць былі чэргі аўтаматаў — гэта немцы працярэблівалі сабе шлях, прастрэльваючы з машын зараснікі.

Каля горада Беразнянкі ўсё часцей і часцей траплялі абдзёртыя і паламаныя дрэвы, якімі быў абсаджаны стары гасцінец. На ўскраіне горада, на месцы нядаўніх баёў за пераправу праз рэчку, выраслі новыя могілкі. Стройнымі шэрагамі стаялі белыя крыжы, тут парахнелі косці прышэльцаў.

— Пакуль яны нас знішчаць, мы іх у зямлю ўгонім,— са злосцю вымавіў Мірон.

— Але,— згадзіўся Гальяш.

Мужчыны, праехаўшы па вузкіх і крывых вуліцах горада, пад'язджалі да базара. Відаць быў натоўп людзей, сярод іх шнырылі немцы. Шмат было народу на кірмашы.

На вазах багата было яек, курэй, масла, сыроў, гародніны, але гэта мужчын не цікавіла. Прывязаўшы каня да плота, адпусціўшы пасак, падкінуўшы свежай канюшыны, Мірон з Гальяшом прайшліся па базары, прыцэньваючыся, што па чым. Мышасты хрумстаў канюшыну, адганяючы мух.

На барахолцы нямецкія салдаты прадавалі награбленыя рэчы, абутак, бялізну, брытвы, каб потым накінуцца на масла і яйкі, на сала і каўбасы, на мёд і яблыкі, за чым яны вельмі ганяліся. Раптам на базар камендант зрабіў налёт. Пачаўся вэрхал. Забіралі ўсё, што пад рукі трапіць, грузілі на машыны, адпраўлялі. У мужчын правяралі дакументы, западозраных адвозілі ў камендатуру. Адной жанчыне, якая супраціўлялася, не хацела аддаць масла, тут жа ўсыпалі розаг. Апусцелі падводы. Чухалі сяляне патыліцы, ціпіком лаяліся, пляваліся на «новыя парадкі».

— Калі гэта ў іх «новы парадак», дык што ж тады разбой? — пытаўся селянін.

— Дай рады, сярод белага дня грабяць,— казаў другі селянін.— Не-е, з немчурой піва не зварыш. Так і наровяць, каб залезці ў тваю кішэню. Але крутнёй свет пройдзеш, ды назад не вернешся.

— А гэта добра, мужыку навука,— гаварыў барадаты селянін.— Некаторыя думалі, што хлебароба немец не кране. Ажно вось як ён іх скубе! На карту пастаўлена: быць ці не быць? Набірайся, мужык, злосці, пакуль не позна!

Гаманіла «барахолка» на ўсе галасы:

— Нажы для брытвы!

— Каму папяросы?

— За паўцаны аддаю гадзіннік!

— Па чым шнапс?

— Курку! Яйкі! Шпэк!

— Ласы, ліхаматары, на кілбасы!

— Я, я.

— Дурань ты, вось хто! Што табе трэба тут, чаго сюды прывалокся!

— Эт, навошта язык мазоліць. Яму на ўваб'еш у

галаву, пакуль галавы не адкруціш. Дурныя падлы, як вароны.

Да Гальяша з Міронам падышоў барадаты дзядзька.

— Купіце «вутку»,— прапанаваў ён, хітра пазіраючы на мужчын.

— А колькі каштуе? — абыякава запытаўся Гальяш.

— Дваццаць пудоў жыта.

— Ты з глузду з'ехаў,— загаварыў Мірон.— Які з «вуткі» наедак? За дваццаць пудоў кабана можна купіць.

— А «вутачка» не простая,— усміхаўся ў бараду дзядзька,— сама лётае...

— Якое дзіва,— буркнуў Гальяш,— «вутка» лётае! За дваццаць пяць пудоў карову купіш...

— На карове не паляціш... А тут фырць... І кружы ў паветры... Ну-у?..

— Эт, не дуры, дзядзька, мне галавы,— зазлаваў Гальяш.

— Як не хочаце, то і не трэба,— хітра пасміхаўся барадач.— Сваім таварам не набіваюся... Я вам, як добрым людзям...— Ён ледзь не шэптам дадаў: — Цэлы самалёт за дваццаць пудоў... Гэта, можна сказаць, дарма... Танней паранай рэпы!..

— Самалёт? — здзівіўся Мірон.— Ты ў сваім розуме?

— У сваім, і ўсе клёпкі на месцы.

— Ты, мусіць, жартуеш?

— Якія там жарты! Нашы пры адступленні кінулі, не было гаручага, дык я за каня — і адтарабаніў у лес. А праз некалькі дзён прыйшлі гэтыя валацугі. Падумайце толькі, выгода якая — на градах можна прызямліцца.

— На чорта нам той самалёт! — занепакоіўся Мірон.

— Як? — гарачыўся Гальяш.

— Не патрэбен ён нам,— паглядаючы спадылба на дзядзьку з барадою, сказаў Мірон.

— Калі б ён вам не патрэбен быў, то я не прапанаваў бы,— разважаў дзядзька з барадою.— Як на мой розум, то ў труну кладуць нябожчыкаў, а не зброю...

— Што ты гэтым хочаш сказаць? — пераглянуўшыся з Гальяшом, устрывожана запытаўся Мірон.

— А тое, што я на свае вочы бачыў, як вы выварачвалі з труны немца і клалі туды вінтоўкі.

— Адкуль ты, чалавеча, што я цябе не ведаю? — захваляваўся Мірон.— Хто табе пра нас наплёў?

— У мяне тады жывот балеў...

— А-а-а,— успомніў Мірон. Таіцца не было сэнсу.— Дык ты паведаміў ужо немцам ці толькі яшчэ збіраешся?

— Кінь строіць кепікі!

— Я ўсур'ёз пытаюся.

— Ці чуў ты Дэньку Банадысёвага, з Драздоў!

— А як жа! Некалі нават чарку з ім пілі. Разумны быў чалавек!

— Дык я яго сын, Мікалай Дрозд. Наш род ні ў адным калене не меў такіх, якія б прадаліся чужынцам. А як не хочаце браць, то паламлю, а толькі немчыкам не аддам! — потым растлумачыў: — І платы, зразумела, мне ніякай не трэба. Але што з вамі гаварыць! Бывайце!

— Куды ты гэтак спяшаешся? — другім тонам загаварыў Мірон.— Хіба пажартаваць нельга?

— Добрыя жарты,— пакрыўджана гаварыў Дрозд.— Гэта я пайду паведамляць немцам... Ды мяне суседзі заплююць!

— Прабач,— ішоў на прымірэнне Мірон.— А толькі чаго табе так прыспічыла?

— Справа ў тым,— тлумачыў Дрозд,— што ў нас знайшоўся адзін дурань, які прагаварыўся старасту, што ў нас ёсць зброя. А стараста на мяне зуб мае: яшчэ калі кароў пасвілі хлапчукамі, дык я яго тоўк за тое, што ў яго доўгі язык, а потым на яго ж вяселлі яго адлупцаваў. Чаго добрага, пачнуць шукаць зброю і знойдуць самалёт. Дык берыцё вы ці не? Па руках?

— Згаджайся,— шаптаў Гальяш.

— Э, так і быць, можа спатрэбіцца,— падаў руку Мірон.— Умовіліся, бярэм!

— Дзякую! — узрадаваўся Дрозд.— А зброю ў прыдачу...

Мужчыны запрагалі каня, каб ехаць у лес па самалёт, а таксама па зброю; Дрозд, напалоханы старастам, ахвотна ўсё аддаваў. Трэба было неадкладна перахаваць самалёт у другое месца. Мірон, Гальяш і Дрозд, спяшаючыся, распілі паўлітра магарычу, закусілі са-

лам з часнаком — хоць сала было спрэс жоўтым і крыху гаркавіла, але пад чарку ішло добра — і выправіліся ў дарогу.

## 4

Прайшло два месяцы, як Гарашчэня жыў у Азярышчы. Ён ужо адчуваў сябе добра, звязаўся з Сяргеем, сустракаўся ■ патрэбнымі людзьмі, рыхтаваўся зноў стаць у строй. Гарашчэня паспеў ужо агледзець ваколіцу, пабыць у лесе, каля вядомых трох дубоў, якіх недарма завуць «царамі пушчы». Рыгор Сцяпанавіч быў нераўнадушны да Насты, пакахаў яе ўсім сэрцам і шукаў зручнага моманту, каб з ёю пагаварыць. І Наста адчула, што кахае яго. Марыйка ўсё гэта бачыла, але і яна пакахала Гарашчэню, а толькі што ты зробіш, калі не маеш узаемнасці. Паміж дзяўчатамі, як гэта кажуць, міма волі, прабегла чорная кошка; толькі камісар нічога гэтага не заўважаў.

— Рыгор Сцяпанавіч! — убегшы ў пакой, устрывожана паведаміла Наста: — Здарылася тое, чаго мы баяліся. Стараста вас выдаў. Вам тут больш аставацца нельга. Сёння прыедуць па вас з СД. І Мірона хочуць забраць. Трэба яму сказаць.

— Адкуль табе вядома? — здзівіўся Гарашчэня.

— Таварыш Сяргей даведаўся, у яго ўсюды свае людзі.

— Та-а-ак.

— Да Мірона трэба схадзіць.

— Абавязкова. Скажаш яму, сустрэнемся каля трох дубоў. Там жа прызначаю збор атрада.

— Добра.

— Наста! Я нешта табе хацеў сказаць...

— Не трэба, Рыгор Сцяпанавіч! Я ведаю...

— На адну хвілінку!

— О-ох!

Рыгор с Настай, без слоў, моцна абняўшыся, пацалаваліся. Гэта хвілінка была такой кароткай і шчаслівай, што яны не паспелі апамятацца, як яна праляцела. У Насты гарэлі шчокі, як спелыя вішні. Рыгор глядзеў на яе з замілаваннем. Трэба было мець сілу волі, каб падпарадкаваць пачуцці розуму.

— Любы, як мне добра з табою,— хвалюючыся, вымавіла Наста і яшчэ раз пацалавала яго ў шчаку.— А ты нікога больш не кахаеш? Прабач. Я так сабе. Марыйкі тут не было?

— Не,— здзівіўся Гарашчэня,— Яна апошнія дні нешта не прыходзіць, мо чаго крыўдуе?

— А хто яе ведае,— ухілілася ад адказу Наста.— Марыйка добрая, але нешта ў яе на душы адбываецца такое, чаго яна нават мне не можа сказаць.

Наста з Рыгорам былі поўныя шчасця. Такія хвіліны астаюцца ў памяці на ўсё жыццё. Развітаўшыся, яны ўмовіліся сустрэцца ў лесе.

Наста ішла да лесніка. Яна шпарка бегла, амаль не датыкаючыся да зямлі, адганяючы розныя думкі, якія ёй лезлі ў галаву. Ёй ішоў дваццаць першы год. Дзяўчына была ва ўсёй красе. Яна цяпер — нібы пад хмелем ад кахання. Наста ад лесніка збіралася вярнуцца ў Азярышча, а толькі яна начаваць у сябе не будзе, а пераспіць у вартаўніцы, якая яе раніцой падыме. Насці трэба было сабраць рэчы, што яна і зробіць увечары. Так яна дайшла да хаты лесніка. На ганку Насту сустрэла Міроніха і, не пазнаўшы яе, запыталася:

— Табе каго, дзяўчына?

— Дзядзька Мірон дома?

— Або-о! Гэта ж я цябе, Наста, не пазнала, багатай будзеш.

— Навошта мне, цётка, багацце?! Усё адно немцы адбяруць.

— Гледзячы якое! Самае лепшае на свеце багацце — добры спадарожнік. Вось я з сваім Міронам, як мы разам жывем, ні разу не пасварылася.

— А дзе ж дзядзька? Ён мне вельмі патрэбен!

— А што? Чаму такая спешка? Можа, што з камісарам здарылася? Надоечы Рыгор Сцяпанавіч да нас заходзіў, людскі чалавек.— Заўважыўшы, што дзяўчына хвалюецца, Міроніха сказала: — Бацька ў хаце. А ўсё ж, у чым справа?

— І камісару, і дзядзьку трэба хавацца. Па іх могуць прыехаць немцы.

— От валацугі, пярун бы іх пабіў! Чаго яны сюды прыцягнуліся,— кляла Міроніха, уваходзячы ў хату.— А каб іх трасца трэсла, як яны трасуць свет, гіцалі няшчасныя! І скажы ты, няма на іх пагібелі!

Кацярына збірала Мірона ў дарогу. Яна палажыла дзве круглыя буханкі хлеба, дзялянку сала, некалькі каўбас, кумпяк, два сыры, солі і піражкоў. Клунак у яе рос і рос.

— Навошта ты, маці, гэтулькі кладзеш?

— Ты, бацька, мяне заўсёды вучыў: ідзеш у дарогу на дзень, бяры есці на тыдзень. Дый вас жа двое!

— Ага! А дзе мой капшук?

— На лаве, я тытуню насыпала. Ці хопіць толькі!

— Уга! Не векаваць жа мы там будзем.

— Запалак не забудзься, можа, агонь трэба будзе раскласці. Парастрасалі сем'і, нячыстая сіла. З бацькаўшчыны хочуць сагнаць, але скулу ў бок!

Наста ў гэты час разглядала фота, якія былі развешаны на сценах. Яна доўга ўглядалася ў фота Міронавага сына Лявона, які быў забіты, але маці пра гэта нічога не ведала. Мірoніха, паглядзеўшы на Насту, задаволена ўсміхнулася:

— Бацька, от бы нашаму Лявону такую жонку.

— Дык жа ваш Лявон...

— Цыц,— ківаў Мірон у бок Насты.

— Што Лявон, дзіцятка?

— Дык жа ваш Лявон... у войску,— паправілася Наста, здагадаўшыся, што маці не ведае пра смерць сына.

— Не век жа ён будзе служыць. Народы ўсе на ўсёй зямлі не хочуць слухаць аб вайне. Скончыцца вайна...

— Спяшайцеся, дзядзька,— жадаючы перавесці гаворку, сказала Наста.— Рыгор Сцяпанавіч будзе чакаць вас каля трох дубоў. Заўтра пад вечар і я ў вас буду.

— А можа, лепей, дзяўчо, каб ты сёння са мною ішла. Як гэта кажуць: адклад не ідзе на лад.

— Не-е. Мне трэба пераслаць адзін матэрыял таварышу Сяргею, ён яго чакае.

— Праўду кажа бацька. Дый Рыгору Сцяпанавічу аднаму будзе маркотна. Такі ж вы кахаецеся.

— Не, не! Я павінна выканаць заданне. Для таварыша Сяргея я ўсё зраблю, нават, калі трэба будзе, жыццём ахвярую. Партыя — перш за ўсё.

— Раю табе...

— Я тут астануся,— перабіўшы, цвёрда сказала Наста.— У мяне ёсць важныя справы. Быў пасланец... Рыгора Сцяпанавіча і вас я папярэдзіла, а яшчэ ж ёсць

такія, якім пагражае смерць. Я ж сувязная, дык як жа я не выканаю свайго абавязку. Акрамя таго, мне патрэбна сабраць і перадаць таварышу Сяргею весткі. А вы не марудзьце! Загад трэба хутка выконваць.

— Праўда, бацька.

— То бывай, маці,— развітваўся Мірон.— Глядзі гаспадарку, чакай мяне. Толькі не плакаць! Не люблю...

— Хоць на адну хвілінку, бацька, перад адыходам прысядзь.

— Эт, гэтыя мне забабоны,— бурчаў Мірон, але сеў на момант.— Падкорміш пчолы. Немцы ўсе вуллі падчысцілі. Бычка аддасі партызанам. Беражы сябе. Каб ты мне раніцою не хадзіла босай, насі мае боты. Ну, я пайшоў!

— З богам!

Кацярына з Настай правялі Мірона ў лес. Ён, аднаму яму вядомымі сцежкамі, нацянькі, пайшоў да прызначанага Гарашчэнем месца. Гаманілі хвоі, у каторы раз прымаючы лясных салдат, якія не хацелі схіляцца перад ворагам. Плылі з захаду чорныя хмары, дзьмуў асенні вецер, асыпалася на зямлю жоўтае лісце. Тужлівую песню спяваў бор, сведка шматлікіх падзей, людскога шчасця і чалавечых трагедый.

5

Наста, развітаўшыся з Міроніхай, пайшла ў вёску. Вечарэла. Пацішэў вецер. Яна паволі ішла, адчуваючы нейкую трывогу, боль у сэрцы, адзіноту, абмяркоўваючы, як ёй паведаміць Мікалая Дразда, што яму пагражае арышт. А яшчэ ёй трэба скласці спісы па некалькіх вёсках сямей чырвонаармейцаў, якім трэба было аказаць дапамогу. Насці хацелася пайсці разам з мужчынамі і плячо ў плячо змагацца супраць немцаў, якіх яна ненавідзела ўсёй сілай сваёй душы. Але спыніць працу сувязной, без згоды Сяргея Паўлавіча, яна не магла і не хацела. Які ж тады з яе барацьбіт! З малога складаецца вялікае.

Зусім сціпылася, не шалахнуцца дрэвы. Восень была ў разгары. Дыванамі слалася жоўтае лісце. Сарамліва стаялі белыя бярозы. Шуршала пад нагамі. Заходзіла сонца за хмары. Рознымі колерамі пералівалася лісце.

Насту яшчэ на дарозе перанялі стараста з паліцэй-

скім, яны з ног збіліся, яе шукаючы. Ім і ў галаву не прыйшла думка, што яна магла быць у лесніка. Пясецкі ад задавальнення паціраў рукі.

— Ну што ж, галубка, папалася! Дзе камісара дзела?

— Не ведаю, куды ён пайшоў, у яго дарога адна, а вам прыйдзецца пашукаць,— у душы пасміхалася Наста.

— Чаго ў горад хадзіла?

— Ці мала якая патрэба ў горадзе.

— Скажаш, галубка, дзе ты дзенешся, а не скажаш — на шыбеніцу! Гальштук на шыю.

— Вы жартуеце?!

— Ніякіх жартаў. Пойдзем да каменданта. Ён даўно цябе чакае.

— Мне трэба дадому зайсці.

— Пайшла! Пайшла!

— Паспееце!

Наста ішла дахаты, а за ёю стараста з паліцэйскім. Перад школай, дзе раней была фізкультурная пляцоўка, там цяпер будавалі шыбеніцу. Двое сялян пад наглядам немца паволі стукалі сякерамі. Наста, паскорыўшы крокі, прайшла міма, зусім не гледзячы ў той бок, дзе майстравалі вісельню. Каля школы стаяла старая бабулька, вартаўніца школы.

— Бабка, мілая, як вы мне патрэбны,— спынілася Наста.

— Праходзь, праходзь! — крыкнуў паліцыянт.

— Чаго ты, паспееш, няхай дзяўчына пераадзенецца,— цяжка ўздыхнуўшы, злосна паглядзеўшы на паліцыянта, сказала старая.— Звычай у нас такі...

— Ага, мне трэба пераадзецца,— ухапілася за гэтую думку Наста.

— Ідзі, ідзі,— падганяў паліцыянт.

— Яшчэ што! — грозна паглядзела бабка на паліцыянта.— Няўжо ў цябе не было сясцёр, маці або, можа, цябе сучка ашчаніла... шалудзька!..

Паліцыянт сумеўся, ён на некалькі крокаў адступіў назад. Пясецкі, паглядзеўшы на паліцыянта, усміхнуўся. Ён прагаварыў:

— Вось дык старая, як кальнула вачыма!..

— І не кажыце, мне нават страшна стала,— прызнаўся паліцыянт.

Стараста з паліцыянтам адсталі, іх затрымаў немец, які падганяў будаваць вісельню, нешта распытваючы.

Ідучы з старой поруч, Наста ёй шапнула: «Бабка, родная, пашлі зараз унучку да Мікалая Дразда, каб ён неадкладна ўцякаў у лес да трох дубоў. А яшчэ перадай Марыйцы, няхай яна збярэ па гэтай форме звесткі і адашле таварышу Сяргею, а потым і сама ідзе ў пушчу. Ёй трэба ратавацца».

Прайшоўшы далей, паглядзеўшы перш на зямлю, а потым на сонца, якое заходзіла, падумаўшы, гледзячы кудысьці ўдалечыню, Наста ціха сказала:

— А яшчэ скажаш людзям, што я пра іх шчасце дбала.

— Добра, дачка,— па маршчыністым твары старой цяклі слёзы.

Бабка засемяніла ў вёску, а Наста зайшла ў свой пакой, які ёй здаўся чужым, усё тут было перавернута. Паглядзеўшы ў акно і ўбачыўшы, як кат прабаваў вяроўку, Наста ледзь не крыкнула, але стрымала сябе. Заўважыўшы гэта, стараста прыжмурыў вока і пачухаў бародку, а паліцыянт усміхнуўся і падкруціў рыжы вус.

Наста ўзяла чыстую бялізну, новую сукенку, зайшла за шафу, пераадзелася. Стараста аж ахнуў, калі ўгледзеў Насту ў ружовай сукенцы, дзяўчына ў ёй выглядала яшчэ прыгажэйшай. Белы каўнерык выгадна вылучаў яе загарэлы твар, як бронзу, шыю. Шукаючы ў шафе насавую хустачку і не знаходзячы яе на месцы, Наста здзіўлена спыталася:

— І сюды лазілі?

— Толькі не я! Сам пан камендант,— апраўдваўся стараста.

— Абармоты! Сквапныя на чужое. Яно вам бокам вылезе! Не думайце, што вы тут будзеце векаваць. Хутка вас пагоняць адсюль!

— А гэта вы яму скажыце,— ухмыльнуўся паліцыянт.

Адчыніўшы камод, Наста знайшла старую хустачку, надушыла яе, а потым, схамянуўшыся, хвалюючыся, пачала перакідаць рэчы. У яе вывалілася з рук хустачка, упала на падлогу.

— А дзе фотакарткі?

— У надзейных руках,— здзекаваўся Пясецкі.— Камісар ва ўсёй форме. І трэба ж быць такой неасцярожнай. Цяпер не выкруцішся. Кажуць: факты — упартая рэч. Што гэта ў вас? Дайце сюды!

— Фігу!

Наста схапіла ў рот паперку і, пажаваўшы, праглынула.

— Разявака! — злосна паглядзеўшы на паліцыянта, прагаварыў Пясецкі і, звяртаючыся да Насты, ухмыляючыся, сказаў: — Брат?.. Чаго добрага, гэты брат... Хі-хі-хі...

— Гадзюка! — працадзіла праз зубы Наста. Падняўшы хустачку, яна выйшла з пакоя. Яе суправаджалі да каменданта стараста з паліцэйскім.

Ціха было ў Азярышчы, як на пахаванні: на вуліцы ні жывой душы; толькі Марыйка сяды-тады пакажацца. Яна выконвала заданне. Калі Наста ішла, людзі выглядалі ў вокны. Дзеці ганарыліся сваёй маладой настаўніцай, яны махалі ёй рукамі. Насту абганяла ўнучка бабкі; дзяўчынка ішла з узнятай галавою — ёй даверылі важную справу, яна можа выратаваць чалавеку жыццё. Стараста ўвёў Насту ў пакой, нешта шапнуў на вуха каменданту і выйшаў за дзверы.

— Садзіцеся! — абвёўшы Насту з галавы да ног, закурваючы цыгарэту, прапанаваў камендант.

— Дзякую! — села Наста.

— Ну што ж, пагаворым начыстату. Што вы з'елі?

— Не разумею вас,— прыкінулася Наста.

— Якую вы паперку праглынулі?

— А-а-а! Гэта старасту здалося, я ела хлеб...

— Вы руская?

— Беларуска.

— Беларуска, гэта значыць — не руская.

— Беларусы з рускімі родныя браты.

— Вы так думаеце?

— Яно так і ёсць.

— Гэта вам таварыш Сяргей убіў у галаву.

— Я сваім розумам дайшла да гэтага.

— Гм... А дзе камісар?

— Не ведаю.

— Які з сябе таварыш Сяргей? Як яго прозвішча? Дзе ён жыве?

— Не ведаю.

— А чаму я ведаю, што ён рускі, прозвішча яго Васільеў, прысланы ў МТС з Ленінграда.

— Калі вы ведаеце, дык чаго пытаеце?

— Вы такая маладая, прыгожая,— праходзячы каля Насты, гаварыў камендант.— Няўжо вам не хочацца жыць? Шыбеніцу мы для камісара рыхтавалі, але... Такія валасы! У вас ёсць нешта арыйскае. А нам дадзена заданне... Вас прымусілі быць сувязной... Праўда?..

Спыніўшыся каля Насты, камендант падняў руку, дакрануўшыся да Насціных грудзей.

— Яшчэ не сапсутая! — аблізаўся, як кот, ён.

Наста з размаху так пляснула каменданту па твары, што ў яго пасыпаліся з вачэй іскры і ледзь не валіліся ўстаўленыя зубы. Ад нечаканага ўдару камендант пахіснуўся.

— Ах так? Бекер!

— Што загадаеце? — хутка ўвайшоўшы, запытаўся фельдфебель.

— Падабаецца табе гэта чартоўка?

— Яшчэ і як! — расплыўся фельдфебель.— Такая прыгажуня!

— Дык вазьмі яе да сябе. Усё роўна яна нічога не скажа.

— Не можам асмеліцца,— пагладжваючы каротка падстрыжаныя вусікі, гаварыў фельдфебель.— Гер камендант яшчэ не мелі такой красуні. Набок парыжанкі... а пра палячак і казаць няма чаго...

— Кажу, бяры,— загадаў камендант.— А потым, салдатам...

— Я магу... толькі...— асцярожна падыходзіў да Насты фельдфебель, вочы яго пасалавелі, ніжняя губа абвісла.— А божачка, якая прыгажосць! Дазвольце з вамі прайсціся...

— Адыдзі, брыда! — Наста так стукнула фельдфебеля, што той патыліцай адчыніў дзверы.

— Хо-хо-хо! — зарагатаў камендант.

— Рускую не так проста ўзяць,— вінавата апраўдваўся фельдфебель.

— На шыбеніцу! — крыкнуў камендант.— Яна партызанская сувязная. Цела два тыдні не здымаць. Няхай вісіць на страх іншым.

Па загаду каменданта ўсе азярышчанцы былі са-

гнаны да шыбеніцы. Падвялі Насту. Марыйка ад страху калацілася. Наста глядзела на натоўп, але нікога не бачыла. Кат дрыжачымі рукамі накінуў на шыю Насты вяроўку.

Падышоў камендант.

— Скажаш, дзе таварыш Сяргей, даруем усё,— звярнуўся да дзяўчыны ён.

Наста са злосцю плюнула яму ў вочы.

Перад тым як выбілі табурэтку з-пад ног, Наста крыкнула:

— Няхай жыве Радзіма! Людзі, адпомсціце за мяне!

Кат штурхнуў табурэтку, а камендант, выхапіўшы рэвальвер, выпусціў у цела Насты абойму патронаў.

— А камісара, Гарашчэню,— крычаў камендант, звяртаючыся да натоўпу,— вы мне знойдзеце... Кармілі яго, то і шукайце... І ляснік з ім... І таварыша Сяргея, да якога хадзілі ў горад... А не прывядзеце да мяне іх — усіх перавешаю.

Пачало змяркацца. Людзі, апусціўшы галовы, разыходзіліся па хатах. Ніхто з азярышчанцаў не плакаў — слёз не было. Плакала толькі зямля. Над Азярышчамі навісла чорная страшная ноч.

Старэнькая бабулька, вартаўніца школы, хацела падысці, каб развітацца з трупам Насты, у апошні раз яе пацалаваць.

— Хальт! — крыкнуў вартавы.

Згорбленая старая моўчкі пайшла за людзьмі, нічога не бачачы перад сабою, праклінаючы мацярок, што нарадзілі такіх падлюг, якія залілі крывёю паланёную зямлю.

Пры святле месяца пагойдвалася цела дзяўчыны, паскрыпвала вяроўка. Ніхто ў гэтую ноч не спаў. Людзі сваім вачам не верылі: Наста ў думках была ў страі, наперадзе іх ішла, заклікаючы на барацьбу.

## 6

Міроніха, правёўшы мужа, зайшла на двор, засунула на засаўку дзверы ў хляве, забыўшыся, што яшчэ не даіла каровы. Старая вельмі перажывала адзіноту і чамусьці баялася заходзіць у хату.

А ў лесе Гарашчэня, седзячы на пні, думаў, з чаго пачынаць барацьбу. Яму цяпер абавязкова трэба было

спаткацца з таварышам Сяргеем, пагаварыць, што рабіць. Але ў таварыша Сяргея і без таго клопатаў багата. «Трэба самому вырашыць»,— падумаў Гарашчэня. Яму здоўжылася чакаць Мірона. У Гарашчэні паскорана білася сэрца, ён успомніў Насту, праведзеныя з ёю апошнія хвіліны, гарачы дзявочы пацалунак. У яго прамільгнулі Марыйчыны чорныя вочы, іх загадкавасць і глыбіня, моцная постаць. Гарашчэня ўспомніў Міхаську, наіўнага і шчырага юнака, які рваўся ў бой з немцамі і маляваў барацьбу з імі ружовымі фарбамі.

Мірон, стомлены, ішоў з вялікім клункам за плячыма, любуючыся лесам, як садоўнік, які кожнае гэтае дрэва садзіў. Ён успомніў жонку, прыкідваў, што яна цяпер магла рабіць. Заныла сэрца, зашчымела. Шкада Мірону пчол, якія асталіся на зіму недагледжанымі, агарода, які быў няўбраны, хаты, дзе дзяцей пагадаваў, вывеў у людзі, каб жылі, гора не ведаючы, а цяпер яны, можа, гэтак, як і Лявон, дзе-небудзь забітыя. «А можа, і жывуць,— падумаў сам сабе Мірон.— Павінны жыць!»

Ужо цёмна было, калі Мірон падыходзіў да трох дубоў. Угледзеўшы сілуэт чалавечай постаці і здагадаўшыся, што гэта Гарашчэня, Мірон кашлянуў. Разнеслася прыглушанае рэха. Гарашчэня, усхапіўшыся, узрадавана загаварыў:

— Нарэшце! Праўду людзі кажуць, што горш за ўсё чакаць і даганяць! Ну, сядай, стары!

— Праўду, чалавеча, гаворыш — стары. Сем кіламетраў прайшоў і дашчэнту падбіўся. Некалькі разоў садзіўся адпачываць. А бывала... Ды што казаць! — адкашляўся Мірон.— Каб ты ведаў, Рыгор Сцяпанавіч, як у мяне на сэрцы дрэнна.

— І ў мяне нешта душа баліць, яшчэ ніколі так не было. Чалавек прывыкае да людзей і, калі адзін апынецца, пачынае хандрыць. Ну што ж, будзем ваяваць, адпачылі.— Гарашчэня паглядзеў на Мірона.— Ці не векаваць ты сабраўся ў лесе, што такі мех прывалок?

— А што ты думаеш! — прагаварыў Мірон.— Відаць, не скора мы выберамся адсюль. Ды я і «божай вадзічкі» захапіў, расціснем!

— Давай,— згадзіўся Гарашчэня.— Каб дома не журыліся...

12 Зак. 1899

Яны селі каля вывернутай кашлатай елкі, там зацішней, і чарка за чаркай выпілі паўлітра. Навокал — непраходны лес. Неспакойна было ў ім: скрыпелі дрэвы, стагналі; пачынаўся буралом.

— Не ведаю чаму,— пасля раздумы загаварыў Мірон,— але ты мне яшчэ тады, калі бездапаможным ляжаў, спадабаўся. Я падышоў да цябе, бачу — свой чалавек і жыць хоча... прагне жыцця... Захацелася памагчы...

— Гэта ж у мяне, калі я быў на валаску ад смерці, з'явілася такое жаданне жыць,— прызнаўся Гарашчэня.— Мы з камандзірам палка Сымонам Дубрава ўмовіліся: калі каго цяжка параняць, каб другі пазбавіў пакуты. Памятаю, падпоўз да мяне маёр, а я яму: «А можа, выжыву...» Больш нічога не помню. А ён, небарака...

Яны некаторы час маўчалі.

— Ну, вось і выжыў,— прадаўжаў Гарашчэня,— а то парыў бы ў зямлі косці. Спяшацца няма чаго на той свет. Мы яшчэ паваюем! Мне хочацца дажыць, калі скончыцца вайна. І скажы ты, як час бяжыць! Мы з табою так толкам і не пагаварылі. Дык ты, кажаш, добра жыў?

— Уга, дзецям таго жадаю,— усклікнуў Мірон.

— Дзеці будуць яшчэ лепш жыць,— зазначыў Гарашчэня.

— Калі, канешне, адстаім свабоду,— уголас падумаў Мірон.

— Зразумела,— згадзіўся Гарашчэня, яму падабаўся стары. Камісар працягваў у тон Мірону гаварыць: — І скажы ты: як чалавек на гару, дык чорт за нагу. Але немец нас не ўбярэ!

— Далёка, ліха матары, зайшоў,— з болем прагаварыў Мірон.— Кажуць, на Маскву наступае.

— Не праглыне Масквы, задушыцца. А калі ўдарыць ■ фронту і тылу, армія Гітлера разваліцца. Немца можна біць,— разважаў услых Гарашчэня.

— Яшчэ і як! — згадзіўся Мірон.— Але ўсё ж ён прэцца на ўсход. Як наслухаешся хайляў, страх апаноўвае. А як разважыш, Расію не пакарыць, не-е, няма такой сілы ў свеце. Дык што будзем рабіць?

— Ваяваць.

— На колькі чалавек у нас ёсць зброі?

— Хопіць, ты мне рукі давай.

— Рукі ёсць. Не лічачы нас з табою — дваццаць чатыры чалавекі. Для пачатку... а хлопцы якія, арлы!

— Не хвалі раней часу,— ухмыльнууся Гарашчэня.

— А ты «вутачку» бачыў? — пытаўся Мірон.

— Глядзеў. Добрая штука! А толькі да гэтай «вутачкі» шмат чаго трэба.

У гушчары, недалёка ад іх, стаяў замаскіраваны гасамалёт. Гарашчэня доўга ім любаваўся, ломячы галаву, як яго сюды даставілі. Ён думаў, дзе ўзяць лётчыка, каб наладзіць сувязь з Масквою. А кроках у дваццаці было сховішча зброі — перанесеныя вінтоўкі з нямецкіх могілак.

Падбіралася пад поўнач. Мужчыны змайстравалі будан, паслалі лапкі з елак, лісця і леглі. Іх прабірала да касцей. Доўга яны не спалі, варочаючыся з бока на бок. Гарашчэня каторы раз перабіраў кожнага чалавека, якога згадзіўся прыняць у атрад, успомніў зноў Насту, баючыся, каб з ёю чаго не здарылася, таго не ведаючы, што яна ўжо адышла ў нябыт. Нарэшце мужчыны, прытуліўшыся адзін да аднаго, сагрэўшыся, соладка заснулі.

Раніцою першым прачнуўся Мірон. Ён да таго прамёрз, што калаціўся як асінавы ліст. Адышоўшыся, Мірон расклаў агонь, закурыў. Патрэсквала галлё, пішчэла, валіў шэры дым, прабіваліся чырвоныя языкі агню. Мірон нагроб лісця, разглядаючы, як жылісты кляновы лісток скруціўся ў трубачку. Стары кінуў лісток у агонь, з абодвух канцоў пайшоў дым, а потым ён ярка ўспыхнуў і разляцеўся ва ўсе бакі, нібы яго і не існавала. Мірон прайшоўся, каб назбіраць дроў. З галіны кашлатай елкі звісаў павук на танюткай павуціне, снуючы свае кросны.

Раптам у Мірона зашчымела сэрца, забалела душа, здавалася, што ён на крыллях пераляцеў бы дахаты. У гэты час ён заўсёды ўставаў. Пасля снедання Мірон штодня, ускінуўшы на плечы стрэльбу, ішоў у абход. Ён ведаў кожны куст у лесе. Бывалі выпадкі, што часам хто спілуе дрэва, схавае галлё, абкладзе пень імхом, але Міронава вока ўсё адно гэта бачыла. І куды б чалавек ні зацягнуў хвойку ці елку, ляснік знойдзе. Так было і з старастаўым бацькам, Пясецкім, у гумне пад саломай адшукаў схаваную драўніну.

Прачнуўся і Гарашчэня, яму таксама было холадна. Падышоўшы да агню, грэючы рукі, ён спытаў:

— Ты што, стары, засумаваў?

— А хто яго ведае, нешта мяне трывожыць. Жывем на вялікай дарозе. Што б на свеце ні здарылася, ніколі не міне нас. Колькі нягод вытрымалі нашы людзі, але не страцілі свайго чалавечага гонару. А ты што такі засмучоны?

— Не ведаю. Нешта сэрца ные. Павінна была досвіткам Наста прыйсці, і няма. Трэба было сёе-тое Сяргею Паўлавічу напісаць. А можа, яна заблудзіла?

— Уга! Ёй завяжы вочы — сюды прыйдзе. Ці раз яна хадзіла па гэтым лесе ў ягады і ў грыбы. А песенніца якая! Бывала, як заспявае «Бывайце здаровы» або «Кацюшу», дык заслухаешся. Праўда, калі прыйшлі немцы, то ні разу не чуў, каб яна спявала.

— Пайсці ў Азярышча? — уголас падумаў Гарашчэня.

— Што ты! — запярэчыў Мірон.— Хіба ты галавы сваёй не шкадуеш? Не-е, ты не маеш права туды ісці. Пачакаем.

Яны моўчкі сядзелі каля агню, час ад часу пазіраючы ў той бок, адкуль павінна была з'явіцца Наста, але яна не ішла. Гарашчэню гэта моцна непакоіла. Ён ведаў, што калі Насці трэба было куды з'явіцца ў пэўны час, дык яна, як правіла, заўсёды была там раней хвілін на пятнаццаць. Наста не любіла, каб яе чакалі, і сама не любіла іншых чакаць.

Задумаўшыся, Гарашчэня зусім не заўважыў, як падышла да яго стомленая старая, вартаўніца школы, з клуначкам. Яна доўга блукала па лесе, шукаючы яго. Адчуўшы, што нешта здарылася, Гарашчэня ўскочыў і ўстрывожана запытаўся:

— Што з Настаю? Яна нездарова?

— Няма Насты. Яе немцы павесілі,— паведаміла, плачучы, старая.— Дзяўчына, высока трымаючы галаву, прыняла смерць. З Насты хацелі насмяяцца... Дык камендант ледзь не сабраў у прыгаршчы зубы, а фельдфебель адчыніў патыліцай дзверы. Адкуль толькі ў яе сіла ўзялася! Вось усё, што ад Насты асталося... пасмачка валасоў ад яе касы... Я адрэзала табе на памяць...

Пацямнела ў вачах у Гарашчэні, ён пахіснуўся, але

ўстаяў. Камісар узяў з рук старой пасмачку касы, пацалаваў і паклаў у кішэню гімнасцёркі.

— Помсці, сынок, за яе косы, помсці і помсці,— гаварыла старая.— А яшчэ я прынесла табе патронаў...

— Што яна гаварыла? — ледзь стрымліваючы сябе, пытаўся Гарашчэня.

— Перад смерцю Наста паспела сказаць: «Няхай жыве Радзіма! Людзі, адпомсціце за мяне!»

Усе некаторы час маўчалі.

— Пракляцце ўсяму роду і племені гітлераўцаў,— парушыла цішыню старая.— Трэба назаўсёды адвучыць гэтых ірадаў лезці да нас. Горш фашысцкай чумы не ведалі мы. Рэзаць трэба фашыстаў, каб яны не падняліся больш ніколі...

Па суровым салдацкім твары Гарашчэні пацяклі буйныя кроплі слёз. Ён выцер кулаком слёзы, да крыві прыкусіў губу.

— А што з маёй старою? Яна жывая?

— Не ведаю. Увечары туды паехалі немцы.

— Пайду!

Гарашчэня некаторы час сядзеў, на ўсё забыўшыся, а калі апамятаўся, лесніка і след прастыў. Камісар памкнуўся даганяць Мірона, але ён быў ужо далёка. Старая сядзела каля вогнішча, грэючы кастлявыя рукі, чакаючы, што скажа Гарашчэня, але ён маўчаў. Гэта навіна яго ашаламіла. Старая не чапала яго і не ішла; яна хацела пагаварыць з ім, як пахаваць Насту. Падкінуўшы галля, крыху сагрэўшыся, стомленая ад бяссоннай ночы, старая задрамала. Ёй у сне паказалася Наста, старая ўздрыганулася. Яна лыпнула сваімі сплаканымі вачыма і зноў схіліла галаву.

Камісар хацеў ісці ў Азярышча, але, паглядзеўшы на гадзіннік — хутка павінны былі прыйсці людзі, што запісаліся ў партызаны,— перамяніў рашэнне. Яму захацелася яшчэ пагаварыць са старою аб Насці, але вартаўніца, змогшыся, захрапла. Гарашчэня не захацеў яе будзіць. Ён, падышоўшы да агню, сеў, з хвіліны на хвіліну чакаючы прыходу людзей. Гарашчэня, увагнуўшыся, моўчкі сядзеў. Патрэскваў агонь, шугала полымя, высока ляцелі іскры і чорнымі кропкамі падалі на зямлю. Наляцеў вей-вецер, пасыпалася жоўтае лісце долу, схавалася сонца за хмары. Гарашчэня ціхенька плакаў. З вачэй сыпаліся чыстыя, як у дзіця-

ці, буйныя кроплі слёз. Прачнулася старая, але, угледзеўшы на вачах у камісара слёзы, прыкінулася, што спіць. Грозна шумеў бор, склікаючы людзей у лясы, узнімаючы на бой, клікаў да помсты, да бітвы не на жыццё, а на смерць.

7

Да трох купчастых дубоў, братоў-волатаў, сыходзіліся людзі з вёсак. Яны ішлі, каб атрымаць зброю і пачаць баявыя дзеянні. Партызаны былі задуменнымі, суровымі, грознымі, поўныя рашучасці пастаяць за Радзіму, за яе гонар, свабоду і незалежнасць. Вестка аб азярышчанскіх падзеях хутка абляцела ўвесь раён, што з'явілася як бы сігналам для людзей, баявой трывогай, заклікам, пачаткам у раёне барацьбы з немцамі не адзінак, а мас. Здарэнне ў Азярышчах скарыстаў Сяргей Паўлавіч, каб узняць людзей на барацьбу з немцамі. Маючы багаты вопыт работы ў масах, указанні Камуністычнай партыі, таварыш Сяргей хадзіў па вёсках Беларусі, клічучы на змаганне, пасылаў людзей да партызанаў у лясы.

Са Шпакоўскім Сяргей Паўлавіч прыслаў Гарашчэню тэкст партызанскай прысягі і запіску, у якой пісаў:

«Таварыш Гарашчэня!

Час прыйшоў і Вам дзейнічаць. Упэўнены, што Вы так падсыплеце немцам жару, што ім горача будзе. Раён Вашай дзейнасці той, аб якім мы з вамі гаварылі. Цэнтральнаму штабу партызан у Маскве даложана аб пачатку дзейнасці Вашага атрада. Установкі ранейшыя — масавасць партызанскага руху.

Наста паказала сябе як сапраўдная патрыётка, верная дачка Беларусі. Гераічны беларускі народ ніколі не забудзе яе слаўнага імя. Помніце Насту і помсціце за яе, за стаптаныя палі нашай Радзімы, за зганьбаваных жанчын, за слёзы і кроў старых і дзяцей.

Цяпер мая дапамога Вам не патрэбна. Мне трэба быць там, дзе гэта неабходна. Зрабіце так, каб з-за кожнага куста, з-за кожнай купіны стралялі. Мы гаспадары зямлі. Трэба навесці такі страх на немцаў, каб яны баяліся свайго ценю.

Моцна цісну руку!

*Сяргей».*

З Рыгорам Сцяпанавічам партызаны стараліся менш гаварыць, каб не трывожыць яго ран. Толькі Гальяш не ўтрымаўся, ён падышоў да Гарашчэні і выказаў меркаванне, што немцы могуць нарабіць яшчэ шмат бяды ў Азярышчы, а таму трэба ім перашкодзіць. Яго падтрымаў Шпакоўскі, і Гарашчэня згадзіўся. Загаманілі мужчыны, як пчолы ў вуллі перад вылетам рою.

Гарашчэня раздаваў зброю; людзі атрымаўшы вінтоўкі з патронамі, аўтаматы, гранаты і запаламі, ішлі да кастра; хто чысціў зброю, а хто падганяў рамяні. Раздача зброі насіла ўрачысты характар — гарэлі вочы ў людзей, сціскаліся кулакі. Сэрцы прагнулі помсты.

Выстраіўшы партызан, Гарашчэня чытаў прысягу. Голас яго быў упэўненым, цвёрдым, адчувалася, што перад імі стаіць камандзір, у якога не здрыганецца рука, каб забіць фашыста. Гарашчэня адразу знайшоў агульнае з партызанамі, яны за камандзірам паўтаралі прысягу:

«Я, грамадзянін Вялікага Савецкага Саюза, верны сын гераічнага беларускага народа, клянуся, што не выпушчу з рук зброі, пакуль апошні фашысцкі гад на нашай беларускай зямлі не будзе знішчаны.

Я абавязваюся няўхільна выконваць загады сваіх камандзіраў і начальнікаў, строга трымацца воінскай дысцыпліны. За спаленыя гарады і вёскі, за смерць нашых дзяцей, за катаванні, гвалты і здзекі над маім народам я клянуся помсціць ворагу жорстка, бязлітасна і няспынна.

Кроў за кроў, смерць за смерць!

Я клянуся ўсімі сродкамі памагаць Чырвонай Арміі знішчаць шалёных гітлераўскіх сабак, не шкадуючы крыві і свайго жыцця. Я клянуся, што хутчэй загіну ў жорсткім баі з ворагам, чым аддам сябе, сваю сям'ю і ўвесь беларускі народ у рабства крываваму фашызму.

Калі ж па маёй слабасці, баязлівасці або злой волі я парушу гэтую сваю прысягу і здраджу інтарэсам народа, няхай памру ганебнай смерцю ад сваіх таварышаў».

Прыкленчыўшы на адно калена, Гарашчэня пацалаваў зямлю і, устаўшы, усхвалявана дадаў ад сябе:

— Паклянемся, таварышы, што не складзем зброі да таго часу, пакуль хоць адзін фашыст будзе хадзіць

па нашай зямлі! Смерць гітлераўцам і іх памагатым беларускім нацыяналістам!

— Клянемся! — усхвалявана адказалі партызаны, падняўшы над галовамі зброю.

— Нашы продкі не гнуліся перад чужынцамі, і мы не сагнемся! — прадоўжыў Гарашчэня.

— Ніколі! — выгукнуў Гальяш.

Вартаўніца школы, пераступаючы з нагі на нагу, чакала, якое Гарашчэня дасць ёй распараджэнне. З-пад чорнай у кропелькі хусткі вартаўніцы відаць былі пасмы сівых валасоў. На яе суровым твары была туга, боль, ад чаго яшчэ выразней вылучаліся маршчыны. Шмат бачыла гора гэтая жанчына на сваім вяку, але такога — ніколі не перажывала. І яна ў сабе адчула нейкія якасці новага. «Наста загінула, дбаючы пра нас,— думала сама сабе старая,— дык мы павінны паклапаціцца пра тых, якія цяпер яшчэ малыя, іх жыццё ўсё ў будучым».

— Скажаш людзям, што ноччу Насту здымем з шыбеніцы і пахаваем,— гаварыў Гарашчэня, а потым змяніў рашэнне: — А навошта ноччу? Пахаваем днём. Мы тут гаспадары, а не немцы. Трэба зрабіць так, каб у іх зямля гарэла пад нагамі.

— Правільна! — адобрыў Шпакоўскі.

— Днём нельга,— занепакоілася вартаўніца.— Камендант забараніў яе два тыдні хаваць. Увесь час ходзяць паліцаі.

— А колькі іх? — спытаў Гарашчэня.

— Сямёх. У старасты гуляюць. Кажуць, што чакаюць карацеляў з горада.

— На першы раз і сямі хопіць, а калі пад'едуць карнікі, больш будзе работы. Галоўнае — хітрасць і нечаканасць, смеласць удару. Фашысты чакаюць нас з лесу, а мы з чыстага поля на іх наскочым.

Гарашчэня аддаў загад партызанам непрыкметна прабрацца на могілкі, а сам, узяўшы некалькі гранат, рэвальвер, з вартаўніцай пайшоў у Азярышча. Па дарозе ён умовіўся са старой, што яна пройдзе наперад, разведае, што робіцца ў вёсцы, потым яму раскажа. Гарашчэня астаўся ў хвойніку, што цераз балота ад Азярышча.

Паліцыянты ў старасты разгуляліся. Яны пачалі баль бутэлькай французскага шампанскага, якая ка-

мендантам была падаравана Пясецкаму «за добрую службу», потым пілі гарэлку і закончылі самагонкай, першаком.

Старая вярнулася і паведаміла Гарашчэню, што ў старасты баль працягваецца.

— Паліцаі, як цюцькі, п'яныя.

— Тым лепш.

На фізкультурнай пляцоўцы гойдалася цела Насты, вецер раздзімаў яе русыя валасы. Сукенка на ёй была парванай. Старая хутка прайшла, імкнучыся не глядзець у той бок, дзе вісела Наста. Ёй здалося, што цела Насты ўвесь час паварочвалася, як бы Наста хацела ёй нешта важнае сказаць, паскардзіцца на сваю крыўду. Пра ўсё гэта старая расказала Гарашчэню. Яна заўважыла, як у Гарашчэні нахмурыліся бровы і ён мацней сціскаў гранату, якая была ў яго руках. Старая прыйшла да выніку, што і яе месца ў барацьбе.

Гарашчэня, прайшоўшы балотца, падбіраўся да старасТавай хаты. Яму ўжо чуваць былі хрыплыя галасы п'яных паліцыянтаў. Калі Гарашчэня быў каля дзвярэй, Пясецкі, відаць, хацеў адчыніць акно і кулаком праткнуў шыбу. Хруснула шкло, пасыпалася, зазвінела. З хаты несла перагарам, махорачным дымам. Гарашчэня на момант прытуліўся да сцяны, а потым, прыгнуўшыся, падышоў да акна і адну за адной шпурнуў дзве гранаты. Зашыпела ў хаце, а потым пачуліся два выбухі. Паранены староста схапіў вінтоўку, выбег на ганак. Гарашчэня па ім стрэліў, але прамахнуўся.

Староста забег за хлеў і знік, як скрозь зямлю праваліўся. Паліцыянты, што былі ў хаце, ляжалі забітыя. Вартавыя беглі ў бок старастовай хаты. Гарашчэня, прыкленчыўшы на адно калена, з-за шула страляў па іх, забіўшы перш аднаго, а потым другога паліцыянта.

Азярышча было ачышчана ад паліцэйскіх. На вуліцу высыпалі дзетвара, дзяўчаты. Сярод іх была Марыйка. Яны кінуліся бегчы да школы. Гарашчэня ішоў па вуліцы, людзі сустракалі яго, як роднага сына, які прыйшоў, каб іх ратаваць. З адной хаты мужчыны вынеслі прыгатаваную труну. Гарашчэня, падышоўшы да шыбеніцы, стаў, машынальна падняў руку, каб скінуць шапку, але яе не было на галаве, і ён не помніў, дзе яна асталася. Гарашчэня сам зняў з шыбеніцы цела

Насты, пацалаваў халодны лоб. Марыйка ўкруціла труп у прасціну, бо ўсе рэчы Насты былі разграблены. Гарашчэня з Марыйкай улажылі Насту ў труну. Сяляне, не затрымліваючыся, панеслі нябожчыцу на могілкі. Там ужо была выкапана магіла.

Гарашчэня ішоў моўчкі, схіліўшы галаву, за труною каханай дзяўчыны. Вецер раздзімаў яго непакорную чупрыну. Яму быў нанесен удар у сэрца. Ён ніяк не мог апрытомнець, асэнсаваць, што здарылася. Гарашчэня абвінавачваў сябе, што не ўзяў яе з сабою ў лес.

На могілках Гарашчэня сказаў кароткую, усхваляваную прамову, якая так кранула душы прысутных, што шмат хто нават з мужчын плакалі, не кажучы ўжо пра жанчын і дзяцей. Ён закончыў словамі:

— Людзі добрыя, адпомсцім за Насту! Кроў за кроў і смерць за смерць! Народзе мой, узнімайся на вялікую бітву! Калі мы не ўваб'ём асінавы кол у магілу фашызму, гітлераўцы нас знішчаць. Усе на барацьбу. Перамога будзе наша!

Здзівіла ўсіх прысутных, калі вартаўніца школы падняла руку і папрасіла слова. У апошнія гады людзі рэдка чулі яе голас.

— Дзеці, да вас звяртаюся я, родныя мае,— хвалюючыся, слабым голасам пачала гаварыць бабка Маланння.— Хораша пражыла Настасся Іванаўна, хораша і памерла. Яна не пашкадавала жыцця дзеля вас, дзеля вашай будучыні. Настасся Іванаўна атрымала заданне папярэдзіць людзей, якім пагражала смерць. Яна яго выканала, хоць сама прыняла смерць. Дзеці, захавайце ў памяці светлае імя Насты Свярчэўскай, будзьце такімі, як яна. Ёй Радзіма была даражэй за ўсё. Людзі! Наста прасіла мяне сказаць, што яна пра ваша шчасце дбала. Вечная памяць табе, дачушка, ты заўсёды будзеш жыць у нашых сэрцах.

Старая ўзяла ў руку жвіру і сыпнула на труну, якая на вяроўках была апушчана ў дол. Гэта паўтарыў Гарашчэня, тое ж самае зрабілі ўсе астатнія. На вачах у людзей вырасла свежая магіла.

У Азярышчы пачуўся лямант. Гарашчэня, скамандаваўшы партызанам залегчы (тое ж зрабілі і сяляне), паслаў у вёску Міхаську даведацца, у чым справа. «Мусіць, староста прывёў карнікаў»,— думаў сам сабе

Гарашчэня. Гаманілі хвоі. Гарашчэня, пануры, стаяў над магілай. Цяжка была ў яго на душы, ныла сэрца. Ён глядзеў на жвір, успамінаючы Насту жывою. Яго думку парушылі ляцеўшыя ў вырай журавы. Яны, відаць, збіліся з дарогі, а можа, стаміліся. Журавы кружылі на месцы, трывожна крумкаючы. Пасля ад іх аддзяліўся адзін жураў. Па размаху крылляў відаць было, што гэта быў старэйшы і найбольш спрактыкаваны; ён павёў за сабою проста на поўдзень астатніх. Да Гарашчэні, засопшыся, падбег Міхаська.

— У вёсцы немцы,— дакладваў Міхасёк.— А яшчэ дзядзька Мірон забіўся.

— Сам?

— Ага!

— Не можа гэтага быць!

— Дапраўды. Немцы дазналіся, што ён хаваў зброю. Яны білі яго, дапытваючыся, дзе яна ляжыць і хто запісаўся ў партызаны. А яшчэ яны пыталіся, хто кіруе партызанскім атрадам і дзе атрад размешчаны. Каб не выдаць... дзядзька Мірон наклаў на сябе рукі. Яны Міроніху з сабою вязуць.

— А шмат іх?

— Многа.

— Ну колькі?

— Каля дваццаці, але ўсе з аўтаматамі.

— Што яны робяць, чаму такі крык?

— Грабяць,— Міхаська стаў круціць цыгарку.

— Та-а-ак. Прыйдзецца пацягацца. Тут задача больш складаная. А ты што ж, курыш? Адставіць! От падшыванец! Малако матчына на губах не абсохла. Ай, блазнота! Глядзі, каб я больш гэтага не бачыў... Гм... Дык, кажаш, каля дваццаці? Навяжам бой. Эй! Хто там высунуўся, хочаш, каб на мушку ўзялі?! Камандзіры аддзяленняў, да мяне!

Да Гарашчэні першымі падышлі Гальяш і Шпакоўскі.

— Таварыш камандзір! — казырнуў Гальяш.— Я прапаную ўраганам наляцець, акружыць і знішчыць.

— Як гэта лёгка ў цябе робіцца,— усміхнуўся Гарашчэня.

— Выскачыў, як Піліп з канапель,— іранізаваў Шпакоўскі.— Паспрабуй на адкрытай мясцовасці падысці... Пастраляюць, як курапатак...

— Загадваю акапацца і чакаць мае каманды.— Гарашчэня коратка расказаў свой план, паказаў аддзяленням іх месцы.

Карацелі падпалілі вёску Азярышча ў трох месцах. Вецер данёс пах гарэлага. Казытала ў носе, душыла ў горле. Агонь хутка пераносіўся з хаты на хату, пагражаючы знесці ўсе будынкі. Чуваць былі крыкі, стогны, плач дзяцей.

— Чаго марудзіш, камандзір? — гарачыўся Гальяш.— Там наша праца гіне, спажыткі, здабытыя мазалём. Пайшлі, хлопцы, за мною!

— Сто-о-ой! — загадаў Гарашчэня.— Гарачая галава. У іх адна дарога — каля могілак. Яны ж, пэўна, трымаюць шлях у раён. Вось мы тут іх і пяроймем. Будуць круціцца, як уюны на скавародзе. Галоўны ўдар па першай і апошняй машынах, а потым пераносці на сярэднія. Біцца насмерць! Ні кроку назад! Партызаны не адступаюць!

На краі вёскі мітусіліся немцы. Яны цягнулі на машыны курэй, свіней, авечак, рознае «арганізаванае» рыззё. Вадзіцелі завялі маторы. Афіцэр аддаў каманду. Загулі машыны, рушылі. Не даязджаючы да могілак, абстралялі, але партызаны маўчалі. Немцы смялей паехалі.

Затаіўшы дыханне, народныя мсціўцы чакалі загаду камандзіра. На першай машыне ехаў афіцэр. Гарашчэня трымаў яго на мушцы. Падпусціўшы машыны метраў на сто, Гарашчэня скамандаваў:

— Агонь!

Ён даў кароткую чаргу з аўтамата. Афіцэр быў забіты. Шафёр, кінуўшы машыну, споўз у прыдарожную канаву, пачаў адстрэльвацца.

Аўтаматчыкі, пасаскакваўшы з машын,— а некаторыя з іх так і павіслі на бартах,— беспарадкава стралялі. Партызаны вялі прыцэльны агонь, выводзячы са строю аднаго за адным карнікаў.

Ад машын аддзялілася адна чалавечая постаць. Гэта быў Пясецкі. Ён паўзком прабіраўся ў балота, дзе рос алешнік. Колькі партызаны па старасту ні білі, усё міма. Постаць хутка знікла.

Міроніха ў першы момант не разабралася ў чым справа, а пасля схамянулася, аблюбавала камень і стукнула ім па галаве шафёра першай машыны. Вы-

пусціўшы з рук аўтамат, шафёр, заліўшыся крывёю, уткнуўся носам у ліпкую гліну. Міроніха схапіла аўтамат і хацела страляць па карніках, але ў яе нічога не выходзіла. Яна вымушана была ляжаць у канаве, баючыся падняць галаву.

Партызаны біліся з такой ярасцю, якой Гарашчэня ніколі не чакаў, яны біліся за свае хаты, жонак і дзяцей, за свае спажыткі. У рукапашнай схватцы партызаны змялі карнікаў, толькі адзінкі іх уцалелі. Яны былі рассеяны па балоце. Гарашчэня страшэнна шкадаваў, што ўцёк стараста. Гэта вораг хітры і небяспечны, ён мог нарабіць шмат непрыемнасцей.

Вёска Азярышча дагарала. Абвальваліся стрэхі, высока ляцелі іскры. Пагарэльцы з уцалелымі спажыткамі былі на пляцах, не ведаючы, дзе ім прытуліцца, да чаго прыкласці рукі. У садзе на адной з абгарэлых ігруш была падвешана калыска; у ёй варушылася малое дзіця, плакала. Маці, заклапочаная, каб ўратаваць рэчы, не звяртала ўвагі на дзіцячы плач. Ужо ў апошнюю хвіліну жанчына выхапіла кажух, які быў пакарабачаны. Як ні старалася яна расправіць кажух, з гэтага нічога не выходзіла.

— Чаму ты, маладзіца, не ідзеш да дзіцяці? — падыходзячы да калыскі, бубніў дзед Архіп. Ён быў у зрэбных портках, пафарбаваных у сіні колер, у саматканай кужэльнай кашулі, падперазаны кавалкам аборыны. Сівы, як лунь, дзед Архіп калыхаў дзіця, яно не сціхала, плакала.— Ну і маці, сэрца ў цябе няма... Кінь ты гэтыя транты!.. Калі будзем жыць...

— Трэба думаць,— аказалася жанчына,— чым малое сагрэць. Зіма ідзе...

— Дзіця голас сарве.

— Не сарве. Дзіцяці не шкодзіць паплакаць. Лёгкія будуць здаравейшымі.

Жанчына складала падушкі, збірала раскіданыя коўдры, абрусы. Усё гэта валялася на зямлі і было ўпэцкана ў гразь. Жанчыне трэба даглядзець за ўсім.

— От анучніца! — ужо зазлаваўшы, гаварыў дзед Архіп, вымаючы дзіця з калыскі.— Сціхні, унучак...

— А ты, нябось, свой тытунь упарадкаваў,— прагаварыла маладзіца, беручы дзіця на рукі, якое адразу перастала плакаць і тыцкалася да грудзей маці.

— От базэрнік! — дабрадушна сказаў дзед Архіп.— Няўжо ён разумее, хто яго бярэ?..

— Пэўна,— рыхтавалася карміць малога яна.

— А ўсё ж, ты жорсткая маці.

— Ліха дзіцяці я не жадаю.

Дзед Архіп з маладзіцай перагаварваліся, думаючы зусім пра другое: як далей жыць. Надыходзіла зіма, дзе яны прытуляцца. Дзед Архіп паспрабаваў адзець кажух, але ён на яго не лез. Тады стары са злосцю кінуў кажух на зямлю.

— Недавяркі! — дрыжачым голасам загаварыў дзед Архіп.— Чаго ім трэба ад нас? Каторы раз яны сюды лезуць. Адвучыць бы іх раз і назаўсёды. Каб мне толькі здароўе, пайду душыць нягоднікаў. Заваяваную свабоду мы будзем бараніць! Ой, будзе крыві, свінням не паесці... Няхай не думаюць, мы ніколі ім не даруем... — і стары закашляўся.

— Супакойцеся, тата! — прасіла нявестка.— І так вам дрэнна...

— Вось што, маладзіца,— гаварыў стары.— Нешта мне нядобра. Сыны недзе забавіліся, можа, іх не ўгледжу. Дык скажаш, што я наказваў, каб увесь наш род, усе Беразоўскія, хто як можа, білі фашыста. А калі не выканаюць майго наказу, то нікому не дарую. З труны падымуся і крывуляй аддубашу... І Міхаська павінен ісці... і вы, жанчыны... і ўсе людзі...— ён яшчэ больш пачаў кашляць.

— Тата, супакойцеся.

Дзед Архіп, апусціўшы галаву, прытуліўся да шурпатай ігрушы. Ён змоўк, думаючы, дзе ўзяць сілы, каб адстаяць для дзяцей і ўнукаў свабоду. Раскуты ад кайданаў чалавек не хоча, каб яго зноў закавалі.

Плакала суседка Мэтра, ірвучы на галаве валасы. Яна хадзіла па папялішчы, шукаючы дзіцяці, якое афіцэр, па даносу старасты, што яе муж пайшоў у партызаны, укінуў у агонь. Мэтра — жонка Гальяша. Калі афіцэр кінуў дзіця ў агонь, Мэтра, дзіка закрычаўшы, ірвалася ў палаючую хату, але суседкі яе не пускалі.

— Пусціце,— распарадзіўся афіцэр.— Калі яна дастане з агню дзіця, то я яму дарую жыццё.

Мэтра, не задумваючыся, ускочыла ў хату. З акон валіў чорны дым, языкі агню шугалі ўверх. Мэтра вы-

хапіла дзіця. Суседкі свабадней уздыхнулі. Хлопчык, наглытаўшыся горкага дыму, хрыпла плакаў. Афіцэр моўчкі падышоў, выхапіў дзіця ў Мэтры і зноў кінуў у агонь. Выратаваць яго ўжо нельга было, бо гарэла хата, як свечка. Цяпер Мэтра, адшукаўшы на папялішчы нейкае абсмаленае палена, укруціўшы яго ў анучы, ціха спявала:

А-а-а, лю-лі,
Усе курачкі паснулі...

Да Мэтры падышоў усхваляваны Гальяш. Ён угаварваў жонку, што гэта не дзіця, хацеў адабраць палена. Мэтра, паглядзеўшы на Гальяша, зарагатала. Гальяш, адвярнуўшыся, заплакаў. Яго ніхто не чапаў. «Няхай выплачацца, лягчэй будзе»,— меркавалі людзі. Потым Гальяш устаў і ўголас падумаў:

— Усё паляцела прахам... Адзінае, што астаецца,— помсціць... за сына... за жонку... за людзей... за іх пакуты... за слёзы і кроў... Гітлер! Якую б яму прыдумаць кару? Павесіць? Мала! Расстраляць? Тым больш! Злавіць і ў клетку пасадзіць,— людзі заплююць. А гэта, можа б, і падышло!

Дзед Архіп, падышоўшы да Гальяша, спытаўся:

— З кім ты, чалавеча, размаўляеш?

— Га? — спалохаўся Гальяш.— Захлынуцца! Праўда, дзед Архіп? Мы ворагаў утопім у іх уласнай чорнай крыві. Не дачакаюцца, каб мы пакарыліся! Не-е! Пакуль у маіх жылах будзе цячы кроў — датуль буду біць фашыстаў! Быць не можа, наша возьме!

— Правільна, Гальяшка, не здавайся,— падбадзёрваў дзед Архіп. Стары, узяўшы Гальяша за плечы, адвёў яго ў бок ад папялішча, частаваў самасадам, ад якога дух займала.— І ніколі не аглядайся назад, што прайшло, таго не вернеш. А глядзі наперад, у будучыню, гэта табе дасць сілы. Ніякаму аслу не засланіць сонца.

— Праўду, стары, кажаш.

— Нашы дзяды і прадзеды сваімі грудзямі — а грудзі крэпасць айчыны — адстаялі сваю бацькаўшчыну, дык няўжо ж мы... — гаварыў дзед Архіп.— Нашы людзі перажылі ўсіх ліхадзеяў, а іх было процьма, якія намагаліся нас пакарыць. Толькі ў іх нічога не выйшла, нашы людзі выстаялі. Што ж, палюдскавалі пару дзесяткаў год, дый то не поўных...— дзед

Архіп зноў закашляўся.— Будзьце вартымі сынамі Радзімы...

— Дзякую, стары, за добрае слова,— паціснуў руку Гальяш.— Я гэтага ніколі не забуду.

Гальяша паклікалі да камандзіра. Трэба было дбаць аб людзях, якія апынуліся ў няшчасці. Гарашчэня адчуў, што ■ гэтага часу на яго плечы ўзвалілася гара — клопаты аб дзецях і старых, якіх трэба было дзесьці прытуліць, пракарміць зіму: ён загадаў Гальяшу са Шпакоўскім, не марудзячы ні адной хвіліны, весці людзей у лес, на аблюбаваную ім граду, як яе звалі — Замчышча,— і там пабудаваць для насельніцтва часовыя буданы. «Не можа быць,— думаў сам сабе Гарашчэня,— каб стараста заспакоіўся і не прыцягнуў у Азярышча немцаў! І трэба спяшацца вывесці людзей з-пад удару».

— Вядзіце людзей у лес і аберагайце іх,— распарадзіўся Гарашчэня.— Будзьце напагатове, магчымы ўсялякія нечаканасці. А я паеду ў леснікову хату... Трэба пахаваць Мірона...

Пакуль Гарашчэня ладзіў трафейную машыну, каб ехаць да лесніка, азярышчанцы рушылі; яны нагадвалі цыганскі табар. Моўчкі ішлі мужчыны за падводамі, нагружанымі рознымі хатнімі рэчамі. Фыркалі коні, везучы цяжкія вазы, колы ўразаліся па калодкі, месячы густую восеньскую гразь. Дзеці, якія аблялілі, як мухі мёд, вазы, з зайздрасцю пaглядалі на бацькоў, што ішлі з вінтоўкамі і аўтаматамі, неслі патроны і гранаты.

Сэрцы ў людзей абліваліся крывёю: цяжка было пакідаць наседжаныя месцы, дзе гадаваліся, вучыліся хадзіць, раслі, жаніліся, старэлі і ўміралі. Пакідаючы свой куток, яны пакідалі частку свайго сэрца, свае крыві.

— Не прападзем,— раптам пачуўся задзёрысты голас Міхаські.— Выжывем... і сюды вернемся!..

— Вернемся, але, відаць, не ўсе,— прагаварыў хрыплым голасам пажылы селянін.— Цяжкае гэта выпрабаванне...

Дзед Архіп, увайшоўшы ў лес, прыхіліўся да выносістай хвоі, абапёрся, а потым бездапаможна асунуўся на зямлю, раскінуўшы рукі.

— Дзеду, дзеду! — тузаў яго напалоханы Міхаська.— Можа, табе вады?.. Можа...

— Нічога яму не трэба,— з болем вымавіла маладзіца.— Дай спакойна памерці...

Дзед Архіп маўчаў, ён не сказаў ні слова. Не вытрымала сэрца старога, здало. Паклаўшы цела Архіпа на воз, крыкрыўшы пасцілкаю, сяляне паехалі ў глыб лесу. Шумеў бор, прымаючы да сябе азярышчанцаў. Прыціхлі людзі на вазах, не чуваць было гоману. А лес бушаваў, нібы вось-вось наскочыць буралом.

## 8

Гарашчэня каля гадзіны ладзіў матор, пакуль яго завёў. Крыху пачмыхаўшы, матор пачаў бесперабойна працаваць. Камандзір быў задаволены, што работа не прапала дарма. Пасадзіўшы на машыну партызан, якія ім былі, узяўшы Міроніху ў кабіну, ён паехаў у бок леснікоўвай хаты. Церушыў асенні дробны дождж. Хутка імчалася машына, ва ўсе бакі раскідаючы гразь. Гарашчэня з Міроніхай некаторы час ехалі моўчкі, аддаўшыся сваім думкам.

Міроніха нічога перад сабою не бачыла. У яе балела сэрца па дзецях, якія былі параскіданы па свеце. У іншых жанчын ёсць малыя, ёсць і клопат, а Міроніха, дзяцей пагадаваўшы, асталася адна, як былінка. Гэта яе непакоіла. У Міроніхі тры сыны служылі ў Чырвонай Арміі. Старэйшы — Лявон,— што быў забіты, але Міроніха пра гэта яшчэ не ведала, быў капітанам, служыў у пяхоце; сярэдні — Юлік — вучыўся на танкіста; а меншага — Язэпа — на другі дзень вайны прынялі ў школу лётчыкаў. Дзве дачкі вучыліся ў Ленінградзе: Хімка на настаўніцу, а Надзейка на доктара. Дочкі меліся прыехаць на канікулы, але вайна перашкодзіла. Міроніха за адны суткі страшэнна асунулася — упалі вочы, зблажэў твар. Пасмы сівых валасоў вылазілі з-пад чорнай хусткі. На твары быў выраз стомленасці і абыякавасці.

Гарашчэня не ведаў добра, як загінуў ляснік, і баяўся распытваць у Міроніхі, каб не патрывожыць яе дум. «І навошта яму было ісці дадому,— думаў сам сабе Гарашчэня.— А чалавек які быў дарагі». Ён ха-

цеў хутчэй дазнацца, пры якіх акалічнасцях Мірон трапіў у рукі да карнікаў, але абмяркоўваў, як лепш запытацца.

— І трэба ж быць такім неасцярожным,— загаварыў Гарашчэня.— Як яны маглі яго злавіць?

— Глянула я ў акно,— нібы ўстрапянулася Міроніха,— бачу, бацька ідзе. А мяне з хаты не пускаюць. Дык я ў акно, каб яго папярэдзіць, але Мірона ўжо схапілі карнікі, звязалі назад рукі і, як арыштанта, прывялі ў сваю ж хату. Стараста, задаволены, пасміхаўся. Гэта яго была прапанова зрабіць засаду. Немцы адчуваюць сябе пераможцамі. Яны ўсю ноч падсцерагалі бацьку, не выпускалі мяне адной на двор. «Цяпер мне можна ісці?» — спытаўся стараста. «Больш вы нам не патрэбны»,— адказаў афіцэр. Стараста выйшаў. Бацька стаіць, як граза. Злыдні на маіх вачах выкручвалі яму рукі, ламалі пальцы, дапытваючыся, дзе схавана зброя, куды вы сышлі, але Мірон не гаварыў ні слова. Некалькі разоў ён траціў прытомнасць, тады яго адлівалі вадою і зноў катавалі: білі па пятах, па галаве, устаўлялі паміж пальцаў патроны і сціскалі рукі, лілі праз нос газу, калолі пазногці. Глядзеўшы на ўсё загэта, і я некалькі разоў асоўвалася. Потым афіцэр загадаў развязаць. Пасадзіўшы на лаве, афіцэр, праз пятае ў дзесятае гаворачы па-руску, сказаў: «Калі вы скажаце нам, дзе зброя і хто запісаўся ў партызаны, а таксама дзе Гарашчэня і Васільеў, то мы вас вызвалім, дадзім грошай, махоркі і шнапсу. Адным словам, добра заплацім».

Мірон, усміхнуўшыся, адказаў: «Мяне не купіце. Я не хачу, каб мяне дзеці праклінаді, што іх бацька быў баязліўцам. Усё адно, рана ці позна, вы будзеце выгнаны з нашай зямлі. І вашаму Гітлеру будзе капут. Даўно па ім плача вяроўка. Мы зальем нашы рэкі вашаю паганаю крывёю». Афіцэр ускочыў і ўдарыў Мірона па твары. Тады бацька як усхопіцца, адкуль толькі ў яго сіла ўзялася, ды як учэпіцца ў горла афіцэру, то каб салдаты не адцягнулі, дык ён бы яго пэўна задушыў. Бачыць Мірон, што яму ад іх не выбрацца, то як разгоніцца і аб касяк печы галавою. Перад гэтым ён, здаецца, нешта сказаў, але я не разабрала. Мне млосна стала, і я ўпала.

Міроніха залілася слязьмі.

— Ну і чалавечышча! — усклікнуў Гарашчэня.— Будзе што пра такіх расказаць унукам. Ну і сілішча! Слава маці, якая нарадзіла такога сына. Не-е, Беларусь не загіне, Беларусь будзе жыць! Такія, як Наста і Мірон, узнімаюць славу народа.

Гарашчэня, памаўчаўшы, зноў загаварыў:

— А больш нічога немцы не пыталіся?

— І яшчэ яны дабіваліся ад Мірона, каб ён сказаў, хто кіруе ўсімі партызанамі. «Партыя кіруе ўсімі партызанамі,— гаварыў Мірон.— Партыя ніколі не дапусціць, каб наш народ астаўся ў няволі».

— Правільна! — захапляўся мужнасцю Мірона Гарашчэня.

Машына імкліва імчалася, абапал дарогі ўзвышаліся цёмна-зялёныя бары — краса і слава краіны. Траплялі бярозавыя гаі. На бярэзінах дзе-нідзе трымцела пажоўклае лісце. Кідалася ў вочы, што шмат было сёлета ў лесе журавін. Не да іх было людзям. Ягады аставаліся зімаваць.

Яны пад'ехалі да хаты.

На двары валяліся адарваныя галовы курэй, павыбіваны аконныя рамы. Выў, лежачы ў будцы, сабака. Увайшоўшы ў хату, Гарашчэня ўбачыў труп Мірона, ён ляжаў ніцма. На галаве зліпалася кроў. Адзежа на Міроне была парвана ў шматкі. Па хаце гуляў вецер, завывала ў коміне, пастуквалі аканіцы.

Партызаны, спяшаючыся, збілі з негабляваных яловых дошак труну, улажылі цела, паставілі труну на машыну, падрыхтаваліся везці Мірона ў апошнюю дарогу. Калі машына кранулася, сабака, ірвануўшыся з усёй сілы, парваў ланцуг. Ён пайшоў за труною гаспадара.

Пахавалі Мірона Грыневіча поруч з Настай Свірчэўскай, пад гоман сасновага гаю, спеў ветру. Не плакалі людзі, слёз не было. Не плакала і Міроніха, у яе акамянела сэрца. Плакалі толькі сосны, галасілі вятры.

Згушчаліся асеннія чорныя хмары, ішоў дождж, калаціліся людзі. Далёка пачуліся стрэлы з аўтаматаў. Гарашчэня загадаў хутка садзіцца на машыну. Міроніха паклікала сабаку, той падбег да яе, пакруціўся, паглядзеў сумнымі вачыма на гаспадыню, заскавытаўшы, пабег да магілы і поруч з ёю лёг. Колькі потым Міроніха ні звала сабаку, ён і з месца не крануўся.

У жанчыны заморгалі вочы, пасыпаліся буйныя, як боб, слёзы. Яна наўзрыд плакала.

— Бывай, Міронка! Не давялося нам з табою дзяцей упарадкаваць. Бывай, родны! Пакуль буду жывая, буду помсціць за цябе. У сваёй хаце і сякера зброя. Бывай, дарагі!

Гарашчэня праязджаў Азярышча. Тырчалі абгарэлыя коміны, паабвальваліся печы, дыміліся на вогнішчах галавешкі. Валяліся, як пасля пагрому, розныя сялянскія рэчы. Выехаўшы за вёску, Гарашчэня даў поўны газ. Партызаны, якія сядзелі ў кузаве машыны, трымаліся за шапкі, каб вецер іх не сарваў. Праехаўшы азярышчанскія палеткі, машына павярнула ў лес і хутка знікла.

Неўзабаве да былой вёскі Азярышча пад'ехала некалькі машын з немцамі, іх прывёў сюды Пясецкі, каб падабраць забітых карнікаў. Пакуль салдаты грузілі на машыны трупы, афіцэр са старастам пайшлі на могілкі, каб агледзець месца, адкуль стралялі партызаны. Іх сустрэў, брэшучы, Міронаў сабака.

— Лыска! — нясмела ідучы, клікнуў Пясецкі.— Спазніліся, пан афіцэр. Унь другая свежая магіла. Значыць, тут быў Гарашчэня. Ну, быць не можа, каб я яго не ўвабраў. Такі сякую-такую школу маю. Лысачка! Бедны сабака, без гаспадара астаўся...

Але сабака, падпусціўшы зусім блізка Пясецкага, накінуўся на старасту і рваў яго то за лыткі, то за порткі. Афіцэр, злаўчыўшыся, стрэліў у сабаку, што той, заскавытаўшы, уткнуўся ў зямлю, падвярнуўшы пад сябе галаву. Пясецкі далонямі хаваў парваныя порткі. Афіцэр са старастам пад завыванне ветру пайшлі з могілак на месца нядаўняга бою, дзе салдаты грузілі забітых карнікаў.

## 9

Калі Гарашчэня прыбыў на партызанскую стаянку, да яго падбег Міхаська і па ўсіх правілах вайсковай службы далажыў, што фрыцы з Беразнякоўскага руму па рэчцы сплаўляюць у Нямеччыну будаўнічы матэрыял.

— Што-о? — закалаціўся Шпакоўскі.— Усю міну-

лую зіму калоды людзі вазілі, а для каго? Для чорта лысага? Не даць фрыцу лесу! Я туды пайду!

— Нічога там адзін ты не зробіш,— запярэчыў Гарашчэня.

— Адзін — нічога, а з людзьмі — усё,— сказаў Шпакоўскі.

— А шмат там фрыцаў? — пытаўся Гарашчэня.

— Чалавек дзесяць. Астатнія нашы. Сілком сагналі. Паншчына!

— Рыгор Сцяпанавіч! — прасіўся Шпакоўскі.— Дазвольце мне на рум пайсці, фрыцаў таўчы!

Гарашчэня паглядзеў на партызан. Усе яны прамоклі да ніткі і калаціліся, зуб на зуб не пападаючы.

— Не магу я пасылаць,— сурова сказаў Гарашчэня, да нікога не звяртаючыся,— людзі да касцей прамоклі. На сённяшні дзень хопіць...

— Таварыш камандзір! — прасіўся Шпакоўскі.— Дазволь мне пайсці. Я чалавек халасты, прастуды не баюся, і калі заб'юць — хоць гэта непажадана,— ніякіх хвастоў ззаду...

— Адзін супраць дзесяці, нічога ў цябе не выйдзе.

— А хіба я блазан, каб на ражон лезці, я там магу цэлы полк набраць. У акаляючых вёсках — парахавы склеп, варта толькі падаткнуць запалку.

— То і ты ж стаміўся.

— Ну і што? — не здаваўся Шпакоўскі.— Фрыцу морду набіць — дык гэта ж лепшы адпачынак, мая мара на заўтрашні дзень! Ну, пусці!.. Мэрам я тут патрэбны... І без мяне пабудуюць буданы...

— Няхай ідзе! — загаманілі партызаны.

— Добра,— нарэшце згадзіўся Гарашчэня.— А толькі вазьмі з сабою аўтамат. Ты не круці галавою. Я табе пакажу, як з яго страляць.

— А на ліха мне гэта замінка? — запярэчыў Шпакоўскі.— Нібы я з яго страляць буду. Яшчэ адбяруць фрыцы. Аўтамата шкада. Мне не патрэбен ён. Як Міроніха кажа: «У сваёй хаце і сякера зброя». З сякерай неяк мужыку зручней. А яшчэ слова — мацнейшая зброя. Дык я пайшоў. Усяго добрага!

Шпакоўскі, які ўсё жыццё правёў у гэтых месцах, ішоў лесам, палямі, цераз сенажаці, дарогамі і нацянькі, спяшаючыся на рум, нашмат укараціўшы шлях. Шпакоўскі быў моцна складзены, каранасты, яго ў

Азярышчы дражнілі «карантыш», пра яго ведалі ў суседніх вёсках. Ён быў у чорным палітоне, туга падперазаны папругай, з сякерай за поясам. На галаве хлапца — кавалерыйская шапка, якая бачыла віды, яна ўся выгарала на сонцы і ў некалькіх месцах прабіта шротам. Шпакоўскі неяк падкінуў шапку нябожчыку Мірону, той з дубальтоўкі ўшчэнт яе пабіў, так што прыйшлося зашываць. Шпакоўскі не ведаў, што яму гаварыць сялянам, калі прыйдзе, але што рабіць,— добра ўяўляў. «Падняць бунт,— меркаваў ён,— не даць сплаўляць лес, які ў будучым самім спатрэбіцца для будоўлі». І яго ж хата згарэла.

Абсушыўшыся і пераначаваўшы ў вёсцы Выгляды, раніцою Шпакоўскі пайшоў на рум. Заняты сваімі думкамі, ён і не заўважыў, як падышоў да рэчкі, дзе ляжалі горы бярвенняў, сосны і елкі, клёны і дубы. Лес быў падрыхтаваны для адпраўкі ў гарады для будаўніцтва, але вайна перашкодзіла.

— Хальт! — крыкнуў немец, выставіўшы аўтамат.

— Хіба табе павылазілі? — адказаў Шпакоўскі, выставіўшы рукі.— Працаваць іду...

— Арбайтэн? — перапытаў немец.

— А няўжо ж, гэтак як ты, лынды біць! — смела ідучы, гаварыў Шпакоўскі.

На руме працавала чалавек дзвесце мужчын і жанчын. Іх ахоўвала і прыганяла адзінаццаць салдат. Высахшыя за лета бярвенні, якія яшчэ Мірон адбіваў, былі як звон. Немцы па Беразнянцы да Нёмана нязвязаным сплаўлялі лес, а там вязалі плыты і намерваліся гнаць іх у Германію. Яны спяшаліся, каб да замаразкаў сплавіць лес.

Сяляне, што працавалі на руме, ужо ведалі пра смерць Мірона Грыневіча і настаўніцы Насты Свірчэўскай. Нечаканае з'яўленне на руме азярышчанскага хлапца, а цяпер партызана Ігната Шпакоўскага, усіх ускалыхнула, наэлектрызавала, узняло. Яны ведалі, што ён дарэмна ног біць не будзе. Усе нечага чакалі. Шпакоўскі, падышоўшы да аднаго з сялян, шапнуў: «Мы не рабы, каб на немца працаваць! Зробім ім халэмус! Чакайце майго сігналу!» Гэта хутка абляцела ўсіх сялян. Шпакоўскі з нейкім азартам працаваў. Гледзячы на яго, і сяляне жвавей варушыліся. Каціліся ў рэчку бярвенні, высока ўгару ляцелі пырскі. Праходзя-

чы каля Шпакоўскага, вартавы задаволена прамовіў:
— Гут, рус, гут!

Калі немец прайшоў, Шпакоўскі, не адгінаючыся, гнеўна загаварыў:

— Крывапіўцы! Яны прыйшлі сюды, каб забіваць і грабіць! Хіба мы рабы — пад вартай працаваць?

— Ідзе,— шапнула сялянка, якая была поруч.

— У, бандзюга няшчасны,— працадзіў праз зубы Шпакоўскі, пакрыкваючы на сялян: — Весялей, весялей! Немец любіць, каб на яго працавалі, а ён панам хадзіў. Ну, чым не прыгон, з той толькі розніцай, што замест бізуна — аўтамат. Яны мяркуюць штыкамі ўвесь свет прымусіць на сябе працаваць. Немцы, бачыце, нацыя паноў. А ну возьмем, яшчэ разок! Дружна!

— Гу-у-ут, рус, гу-у-ут!

Вартавы, чыста пагалены, важна хадзіў па руме. Яму, відаць, не дрэнна жылося на чужым хлебе.

Гэтымі днямі нямецкія гаспадарнікі пазабіралі ў вёсках усіх быкоў і паабяцалі прысланць з Германіі племянных. Але гэтаму ніхто не верыў.

— Бугаёў пабралі, а што з каровамі будзе? Астануцца перадойкамі. А дзе малака возьмеш дзецям? У Германію да быка, нябось, карову не павядзеш...

— Я, я,— лапатаў немец.

— Куды ты годны, пэцкаль!

Сяляне галасна зарагаталі. Калі вартавы прайшоў, Шпакоўскі зноў загаварыў. У яго словах гучаў загад:

— Не дадзім немцу лесу! Самім спатрэбіцца. А іх перадушым, як кацянят!

— А што з намі будзе? — нехта нясмела запытаўся.

— Пусцім пагалоску, што партызаны Гарашчэні наскочылі, перабілі салдат і нас разагналі... А лес чым каб немцы спажылі, то лепей паміж вёскамі падзелім: Замосцю дамо, Мохаўцы, Тоўстаму Лесу, Выглядам...

— Правільна! — пачуўся голас.

— А чаму Падгайнаўку абмінуў? — пытаўся мужчына.

— І Падгайнаўцы хопіць...

— Тады другі інтэрас!

Обер-яфрэйтар быў задаволены працай сялян. Паглядзеўшы на гадзіннік, ён скамандаваў зрабіць пера-

пынак на абед. Вартавыя дзе хто быў, там і прыняліся за ежу, яны прагна глыталі сала.

Шпакоўскі акінуў позіркам вартавых. У яго вачах успыхнулі аганькі.

— Жаруць, валацугі! А ўсё гэта наша дабро! — і не ў сілах больш стрымаць сябе, Шпакоўскі накінуўся на салдата, які недалёка ад яго сядзеў, крыкнуўшы: — Бі іх, гадаў! Душы! Прывалакліся ліха ведае адкуль, каб нашых людзей знішчаць...

Сяляне гуртам накінуліся на вартавых. Гэта здарылася так імгненна і нечакана, што немцы не паспелі апамятавацца. Стыхія бушавала, змятаючы ўсё на сваім шляху. Шпакоўскі, выхапіўшы сякеру з-за пояса, размазджыў фрыцу галаву. Узбунтаваўшыся, мужчыны і жанчыны змялі ахову. На руме, як пасля бурапому ў лесе, ляжалі параскіданыя бярвенні, валяліся задушаныя, забітыя каламі немцы.

Сяляне за ногі цягнулі забітых, прывязвалі да дрэваў, каб скінуць у рэчку і адправіць плысці праз Нёман у Нямеччыну.

— Хто тут добра граматны? — запытаўся Шпакоўскі.

— Бадай за Панцялея Аўсяніка нікога няма,— пачуўся голас.— Чалавек інстытут скончыў. Па-іхняму гергетаць можа. Гэтыя гіцалі, што ім панукалі, яго падэшвы не варты.

— Наладзім парад мерцвякоў, пішы,— сказаў Шпакоўскі.

— Па-нямецку? — спытаў Аўсянік.

— Але,— Шпакоўскі дыктаваў: — «Так будзе з кожным, хто пакваліцца на наша дабро». Подпіс: «Гарашчэнеўцы»,— і ён усміхнуўся.— Лесу нашага захацелі — атрымайце на труну...

— Дзядзька Шпакоўскі! — прасіў падлетак.— Добра было б, каб да кожнага фрыца надпіс прычапіць... Няхай бы іх Гертруды прачыталі... А то яны прывыклі толькі пасылкі з нашым дабром пасылаць... Я сам іх насіў...

— Можна,— згадзіўся Шпакоўскі, пачынаючы дыктаваць: — «Наеліся па горла, напіліся па бараду», «Маной свет пройдзеш, але назад не вернешся», «Горкі рускі хлеб», «Пакваўпішся на чужое, сваё страціш», «Бывай, Расія, ты накарміла нас, напаіла і спаць па-

лажыла», «Наказваем нашчадкам у Расію не хадзіць»... І ўсюды подпіс: «Гарашчэнеўцы»...

Стукаючы сякерамі, сяляне выпраўлялі ў дарогу фрыцаў, да кожнага прыбіўшы фанерную дошку з надпісам. Калі ўсё было гатова, Шпакоўскі аддаў каманду і гітлераўцаў па аднаму сапхнулі на ваду.

— Ці я ж не казаў, што варта народу толькі дзьмухнуць, і паветра будзе ачышчана ад фашысцкай нечысці,— пасміхаўся Шпакоўскі.

— Правільна,— сцвердзіў Аўсянік.

— А дзе адзінаццаты аўтамат? — падлічыўшы трафейную зброю, спытаўся Шпакоўскі.

— Ён у мяне,— прызнаўся Аўсянік.— І я калом прытоўк аднаго фашыста. Калі возьмеце да сябе, дык аддам, а то мяне без зброі не прымаюць у партызаны.

— Давай,— згадзіўся Шпакоўскі.— Пойдзем! Буду хадайнічаць за цябе. Хлопец ты добры.

Позна ўвечары Шпакоўскі дакладваў камандзіру партызанскага атрада Гарашчэню пра вынікі свае аперацыі.

— Пачатак не дрэнны,— захапляўся Гарашчэня.— Дзе, хіба нас адолець? З намі народ. Перамога будзе наша. Ну, добра! Ідзі адпачні: заўтра будзе работа — гадзюк трушчыць.

## 10

Аднойчы, ідучы па дарозе, Сяргей Паўлавіч убачыў наперадзе нямецкую машыну, якая стрымгалоў імчалася насустрач. Ён падаўся ўбок і выйшаў на крутую гару. Каля ціхай Прыпяці на каменнай пліце Сяргей прачытаў: «Тут пахавана партызанка Грыпіна Пармон». Ён зацікавіўся лёсам гэтай жанчыны. Рыбак, што з вудаю сядзеў над рэчкай, яму расказаў:

— Простая жанчына Грыпіна, з вёскі Прысынак, са слязамі на вачах праводзіла адступаючых чырвонаармейцаў. Яна вынесла апошнюю шклянку малака, якую пакідала для сябе, аддала яе параненаму байцу. «Выпі, родненькі,— прапанавала яна,— можа, і маіх сыноў хто ў дарозе пачастуе».

У Грыпіны адзін сын быў у Чырвонай Арміі, лейтэнантам у пяхоце, а два меншыя сыны, Юрка і Саўка,

жылі ў калгасе і падлягалі мабілізацыі. Меншая дачка Надзя таксама была пры маці.

У тыя трывожныя дні, калі Чырвоная Армія адступала (гэта было ў чэрвені месяцы сорак першага года), Грыпіна амаль усю ноч прасядзела каля акна і нават вокам не звяла. Усю ноч на бальшаку тарахцеў абоз, трымцелі шыбы, і калодзежаў выбралі ўсю ваду. Яна ўспомніла васемнаццаты год, калі немцы гойсалі па вёсках, адбіралі ў дзяцей апошні кавалак хлеба, здзіралі з плячэй вопратку, вагонамі адпраўлялі груз у Германію. Тады ж ад кулі нямецкага каменданта загінуў яе муж — партызан Мацей, пакінуўшы Грыпіну ўдавою, а дзяцей сіротамі.

Нялёгкім быў хлеб Грыпіны. Адзінаццаці год яна асталася без бацькі; ён быў плытнікам, прастудзіўся вясною і ад запалення лёгкіх памёр. Грыпіна была пастушкаю ў кулака Ахрэма Крэйды, якога яна баялася як агню. Потым служыла наймічкаю ў Патоцкіх, працавала ад зары да зары, прыгаршчамі слёзы мерала. Там жа Грыпіна пакахала парабка Мацея. Моцна яны любіліся. Пажаніўшыся, яны не доўга людскавалі. Мацея ўзялі на вайну. Нагаравалася Грыпіна ў імперыялістычную вайну, вядома, трое, адно пад адным, дзяцей. А як вярнуўся Мацей з салдатаў, то зноў пачалася суталака, нахлынулі немцы. Не вытрымала чуллівая душа Мацея, не захацеў ён пакарыцца германцу, пайшоў партызаніць, там і склаў галаву. Праз два гады Грыпіна выйшла другі раз замуж, за ўдаўца. Але нядоўга яны пажылі, другі муж ад гарэлкі згарэў. Зімою ён паехаў па спірт, у дарозе захацелася падводчыкам спірту пакаштаваць. Як дабраліся ўтраіх падводчыкі да бочкі, так ад яе не адышлі. Коні прыйшлі дадому адны, а іх толькі праз некалькі дзён знайшлі, далёка ад дарогі здубянеўшымі. Так у Грыпіны і сцерлася жыццё. Толькі ў апошнія дзесяць год, калі дзеці ўвабраліся ў сілу, Грыпіна жыла як чалавек. У кубельцы была скварка, на стале вялася чарка, не сорамна было, калі чужы чалавек у хату зойдзе.

Досвіткам у ліпені з'явіліся нямецкія аўтаматчыкі. Яны з ходу, на машынах, абстралялі Прысынак, запаліўшы крайнюю хату, якую народ ледзь адстаяў, каля калодзежа забілі маладзіцу, Ганну Тарасевіч, пакі-

нуўшы малое дзіця сіратою. Бацька дзіцяці быў на вайне.

«Матка, куды рус паехаў?» — убегшы ў хату Грыпіны, перагортваючы слоўнічак, запытаўся немец.

«А хто іх ведае».

«Давай пятух».

«Зловіш, бяры».

На двары кудахталі куры, за імі ганяліся нямецкія салдаты, ляцела пер'е ва ўсе бакі. Былі чуваць аўтаматныя чэргі. У трох месцах вёскі гарэлі хаты, шугала полымя, вылі сабакі.

Не паспелі аўтаматчыкі і паўкіламетра ад вёскі ад'ехаць, як пачулася лязганне цяжкіх і сярэдніх танкаў. Дрыжала зямля, стагнала. Калаціліся людзі. Танкі разварочвалі дарогі, ламалі дрэвы, пакідаючы пасля сябе страшныя сляды.

«Трэба, дзеткі, ратавацца,— разважала Грыпіна.— Ад гэтых валацугаў дабра не чакай. Там, дзе пройдзе немец,— трава не расце...»

«А як ты ад іх уратуешся?» — пытаўся сын Саўка.

«Трэба пра чорны дзень падумаць,— гаварыла яна.— Людзі хаваюць дабро. Трэба і нам гэта зрабіць. А то каб не давялося класці зубы на паліцу».

«Праўду маці кажа,— сказаў другі сын, Юрка.— Мы не ведалі, што такое чорны дзень, дык цяпер пазнаем. Ачысцяць да ніткі, тады ідзі па свеце з торбамі».

«Адзежу трэба прыхаваць,— прапанавала дачка Надзя.— А то каб не давялося голымі хадзіць».

«Але, барзджэй хавай анучы,— буркнуў Саўка.— А жывот можна на папругу зашпіліць».

«Усё, дзеткі, трэба прыбраць,— навучала Грыпіна.— Нічога не дамо праклятаму фашысту».

Калона танкаў, вялікіх і малых, прайшла каля Прысынка, не спыняючыся. За імі валам валіла пяхота. Асобныя салдаты (іх сяляне звалі зялёнымі гадзюкамі) забягалі ў хаты, бралі, што ім спадабаецца, а хто пярэчыў — стралялі. Па дарозе вайны, якая праходзіла каля Прысынка, ляжалі сотні забітых; сярод іх былі дзеці, ніхто іх не ўбіраў. Навокал было змята жыта і ярына. На лісцях дрэваў былі вялізныя пласты пылу.

Калі праехалі танкі, пехацінцы, як галодныя ваўкі, накінуліся на рэшткі сялянскіх спажыткаў. Яны грабі-

лі без разбору, што пад рукі трапіць, аж да дзіцячых рэчаў. Увечары высветлілася, што на ўсю вёску цудам уцалелі: адзін певень і некалькі курэй.

У абозе прыехаў і былы кулак Нічыпар Бегунец, якога прызначылі бургамістрам Прысынкаўскай воласці. Ён адразу навёў «новы парадак». Быў накладзены падатак: за комін, акно, сабаку; вызваляліся ад падатку нямецкія аўчаркі.

Чытаючы загад бургамістра, Саўка заўважыў:

«А як ты даведаешся, якога паходжання той ці іншы сабака, пад хвост яму глядзець, ці што?! Хоць сабака сабаку зразумее!»

У сям'і, як кажуць, не без вырадка. Знайшліся ў Прысынку, што перадалі словы Саўкі бургамістру, пасля чаго Саўка патрапіў у няміласць да Бегунца. Даведаўшыся, колькі ў Грыпіны было курэй, хоць іх фрыцы паелі ўжо, нават пер'я не пакінулі, Бегунец распарадзіўся ўносіць з кожнай курыцы па трыццаць яек у месяц.

Жадаючы насаліць Бегунцу, Юрка павесіў перад акном бургамістра апошнюю курыцу з надпісам:

«Паколькі я, рабенькая курка, не ў сілах выканаць загад бургамістра, вырашыла скончыць жыццё самагубствам».

Узлаваўшыся, Бегунец наклаў на Прысынак звыш усялякіх «норм» па пуду жыта з кожнай хаты як падарунак для нямецкага войска. Збожжа было знесена ў калгасны свіран. На ноч бургамістр выстаўляў ахоўваць свіран паліцыянта.

Прысынкаўцы ўзмоцнена рыхтаваліся да партызанскай дзейнасці. Саўка Пармон, які быў прызначаны райкомам партыі для арганізацыі барацьбы ў тыле супраць нямецкіх захопнікаў, узначаліў партызанскі атрад. Юрка марыў стаць кулямётчыкам, толькі не было кулямёта, і ён старанна яго шукаў. Надзя ўзяла на сябе абавязак старшыні камісіі садзейнічання партызанам харчамі. Ужо ў яе сёе-тое было. Яна намервалася стварыць недатыкальны запас харчавання. З гэтай мэтай Надзя хацела абярнуць «падарунак нямецкаму войску» для партызан. Але як ты авалодаеш той збажынаю, калі ноччу яна пад надзейнай вартай, а ўдзень свіран на вялікім замку.

У адзін з дзён памёр калгасны вартаўнік Сідар Заба-

лоцкі. «У пару памёр,— гаварылі прысынкаўцы.— Нечага не будзе пакутаваць». Сівенькі Сідар ляжаў, выцягнуўшыся, на лаве. Яго белыя вусы парыжэлі ад тытуню. Нябожчык страшэнна не любіў немцаў; яны забралі ўвесь калгасны статак, за якім ён даглядаў, і яшчэ далі старому розаг, што ён тыдзень не мог сесці. Стоячы ў хаце каля нябожчыка,— Надзя была ў ганаровай варце,— дзяўчына пра сябе падумала: стары даўно намагаўся забраць збожжа для партызан, ён нават падабраў ключ да замка; а таму лепшым помнікам будзе яму, калі мы гэта збожжа такі возьмем. Яна дастала гэты ключ, і сяляне сярод белага дня перанеслі збожжа з свірна ў лес. Гэта было вельмі небяспечна, мог надысці бургамістр, але за ім наглядалі сотні вачэй. Бургамістра ў гэты дзень так напаілі, што ён доўга не мог прыйсці ў сябе. Праўда, з-за гэтага і пахаванне старога адклалі. «Дзед за гэта на нас не будзе гневацца»,— гаварылі сяляне.

Калі ўвечары Надзя падзялілася з маці аб праробленай за дзень рабоце, Грыпіна ўзрадавана сказала:

«Малайцы! І бацька такім быў, ён не схіляў галавы перад ерманцамі. Толькі трэба замесці сляды!»

«А як?» — запыталася Надзя.

«Гэта не так проста,— разважала Грыпіна.— Як на мой розум, то чым сваю галаву падстаўляць, дык лепей паліцыянта... не ўсцярог... а то, можа, паквапіўся на казённае дабро...»

«Правільна! — узрадавалася дачка і пацалавала маці. Надзя, жартуючы, сказала: — Цябе мы зробім партызанскім дарадчыкам».

«І не памыліцеся!» — жартам адказала маці.

Надзя выбегла з хаты. Пагаварыўшы з сялянамі, яна вырашыла раніцаю падаслаць да бургамістра каго-небудзь, каб той данёс яму, што ноччу расцягнулі збожжа, а потым перарашыла: «Лепш пакінуць запіску».

Па вёсцы была пушчана чутка, што свіран абакралі. Раніцою сабраліся мужчыны, гаманілі:

«Мусіць, паліцыянт пагрэў рукі?»

«Пэўна, яго бацька некалі манапольку абчысціў».

«Ён і сам не промах, кароў у лапці абуваў».

Да свірна прывялі паліцыянта Моркаўку; у яго быў пасінелы нос, вялізныя шэрыя вочы, прадаўгаваты твар, упалыя шчокі. Ён яшчэ не паспеў праспацца.

«Спадары,— прасіўся тоненькім галаском Моркаўка, ён знаўся з нацыяналістамі.— Богу душой не вінаваты. Жыта бургамістр узяў два мяхі і мне з пуд насыпаў. А што да яек, дык мне і штукі не давялося ўзяць, бургамістр усё пабраў. Ён жа з тыдзень баляваў з барысаўскім бургамістрам Станіславам Станкевічам. А што да сала і кілбас, то ён жа ў Мінск пасылаў сваёй хеўры, Ермачэнку, які таксама з немцамі ў абозе прыехаў. А я ж тутэйшы. Пашкадуйце дзяцей!»

Крычалі сяляне на розныя галасы:

«Глядзі ты, казанская сірата! Чаму ты не падумаў пра дзяцей дваццаці логвішчанскіх сямей, калі іх прадаваў? Лайдак!»

«Чаго там, бог не цяля — бачыць круцяля».

Па вуліцы ішоў бургамістр з пісьмом у руках. Натоўп расступіўся. Падняўшыся на ганак свірна, Бегунец звярнуўся да сялян.

«Спадары! — гаварыў ён ахрыплым голасам.— Сёння я знайшоў у сябе ў сенцах падкінутае пісьмо без подпісу. Дазвольце, я вам яго прачытаю».

«Калі ласка».

«Пане Бегунец! — чытаў бургамістр.— Мы, прысынкоўцы, па вашаму загаду, з вялікай прыемнасцю зносілі па пуду жыта і ў дадатак па дзялянцы сала, каўбасе, а таксама па паўдзесятку яек у падарунак нямецкай арміі. І вось знайшоўся нягоднік, паліцыянт Моркаўка, які за адну ноч ачысціў свіран...»

«Спадар Бегунец! — прасіўся Моркаўка.— Далібог жа, не я. А хто пісаў?»

«Мы ўсе»,— крычалі сяляне.

«Клянуся жонкаю, што гэта не я,— лапатаў Моркаўка.— Таіцца не буду. Апанасаў бычок праз мяне ляснуў. То Апанас жа ў партызаны пайшоў».

«Клянешся жонкаю, каторую? — іранізаваў селянін.— У цябе іх шмат было».

«Бачылі вы яго, загаварыў! — гаманілі мужчыны.— Націсні на зайца, запалкі будзе паліць».

«Гэта такі злодзей,— працягваў чытаць далей бургамістр,— якіх на свеце мала. Ён будзе клясціся, прасіцца, плакаць, але вы яму не верце. Па маіх меркаваннях, ён пераправіў жыта партызанам. Баючыся партызан, не падпісваюся. Ваш дабрадзей».

«Спадар Бегунец! — кінуўся ў ногі паліцыянт Моркаўка.— Не верце яму... не верце... Бычка ж разам елі... А што да жыта, дык вы сабе ўзялі два мяхі і мне ўсыпалі пуды два... А сала, кілбас і яек мне нават не прыйшлося пакаштаваць, што самі са Станкевічам з'елі, а што паслалі ў Мінск, здаецца, спадарам Ермачэнку, Кушэлю, Іваноўскаму...»

«Адыдзі, брыда! — штурхнуў нагою Бегунец і, звярнуўшыся да сялян, запытаўся: — Што будзем з ім рабіць?»

«Расстраляць!» — крычалі ў натоўпе.

Мужчыны кінуліся да паліцыянта, ён прасіўся, каб яго пашкадавалі. Але ў сялян да таго накіпела на сэрцы, што яны яго жывога б разарвалі. Выцягнуўшы паліцыянта за свіран, бургамістр у яго стрэліў. Моркаўка пахіснуўся і ўпаў, раскінуўшы рукі.

«Такі лёс — кожнага здрадніка,— заключыў Саўка.— І канцы ў ваду».

«Нічога няма тайнага, якое б не стала яўным,— вячэраючы, сказала Грыпіна.— Час вам, дзеткі, у дарогу. Мы некалі поўзалі вобмацкам, а вам шлях, асветлены Леніным. Не саступайце з гэтага шляху і вы пераможаце».

«Праўду, маці, кажаш,— загарэўся Саўка.— Мы ніколі не саступім з дарогі, якая вядзе ў светлую будучыню, да камунізма».

«Шчаслівай, дзеткі, вам дарогі!» — праслязілася Грыпіна.

Ноччу Саўка Пармон з атрадам выступіў у паход. Маці на дарогу благаславіла дзяцей. Апусцела вёска. Толькі тады Бегунец задумаўся, што, можа, дарэмна забіў паліцыянта, але было позна.

На другі дзень прайшла па вёсках пагалоска, што партызаны на станцыі Сакалінае падарвалі на мінах поезд, дзе загінула шмат варожай сілы. У Прысынак прыехаў камендант Шнэер, каб самому высветліць справу з забойствам паліцыянта, якога ён асабіста ведаў. Паліцыянт Моркаўка быў пастаўшчыком каменданту курэй. Шнэер, курачы сігарэту за сігарэтай, нездаволены хадзіў па хаце бургамістра.

Бегунец выставіў на стол што мог. Тут была і сялянская каўбаса, і кумпяк, і сыры, свежы і сухі, і паўкварта гарэлкі, але камендант не садзіўся за стол. Бур-

гамістр, моргаючы невялічкімі вочкамі, лісліва загаварыў:

«Ах, ах! Якое я зрабіў глупства. Свайго чалавека забіць. Я знайду вінаватага!»

«А ці ведаеш ты, што ўзарваўся на мінах поезд? — пытаўся Шнэер.— Загінула шмат войск, тэхнікі».

«Ая-я-яй! — заенчыў бургамістр.— От, каб я ведаў, хто гэта зрабіў, не задумваючыся б прыстрэліў».

«Саўка Пармон»,— паведаміў Шнэер.

«Што-о? — выцягнуўшы галаву, здзівіўся Бегунец.— Ён мяне падбухторыў забіць паліцыянта. Пане камендант, то, можа, закуска пастаіць, а мы, тымчасове, зробім капут яго брату Юрку і сястры Надзі. Ох, гэта насенне! Заядлыя, не дай бог!»

«Няўжо ж вы не ведаеце, што яны ў лесе?»

«У лесе? А маці? Здаецца, я яе ўчора бачыў на агародзе».

«Маці дома».

«Гер камендант у Прысынку, як у сябе дома, усё ведае. От гэта розум! З такім чалавекам і бургамістр не прападзе. Дык мы яе возьмем на цыгундар! О, гэта старая,— яна, мусіць, сама паслала дзяцей у лес. Яе муж у васемнаццатым годзе супраць немцаў партызаніў. Я яе гатоў сваімі рукамі задушыць. Пойдзем!»

«Пачакай!»

«А-а-а. Калі ласка, да стала!»

Камендант [redacted] бургамістрам, добра выпіўшы і закусіўшы, пайшлі ў хату да Грыпіны. Усё было пушчана ў ход, каб даведацца, дзе база партызан, але старая маўчала, сцяўшы зубы.

«Я пытаю,— парнуўшы ў вока старой, у каторы раз паўтарыў бургамістр,— дзе база партызан? Хто ўзарваў поезд на станцыі Сакалінае?»

«Не ведаю,— перамагаючы страшэнны боль, цвярдзіла Грыпіна.— Адкуль мне ведаць, хіба яны скажуць?»

«Ух, чартоўка старая! — крыкнуў камендант, выштурхнуўшы Грыпіну за дзверы.— Павесіць!»

Хутка на галіне ліпы была падрыхтавана шыбеніца. Грыпіна, уся ў крыві, аж кашуля прыліпла да цела, ледзь стаяла, нічога не бачачы. Яе падтрымлівалі два салдаты. Заставалася накінуць пятлю, але ў бургамі-

стра ад страху закалаціліся ногі. Неўзабаве да старой падышоў кат у белых пальчатках і накінуў вяроўку.

«Усіх не павесіце! — слабым голасам сказала Грыпіна.— Хутка пагоняць вас адсюль, аж пяткі заблішчаць!»

Раззлаваны камендант падышоў і сам выбіў калодку з-пад ног старой.

«Мы зробім тут засаду,— звяртаючыся да бургамістра, сказаў камендант.— Быць не можа, каб яны сюды не прыйшлі».

«Але ж гэта небяспечна»,— занепакоіўся бургамістр.

«Будзьце ўпэўнены,— заспакоіў яго камендант Шнэер.— Бачыце, ідуць афіцэры. Іх трэба пачаставаць. Яны расставілі кругом вёскі варту. Ночку пагуляем з жонкамі партызан, а заўтра пойдзем іх саміх лавіць. Загад — знішчыць партызанскі атрад Саўкі Пармона. Зразумела?»

«Так»,— адказаў бургамістр.

Ужо каторую гадзіну немцы, не толькі афіцэры, але і салдаты, сваволілі ў вёсцы Прысынак, чуўся плач і крыкі жанчын і дзяўчатак. Нарэшце афіцэры сабраліся ў хаце Грыпіны, каб завяршыць крывавы баль. Яшчэ доўга ходырам хадзіла хата старой. Ужо світала, калі афіцэры, змогшыся, заснулі.

Надзя сэрцам адчувала штосьці нядобрае, а таму рвалася дахаты. Прабраўшыся да маці, яна доўга плакала, а потым, калі немцы прыціхлі, вырашыла ім адпомсціць. Падышоўшы да дзвярэй, яна падперла іх і ў некалькіх месцах падпаліла хату. Чырвоныя языкі аблізвалі саламяную страху. Хата ўспыхнула, як запалкавы карабок. Ніхто з хаты не выйшаў жывым.

Калі падбеглі салдаты, ратаваць афіцэраў ужо нельга было, яны задыхнуліся ў дыме. Сагналі людзей тушыць пажар.

«Хто падпаліў хату?» — звяртаючыся да натоўпу, наставіўшы аўтамат, пытаўся обер-лейтэнант. Ён не ўдзельнічаў у выпіўцы.

Усе маўчалі, хоць ведалі, што зрабіў гэта не хто іншы, як Надзя. Обер-лейтэнант даў чаргу з аўтамата крыху вышэй галоў прысынкаўцаў. Надзя выйшла наперад і, высока падняўшы галаву, сказала:

«Я падпаліла хату, каб адпомсціць за маці».

«Павесіць!» — закрычаў обер-лейтэнант.

Салдаты схапілі Надзю і павялі да галінастай ліпы, дзе вісела маці. Ужо ўсё было падрыхтавана, як пачулася стральба: гэта партызаны, убачыўшы пажар, кінуліся ў вёску Прысынак. Завязаўся бой. Выкарыстаўшы замяшанне сярод гітлераўцаў, Надзя ўцякла. Калі партызаны выбілі немцаў з вёскі, ад хаты асталіся адны галавешкі. На галіне ліпы вісела цела Грыпіны.

Партызаны пахавалі старую вось на гэтай крутой гары, каля паўнаводнай рэчкі. Саўка ночы праседжваў напралёт, высякаючы на каменнай пліце: «Тут пахавана партызанка Грыпіна Пармон». А калі помнік быў гатоў, яго прывезлі з партызанскага лагера і паставілі на магіле, каб ніколі не забыць, як змагаліся простыя людзі за свабоду.

— Цікава,— пасля ўсяго прагаварыў Сяргей, уважліва выслухаўшы апавяданне партызана.— Вы, зразумела, не прысынкавец?

— Не, прысынкаўцы маўчаць, толькі калі-нікалі наведаюць папялішча і яшчэ больш зацята б'юцца. Вядома, такія раны...

— Аднак чаму вы, не ведаючы чалавека, пра ўсё расказваеце?

— Як гэта не ведаем,— усміхнуўся рыбак.— Хто Сяргея Паўлавіча не ведае? Наш камандзір расказаў усе вашы прыкметы і паслаў спаткаць вас і аберагаць.

— Што вы сказалі?

— Ой, загаварыўся,— паглядзеў на гадзіннік рыбак.— Тут небяспечнае месца.

Пачулася набліжэнне поезда.

— Дык Грыпіна маці вашага камандзіра?

— Так. Хавайцеся, таварыш Сяргей.

— Што такое?

— Праз некалькі хвілін па чыгунцы пройдзе поезд з жывой сілай на фронт. Камандзір атрада загадаў прапусціць яго. Увага! — падняў вудачку рыбак.— Падрыхтавацца!

Неўзабаве пачуўся выбух, пачалі рвацца снарады, высока ляцелі ўгару трэскі ад вагонаў, буферы, фрыцы. Застрачылі аўтаматы, кулямёты. Ударыла адзіная гармата Саўкі па немцах, якія ўцякалі. У паветры з'явіўся самалёт, які павінен быў суправаджаць і ахоўваць поезд. Ён нізка ляцеў.

На гары, дзе была пахавана Грыпіна, як з-пад зямлі, з'явілася «партызанская зенітка». Гэта быў звычайны кулямёт, прымацаваны да кола. Ён пачаў біць па самалёце. Угледзеўшы здзіўленне на твары Сяргея ад «партызанскай зеніткі», чалавек з вудачкай, усміхнуўшыся, гаварыў:

— Неяк адзін дзівак, прыбраўшыся ў тогу крытыка, строіў кепікі з нашай зеніткі. Няхай блазан пацяшаецца. А ўсё ж з яе мы збілі адзін варожы самалёт. А пасля і гармату сабралі, можа, калі ў музеі будзе выстаўлена,— і, паглядзеўшы, дадаў: — Пайшоў на разварот. Ён можа нарабіць тут кашы. Таварыш Сяргей! Для вас падрыхтаваны конь, садзіцеся, і паедзем.

— А кім вы былі да вайны? — ужо будучы ў сядле, пацікавіўся Сяргей.

— Вучыўся на настаўніка,— і прышпорыў каня.— Паехалі!

Хутка ў хмызняку сабраліся партызаны, вясёлыя, разгаворлівыя. Яны на вачах у Сяргея Паўлавіча ўдала правялі аперацыю. І Сяргей Паўлавіч быў імі задаволены. Неўзабаве ўсе рушылі і зніклі ў лесе. Партызаны наперабой расказвалі таварышу Сяргею аб сваіх прыгодах.

## 11

Партызаны Гарашчэні абжыліся на Замчышчы. Прыйшоў першы снег, прыйшла першая ваенная суровая зіма, прыйшлі выпрабаванні на трываласць і адданасць Радзіме. Гарашчэня сам кіраваў працай, будаваў зямлянкі, імкнучыся зменшыць людскія пакуты. Зямлянкі былі зроблены на славу: пабудаваны нары, пастаўлены печы, устаўлены «вокны». Калі б чалавек, не ведаючы, трапіў у партызанскія лагеры, ніколі б не пазнаў, што тут пабудаваны цэлы лясны горад. Лагеры былі вельмі добра замаскіраваны.

Партызанамі быў пабудаваны «хлебазавод», сховішча для харчавання, і нават мелася «лазня». Тое, што Гарашчэня меў спецыяльнасць слесара, цяпер яму спатрэбілася. Да вайны ён працаваў на Гомсельмашы, перш слесарам, а потым зменным майстрам. Гарашчэня за што ні возьмецца — можа зрабіць і іншым пакажа. Азярышчанцы, хто не мог насіць зброі, выконвалі

гаспадарчую працу. А ваенная гаспадарка — вялікая гаспадарка. Добрая арганізацыя па забеспячэнню атрада боепрыпасамі, харчаваннем і жыллёвымі ўмовамі сказалася і на баявых дзеяннях. Гарашчэнеўцы не давалі гітлераўцам жыцця, білі фрыцаў днём і ноччу. Добра праявіла сябе ў змаганні з фашыстамі Міроніха, яна асабіста знішчыла некалькі фрыцаў. Міроніха сама зараджала стрэльбу, як на ваўкоў, кулямі. Старая часта хадзіла на заданні. Азярышчанцы па паходцы пазнавалі, калі ў Міроніхі была ўдача. Яна тады ішла, высока падняўшы галаву, была разгаворлівай.

— Ах, як мне хочацца есці,— гаварыла Міроніха.— І спаць добра буду. Сёння я адправіла на той свет нейкага обера. Толькі гэтым іх можна адвучыць лезці ў савецкі агарод!

Марыйка страшэнна нервавалася. Яна была нездаволена, што яе камандзір прызначыў на кухню, але сутнасць не ў гэтым. Яна пакахала Гарашчэню, а ён, як ёй здавалася, быў да яе абыякавым. Калі Марыйка куляй кідалася выконваць камандзіравы заданні — ён яе хваліў; калі бачыў, што яна абы-як рабіла,— пачынаў сварыцца. А час ішоў. Марыйка часта трапляла Гарашчэню на вочы. І, неяк неўзаметку для сябе, Гарашчэня пачаў да яе прыглядацца. Часамі яму сумна станавілася, калі даўно яе не бачыў. Тады ён сам шукаў з ёю сустрэчы.

— Дык вы перавядзеце мяне з кухні ці не? — злавалася Марыйка.

— Куды?

— Хоць у санітаркі,— ледзь не плакала Марыйка.— Я ж такі нейкую асвету маю. На ліха я вучылася!

— Выконваць абавязкі ўрача на кухні — вялікая справа.

— Цётка Міроніха і тая ходзіць на заданні. А хіба я не магу?

— У вас вялікае заданне — карміць гэтулькі людзей.

Але Марыйка не слухала яго; не вытрымаўшы, яна расплакалася. Гарашчэня ўзяў яе за локаць і, заспакойваючы, спытаў:

— Чаго вы?

Марыйка яшчэ больш расплакалася; яе такі жаль агарнуў, што нельга было суцешыць.

— Якая я няшчасная! Ніхто мяне не разумее. Пайду. Утаплюся!..

— Дык жа вада, Марыйка, халодная,— жартаваў Гарашчэня.— Ну, добра, будзеце санітаркай. А далей што?

— Далей? — падняла Марыйка вочы, у якіх было поўна слёз.— Нічога!..

— Нешта не так,— пасміхаўся вачыма Гарашчэня.— Можа, пакахалі каго з санітараў? Там ёсць добрыя хлопцы.

— А што вам да гэтага,— ускіпела Марыйка.— Можа, загадаеце па камандзе дакладаць пра каханне?

— А гэта не блага было б,— усміхнуўся Гарашчэня.— Камандзір усё павінен ведаць.

Яны ў апошні час такога роду перапалкі часта рабілі. Але сёння ў іх нешта не клеілася, і яны хутка разышліся.

Не шанцавала і Панцялею Аўсяніку, і ён не меў вайсковага шчасця. Вучоны, як празвалі яго партызаны, куды ні пойдзе, дык усё няўдача. Ён быў незадаволены самім сабою, злаваўся на іншых і, без таго худы, ён яшчэ больш выцягнуўся. «Акыш, а то павалюся,— жартавалі з яго партызаны.— Няўдачнік наш вучоны». Яго адмаўляліся браць на аперацыі, тады ён, сумуючы, днямі праседжваў у зямлянцы, чытаў, нешта запісваў у чорную кніжачку дробным почыркам, падоўгу сядзеў, аб нечым думаючы. Яго маленькія вочкі да таго ўваліліся, што з-за густых брывей іх амаль зусім не было відаць.

Гарашчэнеўцы заўсёды бралі хітрасцю; яны не чакалі гітлераўцаў, а іх шукалі, нападалі нечакана, білі насмерць. Аднойчы, прыйшоўшы з разведкі, Мікалай Дрозд прынёс сумныя весткі аб пагрозе ў горадзе Беразнянцы — усё яўрэўскае насельніцтва было сагнана на могілкі і расстраляна; дзяцей немцы кідалі ў магілу і закапвалі жывымі. Чутка ішла, што пагромы адбыліся па ўсёй Беларусі. Міраніха тады сказала: «Тое, што яны сёння робяць з яўрэямі, заўтра будуць рабіць з беларусамі. Ад фашыстаў не чакай дабра!» З ёю ўсе пагадзіліся. Акрамя гэтага, Дрозд прынёс з сабою сарваную абвестку, дзе абяцана было заплаціць за галаву Гарашчэні пяцьдзесят тысяч марак. Разведчык высунуў дзёрзкую думку: пайсці да каменданта гора-

да і сказаць, што ён ведае, дзе знаходзіцца атрад Гарашчэні, а потым завесці немцаў у пастку і знішчыць. Гарашчэня згадзіўся з прапановай Дразда, сказаўшы, дзе будзе зроблена засада. Праз некаторы час Дрозд пайшоў у горад.

Дарогаю адважны партызан да дробязей абдумаў свой план. І вось Дрозд увайшоў у камендатуру і паведаміў пра тое, што ён ведае, дзе знаходзяцца партызаны (пры гэтым паказаў абвестку). Дзяжурны, далажыўшы пра гэта начальству, ахвотна прапусціў яго да каменданта.

— Гут, гут, рус,— гаварыў дзяжурны, праводзячы Дразда да кабінета.

— Што вы хацелі сказаць? — разваліўшыся ў крэсле з высокай спінкай, пытаўся камендант.

Увайшоўшы, Дрозд мімаволі акінуў вачыма пакой каменданта горада, у ім было чыста і ўтульна. На сценах віселі карціны.

— Я прыйшоў паведаміць гера каменданта пра месцазнаходжанне партызан,— трымаючы ў руках аб'яву, гаварыў Дрозд, захоўваючы ўнутраную ўсхваляванасць.— Я, канешне, маю на ўвазе, што вы добра заплаціце, каб мне зноў узбіцца на гаспадарку... А то бальшавікі абдзерлі мяне як ліпку, вядома, кулак...

— О, рус! — узрадаваўся камендант.— Калі б нам удалося вылавіць партызан, дык я цябе азалаціў бы... І перш за ўсё мяне цікавіць атрад Гарашчэні... Дзе ён знаходзіцца?..

— У Воўчым Лагу,— спакойна сказаў Дрозд.

— Няўжо там? — забегаў камендант па пакоі.— А не маніш?

— Што вы! — усклікнуў Дрозд.

— Глядзі, па воласу вырвем тваю барадзішчу,— усміхнуўся камендант.— Каньяку вып'еш?

— Не адмоўлюся, — ухмыляючыся, прагаварыў Дрозд.— Люблю тры рэчы: выпіць, паесці і жанчын. Весялей чалавеку з імі!

— Бачу,— працадзіў праз зубы камендант.— Пі!

— Дзякую,— узяў чарку Дрозд.— А толькі я не прывык адзін піць.

— Пі! — у тоне каменданта адчуваўся загад.

— А-ах,— падпарадкаваўся ён,— ну і мацунак!

— Пазваць начальніка карнага атрада,— аддаў распараджэнне камендант і, звярнуўшыся да Дразда, прапанаваў: — Віп'еш яшчэ?

— Прабачце, але адзін такі не магу,— адмаўляўся Дрозд.— Дый нешта ў вас харч дрэнны... Мы любім выпіўшы закусіць... У нас так кажуць: «Пі, але закусвай...»

— Пасля французскага каньяку не блага паесці,— няёмка адчуў сябе камендант,— але ў мяне, акрамя галандскага сыру... Пачакайце, пачастую вас рабчыкам...

— Прызнаюся, з усёй птушкі больш за ўсё люблю кавалачак вяндліны. Трываласць якая! Яшчэ, кажуць, нямецкія сасіскі добра...

— О, гут! У другі раз... Спадзяюся... Сустрэнемся... Наліць?...

— Дзякую. Кухлю піва мог ба...

— На жаль, няма.

— Дык трэба спяшацца. А то партызаны, як пералётныя птушкі... гэта народ такі, фырць — і няма... Лаві тады вецер у полі... Уеліся яны ў косці... А яшчэ, кажуць, не гэта будзе...

— Ага! Разумею.

У пакой увайшоў капітан Дранке, таўстазады афіцэр з Баварыі. Аддаўшы каменданту чэсць, капітан Дранке рапартаваў:

— Па вашаму загаду з'явіўся!

— Мы напалі на след партызанскага атрада Гаранчэні. Вазьміце аўтаматчыкаў. Паведаміў гэты стары. А толькі... глядзіце...

— Як? — Дрозд зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся.— Вы мне не давяраеце?

— Што вы! — згладжваў камендант, падміргнуўшы капітану.— Пра вас я зусім другое думкі... А толькі, калі зловім Гарашчэню, атрымаеце пяцьдзесят тысяч... Нарэжам зямлі... Дадзім хату... Нямецкі пан добры...

— О, гэта інтэрас,— гаварыў Дрозд.— Чую голас гаспадара... Уласна кажучы, грошы мяне і прывялі сюды... Як прачытаў вось гэтую абвестку, рукі закалаціліся... Дык я пайшоў! Да хуткай сустрэчы!..

Дрозд выйшаў. Камендант зняважліва правёў яго вачыма і, звярнуўшыся да капітана, папярэдзіў:

— За кожным рускім трэба глядзець... А за здраднікам тым больш, калі ён прадае сваю краіну, дык нас тым больш прадасць... Наймалейшая падазронасць — страляйце!..— камендант падумаў: — І калі б нават удалося злавіць Гарашчэню, таксама...

— Зразумела! — казырнуў капітан. — Дазвольце ісці?

— З богам! — правёў вачыма камендант, ён услых падумаў: — Цяжка сказаць, вынесем мы адсюль свае ногі ці не... Міласцівы божа, ратуй нас... Ні ўдзень ні ўначы няма супакою...

І стомлены камендант прайшоў у пакой, поруч з кабінетам, каб хоць трохі адпачыць.

## 12

Гарашчэня, заўважыўшы, што Аўсянік нечым нездаволены, паклікаў яго да сябе. У зямлянку камандзіра ўвайшоў партызан.

— Сядай! — прапанаваў Гарашчэня. — Раскажы мне, братка, што ў цябе на сэрцы. Можа, закахаўся?

— Кахаў адну жанчыну, але яна аказалася не вартай гэтага.

— Па ёй сумуеш?

— Не ў галаве яна мне.

— Дык што цябе непакоіць?

— Прабачце за шчырасць: таўчэм у ступе ваду,— шматзначна сказаў Аўсянік.— Не выкарыстоўваем сваіх магчымасцей.

— Як гэта? — зацікавіўся камандзір.

— А так,— працягваў развіваць сваю думку Аўсянік.— Колькі мы пусцілі пад адхон паяздоў, а чыгунка ўсё працуе. Узбраенне ідзе на фронт. Трэба мост узарваць.

— Ты маеш на ўвазе Беразнянскі мост?

— Але.

— Там вялікая ахова. У лоб цяжка браць. Шмат людзей загіне. Вялікая там сіла!

— Вялікая,— згадзіўся Аўсянік.— Але яе можна адолець.

— Як? — цікавіўся Гарашчэня.

— Я адзін з імі спраўлюся.

— Ты жартуеш?!

— Ніякіх жартаў.

— Калі ў цябе ёсць план, як узарваць мост, дык я табе дам людзей, ідзі ўзрывай,— хітраваў Гарашчэня.

— Са мною людзі не пойдуць,— прызнаўся Аўсянік.— Не разумеюць яны мяне.

— Чаму?

— Сам не ведаю. Усе лічаць мяне баязліўцам, але я зусім не такі.

— Прызнацца па праўдзе, і я такой думкі.

— Ведаю, а ад гэтага мне яшчэ горш,— з адчаем гаварыў Аўсянік.— Я губляю пад нагамі глебу. Уяўленне такое, што я дарма ем хлеб. Мне не вераць, што я забіў фашыста на руме, часам і я пачынаю ў гэтым сумнявацца. Але ж гэта маіх рук работа. Шпакоўскі бачыў...

— Ён за цябе гарой стаіць.— Камандзір падумаў.— Дам табе ўзвод. Хопіць?

— Я лепей адзін пайду.

— Ты ў сваім розуме? Што ты там адзін зробіш? Гэта вар'яцтва! Нікому не кажы — засмяюць.

— Я так і ведаў, што мяне палічаць за вар'ята,— унурыў галаву Аўсянік.— А можа, вы мяне ўсё ж выслухаеце?

— Давай. Я хачу ведаць твой план. Без гэтага людзей не дам.

— Не патрэбны мне людзі,— стаяў на сваім Аўсянік.— Ахоўвае мост трыццаць чалавек немцаў і семдзесят паліцыянтаў. Хлопцаў сілком, а правільней, ашуканствам узялі ў паліцыю. Гэтаму памаглі нацыяналісты, іначай, казалі, адправяць у Нямеччыну. Некаторыя паліцаі з нашай вёскі, я разам з імі вучыўся ў пачатковай школе. Не веру, каб яны сталі здраднікамі. З імі трэба пагаварыць, і яны расправяцца з фашыстамі.

— А калі вам не ўдасца пераканаць паліцаяў зрабіць гэта?

— Я разумею вас. Яны мяне могуць забіць,—паглядзеў на камандзіра шчырымі вачыма Аўсянік,— але я партызан не выдам. Вы мне верыце?

— Веру, — падумаўшы, сказаў Гарашчэня.

Аўсянік заззяў.

— Што ж, паспрабуй,— згадзіўся камандзір.

— Дасцё мне толькі ўзрыўчаткі.

— Добра,— абяцаў камандзір.— Ёсць магчымасць сябе паказаць. Даложыш мне свой план з усімі падрабязнасцямі.

— Слухаю! — казырнуў Аўсянік.— Дазволіце ісці?

— Ідзі,— правёў добрымі вачыма камандзір партызана.— І сапраўды: у нас яшчэ многа нявыкарыстаных магчымасцей.

## 13

Мікалай Дрозд ужо другую гадзіну вадзіў карны атрад па лесе. Стомленыя салдаты былі нездаволены. Ім здавалася, што яны ходзяць па крузе. Яно так і было. А справа ў тым, што гарашчэнеўцы не разлічылі часу, а таму спазніліся прыйсці ва ўмоўленае месца. Яны павінны былі спаткаць карнікаў у імшаніку. Таму Дрозд вымушан быў вадзіць карнікаў «вакол пальца», зрабіўшы выгляд, што збіўся з дарогі. Дрозд успомніў Насту, якой быў абавязаны сваім жыццём. Яна не выходзіла ў яго з галавы. За яе Дразду хацелася як найбольш палажыць карнікаў.

Раптам Дрозд павесялеў, угледзеўшы на старым дубе, на елках па тры засечыны: гэта значыла, што партызаны напагатове. Капітан Дранке, заўважыўшы перамену ў Дразда, спытаўся:

— Што такое?

— Мы выйшлі на дарогу.

— Добра.

Дрозд задаволена ўсміхнуўся ў бараду: «Зараз фрыцам будзе горача. Гэта ім за Насту, за Мірона, за савецкіх людзей, што склалі свае галовы ў барацьбе з лютым ворагам». Зайшоўшы за дуб, нібы па сваёй патрэбе, заклаўшы два пальцы ў рот, ён засвістаў. Партызаны з усіх бакоў адкрылі агонь па карным атрадзе.

Задаволены, Дрозд кінуўся ўцякаць. Капітан Дранке, які ўвесь час за ім сачыў, паслаў наўздагон яму кулю. Дрозд спаткнуўся і ўпаў, ён быў паранены ў нагу. Выхапіўшы рэвальвер, партызан пачаў адстрэльвацца. Капітан Дранке з-за дрэва, прыкленчыўшы на адно калена, біў па партызане. Дрозд не мог падняцца, з усіх бакоў ляцелі кулі, партызан, паздзіраўшы рукі, поўз па імшаніку. За ім прабіраўся капітан Дранке, ён не хацеў выпусціць хітрага партызана. На-

рэшце Дрозд падняўся, каб пераскочыць невялікі ручай. У гэты момант капітан прыцэліўся і стрэліў. Ацяжэлі ногі ў Drазда, як свінцом наліліся, і ён бездапаможна апусціўся на зямлю, заліўшыся крывёю. А тым часам партызанская куля напавал зляжыла камандзіра карнага атрада, капітана Дранке. Партызаны акружылі карны атрад, мала хто з карнікаў выйшаў адсюль.

— У імя жыцця загінуў Мікалай Дрозд, слаўны сын радзімы,— усхвалявана гаварыў Гарашчэня.— Наш народ ніколі яго не забудзе.

Моўчкі стаялі партызаны над свежай магілай з ашчаціненымі штыкамі, гатовыя да бою, да помсты. І ўдзень і ўначы шумлівая сасонка спявае песню над магілай адважнага партызана, славячы яго імя, а вецер разносіць гэтую песню па палях і нівах роднага краю.

## 14

Сяргей Паўлавіч, дзе пешкі, дзе пад'язджаючы на нямецкай машыне, дабраўся да вёскі Дрыгвічы, што кіламетраў за сем — дзесяць ад Мінска. Вечарэла. Ён хацеў заначаваць у Дрыгвічах, але сяляне не вельмі прыхільна да гэтага паставіліся. Праязджаючы, Сяргей Паўлавіч бачыў, што ўсё поле тут зноў было падзелена на палоскі. Сярод сялян нават вялася гутарка пра хутары, аб якіх гаўляйтэр Беларусі Кубэ пісаў у прадажнай «Беларускай газеце». А пра выказванне гаўляйтэра ў газеце «Дейче Цейтунг ін Остланд» адносна беларускіх гарадоў мала хто ведаў. А ён гаварыў: «Буйныя гарады Беларуценіі — Мінск, Віцебск, Гомель, Магілёў — ператвораны ў руіны. Няма неабходнасці аднаўляць гэтыя гарады, бо горад псуе беларуціна, таму што ён прыхільны да зямлі». Гітлераўцам — гэтаму памагалі беларускія буржуазныя нацыяналісты — хацелася ператварыць Беларусь у сваю калонію. Тут мінскае СД на чале з Хойзерам надала такі страх, што людзі кожнага незнаёмага чалавека баяліся. Усё ж Сяргей Паўлавіч наважыў пераначаваць у Дрыгвічах і зрабіў гэта, а назаўтра сяляне не пусцілі яго далей ісці. Яны прасілі Сяргея Паўлавіча яшчэ расказаць што-небудзь, пыталіся пра падзеі на

свеце. Яго абкружылі з усіх бакоў мужчыны з барадамі і паголеныя, у світках і кажухах. На дзіва, тут не было ні аднаго блазна, а жанчын і блізка не падпускалі. Такія тут былі заведзены парадкі старастам.

— Просім вас,— выйшаў наперад самы стары і, відаць, самы паважаны дзядзька,— пабудзьце ў нас яшчэ, раскажыце, што робіцца на свеце... Далятаюць да нас сякія-такія весткі, але хто яго ведае, чаму можна верыць, а чаму нельга... Вядома, такая неразбярыха... А стараста-вылюдак ціісне... Жыцця няма...

— Пра што ж вам расказаць? — падумаў Сяргей Паўлавіч.— Хочаце, я раскажу вам апавяданне-быль?

— Гэта як жа разумець, пра тое, што было?

— Але.

— Просім! Просім! — загаманілі дрыгвічанцы, усаджваючыся на лавах.

Сяргей Паўлавіч расказваў:

«Стаяла вёска Яршы на левым беразе Нёмана. За рэчкай, як вокам акінуць, былі заліўныя лугі. На полі красавала жыта. З вёскі відаць быў векавы бор. Яршоўцы народ бывалы: некалі мужчыны ганялі плыты аж да самага сіняга мора, а жанчыны ткалі выдатныя паясы. Але добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей. Была ў вёсцы сям'я Бурачкоў, якія жылі на ўскраі вёскі, на паплавах. З кожнага калена ў Бурачкоў каго-небудзь ды ўтаўкуць. Гэта былі на ўсю акругу канакрады.

Праўда, яршоўцы ад іх мала цярпелі. Канакрады прытрымліваліся воўчага закону: каля свае бярлогі нічога не чапаць. За ўвесь час Бурачкі ўкралі ў Яршах толькі аднаго каня, але потым заракліся на ўвесь век. Тры дні іх таўклі, ледзь на той свет не адправілі. Бывала, дзе ні прападзе конь, то ўсе ідуць у Яршы яго шукаць. Недарма кажуць, што паршывая авечка ўвесь статак псуе. Праз Бурачкоў усіх яршоўцаў лічылі зладзеямі. Не адна дзяўчына з-за іх асталася ў дзеўках, бо часта вёска абміналася сватамі.

Толькі пры савецкай уладзе не пашанцавала Бурачкам. Аднойчы апошні з іх роду, Сымон Бурачок, паквапіўся на калгаснага жарабка, дык яго ўпякалі, куды Макар цялят не ганяў... З таго часу спакойна было ва ўсёй аколіцы. І дзяўчат з Яршоў бралі замуж нарасхват. Пра Бурачка-апошняга, як у вёсцы яго зва-

лі, пачалі ўжо забываць. Старыя часам, седзячы на прызбе, успомняць благім словам, а маладым дык і не ў галаве было, што быў на свеце такі чалавек. Хто благое ўспамінае?

Калі занялі немцы Яршы, з'явіўся і Бурачок-апошні. За дзесяць год Бурачок-апошні вельмі змяніўся. За гэты час ён страціў адно вока. Чорная воспа пакінула на яго твары глыбокія сляды. Дзяцей больш за ўсё ўразіла тое, што ён насіў завушніцу. Бурачок-апошні быў апрануты ў паўвайсковую колеру жабы адзежу, насіў гальштук банцікам, гетры.

Пры размове з былым конюхам саўгаса, Васілём Кастрыцкім, які цяпер жыў у вёсцы, Бурачок-апошні глядзеў зверху ўніз. Цяпер Кастрыцкі нават яго пабойваўся.

Немцы прызначылі Бурачка-апошняга старастам. Гамонка пра гэта пайшла па ўсіх вёсках. З вуснаў у вусны перадавалася, што з'явіўся яршоўскі канакрад, ішла пагалоска, што ён на конях нажыў цэлае багацце, мае ў Нямеччыне свае маёнткі. Свой прыход да ўлады Бурачок-апошні адзначыў загадам: перавезці з саўгаса дом пад яго канцылярыю, сабраць па дзесятку яек, забраць у каваля Гіршы карову, за кожнага сабаку ўнесці па дзесяць марак (не падлягалі падатку нямецкія сабакі), выгнаць старасту самагону.

— Рыхтык як у нас,— не ўтрымаўся селянін.

— Цішэй ты, не перашкаджай,— зашыпелі з усіх бакоў мужчыны.

Сяргей Паўлавіч працягваў апавядаць:

«Лапатны тэлефон з маланкавай хуткасцю разнёс гэтую навіну; прычым, як заўсёды бывае ў часе вайны, людзі часта любяць крыху дадаць ад сябе. Праз дзень загад старасты выглядаў так: перавезці ўсе будынкі саўгаса «Прысады» ў Яршы і пабудаваць тут маёнтак; сабраць з вёскі ўсіх курэй і зрабіць курыную ферму Бурачка-апошняга і кампаніі; усім сабакам, акрамя нямецкіх, з'явіцца да старасты на рэгістрацыю; пабудаваць у Яршах самагонны завод. Канцоўка гэтай легенды была такая: путаць коней толькі жалезнымі путамі. А яшчэ праз дзень заканчвалася: сцеражыцеся — у хаце злодзей; бярыце дубіны і гоніце канакрада з вёскі, інача ён наробіць шкоды».

Пачаўся вялізны попыт на жалезныя путы. Кавалям не было адбою ад працы. Перакоўвалі старыя бароны, нарогі ад іржавых сох, якія па дзесятку год валяліся без справы, але рабілі, аказваецца, не путы (не такі дурны мужык, як пра яго думаюць!), а зброю,— яна есці не просіць,— калі злодзей схопіць цябе за горла, дык хоць кінжалам яму парнеш у бок. Тут справа такая: або ён цябе заб'е, або ты яго звядзі са свету.

Давялося і сабакам: іх таўклі на кожным кроку. То там, то тут было чуваць: «ая-я-яй»; гэта яршоўцы знішчалі сабак. А Кастрыцкі павесіў свайму сабачку бірку, на якой напісаў: «Я нямецкага паходжання, падатку не падлягаю». За сабачкам Кастрыцкага бегалі дзеці чарадою, рагаталі. Пасміхаліся і старыя. Жонка Кастрыцкага, не жадаючы мець непрыемнасцей, сарвала бірку.

Бурачок-апошні асабіста прасачыў, каб усе яршоўцы выехалі ў саўгас перавозіць дом. Ён хадзіў па дварах, выганяў падводы за вёску. Паволі запрагалі коней сяляне. А больш за ўсіх марудзіў Кастрыцкі. То ён хоча колы падмазаць, але каламазі не знойдзе, то дуга разагнулася, дык ён яе папраўляе, то супоня парвалася, трэба ладзіць другую. Мужчыны ж тым часам не ехалі. Нарэшце Кастрыцкі запрог каня, паправіў грыву, дык зноў напасць — пугі не знойдзе.

«Збіраецца, як папоў парабак,— іранічна заўважыў Бурачок-апошні і злосна запытаўся: — Доўга ты будзеш чухацца? Увечары атрымаеш дваццаць пяць! Будзеш ведаць, што такое «новы парадак». Я вас навучу паважаць нямецкую ўладу».

«Дык жа, мусіць, сякеру трэба ўзяць,— злосна паглядзеўшы на Бурачка-апошняга, прагаварыў Кастрыцкі.— Мужыку без сякеры, што рыбаку без портак».

«Годзе дзяцініцца, стары чалавек,— сыкнуў Бурачок-апошні, на хаду дадаўшы: — Атрымаеш пяцьдзесят! На людзях!..»

«Васілёк! — заглядаючы ў гнеўныя вочы мужа, прасіла Тэкля, адбіраючы сякеру.— Не трэба!..»

«Эт, усё роўна не будзе жыцця,— сказаў Кастрыцкі.— Глядзі дзяцей...»

Пануры Кастрыцкі выехаў са двара. Мусіць, адчуваючы сэрцам нешта трывожнае, Тэкля, правёўшы мужа за вароты і схапіўшы яго за руку, прасіла:

«Васілёк, родны, не чапайся! Дзеці малыя... Неяк жа пераажывем...»

— Добра,— заспакоіў жонку Кастрыцкі.— Калі ён мяне не зачэпіць, то і я яго не крану. А барані божа... тады — даруй. Ідзі, дзіця плача».

Кастрыцкі паехаў, а Тэкля, задаволеная і гэтым, хутка пайшла ў хату. Ён моўчкі праязджаў каля ўсіх падвод. Скрыпелі колы, уразаючыся па калодкі ў навеяны пясок. Сяляне Кастрыцкага заўсёды паважалі, бо ён быў справядлівым чалавекам, на вецер слоў не пускаў, быў удумлівым і разважлівым. Як толькі Кастрыцкі выехаў наперад, да яго падышоў Бурачок-апошні і, штурхнуўшы пугаўём, скамандаваў:

«Паганяй!»

«Ах ты зладзюга няшчасны! — моцна сціснуўшы ў руках сякеру, падумаў Кастрыцкі.— Дармаед!»

Ведаючы характар Кастрыцкага, Мікіта Кажамяка, яго сябра з маленства, увесь час за ім наглядаў. Нізенькі і тоўсценькі, вёрткі і дужы, Кажамяка схапіў за руку Кастрыцкага.

«Пу-у-сці! — вырываўся Кастрыцкі.— Я яму, гэтаму трутню, зраблю халэмус».

Высокі і непаваротлівы, як мядзведзь, Кастрыцкі, выцерабіўшыся ад Кажамякі, гатоў быў сагнуць старасту ў бараповы рог. Загаманілі мужчыны, з пугамі бегучы да пярэдняй падводы. За імі беглі дзеці. Сяляне нагадвалі раздражненых пчол, што гатовы былі накінуцца на любога звера.

«Навошта гэты вэрхал! — шапнуў Кажамяка.— Праедзем Броды, а там утопім. І сена цэлае, і козы сытыя... Мядзведзь! Бяры лейцы. Ну?!. Не марудзь. Чуеш ты мяне ці не?!»

«Па конях! — нібы прачнуўшыся, крыкнуў Кастрыцкі і, сеўшы ў драбіны, лейцамі тузануў каня.— Но-о, каб цябе ваўкі! Варушыся, буланы, застаяўся, воўчае мяса!.. Пайшоў!..»

«Сымон Мікалаевіч! — гаварыў Кажамяка, стоячы ля свайго воза.— І чаго вы схапіліся, як пеўні? Садзіцеся да мяне, паедзем, будзеце як у бога за пазухай. Там патрэбна будзе гаспадарскае вока. Не звяртайце на яго ўвагі, гарачы чалавек. Вось і тады пляснуў па носе... Добра, што яшчэ так, а то мог бы галаву адкру-

ціць. Ён у нас такі, да трох не гавары. За праўду бацькі і маці не пашкадуе. А хіба цяпер праўдай пражывеш?! Вось вам бургамістр дазволіў перавезці з саўгаса дом, а там два дамы — адзін стары, дык на ліха ён вам, мы свайму старасту перавязем новы. Паехалі?»

Бурачок-апошні прысеў да Кажамякі. Ірванулі яршоўцы, пакідаючы пыл слупам. Адсыпаліся, як камары, дзеці, пабеглі ў вёску.

Едучы, Кастрыцкі разглядаў багаты ўраджай. Жыта было вышэй чалавечага росту, яно калыхалася, як хвалі на моры. Падцягнуўся ячмень, выпускаючы свае калючыя вусы. Дзе-нідзе расцвіталі калівы грэчкі, гулі пчолы, пахла мёдам. Па ўсіх прыкметах на полі год павінен быць ураджайным, але старыя чамусьці казалі, што будзе голад. Яны жывуць па сваіх законах, бусел, бачыце, вясною выкінуў з гнязда яйка.

Праехаўшы Броды, пад'язджаючы да гаю, Кастрыцкі адпусціў лейцы і, прывязаўшы іх да драбін, пачаў закурваць. Скруціўшы цыгарку, ён дастаў крэсіва і пачаў высякаць агонь.

«Тпр-ру-у!» — галасна расцягнуў Кажамяка.

Кастрыцкі, прыкурыўшы, прытрымаў за лейцы каня, злез з воза.

«Чаго вы на паўдарозе спыніліся? — запытаўся адзін з сялян.— Калі ехаць, дык ехаць, а не — то вяртай назад! Няма чаго коней трымаць у хамуце. Гэта ж, можа, не вяселле».

«Не-е, хаўтуры,— мнагазначна сказаў Кастрыцкі.— Будзем старасту тапіць. Няўжо ж мы дазволім, каб намі верхаводзіў канакрад? Курам на смех!»

«Дзіва, людзі з суседніх вёсак праходу не даюць,— ажывіўся калгасны вартавы Макар, лупцануўшы Бурачка-апошняга пугаю.— Мала таго, што канакрад, дык яшчэ нацыяналіст. А ну, бычок, злазь! Будзем рогі збіваць!»

«Ату яго! — крычалі, збегшыся, мужчыны, б'ючы старасту пугамі.— Ату! Ату!»

«Браточкі, пусціце жывым,— прасіўся Бурачок-апошні.— Не буду больш старастам, не хачу, здаволіўся. І коней красці не буду, і з нацыяналістаў выпішуся, яны — фашысцкія папіхачы».

«З кім пабратаўся,— з'ездзіўшы некалькі разоў пугаём па стараставай галаве, злосна прагаварыў Каст-

рыцкі.— Бачылі ваўка ў авечай шкуры... Цягні яго, мужчыны, у вір!.. Захапіце, хлопцы, камень!..»

Сяляне схапілі Бурачка-апошняга і пацягнулі да рэчкі. Там Кастрыцкі загадаў старасту раздзецца, скласці адзежу. Потым, прывязаўшы Бурачку-апошняму камень на шыю, разгойдаўшы, кінулі ў вір, і хоць камень сарваўся, але стараста, як тапор, пайшоў на дно.

«От гэта боўць! — смяяўся Макар.— Жартаўнік, бурбалкі пускае...»

Праз некаторы час з віру, хуткім цячэннем вады, выкінула труп старасты на больш мелкае месца. Зачапіўшыся за нейкі корч, тапелец пагойдваўся на хвалях. Каля яго палахліва плавалі дробныя рыбкі. Мужчыны лягчэй уздыхнулі.

«Хлопцы, здыміце з шыі вяроўку,— захоўваючы ўнутраную ўсхваляванасць, прапанаваў Кастрыцкі.— Адзежу пакіньце на беразе. Купаўся...»

«Але,— сцвердзіў Макар.— Не ведаючы броду, не лезь у ваду...»

«Трэба замесці сляды»,— падказваў Кажамяка.

«Ага,— згадзіўся Кастрыцкі.— Выварочвайце, мужчыны, кішэні з тытунём...»

Гаманілі яршоўцы, высыпаючы тытунь.

«Вяртай аглоблі!»

«Няўжо ж».

«Паехалі дахаты!»

«Не,— запярэчыў Кастрыцкі.— Дом разабраны, расцягнуць на дровы. Паедзем, перавязем, добрая будзе школа. А прыйдуць нашы — свае людзі, разлічымся».

«Праўду кажа чалавек,— згадзіўся Кажамяка.— Ды і загад старасты выканаем. А чаго ён пайшоў тапіцца, ліха яго ведае. Можа, які псіх ці што якое... Дык калі ехаць, то паехалі, сонца на поўдні».

Яршоўцы, пасеўшы, трушком паехалі ў саўгас. Па дарозе ўсхадзіўся вецер, круціла, мяло, ірвала, засыпала вочы пяском. Фыркалі коні. Відаць было, што Кастрыцкі страшэнна нерваваўся. У яго з галавы не выходзіў канакрад. Нарэшце ён плюнуў, як бы адганяючы думкі пра старасту, хацеў заспяваць, але песня не клеілася.

Больш-менш заспакоіўся Кастрыцкі, калі прыехаў у саўгас і заняўся пагрузкаю дома. Але як толькі вы-

ехалі, зноў яго апанавалі думкі. Угледзеўшы, што Кастрыцкі сумуе, Кажамяка, дагнаўшы яго, загаварыў:

«Ты што ж гэта, стары, засумаваў? Калі палез у бойку, то чуба не шкадуй. Калі што якое, будзем бараніцца».

«А чым? — пытаўся Кастрыцкі.— Голымі рукамі кала не завострыш».

«На першы час сёе-тое знойдзецца, а там бог бацька,— сказаў Кажамяка, па сакрэту дадаўшы: — Калі адступалі нашы, то я на ўсякі выпадак дастаў пару вінтовак. Яны есці не просяць. Уткнуў у страху, няхай будуць. Рэч вядома, і патроны ёсць да іх».

«А ў мяне кулямёт прыхаван,— прызнаўся Кастрыцкі.— Дастаць бы яшчэ пушку, і можна смела выступаць».

«Ёсць інтэрас! — загарэўся Кажамяка.— Я ведаю, дзе гармату ўзяць. І хлопцы згаджаюцца яе цягнуць, яна схавана ў лесе, толькі страляць з яе няма каму. Можа... Ты ж стары артылерыст! А каб узяў каманду ў свае рукі, то і зусім добра было б».

«Страляць я магу,— гаварыў Кастрыцкі.— А вось з камандаю — боязна».

«Акрамя цябе, больш нікога няма,— угаварваў Кажамяка.— Народ цябе паважае. Не марудзь, згаджайся».

Яны некаторы час ішлі моўчкі. Ліў як з вядра касы дождж. У мужчын да цела прыліпалі кашулі. З коней валіла пара. І так бы яны невядома колькі маўчалі, калі б іх думкі не парушыла дзяўчынка з Бродаў:

«Дзядзі, вы з Яршоў? Ваш староста ўтапіўся,— гаварыла дзяўчынка нараспеў.— Быў бургамістр, паліцай, сабака. Але сабака пагойсае, пагойсае, ды на гаспадара брэша. Сабаку выклікалі таму, што на шыі астаўся знак ад вяроўкі. Але кажуць, што сабака нікога не знойдзе, бо дождж змыў сляды. Павезлі ў Яршы канакрада».

Ліў праліўны дождж. Хацелася курыць, але тытуню ні каліва. Кастрыцкі паглядзеў — абоз расцягнуўся больш як на кіламетр. Цяжка дыхалі коні. Дождж узмацніўся. Месцамі ўпокат ляжала жыта.

«Што ты нам яшчэ скажаш? — запытаўся Кажамяка, звяртаючыся да дзяўчынкі.— Нічога? То ідзі дадому».

«Яшчэ скажу, што ў Яршы паехала шмат паліцаяў,— паведамляла дзяўчынка.— І ўсе яны гавораць не па-нашаму».

«Вось як,— задумліва вымавіў Кастрыцкі і параіў: — Бяжы, дзіцятка, дадому, а то табе далёка будзе вяртацца».

Дзяўчынка, кіўнуўшы галавою, пабегла назад. Кастрыцкі і Кажамяка моўчкі пайшлі. З поля, разорамі, валам валіла дажджавая вада, размываючы зямлю, Цяжка ступалі коні па пясчанай дарозе, пакідаючы глыбокія сляды. Пад'язджаючы да вёскі, мужчыны заўважылі Тэклю з дзіцем на руках. Кажамяка крыху адстаў, каб падагнаць каня. Гнеды цягнуў з усіх сіл. Ён сцебануў каня, гнеды спыніўся.

«Но-о! — даўшы каню перадыхнуць, крыкнуў Кажамяка, памагаючы зрушыць воз з месца.— Во, во! Пайшоў!»

Параўняўшыся, жонка паглядзела на мужа і, нічога не пытаючыся, па вачах пазнала, што справа са старастам яго рук работа.

«Дык што чутно? — запытаўся Кастрыцкі.— Казалі, што нешта здарылася...»

«Ка-а-залі,— дакарала Тэкля.— Прасіла яго... Усю вёску абтрэслі... Усё забіраюць... Як будзем жыць?..»

«Калі будзем жывы, дык неяк пражывем,— заспакойваў Кастрыцкі.— Дзе яны?»

«У канцылярыі калгаса,— паведаміла Тэкля.— І на чорта была тая вяроўка, гэтулькі клопату нарабілі».

Кастрыцкі, паглядзеўшы на Тэклю, папярэдзіў:

«Трымай язык за зубамі».

«Калі ж белымі ніткамі шыта».

«От лепей глядзі дзяцей».

«Шыла ў мяшку не ўтоіш. Ці не лепей табе, Васіль, не паказвацца ім на вочы».

«Так будзе горай».

«Прасіла цябе не чапацца».

«Эт, не назаляй! Ідзі лепей у хату».

«Не, я з табою пайду. Куды ты, туды і я, хоць на той свет, дык разам».

«Кажу, ідзі дадому. Я зусім не збіраюся на той свет, хоць яны хацелі б усіх нас туды адправіць. А дурніцы, нацыяналісты, у гэтым ім памагаюць. Жывым я не здамся!»

Тэкля моўчкі павярнула. Кастрыцкі па плячах заўважыў, што яна плача. Цяжка ў яго стала на душы. Закалацілася сэрца, сціснуліся кулакі.

«Колькі фашысты прынеслі людзям гора! — уголас падумаў Кастрыцкі.— Колькі льецца слёз і крыві! Колькі астанецца сірот і калек. Але прыйдзе напасці канец, ён ужо ідзе, пачатак канца пачаўся».

Ехалі падводы. Насустрач ім выйшаў бургамістр, высокі, худы, сутулы, з доўгімі нязграбнымі рукамі.

«Сагнуўся ў тры пагібелі»,— іранічна заўважыў Макар.

За бургамістрам ішоў чалавек з сабакам-аўчаркаю. Падцягваліся падводы. Бургамістр моўчкі паглядзеў на чалавека, той пусціў сабаку. Каб захаваць хваляванне, Кастрыцкі хацеў закурыць, зусім забыўшыся, што ў яго няма тытуню. Да Кастрыцкага падбег сабака, абнюхаў, пакруціўся і рвануў далей. З'язджаліся падводы. Сабака абабег падводчыкаў і, вярнуўшыся, віляючы хвастом, пачаў брахаць на гаспадара.

«А каб ты здох! — злосна вымавіў бургамістр, падыходзячы да сялян.— Хто тут у вас будзе старэйшы?»

«Староста,— адказаў Макар, нібы нічога не ведаючы.— Ён у нас верхаводзіць...»

«Я ў цябе не пра гэта пытаю».

«Калі па гадах, дык я,— выйшаў наперад Макар, загароджваючы Кастрыцкага.— На восьмы дзесятак стукнула».

«Ду-у-рань!»

«Дурань, спадар, дурань!»

«Няма ў нас такіх,— гаварыў Макар.— Быў адзін, ды кажуць, што сплыў. Кожны сам сабе гаспадар».

«Даць яму дваццаць пяць!» — загадаў бургамістр.

Паліцыянты схапілі Макара, вывернулі назад рукі, раздзелі і на вачах у людзей пачалі лупцаваць.

«Ото ж добра, хоць на старасці год пакаштую фашысцкіх прысмакаў,— іранізаваў Макар і, нарэшце, не выцерпеўшы, закрычаў: — О-ой! Годзе! Калі яна вам так да смаку прыйшлася, дык лепей пацалуйце яе... Вы што ж, сукіны сыны, лічыць не ўмееце? На чацвёрты дзесятак...»

«Што вы здзекуецеся з старога чалавека?» — падаўся наперад Кастрыцкі.

«Вось ты і будзеш за старасту,— адказаў бургамістр.— Іначай з вамі не саўладаеш».
«Я не буду».
«Чаму?»
«Бо няграматны»,— хітрыў Кастрыцкі.
«Граматы тут вялікай не трэба. Распісацца ўмееш — і добра».
«Не буду»,— паўтарыў Кастрыцкі.
«Устанавіць чаргу,— падпяразваючыся, гаварыў Макар.— Навошта аднаму пакутаваць, давайце па чарзе».
«Будзеш! — крыкнуў бургамістр.— А калі адмовішся, расстраляем. Гэта непавага нямецкай улады».
«Дык улада не ваша, нацыяналістаў, а немцаў»,— гаварыў Макар.
Бургамістр ці то не дачуў, ці не хацеў рэагаваць. Ён маўчаў.
Мужчыны заварушыліся, зашапталіся, загаманілі.
«А ліха на яго, згаджайся!»
«Ды ўжо ж, дзе ты дзенешся, упрагайся. Будзем разам цягнуць!»
«Бярыся, Васіль, падтрымаем!»
«Згаджаешся? — падышоўшы бліжэй, запытаўся бургамістр.— Дык распарадзіся, дзе згрузіць бярвенні, а потым да мяне заходзь».
«Але ж,— страпянуўся Макар.— Коні ўвесь дзень нямецкія газеты чыталі».
«Ты ў мяне дабрэшашся,— зазлаваў бургамістр.— Не пагляджу на тваю старасць!...»
«Адбіваю аванс,— агрызнуўся Макар.— Колькі лішніх далі! Я ў даўгу не астануся».
«Паехалі!» — сказаў Кастрыцкі, і падводы рушылі.
Прайшло з месяц, як Кастрыцкі быў старастам. За гэты час у каго была якая зброя, яе прывялі ў баявую гатоўнасць, перарабілі косы і сярпы на нажы. Аблазілі ўвесь Нёман, дзе была пераправа, шукаючы зброю. Асаблівы попыт быў на аўтаматы. Аднаму хлопцу заплацілі за аўтамат — каня. А колькі прылажылі працы, пакуль прывялі ў парадак гармату. Але ўсё падрыхтавалі, усё было напагатове.
З горада слалі паперку за паперкай аб здачы падаткаў, а яршоўцы і ў вус не дзьмулі. Кастрыцкі складаў акт за актам. Жыта ў яго град пабіў, канюшыну

нямецкія коні стапталі, лён на корані падгніў, бульбу рак папсуў (а яго і ў паміне не было), грэчка позна пасеяна і не ўзышла. Адным словам, замест здачы харчавання немцам, яршоўцы стварылі фонд для партызан. Слава аб яршоўцах разнеслася па ўсёй акрузе.

Бургамістр нерваваўся, ён пагражаў.

«Калі ў аднадзённы тэрмін вёска Яршы не ўнясе падаткаў, разглядаем усіх яршоўцаў партызанамі, выедзе карная экспедыцыя».

Занепакоіліся яршоўцы. За адну ноч яны адправілі ўсіх дзяцей і старых з маёмасцю ў падрыхтаваныя ў лесе лагеры, а мужчыны, на чале з Кастрыцкім, занялі абарону. Досвіткам з'явіліся карнікі. Яршоўцы, падпусціўшы карнікаў метраў на дзвесце, адкрылі па іх ураганны агонь. Завязаўся кравапралітны бой, які цягнуўся ўвесь дзень. Да карнікаў падаспела падмацаванне. Яны пачалі цясніць яршоўцаў. Тады Кастрыцкі ўвёў у бой усе свае рэзервы, якія былі выкліканы з лагера. Выкаціўшы гармату на адкрытыя пазіцыі, Кастрыцкі простай наводкай пачаў біць па карніках, рассеяўшы іх па полі. Позна ўвечары скончыўся бой. Карнікі адступілі, пакінуўшы на полі бою шмат забітых салдат і афіцэраў. А гэта здарылася таму, што яны пераацанілі свае сілы і недаацанілі партызан. Страты яршоўцаў таксама былі вялікія. Сярод забітых быў Макар.

Акалічнасці яго геройскай смерці такія. Ён быў на правым флангу, калі яршоўцы пад націскам вялікіх сіл карнікаў падаліся назад і пакінулі фланг адкрытым. Макар, крыкнуўшы: «Са сваёй зямлі не систуплю!», адзін астаўся прыкрываць фланг. У рукапашнай схватцы ён палажыў трох карнікаў. Чацвёрты нанёс яму смяротную рану. Макар сканаў на полі бою.

Усю ноч было спакойна. Раніцою з'явіліся нямецкія самалёты. Скінуўшы на вёску бомбавы груз, яны палівалі вёску Яршы свінцом. Усе людзі асталіся на сваіх месцах, яны білі па самалётах. Аднаго «рызыканта» яршоўцы такі збілі. Самалёт з усім экіпажам урэзаўся ў зямлю. Узвіліся ўверх клубы чорнага дыму.

Гарэлі Яршы, шугала полымя, пажар быў відаць на дзесяткі кіламетраў. Да поўдня вёскі не стала. Тырчалі абгарэлыя коміны, стаялі печы, дыміліся галавешкі. Але яршоўцы не пакідалі наседжаных месц. Ім

кожнае дрэва з пажоўклымі лісцямі, кожны куст былі мілыя. Гэтая зямля іх ускарміла, тут яны гадаваліся, вучыліся. За свой родны кут, які быў ім мілей за ўсё на свеце, яны гатовы былі памерці. Ведаючы, што карнікі яшчэ прыйдуць, яны рыхтаваліся іх як мае быць сустрэць.

І яршоўцы не памыліліся. Неўзабаве паказаліся дазорныя карнікаў. Яршоўцы не давалі аб сабе знаць. І толькі тады, калі падышлі асноўныя сілы карнікаў, яршоўцы адкрылі па іх агонь. Адбыўся кароткі бой. Карнікі ў паніцы разбегліся, пакінуўшы на полі бою каля трыццаці чалавек. У гэтым баі быў паранены камандзір яршоўскіх партызан Кастрыцкі, але ён да апошняга кіраваў боем.

Дыміліся Яршы. Прыляцеў бусел у вёску і, не знайшоўшы свайго гнязда, паляцеў у бок рэчкі. На адной з уцалелых печаў сядзеў замурзаны коцік, грэючыся на сонцы, мыючыся лапкамі. Пахла горкім дымам.

Яршоўцы пахавалі сваіх таварышаў і, даўшы салют, рушылі ў лес, сеяць помсту».

Скончыўшы апавядаць, Сяргей Паўлавіч закурыў.

— Але ж гэты самы Сымон Бурачок,— пасля кароткай паўзы, загаварыў селянін, звяртаючыся да Сяргея Паўлавіча,— вельмі падобны на нашага Вінцэнта Ягайлу... Гэтага з Літвы прывезлі... Кропля ў кроплю... Можа, нават горшы... Так прыціснуў — ні дыхнуць...

— А хіба мы не можам зрабіць тое ж самае з Ягайлам, што яршоўцы з Бурачком-апошнім? — ажывіўся былы калгасны рахункавод Чыж.— Баланс у нашу карысць... Сіла ў народзе...

— Не вельмі ты зробіш,— сказаў селянін.— Дэбет, крэдыт... Зашыўся ў нару... А прыйдуць нашы: падаць сюды Чыжа; што ты рабіў, каб хутчэй прагнаць фашыста?.. Зямлю на палосы дзяліў?..

У хату ўвайшоў Ягайла з двума паліцыянтамі, якія адразу накінуліся на Сяргея Паўлавіча, звязалі яму рукі назад.

— Пойдзем у воласць!..

— Якая воласць,— ускіпеў Чыж.— Завядзем за вёску і зробім канцы...

— Каму? — запытаўся селянін у кажусе.

— Там паглядзім,— адказаў Чыж.

— Пайшлі! — загадаў Ягайла.

Сяргей Паўлавіч здзіўлена паглядзеў на Чыжа. Мужчыны натоўпам моўчкі ішлі, а як толькі прайшлі апошнюю хату, загаманілі. Выламаўшы з плота кол, Чыж з размаху ўдарыў па галаве Ягайле — той і зваліўся. Астатнія ўзяліся за паліцыянтаў, змялі іх. Забітых сцягнулі ў глінішча і кінулі.

Сяляне вёскі Дрыгвічы папрасілі Сяргея Паўлавіча яшчэ на дзень астацца, і ён ахвотна згадзіўся. Заварушыліся дрыгвічанцы, запрацавала кузня, каваль рабіў зброю. Па вёсцы бегалі падлеткі. Адзін з іх, як дарослы, сказаў: «А што ты зрабіў для таго, каб хутчэй прагнаць фашыстаў?» Другі адказаў: «Пачакай, зраблю!» Доўга ў гэтую ноч у вёсцы Дрыгвічы гарэлі агні — гэта бацькі і мацеры, жонкі і сёстры збіралі ў дарогу сваіх родных і любімых, наказваючы ім жорстка помсціць фашыстам, якія парушылі людзям мірнае, радаснае і шчаслівае жыццё.

## 15

Панцялей Аўсянік ужо некалькі гадзін сядзеў у хвойніку, чакаючы зручнага моманту, каб спаткацца хоць з кім з паліцаяў, што ахоўвалі мост. Нарэшце ён убачыў свайго земляка, з якім у школе сядзеў за адной партай. Зямляк прыходзіў у хвойнік па дровы.

— Мацей! — гукнуў Аўсянік.

У Мацея закалаціліся рукі, пасыпалася галлё. Тут ужо не адзін раз былі партызаны. Мацей хацеў уцякаць.

— Стой! — набраўшыся храбрасці, скамандаваў Аўсянік.— Няўжо не пазнаеш сваіх?

— Аўсянік! — ледзь вымавіў Мацей.— Адкуль ты? Дзе ты цяпер?

— У партызанах,— важна адказаў Аўсянік.— Вас, модурняў, прыйшоў ратаваць. Ад вас жа астанецца мокрае месца, як вернецца Чырвоная Армія. А яна абавязкова вернецца!

— А братачка,— узрадаваўся Мацей.— Няўжо па нас? Мы даўно збіраліся ўцячы. Але дома нельга жыць, а ў партызаны ці возьмуць?

— Камандзір атрада сказаў, хто варты гэтага — прымем у партызаны, няхай сваёю крывёю скупяць віну,— паведаміў Аўсянік.

— Дык ты чакай тут, не пройдзе і гадзіны, як сюды з'явяцца ўсе нашы хлопцы, якіх ты добра ведаеш. Пойдзем з табою!

— Не выйдзе!

— Чаму?

— Трэба заслужыць.

— А як?

— Узарваць мост.

— Дык жа немцы.

— Немцаў пабіць.

— Цішэй ты,— спалохаўся Мацей,— яшчэ могуць падслухаць. А чым ты ўзарвеш?

— Ёсць чым, абы было каму.

— Будзе,— абяцаў Мацей.— Калі дазволіш, я зараз прывяду сюды з дзесятак хлопцаў.

— Ідзі і прыводзь.

— А ты сапраўды ад партызан? — перапытаў Мацей.

— Па заданню камандавання.

— А хто ў вас камандзір?

— Гарашчэня. Чуў такога?

— А як жа! Тады іду! — Мацей узяў назбіраныя дровы і хутка пайшоў.

Здоўжылася Аўсяніку чакаць, прыходзілі ў галаву розныя думкі, а што, калі паліцаі пабаяцца ісці або прыйдуць, каб яго захапіць. На ўсякі выпадак Аўсянік падрыхтаваў гранату, калі толькі захочуць яго ўзяць, дык жывым не возьмуць. Нарэшце паказаліся паліцаі, яны ішлі па аднаму і невялікімі групамі, усяго чалавек дванаццаць. Па целе Аўсяніка прабеглі мурашкі. Партызан мацней сціснуў у руках гранату. Першым увайшоў у лес Мацей, не знаходзячы вачыма Аўсяніка, паліцай засвісцеў. Аўсянік яму адказаў. Яны сышліся.

— Вось гэтыя адзінаццаць чалавек, якія са мною прыйшлі, хоць зараз могуць ісці,— паведаміў Мацей.

— Перш чым ісці, дык трэба зрабіць тое, што я казаў. Я да вас пайду!

Сабраліся паліцаі, доўга раіліся, нарэшце, набраўшы дроў, пайшлі. А з імі рушыў і Аўсянік. Яны ўмові-

ліся прасіць обер-лейтэнанта прыняць Аўсяніка ў ахову моста.

Да обер-лейтэнанта зайшлі Аўсянік і Мацей.

— Прашу вас прыняць мяне паліцыянтам.

— А хто за вас можа паручыцца? — агледзеўшы з ног да галавы Аўсяніка, спытаўся обер-лейтэнант.

— Я,— сказаў Мацей.— Яго бацька бальшавікамі быў раскулачаны...

— Добра,— і тут жа афіцэр распарадзіўся залічыць Аўсяніка ў паліцыянты.

Ужо тры дні Аўсянік быў у ахове моста. Параіўшы быць асцярожнымі, група паліцаяў праводзіла работу сярод астатніх. Аўсянік трымаўся ў баку. Да яго яшчэ прыглядаліся, вывучалі. На чацвёрты дзень Аўсяніку далажылі, што ўжо ёсць пяцьдзесят тры чалавекі, якім смела можна даверыць, не падвядуць.

— Тады можна пачынаць,— сказаў Аўсянік.

На пятыя суткі, ноччу, паліцаі, кіруемыя Аўсянікам, напалі на сонных немцаў. Завязалася гарачая бойка. Аўсянік сам усадзіў у сэрца кінжал обер-лейтэнанту, што той і не пікнуў. З немцамі расправіліся даволі хутка, галоўным чынам халоднай зброяй, а з вартавымі, якія ахоўвалі мост (там было некалькі чалавек немцаў), завязалася перастрэлка, якая некалькі зацягнулася. Ужо ў чатыры гадзіны ночы гарнізон немцаў і верных ім паліцаяў быў разгромлены.

Аўсянік даў каманду закласці тол. Усё было зроблена. У восем гадзін раніцы пачуўся магутнай сілы выбух. Скаланулася зямля, пасыпаліся з дрэваў галіны. Аўсянік збоку наглядаў. Узляцеў у паветра слуп вады. Падняўся ўгару мост, нібы вараны жарабок на дыбкі, а потым грузна сеў на заднія ногі. Валіў чорны дым, пукамі выкідала агонь, гэта гарэлі пабудовы гарнізона.

Збіраліся ва ўмоўленае месца паліцаі.

— А дзе ж Мацей? — спытаўся Аўсянік.

Ён запаліў шнур і, відаць, разгубіўся, не паспеў адскочыць...

— Шкада, — прагаварыў Аўсянік. — Добры быў хлопец. Трэба пахаваць забітых.

Не марудзячы, адны пачалі капаць магілу, а другія пайшлі падабраць забітых. Спяшаючыся, пахавалі. Не было ні прамоў, ні салюта.

Неўзабаве Аўсянік рушыў у лагеры.

— Чулі сёння раніцою выбух? — пыталася Міроніха ў Гарашчэні.— Што б гэта магло быць?

— А хто яго ведае? — пацісnуў плячыма Гарашчэня.— Можа, немцы што падарвалі.

У атрадзе амаль ніхто і не заўважыў, што Панцялея Аўсяніка пяцёра сутак не было. Бывае часам, што жыве чалавек, памрэ, і як быццам яго і на свеце не было, нічым асаблівым ён не вызначыўся, а таму нікога гэта не кранае. Толькі Гарашчэня з напружаннем чакаў вестак ад Аўсяніка, дапускаў, што гэты выбух зроблены няйначай ім.

Раптам у лесе пачулася каманда:

— Аць! Два! Левай! Хто там крочыць правай! Падбяры жываты! Галовы вышэй! Песню!

Паблізу ад лагера нязладжана прагучала «Широка страна моя родная».

— Таварыш камандзір! — падбегшы, далажыў партызан.— Наш вучоны нейкі зброд сюды вядзе.

— Які зброд?

— Сам не ведаю. Яго суправаджаюць партызаны з заставы. Яны ідуць з аўтаматамі напагатове.

— Які ж ты партызан, калі не ведаеш? Даведацца і далажыць! Што за дзівацтва?!

— Ёсць даведацца і далажыць.

— Цікавы ён чалавек.

— Хто?

— Аўсянік,— сказала Міроніха.

— Так,— згадзіўся Гарашчэня.— Але чамусьці яго ніхто не любіць...

— Бо не ведаюць яго душы.

— Напэўна. Але, прызнацца, і для мяне ён загадка. Штосьці ў ім ёсць добрае, але яно...

— Правае плячо наперад,— камандаваў Аўсянік.— Раўненне направа! Сто-о-ой! Скласці зброю вось тут і чакаць майго распараджэння.

Забразгацелі вінтоўкі, залязгалі штыкі, зазвінелі патроны, паляцелі на зямлю белыя павязкі з рукавоў паліцыянтаў. Людзі свабадней уздыхнулі. Каля скінутай зброі сталі на варту некалькі партызан.

Гарашчэня і Міроніха здзіўлена глядзелі, не ведаючы, у чым справа.

— Дазвольце далажыць, таварыш камандзір,—

чотка рапартаваў Аўсянік.— Ваша заданне выканана. Мост праз рэчку Беразнянку сёння раніцой узляцеў у паветра. Ахова моста — трыццаць фашыстаў і трынаццаць паліцаяў — перабіта. Трое былых паліцаяў, сярод іх Мацей Сідарчук, пры выкананні задання загінулі. Астатнія былыя паліцыянты ў колькасці пяцідзесяці чатырох чалавек, якія паўсталі супраць фашыстаў, са зброяй дастаўлены сюды. Чыгунка выведзена са строю самае малое на два-тры тыдні, а то і на месяц.

— Добра,— паціскаў руку Гарашчэня.— Не чакаў я ад вас, таварыш Аўсянік, такога спрыту. Скажыце, каб накармілі іх, і хто хоча, няхай астаецца ў партызанах і сваёю крывёю давядзе сваю адданасць радзіме, а хто не хоча, могуць ісці дадому, з той толькі ўмовай, што яны не пойдуць на службу да немцаў. Паабедайце і вы, і адпачніце, а пасля з'явіцеся да мяне, і падрабязна раскажаце, як вы арганізавалі ўзрыў моста. Дарэчы, а тыя трынаццаць паліцыянтаў, яны што — адмовіліся памагчы партызанам?

— З імі папярэдне не гаварылі — баяліся праваліць справу. А калі завязалася бойка, дык яны былі на баку немцаў. Іх не стралялі, а на кавалкі разрывалі.

— То і добра зрабілі. Ну, ідзіце абедаць!

— Вой, вой! А ў мяне сёння боршч не вельмі ўдалы, прыхваткамі варыла, а тут чужыя людзі,— занепакоілася Міроніха.

— Нічога, у немцаў ім і не сніўся такі боршч,— усміхнуўся Гарашчэня.— Немцы для паліцаяў асобна гатавалі страву. Так?

— Але,— сцвердзіў Аўсянік.— Баландой кармілі.

— Вядзіце людзей абедаць,— распарадзіўся Гарашчэня.

— Ёсць! — прыстукнуўшы абцасамі, аддаўшы чэсць, што ледзь не зваліліся акуляры з кірпатага носа, павярнуўся і пайшоў Аўсянік.

Гарашчэня і Міроніха, пераглянуўшыся, задаволена правялі вачыма нязграбную, некалькі сутулую, з доўгімі рукамі постаць Аўсяніка. Падышоўшы да паліцыянтаў, ён аддаў каманду:

— Стрэ-э-йся! На абед, за мною, ша-а-гам мэ-эрш!

Увесь гэты дзень толькі і ішла гаворка пра Аўсяніка, пра яго незвычайны ўчынак, кемлівасць і адвагу. Казалі, што з яго выйдзе вялікі вучоны, і ў доказ для

гэтага прыводзілі яго разгубленасць, бо ён часамі шукаў вінтоўку, а яна ў яго была за плячыма. Больш ніхто ўжо не адважваўся з яго пакепліваць, наадварот, ставіліся з павагай, звалі Панцялеем Савельевічам, а некаторыя зайздросцілі. Так за адзін дзень змяніліся адносіны да чалавека.

Ужо другія пеўні праспявалі — у лагеры завялося некалькі курэй і тры пеўні,— а Гарашчэня з Аўсянікам усё яшчэ гаварылі. Аўсянік аказаўся цікавым субяседнікам, з якім было аб чым пагаварыць, паспрачацца ці, як жартаваў Гарашчэня, патачыць розум, а патрэба ў гэтым была вялікая.

— Добрую вы справу зрабілі, Панцялей Савельевіч,— захапляўся Гарашчэня.— Недалёкія людзі нават могуць не паверыць, каб адзін чалавек мог такое зрабіць. А гэта ж факт — мост узарваны.

— Калі б мне паліцаі не паверылі, гэтак як вы мне,— устаў Аўсянік.— Трэба ўмець бачыць, каму можна верыць, а каму не... Бываюць жа людзі, гавораць адно, а робяць другое... Клянуцца ў дружбе, а самі гатовы ўсадзіць нож у спіну... Баяцца трэба езуіцкай натуры людзей...

— Та-а-ак,— развітваўся Гарашчэня.— Вайна, акрамя дрэннага, прыносіць і карыснае. На вайне хутчэй пазнаюцца людзі. Адкідаецца розная дрэнь. Заходзьце! Буду рады вас бачыць, сыграем у шахматы.

— Спакойнай ночы!

— Прыемнага сну!

Гарашчэня з Аўсянікам знайшлі агульную мову, наладзілі кантакт, сталі сябрамі. Вайна зблізіла іх, парадніла. Гарашчэня ніяк не мог сабе дараваць, як гэта ён так абыякава паставіўся да гэтага чалавека. «Можа, і ў адносінах да Марыйкі я не праў,— думаў сам сабе Гарашчэня.— Яна нейкая асаблівая, непаўторная, душэўны чалавек». Гарашчэня да таго загаварыўся з Аўсянікам, што забыўся замаскіраваць «акно» ў сваёй зямлянцы. Пачуўся стук.

— Заходзьце!

— Замаскіруйце ваша акно! — быў чутны голас Марыйкі.— Нямецкі самалёт кружыць.

— А-а-а, гэта Марыйка, ты што так позна не спіш?

— Дзяжурыла, толькі змянілася?

— Дык што ты мяне цураешся?

— Невядома, хто каго цураецца?
— Заходзь!
— Спаць трэба.
— Паспееш выспацца.
— Ну, добра.

У зямлянку ўвайшла Марыйка, чырванашчокая, бадзёрая. Гарашчэня прапанаваў ёй распрануцца, але яна адмовілася. Марыйка здзівілася такой нечаканай перамене. Ён ніколі не быў з ёю такім ветлівым, як сёння.

— Я толькі на хвілінку.
— Сядай!
— Дзякую,— Марыйка прыперлася на скрынку з-пад снарадаў, якая служыла крэслам.— А Аўсянік, кажуць, усё нешта піша і піша. Можа, над дысертацыяй працуе?
— Нічога мне не гаварыў.
— І не будзе гаварыць. Чалавека пасмешышчам зрабілі. І гэтаму некаторыя патуралі.
— Праўда,— згадзіўся Гарашчэня, але ўсё ж яго кальнула.— Не вельмі і ты за яго заступалася. Хіба, можа, цяпер пераменіш адносіны?..
— Я што, я чалавек малы,— Марыйка не ўлавіла іроніі.— А на вас усе глядзяць, з вас бяруць прыклад. Адзін ваш ківок шмат што значыць.
— І што ты да мяне маеш? — усміхнуўся Гарашчэня.— От стрэмка!
— Як? — засмяялася Марыйка.
— Стрэмка.
— Пачакайце ж, калі-небудзь не гэтак укалю!
— Адклад не ідзе на лад.
— Нешта спаць сёння хочацца,— Марыйка ўстала.
— Твае сённяшнія стрэлы міма цэлі.
— Можа? — усміхнулася Марыйка, збіраючыся выходзіць.— Да пабачэння!
— Усяго добрага!

Гарашчэня правёў Марыйку і хутка сам вярнуўся. Ён праверыў, што ім было зроблена за дзень, і пачаў укладвацца спаць.

16

У штабе камандзіра палка маёра фон Шульке ішла распрацоўка плана наступлення на гарашчэнеўцаў. Маёр фон Шульке нерваваўся, не было патрэбных вестак аб сіле партызан, іх метадах барацьбы, нават не было добра вядома аб месцазнаходжанні атрада Гарашчэні. А маёр фон Шульке вельмі быў асцярожны ў сваіх дзеяннях.

— Не, ваяваць без добра праверанных дадзеных разведкі нельга,— адарваўшыся ад карты, сказаў фон Шульке.— У рускіх на гэты конт ёсць нават прыказка: «Паспяшыш, людзей насмяшыш».

Да камандзіра палка зайшоў начальнік штаба з дакладам. Нервовы настрой маёра перадаўся капітану. Ён не мог пачаць дакладваць.

— Ёсць што важнае? — выручыў капітана маёр фон Шульке.

— Камандзір дывізіі патрабуе неадкладна распачаць баявыя дзеянні... знішчыць атрад Гарашчэні...

— Неадкладна, знішчыць,— зняважліва паўтарыў гэтыя словы маёр фон Шульке.— Няхай сам паспрабуе... Патрабаваць лягчэй, чым выконваць... Дадзеныя разведкі розныя... Адны весткі гавораць пра тое, што ў атрадзе Гарашчэні нязначныя сілы і атрад нябоездольны, а другія... больш за тысячу чалавек... Каму верыць? — маёр фон Шульке прайшоўся.— Яшчэ што ў вас?

— Гэтай ноччу ўзарваны мост праз рэчку Беразнянку... Гарнізон — знішчаны... Работа чыгункі спынена не меней як на месяц...

— Што? — забегаў маёр фон Шульке па пакоі.— Цяпер стары нас з'есць...— маёр спыніўся: — Чыя работа?

— Гарашчэнеўцаў,— адказаў капітан.

— Ну, што я казаў,— усклікнуў маёр фон Шульке.— З гарашчэнеўцамі трымай вуха востра...— маёр падумаў: — З СД ёсць што?

— Толькі весткі бургамістра Пясецкага... і то блытаныя...

— Выклікаць да мяне бургамістра.

— Слухаю! — казырнуў начштаба.

— Людзей падабралі для засылкі ў партызаны?

— Згадзілася пайсці да партызан Аксеня Бандарчык,— паведаміў начштаба.— Яна тут, можа, паклікаць яе сюды?

— Не хачу знацца з такімі жанчынамі,— пагардліва прагаварыў маёр фон Шульке.— Заданне: праверыць месцазнаходжанне атрада Гарашчэні, яго сілы, боездольнасць, якімі валодае сродкамі ўзбраення.

— Ёсць,— казырнуў начштаба.

— Чыгунка, якую кантралюе атрад Гарашчэні, вельмі важная для нас, і мы абавязкова адціснем яго адсюль, але на «авось», як рускія кажуць, спадзявацца нельга,— разважаў маёр фон Шульке.— На забывайце, што Гарашчэня быў ваенкомам палка ў Чырвонай Арміі. Яго голымі рукамі не возьмеш.

— Дык што ж тады далажыць камандзіру дывізіі? — нясмела пытаўся начштаба.— Па ўсяму відаць, што стары нездаволены. Піша, што навядзення парадку ў тыле патрабуе фюрэр.

— Гэта мы і без яго ведаем,— сказаў маёр фон Шульке і, падумаўшы, дадаў: — Далажыце, што вядзецца падрыхтоўка для наступлення. Паведаміце, што ў атрадзе Гарашчэні па неправераных дадзеных налічваецца да палка пяхоты... Можаце нават прыбавіць... На вайне без гэтага нельга... Нашы меркаванні? Адціснуць атрад Гарашчэні ад чыгункі, загнаць у дрыгву і знішчыць... Заверце камандзіра дывізіі, што гэта будзе зроблена...

— Слухаю,— казырнуў начштаба і выйшаў.

А маёр фон Шульке зноў паглыбіўся ў справы, ён працаваў над картай, нешта занатоўваючы ў блакнот. Ардынарац прынёс гарачую каву, маёр адкінуўся ў крэсле і з лыжачкі яе піў. У галаву прыходзілі розныя фантастычныя думкі, як захапіць Гарашчэню жывым. Тады не толькі будзе падвышэнне ў чыне, але і ўзнагарода забяспечана.

## 17

Партызаны Гарашчэні кантралявалі важную чыгунку, перашкаджаючы немцам падвозіць да фронту боепрыпасы, гаручае і харчаванне, тэхніку і жывую сілу. Камандаванне дывізіі вырашыла паралізаваць дзейнасць партызанскага атрада і, калі не ўдасца яго

знішчыць, то адцісnуць ад чыгункі, загнаць у дрыгву. Камандаванне палка маёра фон Шульке старанна рыхтавала гэтую аперацыю. Не спаў у шапку і Гарашчэня. Па скупых дадзеных разведкі Гарашчэня разгадаў, адкуль немцы могуць ісці, пабудаваў умацаванні: воўчыя ямы, пасткі, месцы для снайпераў. Гарашчэня скарыстаў нерашучасць фон Шульке. Быў выйгран час для падрыхтоўкі абароны. На ўсякі выпадак, Гарашчэня паклапаціўся аб новых лагерах, перавёў туды майстэрні атрада, дзяцей і старых. Новыя лагеры ён назваў другім эшалонам, вылучыўшы для аховы людзей выздараўліваючую каманду.

Старанна рыхтаваўся Гарашчэня выкарыстаць супраць немцаў і ўсю сваю тэхніку. Ён асабіста праверыў усе кулямёты, гарматы. Некалькі дзён таму назад Гарашчэня прыняў у атрад лётчыка Чыгіра, які ўцёк з лагера ваеннапалонных. Чыгір быў вельмі знясілены. Гарашчэня параіў Чыгіру спыніцца ў бабкі Марцэлі — яна хоць і бурклівая, але дагледзіць. Ён выдаў Чыгіру спецпаёк, каб хутчэй паставіць на ногі хворага.

У баях з немцамі Гарашчэня хацеў выкарыстаць самалёт. Была падрыхтавана пасадачная пляцоўка, падвезены бомбы, узятыя ў немцаў. Чыгіру давалася віно і шакалад. Бабка Марцэля паіла яго малаком. Чыгіру камандзір нічога не гаварыў аб самалёце, папярэдзіўшы і іншых, каб таксама маўчалі, бо ён у вёсцы Падгайнаўка праходзіў каранцін, трэба было даведацца, што гэта за чалавек.

Малады, здаровы, Чыгір папраўляўся не па днях, а па гадзінах. Прабыўшы тыдні два ў своеасаблівым доме адпачынку, Чыгір пачаў галіцца — добрая адзнака для мужчыны. А да гэтага ён быў да таго абросшым нейкай рыжай шчацінай, што выглядаў зусім старым, пра яго нельга было падумаць, што ён лётчык. Аксеня ішла па ваду. Угледзеўшы Чыгіра паголеным, яна ўхмыльнулася і крутнула спадніцаю. На Аксеніным лобе і ружовых шчоках выступіў пот. Да гэтага ў Аксені стаяў на кватэры повар адной нямецкай часці, які пасля ад'езду, казалі, пакінуў шмат прадуктаў.

Чыгір чакаў, калі Аксеня будзе вяртацца, каб добра яе разгледзець. Нарэшце, цяжка ступаючы, несучы поўныя вёдры вады, падаткнуўшыся, ішла Аксеня. Каля Марцэлінай хаты Аксеня спынілася і, цяжка

ўздыхнуўшы, паставіла вёдры, нібы вельмі стамілася. Калі яна ўхмыльнулася, відаць былі рэдкія зубы.

«Прыходзь да мяне! — вабіла вачыма Аксеня Чыгіра.— Ой, як мне сумна адной!»

— Можна вам памагчы паднесці вёдры? — усхапіўся з лаўкі Чыгір.

— Калі ласка,— гулліва зарагатала Аксеня.

Бабка Марцэля, якая з хаты сачыла за Чыгіром, забарабаніла ў акно.

— Я табе памагу, сваіх не пазнаеш! — крыкнула бабка Марцэля.— Яна і перад хрыцамі гэтак сама выскалялася... Бессаромніца... Пачакай жа, прыйдуць нашы...

— Я сама да іх пайду... Больш тут аставацца не магу...

І Аксеня, схапіўшы вёдры, спадылба паглядзела на Чыгіра. «Эх ты, мужчына!» — падумала Аксеня, яна з пагардай акінула вачыма Чыгіра і, расплёскваючы ваду, пакручваючы спадніцаю, хутка пайшла. Чыгір стаяў з апушчанымі рукамі, не ведаючы, што яму рабіць.

— Сынок,— выйшаўшы з хаты, загаварыла бабка Марцэля.— Плюнь ты на яе, гэтую гадаўку. За цябе ж любая дзяўчына пойдзе замуж.

Хутка на вуліцы зноў паказалася Аксеня. Яна, пераадзеўшыся, ішла з клункам, вырашыўшы пакінуць Падгайнаўку, бо ёй тут жыцця не было.

— Куды? — запытаўся Чыгір.

— Вольная казачка, куды хачу, туды і іду,— насмешліва адказала Аксеня.— Можа, правядзеш? Не пашкадуеш! Але ж ты бабкі баішся?!

— Пачакай! — схапіў за руку Чыгір.— Куды?

— У партызаны,— Аксеня вырвала руку і пайшла.

— Наваюе яна... — усміхнулася бабка Марцэля.— От распуста!

Але Чыгір яе не слухаў.

Даведаўшыся аб тым, што атрад Гарашчэні рыхтуецца да нейкай сур'ёзнай аперацыі, Чыгір звярнуўся да камандзіра атрада з просьбай выкарыстаць яго ў баі, ён ужо адчуваў сябе добра, і сядзець склаўшы рукі, у той час калі нават старыя і дзеці прымалі ўдзел у падрыхтоўцы да бою, яму было крыўдна.

Перад камандзірам атрада стаяў нізкі, шырокі ў

плячах, чыста паголены мужчына. На твары Чыгіра, пасля таго як яго ў часе паветранай катастрофы раніла, быў шрам, а вочы, вялізныя шэрыя вочы, гарэлі агнём нянавісці да фашыстаў.

— Я, таварыш камандзір атрада,— загаварыў усхваляваны Чыгір,— прашу даць мне любое заданне, я яго з гонарам выканаю. Не магу сядзець, калі трэба біцца. Для гэтага мяне і цягнула з Нямеччыны на радзіму. Я каля сямісот кіламетраў пешкі прайшоў. Здаецца, калі б я быў сляпым, і то патрапіў бы на бацькаўшчыну. Без рабра астаўся, маці забілі, сястру абняславілі, бацьку расстралялі. Дайце мне вінтоўку, і я разам з усімі пайду ў бой.

— З вінтоўкай не штука,— паверыў яму Гарашчэня,— з вінтоўкай у нас ёсць каму ісці. От, скажам, каб з самалёта задаць фашыстам перцу.

— О, каб мне самалёт! — загарэўся Чыгір.— Даў бы ім жыцця.

— Ёсць у нас «вутачка», але...

— «Вутачка»! Можна і на «вутачцы» кроў з носа пускаць.

Гарашчэня, не вагаючыся, загадаў аддаць самалёт у поўнае распараджэнне Чыгіра, падрыхтаваць яго да бою і чакаць указання аб вылеце. Чыгір, радасна ўсхваляваны, аддаўшы чэсць, павярнуўся і выйшаў з зямлянкі. Праходзячы па лагеры, Чыгіру здалося, што прамільгнула Аксеня, ён было хацеў ісці за ёю, а потым махнуў рукою. Трэба было рыхтаваць самалёт да вылету.

Гарашчэня, схіліўшыся, зноў сядзеў над картай. Яму хацелася даць такі бой, каб немцы больш не лезлі да яго, і, што б там ні было, захаваць кантроль над чыгункай. Гарашчэня ведаў, што немцы ўяўляюць вялікую сілу, яны маюць цяжкія гарматы, пушкі і нават самалёты. Партызаны па ўказанню камандзіра будавалі бліндажы, робячы некалькі накатаў.

Не чакаючы наступлення немцаў, Гарашчэня аддаў распараджэнне самім пачаць, ён загадаў Чыгіру разбамбіць ворага. Увесь дзень рыхтаваўся Чыгір да начнога палёту. Усё было гатова. Да вечара аставалася гадзіны чатыры. Чыгір па загаду камандавання атрада лёг адпачыць, але яму не спалася, хацелася хутчэй падняцца ў паветра, каб біць фашыстаў.

Пачуўшы стук у дзверы, Гарашчэня адарваўся ад карты і, убачыўшы Міхаську, запрасіў:

— Заходзь, заходзь! Ну, што скажаш, «жабрак»?

— Шмат чаго ёсць расказаць,— гаварыў, спяшаючыся, Міхаська.— У Нараўлянах няма немцаў.

— А дзе ж яны?

— Асноўныя сілы ў Чорным Бродзе. У школе — штаб палка. Яшчэ стаяць у Барвёнаве і Смалярні, Забалоцці і Пурышах. Я гаварыў з самім камандзірам палка, маёрам фонам Шульке.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Гарашчэня.— Не фонам, а фон. Як жа ты да яго дайшоў? Гэта ж вялікая «шышка».

— Давялі,— усміхнуўся Міхаська.— Прычапіўся адзін, што я падлічваю танкі, за карак і ў штаб. Я такі гэта і рабіў. А там маёр фон Шульке, пагаварыўшы са мною, даў мне заданне разведаць пра партызанскі атрад Гарашчэні. Чулі такога?

— Няўжо?

— Ей-права!

— І ты згадзіўся?

— А што б ад мяне асталося, каб я не даў згоды... Так што выкладайце, колькі ў вас людзей, якое ўзбраенне, дзе вы размешчаны і іншае...

Міхаська, расказаўшы падрабязна, дзе і колькі стаіць немцаў, якое ў іх узбраенне, пайшоў адпачываць. А Гарашчэня ўдакладняў аператыўны план, па некалькі разоў правяраў, уносіў карэктывы. У зямлянцы было так накурана, што хоць тапор вешай. Да камандзіра атрада зайшоў Чыгір, ён далажыў, што самалёт гатоў да вылету. Аддаўшы загад лётчыку, Гарашчэня сказаў:

— Веру, што вы справіцеся з сваім заданнем. Немцы зусім спакойны адносна паветра, а мы іх крыху патрывожым. Ёсць весткі, што яны заўтра мяркуюць правесці разведку боем, а мы ім сёння не дадзім спаць. Яны вельмі любяць супакой, дык мы іх трохі патурбуем. Калі не хапае сілы палажыць фашыста, дык хітрасцю вазьмі — падстаў ножку, абы зваліць падлюгу. Дзейнічайце!

— Ёсць!

Чыгір, усхваляваны, расчырванеўшыся, выйшаў. Гарашчэня, накінуўшы на плечы шынель, пайшоў на

партызанскі аэрадром, каб самому асабіста праверыць, ці ўсе людзі на месцы, ці ўсё падрыхтавана для таго, каб Чыгір мог ноччу бамбіць ворага. Гарашчэня «ўсім давяраў і ўсіх правяраў». Гэта было яго правілам, якога ён ніколі не парушаў.

Гарашчэня яшчэ здалёку ўбачыў партызанскія кастры і ўзрадаваўся, паскорана білася сэрца, ён набліжаўся да аэрадрома. «Быць не можа,— думаў сам сабе ён,— каб мы немцам не набілі морды».

Калі Гарашчэня падышоў да самалёта, прапелер ужо быў заведзены. Чыгір чакаў загаду ляцець. Гарашчэня, паглядзеўшы на гадзіннік, падаў сігнал. Самалёт, адарваўшыся ад зямлі, набіраў вышыню. Змерклася, свяціў месяц, паблісквалі зоры. Ляцець было недалёка. Людзі не разыходзіліся, чакаючы звароту машыны, старанна рыхтуючыся да прыёму ў начны час самалёта.

## 18

Марудна цягнуўся час. Нарэшце пачуўся першы, другі, трэці выбухі. Гарашчэня радасна ўсміхнуўся, ведаючы, што гэта работа Чыгіра. Партызаны ўспомнілі пра Мікалая Дразда, які захаваў гэты самалёт. Пачулася стральба з кулямёта, сумнення не было, гэта Чыгір з свае «вутачкі» даваў немцам жыцця.

Здоўжылася чаканне звароту самалёта. Нарэшце затарахцела над лесам, гул матора набліжаўся. Чыгір, адбамбіўшыся, ляцеў назад. Ён зрабіў над аэрадромам некалькі кругоў і падаў умоўлены знак — сінюю ракету. Успыхнулі партызанскія агні. Лётчык прызямліўся.

— Дазвольце далажыць, таварыш камандзір атрада,— рапартаваў Чыгір.— Заданне выканана! Памойму, трэцюю бомбу ўсадзіў у штаб.

— Дзякую,— абняўшы, пацалаваў Гарашчэня лётчыка.

— Служу Савецкаму Саюзу!

За ноч Чыгір звярнуўся некалькі разоў. Немцы ніяк не маглі дайсці да думкі, як і адкуль у партызан з'явіўся самалёт, ды яшчэ «навейшай» канструкцыі, які бясшумна падлятаў і скідаў смертаносны груз.

Раніцою камандзіру атрада дакладвалі разведчыкі, што Чыгір усю ноч не даваў спакою немцам. Прусакі

то разбягаліся з вёсак у поле — некаторыя ў адной бялізне,— то зноў збіраліся. Школа ў Чорным Бродзе, дзе змяшчаўся штаб, згарэла, былі забітыя, параненыя. Немцы шалеюць ад злосці, што патрывожаны іх спакой, парушаны расклад.

Самалёт пасля бамбёжкі быў адпраўлен на раней падрыхтаванае месца. У лагеры ўсе былі ў баявой гатоўнасці. Другая група разведкі далажыла, што ў стане праціўніка ідзе падрыхтоўка да выступлення. Гарашчэня з нецярпеннем чакаў разведчыка, Міхаську, які чамусьці пазніўся. Нарэшце, засопшыся, хутка ўвайшоў хлопчык, ён быў узрушаны, на твары відаць былі чырвоныя плямы.

— Ну што? — спаткаў яго Гарашчэня.— Як справы, контрразведчык?

— Ледзь не праваліўся!

— А што такое?

— Напароўся на Віктара Пясецкага... Хітрушчы чорт! Ён у іх дарадца па партызанскіх справах. Каб вы толькі чулі, як ён вас лаяў.

— Гэта добра! — усміхнуўся Гарашчэня.

— Ваша заданне адносна таго, што мы ўяўляем вялікую сілу,— выканана,— дакладваў Міхаська.— Хлопцы разнеслі чуткі, што ўсе навакольныя лясы запруджаны партызанамі, што іх цьма-цьмушчая, нібы ў лясах няма дзе яблыку ўпасці. Другой хваляй з маланкавай хуткасцю абляцела чутка, што нібы па дарозе Крыніца — Беразнянкі ідуць вам на дапамогу ні то каўпакоўцы, ні то гушчынцы. Маёр фон Шульке перш паслаў разведку, а потым выслаў насустрач цэлы батальён, дадаўшы да яго танкі. Файна!

Міхаська памаўчаў, а потым нясмела спытаўся:

— Таварыш камандзір! А цяпер дазволіце курыць?

— Як такому файнаму контрразведчыку не дазволіць?! — усміхнуўшыся, націснуўшы на слове «файнаму», прагаварыў Гарашчэня.— Калі ласка, куры, усё роўна паціхеньку смаліш...

— Не-е...

— А чаго ж у цябе пальцы жоўтыя...

Міхаська няёмка сябе адчуў, пачырванеў, не ведаў, куды дзець рукі, бо пальцы сапраўды былі абсмаленыя.

— Куры,— прапанаваў Гарашчэня.— Унь тытунь!

— У мяне ёсць цыгарэты... Фон Шульке падараваў... Калі ласка...

— Дрэнь, іх не накурышся,— адмовіўся Гарашчэня.— Сваёй айчыннай махоркі я ні на якія цыгарэты не прамяняю...

Яны скруцілі з рускай махоркі па «казінай ножцы». Міхаська важна курыў, адчуваючы сябе дарослым, пускаючы кольцы шэрага дыму.

— Але ж і здорава Чыгір уляпіў бомбу ў школу, дзе быў штаб,— працягваў дакладваць Міхаська.— Памяшканне штаба, з усімі яго паперамі, як карова языком злізала...

— А з людзьмі ты сувязь завязаў, як я табе раіў? — спытаўся Гарашчэня.

— А як жа, ці ж бы я мог сам пабыць і ў Чорным Бродзе, і ў Барвёнаве, і ў Пурышах...— гаварыў Міхаська.— У мяне ўсюды сувязныя... хлопцы і дзяўчаты... Увесь народ на нас працуе... Прыйдзеш, скажаш цёплае слова... Адна цётка мне гаварыла: «Слова лечыць, слова раніць...» Запэўняю вас: чыхні немец, і нам будзе вядома... У мяне, здаецца, усё...

— Добра, дзякую,— Гарашчэня моцна пацiснуў руку Міхаську.

І камандзір зноў паглыбіўся ў аператыўныя планы.

## 19

У Гарашчэні ўсё было напагатове. Яшчэ звечара ён пазнаёміў сваіх памочнікаў з планам абароны. Партызаны павінны даць немцам сустрэчны бой, далёка не там, дзе яны меркавалі распачаць дзеянні, прымусіць іх раней часу разгарнуць свае баявыя парадкі.

Гарашчэня надаваў вялікае значэнне ўдарнай групе, якая павінна была зацягнуць немцаў у пастку, а таму запытаўся, хто б хацеў узяць на сябе камандаванне гэтай групай. Ён ведаў, што задача гэтай групы складаная і небяспечная, мажлівы вялікія ахвяры, але іншага выйсця не было. Без ахвяр не пераможаш. Трэба мовай зброі давесці немцам, што партызаны не толькі моцныя сваімі нечаканымі нападамі, няўлоўнасцю, але таксама моцныя і ў абароне, што яны будуць біцца за тое, каб не быць адціснутымі ад чыгункі, і прыкладуць

ўсе сілы, каб захаваць кантроль над важнымі шляхамі.

— Калі даверыш, камандзір, я пайду з гэтай групай,— прапанаваў свае паслугі Шпакоўскі.

— Ты? — вагаўся Гарашчэня.— А можа, хто іншы?

— Прызначце мяне,— прасіўся Шпакоўскі.— Не падвяду, можаце спадзявацца, як на сябе.

— Добра,— згадзіўся Гарашчэня.— У чатыры гадзіны раніцы выступаем.

Гарашчэня растлумачыў Шпакоўскаму яго задачу, папярэдзіўшы берагчы людзей.

— Усё зразумела? — пытаўся Гарашчэня.

— Так. А толькі...

— Што?

— Ці не лепей спаткаць немцаў у Тоўстым Лесе?

Шпакоўскі нясмела выкладаў свае меркаванні, стала іх абгрунтоўваючы, даводзячы, што выгадней за ўсё іменна там даць першы сустрэчны бой. Тут сказалася добрае веданне мясцовасці. Гарашчэня, перакаканаўшыся ў правільнасці довадаў Шпакоўскага, згадзіўся з ім.

Шпакоўскі пайшоў адпачываць, а Гарашчэня, схіліўшыся, доўга карэктаваў свае планы. Шпакоўскі ўнёс істотную папраўку. Трэба было зрабіць перагрупіроўку сіл.

У тры гадзіны пяцьдзесят пяць хвілін у зямлянку ўвайшоў Шпакоўскі ў поўнай гатоўнасці да выступлення. Ён быў узброены аўтаматам, дзвюма гранатамі і рэвальверам.

— Ударная група да паходу гатова,— далажыў Шпакоўскі.

— А ўсё ясна? — запытаўся Гарашчэня.

— Ясна,— адказаў Шпакоўскі.

— А ці падумаў ты, што могуць быць ахвяры?

— Падумаў, толькі без гэтага не абыдзешся. На тое вайна. Чырвоная Армія не такія ахвяры мае,— але рэвалюцыя даражэй за ўсё. Хто ведае, што такое свабода, перад ахвярамі не спыніцца, ён будзе заваёвы Кастрычніка да апошняй кроплі крыві абараняць.

— Тады ідзі. Чакай загаду аб выступленні.

Шпакоўскі, здзіўлены, пацiснуўшы плячыма, выйшаў. Для яго незразумелым быў некалькі сухі, афіцыяльны тон камандзіра. Але для гэтага былі прычы-

ны. Гарашчэня ўсё яшчэ вагаўся, ці правільна ён робіць, што прымае бой супраць рэгулярнай часці немцаў. Ворагі былі ў некалькі разоў мацнейшымі за партызан. І Сяргея Паўлавіча не было... А як цяпер яму патрэбен быў ён! Падзяліцца з кім-небудзь іншым сваімі сумненнямі камандзір не мог, і гэта вельмі на ім адбівалася. Гарашчэня ўсю ноч прачакаў, каб звязацца з Масквою, але выкліку не было. У Гарашчэні зарадзілася сумненне адносна скінутага радыста, можа, ён зусім не з Масквы, а пасланы сюды немцамі. «Прыйдзецца, мусіць, арыштаваць радыста»,— падумаў сам сабе камандзір.

На гадзінніку было чатыры гадзіны і пяць мінут. Гарашчэня, нервуючыся, кінуў недакураную цыгарку, пасыпаліся іскры. «Нешта ж пэўна ёсць,— думаў сам сабе Гарашчэня,— што Масква не прымае выкліку». Пачулася чалавечая хада. Гарашчэня адчыніў дзверы.

— Вас клічуць да апарата,— далажыў радыст.

— Няўжо Масква? — узрадаваўся Гарашчэня.

— Так.

— Іду,— заззяў Гарашчэня і без шапкі выскачыў з зямлянкі.

Гарашчэня вярнуўся вясёлы, акрылены, яму ўсё ж удалося звязацца з Цэнтральным штабам партызан. Гарашчэню сказалі, што ён дзейнічае правільна, прапанавалі напісаць дакладную аб баявых справах партызан, з якою асабіста з'явіцца ў цэнтр. І як пасля высветлілася, радыст прызнаўся, што ён забыў умоўлены шыфр. Пасля ўспомніў. Таму і адбылася такая затрымка.

Вестка аб тым, што звязаліся з Масквою, хутка абляцела ўсе лагеры. Людзі ад радасці цалаваліся, падкідалі ўгару шапкі. Пра іх ведае Масква, Цэнтральны штаб партызан сочыць за іх дзейнасцю.

— З намі Масква! З намі савецкія людзі! — выкрыквалі партызаны.

Народныя мсціўцы ўспомнілі Сяргея Паўлавіча, гэтага скромнага і непрыкметнага чалавека. Каб ён цяпер тут быў, яго б на руках насілі. Гэта ж ён паклапаціўся, каб гарашчэнеўцы мелі рацыю.

У чатыры гадзіны і трыццаць хвілін Шпакоўскі з сваёй групай выступіў. Яго праводзіў Гарашчэня, да-

ваў яму парады, як трымаць сябе камандзіру ў часе бою, і на развітанне пацалаваў.

У белым кажуху і шэрых валёнках, у цёплых салдацкіх рукавіцах, ва ўсеўзбраенні, Шпакоўскі, з нейкай урачыстай узнятасцю, скамандаваў:

— Група, па аднаму, за мною, ша-а-гам ма-а-арш!

Партызаны групы Шпакоўскага моўчкі пайшлі; заскрыпеў пад нагамі снег. Гарашчэня па-бацькоўску іх праводзіў, думаючы, што, можа, шмат каго з іх больш не ўгледзіць жывымі. Апошнім ішоў Аўсянік з Марыйкай, якая была прызначана за санітарку. Гарашчэня абняў Аўсяніка і пацалаваў. Апынуўшыся перад Марыйкай, Гарашчэня сумеўся, потым схапіў яе за плечы, прыціснуў да сябе і таксама пацалаваў.

— Вяртайцеся з перамогай,— прагаварыў Гарашчэня, ён хацеў сказаць «жывымі» і на хаду паправіўся. Камандзір адчуў, як у яго сціснулася сэрца, страпянулася. Ён памахаў ім рукою.

Гарашчэня моўчкі стаяў, думаючы, што нежаночая справа ваяваць. У яго прамільгнула думка: «Не добра я зрабіў, дазволіўшы Марыйцы быць за санітарку. У другім эшалоне ёй было б спакайней». Думкі камандзіра парушыў Гальяш, які далажыў, што партызаны гатовы заняць абарону.

— Біцца насмерць! — загадаў Гарашчэня.— Мы павінны быць гаспадарамі чыгункі, а не немцы.

— Ёсць! — казырнуў Гальяш.

Партызан Гальяш быў абвешаны кулямётнымі лентамі. З правага боку вісеў наган, з левага тры гранаты і трафейная фінка. На чорнай барашкавай шапцы, наўскасяк, пралегла чырвоная істужка. Сярэдніх год мужчына, з ружовымі на марозе шчокамі, з аб'інелымі чорнымі вусамі, Гальяш выглядаў па-маладзецку. «Партрэты з яго пісаць»,— падумаў Гарашчэня. Але, баючыся, каб ён не «наламаў дроў», камандзір яго навучаў:

— У баі перамагае той, у каго больш вытрымкі, спакайнейшыя нервы, хто вышэйшы духам. Помні, беражы людзей, яны цябе ўберагуць.

— Ёсць, таварыш камандзір! — казырнуў Гальяш.— А толькі не падабаецца мне, што немцы ўсё ж дазналіся, дзе мы знаходзімся. Мусіць, сярод нас...

— У даўгу не астанемся,— усміхнуўся Гарашчэня.— Будзем квіты. Усё ж распарадак іх мы парушы-

лі. Чыгір улажыў камандзіра палка. А колькі хлопцы нарабілі панікі...

— Якія хлопцы? — пытаўся Гальяш.

— Юныя патрыёты. Хеўру Міхаська сабе завёў. Сувязных. Яны пусцілі пагалоску, што па дарозе Крыніца—Беразнякі ідуць на дапамогу нам вялікія сілы партызан, ні то каўпакоўцы, ні то гушчынцы. Маёр фон Шульке вымушан быў паслаць адзін батальён ім насустрач. Усё ж нам будзе лягчэй...

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Гальяш.— І трэба ж дадумацца? А гэты вар'ят Гітлер мяркуе нас перамагчы? Ніколі! Абернем ворага...

— І абарону мы будзем трымаць зусім не там, дзе я ўчора гаварыў, а...

— Чаму? — здзівіўся Гальяш.

— А таму, што Міхаська ўручыў план нашай абароны маёру фон Шульке, а той і вушы развесіў,— усміхнуўся Гарашчэня.— Як бачыш, сваю контрразведку маем...

— Хо-хо-хо! — голасна рагатаў Гальяш. Далёка быў чутны яго смех. Ён першы раз пасля пахавання жонкі так смяяўся.— Гітлер думаў гэтак, як у Еўропе, прагуляцца ў Расіі, не выйдзе! Клімат для яго ў нас не падыходзячы, страшна не любіць чужынцаў.— Гальяш схамянуўся.— Пачакайце, а для чаго вы ў гаі наставілі палатак?..

— Усё для таго ж...

Гальяш так зарагатаў, што аж за жывот схапіўся. Гарашчэня паглядзеў на гадзіннік. Камандзір уручыў Гальяшу план абароны. Яны пераглянуліся.

— Цяпер ясна, для чаго гэта зроблена?

— Ясна. Можна ісці?

— Пастой,— затрымаў Гарашчэня.— Папярэдзь людзей, калі наляцяць самалёты, дык каб не бегалі, як зайцы.

— Гэтага не будзе! У мяне такія арлы!

— Не забывайся, што шмат хто з тваіх арлоў яшчэ не абстраляны, дый за былымі паліцыянтамі глядзі. Бой пакажа, чаго яны варты. Ну, шчаслівай дарогі! — яны па-мужчынску нязграбна абняліся і пацалаваліся.

Гальяш з месца так ірвануў, што ажно снег паляцеў. Гарашчэня, усміхнуўшыся, падумаў: «Трапяткі чалавек, такога характару людзей трэба ўвесь час

стрымліваць, іначай яны наробяць шкоды і сабе і іншым».

Гарашчэня моўчкі стаяў, прыкідваў, ці ўсё зроблена, каб забяспечыць разгром палка немцаў. Ва ўсіх яго дзеяннях адчувалася сталасць, прадуманасць, развага. Ён вырас у сапраўднага камандзіра і чулага таварыша. Гарашчэня заўсёды быў чыста паголеным, падцягнутым. Ён не прызнаваў валёнак, насіў боты. Гарашчэня гаварыў людзям праўду ў вочы, за што на яго часам некаторыя крыўдзіліся, але паважалі. Ён гэта рабіў далікатна, усміхаючыся, каб не абразіць чалавека, але не баючыся сказаць тое, што ён думае. Ён назаўсёды запомніў для сябе словы цёткі, аб якой гаварыў Міхаська, што: «Слова лечыць, слова раніць». Прыкладу свайго камандзіра следавалі многія партызаны, хоць шмат хто і не разумеў яго душы. Часам следаванне гэта насіла вонкавы характар, напрыклад, калі партызан хацеў пайсці на аперацыю, дык ён, перш чым прасіцца ў камандзіра, чыста галіўся, надзяваў наглянцаваныя боты. Гарашчэня неахвотна пускаў непаголеных партызан на адказныя заданні. «Эт, чалавек неакуратны,— разважаў ён,— не здольны на вялікія справы».

Да гэтага бою Гарашчэня асабліва рыхтаваўся. Усе партызаны пабылі ў лазні, змянілі бялізну, пагаліліся. Гарашчэня быў чалавек некалькі замкнуты. Цяжкае жыццё ў дзяцінстве, ён рана пайшоў на свой хлеб, няшчасце з Настаю — яе ён моцна кахаў — наклала свой адбітак. На яго скронях з'явілася сівізна.

Гарашчэню ішоў ужо трыццаць пяты год, а ён ніяк не мог уладкаваць сваіх асабістых спраў. Можа, гэта здарылася таму, што ён заўсёды агульнае ставіў вышэй за асабістае. З яго за гэта нават некаторыя кпілі. А калі пачалася вайна, дык яму не да асабістых спраў было. Для Гарашчэні Радзіма вышэй за ўсё. Высакародства яго душы адразу было ацэнена Сяргеем Паўлавічам. Ён даў станоўчую характарыстыку Гарашчэню. У Маскве вельмі добра да яго ставіліся, гэта ён адчуў па першай размове па радыё.

Цяпер Гарашчэня вельмі часта лавіў сябе на думцы, што яму прыемна пабачыць Марыйку, пагаварыць з ёю, паспрачацца. Сённяшні пацалунак, які быў такім неспадзяваным як для яго, так і Марыйкі, быў па-

цалункам ад душы. «Хоць бы з ёю ўсё было добра»,— думаў сам сабе Гарашчэня.

Раніцою наляцелі нямецкія самалёты на «лінію абароны», хоць там нікога не было, а таксама на лагеры, адкуль усе былі эвакуіраваны, скінулі дзесяткі тон металу. Пасля ўвесь гэты ўчастак палівалі зверху свінцовым дажджом. Зямля дрыжала ад выбухаў, з карэннямі падкідала ўверх дрэвы, але ні адзін чалавек ад гэтых бомбаў не пацярпеў. І гэта было вышэйшым шчасцем для Гарашчэні, хоць гэтага ніхто і не заўважыў. Гарашчэня любіў дзяцей і за іх гатоў быў аддаць сваё жыццё. Але яго часам лічылі чэрствым чалавекам, што ён пасылае людзей на смерць і вокам не міргне, таго не ведаючы, што ён гэта рабіў у імя жыцця. Гэта яго крыўдзіла, а толькі ён ні з кім пра гэта не гаварыў. Такой думкі некаторы час была і Марыйка. Але чым больш яна яго пазнавала, тым больш пераконвалася ў адваротным — у вялікай сардэчнасці, чалавечнасці і клопатах аб людзях. Ён ніколі не садзіўся абедаць, пакуль не быў упэўнены, што партызаны накормлены.

Немцы, узброеныя самалётамі і танкамі, пачалі наступленне з трох бакоў. Сілы былі няроўныя. Але Шпакоўскі ўжо ў ходзе бою, што зусім не было прадугледжана ў планах камандавання атрада, схітрыў. Завязаўшы ў лесе бой з адной з нямецкіх часцей, ён адступіў у бок другой. І калі тыя, свае сваіх не пазнаўшы, схапіліся біцца, Шпакоўскі вывеў з бою сваю групу, страціўшы аднаго чалавека забітым. Ярасна біліся паміж сабою немцы. Білі гарматы, вылі міны, дзынкалі кулі. І нават калі немцы схамянуліся, што б'юць адны адных, пушчаная ў ход ваенная машына не адразу спынілася. Нарэшце перастрэлка паміж немцамі сціхла.

Выкарыстаўшы замяшанне ў радах праціўніка, група партызан Шпакоўскага адкрыла па іх знішчальны агонь. Немцы, перастроіўшы рады, павялі наступленне на партызан. Група Шпакоўскага адступала, вабячы немцаў у пастку. Ведаючы гарачы характар Гальяша, Гарашчэня сам быў каля яго.

Група Шпакоўскага адступала, несучы страты, а яны — цяжкія. Сядзеўшыя ў абароне, а правільней у засадзе, на ўмацаваных і добра замаскіраваных пазі-

цыях бурчалі партызаны, але, баючыся гневу свайго камандзіра, якога яны любілі, не пачыналі стральбы.

— Не магу,— не вытрымаў нарэшце Гальяш, звяртаючыся да Гарашчэні.— Няўжо ты не бачыш, як гінуць людзі?

— Бачу.

— Дык чаго ж ты не даеш каманды адкрываць агонь?

— Трэба старацца, каб меней загінула. Пакуль не страляць.

— А па-мойму, трэба і можна.

— Нельга,— сказаў, як адрэзаў, Гарашчэня.

— Не разумею цябе,— іншым тонам гаварыў Гальяш,— здаецца, разважлівы чалавек. Няўжо ў цябе няма сэрца ці яно акамянела?

— Ды не гудзі ты над вухам, як камар.

Партызаны групы Шпакоўскага адступалі, аслабіўшы агонь, не пасяваючы падбіраць раненых, пакідаючы на полі бою шэрыя кропкі. Марыйка цягнула на палатцы Міхаську; той стагнаў, махаў рукою, мусіць, прасіў, каб Марыйка спынілася. Немцы, падняўшыся на ўвесь рост, кінуліся ў атаку. Партызаны ніяк не маглі ад іх адарвацца. Здавалася, што для ўсіх партызан пагібель немінучая. Гальяш аж закалаціўся.

— Ну, усё прапала... Самнуць — вось дзе нам канцы... І ўсё праз дурноту... Ваша ўпартасць — не да месца...

— Замаўчы! — падвысіў голас Гарашчэня.

Падпусціўшы немцаў метраў на дзвесці, Гарашчэня скамандаваў:

— Агонь!

Пачалі біць партызанскія гарматы, застрачылі кулямёты і аўтаматы, пачуліся вінтовачныя залпы. Для немцаў гэта было зусім нечаканым. Жніво было на славу. Пачарнеў снег, перамяшаўшыся з зямлёю. Пахла порахам. Немцы, не вытрымаўшы такога агню, пакідалі зброю і параненых і ў беспарадку адступілі, пакінуўшы на полі бою шмат забітых і параненых.

Гарашчэня выйшаў з умацавання. Каля вуха празвінела пчалою куля. «Што за чорт, не можа быць, каб шалёная»,— падумаў Гарашчэня. Другая куля дала рыкашэт і, жаласна праспяваўшы, паляцела ў дрымучы лес. Гарашчэня падаўся за дрэва, стаў прыгля-

дацца. На векавым дубе сядзеў чалавек, трымаючы ў руках вінтоўку з аптычным прыцэлам. Гарашчэня, узяўшы ў партызана трохлінейку, прыцэліўся і гахнуў. Ён другі раз смальнуў — паляцела з дуба на снег галлё. Стаўшы на калена, Гарашчэня пальнуў трэці раз. Адчуўшы небяспеку, снайпер, які сядзеў на дрэве, спяшаючыся, пачаў злазіць; абламалася галіна, і ён, як сноп, зваліўся ў гурбу снегу.

Гарашчэня заспакоіўся, упэўнены, што збіў снайпера. Ён аддаў партызану вінтоўку. У гэты час чалавек падняўся, пабег паміж дрэвамі і знік у зарасніку. Колькі яго потым ні шукалі, так і не знайшлі, як у ваду кануў. Гарашчэня доўга ахкаў, шкадуючы, што выпусціў снайпера.

— О, чорт! — нездаволены быў сабою Гарашчэня.— І трэба ж так прамахнуцца!

Скончыўся бой, які цягнуўся каля васьмі гадзін. Ён таксама дорага каштаваў і атраду. Гарашчэня, выстраіўшы партызан, рабіў пераклічку:

— Абрамовіч!

— Забіты.

— Грыгаровіч.

— Ёсць.

— Макарэвіч!

— Паранены.

— Беразоўскі!

— Памёр ад ран.

— Качарга!

— Ёсць.

— Аўсянік!

— Забіты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Суровы стаяў Гарашчэня каля забітых; ён не зводзіў вачэй з юнага партызана, выдатнага разведчыка Міхаські, які, выпрастаўшыся, ляжаў з адкрытымі вачыма, гледзячы ў марознае неба. Поруч з ім ляжаў Аўсянік з паднятым кулаком, нібы пагражаючы немцу. Другую руку Аўсянік прыціскаў да грудзей. Гарашчэня дастаў з яго кішэні запісную кніжку і палажыў сабе, каб перадаць яе родным. Сэрца ў яго разрывалася на часткі. Яшчэ ён у партызанах не меў такіх страт.

— Родныя браты, таварышы! — звяртаючыся да

партызан, якія стаялі ля трупаў забітых, гаварыў, хвалюючыся, Гарашчэня.— Сябры мае! Каб не быць знішчанымі, каб жыла і красавала наша Радзіма, каб жыў у шчасці наш народ, за гэта гінуць лепшыя людзі, якім бы толькі жыць і жыць. Ды і мы з вамі гатовы памерці, абы перамагчы, каб перарабіць свет на новы лад, каб не было больш вайны.

Шмат хто з нас, можа, не дажыве да той часіны, калі наша краіна прагоніць навалач — крывавых фашыстаў. Але тыя, якія астануцца жыць, высока ўзнімуць імёны змагароў, што аддалі сваю кроў кроплю за кропляй за сваю сацыялістычную бацькаўшчыну, за свой народ, за сваю сям'ю.

Спіце спакойна, таварышы, баявыя сябры, вы чэсна выканалі свой абавязак салдатаў перад Радзімай, перад народам.

Апошнім у магілу апусцілі Міхаську. У яго на верхняй губе ледзь-ледзь прабіваўся пушок. Не вытрымала сэрца салдата. У Гарашчэні пасыпаліся слёзы з вачэй, як град, слёзы, якія на ляту ледзянелі.

— Бывайце, любыя! — схіліў галаву Гарашчэня. Памаўчаўшы, ён узняў вочы і, здавалася, увесь быў у будучыні.— Вы не заплямілі слаўнага, авеянага ў баях сцяга, баявога сцяга Камуністычнай партыі, пад якім наш народ абавязкова пераможа. Над вашай магілай мы клянемся, што не выпусцім з рук зброі, пакуль хоць адзін фашыст будзе на нашай зямлі.

— Клянемся! — адказалі гуртам партызаны, узняўшы ў руках зброю.

Прагрымеў тройчы салют.

Пахаваўшы забітых, партызаны, абветраныя, прапахшыя парахавым дымам, узбуджаныя пасля васьмігадзіннага бою, ішлі ў лагер пераможцамі. Нягледзячы на стомленасць, на страту сваіх таварышаў, упэўненыя, што вораг будзе разбіты.

Партызан сустракалі бацькі і дзеці, сёстры і маткі з смуткам і радасцю. Мароз браўся не на жарт, свяцілі зоры, патрэсквала ў лесе. Міроніха павяла партызан карміць гарачаю капустаю і грэцкай кашай. То там, то сям былі чуваць ціхія ўсхліпы — гэта блізкія і родныя аплаквалі воінаў, якія склалі галовы. Падсілкаваўшыся, закурыўшы, стомленыя партызаны разыходзіліся па зямлянках.

20

Доўга ў той вечар не спаў Гаращчэня, ён перагортваў невялічкую, у пераплёце чорнага колеру запісную кніжачку. Адзін рог яе быў зломлены; відаць, Аўсянік заўсёды насіў кніжачку ў кішэні. Дзённік вёўся з першага дня вайны. Здзіўляла, што ў такое невялічкай кніжачцы можна змясціць гэтулькі тэксту.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*22 чэрвеня*

«...Вайна застала ў роднай вёсцы. Прыехаў перад дзяржаўным экзаменам у інстытуце на дзень адпачыць. Бацькі плачуць, яны помняць германца па 1918 годзе, просяць бога, каб фашысты не дайшлі да Падгайнаўкі. Трывожна, неспакойна на душы. Хацеў з хлопцамі напіцца, але, ліха на яе, гарэлка нейкая слабая. Выпілі па паўлітра на брата і ўсе цвярозыя.

Правялі ў войска камандзіраў запаса. Аксеня Бандарчык, выпраўляючы мужа,— яны прыехалі з горада ў Падгайнаўку да бацькоў на дачу,— галасіла, як па нябожчыку, а ўвечары круцілася каля хлопцаў. Прыглянулася, спакусніца, трэцца, як рыба ў нераце. Правёў дадому, лезе цалавацца. «Натура ў мяне такая,— кажа,— што без мужчыны і аднаго дня не магу жыць. Сумна!» Свякроў, убачыўшы нас у сенцах, абоіх вылаяла. А калі прыйшоў дадому, маці насварылася. Бацька ж сказаў: «Калі звяжашся з ёю, дык не прыходзь дадому». Доўга не спаў, не разумеючы, у чым справа, чаму нельга прайсціся з замужняй жанчынай. Перад вачыма ўвесь час стаяла Аксеня, і перад раніцай яе сасніў, нібы з ёю пабіўся. І спляцецца ж немаведама што!

*25 чэрвеня*

Разгараецца, не на жарты, суровая, жорсткая, якой яшчэ свет не бачыў, вайна. З Мінска ідуць людзі, кажуць, што Мінска не стала, ён увесь у агні, у руінах, разбіты цэнтральныя вуліцы. Па дарогах ідуць жанчыны з клункамі; дзеці, падбіўшыся, плачуць. На маіх вачах наляцеў нямецкі самалёт і расстраляў некалькіх жанчын і дзяцей. Я ляжаў у жыце, кругом дзынкалі кулі, разрываліся, страшна было. Пахавалі забітых

пры дарозе. Ніхто іх не ведаў, і дакументаў пры іх ніякіх не было.

Што ж гэта робіцца? А гаварылі, калі толькі ворагі пачнуць вайну, будзем ваяваць на іх тэрыторыі? У нечым, мусіць, мы пралічыліся? Эт, лепей пра гэта не думаць! Гісторыя разбярэцца. Цяпер трэба бараніцца... так заўсёды нашы людзі рабілі, калі вораг урываўся на іх зямлю.

Цікава, пакуль вайны не было, бацька часта скардзіўся на непарадкі ў сельсавеце, у раёне, а цяпер гаворыць, што лепшай улады за Савецкую нідзе на свеце не знойдзеш. У чым справа? Чаму такая перамена адбылася? Не пазнаю таксама суседзяў, зусім іншымі сталі людзі, адчуўшы небяспеку. Толькі і гаворка ідзе пра Камуністычную партыю, яна выратуе людзей з бяды. «Што рабіць?» — часта чую запытанне, і я не магу на яго адказаць.

Увечары бачыўся з Аксеняй, вабіць да сябе, але мне сорамна зноў патрапіць на вочы старой, каб не вылаяла. Вагаюся: розум кажа адно, а пачуцці другое; што пераможа, не ведаю.

*29 чэрвеня*

Вайна дае аб сабе знаць. Па дарогах ляжаць забітыя, іх ніхто не падбірае. Сёння немец з самалёта абстраляў статак кароў, забіў падпаска. Мне незразумела гэта вайна. Уражанне такое, што немцы хочуць знішчыць народ. Інačай, чаго абстрэльваць, дзе няма ніякіх вайсковых аб'ектаў. Людзі напалоханыя, кажуць, што немцы высадзілі дэсант. Я сам чуў страляніну, але хто страляў — не ведаю. Няўжо такі нашы адступаюць? Ходзяць чуткі, што немцы ўжо ў Мінску, але гэта, мусіць, хлусня. Не хочацца верыць. А яшчэ прайшла пагалоска, што ўся наша тэхніка, якая была падведзена да граніцы, ляснула,— нібы захоплена ворагам. Дык няўжо наша разведка не ведала, што фашысты сканцэнтроўваюць сілы для наступлення? Не можа гэтага быць. Нехта, мусіць, даў зяўка.

Быў у райваенкамаце, прасіўся, каб узялі ў войска. Адмовілі, кажуць, што мой год яшчэ не бяруць. Зайшоў у мястэчковы рэстаран. Гэта звычайная харчэўня. Што там робіцца! Сядзяць людзі, запыленыя, стомленыя, поўныя тугі і смутку, чакаюць, каб з'есці талерку га-

рачай капусты або супу. Некаторыя з іх па некалькі дзён не елі гарачай стравы.

А па дарогах ідуць, ідуць і ідуць. Адно страхоцце. Цяжка на сэрцы, няўжо і мне прыйдзецца блукаць па дарогах вайны і дзе-небудзь у прыдарожнай канаве скласці галаву. Усё ж пайшоў бы я, але бацькі не пускаюць. Шкада іх пакідаць.

Неадчэпная думка — чаму так здарылася? Папытаўся ў раённага начальства, маўчаць, мусіць, самі нічога не ведаюць.

Бачыўся з Аксеняй, забавіўся ў яе. Бацькі заўважылі, што я за апошнія дні зблажэў, бубняць, не падабаецца ім зблiжэнне з гэтай жанчынай. Дый я пачынаю адчуваць нейкі надрыў у яе, штосьці нездаровае, гнілое, не вартае чалавека.

Пажывем далей, пабачым болей.

*3 ліпеня*

У вёску Падгайнаўка прыйшлі немцы. Грабяць, што пад рукі трапіць. Няшчасныя валацугі!

Праходзячы па вёсцы, праз акно ўбачыў Аксеню, там была поўная хата немцаў. Ёю кідаліся, як мячыкам. Аксеня весела рагатала. Старыя сумысля сышлі з хаты, каб не бачыць ганьбы. Мне стала сорамна перад бацькамі, што знаўся з гэтай жанчынай. От паскудства! У мяне на душы стала цёмна, як у калодзежы.

*17 ліпеня*

Немцы абдзерлі мужыка як ліпку. Сяляне лаюцца, праклінаюць «новыя парадкі». Мужык пачынае злавацца, выспявае нянавісць да немца. Гэта добра! Без ярасці нельга перамагчы.

Памерла свякроў Аксені. Нявестка лямантавала на ўсю вёску, але ніхто яе слязам не верыць. Усе ад Аксені адвярнуліся. Ніхто не хоча з ёю размаўляць. І я парваў усялякія адносіны.

*1 жніўня*

Па ўсім Беразнянскім раёне прайшлі пажары. Сяляне на корані спалілі жыта. Пра гэта цяпер ідзе многа гаворкі. Людзі, якія і мелі якую крыўду на Савецкую ўладу, забыліся. «Маці,— кажуць,— пакарае і памілуе». Усе чакаюць звароту Чырвонай Арміі. Але калі

гэта будзе? Немцы гавораць, што Чырвоная Армія разбіта. Учора бачыў шмат палонных. Як жорстка і бесчалавечна немцы з імі абыходзяцца. Уся дарога, дзе іх гналі, услана трупамі: гэта немцы прыстрэльвалі тых, якія не маглі ісці. Што мне рабіць? Дзе знайсці паратунак для душы? Я так жыць не магу! І чаму я тады не пайшоў на ўсход, як людзі ішлі. І Аксеня, і немцы — мне пакаранне.

*29 жніўня*

Вось ужо чатыры тыдні прайшло, як я нічога не запісваў. Немцы наладжваюць у вёсцы свае «парадкі». Селянін супраціўляецца. Ніколі не ведаў, і калі б мне хто сказаў, дык не паверыў бы, што ў нашай вёсцы так глыбока ўвайшоў сацыялізм у быт. Селянін за калгас! Людзі ўпэўнены, што Саветы прыйдуць. Гэта радуе! А немцы шалеюць ад злосці, што людзі не паддаюцца на іх агітацыю.

Недарма гітлераўскі міністр акупіраваных тэрыторый Розенберг скардзіцца: «У выніку 23-гадовага панавання бальшавікоў насельніцтва Беларусі ў такой ступені заражана бальшавіцкім светапоглядам, што для мясцовага самакіравання не маецца ні арганізацыйных, ні персанальных умоў, што «пазітыўных элементаў», на якія можна было б абаперціся, у Беларусі не знойдзена».

Кажуць, пачаў працаваць падпольны партыйны цэнтр, на чале якога стаіць таварыш Сяргей. Як бы з ім звязацца! Я хоць беспартыйны, але гатоў выканаць любое заданне партыі, нават калі б мне гэта каштавала жыцця. Я задыхаюся ад «новых парадкаў», не хапае паветра. У народзе адточваецца ярасць, нянавісць да немца, які парушыў яго мірнае жыццё. Селянін стаў маўклівым, знікла ўсмешка, выспявае грозны народны гнеў.

О, пракляты фашыст! На колькі год ён адкінуў чалавецтва назад... патрэбны будуць дзесяткі год, каб аднавіць разбуранае. Хоць наперад цяжка сказаць.

*5 верасня*

Увесь раён абляцела вестка, што павешана азярышчанская настаўніца Наста Свірчэўская. Гэта ўскалыхнула ўсіх. Людзі як ад сну прачнуліся. Усе ведалі, што

яна хавала камісара і за гэта паплацілася жыццём. Ходзяць чуткі, што і камісара Гарашчэню злавілі. Шкада, калі так. Усе ўскладалі на яго надзею, што ён калі паправіцца, дык навядзе парадак, які па душы мужыку. Ніхто так не абароніць інтарэсаў селяніна, як рабочы. У мяне з'явіўся нейкі прыліў сіл. Па сабе адчуваю, што калі б мне дзе-небудзь трапіў зручны момант, дык я забіў бы фашыста. Хоць я на сваім веку не зарэзаў кураняці. Пры першым спрыяючым выпадку абавязкова заб'ю фашыста! Гэта будзе помста за Свірчэўскую і Гарашчэню, якіх я зусім не ведаю. Знаю толькі, што яны — савецкія людзі.

Але чым забіць? Трэба падумаць пра зброю.

Адчуваю, што Аксеня мне як бы ў душу наплявала. Мне сорамна перад людзьмі. Здаецца, што кожнае дзіця тыцкае ў мяне пальцам.

*6 верасня*

Яшчэ раніцою даведаўся, што немцы забілі лесніка Мірона Грыневіча. Гавораць, нібы ён сам забіўся, але гэтаму ніхто не верыць.

Пасля снедання нас пад узмоцненым канвоем павялі на рум. Чым не прыгон! Перш працавалі цераз пень калоду, абы дзень прайшоў. А пасля, калі на рум з'явіўся Шпакоўскі, крыху разварушыліся. І тут адбылося нешта незвычайнае. Я забіў калом фашыста, лягчэй стала на душы. І я нешта раблю, каб вярнуць свабоду. Шпакоўскі сказаў, што мяне прымуць у партызаны. Станаўлюся на грунт. Знойдзены пункт апоры. Я жыву!

На руме таксама была і Аксеня. Яна ўвесь час паказвала зубы немцам. Яе трэба асцерагацца!

*15 верасня*

Ужо два тыдні, як я ў атрадзе, але задавальнення не знаходжу. Мяне цураюцца, нібы я непатрэбны чалавек. Празвалі мяне «вучоным», хоць я лічу сябе невукам. Першыя дні мяне гэта крыўдзіла, а потым асвойтаўся, няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі. Мяне не разумеюць. Я магу больш і лепш зрабіць, чым другія. Хацеў ісці да камандзіра, каб з ім пагаварыць, але, на маё шчасце, ён сам мяне выклікаў. Я ад яго выйшаў акрылены. Ён мне паверыў, што я на боль-

шае здатны. Шмат значыць — вера ў чалавека. Іду для выканання спецзадання.

*22 верасня*

Сёння ў мяне выдатны дзень. Мною ўзарваны мост праз рэчку Беразнянку. На мяне зусім па-іншаму глядзяць людзі, зайздросцяць мне.

Увечары доўга гаварыў з камандзірам атрада. От гэта чалавек! Я супраць яго нішто. Што з таго, што я ведаю на памяць «Яўгенія Анегіна» Пушкіна, «Курган» Купалы. Гарашчэня ведае аснову ўсіх навук — марксізм-ленінізм. А як ён любіць людзей! Я расказаў Рыгору Сцяпанавічу пра сваё жыццё, як роднаму бацьку, і мне стала лягчэй на сэрцы. Адчуваю, што я нібы на свет нарадзіўся. Мне вераць! Цяпер рыхтуемся да нейкай складанай аперацыі. Буду біцца, як леў. Фашыста можна толькі сілай зброі пераканаць, што не бачыць яму Расіі, як сваіх вушэй. І мы гэта зробім! Калі не я, дык мае сябры дойдуць да Берліна.

Таварыш! Можа, са мною што здарыцца — усё на свеце бывае,— дык ты, ідучы па Германіі, успомні просьбу партызана — выразай да аднаго гітлераўцаў, каб яны больш ніколі не ўваскрэслі.

*29 верасня*

Гарачыя пайшлі дзянькі. Я разам з усімі ўдзельнічаю ў баях. Калі я змагаюся, я жыву. У Высачанскім лесе мы цераз шашу нацягнулі дрот і зрабілі засаду. Матацыклісты пры ўездзе ў лес зрабілі прачоску з аўтаматаў і на поўным ходзе ўрэзаліся ў дрот. Мы тут іх і аходалі. Нас было трое. Мы знішчылі пяцярых фашыстаў. Аперацыя праведзена артыстычна!

*3 кастрычніка*

Ідуць асеннія дробныя дажджы. Настрой дрэнны. Немцы крычаць, што хутка возьмуць Маскву. Пры думцы, што фашысты апаганяць Маскву, сэрца абліваецца крывёю. Вывад: трэба ўдзесяцярыць нашы намаганні, каб памагчы Чырвонай Арміі не дапусціць гэтага; наша дзейнасць пакуль вельмі малая. Трэба, каб партызанскі рух стаў усенародным. І гэта будзе!

Камандзір атрада высунуў лозунг: «Забі фашыста ў Беларусі, не будзе пад Масквою». Усе мы завялі аса-

бістыя рахункі, хто больш знішчыць фашыстаў. Ідзе паляванне на гітлераўцаў, як на ваўкоў!

*18 кастрычніка*

Усе жывём адной думкай, як спаткаць свята Вялікага Кастрычніка. Кожнаму хочацца зрабіць болей. Учора правёў вечар з камандзірам атрада. Цікавы Гарашчэня чалавек! Мыслячы. Але пра тое, што так здарылася з вайною, гаварыць не даецца. Ён глыбока пераконаны, што Савецкі Саюз абавязкова пераможа гітлераўскую Германію. Народ верыць Камуністычнай партыі і аддасць усе свае сілы, каб прагнаць ворага з савецкай зямлі.

*6 лістапада*

Вярнуліся ўсе з заданняў. Настрой прыўзняты. Сабраліся на сход ад старога да малога. Камандзір атрада таварыш Гарашчэня павіншаваў з надыходзячым святам 24-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ён зрабіў даклад, які грунтаваўся на выніках дзейнасці атрада, заклікаў да яшчэ большай актывізацыі барацьбы з ворагам.

*11 лістапада*

Дайшлі чуткі, што ў Мінску 7 лістапада Вільгельм Кубэ справіў крывавы баль, наладзіў яўрэйскі пагром, больш за дзесяць тысяч знішчыў мірных людзей. Звер, а не чалавек, людаед. Сцеражыся, кат, дабярэцца і да цябе караючая рука народа! Размовы такія вядуцца, што следам за знішчэннем яўрэяў гітлераўцы возьмуцца за знішчэнне беларусаў, палякаў і іншых народаў. Гэта, відаць, уваходзіць у іх планы. І як гэтага не бачаць беларускія буржуазныя нацыяналісты? Асляпленыя нянавісцю да бальшавікоў, нацыяналісты прадаюць народ. Няшчасныя вырадкі!

*17 лістапада*

Смерць, як здань, ходзіць па палетках роднага краю. Лютуюць фашысты. Расстрэльваюць, вешаюць, жывымі спальваюць мірных людзей, якія не хочуць скарыцца. Дарэмныя патугі гітлераўцаў, наш народ не паставіць на калені. Шырыцца партызанская барацьб-

ба. І ў наш атрад прыйшлі новыя людзі, яны выдатна б'юцца з ворагам.

*28 лістапада*

Няма калі пісаць. Кожны дзень ходзім на баявыя заданні. Немцы шалеюць ад злосці на партызан. Не па правілах ваюем?! Мы не даем ім спакою ні днём ні ноччу. Зямля гарыць пад нагамі акупантаў. А гэта пакуль кветачкі, а ягадкі наперадзе.

*6 снежня*

Быў у камандзіра. Ён паведаміў, што часці Чырвонай Арміі перайшлі ў контрнаступленне супраць нямецка-фашысцкіх войск на Заходнім фронце. Гэта выклікала агульную радасць у партызан. Камандзіру атрада не даюць працаваць, просяцца на заданні, каб памагчы Чырвонай Арміі разграміць немцаў пад Масквою. Доўга гаварыў з камандзірам, і ў заключэнне сыгралі ў шахматы. І шахматыст ён не благі, абставіў мяне. Але мне здаецца, што я яго як шахматыста вывучыў і ў будучым не паддамся.

*17 снежня*

Весткі з фронту прыходзяць, што немцы адкінуты ад Масквы. У народзе толькі і ідзе пра гэта гаворка. Дарма фашысты выхваляліся аб непераможнасці свае арміі. А будзе такі час, калі іх зусім выкінуць з нашай зямлі.

*1 студзеня*

Спаткалі Новы, 1942, год чаркай разведзенага спірту і закусілі цыбуляй. Размовы ідуць аб блакадзе партызан. Рыгор Сцяпанавіч за апошнія дні ўчарнеў. Не хапае прадуктаў, боепрыпасаў. Паспрабаваў Рыгора Сцяпанавіча адцягнуць ад цяжкіх думак, згулялі дзве партыі ў шахматы, узрушаны, ён абедзве прайграў, пасля гэтага кінуў гуляць. Аддаў распараджэнне пусціць коні ў расход, дык высветлілася — солі няма. Здарылася цяжкае становішча з харчамі таму, што прыйшлося карміць шмат сялян, якія паўцякалі з вёсак пад ахову партызан.

*19 студзеня*

Разгром немцаў пад Масквою зрабіў вялікае ўражанне. Партызаны ганарацца тым, што яны не сядзе-

лі склаўшы рукі, а чым маглі, памагалі Чырвонай Арміі. І ўсё астаецца адчуванне, што мы мала робім. А можа, гэта таму, што камандзір увесь час убівае гэтую думку. На маім рахунку 17 знішчаных фашыстаў.

І з харчамі, і з боепрыпасамі паправілі становішча. Смелы напад на склады ў Крывуліне выручыў партызан. Аднак пайкі камандзір не прыбавіў і сам кантралюе, як выконваецца яго загад. Нічога, пражывем.

*27 студзеня*

Цяпер ужо няма ніякіх сумненняў, што ідуць вялікія сілы нямецка-фашысцкіх войск, яны спальваюць усё на сваім шляху. Мы ўгрызаемся ў зямлю, гэта значыць, без бою не збіраемся адступаць. Прыйдзецца пацягацца з рэгулярнымі часцямі. Настрой партызан добры. Пераканаўся, што вайна, акрамя ўсяго, патрабуе цяжкай фізічнай працы. А яшчэ — жылістыя нашы людзі, працавітыя, сардэчныя, мужныя.

*13 лютага*

Трывожныя насталі дні. Перабазіравалі старых і дзяцей у другое месца. Камандзір атрада Гарашчэня сам рамантуе гарматы. Настрой прыўзняты, чакаем бою, які вырашыць, будзем мы ў далейшым кантраляваць чыгунку ці не. Яшчэ захапілі прадуктаў і боепрыпасаў. Павесялеў наш камандзір.

Неяк, зайшоўшы да Рыгора Сцяпанавіча, застаў там Марыйку, яна ззяла ад шчасця. Мусіць, паміж імі завязаўся раман. Даўно пра гэта гаварылі. Ну што ж, добрая пара!

*23 лютага*

Хадзілі на чыгунку, падарвалі эшалон з жывой сілай і тэхнікай. Нашто скупы на слова Рыгор Сцяпанавіч, усё ж пахваліў нас. А пахвала чалавеку, калі ён гэтага заслугоўвае, патрэбна, яна яго акрыляе. Нягледзячы на тое што мы былі стомленыя, усе гатовы былі ісці на выкананне новага задання.

*14 сакавіка*

У атрад прыйшло шмат новых людзей. Рыгор Сцяпанавіч асабіста з імі займаецца. Па ўсяму відаць, што

мы напярэдадні вялікіх баёў. Кожны дзень камандзір пасылае ва ўсе бакі разведку.

З нашага атрада ўжо шмат выбыла партызан: адны забіты, другія паранены. Мне вельмі хочацца жыць, убачыць сваімі вачыма вызваленую зямлю. Раней я пра гэта зусім не думаў, а цяпер чамусьці гэтая думка не выходзіць з галавы.

*21 сакавіка*

Над нашымі лагерамі праляцеў савецкі самалёт, ён скінуў газету «За Свабодную Беларусь». Шмат было радасці. У газеце гаварылася, што хутка Чырвоная Армія адкіне ворага ад Ленінграда, ачысціць Беларусь і Украіну, Літву і Латвію, Эстонію і Карэлію, вызваліць Крым.

Хацелася зараз жа ісці ў бой, каб хутчэй вызваліць з няволі свой народ.

*27 мая*

Доўгі час нічога не пісаў. Вядуцца гарачыя баі. Некалькі дзён па загаду камандавання быў заняты перакладам з нямецкай мовы плана «ОСТ».

Вось некаторыя вытрымкі:

**З пісьма рэйхсфюрэра войск СС Гімлера**

«...Мы ў вышэйшай ступені зацікаўлены ў тым, каб ні ў якім выпадку не аб'ядноўваць народы ўсходніх абласцей, а, наадварот, драбіць іх на магчыма больш дробныя галіны і групы... Мы не намераны імкнуцца да іх згуртавання і павелічэння, тым больш да паступовага прывіцця ім нацыянальнай свядомасці і нацыянальнай культуры».

«...Для не нямецкага насельніцтва ўсходніх абласцей не павінна быць вышэйшых школ. Для яго дастаткова наяўнасці чатырохкласнай народнай школы. Мэтаю навучання ў гэтай народнай школе павінна быць толькі: просты лік, самае большае да 500, уменне распісацца, унушэнні, што боская запаведзь заключаецца ў тым, каб падпарадкавацца немцам, быць чэсным, стараннным і паслухмяным. Уменне чытаць я лічу непатрэбным».

«...Такім чынам, насельніцтва генерал-губернатарства непазбежна будзе складацца пасля паслядоўнага правядзення гэтых мерапрыемстваў на працягу бліжэйшых дзесяці год з непаўнапраўнага насельніцтва,

якое астанецца. Гэта насельніцтва будзе ўяўляць сабой пазбаўленую кіраўнікоў масу рабочай сілы і пастаўляць Германіі штогод сезонных рабочых для выкарыстання на чарнавых работах (будаўніцтва дарог, у каменаломнях, на будоўлях). Яно атрымае больш харчоў і стане жыць лепш...»

***З пісьма доктара Ветцэля «Заўвагі і прапановы па генеральнаму плану «ОСТ» рэйхсфюрэра войск СС»***

«...в) да пытання аб беларусах.

...Згодна плана прадугледжваецца высяленне 75% беларускага насельніцтва з займаемай ім тэрыторыі. Значыць, 25% беларусаў па плану галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі падлягае анямечванню...».

«...прадстаўляецца крайне неабходным па магчымасці старанна адабраць беларусаў нардычнага тыпу, прыгодных па расавых адзнаках і па палітычных меркаваннях для анямечвання і накіраваць іх у імперыю з мэтай выкарыстання ў якасці рабочай сілы. Іх можна было б выкарыстаць у сельскай гаспадарцы ў якасці сельскагаспадарчых рабочых, а таксама ў прамысловасці ці як рамеснікаў... Яны ў хуткім часе, па крайняй меры ў бліжэйшым пакаленні, маглі б быць поўнасцю анямечаны...».

«...Важна, каб на рускай тэрыторыі насельніцтва ў сваёй большасці складалася з людзей прымітыўнага паўеўрапейскага тыпу. Яно не прынясе многа клопату для германскага кіраўніцтва. Гэта маса расава непаўнацэнных, тупых людзей мае патрэбу, як сведчыць векавая гісторыя гэтых абласцей, у кіраўніцтве».

«...Ёсць шмат шляхоў для падрыву біялагічнай сілы народа... У гэтых абласцях мы павінны свядома праводзіць палітыку на скарачэнне насельніцтва... Мы павінны заўсёды ўсяляць насельніцтву думку аб тым, што шкодна мець многа дзяцей... Варта прапагандаваць таксама добраахвотную стэрылізацыю, не дапускаць барацьбы за зніжэнне смяротнасці малых дзяцей, не дазваляць навучанне мацярэй догляду за груднымі дзецьмі і прафілактычным мерам супраць дзіцячых хвароб. Варта скараціць да мінімуму падрыхтоўку рускіх урачоў па гэтых спецыяльнасцях, не рабіць ніякай падтрымкі дзіцячым садам і іншым падобным установам...».

«...Для нас, немцаў, важна аслабіць рускі народ у

такой ступені, каб ён больш не мог перашкодзіць нам устанавіць нямецкае панаванне ў Еўропе».

«...Калі Трэцяя Імперыя павінна існаваць тысячы год, дык нашы планы павінны быць распрацаваны на цэлыя пакаленні. А гэта значыць, што расава-біялагічная ідэя павінна мець рашаючае значэнне ў будучай нямецкай палітыцы. Толькі тады мы здолеем забяспечыць будучыню нашага народа».

Вось ён, чалавеканенавісніцкі, людаедскі «план» гітлераўцаў. Нарэшце мне стала ясна, чаго хочуць дабіцца ў гэтай вайне фашысты. Трасцу! Нічога ў вас не выйдзе! Самім вам вісець на перакладзіне...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гарашчэня скончыў чытаць дзённік Аўсяніка. Перагарнуўшы некалькі старонак, паклаў памятую чорную запісную кніжачку партызана на стол як дакумент аб чалавечым жыцці, якое нечакана абарвалася. Гарашчэня лёг, але не мог заснуць. З дзённіка Аўсяніка камандзір даведаўся пра Аксеню Бандарчык,— яна была ў другім эшалоне,— якая гэта жанчына. Гарашчэня ўспомніў словы Міхаські, якому здалося, нібы ён бачыў яе ў Чорным Бродзе, калі там стаяў штаб нямецкага палка. У Аксені тады спыталі пра гэта, яна клялася, што няпраўда, і ёй паверылі. Але цяпер, у свеце новых фактаў, Гарашчэню ясным стала, што яна лгала. Гарашчэня ўстаў, паклікаў дзяжурнага і загадаў яму неадкладна арыштаваць Аксеню. Толькі пасля гэтага Гарашчэня заснуў.

## 21

Раніцою Гарашчэня загадаў прывесці арыштаваную. Камандзір атрада хацеў сам з ёю пагаварыць. Увайшла Аксеня, па ўсяму відаць было, што яна хвалявалася.

— Сядайце,— прапанаваў ёй Гарашчэня.

— Дзякую,— Аксеня села на край скрынкі з-пад снарадаў і хутка загаварыла: — Як вы асмеліліся мяне, жонку камандзіра Чырвонай Арміі, арыштаваць?

— А як вы асмеліліся, жонка камандзіра, пайсці да немцаў на службу? — адказаў пытаннем на пытанне Гарашчэня.— Другія жонкі камандзіраў чакаюць

звароту мужоў, а вы ў першыя ж дні вайны, калі прыйшлі немцы, пачалі блудзіць.

— Гэта не ваша справа, я перад мужам буду несці за гэта адказ,— збянтэжылася Аксеня.

— Дапусцім, гэта ваша асабістая справа,— працягваў Гарашчэня.— А тое, што вы маёру фон Шульке далажылі, дзе праходзіць лінія абароны партызан, як вы гэта асмеліліся зрабіць?

— Я, я... Што вы ад мяне хочаце?.. Я нічога не ведаю!.. Адкуль вы гэта ўзялі?..

— Хоць бы перад смерцю прызналіся, што зрабілі няправільна, прадаўшы Радзіму...

— Вы мяне расстраляеце?..

— Паглядзім... Якое суд вынясе рашэнне...

— Мяне прымусілі...

— Па чыйму заданню вы пайшлі ў атрад?

— СД загадала...

— І колькі вам плацілі?

— Нічога мне не плацілі, толькі абяцалі заплаціць...— Аксеня не вытрымала, кінулася на калені і з слязамі на вачах стала прасіцца: — Даруйце... Па несвядомасці...

У гэты час у зямлянку зайшлі Міроніха з Марыйкай, яны здзіўлена глядзелі то на Гарашчэню, то на Аксеню, не разумеючы, у чым справа.

— Не карайце мяне...— лямантавала Аксеня.— Я жыць хачу, жыць!.. Жанчыны, заступіцеся за мяне... Горкая доля жаночая...

— Прабачце, не перашкодзілі? — паглядзела на камандзіра Міроніха.

— Наадварот, я хацеў пасылаць чалавека па вас,— паведаміў Гарашчэня.

— Хто табе, Аксеня, жыць не дае? — пацікавілася Міроніха.

— Памылілася я, цётка Міроніха... Не па той дарозе пайшла... Вось цяпер і пакутую.

— У чым справа? — здзіўлена глядзела Марыйка.

— Няхай яна сама раскажа, цётка Міроніха будзе ёй суддзёю,— сказаў Гарашчэня.— Не пярэчыце супраць суддзі?..

— Не-е...

— Дык кажыце, што здарылася? — прапанавала Міроніха.

— Я, я... Мяне выклікалі ў СД і сказалі, каб я пайшла ў атрад і прынесла ім весткі, што тут робіцца... дзе базіруецца атрад... колькі людзей... якое ўзбраенне...

— І ты гэта зрабіла? — пасуравела Міроніха.— Або, можа, ты прыйшла і паведаміла пра гэта камандзіру?

— Зрабіла,— прызналася Аксеня.

— Усіх нас прадала,— спалохалася Марыйка.

— Прадала... Што ж вам яшчэ сказаць?..— енчыла Аксеня.— Я ўсё скажу, усё... Толькі памілуйце...

— Для мяне ўсё ясна,— сказала Міроніха.

— Дык тады рашайце,— прапанаваў Гарашчэня.— Няма патрэбы цягнуць гэту справу. Нам трэба іншым займацца...

Міроніха неяк выпрасталася, з агідай паглядзела на Аксеню, падумала. Усе з напружаннем чакалі яе слова. Нахмурыўшы бровы, узняўшы галаву, Міроніха вынесла прысуд:

— Смерць. Няма горшага злачынства, як здрада. Толькі смерць.

— А-ах!..— дзіка закрычала Аксеня, увіваючыся каля ног, просячы: — Даруйце!..

— А твая якая думка, Марыйка? — звярнуўся да яе Гарашчэня.

— Я згодна з вынесеным рашэннем цёткі Міроніхі,— падумаўшы, адказала Марыйка.

— І я таксама,— пагадзіўся Гарашчэня і аддаў загад дзяжурнаму: — Прыгавор прывесці ў выкананне.

— Слухаю! — казырнуў дзяжурны. Ён узняў пад рукі асуджаную, яна ўпіралася, не ішла. Дзяжурны сілаю выпхнуў яе ■ зямлянкі.

Неўзабаве пачуўся стрэл — прыгавор быў прыведзены ў выкананне.

— Што ж нам с табою, Марыйка, трэба было тут? — апомнілася Міроніха.— Ага!.. Чым параненых карміць?..

— Дык жа ёсць яшчэ некалькі курэй, варыце бульён,— распарадзіўся Гарашчэня.

— Каб як цукру дастаць,— прапанавала Марыйка.— Няма ніякага толку з сахарыны.

— Пастараемся,— абяцаў Гарашчэня.

Жанчыны выйшлі з зямлянкі, і з імі Гарашчэня, каб крыху прайсціся, развеяцца.

22

Немцы спагналі ўсю злосць за няўдачу на мірным насельніцтве, амаль цалкам спаліўшы ўсе вёскі, дзе паблізу аперыраваў атрад. Але і партызаны не давалі жыцця фашыстам. Гарашчэнеўцы сем разоў бралі Беразнянку, сем разоў забіралі зброю ў салдат і афіцэраў і ўсё ніяк не маглі ўзброіць людзей, якія ішлі да іх у векавыя лясы.

Жорстка фашысты каралі людзей, якія не падпарадкаваліся «новым парадкам», не выдавалі партызан. Так аднойчы, прыехаўшы ў Падгайнаўку, немцы, з імі быў і іх паслугач бургамістр Пясецкі, узялі чатырох самых старых мужчын, дапытваючы ў іх пра партызан, але яны маўчалі. Ва ўсіх быў адзін адказ:

— Не ведаем.

Старыя кожны патроху ведалі пра партызан, але не гаварылі. Тады немцы іх жывымі закапалі ў магілу. Але, і паміраючы ў страшэнных пакутах, сяляне нічога не сказалі. Пясецкі прычапіўся да бабкі Марцэлі, дзе лётчык Чыгір, які ўцёк з палону. Ён старой выбіў апошнія два зубы і, не дабіўшыся нічога, застрэліў. Пасля гэтага здарэння ўсе беразнянцы, ад старога і да малога, пайшлі ў лясы, сталі гарашчэнеўцамі.

Шмат клопату прыносіў партызанам Пясецкі, які, як цень, хадзіў па пятах, а сам, як уюн, з рук выслізгваў. За Пясецкім па заданню Гарашчэні даўно ганяліся, але ніяк не маглі злавіць. Немцам ён патрэбен быў, а таму яго аберагалі.

— Гэтага паліцая не так лёгка ўвабраць,— шкадаваў Гальяш.— Ён з вады сухім выйдзе.

— Выходзіць, што ён разумнейшы за нас,— не згаджаўся Гарашчэня.— Гэта не так. Ён хітры, але дурны. Рана ці позна ўсё роўна яго куля не міне. Такі лёс кожнага здрадніка.

— Вядуць!

— Каго?

— Бургамістра.

— А-а-а, лёгкі на ўспаміне! — задаволена ўсміхнуўся Гарашчэня.— Давай яго сюды! Даўно галубка чакаем! — Гарашчэня насупіўся.— Што-о? Дык гэта ж былы бургамістр...

— Былы, былы,— спалохаўся бургамістр.— Яны мяне прагналі, відаць, не спадабаўся... Знайшлі нейкага дзівака... Загадай немцы яму бацьку ці маці павесіць, рука не здрыганецца... У яго няма нічога святога...

— З печы сцягнулі,— далажыў Шпакоўскі.— Усе рукі скусаў, пішчаў, як свіння ў плоце...

— Шкада, а я думаў, што цяперашняга бургамістра, Пясецкага, злавілі,— уголас развежаў Гарашчэня.— Што ж нам з табою рабіць? Нямала і ты людзям шкоды прынёс...

— Прабачце! — прасіўся былы бургамістр.— Па несвядомасці... Цяпер толькі асазнаў...

— Цікава,— нахмурыў бровы Гарашчэня.— Што ні здраднік, дык усё па несвядомасці!..

— Ага, па вачах сірата,— заўважыў Шпакоўскі,— па мэце — разбойнік.

— Дайце мне любое заданне... я...

— Лістам сцелецца,— іранізаваў Шпакоўскі,— а ўкусіць чэліцца.

— Што вы са мной хочаце рабіць?

— Для драпежнай псіны — кол з асіны,— пагля-дзеўшы на Гарашчэню, падказваў Шпакоўскі.

— Прашу вас, дайце мне заданне...

— Што-о? — скрывіўся твар у Гарашчэні, ён з агідай глядзеў на здрадніка.— Якое табе заданне? Колькі ў тым спісе, які ты склаў і перадаў немцам, было Бесавецкіх працаўнікоў? Колькі пры тваім удзеле ў Беразнянцы расстраляна яўрэяў? Колькі ты асабіста забіў партызан? Ды што там, выходзь!

Усе хлынулі з зямлянкі, заглядаючы ў гнеўныя вочы Гарашчэню,— партызаны ніколі не бачылі такім свайго камандзіра. Бургамістр кінуўся цалаваць Гарашчэневы боты, але ён адштурхнуў яго нагою.

— Ты не варты гэтага, гадзюка,— Гарашчэня скамандаваў: — Станавіся, сабака!

— Заданне...

— Колькі табе разоў прапанавалі апамятацца... Праз цябе сотні дзяцей...

І, не даказаўшы, Гарашчэня, выпусціўшы абойму, загадаў:

— Закапайце гэту падлу, каб не смярдзела!

Да Гарашчэні падышоў радыст, ён сказаў, што з Масквы цікавяцца, на колькі гадзін прызначаны вылет.

— Перадайце, што сёння ў шаснаццаць гадзін вылятаю.

— Слухаю,— павярнуўся радыст і пайшоў.

Памыўшы рукі, Гарашчэня сеў абедаць. Ён збіраўся ляцець у Маскву, каб далажыць аб дзейнасці атрада, атрымаць далейшыя ўказанні. Камандзір аддаваў распараджэнні свайму намесніку Шпакоўскаму, папярэдзіўшы, глядзі — галоўнае людзі.

— Пакуль ты будзеш трымаць сувязь з народам, датуль ты непераможны,— навучаў Гарашчэня.— Адарвешся ад мас, сам загінеш. І вельмі не рызыкуй, не забывайся, што ты камандзір, у тваім распараджэнні шмат людзей... Ага! Неабходна аб параненых паклапаціцца, усё што трэба — дастаць...

— Добра,— запісваў сабе ў блакнот Шпакоўскі.

Калі Чыгір далажыў, што машына гатова, каб ляцець, Гарашчэня захваляваўся. Камандзір запытаўся ў лётчыка:

— А можа, усё ж даляцім без пасадкі для запраўкі гаручым?

— Не,— адказаў Чыгір.

Гарашчэня чакаў Марыйку. Няўжо яна не прыйдзе яго правесці? Яму не хацелася хоць бы на кароткі час разлучацца з дзяўчынай. «І чаму яна не ідзе?» — думаў Гарашчэня. Ён у думках развітаўся з сваімі баявымі сябрамі, са змучанай зямлёю, з роднымі палямі і лясамі, дзе праведзена гэтулькі трывожных дзён, перажыванняў, сумненняў, удач і паражэнняў, дзёрзкіх аперацый, якія прынеслі немцам шмат страт. Гарашчэня яшчэ раз паглядзеў, ці ўсё ён узяў з сабою, прачытаў некалькі радкоў са злавеснага плана «ОСТ», у якім раскрывалася задума фашыстаў. Успомніў Насту, Мірона, Аўсяніка, Міхаську, Дразда і многіх іншых, што загінулі ў барацьбе, каб не быць беларусам знішчанымі. Нарэшце з'явілася Марыйка, яна прынесла падарунак — прадукты на дарогу.

— Гэта цётка Міроніха прыслала,— сказала Марыйка і пачырванела. Дзяўчына ўбачыла ў дзвярах Міроніху, якая ўсё гэта чула.

— Няпраўда,— усміхнулася бяззубым ротам Міроніха.— Сама ўсё прыгатавала... праснакоў напякла...

Марыйка не вытрымала, у яе з вачэй пырснулі слёзы.

½ 15 Зак. 1899

— Які вы мне дасце наказ? — звярнуўся да Міроніхі, як да роднай маці, Гарашчэня.

— Пакланіцца Маскве,— захвалявалася Міроніха,— сэрцу савецкай Радзімы. Скажыце, што беларусы і ў радасці і ў горы заўсёды з рускімі, партыя нас навекі з'яднала... І яшчэ, можа, удасца разведаць пра дзяцей... Ці жывыя яны?..

Гарашчэня пайшоў у суправаджэнні Марыйкі і Міроніхі, баявых сяброў, камандзіраў і партызан на аэрадром. Камандзір сумнымі вачыма паглядзеў у бок векавога бору, які, спяваючы, праводзіў яго ў вялікую дарогу.

## 23

Самалёт, узняўшыся, зрабіў круг над аэрадромам, на развітанне памахаў крыллямі і ўзяў курс на ўсход. Гарашчэня адчуваў, як білася ў яго сэрца. Пралятаючы над палямі і лясамі роднага краю, Гарашчэня бачыў спаленыя вёскі, станцыі, гарады — усё гэта месцамі нагадвала пустыню. Вецер разносіў плач беларускай зямлі.

Цяпер Гарашчэня асабліва востра адчуў, што яны вельмі мала зрабілі, каб зменшыць пакуты людзей, што апынуліся ў няволі. І каб не было загаду яму ляцець у Маскву з дакладам, ён бы вярнуўся назад. На яго думку, яму не было чым хваліцца, хоць на самай справе гэта было не так. Атрад Гарашчэні адзін з першых пачаў наносіць адчувальныя ўдары па немцах і не адзін раз фігураваў у зводках Саўінфармбюро. Асабліва ўдала была праведзена аперацыя супраць палка маёра фон Шульке, гітлераўцы мелі вялікія страты і былі адкінуты. Ім доўга прыйшлося залізваць свае раны.

Гарашчэня ўспомніў Васільева. Гэта Сяргей Паўлавіч памог яму стаць тым, кім ён зараз ёсць. Гарашчэню цяпер ведалі не толькі ў Беразнянскім раёне, але і шмат далей.

Камандзіру атрада захацелася, каб замест яго ехаў у Маскву з дакладам таварыш Сяргей, як яго завуць і пра якога мала хто ведае. А толькі назад не павернеш, загад ёсць загад, яго трэба выконваць.

«Дзе ён цяпер, наш дарагі таварыш Сяргей? — думаў Гарашчэня.— Напэўна недзе ўзнімае людзей на

барацьбу». На прыкладзе Сяргея Гарашчэню ясным стала, што партыя цераз такіх людзей звязана з масамі. Сяргею няма нічога даражэйшага за ідэі партыі, яго свая асоба менш за ўсё цікавіць. Рызыкуючы штохвілінна сваім жыццём, ён заўсёды дбае аб народзе, аб ператварэнні ў жыццё вялікіх ідэй Камуністычнай партыі.

Гарашчэню захацелася быць падобным на Сяргея Паўлавіча, але ён злавіў сябе на думцы, што не можа такім быць, у яго зусім іншы характар. «Я салдат,— падумаў Гарашчэня,— а таварыш Сяргей партыйны працаўнік ленінскай школы, загартаваны барацьбіт, які неяк сказаў, што ён за ўсё ў адказе перад партыяй. Таварыш Сяргей акрыліць цябе, дасць пуцёўку ў жыццё, і ляці, саколе, у будучыню. А сам ён зноў ідзе іншых узнімаць. Будзеш разумным — благім словам не ўспомніш, а не — дык і не трэба. Таварыш Сяргей сапраўдны чалавек, ён не з пароды такіх, якія толькі дбаюць аб сабе, аб сваёй славе і дабрабыце. У час суровых выпрабаванняў ён, як некаторыя крыкуны, не схаваецца ў кусты, а заўсёды будзе на перадавой лініі агню».

Ужо добра сцямнела, калі Чыгір пералятаў лінію фронту. Гарашчэня паглядзеў уніз — там успыхвалі «зарніцы». Гэта вялася артылерыйская дуэль, або так званы непакоячы агонь, а навокал былі пажары. Раптам разрэзаў цемру пук святла з пражэктара, потым перакрыжаваліся праменні, па крыле самалёта праслізнула святло, пражэктары намагаліся ўзяць у вілку самалёт. Па самалёце стралялі трасіруючымі кулямі, а неўзабаве скаланула паветра. Ясным стала, што б'юць варожыя зеніткі. Чыгір, не мяняючы курса, вёў самалёт. Пераляцеўшы лінію фронту, Гарашчэня лягчэй сябе адчуў. Ён паглядзеў уніз — нідзе ні агеньчыка.

Доўга прыйшлося кружыць, пакуль знайшлі вайсковы аэрадром, каб заправіцца. А калі адшукалі яго, дык іх чамусьці не прымалі, хоць і не адкрывалі агню — па гуку пазналі, што самалёт савецкі. А справа ў тым, што Чыгір, расхваляваўся, даў не тую ракету. Нарэшце ён схамянуўся і выправіў памылку. Зрабіўшы пасадку, запраўіўшыся, самалёт зноў узяў кірунак на ўсход.

Успомніўшы Марыйку, Гарашчэня падумаў: «Яна напэўна недзе, седзячы ў зямлянцы, ціхенька плача, мяркуючы, што я яе не кахаю. Але ж гэта не так, яна цудоўны чалавек, сардэчная, будзе добрай спадарожніцай у жыцці. І чаго я маруджу з уладкаваннем асабістых спраў? А можа, Марыйка не захоча стаць маёю жонкай? І чаму б не пагаварыць пра гэта з ёю перад адлётам?»

Гарашчэня зноў вярнуўся да думкі, што ім мала зроблена, каб памагчы Чырвонай Арміі ў яе гіганцкай барацьбе. Пралятаючы над лініяй фронту, Гарашчэня сваімі вачыма бачыў велізарнейшую бітву, якой не ведала гісторыя. Чырвонай Арміі даводзіцца весці барацьбу адзін на адзін з узброенай да зубоў нямецка-фашысцкай арміяй. «Па ўсяму відаць,— падумаў Гарашчэня,— што саюзнікі хітруюць з адкрыццём другога фронту і яны, мусіць, так і не пачнуць па-сапраўднаму ваяваць. Дык трэба нам, партызанам, быць другім фронтам». Гарашчэня прыгадаў адносна гэтага сваю размову з Сяргеем Паўлавічам, які, жартуючы, сказаў: «Англа-амерыканцы хацелі б ваяваць да апошняга рускага салдата». Але ў іх нічога не выйдзе! Мы бачым хітрыкі сённяшніх саюзнікаў навылёт!

Пралятаючы над Масквою, Гарашчэня заўважыў, што тут таксама не было агнёў. Зрабіўшы некалькі кругоў над аэрадромам, самалёт пайшоў на пасадку. Хутка Чыгір прызямліўся. У Гарашчэні паскорана білася сэрца. Выйшаўшы з самалёта, Гарашчэня прыпаў да зямлі, пацалаваў і, як прасіла Міроніха, пакланіўся Маскве.

— Родная Масква,— усхвалявана загаварыў Гарашчэня,— прывітанне табе з лясоў Беларусі, нізкі паклон ад лясных салдатаў. Мы заўсёды сэрцам з табою!

Неўзабаве да самалёта пад'ехала машына, і Гарашчэня з Чыгіром накіраваліся ў Штаб партызан. Гарашчэня разглядаў Маскву,— яна была суровай, маўклівай. Па вуліцах патрулісавала варта. Гарашчэню кінулася ў вочы, што ў Маскве толькі дзе-нідзе відаць былі руіны, і то абнесеныя агароджай.

— Масква якая была, такая і ёсць, прыгожая,— узрадаваўся Гарашчэня.— У немца аказаліся рукі кароткія...

— Ага,— згадзіўся Чыгір.— Не ўдалося ім з ходу ўзяць Маскву, то цяпер тым больш не возьмуць! Народ узняўся на барацьбу!

— Правільна ты сказаў,— усклікнуў Гарашчэня.— Няма на свеце такой сілы, якая б нас адолела. У Штабе партызан насустрач Гарашчэню выйшаў начальнік штаба, сярэдніх год мужчына, ■ залысінамі на галаве. Акінуўшы разумнымі вачыма Гарашчэню, прывітаўшыся, начальнік штаба запрасіў Гарашчэню прайсці ў кабінет і там прапанаваў сесці. Задаўшы некалькі пытанняў: як здароўе, ці ёсць сям'я і дзе яна, начальнік штаба, ласкава ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Дык расказвайце, якія ў вас навіны? Можа, вам патрэбна ад нас якая-небудзь дапамога? Якія ў вас планы на будучае?

Гарашчэня, хвалюючыся, пачаў дакладваць начальніку штаба аб баявых дзеяннях партызанскага атрада. Начальнік штаба, часамі ўстаючы і пахаджваючы па кабінеце, уважліва слухаў, кідаў рэплікі, рабіў заўвагі, падагульняў і накіроўваў дзейнасць партызан у патрэбным напрамку. Гарашчэня адчуў, што перад ім не проста начальнік штаба, які цікавіцца праведзенай той або іншай аперацыяй, а выдатны дзяржаўны дзеяч, які ўмее ў малым убачыць вялікае. Начальнік штаба звярнуў асаблівую ўвагу на масавасць партызанскага руху, які трэба зрабіць усенародным.

— Камуністычная партыя высока ацэньвае маральныя якасці і духоўныя сілы беларускага народа,— гаварыў начальнік штаба.— Трэба, каб увесь народ узняўся на змаганне. Але само нічога не робіцца. Неабходна арганізаваць масы, узначаліць барацьбу.

Начальнік штаба ўхваліў дзейнасць падрыўнікоў атрада на чыгунцы, сказаўшы, што трэба значна актывізаваць партызан у гэтым кірунку, каб паралізаваць варожыя камунікацыі.

Гарашчэня ніяк не мог утрымацца, каб не сказаць пра работу таварыша Сяргея, якому быў абавязаны ў сваім росце і станаўленні. Начальнік штаба задаволена ўсміхнуўся, ён добра ведае Сяргея Паўлавіча, які яшчэ калі ЦК КП(б)Б быў у Магілёве, быў пакінуты для падпольнай работы, і даў яму высокую ацэнку: «Гэта сапраўдны бальшавік, партыя і народ ніколі не забудуць яго выдатнай дзейнасці».

15 Зак. 1899

Гарашчэня дастаў і ўручыў начальніку штаба пісьмовую справаздачу аб баявых дзеяннях атрада і дадаткі да плана «ОСТ»: «Пісьмо рэйхсфюрэра войск СС Гімлера» і «Пісьмо доктара Ветцэля «Заўвагі і прапановы па генеральнаму плану «ОСТ» рэйхсфюрэра войск СС». Начальнік штаба хутка іх прачытаў.

— А дзе план «ОСТ»? — спытаў ён.

— У забітага генерала яго не аказалася,— адказаў Гарашчэня.

— Шкада. Калі будзем судзіць гітлераўцаў, ён вельмі б спатрэбіўся. Хоць і пісем дастаткова. Справа ідзе аб знішчэнні народаў.— Начальнік штаба пасуравеў.— Семдзесят пяць працэнтаў беларусаў выселіць (гэта значыць знішчыць) і дваццаць пяць працэнтаў беларусаў анямечыць (зрабіць рабамі)? І ўсё гэта здзейсніць з дапамогай беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Вы што-небудзь пра іх ведаеце?

— А як жа? З Смаленска ў Мінск прыехаў Астроўскі...

— Астроўскі ў Мінску? — здзівіўся начальнік штаба.— Злятаецца груганнё...

— Цяпер Астроўскі — дарадца гаўляйтэра Вільгельма Кубэ і падручны шэфа СД генерала фон Готберга...

— А што вы ведаеце пра Астроўскага?

— Сёе-тое пра яго магу расказаць.

Па запрашэнню начальніка штаба яны селі на канапе.

### Расказ Рыгора Гарашчэні

— Не раз рабілі замах на свабоду і незалежнасць Беларусі чужаземныя захопнікі. Шматлікія курганы, дзе парахнеюць косці заваёўнікаў, сведкі гэтага. І ў абозах, за варожымі арміямі, заўсёды ехалі лёкаі рыцараў, людзі з чорнымі душамі. Рабаўнікам патрэбны былі пігмеі, якія ведалі быт і звычаі народа, знаёмыя з мясцовасцю, неабходны былі праваднікі і перакладчыкі, правакатары і шпіёны, людзі без радзімы, гонару і сумлення. Гэта шмат год выконваюць людзі, якія называюць сябе «беларускімі нацыяналістамі», іх невялікая група, што толькі па месцы нараджэння можна назваць беларусамі.

Беларускія буржуазныя нацыяналісты ніколі не былі значнай з'явай у гісторыі Беларусі. Дастаткова прывесці адзін прыклад. У часе выбараў у 1917 годзе ва Устаноўчы сход бальшавікі атрымалі шэсцьдзесят восем працэнтаў галасоў, а ўсе астатнія партыі — кадэты, акцябрысты, меншавікі, эсэры, анархісты, бундаўцы, грамадаўцы — толькі трыццаць два працэнты. Нацыяналісты ж пацярпелі амаль поўнае паражэнне.

Адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі імперыялістычныя штабы Германіі, Англіі, Францыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Японіі пачалі падбіраць усю нечысць, якая магла быць карыснай у вайне супраць Краіны Саветаў. Так яны падабралі многіх рускіх белагвардзейцаў, украінскіх пятлюраўцаў, грузінскіх меншавікоў, беларускіх нацыяналістаў. Улоў нязначны, і прытым усялякая драбяза... Што ж, для разведак і гэта хлеб.

Вось хоць бы ўзяць верхаводу беларускіх нацыяналістаў Радаслава Астроўскага. Яшчэ юнаком-гімназістам, у невялікім маёнтку бацькі, пад Слуцкам, марыць ён аб бліскучым жыцці. Бацька збірае грошы, аблічвае батракоў, хоча стаць вядомым у Слуцкім павеце памешчыкам і мала дае на кішэнныя выдаткі сыну. Не хапае нават на добрыя папяросы. Неяк летам паспрабаваў Радаслаў схадзіць на вясковае ігрышча: абсмяялі дзяўчаты... Што казаць, паглядзіш у люстэрка і ўздыхнеш. Прышчаваты твар, касыя вочы. Адна дзяўчына, што адмовілася [redacted] ім танцаваць, сяброўцы шапнула: «Хоць і [redacted] заячай душою, але наглы! Такі выб'ецца на паверхню!» Дзе ўзяць грошы, каб добрай адзежай упрыгожыць нясkладную фігуру, кінуць да ног дзяўчат цукеркі, пачаставаць хлопцаў добрымі папяросамі. Можа, пайсці працаваць? Толькі адзін раз у жыцці Радосік, як звалі яго дома, паспрабаваў фізічна папрацаваць — паехаў з батраком Васілём Магілёўцам на лесавывазку. І закаяўся на ўсё жыццё. «Працу дурні любяць!» — сказаў ён. Грошы, грошы — вось мара, чаму варта прысвяціць усяго сябе!

На некаторы час Радаслаў Астроўскі далучаецца да эсэраў. Становіцца ўпаўнаважаным Часовага ўрада Керанскага ў Слуцкім павеце. Але гэта небяспечна. Сяляне пагражаюць звергнуць як Часовы ўрад на чале з Керанскім, так і яго прадстаўніка Астроўскага.

У 1918 годзе маршыруюць па Случчыне калоны кайзераўскіх войск. У іх ёсць сіла, грошы, улада. Не хапае захопнікам аднаго: яны не ведаюць мовы і мясцовых умоў. 10 ліпеня 1918 года ў вёсцы Мазалі сяляне збілі групу акупантаў на двары памешчыка Пружынскага. Вінаватых — нямецкі камендант знайсці не здолеў. Памешчык Пружынскі сказаў, што пабоі адбыліся ў яго адсутнасці. Аднак камендант усё ж выявіў «вінаватых». Сляды вядуць да Радаслава Астроўскага — ён у гэтую пару часты наведвальнік нямецкага каменданта. Астроўскі старанна вывучае нямецкую мову, становіцца даверанай асобай нямецкіх акупантаў, а заадно і асведаміцелем камендатуры. Акупантам вельмі патрэбны здраднікі з мясцовага насельніцтва, людзі, якім маркі даражэй за сумленне. У Берлін на імя кайзера Вільгельма II пайшла ўжо вернападданніцкая тэлеграма ад створанага з дазволу імператара так званага ўрада БНР. Тэлеграму падпісала група беларускіх нацыяналістаў на чале з памешчыкам фон Скірмунтам (з беларуса-католіка ён раптам стаў немцам). У Слуцку ў гэты час Радаслаў Астроўскі атрымлівае дазвол арганізаваць прыватную гімназію на сродкі мясцовага насельніцтва (памешчыкаў), вядома, пад наглядам акупантаў. Ім патрэбны перакладчыкі і правакатары. Калі пад націскам Чырвонай Арміі і партызан кайзераўцы былі выгнаны з Беларусі, з немцамі ўцёк і Астроўскі...

Немцы Радаслава Астроўскага пакінулі ў Польшчы. Ён звязваецца з дэфензівай. Колькі напісана ім даносаў аб дзейнасці «Беларускай грамады», колькі «навуковых прац» — планаў чарговых правакацый, паслана ў дэфензіву. Аднойчы адзін супрацоўнік Віленскай дэфензівы, пасміхаючыся, сказаў: «За вашу пісаніну, пан доктар, даўно час ужо даць вам званне прафесара!» Але званне прафесара Астроўскаму надалі не пілсудчыкі, а гітлераўцы...

Так прайшло жыццё — ад адных гаспадароў, да другіх. Кайзераўскія афіцэры, пілсудчыкі, гітлераўцы, французы, англічане, амерыканцы. Маркі, злоты, франкі, фунты, долары. Грошы не пахнуць. Хоць каму служыць, абы добра плацілі...

Самы шчаслівы дзень для Астроўскага — 22 чэрвеня 1941 года. Бомбы Гітлера падалі на галовы людзей —

і той жанчыны, што калісьці на Случчыне адмовілася з ім танцаваць, і ўсіх, хто падняўся супраць фашыстаў, на гарады і вёскі Савецкага Саюза,— а Радаслаў Астроўскі ў гэты час нервова сноваў па калідоры гестапа, чакаючы выкліку. У кабінеце, кажуць, крэсла яму не прапанавалі, затое ўручылі прызначэнне: бургамістрам Масквы.

— Бургамістрам Масквы? — здзівіўся начальнік штаба.

— Так,— сцвердзіў Гарашчэня.— Задача — вытравіць усё савецкае ў сталіцы Краіны Саветаў, знішчыць і сам горад. Забіваць і разбураць. Няхай ніколі больш Масква не здолее стаць цэнтрам свабодных народаў! Пан «прафесар» Астроўскі здолее справіцца з гэтай задачай.

У кабінеце гестапа Астроўскага ўпершыню назвалі «прафесарам». Для такой работы патрэбны вопыт і нянавісць. Нічога не здолеў выразнага сказаць Астроўскі — ад радасці перахапіла дыханне. Толькі ўскінуў руку і хрыпла выкрыкнуў: «Хайль Гітлер!» Пабыўшы некаторы час у Бранску, пасля ў Смаленску, не дачакаўшыся ўзяцця Масквы, яму прапанавалі выехаць у Мінск. Ходзяць чуткі аб арганізацыі так званай Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з Астроўскім.

— Фашысты пакуль не дазволяць гэтага зрабіць,— разважаў начальнік штаба.— Як некалі кайзераўцы толькі ў апошні час, калі высветлілася, што яны ў Беларусі не ўтрымаюцца, стварылі БНР, так цяпер гітлераўцы толькі тады, калі будуць пакідаць Беларусь, хоць гэта не за гарамі, створаць БЦР...

— Магчыма,— згадзіўся Гарашчэня.

— А хто такі Францішак Кушэль?

— Быў капітанам у Пілсудскага, стаў маёрам у Гітлера, камандуе 13-ым карным батальёнам.

— Добра вы інфармаваны.

— Ворага трэба ведаць, каб з ім ваяваць. Адносна Астроўскага я пасылаў разведчыка не толькі ў Мінск, але і на Случчыну. Ён размаўляў з батраком Астроўскага, Васілём Магілёўцам... Каб нам мець газету, мы многае выкарысталі б у друку... Слова часам мацней за кулю... Куляй пападзеш у аднаго, а словам у тысячу...

— Будзе ў вас паходная друкарня,— абяцаў на-

чальнік штаба.— Мы пра гэта паклапоцімся.— Ён падумаў: — А хто такі Абрамчык?

— Таксама гестапавец. Інжынер. Паехаў у Парыж... Ужо цяпер рыхтуецца змена Астроўскаму...

— Так, ворага трэба ведаць,— уголас падумаў начальнік штаба.— Без гэтага, сапраўды, нельга ваяваць...

Ужо куранты прабілі дзве гадзіны ночы, а гутарка ўсё працягвалася. Цяпер начальнік штаба гаварыў аб арганізацыі «Рэйкавай вайны» ў тыле ворага. Гарашчэня прыкідваў у думках, як план начальніка штаба правесці ў жыццё, і прыйшоў да вываду, што гэта зусім рэальная рэч, бо народ настроен супраць акупантаў.

Гэтая ноч была пераломнай у жыцці і дзейнасці атрада.

24

Намеснік камандзіра атрада Шпакоўскі, карыстаючыся тым, што не было камандзіра, сам хадзіў на аперацыі. І пярэчыць ніхто не мог, іначай таму пагражала самому аставацца ў зямлянцы, а гэта для гарашчэнеўца было самым страшным. Гарашчэнеўцы прывыклі ўвесь час быць у дзеянні. Да ўсяго таго, кожны хацеў, калі вернецца з Масквы камандзір, далажыць яму аб сваім асабістым рахунку.

Шпакоўскі і партызан Піліп Пацяруха вярталіся з аперацыі. Мароз быў такі, што птушкі на ляту замярзалі. На вачах у партызан, пералятаючы цераз дарогу, верабей упаў каменем. Недарма ў народзе кажуць: «Прыйшоў марац, адмарозіў палец».

Праходзячы каля роднай вёскі, Пацяруха прапанаваў намесніку камандзіра атрада зайсці ў Тарасаўку, каб трохі абагрэцца. Шпакоўскі ахвотна згадзіўся. Яны збочылі з шашы. Змейкай вілася ў Тарасаўку дарожка.

— Якія-небудзь некалькі гоней да вёскі,— заўважыў Шпакоўскі,— а ніяк не дойдзеш...

— Гэта ж адзін тарасавец, п'яны, як праклаў на вазку дарогу, так і асталася на ўсю зіму,— тлумачыў Пацяруха.— Ніхто пасля не захацеў першым па цаліне праехаць, каб зрабіць новую дарогу...

Тарасаўка вёска своеасаблівая. Калі прыйшлі немцы, тарасаўцы закапалі акт на вечнае карыстанне зямлёю ў гумне, мяркуючы зберагчы яго да прыходу Чырвонай Арміі. І ўсё ж іх спакусілі дзяліць зямлю. Прыйшоў у Тарасаўку каморнік, нарэзаў палеткі, загоны. Больш месяца валаводзіліся, кармілі яечняй каморніка, ніяк не маглі падзяліцца. Нарэшце, калі прыйшлося падпісваць дакумент, дык ніхто не хоча першым падпісвацца. Потым тарасаўцы ўсё ж знайшлі выйсце: каморнік зрабіў круг, па ім усе і падпісаліся. Пасля тарасаўцы лаялі сябе на чым свет стаіць, што аказаліся мяккацелымі і раскідалі калгас.

Ужо ўвайшоўшы ў Тарасаўку, Шпакоўскі і Пацяруха даведаліся, што ў вёсцы ёсць немцы. Але куды ты цяпер дзенешся? Трэба было тут аставацца. Добра яшчэ, што вартавыя не заўважылі. Падубеўшы, варта зайшла ў хату пагрэцца. Прыйшлося Шпакоўскаму і Пацяруху размясціцца ў першай жа хаце, якая трапіла ім на вочы. Вестка, што прыйшлі партызаны, хутка стала вядомай амаль усім сялянам.

Пацяруха быў дзябёлым, кулакі тыя па пуду. Да вайны ён быў калгасным кавалём. Аднойчы, п'яны — каб напаіць яго літра было мала,— ён пайшоў аб заклад, што абагне халодную шыну кругом кола. І абагнуў! На кулачкі біцца з ім ніхто не адважваўся.

Шпакоўскі думаў: «Што рабіць? Ісці з вёскі — могуць немцы заўважыць. Тут аставацца — небяспечна». Неўзабаве ў хату пачалі збірацца хлопцы, нібы прыйшлі да дзяўчыны пагуляць, яны трымаліся афіцыйна, не выдаючы, што ведаюць Пацяруху, які за час прабывання ў партызанах адгадаваў рыжыя вусы. Нарэшце зайшла жонка Пацярухі. Яна здзіўлена паглядзела на мужа:

— Або-о, Піліп, каго ж ты тут баішся? — кінулася да мужа каваліха.

— Цыц, дурная! — паглядзеўшы на Шпакоўскага, сыкнуў Пацяруха.

Хлопцы, нездаволеныя тым, што ім не давяраюць, загаманілі. Яны былі рады выпадку, што прыйшлі партызаны, і хацелі прапанаваць свае паслугі, каб расправіцца з немцамі, якія сваволяць у Тарасаўцы. У хлопцаў чамусьці з бакоў адтапырваліся кажухі. Шпакоўскі адразу гэта заўважыў і пільна за імі са-

чыў, а гледзячы на камандзіра, і Пацяруха быў напагатове.

— Што вы, хлопцы, наважылі рабіць? — адхіляючы жонку, не вытрымаў Пацяруха.— Калі нас узяць і выдаць немцам, дык нічога ў вас не выйдзе. За намі ідзе вялікая сіла,— хітрыў Пацяруха.— Яна неўзабаве тут будзе. Мы, можна сказаць, іх разведка.

— Дык і мы разведка,— нясмела загаварыў хлопец.— Нас паслалі даведацца, ці бераце вы да сябе ў атрад людзей? Зброя ў нас ёсць. Хочам трушчыць немца.

— Што ж вы не трушчыце, калі ён у вас на вачах робіць здзекі? — кальнуў Шпакоўскі.

— Ніхто не адважваецца першым пачаць,— гаварыў усё той жа хлопец.— Такая ўжо наша вёска...

— Але,— загаманілі хлопцы.

— А што, хіба я няпраўду казала? — кінулася на шыю мужа каваліха.— Піліпка! Родненькі мой! Дарагэнькі! — нібы галасіла яна.— Твае ж дзеткі праз гэтых хрыцаў на нішчымніцы сядзяць. Вядома, жывем на вялікай дарозе. Усё да ніткі абчысцілі.

Хлопцы наперабой расказвалі Піліпу навіны, якія адбыліся ў Тарасаўцы за час яго адсутнасці.

У гэты час у хаце Тадоры Барысевіч, на другім канцы вёскі, гаспадарыў нямецкі афіцэр, у чыне оберлейтэнанта, Вілі Шульц. Ледзь выгаворваючы словы, ён запытаўся ў сялянкі:

— Што вы такая кіслая, як тры дні не елі? Весяліцца трэба. Хайль!

Напалоханая Тадора, адыходзячы ад яго, падумала: «Недзе шклянога бога бачыў. Такі ж ледзь на нагах трымаецца. І чаго вас прынесла нячыстая? Нарабілі хайлю, злыдні, на ўвесь свет».

— Раней у Беларутэніі гадаваль вялікі шпэк,— падбіраў словы Шульц, заглядаючы ў слоўнічак.— Гадаваль вялікі свіння. Нясі, матка, шпэк. А яшчэ такой круглы — каўбаса.

— Няма ў мяне сала і каўбас.

— Шукай! — гаркнуў Шульц.— Шнапс у мяне ёсць. Хайль!

— Добра, пагляджу,— напалохалася Тадора, збіраючыся выходзіць.— Можа, дзе і знайду...

Скрыпнулі дзверы. У хату ў суправаджэнні хлопцаў увайшоў Пацяруха. Не паспеў обер-лейтэнант апамятацца, як Пацяруха схапіў яго і, падняўшы вышэй галавы, кінуў на падлогу. Шульц распластаўся, жаласна спусціўшы дух.

— Ой, што вы зрабілі! — напалохана пляснула рукамі Тадора.— У маёй хаце... са свету звядуць...

— Вынось яго, хлопцы, з хаты, і абы ціха,— загадаў Пацяруха.— Адным хайлем менш будзе.

— Ото ж добра,— апамяталася Тадора.— Трэба адвучыць іх, гэтых злыдняў, таптаць нашы палеткі.

Астатнія тарасаўцы на чале са Шпакоўскім у гэты час распраўляліся з гітлераўцамі, якія, баючыся холаду, паўзбіраліся на печы. Чутна была страляніна, енчылі фрыцы.

— Вон, прусакі, з рускай печы! — камандаваў Шпакоўскі.— Выкідай іх, хлопцы, на мароз!

Так была ачышчана Тарасаўка ад фашысцкай нечысці, але назаўтра і вёскі не стала — яна была спалена карнікамі. Шмат хто загінуў з тарасаўцаў, якія не паспелі ўцячы з партызанамі ў лес.

25

Пачарнеў снег, калі Сяргей Паўлавіч збіраўся ў дарогу. Прайшла яшчэ адна ваенная зіма. Ужо на Случчыне пачалася вясна, цвыркалі птушкі, цурчала вада, змываючы з параненых грудзей зямлі людскую кроў.

Сяргей Паўлавіч праходзіў каля Крывічанскіх могілак. Тут адважна і мужна біліся семнаццаць камсамольцаў-партызан, яны ў няроўнай барацьбе загінулі смерцю герояў. Камсамольцы-партызаны ўлажылі больш за сто немцаў. Сяргей Паўлавіч, зняўшы шапку над магілай партызан, падумаў: «Спіце спакойна, таварышы! За вашу смерць — адпомсцім! Прыйдзе час, і над вашай магілай будзе ўзвышацца помнік вечнай славы. Краіна-партызанка вас ніколі не забудзе».

Страшна стала хадзіць па беларускіх дарогах. Куды ні глянь, усюды свежыя магілы,— пасля зімы паўвальваліся — ніхто іх не папраўляў і не прыбіраў. З адной прыдарожнай магілы тырчала дзіцячая ручка, а на ёй вісеў абарваны тэлефонны провад. Поруч была вялікая варонка ад бомбы.

Не пазнаць Беларусі, квітнеючай краіны з цудоўнымі дарогамі, з прыгожымі вёскамі і гарадамі, кругом якіхраслі сады. Вось Сяргей Паўлавіч праходзіць там, дзе некалі была вёска Раманавічы. Яна ўся ў руінах, ні адной жывой душы не відаць — пустыня. Раманавічы фашысты спалілі толькі таму, што поруч з вёскай быў лес і адтуль маглі прыходзіць партызаны. Прыляцелі шпакі, але, не знаходзячы прытулку, кінулі вёску. Пасярэдзіне вёскі Сяргей Паўлавіч угледзеў аблезлага дзікага ката, які замяўкаў і кінуўся ўцякаць.

За дзесятак яек адзін нямецкі шафёр згадзіўся давезці Сяргея Паўлавіча да Мінска. Едучы па дарозе Слуцак — Мінск, Сяргей Паўлавіч заўважыў, што абапал дарогі быў павысяканы лес, каля кожнага, нават невялічкага, мосціка былі пабудаваны дзоты і стаяла варта. Беларускія палі, як прызнавалі самі акупанты, сталі для іх няхлебнымі, дарогі — непраезджымі, лясы — непраходнымі, масты — для жыцця небяспечнымі. Сяргей Паўлавіч з гонарам падумаў: «Горача вам на савецкай зямлі, а яшчэ не гэта будзе». Прыехаўшы ў Мінск, Сяргей Паўлавіч не пазнаў горада. На руінах парасла трава. Па вуліцах хадзілі абадраныя дзеці, прасілі хлеба. Галодныя людзі жаласліва заглядалі ў вочы.

На скверы супраць Дома Чырвонай Арміі, дзе некалі было так прыгожа, цяпер стаялі шыбеніцы, і на іх вісела некалькі чалавек савецкіх патрыётаў. На дошчачках — надпісы: «Я памагаў бандытам-партызанам», «Я хавала на кватэры камуністаў», «Я страляў у немца»... Гарадскі сад апушчаны, шмат дрэваў высечаны на дровы. Людзі, не спыняючыся, праходзілі каля павешаных. Абысці сквер нельга было, немцы спецыяльна накіроўвалі пешаходаў па галоўнай алеі. «Так будзе з кожным,— гаварылі яны,— хто не падпарадкуецца нямецкай уладзе».

Сяргей Паўлавіч ішоў па горадзе. У сутарэннях, якія ўцалелі, жылі дзеці, што асталіся без бацькоў. «Горад мёртвых»,— вырвалася з грудзей у Сяргея Паўлавіча. «Горад-герой! — кінуў малады чалавек.— Гора таму, хто гэта забудзе!» Калі Сяргей Паўлавіч агляну́ўся, маладога чалавека і след прастыў. Ён знік сярод руін. Каля аднаго дома Сяргей Паўлавіч спыніўся. Уся сця-

на была спісана крэйдаю. Ён чытаў: «Шукаю маму і тату. Ліда», «Шукаю дзяцей, Віцю і Толю. Данілевіч», «Падабраў хлопчыка, Сымонку, запытацца ў Грыгаровіча, Кашары 10». На вуліцах стаялі немцы, каля іх круціліся паліцэйскія з павязкамі на рукавах, ліслівa заглядаючы фрыцам у вочы.

Сяргей Паўлавіч прайшоў каля Дома ўрада і накіраваўся на запасную яўку па Ленінградскай вуліцы да Бабіцкай, якая да апошняга часу шыла модныя сукенкі. Гаспадыня ветліва спаткала Сяргея Паўлавіча, прапанавала выпіць чаю.

— Час вам скончыць дагаджаць модніцам,— абмяняўшыся паролем, пасміхаючыся, сказаў Сяргей Паўлавіч.

— Даўно чакала гэтага моманту,— узрадавалася Бабіцкая.

— То і добра.

— Разумееце, у горадзе кожны камень страляе, а я сяджу склаўшы рукі.

— А мне Мінск здаўся «горадам мёртвых».

— Няпраўда! Горад жыве, змагаецца, сэрца радуецца. Мінск — горад-герой!

— Я ўжо гэта чуў на вуліцы.

— Яно так і ёсць. Праўда, многа правалаў, але гэта тлумачыцца нявопытнасцю падпольшчыкаў...

Бабіцкая расказала аб правале Каржаневіча, які загінуў, але нікога не выдаў. Сяргей Паўлавіч, уважліва выслухаўшы Бабіцкую, даў ёй указанне распачаць падрыхтоўку з тым, каб паралізаваць дзейнасць Вільгельма Кубэ і пры першым зручным выпадку знішчыць яго.

— Няхай не думаюць немцы, што партызаны дзейнічаюць толькі ў лясах,— гаварыў Сяргей Паўлавіч.— Партызанскі рух — усенародны.

— А з кім мне трымаць сувязь?

— З Былінскім.

— Я яго ведаю! — усклікнула Бабіцкая.

— А інačай вас з ім і не звязвалі б,— усміхнуўся Сяргей Паўлавіч.

Калі Сяргей Паўлавіч праінструктаваў Бабіцкую, яна распарадзілася яго неадкладна правесці за горад, бо і так ён тут забавіўся. Людзі, якія былі ў рэзерве, прыступілі да работы. Група таварышаў правя-

ла Сяргея Паўлавіча і пасадзіла на машыну, якая спецыяльна была для яго падрыхтавана. На трохтоннай грузавой машыне сядзеў шафёр у нямецкай форме, а поруч з ім афіцэр. Калі Сяргей Паўлавіч падышоў да машыны, афіцэр лёгка саскочыў і ўзяў пад руку Сяргея Паўлавіча, каб памагчы сесці ў машыну. Сяргею Паўлавічу спадабалася такая арганізаванасць.

Сяргей Паўлавіч прыехаў у Дрыгвічанскі партызанскі атрад: яму хацелася даведацца, як ён дзейнічае. Сяргей Паўлавіч пабойваўся, ці справіцца барадаты Дрыгвічанскі дзядзька, а цяпер бацька Тарас, з камандаваннем атрада, і калі трэба, аказаць яму дапамогу.

— А-а-а, бацька Тарас! Добры дзень!

— Дзень добры!

— Ну, як у цябе справы?

— Нічога.

— Але ж і ахова ў цябе!

— А што?

— Прайшоў, і ні адзін чалавек не спыніў. Хоць бы адна жывая душа спыталася, куды ты ідзеш і чаго? Так і галаву можаш страціць! Я ж з немцамі пад'ехаў.

— А гэтых немцаў мы добра ведаем,— усміхнуўся бацька Тарас.

— Адкуль? — здзівіўся Сяргей Паўлавіч.

— Самі паслалі іх у горад. Мову нямецкую добра ведаюць. А вось вы, таварыш Сяргей, паспрабуйце назад выйсці.

— І выйду!

— Паглядзім!

Сяргей Паўлавіч паспрабаваў выйсці з лагера, але не прайшоў і пяцідзесяці крокаў, як быў затрыманы і, пад вартай, прыведзены ў штаб. Бацька Тарас, задаволены, рагатаў. А потым, звярнуўшыся да Чыжа, працягваў гаварыць:

— Зразумела? Дастаць «языка».

— Ёсць дастаць «языка»! — паўтарыў загад камандзіра Чыж і, павярнуўшыся, выйшаў са штаба.— Будзе баланс... Мы гэту справу ўтрасем!..

Па дарозе Чыж абмяркоўваў, складаў планы, як дастаць гэтага «языка». Штука складаная. Але ён добра ведаў свайго камандзіра, бацьку Тараса: той не пашле без дай прычыны абы-куды чалавека.

Апрануўшыся, узяўшы трафейную фінку, дзве гранаты, Чыж пайшоў на пошукі фрыца. Разведка данесла, што ў горад Дрыгвічы, сем кіламетраў ад вёскі гэтай жа назвы, прыбыла нейкая часць. Прабраўшыся ў логава ворага, Чыж, як спрактыкаваны паляўнічы, цярпліва чакаў, высочваў звера. Яшчэ будучы пастушком, Чыж так спрытна падрабляў свой голас пад птушыны, што хлопцы дзівіліся. На яго голас падплывалі дзікія качкі, зляталіся цецерукі. Шкада толькі, што ў яго тады не было стрэльбы.

Гадзіны са дзве, прытаіўшыся каля вялізнай сажалкі, у былым маёнтку пана Тышкевіча, ляжаў Чыж, чакаючы здабычы. Нарэшце пачулася чужая гаворка. Выйшлі з хаты два немцы. Ужо добра сцямнела. Чыж пачаў гагатаць, як гусь. Немцы кінуліся ў бок Чыжа. Ён прыціх. У першы момант яму захацелася ўцякаць, але потым, саўладаўшы з сабою, партызан падрыхтаваўся прыняць бой. Адзін немец, спаткнуўшыся, упаў. Чыж накінуўся на яго. Другі, нарабіўшы ляманту, уцёк. Аглушыўшы немца, Чыж узваліў яго на плечы і знік у цемры.

— Гітлеру капут! — апрытомнеўшы, лапатаў напалоханы обер-яфрэйтар.

— Капут,— згаджаўся Чыж.— Усіх фашыстаў спішам у расход... Не вынесці вам адсюль ног...

Ад обер-яфрэйтара ў партызанскім штабе даведаліся, што гэта часць адведзена з фронту на фарміраванне, што ў некаторых ротах было па дзесяць — дванаццаць салдат, астатнія выведзены са строю: забіты, паранены.

— Ну, што ж, не блага было б іх тут дабіць,— разважаў услых бацька Тарас.— Як вы, хлопцы, глядзіце? А то людзі, якія нас кормяць, могуць сказаць, што мы дарма пераводзім хлеб.

— Ды ўжо ж,— аказаўся Чыж.— Фрыцы пасля дарогі будуць спаць без задніх ног...

Нарада ў штабе атрада нагадвала калгасны сход. Кожны гаварыў колькі хацеў. Усе былі згодны — пашчыпаць немцаў.

А першай гадзіне ночы партызаны бацькі Тараса выступілі з лагера, мяркуючы ў чатыры гадзіны раніцы напасці на немцаў, каб дабіць рэшткі прыйшоўшага на фарміраванне 901 палка.

Сяргей Паўлавіч быў задаволены бацькам Тарасам, у яго атрадзе быў узорны парадак, адчувалася рука гаспадара, недарма ён быў старшынёю калгаса, кемлівасць і адвага. Галоўнае, што спадабалася Сяргею Паўлавічу — гэта тое, што хоць бацька Тарас на першы погляд, здавалася, быў марудай, але пры праверцы аказалася зусім не так. Ён здольны быў хутка і аператыўна вырашаць складаныя пытанні. Бацька Тарас даўно прасіў дазволу разгарнуць свой атрад у брыгаду, і цяпер Сяргей Паўлавіч гэта санкцыяніраваў.

Развітаўшыся з бацькам Тарасам, Сяргей Паўлавіч зноў рушыў у дарогу.

## 26

Чацвярых дзяцей начальніка партызанскага атрада дзядзькі Максіма, што дзейнічаў у Дубровінскай пушчы, разбудзіў, па загаду каменданта горада Налібокі, обер-лейтэнант Шнэер. Старэйшай дзяўчынцы было трынаццаць год, а меншаму хлопчыку тры гады. Обер-лейтэнант прыйшоў іх браць заложнікамі. Паліцыянт у гэты час наклейваў на хаце загад, у якім гаварылася, што калі Максім не з'явіцца ў камендатуру, яго дзеці будуць расстраляны.

Не хацелася дзецям уставаць, яны спрасонку церлі кулачкамі вочы, крывячыся, хныкалі, а меншы хлопчык зусім плакаў. Старэйшая дзяўчынка, убачыўшы ў хаце чужога чалавека, запыталася ў бацькавай сястры, якая іх даглядала:

— Цёця, чаго ён да нас чэпіцца? Што яму трэба? Чаму ён не дае спаць?

— Ён хоча, каб твой бацька з'явіўся да каменданта,— тлумачыла Зося дзяўчынцы.— Калі бацька прыйдзе...

— Дык яны ўсё роўна і татку заб'юць і нас таксама,— выпаліла дзяўчынка і спыталася: — Праўда, цёця?

Цётка нічога не адказала пляменніцы, да крыві прыкусіўшы губу. Яна адвярнулася, каб не спаткацца з ёю вачыма, у якіх было поўна слёз.

— Уставайце! — цягаў дзяцей за ногі обер-лейтэнант Шнэер, скідваючы з іх даматканую коўдру, якой яны зноў накрываліся, і, звярнуўшыся да Зосі, ска-

заў: — Навошта вы гэтулькі берацe харчоў? Калі ён заўтра...

Зося нічога не сказала, толькі цяжка ўздыхнула, завязваючы поясам клунак: яна ткала гэты пояс для каханага, які невядома дзе цяпер быў; у іх ужо было прызначана вяселле.

— Падымайся! — зазлаваў обер-лейтэнант Шнэер.— Даволі чухацца! Мы вас прывучым да парадку!

Дзеці хутка паўскаквалі, спадылба паглядаючы на крыклівага чалавека, які так іх напалохаў. Ні маці, ні цётка, ні тым больш бацька іх ніколі так не будзіў. Дый яшчэ сонца толькі пачало ўзыходзіць, яно свяціла ў качарэжнік. Дзеці, спяшаючыся, адзеліся, збіраючыся ў дарогу, яны зусім не здагадваліся (акрамя старэйшай дзяўчынкі), што іх чакае. Толькі Зося добра ведала, што сюды больш не вернецца, але дзецям нічога не казала.

Яны ішлі полем — шапацела жыта, кланяючыся ў пояс; ішлі лесам — спяваў векавы бор адвечна тужлівую песню; пераходзілі рэчку — шумна журчала вада, несучы на сваіх хвалях слёзы і кроў тутэйшых людзей. Старэйшая дзяўчынка спынілася, каб палюбавацца рэчкаю, якую яна так любіла і каля якой праводзіла цэлыя дні.

— Чаго так заглядзелася? — сыкнуў Шнэер.— Ідзі!

— Мне хочацца з рэчкаю развітацца,— як старая, адказала дзяўчынка, яна на вачах у цёткі пасталела.— І з Жучком таксама, бо ён не пойдзе праз кладку.

Зося змоўчала, у яе толькі скалануліся плечы, і яна адвярнулася ад дзяцей.

— Зуцок! Зуцок! — клікаў меншы хлопчык сабачку, які, бегаючы на другім баку рэчкі, скавытаў, не хочучы лезці ў ваду.— Зуцок! Фю-ю!

Нарэшце Жучок набраўся храбрасці і бултыхнуўся ў рэчку, схаваўшыся з галавою. Сабачка, плывучы, увесь час трос галавою, мусіць, набраў у вушы вады. Меншы хлопчык заплакаў:

— Зуцок утапіўся...

— Не ўтопіцца,— суцяшала яго старэйшая дзяўчынка.

Жучок, выбегшы з вады, страсянуўся, усіх апырскаўшы. Дзеці весела смяяліся.

— А куды мы, цёця, ідзем? — запытаўся ў Зосі хлопчык.

— У казённы дом,— адказала яна.— У халодную.

Старэйшыя дзеці пераглянуліся паміж сабою. Яны ведалі, што халодная — гэта астрог, куды садзяць людзей. Меншы ж хлопчык, відаць, нічога не зразумеўшы, ніяк не рэагаваў. Ён маўчаў. Яны ішлі па лузе. Ім кланяліся краскі, трава была вышэйшая за хлопчыка. Ён, сарваўшы некалькі кветак, зноў пачаў распытваць:

— А цаму ў халодную? Табе голаца?

— Не.

— Тады не пойдзем.

— Трэба ісці.

— А мне нозкі баляць,— скардзіўся хлопчык.— Вазьмі мяне на луцкі.

— У мяне рукі занятыя.

Хлопчык, паглядзеўшы на цётку,— яна несла вялізны клунак, падтрымліваючы рукамі,— прымірыўся, што трэба самому ісці. З-пад ног хлопчыка пырхнула птушанё. Хлопчык пабег за ім, упаў і заплакаў. Старэйшая дзяўчынка, каб супакоіць брацікa, злавіла яму птушачку.

— Бачыш, якая харошанькая!

— Ой, ды ты задушыш!

— Не-е!

Задаволены хлопчык першым ішоў, размаўляючы з птушанём, даючы яму есці. Але птушачка нічога не брала ў рот, яна вырывалася з рук, ціўкала, трапяталася.

— Не муч, дзіцятка, птушаняці,— угаварвала Зося.— Ніхто не хоча быць у няволі... Чуеш, як птушачка жаласна ціўкае, гэта ж яна просіцца, каб ты яе выпусціў...

Хлопчык, відаць, уважыў просьбе цёткі, але хутчэй за ўсё птушанё ўшчыкнула яго за палец, бо ён рапам выпусціў з рук птушачку. Зося пагладзіла хлопчыка па галоўцы. Птушанё, даляцеўшы да куста лазы, так у ім зашылася, што дзеці ніяк не маглі яго адтуль дастаць, дый немец не даваў затрымлівацца. Хлопчыку, мусіць, шкода стала птушаняці, бо ён насупіўся і заплакаў.

Яны выйшлі на бальшак, абапал якога раслі таў-

шчэразныя бярозы. Гэтая дарога вяла аж да самага горада Налібокі. Тут у 1941 годзе былі вялізныя баі. Упарта біліся савецкія войскі, але, не вытрымаўшы націску немцаў, адступілі. Зосі ўспомніўся малюнак тых незабыўных дзён. Ішлі бежанцы з дзецьмі, цягнучы за плячыма клункі, падалі, падымаліся і зноў ішлі. Як усё жывое цягнецца да сонца, так і яны цягнуліся на ўсход, шукаючы ратунку.

Праходзячы каля прыдарожнай магілы, якая амаль была зраўнавана з зямлёю, зарасла мурагом, Зося цяжка ўздыхнула. Тут была пахавана невядомая жанчына з дзіцем. Як цяпер, Зося бачыла яе твар, на якім быў выраз жаху. Жанчына ляжала з раскінутымі рукамі, гледзячы ў блакітнае неба. Яе памутнелыя вочы былі адкрытымі. Дзіцятка ляжала побач з мацi, з пераламанай ручкай і разбітым чэрапам. Валялася лялька. Гэта нямецкі самалёт, спусціўшыся нізка, абстраляўшы ўцекачоў, забіў з кулямёта жанчыну з дзіцем.

Зося на свае вочы бачыла, што, калі наляцеў немец, людзі кінуліся ў бакі, палеглі. Самалёт развярнуўся, апусціўся нізка-нізка і пачаў палiваць свінцовым дажджом, сеючы смерць. Выпусціўшы ўсе патроны, ён паляцеў назад. Шмат тады хто не падняўся. «Праклятце вам, валацугі! — паглядзеўшы на обер-лейтэнанта Шнэера, падумала Зося.— Колькі вы прынеслі няшчасця людзям, пакінулі сірат, калек. Народ вам ніколі гэтага не даруе!»

Обер-лейтэнант Шнэер, не вытрымаўшы позірку Зосі, падаўся назад, схапіўся за рэвальвер, а потым апусціў руку. Яму стала няёмка за сябе. Каб не падаць віду, што ён спалохаўся, обер-лейтэнант усунуў руку ў кішэню, дастаў з партабака сігарэту, спяшаючыся, чыркнуў запальніцу.

Зося моўчкі ішла, аглядаючы палеткі. Усё цяпер ёй здавалася нейкім шэрым, не лашчылі вока палі, шмат цяпер было незааранай зямлі, на якой парос пырнік, быльнёг. Над галовамі ўвесь час шчабятаў палявы жаваранак, нібы праводзячы іх у апошні шлях. «Не, Максім,— яна ўспомніла брата,— ты не маеш права пакідаць партызан і ісці ратаваць нас. Яны і цябе расстраляюць. Гэтыя вырадкі роду чалавечага хочуць увесь наш народ знішчыць. Дык ты не давайся!

Помсці за нас! Помсці за ўсіх людзей, якія склалі галовы!»

— Цёця, чаго вы гэтак задумаліся? — запыталася, хвалюючыся, старэйшая дзяўчынка.

— Так сабе,— ласкава глянула на дзяўчынку Зося, пагладзіўшы яе выгараўшыя на сонцы, льнянога колеру валасы.

На ўзгорку каля гасцінца стройнымі радамі, як салдаты, стаялі бярозавыя крыжы з каскамі наверсе. Тут парахнелі косці захопнікаў. «Так вам і трэба,— падумала Зося.— Захацелі чужой зямлі, дык атрымалі поўнасцю».

Неўзабаве яны ўваходзілі ў горад. Обер-лейтэнант скамандаваў ісці пасярэдзіне вуліцы. Спыняліся людзі, паціскалі плячыма, дзівіліся: яны ніколі яшчэ не бачылі такіх арыштантаў. Босыя дзеці ішлі па бруку. На адным з дамоў сядзелі галубы. Іх нехта спалохаў. Галубы, залапатаўшы крыллямі, праляцелі над галовамі дзяцей. Загледзеўшыся, хлопчык спаткнуўся, заламаў ногаць на назе, заплакаў. Давялося Зосі такі ўзяць яго на рукі.

«Гаспадаранне» немцаў у горадзе Налібокі наклала свой адбітак. Гарадскі сквер, дзе заўсёды было шмат народу, пуставаў. Прысады павысякалі на дровы, у цэнтры сквера (як і ў кожным з акупіраваных гарадоў) стаяла шыбеніца, там некалькі дзён вісеў чалавек з дошчачкай на грудзях, дзе было напісана: «Так будзе з кожным партызанам». На самай справе гэты чалавек ніколі не быў партызанам, яго павесілі за тое, што ён адмовіўся плаціць падатак нямецкім уладам.

Пры ўваходзе ў сквер вісеў вялізны партрэт фюрэра з надпісам: «Гітлер — вызваліцель». (Гэта беларускія нацыяналісты ў Мінску пастараліся надрукаваць плакат). На скрыжаванні вуліц стаяў паліцыянт. Каля партрэта праходзіў народ, пасміхаўся. Паліцэйскага гэта здзівіла, ён кінуў пост і падышоў да партрэта. Аказваецца, хтосьці зрабіў такую прыпіску: «Вызваліў ад ежы і адзежы». Збянтэжаны паліцыянт кінуўся зрываць партрэт, але сам спалохаўся. Ён дзіка зароў на першага сустрэчнага:

— Чаго вылупіў вочы, вар'ята не бачыў! — і пачаў закрэсліваць прыпіску.

Раптам пачуўся выбух — партрэт быў замініраваны. Паліцыянт узляцеў у паветра, яго разарвала на шматкі, адзін бот закінула аж на дрэва, якое яшчэ не паспелі высекчы.

На плошчы, супраць памяшкання, дзе быў райваенкамат, выраслі новыя магілкі. Не было таго дня, каб немцы тут не хавалі каго-небудзь з чыноў. Кажуць, што рабочыя, якія выраблялі дамавіны для пахавання немцаў,— адзінае ў горадзе прадпрыемства, якое працавала,— высунулі сустрэчны план на перавыкананне задання, і шэф майстэрняў,— немец, прыняўшы план, прэміраваў рабочых па васьмушцы махоркі. Калі ў СД даведалася пра гэтую прэмію, дык доўга здзекаваліся з шэфа, арыштаваўшы некалькі рабочых.

На галоўнай вуліцы, дзе пасля бамбёжкі некаторы час стаялі шкілеты дамоў, цяпер былі руіны. Немцы ўзарвалі гэтыя дамы, а цэглу выкарысталі на ўмацаванні, якія яны будавалі недалёка ад горада.

Зося ішла па вуліцы, высока трымаючы галаву. Вецер раздзімаў пасмы яе чорных, як смоль, валасоў. Усім кідалася ў вочы, што чарада белагаловых дзяцей — не яе дзеці. Пагалоска пра незвычайных арыштаваных абляцела ўвесь горад.

Бледны твар Зосі, задуменныя чорныя вочы, якія іскрыліся агнём, прабор пасярэдзіне галавы, высокая тонкая фігура, чорная сукенка з белым каўнерыкам — усё гэта ёй вельмі ішло. Дзяўчына была духоўна моцнай, і гэта яе ўзвялічвала. Зося выглядала прыгажуняй, хоць такой і не была. Нямецкі афіцэр, які, задраўшы нос, ішоў побач з ёю, выглядаў смешным. Гэта быў звычайны салдафон. У закасаных рукавах ён нагадваў мясніка.

Падбіралася пад поўдзень, пякло жнівеньскае сонца. Арыштаваныя падыходзілі да царквы, на цвінтары мітусіўся народ. Па вёсках распусцілі чутку, што немцы тых дзяцей, якія нехрышчоныя, будуць расстрэльваць. І вось маткі, беручы за рукі ўжо вялікіх хлапчукоў і дзяўчатак, вялі іх хрысціць. Хутчэй за ўсё, што гэтыя чуткі распаўсюджвалі царкоўнікі, каб зарабіць на гэтай справе. За хрышчэнне плацілі збожжам. Поруч з царквой, на базары, стаялі вазы з паднятымі аглаблямі. Каля бочкі з каламаззю тоўпіліся

сяляне. Пахаджвалі нямецкія салдаты, носячы на руцэ бялізну, рознае рыззё, гадзіннікі, брытвы, мыла. Каля аднаго воза шапталіся муж з жонкаю.

— Бацька,— таямніча паведаміла жанчына, паказваючы на салдата,— глядзі, унь той ярманец маю кашулю са зрэбнаю подтычкаю носіць, што надоечы «арганізаваў»...

— Кінь ты плявузгаць...

— Ды дальбог жа!.. Я яшчэ пазнала па прышчах... Пойдзем, прыцэнімся...

— От, не чапай ліха, пакуль ціха,— буркнуў селянін.— А чаго лепшага ты ад іх чакала? З цябе здзяруць і табе прададуць. Фюлеры!

Гаманіў натоўп на ўсе галасы:

— Пачым каламазь?

— Адна марка.

— А калі на грошы?

— Дзесяць рублёў.

— Згарыць яна!

— Прадаеш хамут?

— Адчапіся, каторы раз ты пытаеш, сам купіў!

— Каму брытва! Брытва!

— Колькі каштуе?

— Яйкі, курку.

— А пеўніка не хочаш?

— Найн.

— Нажэрліся ўжо, носам круцяць!

— Не задзірайся з ім, татка! Для немца закон не пісаны, заб'е і ні за што не адказвае. Іхні, гэты, усё бярэ на сябе.

Аднатонна дзілінкалі званы. Калі Зосю з дзецьмі праводзілі каля базара, з натоўпу пачуліся галасы:

— Лесавікі!

Лесавікамі тут звалі партызан. Усе здзіўлена глядзелі. Стрыглі коні вушамі. Прачыкіляў стары дзядзька, высунуўся наперад, паглядзеў, скрывіўся і моўчкі падаўся ўбок.

— Або-о! — успляснула рукамі жанчына.— Да чаго мы дажылі? Мужчыны! Што ж гэта робіцца? Сярод белага дня...

— От маўчы! — не даў дагаварыць мужчына.

— Чые ж гэта дзеці?

— Максіма Туміловіча.
— А гэта што за яна?
— Яго сястра.
— А дзе ж жонка?
— Воткалі, не ведаю. Перад вайною памерла.
— То, можа, і добра, нечага не будзе бачыць людскіх пакут. Цяпер жывыя зайздросцяць мёртвым.
— А чаго ад іх хацець? Кажуць, што ў нейкага забітага іх генерала гарашчэнеўцы знайшлі дакумент, згодна якога тры чвэрткі беларусаў падлягае знішчэнню, а чвэртка — анямечванню.
— От лепей маўчы!
— Будзеш маўчаць, яны зробяць сваю чорную справу. Трэба дзейнічаць!
— Не вытрывае Максім.
— Ты не ведаеш гэтага чалавека. Крэмень!
— Што чалавек! Бацькоўскае сэрца не камень. Ён так любіў сваіх дзяцей.
— Ты так гаворыш, нібы па нябожчыках.
— А што ж ты думаў! Адтуль ніхто не вяртаецца жывым.
— Разыдзіся! — крыкнуў обер-лейтэнант Шнэер.— Чаго паразяўлялі раты! Дзіва тут якое, ці што!
«Дзіва,— паляцела па натоўпе.— Яшчэ ніколі такога не было, каб дзяцей саджалі ў астрог».
Обер-лейтэнант Шнэер увёў Зосю з дзецьмі ў сутарэнне, куды ніколі не заглядала сонца. Бразнулі дзверы. Зося з дзецьмі апынулася за кратамі. Зазвінелі ключы.
— Цёця, унь мышка, мышка! — ажывіўся хлопчык.— Злаві мне яе!
— Гэта, дзіцятка, пацук,— уздыхнула Зося.— Ён кусаецца.
Старэйшыя дзеці, стаміўшыся за дарогу, паселі на бруднай халоднай падлозе і хутка заснулі. Меншы ж хлопчык не мог спаць.
— А хто там ходзіць? — пыталася дзіця.
— Вартавы,— адказала Зося.— Сцеражэ, каб мы не ўцяклі.
— Цёця,— ажывіўся хлопчык, пачаўшы фантазіраваць,— давай абхітрым немца і ўцячэм адсюль да таткі ў лес. Там назбіраем жалудоў.

— Як жа мы ўцячэм?

— Праз страху.

— Нічога, дзіцятка, не выйдзе, мы адгэтуль не вылезем.

Каля акна з кратамі хадзіў нямецкі салдат з аўтаматам. Калі ён праходзіў, цень на сцяне то змяншаўся, то павялічваўся, прымаючы розныя формы. Зося засынала. Па вуліцы праехала падвода, скрыпелі нямазаныя калёсы. Нешта падазронае здалося вартавому. Ён пусціў кароткую чаргу з аўтамата. Лыпнула вачыма Зося, прачнуўся хлопчык:

— Цёця, ці скора дзень?

— Яшчэ не скора.

— А чаму ты, цёця, надзела сюды новую сукенку? Ты ж яе запэцкаеш.

— От, спі!

Нарэшце хлопчык скруціўся ў камячок і заснуў. Толькі Зося не спала. Выбіўшыся са сну, яна думала, як выратавацца ад гэтай напасці. Розныя думкі прыходзілі, але выйсця не было. Зося была чалавекам адукаваным. Яна вучылася ў Ленінградзе на трэцім курсе педфака, шмат чытала і любіла гісторыю. Яна ўспомніла 1812 год, але прыйшла да думкі, што такога нашэсця наша краіна яшчэ не бачыла, што такіх пакут нашы людзі яшчэ ніколі не перажывалі. Думкі ў Зосі праносіліся з маланкавай хуткасцю. Шмат Расія перажыла, перажыве і гэту напасць.

Успомніўся Зосі вобраз любімага ёю хлопца, чацвёртакурсніка Юркі, які ў першы дзень вайны пайшоў у Чырвоную Армію. «Мілы мой Юрась, дзе ты цяпер? — думала Зося.— Ці ведаеш ты, што мне пагражае смерць? А як не хочацца паміраць, я ж яшчэ нічога не зрабіла, каб аддзякаваць Радзіме за клопаты пра мяне». Досвіткам Зося, змогшыся-такі, заснула. Яна ў першы раз, як пайшоў Юрка ў войска, яго сасніла. Дый як яна ўбачыла яго ў сне: нібы Юрка вярнуўся з вайны, яны гулялі вяселле, і Зося, згодна старых звычаяў, садзілася на пасад (яна ніколі не бачыла, як гэта робіцца, а толькі чытала). І спляцецца ж немаведама што! Але, мусіць, не быць гэтаму вяселлю. Зося трымала ў руках пояс, які выткала Юрку, пакручвала яго ў руках.

27

Максім амаль усю тую ноч прасядзеў на пні, пад кашлатай елкай, не звёўшы ні на хвіліну вокам. «Што рабіць? — думаў партызан.— Пайсці здацца — выратуеш сям'ю, але здрадзіш людзям, якія табе давяраюць. Ды толькі каб і пайшоў, дык хіба ўратуеш сям'ю? Не. І цябе навек праклянуць тыя, лёс якіх знаходзіцца ў тваіх руках. Партызаны без камандзіра, як пчолы без маткі. А можа, і не зачэпяць? Няўжо ў іх сэрца няма? Хоць якое ў фашыстаў сэрца, калі яны хочуць знішчыць цэлыя народы!»

Доўгай здалася ноч Максіму, ён ніяк не мог дачакацца раніцы. «А што, каб паспрабаваць іх выратаваць,— падумаў ён.— Толькі сілы не хапае, дый невядома, ці ўдасца вызваліць. Гарнізон там моцны. А весці людзей на верную пагібель раўназначна здрадзе».

Максім курыў цыгарку за цыгаркай, не знаходзячы выйсця. «Скалечылі яны мне жыццё,— думаў камандзір партызанскага атрада.— Каб я ведаў, што ўратую дзяцей, гатоў бы сам прыняць смерць. Я пажыў ужо, бачыў шмат добрага і дрэннага, а ў дзяцей усё жыццё наперадзе. І яшчэ там і сястра, якая толькі пачынае жыць».

Не вытрымалі нервы ў Максіма, страсянуліся плечы, ён заплакаў. Пасівелы, загартаваны ў бойках, Максім абліваўся слязьмі. Ён плакаў паціху, каб ніхто не пачуў і не ўбачыў яго бацькоўскіх горкіх слёз.

Партызаны, якія ўвесь час наглядалі за сваім камандзірам, загаманілі:

— Дзядзька плача!

— Цішэй ты!

— Няхай выплачацца, лягчэй на сэрцы стане!

Максім устаў, пастаяў, і ўголас падумаў:

— Не магу! Што будзе, то будзе... Трэба дзяцей ратаваць...— Поўны рашучасці, ён пайшоў у бок горада, захапіўшы з сабою вуздэчку, нібы шукаць каня, на хаду дадаўшы: — Калі гінуць, дык усім разам, усёю сям'ёю...

Партызаны, нічога не гаворачы, здзіўленыя, не ведаючы, што і казаць, глядзелі адзін на аднаго. Раптам Мікола Цыбулька тоненькім галаском парушыў маўчанне:

— Прадавацца пайшоў!

— Як ты смееш!

— А можа?

— Быць гэтага не можа! Хіба мы першы год ведаем гэтага чалавека. Ну, можа, пайшоў праведаць... свая кроў...

— Перадаць каманду! А толькі хто возьме?

— Што б там ні было, а трэба, хлопцы, быць напагатове,— гаварыў намеснік камандзіра партызанскага атрада Нупрэй Купрэйка.— Я дзядзьку Максіму веру, але мала што можа ў хвіліну адчаю прыйсці чалавеку ў галаву... Дзеці... Трэба мець вялікую сілу волі... Я сам, каб з маімі малымі гэта здарылася, не ведаю, ці вытрываў бы... Паглядзім... Час лепшы суддзя... Каманду атрадам, пакуль дзядзька Максім апамятаецца, я бяру...

Купрэйка для перасцярогі выставіў дазорных. Ён Туміловіча любіў за яго адвагу, востры розум, кемлівасць, мужнасць і сардэчнасць. Але ці мала Купрэйка ведаў людзей такімі, а яны аказаліся зусім іншымі. Былі людзі, якім Купрэйка давяраў, як самому сабе, а потым высветлілася, што яны самыя злыя ворагі. «Трэба людзям давяраць і правяраць»,— успомніў Купрэйка словы таварыша Сяргея.

— Цікава, па чым Максім прадасць нашы галовы? — уголас разважаў Цыбулька.

— Кінеш ты ці не баламуціць? — злосна глянуў Купрэйка.— А то я табе галаву адкручу!

— Дарэмна ты, Цыбулька, вернеш на камандзіра, а гэта ўсё таму, мусіць, што ён цябе пагладзіў супраць шэрсці!.. А можа, і што іншае...

Марудна цягнуўся час, нерваваліся людзі. Гэта перадалося і Купрэйку, ён кусаў сваю рыжую бародку. Раптам Купрэйка ўстаў: нізкі, тоўсты, спрытны, ён лёгка прайшоўся. Падняўшы галаву, Купрэйка запытаўся:

— Чаго, хлопцы, засумавалі? Давайце песню!

Партызаны ціха заспявалі «Ці свет, ці світае»; цёпла гучэлі словы песні:

Ці свет, ці світае,  
Ці на зоры займае,  
А мой міленькі, голуб сівенькі,  
Коніка сядлае.

Песня не клеілася. Партызаны змоўклі. Неўзабаве недалёка ад іх праляцеў напалоханы цецярук, залапатаўшы крыламі. Партызаны насцеражыліся, яны ведалі, што пэўна недзе ходзіць чалавек, які ўспароў птушку.

— Дзядзька Максім ідзе,— узрадаваўся Купрэйка.— Я так і ведаў, што ён не здасца.

— А што за ён з ім? — цікавіўся Цыбулька.

— Таварыш Сяргей,— паведаміў Купрэйка.

— Таварыш Сяргей, таварыш Сяргей,— зашапталіся партызаны.

Паволі ішоў з вуздэчкаю ў руках Максім; выгляд у яго быў грозны, іскрыліся вочы; ён гатовы быў пайсці на вялікія справы, гэты нязломны духам просты чалавек, які вырас у добрага камандзіра. Вышэй сярэдняга росту, шырокі ў плячах, ён нагадваў казачнага асілка, народнага волата. Падышоўшы да партызан, Максім гнеўна загаварыў:

— Дайсці да таго, каб браць дзяцей заложнікамі, могуць толькі фашысты. Але, хлопцы, як мне ні цяжка, можа, мяне асудзіце, а толькі я да іх не пайду. Я ўжо сказаў пра гэта таварышу Сяргею.

— Нічога сабе бацька,— піскнуў Цыбулька, але Максім не пачуў яго.

— Сціхні ты! — цыкнуў Купрэйка.

— Хоць чаго ад фашыстаў чакаць,— працягваў Максім.— Таварыш Сяргей паведаміў, што гарашчэнеўцы знайшлі ў забітага нямецкага генерала дакументы, у якіх гаворыцца аб знішчэнні беларускага народа: семдзесят пяць працэнтаў — выселіць (гэта значыць, знішчыць) і дваццаць пяць працэнтаў — анямечыць (зрабіць рабамі). А гэта ўжо большае за маё асабістае гора!

Партызаны загулі.

— А дзе ты, начальнік, быў? — пытаўся тоненькім галаском Цыбулька.— Тры гадзіны не было. Куды ты хадзіў?

— У разведку,— нічога не падазраючы, адказаў Максім.— Праўда, немцаў у горадзе шмат, але затое ёсць каго біць.

— А можа,— памкнуўся нешта сказаць Цыбулька.

— Замаўчы! — крыкнуў Купрэйка.

— Яны хочуць звесці са свету маіх дзяцей і мяне

разам з імі,— гаварыў далей Максім.— Але я жывым у рукі не здамся. Клянуся, што я ім жорстка адпомшчу. За народ свой я пастаю... Хто каго?.. Ці фашысты нас, ці мы фашыстаў!..

Партызаны стаялі як укапаныя. Яны яшчэ ніколі не бачылі такім свайго камандзіра. У думках партызаны таксама кляліся адпомсціць немцам за здзекі над чалавечай годнасцю, за спаганеныя хаты, за стаптаныя палі роднай зямлі. Не, вырадкі, не вы нас знішчыце, а мы ўваб'ём асінавы кол у магілу фашыстаў!

— А я таварыша Сяргея зусім не такім уяўляў,— загаварыў Цыбулька.— Мне думалася, што ён вялізны дзядзька, здаровы, адно ж, пальцам папхні... і як у яго целе душа трымаецца.

— І якая душа! — заўважыў Купрэйка.— Чалавек жыве для народа, і народ дае яму сілу. Не глядзі, што ён такі хударлявы, а ў ім сілы багата! Гэта нязломны чалавек!

— Таварыш Сяргей,— звярнуўся да яго Максім.— Вас вельмі хацеў пабачыць прадстаўнік ЦК таварыш Васіль. Вы яму патрэбны.

Сяргей Паўлавіч з Максімам адышліся ўбок, селі на камлі вывернутай елкі. Максім перадаў Сяргею Паўлавічу нейкую запіску, які, прачытаўшы, спаліў яе. Яны доўга пра нешта паціху гаварылі. Потым Максім спытаўся:

— Дык гэта праўда, што Гарашчэню выклікалі ў Маскву ў Штаб партызан?

— Праўда.

— Шанцуе людзям!

— Атрад Гарашчэні адным з першых у Беларусі ўзняў барацьбу супраць акупантаў. Да таго ж яму трапілі дадаткі да плана «ОСТ». Не гаруйце, і вы паедзеце ў Маскву... Я пра гэта паклапачуся... Вам трэба будзе развеяцца...

Раптам хруснула сучча, па лесе пракацілася рэха.

— Хто там? — насцеражыўся Максім.

— Я, таварыш камандзір,— аказаўся Цыбулька.

— Што табе тут трэба?

— Іду станавіцца на варту.

— Дык і ідзі сабе, няма чаго тут круціцца.

— А я і не кручуся,— праходзячы, апраўдваўся Цыбулька.

— Хто такі? — не спадабалася гэта Сяргею Паўлавічу.— Надзейны чалавек?

— Нічога за ім дрэннага не заўважаў. А там ліха яго ведае! Трэба будзе прыгледзецца. Вельмі ж ужо цікаўны...

— Ну добра, дык я пайшоў. Дзейнічайце так, як умовіліся.

— Ёсць!

— То бывайце!

— Лепей да пабачэння!

— Правільна!

— Я вас правяду!

Яны некаторы час ішлі моўчкі, кожны заняты сваімі думкамі. Яны падышлі да рэчкі, паглядзелі ўдалячынь, было відно возера, чыстае, як крышталь, шумнае, нібы мора. Хвалі, налятаючы адна на адну, размывалі берагі. З запаведніка выбег лось з ласянём, павёў лось мысай па ветры, ці не відаць дзе каго, вярнуўся ў лес, а за ім ласянё.

— Як прыгожа тут. Куды ні глянеш, усюды такое хараство,— захапляўся Сяргей Паўлавіч.— Павер мне, Максім, шмат дзе я пабыў на свеце, але такога вось кутка нідзе не бачыў. Ты можаш ганарыцца сваёй радзімай! Мы будзем бараніць яе да апошняга. Я гатоў біцца, пакуль у жылах будзе цячы кроў. А калі хто з нас загіне, ну што ж, без гэтага не бывае, дык ёсць за што загінуць, мы змагаемся і баронім першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Нашчадкі нашы ніколі нас не забудуць. Вось толькі хочацца пабачыць, калі ў старажытным Крамлі, авеяным дыханнем стагоддзяў, збяруцца народы і абвесцяць СССР свету. А гэта ж будзе! Дык усяго добрага, братка. Трымайся! Ні адзін разумны чалавек цябе не папракне, ты правільна зрабіў, што не пайшоў, ты не мог пайсці, іначай яны б і цябе забілі разам з тваімі дзецьмі. Яны б яшчэ пасмяяліся з твае даверлівасці. Яны б рады былі, што не будзе каму адпомсціць за тваіх дзяцей.

А ты жыві і помсці!

Памятаеш словы песняра:

Толькі той у баях пераможа,
Зломіць люты чужынскі рух,
Хто пад націскам зграі варожай
Захавае свой цвёрды дух.

— А як жа, помню,— усклікнуў Максім.— А вы добра ведаеце нашу мову!

— А як не ведаць, калі сярод народа працуеш, павінен вывучыць,— гаварыў Сяргей Паўлавіч.— Толькі вялікадзяржаўныя шавіністы грэбуюць мовай народа... Хоць ёсць і мясцовыя, якія зняважліва ставяцца да мовы, якой маці гаварыла...

— Але што з іх узяць...

— А буржуазныя нацыяналісты гэта выкарыстоўваюць...

— Так.

— Калі хочаш быць сапраўдным камуністам, трэба па-ленінску ставіцца да гэтага пытання. Прыйдзе час, і выпрацуецца агульная мова, але да гэтага яшчэ далёка. Колькі народаў зняволена... А яны глядзяць, як у нас вырашаецца нацыянальнае пытанне... Праўда, яго нельга зводзіць да мовы... Галоўнае — эканоміка... Калі-небудзь больш грунтоўна пра гэта пагаворым...— Сяргей Паўлавіч паглядзеў на гадзіннік.— Аднак я забавіўся. Да пабачэння!

— Шчаслівай дарогі!

Сяргей Паўлавіч пайшоў. Максім моўчкі стаяў каля ляснога возера. Ірваў вецер, шумелі хвалі, стагнаў лес, трашчалі дрэвы. Ганяліся адна за адной навыперадкі хмары. Ярка свяціла сонца, афарбоўваючы ў розныя колеры ваду возера, якое гнеўна бушавала. Але найшла вялізная чорная хмара, засланіла сабою сонца. Максім, пастаяўшы крыху, пайшоў у лагер, поўны дум. Каб не гора, якое яго апанавала, ён бы залюбаваўся б прыгажосцю, якой так шчодра надзяліла гэты край прырода. Але яму не да гэтага было, ныла сэрца, балела душа.

Обер-лейтэнант Шнэер на другі дзень досвіткам, па загаду каменданта, вывеў дзяцей з халоднай, паставіў каля сцяны і, паглядзеўшы на гадзіннік, суха сказаў:

— Астаецца пяць мінут. Калі не з'явіцца бацька, вы будзеце расстраляны.

Дзеці напалоханымі вялікімі вачыма паглядалі то на каменданта, то на афіцэра, які іх вёў, то на салдат, што стаялі з аўтаматамі.

— Дык вы так і не скажаце,— звярнуўся камендант да Зосі,— хто паслаў вашага брата партызаніць?

— Камуністычная партыя.
— І вы таксама пайшлі б у лес, каб не дзеці?
— Так.

## 28

Обер-лейтэнант паглядзеў на гадзіннік, потым на каменданта, той кіўнуў галавою. Обер-лейтэнант скамандаваў:

— Агонь!

Заляскалі аўтаматы. Зося паспела сказаць:

— Усіх не перастраляеце! Партызаны за нас адпомсцяць!

Пачуліся стрэлы. Хлопчык, асунуўшыся на зямлю, скурчыўся ў сударгах, потым, выпрастаўшыся, раскінуў ручкі. Зямлю арасіла гарачая дзіцячая кроў.

## 29

Сэрца Максіма прагнула помсты. Ён высунуў дзёрзкі план: днём, у нямецкай форме, увайсці ў горад Налібокі, разграміць там штаб фашыста, разбіць камендатуру. У яго яшчэ цеплілася надзея выратаваць дзяцей. Толькі нечаканым ударам можна было змяць нямецкі гарнізон, які і па ўзбраенню, і па людскому саставу ў некалькі разоў перавышаў атрад. План быў прыняты. Партызаны рыхтаваліся да бою.

— А дзе ж Цыбулька? — запытаўся Купрэйка.

— У засадзе,— сказаў партызан.

— Калі яно было,— разважаў Купрэйка,— ён даўно змяніўся.

— То, можа, да цешчы пайшоў,— гаварыў партызан.

— Без дазволу? — здзівіўся Купрэйка.

Далажылі пра гэта камандзіру атрада. Максім, падумаўшы, нахмурыўся і, узважыўшы ўсё, мнагазначна сказаў:

— Та-а-ак! Ну што ж, у сям'і не без вырадка. А дзе ў яго цешча?

— Якая цешча! — злаваўся Купрэйка.— Была ў сабакі хата. У Цімахах нейкую ўдаву мае.

— Пашлі туды чалавека, правер,— распарадзіўся

Максім.— Калі ён толькі там, дык гэта яшчэ паўбяды. I ўсё, абяззброіць і прывесці сюды, судзіцьмем.

— Слухаю,— казырнуў Купрэйка.

У поўдзень па вуліцах горада Налібокі стройна ішла партызанская група. Максім ёю камандаваў.

Дзеці хаваліся ў каліткі. Вялізны шэры кот, які прабягаў па тратуары, з перапалоху так драпануў, што апынуўся на страсе дома. Нямецкі афіцэр, які спацыраваў па вуліцы з нейкай дамай, ветліва аддаў чэсць камандзіру атрада.

Партызанская група ў нямецкай форме з іголкі падыходзіла да камендатуры. Вартавы, нічога не падазраючы, разявіўшы рот, глядзеў. Партызаны знялі вартавога, што той і не пікнуў. З камендатуры тыцнуў свой нос Цыбулька і хутка падаўся назад, пазнаўшы партызан. Ён праз акно кінуўся ўцякаць. Заняўшы ўваходы, партызаны закідалі гранатамі камендатуру і казармы. Чутны былі выбухі, паднялася страшэнная паніка, беспарадкавая стралянiна нямецкіх салдат. Яны крычалі:

— Партызаны! Партызаны!

Максім, выцягнуўшы з-пад стала каменданта горада Налібокі маёра Іагана Бекера, запытаўся:

— Дзе мае дзеці?

— Расстраляны,— паведаміў камендант.

Максім, сціснуўшы за горла рукамі, задушыў каменданта.

Партызаны, разграміўшы нямецкі гарнізон горада Налібокі, забіралі на машыны трафеі. Адных толькі аўтаматаў — больш за сто штук. Колькі партызаны ні шукалі Цыбульку, яго не было. Вялікія страты панеслі і партызаны: адных толькі забітых — дзесяць чалавек і шмат параненых.

Людзі, якія былі ў турме, выкарыстаўшы паніку сярод немцаў, разбегліся. Узяўшы на машыну расстраляных дзяцей і Зосю, падабраўшы забітых таварышаў, партызаны хутка зніклі. Выкліканы з суседняга раёна карны атрад з танкамі і гарматамі астаўся ні з чым. Партызаны зніклі, як леташні снег.

Пахавалі сям'ю Максіма разам з партызанамі ў брацкай магіле на ўскраіне лесу, пры дарозе. Часта Максім бывае каля магілы родных і блізкіх яму людзей, часта бываюць і партызаны. З невялікай магілы

вырас вялізны курган. Гэта партызаны і праходжыя людзі жменямі нанасілі жвіру. Кожны, хто б ні праходзіў і ні праязджаў каля кургана, лічыць сваім абавязкам прывезці зямлі.

Ходзіць атаман Максім па нівах і лясах Беларусі, сеючы фашыстам смерць.

Далёка бачны курган, ён расце не па днях, а па часінах.

## 30

Доўга ў той вечар, калі вярнуўся Гарашчэня з Масквы, партызаны распытвалі пра сталіцу. Кожны хацеў ведаць, што там робіцца. Пасля даклада, які быў зроблены на адкрытым паветры, бо не было такога памяшкання, каб усіх жадаючых змясціць, Гарашчэню закідалі пытаннямі:

— Няўжо цэлая Масква? — пыталіся партызаны.

— Цэлая і такая ж прыгожая,— адказаў Гарашчэня.

— І чырвоныя зоркі на вежах свецяцца?

— Зоркі накрыты чахламі.

— І заводы працуюць?

— Тыя, якія не вывезены на Урал, працуюць на поўную моц.

— А як з хлебам?

— Цяжка. Хлеб і ўсе прадукты па картках.

— Які настрой масквічоў?

— Цяпер добры. Праўда, восенню сорак першага была паніка. Рабочыя з энтузіязмам працуюць. Яны аддаюць усе свае сілы, каб перамагчы ворага.

— А як Чырвоная Армія забяспечана?

— Усё, што трэба салдату, ён мае. Заводы Урала працуюць на поўную магутнасць, яны даюць столькі ўзбраення, колькі трэба. Даваенныя пяцігодкі даюць аб сабе знаць. Правільна партыя зрабіла, узяўшы курс на індустрыялізацыю краіны.

— Значыць, мы пераможам! — упэўнена гаварылі партызаны.

— Дык мы разгортваемся ў брыгаду? — перапытаў Шпакоўскі.

— Пакуль у брыгаду, а потым, можа, і ў злучэн-

не,— паўтарыў Гарашчэня, ён пра гэта гаварыў у дакладзе.

— Добра,— разыходзячыся, гаварылі партызаны.— Расцем!

У зямлянцы Гарашчэні, куды зайшлі Марыйка з Міроніхай — іх камандзір запрасіў да сябе,— доўга не сціхала гамонка. Памочнікі камандзіра цікавіліся кожнай драбязою жыцця сталіцы.

— А па картках хлеба хапае?

— Тое, што паложана, выдаецца. Але норма не багатая, толькі каб пражыць. З хлебам яшчэ сюды-туды, а тлушчаў малавата.

— А што кажуць адносна другога фронту? — запытаўся Гальяш.

— Эт, знайшоў гаворку! — усклікнуў Шпакоўскі.— Як ты Чэрчыля ні кармі, ён у кусты глядзіць...

— Адзін чырвонаармеец мне сказаў, што франтавікі нас лічаць другім фронтам,— адказаў Гарашчэня.

— То трэба гэта апраўдаць! — загаварылі камандзіры.

Доўга ў той вечар вялася бяседа, простая, душэўная. Яна ішла ад усяго сэрца. Шмат было радасці, калі Гарашчэня паведаміў, што начальнік штаба абяцаў прыслаць зброю, якой не хапала.

— І яшчэ я вам павінен паведаміць, што ўсе прысутныя тут,— Гарашчэня абвёў вачыма,— адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі. З першым жа самалётам з Вялікай Зямлі будуць дастаўлены і ордэны.

Узрадаваліся камандзіры, а Гальяш аж падскочыў, гэта была такая натура.

Марыйка сядзела збоку, заглядаючы ў вочы Гарашчэні, яна толькі ўздыхала, зайздросцячы яму, што ён пабыў у Маскве. Марыйцы здалося, што Гарашчэня як быццам памаладзеў, пахарашэў, яшчэ стаў больш мужным.

— А як з медыкаментамі? — нарэшце спытала Марыйка.

— Абяцалі прыслаць,— адказаў Гарашчэня.— Але пакуль нам трэба будзе паклапаціцца, каб самім дастаць. Мы з табою асобна пагаворым.

Усе пераглянуліся.

Сумелася не толькі Марыйка, але і Гарашчэня. Ён пераўёў гаворку, сказаў, што спецыяльна скліча нара-

ду камандзіраў, каб абмеркаваць пытанні, звязаныя з арганізацыяй брыгады і значнай актывізацыяй іх дзейнасці. Здагадлівая Міроніха першай устала і, развітаўшыся, пайшла. Разышліся і камандзіры.

— А як у цябе, Марыйка, абстаяць справы ў шпіталі? — пацікавіўся Гарашчэня.

Марыйка расказала, як хто сябе адчувае. Гарашчэня ведаў усіх параненых. Ён паабяцаў Марыйцы зайсці ў шпіталь і правесці з імі гутарку аб паездцы ў Маскву. Гарашчэня закідаў яе пытаннямі, як тое, як гэта. Ці задаволена яна сваёй працай у шпіталі.

— А каб ты ведала, Марыйка, як я па табе сумаваў,— прызнаўся Гарашчэня.— Мне здавалася, што я пакінуў тут частку свайго сэрца. На крыллях, здавалася, прыляцеў бы сюды.

— А я па табе, Грыша, усе вочы выплакала,— уздыхнула Марыйка.— Што толькі ні прыходзіла ў галаву, мала што магло здарыцца пры пералёце лініі фронту.

У гэты час пачуліся крокі, абое насцеражыліся. Зайшлі прадстаўнікі ЦК таварышы Сяргей і Васіль. Марыйка ўстала, каб ісці.

— Аставайцеся тут, ад вас няма ніякіх сакрэтаў,— сказаў Сяргей Паўлавіч.

— Але,— згадзіўся Васіль.— Мы ненадоўга.

Марыйка села. Яна ўзяла кнігу і пачала чытаць, зусім не прыслухоўваючыся да размовы. Марыйка не з тых жанчын, якія ўсюды ўсунуць свой нос.

— Дык вось што, Рыгор Сцяпанавіч, перад тым як нам ісці, будзе табе яшчэ адно важнае заданне,— пачаў гаворку Сяргей Паўлавіч.— У Нараўлянах шэфам СД Эрнстам фон Вернерам, пры дапамозе беларускіх буржуазных нацыяналістаў, створана школа шпіёнаў...

— Ведаю,— сказаў Гарашчэня.— Мы даўно за ім ганяемся...

— А трэба яго абавязкова злавіць і знішчыць,— падтрымаў размову Васіль.— А потым і школу разагнаць...

— Ясна,— Гарашчэня задумаўся.— Хто мог бы гэта зрабіць? — Ён паглядзеў на Марыйку: — Можа, ты?

— Магла б,— адказала яна, нават не ведаючы, якое гэта важнае заданне. Ёй хацелася зрабіць нешта

такое, каб на яе звярнулі ўвагу. Тады, можа, і яе каханы іначай будзе глядзець.

— А што, гэта ідэя,— Сяргей Паўлавіч паглядзеў на Васіля.

— А чаму ж,— пагаджаўся Васіль.

— Не,— перадумаў Гарашчэня. — Марыйка не справіцца з гэтым заданнем.

Дзяўчына ўскочыла і хацела ісці.

— Пачакай, Марыйка, у мяне да цябе яшчэ ёсць справа,— затрымаў яе Гарашчэня.

Яна прысела, але сядзела як на іголках.

— Адным словам, трэба гэта заданне выканаць і як найхутчэй,— збіраліся выходзіць Сяргей Паўлавіч і Васіль.

— Будзе зроблена,— запэўніў Гарашчэня.

Яны развіталіся і пайшлі.

— Дык вось што, Марыйка, пакуль прыбудуць з Масквы медыкаменты, неабходна тут дзе-небудзь дастаць.

— Нідзе, як у Нараўлянах, іх не дастанеш. Я гэта зраблю.

— Добра.

Успыхнула газоўка і патухла. Гарашчэня не хацеў наліваць газы і запальваць. Запахла нагарам. Рыгор Сцяпанавіч наблізіўся, абняў Марыйку і хацеў пацалаваць, але яна вырвалася і пабегла з зямлянкі. Гарашчэня, зразумеўшы, што пакрыўдзіў дзяўчыну, пачухаў патыліцу.

## 31

— Я яе ўзяць буду,— ідучы за дзяўчынай, аблізваючыся, як кот, гаварыў свайму другу Эрнст фон Вернер.— Іду аб заклад... Слова афіцэра!..

Здагадаўшыся, што ідзе гандаль дзявочымі косамі, Марыйка прыбавіла кроку. Следам ішоў Эрнст фон Вернер, высокі, худы, у акулярах з залатою аправаю. Марыйка адчула холад за спіною, нібы за ёю крочыла кірпатая смерць. Напалоханая, Марыйка агледзелася. Зачапіўшыся нагою за дошку на тратуары, яна ледзь устаяла на нагах. «А каб на цябе ліха,— падумала Марыйка,— чаго ты прычапіўся, гіцаль!» Яна ўжо амаль

выканала заданне Гарашчэні, прызапасілі медыкаментаў, аставалася толькі пераправіць у лес. І раптам набегла думка: «А што, каб яго ўвабраць? Добры быў бы ўлоў. Не, лепей не чапацца...»

І Марыйка ледзь не абамлела, калі ўгледзела, што з ёю параўняўся Эрнст фон Вернер. Ён зняў капялюш, пакланіўся.

Выпраўка афіцэра, прычоска, маленькія рыжыя вусікі паказвалі, што Эрнст фон Вернер стараецца быць падобным на фюрэра, напамаджанымі рэдкімі валасамі ён старанна хаваў сваю лысіну. Марыйка не адказала на прывітанне і паскорыла крокі.

Эрнст фон Вернер, будучы працаўніком СД, пры дапамозе Астроўскага і кампаніі, асабліва Барысаўскага бургамістра Станіслава Станкевіча, у Нараўлянах арганізаваў школу шпіёнаў. І Пясецкі, і Цыбулька, і Аксеня, і іншыя — усе ў яго вучыліся. Гарашчэнеўцы даўно за ім ганяліся, але яго цяжка было ўзяць. Ён прыносіў шмат непрыемнасцей партызанам. Марыйка, ідучы поруч з Эрнстам фон Вернерам, углядаючыся ў клёны, таполі і ліпы, нічога не бачыла. «А можа, ён даведаўся, што яна партызанка?» — думала яна. Пацямнела ў яе вачах. Па дарогах, якія яшчэ ўчора кантраляваліся партызанамі, праязджалі нагружаныя да адказу чорныя аўтамабілі: яны ішлі на фронт, везучы жывую сілу і боепрыпасы. Марыйка ўспомніла, як аднойчы на яе вачах немцы ўзялі селяніна з поля і загадалі яму праехаць па ўчастку дарогі, якая была замініравана. Старога з сявенькай ускінула ўверх, parваўшы на часткі. Немцы рагаталі. А ў Марыйкі ад болю сціснулася сэрца. Прыгадала Насту, якая загінула геройскай смерцю. Марыйка прагнула адпомсціць немцам за здзекі над людзьмі. Яна, нервуючыся, церабіла свае валасы, як бы скідаючы з іх павуцінне, якое асядала немаведама адкуль на яе галаву. Раптам Марыйка ўспомніла, як аднойчы прагаварыўся Гарашчэня. Ён хацеў быў даць ёй важнае заданне. Гарашчэня гаварыў пра гэта з прадстаўнікамі ЦК таварышамі Сяргеем і Васілём, але потым перадумаў, сказаўшы: «Марыйка не справіцца з гэтай справай»; крыўдна ёй тады стала. Яна ўсю ноч праплакала.

«Насці, не вагаючыся, ён бы гэта даручыў»,— падумала Марыйка.

Як пасля высветлілася, справа ішла аб тым, каб знішчыць нейкага працаўніка СД, які цяпер поруч з ёю ішоў, але Марыйка пра гэта не ведала.

— Марыйка, што вы ўцякайль,— загаварыў Эрнст фон Вернер і, не даўшы ёй сказаць і слова, прадаўжаў: — Я хацеў запрасіць вас працаваць у мяне сакратаркай... Не думайце пярэчыць, для вас будзе горш...

— Адкуль вы мяне ведаеце? — спалохалася Марыйка.

— Мне гаварыў пра вас мой друг, афіцэр Іаган Шмідт, які жыве з вамі ў адным доме. Між іншым, вы чамусьці часта адлучаецеся з кватэры, гэта падазрона! Праўда, вы жывеце ў кухні. Але сёння ж будзе вызвалены для вас адзін пакой, каб вы не хадзілі да сваіх сяброўак. Вы ідзеце дадому? Можна да вас зайсці?

— Калі ласка! — выпаліла Марыйка і сама спужалася.— У нас шмат кветак...

Марыйка сама не ведала, чаму яна гэтак сказала, і хацела ўцячы, але Эрнст фон Вернер схапіў яе за руку. «Як на гэта паглядзяць гаспадары, якія не вельмі ахвотна пусцілі яе пажыць некалькі дзён?»

— Пачакайце! — трымаў за руку яе Эрнст фон Вернер.— Я хацеў вас запрасіць да сябе... у госці...

— Ой, што вы,— замахала Марыйка рукамі, як птушка крылямі.— Няўжо вы і з нямецкімі дзяўчатамі так абыходзіліся?

— Я пайду да вас і парву вашы кветкі,— не ўнімаўся Эрнст фон Вернер.— Патапчу нагамі... Я немец... Мне нельга пярэчыць...

— Ха-ха-ха! — звонка засмяялася Марыйка.— Што ж тады будзе, калі я да вас пайду сакратаркай?..

Эрнст фон Вернер шмат чаго прапускаў міма вушэй, а часам рабіў выгляд, што не разумее.

— Вы такой карошы,— гаварыў Эрнст фон Вернер.— Такой, як вы, на свеце няма...

— Я ж не варона з сырам,— усміхнулася Марыйка. Павярнуўшы ў калітку, яна сказала: — Ауф відэрзэен!

Эрнст фон Вернер ветліва пакланіўся і пайшоў назад, насвістваючы нескладаны матыў нямецкай салдацкай песні. Яго постаць нагадвала вялізны пытальнік. Як ён ні стараўся выпрастацца, але нічога з гэтага не выходзіла. Гарбатага, як кажуць, магіла выпрастае.

Марыйка, выглянуўшы з акна, паглядзеўшы ў бок

іпоўшага Эрнста фон Вернера, падумала: «Што ж, пайду сакратаркай. Нам таксама пальца ў рот не кладзі, адкусім...» І прыйшла другая думка: «Я давяду Гарашчэню, на што я здатна!»

Адправіўшы партызанам медыкаменты, якія ўдалося дастаць, Марыйка на некаторы час затрымалася ў Нараўлянах. Яна пра сваю задуму паведаміла Гарашчэню, трымаючы яго ўвесь час у курсе спраў. Працуючы сакратаркай у СД, яна крыху ўспомніла мову, якую некалі вывучала ў інстытуце, навучылася праз пятае ў дзесятае гаварыць па-нямецку. Каб увайсці ў давер'е Эрнсту фон Вернеру (якраз гарашчэнеўцы хацелі яго знішчыць), Гарашчэня дазволіў ёй сякія-такія звесткі даць пра партызан. Пры праверцы Эрнстам фон Вернерам яны пацвердзіліся.

— Вы даўно абяцалі са мною прайсціся,— звяртаючыся да Эрнста фон Вернера, сказала аднойчы Марыйка.— Сходзім на рэчку...

— Купацца? — спытаўся Эрнст фон Вернер.— Згодзен! — А потым, успомніўшы, што трэба ісці каля лесу, пачаў адмаўляцца: — Давайце лепей пройдземся ў поле... Не люблю я рускі лес... Ён такі дзікі... Дый... Не-е!..

— Вы трус! — усміхнулася сакратарка.— Калі вы баіцеся, то я адна пайду... Вам не шкода будзе, калі я ўтаплюся?..

— У беларускай мове, казаў мне Станкевіч, няма слова трус, а ёсць баязлівец.

— О, у вас вялікія поспехі ў вывучэнні беларускай мовы...

— Трэба!

— Дык пойдзем?

— Не. Мне няма часу, праца...— прасіўся Эрнст фон Вернер.— Давайце ў другі раз сходзім... У мяне чамусьці дрэнны настрой... Сэрца... Мне сёння не хочацца ісці...

— А мне іменна сёння хочацца ісці купацца,— настойвала Марыйка.— Такія цёплыя дні рэдка трапляюць... Дык як?.. Мы з вамі ўмовіліся... Э-эх вы, кавалер!.. А яшчэ выхваляліся: мы — рыцары; баіцеся дзяўчыны... Нічога з вамі не здарыцца...— Марыйка вырашыла пусціць апошні козыр: — Я трымаю сваё слова, а вы... Сёння ўвечары вы атрымаеце тое, чаго

ўвесь час дамагаліся... Перад гэтым хочацца пакупацца...

— Іду,— пасалавелі вочы ў Эрнста фон Вернера.

Яны ішлі каля лесу. Спявалі птушкі. Эрнст фон Вернер быў асцярожны, як стары ліс; ён ні на хвіліну не выпускаў з рук рэвальвера. Да рэчкі заставалася метраў дзвесце. Угледзеўшы сялян з косамі, Эрнст фон Вернер спытаўся:

— Хто там?

— Касцы.

— А можа, гэта партызаны?

— Глупства, якія тут партызаны. Тут жа ваша школа недалёка.

— Я не буду купацца. Не хачу. Нешта ў мяне ногі ломіць. Баюся прастудзіцца. Мне доктар не раіць купацца. Рэўматызм!..

— Пойдзем,— цягнула Марыйка.

«Чорт, а не дзяўчына, яна мяне ўцягне ў балота,— падумаў Эрнст фон Вернер.— Але ўсё ж такі будзе на маім. Я яе перахітру!»

Эрнст фон Вернер лаяў сябе за мяккасць, за не дапушчальную для немца сардэчнасць. Прайшло багата часу, як ён цягнецца за хвастом гэтай дзяўчыны, а карысці ніякай. З яго спадцішка насміхаліся, рыхтуючыся піць на грошы, якія Эрнст фон Вернер даў у заклад.

Марыйка ў купальным касцюме бегала каля рэчкі, але ёй не да купання было. Ва ўмоўленым месцы не было партызан. Няўжо яны тут былі і, не дачакаўшыся, пайшлі? Будзе непрыемнасць ад Гарашчэні. «Разявака,— скажа,— дзяўчына». Марыйка ледзь не плакала. Яна ведала, што ў другі раз Эрнста фон Вернера сюды і на вяроўцы не зацягнеш. Марыйка вырашыла тут не купацца, а цягнула свайго «кавалера» далей, на глыбокае месца, дзе можна паплаваць.

— Каб я ведала, што вы такі баязлівец,— падбегшы да Эрнста фон Вернера, насупіўшыся, гаварыла Марыйка,— ніколі б з вамі не пайшла сюды... Людзі будуць смяяцца... Ды схавайце вы свой рэвальвер...

Марыйка ніяк не магла аддыхацца, у яе то падымаліся, то апускаліся пругкія дзявочыя грудзі.

— О, мая мілая! — нібы незнарок дакрануўся да грудзей Эрнст фон Вернер. Марыйка змоўчала.— Я з

табою гатоў ісці хоць на край свету... А толькі рэвальвера не схаваю... Тут кожны куст страляе...

— Пройдземся па беразе,— лашчылася Марыйка.— Вось гэтая сцежка — найкарацейшы шлях да плёса.

— А можа, да смерці?

— Ой, што вы!

— Вы, Марыйка, нагадваеце мне адну маю старую знаёмую, якая, праўда, не памерла сваёю смерцю. Па складу розуму — арыйка, па характару — француженка, а сэрцам — руская. Не, я не пра гэта хацеў сказаць... Лезе рознае ў галаву... Што там?

— Ну, і баязлівы ж вы, як заяц... Гэта птушка паляцела...

Яны ішлі каля рэчкі, якая вужакай вілася каля лесу. Марыйка моцна прыціскала халодную руку да гарачага цела, імкнучыся загаварыць Эрнсту фон Вернеру зубы, вабячы яго ісці далей. Але засады ўсё не відаць было. Марыйка хвалявалася. Нарэшце паказаўся нейкі хлопец.

— Няйначай, партызан,— занепакоіўся Эрнст фон Вернер.— Я страляю!

— Ой, што вы, хочаце мяне напалохаць, дык гэта ж пастушок,— заспакойвала Марыйка.— Чуеце, як ён добра іграе...

Хлопчык на дудачцы мацней зайграў. Чутно было: ту-у-ту-ту, ту-у-ту-ту, ту-у. Гэта азначала: увага, падрыхтавацца, быць напагатове. Эрнст фон Вернер трымаў пастушка на прыцэле. У гэты час двое партызан, якія былі ў засадзе, накінуліся на Эрнста фон Вернера. Ён з перапалоху некалькі разоў стрэліў. Абяззброены Эрнст фон Вернер, паглядзеўшы перш на партызан, а потым на Марыйку, запытаўся:

— Яна ведала пра засаду?

— Ведала,— адказала Марыйка.

— Не чакаў... А я лічыў яе наіўнай... Ах, ах, які я дурань!

— А ў гэтым ніхто і не сумняваўся,— іранізавала Марыйка.— Дык хто каго «ўзяць буду»?! Гітлераўскія дурні, вы лічыце нас ніжэйшай расай, ды мы больш забыліся, чымся вы ведаеце.

Тады, як Эрнста фон Вернера прывялі ў лагер партызан, Гарашчэня паспрабаваў з ім гаварыць. Шэф СД горада Нараўляны катэгарычна адмовіўся назваць хоць бы аднаго асведаміцеля, якіх заслаў у партызанскія атрады.

— Я ведаю, што мяне чакае,— заявіў ён.— І хоць я раскалоўся б, смерці не мінуць. Я свядома пайшоў служыць фюрэру і яму не здраджу. Усё роўна немцы пераможуць!

— Аднак,— усміхнуўся Гарашчэня,— гэтага можа і не быць.

— Будзе. Гаспадаром гэтай зямлі стануць немцы. Нам патрэбны «жыццёвыя прасторы».

— І планам «ОСТ» гэта прадугледжана. Але ад жаданага да сапраўднасці адлегласць далёкая. Яшчэ Бісмарк папярэджваў суайчыннікаў, што самае небяспечнае ў палітыцы — гэта ілюзіі.

— Вам і план «ОСТ» вядомы? — паглядзеў спадылба Эрнст фон Вернер.

— Так.

— Дзе вы яго ўзялі?

— У забітага генерала Ландсберга.

— Фрыдрыха фон Ландсберга,— паправіў Эрнст фон Вернер.— Дурань! Хто ж гэта носіць пры сабе такія дакументы.

— Вось іменна,— смяяўся вачыма Гарашчэня.— Хоць шыла ў мяшку не ўтоіш. І без плана «ОСТ» было відно, чаго хочуць немцы.

— Нічога вы не бачылі.

— Не бачылі?! Фашысты толькі ў Беларусі ўжо знішчылі больш за мільён чалавек мірных грамадзян і сярод іх шмат дзяцей, жанчын, старых. Гітлераўцы разбурылі і спалілі больш за дзвесце нашых гарадоў, больш за дзевяць тысяч сёл і вёсак. А вайна яшчэ далёка не скончана; яна, можна сказаць, у самым разгары. І ў знішчэнні мірных людзей, разбурэнні гарадоў, сёл і вёсак зусім не было вайсковай неабходнасці.

— Неўзабаве па Маскве будзе нанесены новы ўдар, што ад Савецкага Саюза нічога не астанецца.

— Гм. Чаго ж вы адклікалі з Смаленска ў Мінск беларускага нацыяналіста Астроўскага, які прызначаў-

ся бургамістрам Масквы? Страцілі надзею ўзяць сталіцу! Савецкі Саюз як стаяў уцёсам-волатам, так і будзе стаяць у вяках. І зусім не на Маскву, а на Сталінград цяпер немцы накіроўваюць удар.

— І гэта вам вядома,— прастагнаў Эрнст фон Вернер і папрасіў: — Расстраляйце хутчэй!

— А гэта суд вырашыць.

— Ага. Павінен аддаць належнае, Марыйка добра сыграла сваю ролю. Абдурыць мяне, старога гестапаўца, не так лёгка было. Вы яе ўзнагародзіце?

— Яна сказала, што лепшая ёй узнагарода — прагнаць фашыстаў з савецкай зямлі. Ёй хочацца дайсці да Берліна.

— Берліна вам не бачыць.

— Паглядзім! З Масквы да Берліна бліжэй, чым з Берліна да Масквы.

— Чаго вы цягнеце? — нерваваўся Эрнст фон Вернер.— Рэжце на кавалкі, нічога ад мяне не выпытаеце. Я астаюся верны Гітлеру!

— Ну што ж, задаволім вашу просьбу,— і, звярнуўшыся да варты, Гарашчэня загадаў: — Вывесці яго!

Праз некалькі дзён, па рашэнню суда — Вярхоўны суд у Маскве зацвердзіў прыгавор,— Эрнста фон Вернера расстралялі.

Марыйка хадзіла гогалем, дзяўчына давяла Гарашчэню, чаго яна варта. Партызаны перад ёю выстрайваліся ва фронт і казыралі, а некаторыя — здымалі шапкі і кланяліся да зямлі. З Гарашчэнем яна толькі адзін раз спаткалася і то на людзях, калі ён перад усімі абвясціў, што яна прадстаўлена да новай узнагароды. Фактычна, прадстаўнікі ЦК Сяргей Паўлавіч і Васіль настаялі на гэтым. Марыйка з Гарашчэнем размаўляла тады даволі афіцыйна, гутарка вялася толькі аб справах. Заўважыўшы нелады паміж Марыйкай і Гарашчэнем, Міроніха неяк яе ўпікнула:

— Зазналася ты, дзяўчына, і круціш носам. А ён жа за цябе значна больш зрабіў і гэтак не задаецца.

— Няхай ганарлівец за мною гэтульні папабегае, колькі я за ім. Колькі слёз выплакала!

— Няўжо ж ты думаеш, што яму так лёгка было выкінуць з сэрца Насту? Прайшло шмат часу, пакуль

ён апамятаўся ад такога ўдару. А цяпер пакахаў цябе. Сохне па ёй, а яна... Ці, можа, не кахаеш?

— Ой, што вы!

— Дык ідзі нібы прайсціся, унь ён каля штабной зямлянкі з мужчынамі размаўляе,— Міроніха штурхнула дзяўчыну ў плечы.— Спецыяльна мяне падаслаў, каб даведацца... Бо яшчэ год будзеце валэндацца...

— Праўда? — пацалавала Міроніху Марыйка.

Доўга ў той вечар хадзілі Марыйка з Гарашчэнем, пра многае перагаварылі, уладзілі «канфлікт». Потым зайшлі ў яго зямлянку. Гарашчэня хацеў запаліць газоўку, а потым спахапіўся, што няма газы.

— Гэта ж я з таго вечара яе не запальваў,— апраўдваўся ён.

— А дзе ж ты працаваў?

— У штабе,— адказаў ён і хвалюючыся спытаў: — То, можа, і сёння абыдземся без святла?

— Без святла, дык без святла,— згадзілася яна.— Няхай будзе так.

## 33

І хоць Эрнст фон Вернер зложыў галаву, але сплеценае ім павуцінне не было рассечана. Ён нікога не выдаў з асведаміцеляў, засланых у атрады народных мсціўцаў. Тайныя і яўныя агенты СД, дзе подкупам, а дзе пад пагрозай смерці, рабілі сваю чорную справу.

Галава Сяргея Паўлавіча ацэньвалася ў пяцьсот тысяч марак. Акрамя гэтага, абяцалі таму, хто зловіць таварыша Сяргея жывым, даць маёнтак. Кошт галавы таварыша Сяргея ўсё павышаўся, асабліва пасля таго, калі немцы дазналіся, што ён пабыў на Вялікай зямлі. Сума за галаву таварыша Сяргея расла не па днях, а па гадзінах, яна вырасла да сямісот пяцідзесяці тысяч марак, маёнтка і завода.

Немцы ведалі, што таварыш Сяргей з'яўляецца душою партызанскага руху, а таму асабліва за ім ганяліся. Нарэшце яны вырашылі паслаць спецыяльную карную экспедыцыю ў раёны, занятыя гарашчэнеўцамі, дзе па іх звестках быў і таварыш Сяргей.

Перш чым паслаць карную экспедыцыю Людвіга Клозе, з генералам вёў гутарку намеснік Гітлера ў Бе-

ларусі Вільгельм Кубэ. Ён папярэдзіў начальніка экспедыцыйнага корпуса, што з партызанамі Гарашчэні не так лёгка саўладаць, яны цяпер маюць свае аэрадромы, трымаюць сувязь з Масквою, кожны атрад мае рацыю. Па меркаваннях Вільгельма Кубэ недзе паблізу ад Беразнянкі павінен быць падпольны працаўнік — Сяргей Паўлавіч Васільеў, былы дырэктар МТС. Нябожчыкам Эрнстам фон Вернерам быў створан партызанскі атрад. Начальнікам атрада быў працаўнік СД, Аляхновіч, які дапусціў памылку, з аднаго боку, грабіў сялян, а з другога — расстраляў дэсантніка, які быў выкінуты з самалёта і прыблукаў у гэты атрад. Васільеў разгадаў, што гэта за атрад. Гарашчэнеўцы акружылі яго і знішчылі. Толькі адзінкі ўцалелі. Вільгельм Кубэ паабяцаў, што калі Людвігу Клозе ўдасца злавіць Васільева (яго завуць таварыш Сяргей), дык гаўляйтэр будзе хадайнічаць перад фюрэрам аб самай вышэйшай узнагародзе і прысваенні генералу чарговага звання.

Вестка, што з-пад Мінска ідуць карнікі на чале з вопытным генералам Людвігам Клозе, устрывожыла Сяргея Паўлавіча. Немцы ў гэты час вялі падрыхтоўку для наступлення на Сталінград, а таму ім у тыле трэба было скончыць з партызанамі, якія ім шмат шкодзілі. Сяргей Паўлавіч накіраваў цяпер сваю ўвагу на тое, каб спыніць працу чыгунак, што вялі да фронту. Задача гэтая цяжкая і складаная, чыгунка ахоўвалася рэгулярнымі войскамі.

## 34

Карнікі на чале з генералам Людвігам Клозе доўга рыхтаваліся да нападу на гарашчэнеўцаў — цяпер гэта ўжо была брыгада, якая перарастала ў злучэнне. Гарашчэнеўцы мелі добраўпарадкаваны аэрадром, прымалі з Масквы самалёты.

У апошні час карнікі вялі разведку боем, яны цяснілі асобныя дробныя атрады, якія ўзніклі дзякуючы існаванню брыгады Гарашчэні. Рыгор Сцяпанавіч разам з Сяргеем Паўлавічам рыхтавалі контрудар, каб памагчы Чырвонай Арміі ў абароне Сталінграда. Цяпер быў дадзены лозунг: «Заб'еш фашыста ў Беларусі, ён не будзе пад Сталінградам». Сілы карнікаў былі вялі-

кія, і вопыт барацьбы з партызанамі яны цяпер ужо мелі. З імі цяжэй стала змагацца. Сяргей Паўлавіч выказаў думку, што добра было б, каб Васіль Мікалаевіч арганізаваў дробныя атрады і ўдарыў з тылу па карніках. Дый трэба было з Васілём Мікалаевічам параіцца па некаторых іншых пытаннях.

— Так, адна галава добра, а дзве лепей,— ходзячы ўразвалку па зямлянцы, разважаў уголас Сяргей Паўлавіч.— Я павінен неадкладна ўгледзець Васіля Мікалаевіча, ён мне вельмі патрэбен. Пайду!

Калі Сяргей Паўлавіч павярнуўся да Гарашчэні, у яго паблісквалі сінія вочы, яшчэ больш «задраўся» кірпаты нос, па ўсяму відаць было, што ў яго выспяваў план, як ударыць карнікаў. Ён задаволена прычасаў растапыранымі пальцамі сваю русую чупрыну. Па суровых вачах відаць было, што ён цвёрда вырашыў ісці.

— Але ж гэта вельмі небяспечна,— запярэчыў Гарашчэня.— Дарога Беразнянкі — Дрыгвічы асядлана немцамі.

— Ваяваць таксама вельмі небяспечна, аднак мы ваюем,— кальнуў прыжмуранымі вачыма Сяргей Паўлавіч.

— Дык хоць вазьміце людзей.

— Я адзін пайду.

— Чаму гэта?

— Бо табе тут патрэбны людзі.

— Не маеце права адны ісці,— сурова вымавіў Гарашчэня.— Нельга гэтага рабіць.

— Добра,— урэшце згадзіўся Сяргей Паўлавіч.— Але не больш трох чалавек, хопіць.

Гарашчэня больш не настойваў, бо ведаў, што ўсё гэта дарэмна: Сяргей Паўлавіч не згодзіцца болей узяць людзей.

Перад адыходам Сяргей Паўлавіч сеў з Гарашчэнем, закурыў, а потым папярэдзіў Гарашчэню, што калі часам што здарыцца, дык каб ён абавязкова звязаўся з Васілём Мікалаевічам і папрасіў яго дапамогі.

Як толькі сцямнела, Сяргей Паўлавіч, у суправаджэнні трох партызан, узброеных аўтаматамі, выправіўся ў дарогу. Яму ноччу трэба было прайсці самы небяспечны ўчастак, каля смалярні. Там маглі быць карнікі. Але Сяргей Паўлавіч спадзяваўся на тое, што

немцы не вельмі любілі ноччу ваяваць і, можа, ён як-небудзь пройдзе. Ён ведаў адну сцежку, але, каб тудою ісці, трэба было рабіць вялікі круг.

Цыбулька яшчэ днём дачуўся пра тое, што Сяргей Паўлавіч збіраецца ісці да Васіля Мікалаевіча. І як ён ні стараўся, каб патрапіць у ахову, але яму гэтага дамагчыся не ўдалося. Гарашчэня не прызначыў яго туды з тае прычыны, што мала ведаў Цыбульку. Пасля таго як Цыбулька ў Налібоках нос у нос спаткаўся з партызанамі дзядзькі Максіма, Эрнст фон Вернер вымушан быў перакінуць яго ў брыгаду Гарашчэні. Камбрыг Гарашчэня выбраў у ахову да Сяргея Паўлавіча самых храбрых і адважных людзей. Ведаючы, што другой самай кароткай дарогі няма, акрамя як каля смалярні, Цыбулька незаўважаным выправіўся наперад. Яму жыцця не давала думка займець дзе-небудзь свой маёнтак, завесці сям'ю і ціха жыць да скону. «Ну, Мікола, лаві момант,— думаў сам сабе Цыбулька.— Калі цяпер не ўбярэш таварыша Сяргея, то не бачыць табе ціхага жыцця, як сваіх вушэй». Кіламетрах у двух да смалярні Цыбулька зрабіў засаду. Яму хацелася ўзяць Сяргея Паўлавіча жывым. А каля смалярні маглі быць карнікі, яшчэ, чаго добрага, адбяруць у яго таварыша Сяргея, яны ж за ім ганяюцца.

Ступаючы па калена ў гразі — лясныя дарогі яшчэ не замерзлі,— гуськом ішлі адзін за адным партызаны. «А з імі цягацца нялёгка, усе людзі бывалыя, у кусты не пададуцца,— думаў сам сабе Цыбулька.— Аднак паспрабую!»

Сяргей Паўлавіч, апрануты ў ватоўку, ішоў першым. Яго нешта трывожыла, ён аглядаўся па баках. «Што за чорт,— падумаў Сяргей Паўлавіч,— ніколі ў мяне не было так неспакойна на душы». Ён павалі ішоў, а за ім напагатове крочылі партызаны. Чутно было, як хлюпала гразь. «Маёнтак,— мільганула ў галаве Цыбулькі.— Толькі смачны арэшак, але яго не так лёгка раскусіць».

Каля невялічкага раўчука партызаны спыніліся. Яны стаялі гуртам, нешта ціха абмяркоўваючы. Свяціў месяц, партызан можна было распазнаць; тут былі, людзі, з якімі Цыбулька не раз з аднаго кацялка еў кашу, хадзіў разам на аперацыі. Яны зусім не ведалі, што Цыбулька ходзіць з каменем за пазухай, што ў ім

сядзіць звер. А зрабіў яго такім Эрнст фон Вернер, які абудзіў у ім усё горшае.

Сяргей Паўлавіч крыху пастаяў каля раўчука, выбраў больш вузкае месца, лёгка пераскочыў, аддзяліўся ад партызан. Цыбулька, не марудзячы, даў доўгую чаргу з аўтамата па партызанах, тыя пападалі. Пачалася беспарадачная страляніна ў боку смалярні.

— Таварыш Сяргей, сюды, сюды,— падбегшы, вабіў Цыбулька.

— А ты хто? — насцярожыўся Сяргей Паўлавіч.

— Партызан,— гаварыў Цыбулька.— Тут нямецкая застава. А ў смалярні!.. Кругом карнікі... Шмат іх...

— А чаго ты тут апынуўся?

— Мяне камбрыг таварыш Гарашчэня паслаў у разведку. Загадаў «языка» дастаць.

— Дык і рабі сваю справу.

— Не так лёгка.

— Хлопцы! — паўзучы па гразі, клікаў Сяргей Паўлавіч.— Сюды!

Стральба ўзмацнілася, са свістам і завываннем праляталі кулі.

— Хлопцы забітыя,— наблізіўшыся, прашаптаў Цыбулька.— Куды вам трэба? Я магу абвесці смалярню, мне тут кожная сцежка вядома.

Страляніна яшчэ больш павялічылася, дзынкалі, як пчолы, кулі. Карнікі былі зусім блізка. Ужо чутна была чужая гаворка. Падпоўзшы да партызан, Сяргей Паўлавіч пераканаўся, што яны такі забітыя.

— Мне трэба на беразнянскую дарогу,— паведаміў Сяргей Паўлавіч.— Вы можаце правесці?

— Магу! «Языка» яшчэ паспею дастаць,— гаварыў Цыбулька, а пасля спытаўся: — А там куды?

— Відаць будзе.

— Пайшлі!

Сяргей Паўлавіч і Цыбулька падаліся ўбок і, прыгінаючыся, выйшлі з зоны агню. Карнікі ўсё стралялі. Сяргей Паўлавіч, ідучы па лесе, паабдзіраў сабе твар, рукі, набраў поўныя боты вады. Ён, відаць, моцна ўгрэўся, бо расшпіліў ватоўку.

— Ну, вось і ўвесь страх,— роблена ўсміхнуўся Цыбулька, выйшаўшы на прагаліну.— Цяпер можна закурыць.

— А гэта што за вёска будзе?

— Міхалевічы.

— О-го-о! — здзівіўся Сяргей Паўлавіч.— Куды мы трапілі.

Віднелася. На гары круціўся вятрак. На вуліцы ў Міхалевічах і ў дварах стаялі нямецкія машыны. Сяргей Паўлавіч задумаўся, яму стала падазроным, што яны тут апынуліся. Паблізу магла быць выстаўлена застава.

— То ты можаш вяртаць назад,— прапанаваў Сяргей Паўлавіч і параіў: — Не высоўвайся вельмі з лесу, могуць убачыць. А я адзін пайду.

— Не, я вас аднаго не пушчу.

— Я вам загадваю ісці па сваёй справе.

— А я тут па сваёй справе,— запярэчыў Цыбулька, схапіўшыся за аўтамат.— Я вас не адпушчу ад сябе ні на крок, пойдзеце са мною. Загадваю!..

— Што-о? — выхапіў рэвальвер Сяргей Паўлавіч.— Ах ты, сволач!

— Хальт! — крыкнуў немец. Тут такі была застава.— Хэндэ хох!

Немцы акружылі Сяргея Паўлавіча і Цыбульку. Цыбулька ім нешта сказаў. Карацелі схапілі Сяргея Паўлавіча, скруцілі назад рукі, павялі ў вёску. Напалоханыя людзі заглядалі ў вокны, калі вялі арыштаванага па вуліцы. Сяргей Паўлавіч ішоў без шапкі, вецер раздзімаў яго русыя валасы. Цыбулька задаволена пасміхаўся, ён адчуваў сябе пераможцам, марыў пра маёнтак. Сяргея Паўлавіча Васільева пасля першага допыту, пад узмоцненай вартай, са звязанымі назад рукамі пасадзілі ў машыну і павезлі ў горад.

## 35

Гаманілі бары ад Белавежскай пушчы і да векавых палескіх лясоў. Хутка абляцела вестка, што Сяргей Паўлавіч Васільеў схоплен немцамі і знаходзіцца ў горадзе Беразнянкі, у раёне дзейнасці партызанскай брыгады Гарашчэні. Камбрыг, выклікаўшы да сябе камандзіраў атрадаў і асобных камандзіраў рот, паставіў перад імі задачу: разграміць групу эсэсаўцаў вядомага ката генерала Людвіга Клозе, паспрабаваць вызваліць Сяргея Паўлавіча. Але Гарашчэня і сам мала верыў, што ўдасца гэта зрабіць. Немцы добра ведалі, хто

такі Сяргей Паўлавіч, і яго не так лёгка было ад іх вырваць, тым больш што падышлі ўжо асноўныя сілы групы Людвіга Клозе, праўда, яны не ўсе былі ў горадзе, частка аперыравала супраць асобных партызанскіх атрадаў. Тым не менш Гарашчэня хацеў схапіцца з Людвігам Клозе, дастаткова вопытным генералам.

— Ну як? — запытаўся Гарашчэня.

— Загад ёсць загад,— панура адказаў Пацяруха, які цяпер камандаваў ротай.

— Я сабраў вас, каб параіцца.

— А калі параіцца,— працягваў Пацяруха,— то ці варта рызыкаваць? Які б для нас ні быў дарагі Сяргей Паўлавіч, але ўсё ж гэта адзін чалавек.

— Але які чалавек! — ускіпеў Гальяш.— Ён усё зрабіў для таго, каб не быць нам нямецкімі рабамі. Таварыш Васільеў гатоў быў аддаць сваю кроў кроплю за кропляй, каб адстаяць свабоду. Гэта сапраўдны бальшавік! За такога чалавека нельга не пастаяць, хоць бы гэта абышлося нам вельмі дорага.

— Пацяруха як хоча,— загаварыў Шпакоўскі,— а я павяду сваіх хлопцаў. Колькі Сяргей Паўлавіч зрабіў нам дабра. Калі на тое пайшло, дык мы толькі дзякуючы яму сталі камандзірамі. А добрае не забываецца! — Шпакоўскі падумаў.— Што з таго, што немцаў панмнога? Гэта ж добра, ёсць каго біць.— Шпакоўскі паглядзеў у бок Гарашчэні: — Дый у нас у горадзе ёсць сякія-такія рэзервы... Можна і іх прывесці ў рух...

— Дык і я павяду, гатоў хоць зараз ісці, але толькі так гаворыцца,— збянтэжыўся Пацяруха.— Мае арлы пойдуць са мною і ў агонь і ваду! — Пацяруха прызнаўся: — Але ў нас, у тарасаўцаў, мусіць, у крыві — не выпірацца наперад, а толькі і не адставаць...

— Ну то і добра! — Гарашчэня канчаткова вырашыў: — Значыць, ідзем!

Камандзіры атрадаў разам з камбрыгам доўга абмяркоўвалі план дзеяння. Марыйка даўно ўжо спала, калі яны разыходзіліся. Самае цяжкае было прабрацца ў цэнтр горада, бо ўсе подступы ахоўваліся, а таму Гарашчэня ўзяў на сябе гэта. Як ён туды пойдзе, яшчэ няясна было, а толькі, па яго думцы, яму трэба было ісці. Раптам прыйшла ў галаву думка — наладзіць «вяселле» і такім чынам прабрацца ў горад.

— Правільна! — падумаў уголас Гарашчэня.— Па-

едзем з Марыйкай «вянчацца»... А там выступіць гарадская група... Яны даўно рвуцца ў бой... А каб яшчэ сусед, бацька Тарас, падтрымаў... Ён жа можа сваіх «мужычкоў» на базар паслаць...

— Дык мы і самі можам гэта зрабіць,— загарэўся Гальяш.

— Нам нельга, выклічам падазронасць,— усумніўся Гарашчэня.— Эсэсаўцы нас не спускаюць з вока...

— Задума не благая,— згадзіўся Шпакоўскі.

— Можаце быць свабоднымі,— сказаў Гарашчэня.

Камандзіры разышліся.

Растармашыўшы Марыйку, Гарашчэня доўга з ёю гаварыў, як прабрацца ў горад. І Марыйка гэтым захапілася. Гарашчэня пасля паездкі ў Маскву стаў больш упэўненым, рашучым, ён цвярдзей адчуў глебу пад нагамі. А больш за ўсё Марыйцы спадабалася, што ён ніколі не гаварыў ёй аб сваіх планах, а цяпер нават абмяркоўвае. Яна яшчэ не ўцяміла, што ў гэтым плане яна, Марыйка, адыгрывае вялікую ролю.

Гарашчэня, не адкладваючы ні хвіліны, паслаў у горад чалавека, каб папярэдзіць гарадскую групу партызан быць напагатове, а таксама паслаў сувязнога да бацькі Тараса з просьбай аказаць дапамогу.

## 36

Ноччу да генерала Людвіга Клозе прывялі Васільева. Гэта ўжо была другая сустрэча. Генерал устаў, калі Сяргея Паўлавіча ўвялі, прайшоўся, прапанаваў яму сесці. Людвіг Клозе быў высокім, стройным і, нягледзячы на свае гады — яму было больш за шэсцьдзесят,— выглядаў добра, адчувалася вайсковая выпраўка. Генерал зверху ўніз паглядзеў на Сяргея Паўлавіча, падкрэсліваючы сваю перавагу, трымаўся як пераможца з пераможаным. Людвіг Клозе быў увесь сівы, на яго лысіне парос «мох», ад чаго ён быў некалькі смешным. На яго твары блага расла барада. Генерал валодаў рускай мовай.

Сяргей Паўлавіч быў сярэдняга росту, абросшы барадой. У яго былі адгадаваны прыгожыя вусы. І хоць ён быў апрануты ў звычайную салдацкую ватоўку, на нагах былі юхтавыя боты, але не быў падобны на радавога партызана. Калі ўглядзецца ў яго твар, асабліва

вочы, відаць было, што гэта гарадскі чалавек. Ён паглядзеў на генерала, нібы памераўся з ім сіламі. Сяргей Паўлавіч у думках заключыў, што генерал здольны на ўсё, абы дасягнуць свае мэты. Сяргей Паўлавіч, увесь сабраны, падрыхтаваны да самага горшага, сеў. Насупраць яго вісеў партрэт Гітлера. Сяргей Паўлавіч, паглядзеўшы на яго і ўспомніўшы народную прымаўку, што Гітлер падобны на Напалеона, як кацянё на льва, усміхнуўся. Генерал зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў.

— А вам, таварыш Сяргей, барада не ідзе,— прагаварыў генерал.— Сусанін, не Сусанін, да таго ж яшчэ рыжая... Пётр Першы рэзаў бароды...

Ён хацеў пахваліцца веданнем гісторыі праціўніка, пасмяяцца са звычаяў рускіх людзей. У кожным яго слове адчувалася пагарда да ўсяго рускага, як не заслугоўваючага ўвагі.

— А што за чалавек без вусоў і барады? Скапец! — падкрэслена рэзка адказаў Сяргей Паўлавіч.

— Гм... гм...— разгубіўся Людвіг Клозе, мацнуўшы сваю гладкую, як бубен, бараду, не ведаючы, што сказаць.

Генерала выручыў Сяргей Паўлавіч, запытаўшыся:

— Можна закурыць?

Людвіг Клозе скрывіўся.

— Сігарэту. Учора вы распарадзіліся мне выдаць.

— Курыце.

Генерал, падышоўшы да стала, пералістаўшы справу, спытаўся:

— Дык як, сёння вы назавеце мне атрады, якія вамі арганізаваны, і паведаміце, дзе яны стаяць?

— Не. Гэтага не будзе ні сёння, ні заўтра.

Генерал пазваніў, увайшлі Цыбулька і Пясецкі; яны, сагнуўшыся, сталі ў дзвярах. Людвіг Клозе, звярнуўшыся да Цыбулькі, запытаўся:

— Дзе вы сустракаліся з гэтым чалавекам?

— У атрадзе дзядзькі Максіма, а потым у брыгадзе Гарашчэні.

— А вы? — звярнуўся генерал да Пясецкага.— І што вы наогул пра яго можаце сказаць?

— Сяргей Паўлавіч Васільеў да вайны працаваў дырэктарам МТС, пакінуты ЦК для арганізацыі падполля,— спяшаючыся, дакладваў Пясецкі.— Ён арга-

нізаваў атрад Гарашчэні, які разгарнуўся ў брыгаду, атрад дзядзькі Максіма, бацькі Тараса, якія цяпер разгортваюцца ў брыгады... Ён...

— Годзе! — спыніў Пясецкага Людвіг Клозе, ён цераз плячо загадаў Цыбульку і Пясецкаму: — Можаце ісці!

— Ну, а цяпер што скажаце? Чаго вы ездзілі ў Маскву? Якія планы Штаба партызан?

— Нічога я вам не скажу. Не варта дарэмна мазоліць язык. І ў сігарэтах вашых я не маю патрэбы,— кінуў пачак на стол Сяргей Паўлавіч.— Свае маю!

— Цікава! — зазлаваў генерал.— Мы паратаўком вас, як кацянят!

— Чым хваліцеся, вар'яты! Усё роўна вам плана «ОСТ» не здзейсніць!

Людвіг Клозе вялізнымі вачыма паглядзеў на Сяргея Паўлавіча.

— Народ узняўся на барацьбу,— працягваў Сяргей Паўлавіч,— яго ніякая сіла не адолее. Вы хацелі ведаць, колькі партызан у Беларусі? Каля чатырохсот тысяч, а ў рэзерве ўвесь народ.— Ён перадыхнуў.— А вось фашысты будуць сцерты з твару зямлі... Праклянеце той дзень, калі пайшлі на Савецкі Саюз...

— Ну што ж, будзеце шкадаваць, на сёння размова скончана,— Людвіг Клозе пазваніў; увайшлі два здаравенных каты, адзін мажны, другі каранасты.— Пагаварыце з ім па душах, пакуль не папросіцца.

— Гэта мы можам!

— У нас і мёртвы загаворыць!

Вышэйшага росту кат, падышоўшы да Сяргея Паўлавіча, на вачах у генерала, стукнуў арыштаванага пад бок. Сяргей Паўлавіч пахіснуўся. З другога боку ўдарыў ніжэйшага росту кат, і так яны, нібы гуляючы ў мяч, білі яго, ведучы да дзвярэй. А пасля што было, не паддаецца чалавечаму ўяўленню. Сяргея Паўлавіча білі па галаве, выкручвалі рукі, выкалалі перш адно вока, а потым другое.

— Прасіся! — наперабой крычалі каты.

Але Сяргей Паўлавіч нічога не гаварыў, ён толькі стагнаў. Васільеў некалькі разоў губляў прытомнасць. Ніжэйшы кат да таго абяссілеў, што ледзь трымаўся на нагах.

— Прасіся! — умаляў ён.

З рота ў Сяргея Паўлавіча хлынула кроў, ён, пазяхнуўшы некалькі разоў, пачаў канаць.

— Вось дык чалавечышча! — усклікнуў вышэйшы кат.— Каб другога гэтак, папрасіўся б...

— Ага,— згадзіўся ніжэйшы кат.— І колькі таго чалавека... камар... а які моцны...

— Ідзі далажы, што не просіцца,— прапанаваў вышэйшы кат.

— Ідзі ж ты далажы...

Людвіг Клозе сам сюды прыйшоў і, капнуўшы нагою, загадаў:

— Адліць вадою і зноў біць... біць... біць... пакуль не папросіцца...

— Гатоў! — паведаміў вышэйшы кат.— А толькі не папрасіўся...

— Што-о? — вызверыўся генерал.— Што вы зрабілі? Я ж загадаў... пакуль не папросіцца...

— Дык жа не прасіўся,— высалапіўшы язык, ледзь вымавіў ніжэйшы кат.

— Мусіць, камуніст? — гаварыў вышэйшы кат.— А вы самі казалі, што гэта людзі асобага складу...

— Павесіць труп! — крыкнуў Людвіг Клозе.— Два тыдні не знімаць... на страх іншым...

Вярнуўшыся ў свой кабінет, генерал цяжка апусціўся ў крэсла, паглядзеў на партрэт Гітлера і ўголас падумаў:

— Наша карта біта. У часе летняга наступлення мы павінны былі абысці Маскву і скончыць у гэтым годзе вайну,— ён кінуў позірк на карту.— Мы мелі намер у гэтым годзе, 10 ліпеня, быць у Барысаглебску, у Сталінградзе — 25 ліпеня, у Саратаве — 10 жніўня, у Куйбышаве — 15 жніўня, у Арзамасе — 10 верасня, у Баку — 25 верасня. Усё гэта правалілася. І ў гэтым вялікую ролю адыгралі партызаны. Беларускіх партызан не каля чатырохсот тысяч, а каля шасцісот, калі ўлічыць тых, якія навучаюцца, і сувязных. А ў рэзерве, сапраўды, увесь народ. Не, з Савецкім Саюзам нельга ваяваць.

Да генерала зайшоў афіцэр, ён прынёс шыфравальную тэлеграму ад Вільгельма Кубэ, у якой паведамлялася, што за тое, што злоўлен падпольшчык Сяргей, узнята хадайніцтва перад фюрэрам аб узнагародзе Людвіга Клозе і прысваенні яму новага звання. Хоць гене-

ралу і прыемна гэта было, але ён падумаў: «Ці не рана святкаваць перамогу, яшчэ невядома, ці ўдасца яму паралізаваць дзейнасць партызан».

## 37

Гарашчэня з Марыйкай ехалі ў Беразнянкі, а за імі на некалькіх падводах «сваты», схаваўшы аўтаматы і кулямёты ў вазы. Зайграў гарманіст. Партызаны заспявалі. Ірванулі коні, забразгацелі колы, ляцела гразь ва ўсе бакі. Чым бліжэй партызаны пад'яджалі да горада, тым больш былі стрыманыя. Аперацыя была вельмі складанай.

На ўзмыленай тройцы гладкіх коней Гарашчэня ўязджаў у горад, уся дуга была расквечана, у грывах коней былі рознакаляровыя стужкі.

— Вяселле,— сказаў па-нямецку Гарашчэня, ён сунуў вартавому добрую дзялянку сала і паўкварты гарэлкі. Вартавы махнуў рукою, каб ехалі.

Праходзячыя як на дзіва глядзелі, яны даўно не бачылі такога багатага вяселля. Залівaўся гармонік. Гарманіст іграў сербіянку. Калі пад'ехалі да гарадскога сквера, дык убачылі Сяргея Паўлавіча, які вісеў на шыбеніцы. Сціх іграць гармонік. Гарашчэня хацеў саскочыць з брычкі, але Марыйка яго стрымала за руку. Гарашчэня ад злосці аж затросся.

Пад'язджаючы да базара, Гарашчэня ўбачыў бацьку Тараса.

— Шмат тваіх тут «мужычкоў»? — пацікавіўся Гарашчэня.

— Набралася,— ухмыльнуўся бацька Тарас.— Як вокам акінуць.

У гэты час праходзіў немец.

— З'явіўся парадак, з'явіліся і людзі на базары,— гаварыў бацька Тарас так, каб пачуў немец.— Сёння ўсяго хапае на базары: і курэй, і яек, і смятаны, і мёду...

Немец, пачуўшы, адвярнуўся:

— Гут, рус, гут.

— Што ж ты на «вяселле» не запрашаеш? — ухмыляўся Тарас.— Калі прыйсці?

— Як зазвоняць званы.

Гарашчэня з бацькам Тарасам пераглянуліся. «Вя-

селле» паехала. Правёўшы «маладых», бацька Тарас пайшоў на базар.

Праязджаючы, Гарашчэня ўбачыў чалавека ў кепцы і спытаў:

— Ці ўстанавілі «звон»?

— Парадак,— адказаў чалавек у кепцы.

Як і было ўмоўлена, калі «маладыя» пад'ехалі да царквы, зазванілі званы. Немцы з штаба генерала Людвіга Клозе павыходзілі і, паразяўляўшы раты, глядзелі на «вяселле». Раптам з вежы ўдарыў кулямёт, затрашчалі аўтаматы, паляцелі гранаты. З штаба выскачыў напалоханы Людвіг Клозе і быў звален меткай куляй партызана. Неўзабаве пачуўся выбух, быў узарваны кінатэатр, у якім дэманстравалася карціна для нямецкіх салдат. «Мужычкі» ўдарылі па кашарах. У горадзе пачалася паніка. З усіх бакоў стралялі. А партызаны Гальяша, Шпакоўскага і Пацярухі грамілі эсэсаўцаў на подступах да горада.

Гарашчэня не хацеў доўга затрымлівацца ў горадзе. Ён загадаў зняць труп Сяргея Паўлавіча з шыбеніцы, а сам паехаў галопам па вуліцы, б'ючы асобных эсэсаўцаў, якія траплялі на дарозе. Уражанне было такое, нібы на горад наляцеў ураган, які ачысціў паветра. Неўзабаве партызаны Гарашчэні, бацькі Тараса і чалавека ў кепцы, Дзяніса, пакінулі горад.

Нечаканасць і смеласць удару далі свае станоўчыя вынікі. Шмат было забіта немцаў, салдат і афіцэраў, а сярод іх і генерал Людвіг Клозе. Быў забіты таксама і Цыбулька, які выдаў Сяргея Паўлавіча. А бургамістр Пясецкі і на гэты раз выслізнуў.

Ад'ехаўшы ад горада кіламетраў з пятнаццаць, на скрыжаванні чатырох дарог, пад старою плакучаю бярэзінай, пахавалі без усялякіх прамоў Сяргея Паўлавіча Васільева, даўшы салют з вінтовак і аўтаматаў.

## 38

Сабраўшы разбітыя часці і прыняўшы на сябе камандаванне групай, палкоўнік фон Грабер, які да гэтага быў начальнікам штаба, каб выслужыцца перад вышэйшым начальствам, каторы дзень, без усялякіх вынікаў, ганяў па лесе салдат, прачэсваючы векавыя

бары. На правым беразе ціхай Беразнянкі рэдка дзе аставаліся вёскі, усюды палыхалі пажары. Жывымі спальвалі мірных людзей, а ў штаб корпуса пасылалі весткі аб знішчэнні партызан. Палкоўнік фон Грабер, нізенькі і тоўсценькі, з круглай голенай галавою і ружовымі шчокамі, у некалькіх вёсках фатаграфаваўся на фоне пажараў. Яму гэта вельмі падабалася.

Разведка эсэсаўцаў, перабраўшыся на левы бераг паўнаводнай рэчкі, дзе, па сцверджанню Пясецкага, павінны быць гарашчэнеўцы, пачула, як хруснула суччо.

— Партызаны! — крыкнуў напалоханы разведчык і кінуўся дакладаць па начальству.

— Агонь! — скамандаваў старэйшы разведчык, а тым часам паслаў данясенне, што сутыкнуўся з гарашчэнеўцамі.

Палкоўнік фон Грабер у сваю чаргу паслаў матацыкліста з данясеннем камандуючаму экспедыцыйным корпусам. Правабярэжжа Беразнянкі ачышчана ад партызан. Пераправіліся на левы бераг Беразнянкі. Вядзем бой з вялікімі сіламі партызан брыгады Гарашчэні. Тэрмінова патрабуецца падмацаванне і боепрыпасы.

Начштаба капітан Гросшулер перадаў распараджэнне разведцы:

— Загадваю трымацца. Раніцою высылаем самалёты. Пасля апрацоўкі з паветра атакаваць і знішчыць праціўніка.

Загад дайшоў да разведчыкаў.

— Ёсць — трымацца,— казырнуў старшы разведчык.

— Але ж нешта я не чую адказу [illegible] боку партызан,— заўважыў сувязны штаба.

— Прыціснуты да зямлі,— мыкаюць, як каровы. Яны могуць, як гусі, гагатаць, спяваць, як салаўі,— паглядзеўшы пагардліва на бязвусага хлапчука, сказаў разведчык. Ён дадаў: — З рускімі трымай вуха востра, гэта, можа, не французы, дзе маршам прайшліся. Рускія разумныя і хітрыя. Адзін гагатаў гусем, а потым напаў на салдата, збіў з ног, узваліў на плечы і павалок. А толькі нас не падманеш!

Раніцою на лес наляцелі самалёты. Яны спрэс спляжылі бор. Шмат было навалена дрэваў.

Потым разведчыкі — да іх на падмогу падаспела рота — з крыкам «гох» кінуліся ў лес і... здзівіліся. На суччы, дрыгаючы нагамі, даходзіла карова. Гэта па ёй разведчыкі білі. Як кажуць: у страха вочы вялікія.

Рабіць не было чаго, прыйшлося далей хлусіць. Камандзір роты даносіў: партызаны Гарашчэні ў Слабадскім лесе не вытрымалі ўдару і ў паніцы адступілі.

А ў штаб экспедыцыйнага корпуса пайшло данясенне: у ноч з 29 на 30 лістапада 1942 года разбіты асноўныя сілы брыгады Гарашчэні.

— Разбіты асноўныя сілы? — здзівіўся начштаба капітан Гросшулер.

— Вы нешта хацелі дадаць? — усміхнуўся палкоўнік фон Грабер.

— Прадаўжаем знішчаць разрозненыя групы,— дадаў капітан.

Фон Грабер і Гросшулер, сустрэўшыся вачыма, засмяяліся. Яны без слоў зразумелі адзін аднаго. Усе лгуць, а чаму ім нельга. І палкоўнік і капітан марылі аб чынах і ордэнах.

Толькі пасля таго, калі эсэсаўцы пераправіліся на левабярэжжа з штабам, капітан Гросшулер зусім цвяроза ацаніў абстаноўку. Ён уголас падумаў:

— А партызаны могуць тут даць нам жыцця. Разумееце, мы знаходзімся паміж дзвюх рэчак: Беразнянкі і Падгайнаўкі; прыцісnуць да рэчкі і выкупаюць...

— Як жа гэта можна, яны ж разбітыя,— задумаўся фон Грабер.— Хіба падаспелі гушчынцы... Не, аб адступленні не можа быць і рэчы!

Карнікі меркавалі ўдарыць па штабе Гарашчэні, падзяліць сілы партызан і па частках іх знішчыць.

39

Міроніха яшчэ ўвечары, шукаючы карову, якая адбілася ад партызанскага статка, здалёку пачула стральбу. Прыйшоўшы ў лагер, яна расказала пра гэта Гарашчэню, выказаўшы меркаванне, што, мусіць, карнікі перабраліся на левы бераг Беразнянкі і прачэсваюць лясы. Гарашчэня ўстрывожыўся. Эсэсаўцы падбіраліся да цэнтра партызан.

— А што, каб выйсці ім насустрач? — уголас падумаў Гарашчэня.

— І мне здаецца, што было б добра,— выказала сваю думку Міроніха.

— Дзе яны маглі быць?

— Няйначай у Слабадскім лесе. Стрэлы былі глухія.

— То далей яны ноччу не пойдуць,— разважаў Гарашчэня.— Наша задача да раніцы там быць і [redacted] ходу даць бой. Цяпер дваццаць тры гадзіны. Калі мы ў чатыры гадзіны выступім, дык на світанні будзем там.

У чатыры гадзіны ночы па камандзе «Трывога!» партызаны былі падняты. Яны рушылі ў паход. Ішлі моўчкі, паскораным маршам. Курыць было забаронена, каб не выдаць сябе. Пасланая Гарашчэнем кавалерыйская разведка данесла, што ў раёне Слабадскога леса вядзецца бой. Камбрыг ніяк не мог дадумацца, з кім там немцы маглі біцца. Гарашчэня чакаў паведамлення. Нарэшце прыскакаў другі кавалерыст, ён паведаміў, што стральба вядзецца з аднаго боку, і выказаў меркаванне. «Відаць, нейкі невялікі партызанскі атрад, адарваўшыся ад немцаў, адступіў, а яны працягваюць стральбу».

— Магчыма, і так,— сумняваўся Гарашчэня.— Але нам трэба дакладна ведаць. Высветліць, у чым справа!

— Ёсць,— казырнуў разведчык і прышпорыў каня.

Неўзабаве прыскакаў трэці ганец, які паведаміў, што ў раёне Слабадскога лесу не было ніякіх партызан. Насельніцтва гаворыць, што немцы як толькі ўвайшлі ў лес і адкрылі стральбу, так і не спыняліся страляць, а ў чым прычына — ніхто не ведае. Дапускаюць, што яны прачэсваюць лес. Сілы праціўніка — да палка пяхоты. Камандуе карнікамі палкоўнік фон Грабер, які быў у генерала Людвіга Клозе начальнікам штаба. Калі разведчык ужо быў на шашы, у раёне Слабадскога лесу пачуліся выбухі.

Нарэшце на ўзмыленым кані, з рота якога камякамі падала пена, падскакаў начальнік разведкі, ён далажыў камбрыгу, што на правым беразе рэчкі Беразнянкі спалены вёскі: Прысады, Каласы, Дубрава, Махавец і Стары Бор. Амаль усё насельніцтва вёсак знішчана, толькі адзінкі ўцалелі. Немцы ўсю ноч у Слабадскім лесе вялі непакоячы агонь, цяпер жа апрацоўваюць [redacted] самалётаў.

— А самае галоўнае,— дакладваў начальнік разведкі,— намі захоплены веставы з данясеннем у штаб корпуса, дзе гаворыцца, што: «У ноч з 29 на 30 лістапада 1942 года разбіты асноўныя сілы брыгады Гарашчэні. Прадаўжаем знішчаць разрозненыя групы».

— Ха-ха-ха! — голасна зарагатаў камбрыг.— Пакажы!

— Калі ласка.

Камбрыг з начальнікам штаба прачыталі данясенне фон Грабера і Гросшулера.

— Ну і манюкі! — смяяўся Гарашчэня.— Што ж, прыйдзецца ім давесці, што мы яшчэ жывем і доўга будзем жыць.

Раніцою партызаны пайшлі ў наступленне. Яны адкрылі ўраганны агонь. Завязаўся гарачы кровапралітны бой, які цягнуўся больш за дзве гадзіны. Не вытрымалі эсэсаўцы, кінуліся ўцякаць. Прыціснутыя да рэчкі, немцы пускаліся ўплаў. Ім удагонку пасылалі кулі. Карнікі ішлі на дно. Партызаны Шпакоўскага захапілі ў палон палкоўніка фон Грабера. Па дарозе ў штаб брыгады палкоўнік фон Грабер спрабаваў уцячы. Яго прыстрэлілі. У палкоўніка знайшлі няскончаны чарнавы накід данясення ў штаб экспедыцыйнага корпуса: «На левым беразе рэчкі, Беразнянкі, у Слабадскім лесе, вядзем няроўны бой з рэшткамі разбітай брыгады Гарашчэні і падаспеўшым злучэннем Гушчына... Тэрмінова шліце падмацаванне...» Шпакоўскі нічога не сказаў партызанам, але, калі атрымаў ад камбрыга наганяй, пачаў сварыцца.

— У каторы раз вы мяне падводзіце? — пытаўся Шпакоўскі ў партызана.— Гэта ж быў сам фон Грабер...

— Вінаваты,— панурыў галаву партызан.— А толькі не падумайце благога, гэты самы фон сапраўды ўцякаў... Дык хіба ж я яго выпушчу!..

— Камбрыг добра намыліў мне шыю,— прызнаўся Шпакоўскі.— Глядзіце, каб гэтага больш не было!..

— Пастараюся,— прасіўся партызан.

— Добра, ідзіце!

Так «разбітыя» гарашчэнеўцы дубасілі немцаў. Адзін эсэсавец, уцякаючы, крычаў: «Партызан раззлаваўся! Капут!» Немец зароў, калі яго зваліла меткая партызанская куля. Ён курчыўся, сутаргава абдымаючы зямлю.

Падагульняючы на нарадзе камандзіраў атрадаў праведзеную аперацыю ў Слабадскім лесе, камбрыг даў ацэнку: «Добра» — а гэта вельмі рэдка бывала.

— Бой быў параўнаўча кароткім, імклівым, знішчальным,— заключаў камбрыг Гарашчэня.— Але ў атрадзе Шпакоўскага яшчэ ёсць анархіствуючыя элементы, з гэтым трэба раз і назаўсёды скончыць.

— Ёсць,— падцягнуўся Шпакоўскі.— А толькі палкоўнік фон Грабер сапраўды быў забіты пры спробе ўцячы. Гэта мною ўстаноўлена. Не выпускаць жа яго...

— Яшчэ чаго не хапала! — усклікнуў камбрыг.— Але ж можна было толькі падстрэліць...

Гарашчэнеўцы з перамогай вярталіся на базу.

## 40

У разгары была другая ваенная зіма. У брыгадзе Гарашчэні ішоў мітынг, калі туды з'явіўся прадстаўнік ЦК Васіль Мікалаевіч Азаркевіч. Мітынг, скліканы з прычыны паспяховага завяршэння ліквідацыі акружаных пад Сталінградам варожых войск. Камбрыг Гарашчэня толькі што зачытаў загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага па войсках Данскога фронту ад 2 лютага 1943 года.

— Ура-а! — пракацілася па лесе, скаланулася галлё на дрэвах ад шапак, якія ўзляцелі ўгару, пасыпаўся за каўняры партызанам снег.

Лікавалі людзі, прыйшло свята і на іх вуліцу. На мітынгу былі не толькі партызаны, але і сяляне, жанчыны з дзецьмі, якія знаходзіліся пад аховай партызан. Заўважыўшы таварыша Васіля, людзі падхапілі яго на рукі, яны ведалі, што ён цяпер замяняе таварыша Сяргея, які загінуў смерцю храбрых. Партызаны прасілі таварыша Васіля сказаць некалькі слоў.

— Дарагія таварышы! — усхвалявана пачаў Васіль Мікалаевіч.— Сёння яшчэ мы добра не ўяўляем, якое вялікае значэнне мае перамога Чырвонай Арміі пад Сталінградам, у гэтай найвялікшай у гісторыі войн бітве. Недарма немцы абвясцілі на тры дні жалобу. Слава Сталінграда не памеркне ў вяках.

Доблесная Чырвоная Армія атрымала перамогу над нямецка-фашысцкімі войскамі пад Сталінградам, на Доне, на Паўночным Каўказе, у раёне Вялікіх Лук, на

ўсход ад Ладажскага возера. Пачалося выгнанне нямецкіх акупантаў за межаў нашай Радзімы. Пройдзе час, і наша краіна будзе вызвалена ад гітлераўскіх захопнікаў.

Паклянемся, таварышы, падвоіць, патроіць нашы намаганні, каб памагчы Чырвонай Арміі хутчэй вызваліць наш народ з няволі.

Камуністычнай партыі — слава!

— Слава, слава, слава! — падхапілі партызаны.

Яшчэ доўга ў той марозны вечар не разыходзіліся партызаны, абмяркоўваючы падзеі на франтах. Перамога Чырвонай Арміі пад Сталінградам магутным рэхам пракацілася па лясах Беларусі, па ўсёй краіне, па ўсім свеце, узнімаючы народы на барацьбу з чорнымі сіламі фашызму.

Васіль Мікалаевіч і Гарашчэня зайшлі ў зямлянку, Марыйка частавала іх чаем з чорнымі сухарамі. У Гарашчэні не было чаго курыць, Васіль Мікалаевіч даў яму васьмушку махоркі. Гарашчэня, зрабіўшы цыгарку, смачна зацягнуўся. Яны гаварылі аб узмацненні партызанскай барацьбы.

— Настаў такі час, калі вы, Рыгор Сцяпанавіч, павінны стаць поўным гаспадаром у сваім раёне,— сказаў Васіль Мікалаевіч.— Трэба паралізаваць работу чыгункі, для гэтага ў вас ёсць поўная магчымасць. Неабходна толькі гэтую магчымасць ператварыць у сапраўднасць.

Пераначаваўшы ў гарашчэнеўцаў, раніцою Васіль Мікалаевіч рушыў у дарогу.

## 41

— Вось гэта і будзе «Малая зямля»,— ідучы поруч з Васілём Мікалаевічам, гаварыў бацька Тарас.— З таго часу як Сяргей Паўлавіч арганізаваў у нас партызанскі атрад, тут ні адна варожая нага не ступала. Жывем па савецкіх законах.

І сапраўды, толькі яны перайшлі рэчку, як зусім змяніўся пейзаж. Замест вузкіх палосак тут былі шырокія калгасныя палі. Сцяною стаялі жыты, вышэй чалавечага росту, хвалямі пераліваючыся на сонцы. Цвіла грэчка, далёка разносячы свае пахі, дзынкалі пчолы, пералятаючы з кветкі на кветку. Насустрач

Васілю Мікалаевічу з Тарасам трушком на мышастым коніку ехаў чалавек. Параўняўшыся, чалавек прытрымаў каняку, пакланіўся.

— Куды, Міхале, сабраўся? — спытаў бацька Тарас.

— Да кума трэба было б з'ездзіць, інтэрас маю.

— Гавары, гэта свой чалавек,— паглядзеў на Васіля Мікалаевіча бацька Тарас. Уражанне было такое, што размаўляе старшыня калгаса з бухгалтарам.— Гэта таварыш Васіль.

— У разведку,— паведаміў Чыж, разглядаючы Васіля Мікалаевіча.

— Што-о? — здзівіўся Васіль Мікалаевіч.

— Гэта наш начальнік разведкі,— тлумачыў бацька Тарас.

— Зусім не падобны на камандзіра.

— Вось гэта і добра!

— Брыгадзіру памагаў працадні падлічваць,— няёмка адчуваў сябе Чыж, ён зняў з-за вуха карандаш і схаваў у кішэню,— але ў Ніве з'явілася нейкая навалач, камандзір роты паведаміў мне. Можна ехаць?

Чыж тузануў мышастага, той паволі скрануў з месца, заскрыпелі нямазаныя колы. Хутка затарахцелі калёсы, падымаючы пыл, які адносіла ўбок. Васіль Мікалаевіч з бацькам Тарасам ішлі па прасёлкавай пясчанай дарозе ў напрамку да хвойніку.

— Дык як, па-ранейшаму стаім на рубяжах сваёй тэрыторыі? — іранізаваў Васіль Мікалаевіч.

— Выправілі памылку, таварыш Васіль Мікалаевіч,— збянтэжыўся бацька Тарас.— Сяргей Паўлавіч нас было пахваліў, дык у нас і закружылася галава. Вялікая справа крытыка! Пакрытыкавалі нас, дык мы зноў сталі на грунт. Хочам навярстаць страчанае. Памог Гарашчэню ў Беразнянцы граміць карнікаў. На «жалезку» штоноч ходзім. Вось толькі ніхто не заўважае... Па-ранейшаму кепікі строяць...

— Хто?

— Суседзі. Гарашчэнеўцы. І цяпер нас завуць «мужычкамі»... А гэтыя «мужычкі» на сваім рахунку маюць...

— Ведаем,— усміхнуўся Васіль Мікалаевіч.— Магу вас парадаваць, вы ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

— Праўда? — узрадаваўся бацька Тарас.

— Так.

— Дык я цяпер свет перавярну...

— Гэтага не трэба рабіць, няхай сабе стаіць, але...

— Але мы ўдзесяцярым нашу барацьбу,— запэўніў бацька Тарас.— Паглядзіце, чаго варты «мужычкі»!..— і тут жа спытаўся: — А як, хлопцы, маюць што?

— Хто што заслужыў, тое і мае.

Яны некаторы час ішлі моўчкі. Наляцеў вецер, абдало іх пылам. Бацька Тарас быў каранасты, ішоў, перавальваючыся з нагі на нагу, увесь абросшы барадою. Твар бацькі Тараса быў бронзавы, барада на сонцы парыжэла, вусы крыху падпалены. Васіль Мікалаевіч рослы, чысты, паголены, у плячах «сажань». На ім ні адна рубашка не вытрымлівала.

— Дзе мелі рубашку парваць? — парушыў цішыню бацька Тарас.

— Ніткі гнілыя, распаўзлася.

— Не, па жывым месцы.

— То, мусіць, крамніна доўга ляжала, не мае мацунку.

— Ці не плечы толькі вінаватыя?!

— Можа, і яны.

— Дык мо зойдзем на склад, пераадзенецеся?

— Адкуль у вас адзежа?

— А мы ў апошні час знаходзімся на забеспячэнні Адольфа.

— Каго, каго?

— Адольфа Гітлера.

— А-а-а.

— Помніце, мы неяк вам паскардзіліся, што абнасіліся, дык вы сказалі — пераходзьце на забеспячэнне немцаў. Цяпер усяго ў нас хапае,— бацька Тарас хітра паглядзеў на Васіля Мікалаевіча і спытаўся: — А можна нам Савецкую ўладу пашырыць?

— Як гэта?

— Ну, перайсці рэчку, якая да гэтага часу была рубяжом.

— Даўно пара. Не толькі можна, а неабходна. Раю вам гэта зрабіць.

— Будзе зроблена! — радасна ўсклікнуў бацька Та-

рас.— Цяпер мы пакажам гарашчэнеўцам, чаго мы варты.

— Спаборнічаць, калі ласка, а толькі не падстаўляць адны адным ножку.

— Не-е.

На скрыжаванні дарог яны сустрэліся з «касцамі» і «грабцамі», тыя весела балагурылі, але, як угледзелі бацьку Тараса з незнаёмым чалавекам, сцішыліся.

— Дазвольце далажыць,— рапартаваў, падбегшы да бацькі Тараса, старэйшы «касец».— У Мохаўцы немцы, у колькасці трыццаці чалавек, прыехалі нарыхтоўку праводзіць. Наша задача — іх знішчыць.

— Чым жа вы будзеце іх біць? — пытаўся Васіль Мікалаевіч.— Рызыкоўна з голымі рукамі.

— Гэта ўсё аўтаматчыкі,— паведаміў бацька Тарас.— А толькі зброя пахавана. Бачыце, якія ў іх гарбы, як у вярблюдаў. Ну што ж, «мужычкі», працы гонар! Аб выкананні далажыць.

— Ёсць, далажыць,— нязграбна казырнуў старэйшы «мужычок» і, павярнуўшыся, скамандаваў: — За мною, марш!

«Касцы» моўчкі прайшлі каля бацькі Тараса з Васілём Мікалаевічам, высока трымаючы галовы, чаканячы крокамі. Правёўшы іх вачыма, задаволены бацька Тарас, у яго на вачах можна было прачытаць: «Бачылі, якія арлы!», далей рушыў з Васілём Мікалаевічам. Пякло сонца. Праз некаторы час яны апынуліся на сенажаці. Пахла мурагом. Жанчыны грэблі сена, мужчыны падносілі копы да стагоў. Спорылася праца. І бацька Тарас з Васілём Мікалаевічам, парасшпільваўшы кашулі, насілі сена. Прывыкшыя да працы людзі з ахвотаю зграбалі сена. Васіль Мікалаевіч так захапіўся падношваннем коп, што і не заўважыў, як сонца схавалася за лесам. Раптам пачуўся сігнал трывогі. Аддзяліліся дзеці і старыя. Замест грабляў у руках у людзей аказалася зброя: аўтаматы ўсіх марак, мінамёты, вінтоўкі, кулямёты і нават палявая пушка.

— Што такое? — занепакоіўся Васіль Мікалаевіч.

— Зараз даведаюся,— адказаў бацька Тарас.

Да бацькі Тараса падбег старшыня аднаго з калгасаў «Малой зямлі», які далажыў:

— Таварыш камандзір! Разведка данесла, што немцы рыхтуюцца акружыць «Малую зямлю». Ідуць вялі-

кія сілы. У Беразнянку прыйшла нейкая новая часць, гарашчэнеўцы з ёю вядуць бой. У Мохаўцы не нарыхтоўшчыкі, як меркавалі, а разведка 703 эсэсаўскага палка. «Грабцы» с «касцамі» яе амаль усю знішчылі.

— Як? — зазлаваў бацька Тарас.— І «языка» не ўзялі? Колькі разоў я гаварыў!

— «Языка» вядуць.

— Добра.

— У Ніве танкеткі.

— Да Гарашчэні паслалі сувязнога?

— Так.

— А ад іх ёсць?

— З хвіліны на хвіліну чакаем,— паведаміў старшыня і спытаўся: — Што загадаеце рабіць?

— Будзе работа,— хітрыў бацька Тарас.

У вачах у бацькі Тараса гарэлі агеньчыкі, выспяваў нейкі план. Ён стаяў, поўны рашучасці. Мірны, стары чалавек, беспартыйны, хоць ён сябе лічыў бальшавіком, стаў ваяводам. Васіль Мікалаевіч на яго збоку паглядаў, любуючыся ім. Дастаўшы з планшэткі карту, нахіліўшыся над ёю з Васілём Мікалаевічам, бацька Тарас пачаў разглядаць, зазначыўшы:

— Гм... Хочуць акружыць! Вырашылі з «Малою зямлёю» скончыць? Зубы паломяць! А мы тут рассячэм. І будзем біць... па частках. Так веніка не зломіш, а па вецвейку... Баі пад Масквою і Сталінградам паказалі, што не такія страшныя фашысты, як іх малююць! Сваю зямлю адстаім! Паклікаць да мяне камандзіраў!

Пачулася стральба, гэта ніўскія партызаны з брыгады бацькі Тараса пачалі бой з карнікамі. Стральба нарастала, пачуліся стрэлы гармат, бой разгараўся жорсткі, ішла барацьба за родныя гоні, за сям'ю, за радзіму.

42

— Ну, здаецца, гэты месяц папрацавалі няблага,— разважаў Васіль Мікалаевіч, седзячы на пні, пад стромкай сасной, дыхаючы пахамі смалы, якая жоўтымі пацеркамі сцякала з дрэва.— Фашысты будуць ведаць, што такое «Рэйкавая вайна»... Мяркую, што сёе-тое і мы зрабілі, каб памагчы Чырвонай Арміі выйграць бітву на Арлоўска-Курскай дузе... Аднак, што мы дало-

жым начальніку Штаба партызан? Ён патрабуе весткі аб нашай дзейнасці за жнівень месяц. Прыйдзецца членам абкома самім ісці па брыгадах...

Пачуўся конскі тупат, падскакаў на белакапытым жарабку камбрыг Гарашчэня. Ён лёгка саскочыў, аддаў повад ардынарцу, а сам падышоў да Васіля Мікалаевіча, які сядзеў разам з членамі абкома.

— Весткі за жнівень месяц прывезлі? — замест адказу на прывітанне спытаўся Васіль Мікалаевіч.

— Яшчэ штаб не падагуліў,— збянтэжыўся Гарашчэня.

— Заўсёды вы позніцеся, а мне за вас чырванеі.

— Да мяне трапіў адзін дакумент, у якім хоць не поўна, але гаворыцца аб дзейнасці партызан,— паведаміў Гарашчэня.

Ён перадаў перахопленую справаздачу камандзіра корпуса ўскраінных войск цэнтральнай армейскай групы праціўніка, адрасаваную ў Стаўку Галоўнакамандавання і датаваную 31 жніўся 1943 года за № 172141, у якой паведамлялася:

«Партызанамі... праведзена аперацыя небывалых памераў па зрыву нямецкага падвозу шляхам планамернага і нечаканага парушэння чыгуначных зносін. 6.784 узрывы за першыя дзве ночы жніўня на ўчастку корпуса. Лік удаўшыхся ўзрываў рэек у сярэдзіне жніўня павялічыўся да 15 тысяч, а да канца месяца дасягнуў 20.101».

У загадзе гэтага ж камандзіра корпуса, участак якога складаў не больш адной чацвёртай часткі Беларусі, адзначалася:

«За жнівень 1943 года на тэрыторыі, занятай корпусам, адбылося 663 агнявых баі, нападаў на населеныя пункты 898, нападаў на войскі 513. Усяго 1.411 нападаў. Знішчана 23 бургамістры... зроблена 194 узрывы на шасейных дарогах, узарвана 125 мастоў, пашкоджана 105 ліній сувязі».

Адарваўшыся ад чытання, Васіль Мікалаевіч з усмешкай прагаварыў:

— А мы, здаецца, яшчэ не павіталіся?

І яны моцна пацiснулі адзін аднаму рукі.

— Не падумайце толькі, што гэта аднаго вас работа,— прыжмурыў вока Васіль Мікалаевіч.

— Ніколі, але львіная доля мая,— зазначыў Гарашчэня.

— Так,— згадзіўся Васіль Мікалаевіч, хоць ён не зусім зразумеў намёк камбрыга.— Вашы хлопцы папрацавалі на славу. Ну што ж, як кажуць: вялікаму караблю вялікае і плаванне. А адносна справаздачы вы ўсё ж патурбуйцеся, каб своечасова была дастаўлена.— Васіль Мікалаевіч паглядзеў убок.— Унь бацька Тарас сваю справаздачу вязе.

На стаенніку, светла-шэрым у яблыкі скакуне, у размаляванай брычцы, на якой да вайны, будучы старшынёю калгаса, Тарас ездзіў у раён,— цяпер бацька Тарас прыехаў у падпольны абком партыі. Угледзеўшы Гарашчэню, бацька Тарас скрывіўся. Ён меркаваў, што першым прывёз справаздачу, а выходзіць, што сусед зноў абагнаў. Бацька Тарас за кантар прывязаў стаенніка, расцугляў, падкінуў канюшыны і пайшоў. Разагрэты стаеннік ніяк не мог супакоіцца, ён іржаў, біў капытамі зямлю. Бацька Тарас падышоў да Васіля Мікалаевіча, прывітаўся:

— Добры дзень!

— Дзень добры! — адказаў Васіль Мікалаевіч. Заўважыўшы, што бацька Тарас з усімі членамі абкома павітаўся, а Гарашчэні нібы не заўважыў, Васіль Мікалаевіч звярнуўся да старога: — А вы хіба, бацька Тарас, з Рыгорам Сцяпанавічам незнаёмы?!

— Можна спаборнічаць, але навошта падстаўляць ножку,— злосна прамармытаў бацька Тарас.— Ён жа пэўна ехаў каля мае гаспадаркі і яе абмінуў, а ўсё таму, каб быць першым. А хто «Малую зямлю» мінае, з тым я знацца не хачу... Маёй хаты ніхто ніколі не цураўся... Вялася скварка і чарка... Для добрых, вядома, людзей...

У тоне бацькі Тараса адчувалася крыўда, Васіль Мікалаевіч з Гарашчэнем пераглянуліся. Бацька Тарас, хвалюючыся, дастаў з кішэні гімнасцёркі паперы і перадаў іх Васілю Мікалаевічу, зусім не заўважыўшы, што там была асабістая запіска. Разгарнуўшы памятую запіску, якая зусім сцерлася, Васіль Мікалаевіч ледзь яе расчытаў: «Калі мяне заб'юць у баі, прашу лічыць камуністам. Бацька Тарас». Васіль Мікалаевіч перадаў яе Гарашчэню. Яны мнагазначна па-

глядзелі адзін на аднаго. Васіль Мікалаевіч усміхнуўся:

— Вось бачыце, Рыгор Сцяпанавіч, вы яшчэ нават не сабралі вестак, а бацька Тарас іх даставіў... Бярыце з яго прыклад!..

— Не сабраў,— ажывіўся бацька Тарас.— Хоць раз я яго абскакаў!

— Я ехаў сюды са станцыі Сакалінае, там у нас была гарачая работа, грамілі штаб корпуса ўскраінных войск цэнтральнай армейскай групы праціўніка,— нібы між іншым гаварыў Гарашчэня, але сумысле гласна, каб пачуў бацька Тарас.— Ой, было работы!.. Знянацку наскочылі... па-сувораўску... партызан чакаюць в лесу... а мы з чыстага поля наляцелі...

— Тады прабач,— павярнуўся да яго бацька Тарас і, падаўшы яму руку, хітра загаварыў: — А толькі што да тваёй львінай долі ў «Рэйкавай вайне», дык я зусім не пярэчу... Справядлівасць патрабуе сказаць, што калі выступілі твае рэзервы з аўтаматамі, рыдлёўкамі і піламі, дык здавалася, што выйшла на рэйкі ўся Беларусь, ва ўсёй сваёй красе і велічы... У каго ні запытаеш, хто вы,— гарашчэнеўцы... Гэта ж вас толькі па старой звычцы завуць — брыгадай... А на самай справе — вы цэлае злучэнне... Праўда, меншае, як у Гушчына, Былінскага, але...

— То і ты са сваімі «мужычкамі» добра папрацаваў,— усміхнуўся Гарашчэня.— Бачыў я тваю работу — чыстая. На дзесяткі кіламетраў чыгунка аголена, нават шпалы спалены.

Бегла прачытаўшы справаздачу бацькі Тараса, Васіль Мікалаевіч устаў і, звярнуўшыся да старога, сказаў:

— Віншую вас, бацька Тарас, з ваеннай удачай.

— Служу Савецкаму Саюзу,— падцягнуўся бацька Тарас.

— А як ты, бацька Тарас, глядзіш адносна ўступлення ў партыю? — спытаў Гарашчэня.

— Уступлення ў партыю? — перапытаў бацька Тарас. У яго загарэліся вочы, і ён адказаў пытаннем: — А ці даў бы ты мне рэкамендацыю?

— Дам.

— А ў вас я не адважваюся прасіць,— звяртаючы-

ся да Васіля Мікалаевіча, усхвалявана гаварыў бацька Тарас.

— І я дам,— адказаў Васіль Мікалаевіч і, беручы з рук Гарашчэні памятую запіску, спытаўся: — Доўга вы яе носіце ў кішэні?

— Амаль з самага пачатку вайны,— не разумеючы, як трапіла да іх гэтая запіска, прагаварыў бацька Тарас.— Уступіць у Камуністычную партыю — гэта была мая запаветная мара. Я некалькі разоў парываўся перш з нябожчыкам таварышам Сяргеем, а потым з вамі пра гэта гаварыць. Але ўсё лічыў, што я нічога такога не зрабіў, каб быць членам партыі.

— Як так! — запярэчыў Васіль Мікалаевіч.— Вы шмат зрабілі. Не трэба прыбядняцца...

— Дык сённяшні дзень будзе для мяне днём майго другога нараджэння,— хваляваўся і радаваўся бацька Тарас.— Нарэшце, хоць на старасці год, збыл... мая мара...

— Ну, а што новага твае «мужычкі» з Мінска прынеслі? — пацікавіўся Гарашчэня.

— Астроўскаму так і не ўдалося стварыць войска беларускае, ніхто не хоча ісці служыць Гітлеру,— паведаміў бацька Тарас.— А яшчэ — пагаварваюць аб стварэнні так званай Беларускай Цэнтральнай Рады...

— Значыць, фашысты адчуваюць свой крах,— разважаў Васіль Мікалаевіч.— Так было ў 1918 годзе, кайзер Вільгельм II толькі тады даў дазвол на ўтварэнне так званай БНР, калі адчуў, што яму ў Беларусі не ўтрымацца... Так і цяпер Гітлер дазволіць ства...ць так званую БЦР толькі перад сваім выгнаннем з Беларусі... Вывад — яшчэ мацней біць як нямецкіх захопнікаў, так і іх паслугачоў беларускіх буржуазных нацыяналістаў...

Да лесу, у якім змяшчаўся падпольны абком партыі, з'язджаліся камандзіры атрадаў, брыгад, каб зрабіць справаздачу за месяц аб «Рэйкавай вайне», што праводзілася па спецыяльнаму ўказанню начальніка Штаба партызан, якому цяпер патрэбна было даць звестку. Нарэшце з'явіўся начштаба брыгады Гарашчэні, ён прывёз патрэбныя матэрыялы.

Ветліва прымаў шумны лес народных мсціўцаў, якія памагалі Чырвонай Арміі ў бітве пад Курскам паставіць нямецка-фашысцкую армію перад катастрофай.

## 43

Хутка прайшло лета. Для партызан гэта самая лепшая пара года. Дзе хочаш, можаш пераначаваць: у чыстым полі, каля рэчкі пад ракітай, у лесе пад елкай. Надышла зіма, трэцяя ваенная зіма. Цяпер нямецкія гарнізоны стаялі галоўным чынам па гарадах. Але і туды прабіраліся партызаны, калі гэта трэба было. Немцы калі і ездзілі па вёсках, дык толькі вялікімі групамі. З'явіліся цэлыя партызанскія раёны, у якіх народныя мсціўцы былі поўнымі гаспадарамі.

Лютавала зіма.

Круціла, мяло, засыпала снегам вочы, свету белага не відаць было. Аднак Васіль Мікалаевіч мусіў ісці з Беразнянкі, бо яму нельга было далей тут аставацца. Хто трапляў у СД, той назад не вяртаўся. І ісці Васіль Мікалаевіч быў змушан адзін, каб не выклікаць падазронасці. Калі немцы сустракалі двух-трох чалавек разам, адразу затрымлівалі.

Завывалі лютаўскія вятры.

Пад поўнач Васіль Мікалаевіч апынуўся ў лесе. Крыху сціхшэла. АгляНуўшыся, ён угледзеў аганькі. «Няйначай, ваўкі»,— мільганула думка. Яно так і было. У Васіля Мікалаевіча валасы дыбкі сталі. Ён схапіўся за рэвальвер, але, успомніўшы апавяданне свайго дзеда, астыў.

Дзед Васіля Мікалаевіча служыў у лейб-гвардыі драгунскім палку.

«Аднойчы,— апавядаў дзед унуку,— на казака напалі ваўкі. Казак, выхапіўшы шаблю, адняў ваўчыцы галаву. Раззлаваліся ваўкі, разарвалі на кавалкі ваўчыцу, звалілі казацкага скакуна, данскога рысака,— казак на сваім кані ездзіў з ветрам навыперадкі,— і самога казачыну ўлажылі. Праз некалькі дзён у снезе знайшлі казакову шапку, пераламаную напалам вострую шаблю і шматок маладзецкай казаковай чупрыны».

Успомніўшы апавяданне дзеда, які гаварыў, што ваўкі баяцца агню, Васіль Мікалаевіч пачаў чыркаць запалкі. Яны на ветры тухлі. Ляскалі зубамі раззлаваныя ваўкі, насядалі.

Церушыў снег, слепячы вочы. Пасля поўначы пачалася адліга. На Васілю Мікалаевічу — ён быў цёпла апрануты, у добрым сялянскім кажуху з вялікім каў-

няром, туга падперазаны папругаю, у ладных валёнках,— рубца сухога не было.

Ужо [redacted] кіламетр Васіль Мікалаевіч ішоў у суправаджэнні звяруг, а лесу канца-краю не відно было. Стаялі стройныя сосны, кашлатыя елкі, каржакаватыя дубы, плаксівыя бярозы, крохкія алешыны, частаколам рос арэшнік. «Вось дзе мая пагібель»,— падумаў Васіль Мікалаевіч. У гэты час ваўчыца заскуголіла, завылі ваўкі. Васіль Мікалаевіч падаўся назад і, не заўважыўшы яловай галіны, зачапіўся шапкаю. Яна зляцела з галавы.

Толькі Васіль Мікалаевіч хацеў нагнуцца, каб падняць шапку, як, зайшоўшы збоку, воўк, зрабіўшы скачок, ледзь не ўхапіў за кажух. Ваўкалыга ад злосці заляскаў зубамі, нібы паддаючы азарту іншым, менш спрактыкаваным ваўкам. Ён ужо, мусіць, не аднаго каня злажыў, а колькі жарабят парэзаў — і ліку не было. Да яго кінуліся меншыя ваўкі, відаць, майстры цягаць авечак.

Не вытрымаў Васіль Мікалаевіч. Ён, зусім не цэлячыся, пусціў два стрэлы ў гайню, зваліўшы нейкага нягеглага ваўка. Вось тут і пачалося: у адзін міг ваўкі растрыбушылі забітага. Васіль Мікалаевіч тым часам так драпануў з векавой дубровы, што выскачыў на прагаліну і на некаторы час адарваўся ад гайні.

Калі ваўкі па следзе зноў дагналі Васіля Мікалаевіча, збочыць нельга было, бо ляжалі гурбы снегу вышэй чалавечага росту. Ён, злаўчыўшыся, смальнуў па ваўчыцы, і тая, зароўшы, падвярнула пад сябе галаву. Тут пачалася барацьба чалавека са звярамі не на жыццё, а на смерць. Ваўкі, выскаліўшы зубы, кідаліся на Васіля Мікалаевіча. Ён расстраляў усе патроны, зваліўшы яшчэ некалькі ваўкоў. Але астатнія — не адставалі, яны сляпцом лезлі да яго.

«Ну ўсё, канец,— падумаў Васіль Мікалаевіч.— Не ўвабралі немцы, то ваўкі даканаюць». У гэты час воўк з разбегу рвануў Васіля Мікалаевіча за нагу. Цёпла стала ў валёнку. Воўк яшчэ больш раз'юшыўся. Васіль Мікалаевіч інстынктыўна выхапіў фінку, на якую зусім забыўся. Шэры мо на метр скокнуў, ударыўшы Васіля Мікалаевіча лапамі ў грудзі. Васіль Мікалаевіч, схапіўшы левай рукою ваўка за карак, правай распаласаваў фінкаю ваўкалыгу зверху данізу і моцным штур-

шком адкінуў ваўка ад сябе. Астатнія — адхлынулі.

«Ваўка, як фашыста, калі не абернеш, дык ён цябе зваліць»,— выціраючы рукавом пот на лбе, падумаў Васіль Мікалаевіч.

Ён выйшаў на лясную паляну. Скрыпела пад нагамі, над галавою відаць было зорнае неба — пад раніцу зноў браўся мароз. Прайшоўшы ляды, Васіль Мікалаевіч увайшоў у лес, яшчэ гусцейшы.

У першы раз за свае трыццаць пяць год Васілю Мікалаевічу захацелася хутчэй пакінуць лясное царства, прыгаством якога ён заўсёды захапляўся і ў якім адпачываў душою. Шумела векавая дуброва, спяваючы сваю адвечную песню. Нарэшце лес пачынаў радзець. Хутка Васіль Мікалаевіч выйшаў на поле. Паказаліся агні, кіламетрах у двух стаяла мястэчка Караеды, адкуль ён быў родам. Кажух на Васілю Мікалаевічу ўвесь быў падраны, абпэцканы. Ён, расперазаўшы папругу, распрануўшыся, гідліва кінуў яго ў бок ад дарогі. Памыўшы снегам рукі, Васіль Мікалаевіч пайшоў у адной ватоўцы. Цяпер толькі ён адчуў стому, нібы калоды варочаў. Да таго ж ныла нага. Васіль Мікалаевіч не хацеў заходзіць у мястэчка, там яго ўсе ведалі, але вымушан быў збочыць, бо да таго змогся, што далей не мог ісці.

Маці са слязамі радасці на вачах кінулася насустрач сыну, яна яго больш за дзесяць год не бачыла. З таго часу як ён скончыў вучыцца, стаў інжынерам, ажаніўся, дык пачаў радзей бываць дома.

— Дзе ж жонка? Як сын? — прайшла чутка, што яны арыштаваны, але маці пра гэта не сказала.

— У сваіх, пад Гомелем. Туды я іх завёз на дачу, за некалькі дзён да вайны. Там яны і жывуць.

Угледзеўшы на назе сына кроў, старая ледзь не абамлела. Васіль Мікалаевіч расказаў маці пра здарэнне з ваўкамі. Старая, сцягнуўшы валёнак, перавязала яму нагу. Накарміўшы сына яечняй з праснаком, напаіўшы гарачым малаком, маці папярэдзіла:

— Табе тут, дзіцятка, аставацца нельга. Некалькі разоў да нас прыходзіў бургамістр і пытаўся пра цябе.

— А хто тут бургамістрам? Свой сабака ці прывезены?

— Сымон Базылёвых,— паведаміла маці.

— Няўжо? От падлюга! Я ж з ім разам вучыўся. Ніколі б не паверыў, што гэты чалавек калі-небудзь падасца на сабачы хлеб.

Пачуўся стук у дзверы. Маці ад страху аж прысела. У хаце стала да таго ціха, што каб муха праляцела, і то было б чутно.

— Уваходзьце! — устрывожана запрасіў Васіль Мікалаевіч, ён падумаў: «Такі, мусіць, сёння мяне даканаюць... Ну і дзянёк!..»

— Дзень добры ў хату! — пераступіўшы парог, прывітаўся Сымон Базылёвых і, угледзеўшы здзіўленне на тварах, халодныя позіркі Васіля Мікалаевіча і маці, разгублена спытаўся: — Не чакалі?

— Прызнацца па праўдзе, не,— адказаў Васіль Мікалаевіч.

— Я вас даўно хацеў бачыць, некалькі разоў заходзіў да маці. Я ведаў, што вы былі ў Беразнянцы, працавалі пад імем таварыш Васіль. Вы там ужо былі асочаны, і вас павінны былі ўзяць, а толькі вы выслізнулі. Сёння ўначы атрымаў дэпешу, што вы адтуль зніклі.

Васіль Мікалаевіч устаў, закурыў. Накульгваючы, прайшоўся па хаце. Ён галавою амаль даставаў столь, а таму прыгінаўся, кінуў папяросу. Відаць было, што ён нерваваўся. Маці, склаўшы рукі на грудзях, маленькая, шчупленькая, ціхенька стаяла каля чалеснікаў, нечага чакаючы. Ніяк не верылася, што Васіль Мікалаевіч, такі мажны, яе сын.

— Па мяне прыйшлі? — хваляваўся Васіль Мікалаевіч.

— Паслалі,— паведаміў Сымон Базылёвых.— Усё СД пастаўлена на ногі...

— Дык знайце, я жывым не здамся!

— Ведаю ваш характар! Заступнік таварыша Сяргея варты свайго папярэдніка.

— Гэта ты, сынок, замяняеш таварыша Сяргея? — з замілаваннем паглядаючы на сына, спытала маці.— Людзі вельмі шануюць яго памяць. Крэмень, а не чалавек!

— І я хачу такім быць,— кальнуў вачыма бургамістра Васіль Мікалаевіч.

— Народ гаворыць, што вы ні ў чым таварышу Сяргею не саступіце: ні розумам, ні цвёрдасцю волі.

Васіль Мікалаевіч нічога на гэта не адказаў бургамістру.

— А каб ты бачыў, сынок,— загаварыла маці,— што ў нас рабілася. Усіх яўрэяў перабілі. Кат Макарэвіч вырываў абцугамі залатыя зубы, выварочваў скіўцы. Дзецям пераламлівалі хрыбты аб калені. Перартрэсліся ўсе. І няўжо вам, Сымонка, не балела сэрца?

— А чаго? Пан бургамістр напэўна памагаў немцам,— саркастычна заўважыў Васіль Мікалаевіч.

— А цяпер за беларусаў узяліся,— з болем у сэрцы працягвала маці.— Гэтулькі гіне людзей...

— А што пану бургамістру да гэтага,— растраўляў яго Васіль Мікалаевіч. Абы свая скура была цэлай...

— За каго вы мяне лічыце! — загарачыўся Сымон Базылёвых.

Зусім не рэагуючы на словы бургамістра, Васіль Мікалаевіч, блізка падышоўшы да яго, спытаўся:

— Што ж вы не бераце мяне? Баіцеся!

— Я хачу пагаварыць з вамі па душах, а вы не даецеся.

— А ці ёсць яна ў вас, пан бургамістр, гэтая самая душа?

— Вы маеце падставы са мною так гаварыць,— прызнаўся Сымон Базылёвых.— А толькі я не той, за каго вы мяне лічыце. Так, так. Не той!

Сымон Базылёвых задзёрыста, знізу ўверх, глядзеў на Васіля Мікалаевіча. Ён быў невялікага росту, тоўстым, дужым, па сваёй сіле амаль не ўступаў Васілю Мікалаевічу. Відаць было, што Васіль Мікалаевіч яго кальнуў у самае сэрца. У Сымона Базылёвых ад злосці раздзімаліся ноздры на яго пляскатым носе, ён гатоў быў схапіцца з Васілём Мікалаевічам і сілай давесці, што ён не той чалавек, за каго яго прымаюць.

— А хто ж вы? — грэбліва ўсміхнуўся Васіль Мікалаевіч.

— Чалавек!

— Аблічча чалавечае, а...

— Не! — перабіў Сымон Базылёвых.— Прызнаюся, я з Савецкай уладай часамі не мірыўся, мала гэтага, мяне аднойчы Савецкая ўлада пакарала, але ж гэта была бацькоўская перасцярога. Мая ўлада мяне і ка-

рала. А чаму я не мірыўся? Чаму? Здавалася, як гэта Янка будзе кіраваць Мікітам? Адно ж — нішто. Я доўга не ішоў у калгас. Боязна было. Як тое, як гэта, а там жонка, як дзяцел, дзяўбе. Але як пайшоў, то з гэтай дарогі не саступлю. Не-е! Немец навучыў мяне, як Савецкую ўладу любіць, як калгас шанаваць.

— А выходзіць, саступілі і апынуліся над абрывам, яшчэ адзін крок...

— Мяне пад руляй рэвальвера прымусілі быць бургамістрам,— гарачыўся Сымон Базылёвых.— Перад вайною я быў старшынёю калгаса. Ніхто дрэннага слова пра мяне не скажа. Калгас быў першым у раёне. А калі прыйшлі немцы, мяне завочна прагаласавалі быць старшынёю «абшчыны». Супраць народа не папрэш. А потым...

— Цікава, чаму гэты выбар выпаў на вас? — прыжмурыў вочы Васіль Мікалаевіч.— Мусіць, вы немцу спадабаліся.

— Бачу я, вы мне не верыце,— хваляваўся Сымон Базылёвых.— Што ж, ваша справа, а толькі я народу не здраджу. Не ўдасца немцу хоць якое каліва зерня ў мяне ўзяць. Спалю, а не дам. Я ўрос у сваю зямлю і сваю радзіму не прадам. Выходзіць, сустрэліся старыя сябры — памятаеце, разам вучыліся, кароў пасвілі,— пагаварылі і разышліся, як у моры караблі. Ну што ж, няхай будзе так. А толькі вы павінны ведаць, што маці вашу я ўратаваў.

— Як гэта?

— А так, калі немцы ўзялі вашу жонку і сына...

— Што-о? — пахіснуўся Васіль Мікалаевіч.— Ка-а-лі?

Васіль Мікалаевіч грузна сеў на лаву.

— А хіба вы не ведаеце? На тым тыдні. Яны хацелі і маці забраць, але я сказаў, што вы ніколі тут не бывалі. Як пайшлі малым у горад, дык зусім сюды не прыязджалі.

Васіль Мікалаевіч паглядзеў на маці.

— Праўда,— сцвердзіла старая.— І жонку тваю з дзіцем забралі, але я баялася сказаць...

— Не думайце, што ў вас усе чысценькія,— пайшоў у наступленне Сымон Базылёвых.— Вось хоць бы ўзяць камандзіра атрада Мамантава...

— Ён «дзікі»,— перабіў Васіль Мікалаевіч.

— Слухайце далей,— працягваў Сымон Базылёвых.— З самалёта скінулі радыста з апаратам для атрада Славінскага... Немцы наладзілі за радыстам пагоню... Я яго схаваў, а як бура мінула, накіраваў у бліжэйшы атрад... І што вы думаеце, Мамантаў, відаць, баючыся, каб масквіч (прозвішча — Шурыгін) яго не выкрыў, расстраляў хлопца... Мамантаўцы не з немцамі ваююць, а з сялянамі...

— На жаль, не адзін у нас Мамантаў сваволнічае, пасля вайны з імі разбярэмся...

Яны памаўчалі.

— Дык ведаеце, чаго я да вас прыйшоў?

— Чаго?

— Мяне прыслаў камендант даведацца, ці не было вас тут.

— Выходзіць, я не памыліўся.

— Як сабе хочаце, так і лічыце, мне цяпер усё роўна, а толькі маё сумленне чыстае, дзеці мае не ўпікнуць мяне, што я здрадзіў... Папярэджваю, пакуль не позна, ідзіце адсюль. Бачыце, як шалёнымі ваўкамі гойсаюць гітлераўцы, унь іх цэлая гайня. Сцеражыце сябе, вы патрэбны народу, таварыш Васіль. Вы сумленне партыі, так, так, а ў партыю я веру. Яна выведзе наш народ з гэтай вайны яшчэ больш згуртаваным, сцэментаваным. А што да мяне, дык жонка і дзеці ведаюць, хто я, і людзі ведаюць, я ім нічога благога не зрабіў і ніколі не зраблю. Бывайце здаровы! На вашым месцы і я такім бы быў. Ёсць яшчэ ў нас погань, лісцем сцелецца, а ўкусіць цэліцца, ёй нельга верыць...

Сымон Базылёвых, увагнуўшыся, прайшоў да дзвярэй, уздрыгануліся плечы, відаць было, што ён страшэнна перажываў недавер'е, і, не вытрымаўшы, заплакаў.

— Стойце! — спыніў Васіль Мікалаевіч.

— Прашу вас, хутчэй ідзіце адсюль, а то будзем разам вісець на шыбеніцы. Мяне ўжо некалькі разоў камендант гэтым страшыў. Ага, я чуў, што пасля таго, як злучэнне Гарашчэні перабазіравалася ўсходней, дык ніяк не могуць наладзіць забеспячэнне хлебам. То няхай мяне не мінаюць. Партызаны з брыгады Максіма ў мяне бралі хлеб. Некалькі соцень пудоў у мяне прыхавана. Дый мяса можна будзе падкінуць, каб падтрымаць хлопцаў пасля блакады. Хоць і каніну без солі

елі, але добра біліся! А вы мне не верыце. Я ж усё гэта раблю ад чыстага сэрца.

— Сынок, што праўда, то праўда, людзі нічога благога пра яго не гавораць,— умяшалася маці.— Яно, вядома, я разумею цябе, цяжка давяраць, але ж можна праверыць... Як на мяне, добра ведаючы яго жонку і дзяцей, дык я яму паверыла б, а ты як сам знаеш... На табе вялікая адказнасць... У нас усе людзі знаюць таварыша Васіля як заступніка таварыша Сяргея...

— За хлеб дзякуй, гарашчэнеўцам цяпер на новай базе сапраўды цяжка,— моцна паціснуў руку Сымона Базылёвых Васіль Мікалаевіч.— Партызаны гэтага не забудуць. Я шчыра рад, што ты, Сымон, астаўся чалавекам. Прабач, а я дрэннае пра цябе падумаў.

У хату без стуку ўскочылі два эсэсаўцы.

— Ён? — спытаў першы эсэсавец, звяртаючыся да бургамістра.

— Не,— адказаў Сымон Базылёвых.

— А хто? — запытаўся другі эсэсавец.

— Стараста з вёскі Капылы.

— А гэта яго маці? — пытаўся эсэсавец.

— Так. А толькі я ўжо казаў вашаму начальніку, што яна, калі даведалася, што ён камуніст, дык яшчэ далёка да вайны яго выраклася. Так што ён сюды ніколі не пойдзе, дарэмна яго тут шукаць.

— Дарэмна? — перапытаў эсэсавец.

— Так,— сцвердзіў Сымон Базылёвых.— Ён, даведаўшыся пра сям'ю, хутчэй за ўсё падаўся ў той бок, з надзеяй яе вызваліць.

— Гэта можа быць,— згадзіўся эсэсавец.

Яны абодва выйшлі.

Сымон Базылёвых павесялеў, што абвёў вакол пальца немцаў. Ён пасля размовы з Васілём Мікалаевічам акрыяў, нібы зваліў з плячэй вялікі груз, адчуў грунт пад нагамі. Развітаўшыся, яны ўмовіліся сустрэцца пры больш зручных варунках, каб пагаварыць, што далей рабіць. Сымон Базылёвых пайшоў акрылены, наважыўшы распачаць сапраўдную барацьбу супраць немцаў, каб тады, як прыйдуць нашы, у яго не тыцкалі пальцамі. Старая маці, благаславіўшы сына, праводзіла яго добрым позіркам.

Бургамістр, пасадзіўшы «старасту з Капылоў» на

нямецкую машыну, пажадаў яму шчасліва даехаць да мястэчка Вушачы. Яны развіталіся сябрамі. Васіль Мікалаевіч ужо быў на машыне, калі да Сымона Базылёвых падышоў працаўнік СД. Шафёр даў газ, Васіль Мікалаевіч памахаў рукою, бургамістр і працаўнік СД, кіўнуўшы галовамі, праводзілі яго. Машына павярнула на дарогу і знікла за паваротам.

## 44

І ўдзень і ўначы, не ведаючы стомы, тупаў дзед Архіп з сякераю каля млына: то ён застаўку зробіць, то кулак — млын у яго працаваў, як добра зладжаны механізм. А навокал млына быў пасыпаны жоўты пясок. Ён любіў пагаварыць з людзьмі, пачуць, што добрага на свеце, якія навіны, самому расказаць, што на сваім вяку бачыў і чуў. Млын стаў своеасаблівай яўкай, адкуль ва ўсе бакі цягнуліся сувязі з партызанамі.

Стаяў млын далёка ад дарог, на рэчцы Чылі, каля невялікага пасёлка Бровары. Млын быў абнесен, як шчыкетам, плакучымі бярэзінамі. Гэта Архіп у маладосці, калі быў млынаром у пана Цыбульскага, іх пасадзіў. Кожную вясну дзед Архіп ставіў дзесяткі бочак з бярозавым сокам і частаваў ім прыязджаючых сялян. Цяпер сок пілі партызаны. Далей рэчка была абсаджана вербамі, голле якіх нізка апускалася над вадою. Усё гэта рабіла млын казачным. На стрэхах яго парос зялёны мох.

Жыў дзед Архіп недалёка ад млына, у хаце, дзе калісьці кватаравалі панскія парабкі. Цяпер ён адзін займаў гэтую хаціну. Перад яго вокнамі ўзвышаўся магутны дуб, на версе якога гняздзіліся буслы.

Дзед Архіп быў увесь белы, як голуб. Толькі яго вусы крыху парыжэлі ад тытуню. Зімой і летам ён хадзіў у кажуху, падпераданы папругаю (на спражцы — двухгаловы арол), прынесенаю яшчэ з імперыялістычнай вайны. Па нядзелях дзед Архіп даставаў з свайго салдацкага куфэрка георгіеўскія крыжы — ён быў поўным кавалерам — і, заклаўшы рукі назад, спацыраваў каля млына ці хадзіў з вудачкаю лавіць рыбу. А то часам садзіўся на прызбу, тады каля яго круцілася чарада дзяцей, бо ведалі, што дзед Архіп будзе апавядаць пра свае ваенныя паходы. А яму было што

расказаць. Гэта ён, апалчэнец Архіп Бахрым, калі кайзераўскія войскі захапілі яго ў палон і прымусілі абвесці мазурскія балоты, каб зайсці рускім войскам у тыл, завёў нямецкі батальён у такую дрыгву, што мала хто адтуль выйшаў жывым, дый ён сам выпадкам уцалеў. Яго выцвілыя невялічкія блакітныя вочкі хітра ўсміхаліся. Дзеці асабліва любілі яго слухаць, калі ён расказваў казкі.

Аднойчы, калі дзед Архіп, выйшаўшы пры крыжах, сеў на прызбе, малыя яго прасілі:

— Дзядуля, раскажы нам што-небудзь.

— А што ж мне вам расказаць? — збіраўся з думкамі дзед Архіп.— Хочаце паслухаць казку пра самае моцнае слова на свеце?

— Просім! Просім! Просім! — наперабой крычалі звонкія дзіцячыя галасы, мосцячыся ў цяньку, каля векавога дуба.

Дзед Архіп задыміў цыгарку — у святочныя дні ён заўсёды курыў мультан, які меў прыемны пах,— і пачаў апавядаць:

«Калі фашысцкі зброд, як свінні, уварваўся ў савецкі агарод, і перш за ўсё ў нашу Беларусь, тады іхні самы галоўны, Гітлер сабачы, каб яго пярун, пачаў выхваляцца на ўвесь свет:

— Я і такі, я і гэтакі. Адным словам, няма такой сілы на свеце, якая б мяне адолела.

А тут зусім недалёка ад нас жыў каваль. Не сказаць, каб які быў асілак або волат, от сабе чалавек: і росту невялікага, і ў плячах не надта каб быў шырокі. Але, бывала, возьме падкову і ў руках разагне. Абрыдала яму слухаць Гітлераву брахню, дык ён і кажа:

— А каб ты так жыў на свеце, вылюдак няшчасны. Хваліўся і воўк, што ў жывога каня падковы здзярэ, але сам без зубоў астаўся. Будзе тое і Гітлеру-валацугу.

Дачуўся пра гэта Гітлер. Не спадабалася яму. Загадаў ён схапіць каваля і прывесці да яго:

— Чуў я, што ты ў маю сілу не верыш? Гэта ты той самы каваль і ёсць?

А што кавалю траціць. Чалавек, які ведае, што такое свабода, будзе ўсімі сіламі яе бараніць. Каваль ужо больш за дваццаць год пражыў раскутым.

— Той самы,— гаворыць каваль.— I мой дзед, і бацька хлеб-соль елі, а праўду ў вочы рэзалі. Яны гэта і мне рабіць загадалі. Ніяк не магу паверыць. I твой Гебельс,— кажа,— брэша, як мая старая сучка.

— Няўжо ж ты не чуў, што я другі Напалеон? — пытаецца Гітлер, вылупіўшы вочы, як баран перад новымі варотамі.

— Не, гэтага не чуў,— адказаў каваль,— а каб і чуў, дык не паверыў бы. Не так далёка ад нас, на рэчцы Бярозе,— гаварыў каваль,— Напалеон перасеў з свайго імператарскага каня ў мужыцкія сані, там яго нават шапка і рукавіцы асталіся. Ён ледзь уцёк адтуль. Яшчэ мой дзед яго салдат у рэчцы тапіў.

— Я,— кажа Гітлер, не слухаючы каваля,— выпраўлю памылку Напалеона, пахаваю Расію.

— А ў народзе,— гаворыць каваль,— бытуе такая прыказка: не кажы гоп, пакуль не пераскочыў. Ты Расію не пахаваеш, а вось мы фашысцкую Германію раструшчым.

— Я шмат дужэйшы за кайзера Вільгельма II,— хваліўся Гітлер.

— Не ведаю,— адказаў каваль,— не бачыў я, калі ты з кайзерам Вільгельмам II дужаўся. А каб і бачыў, дык не вельмі б спалохаўся: мой бацька і кайзера Вільгельма II біў, уцякаючы з Беларусі, кайзераўскі салдат напісаў: «Дай божа данесці ногі да Германіі».

— Дык хіба ты мае сілы не бачыў? — пытаўся Гітлер.— Браніраванага кулака? Дзе пройдуць мае салдаты, у калодзежах вада перасыхае, на палях трава не расце, людзі ў попел ператвараюцца.

— Мала адной сілы, патрэбен яшчэ і розум, а ў цябе яго бракуе. А які бацька, такія і сыны. Вецвійка ад дрэва недалёка адскочыла. Твае салдаты сапраўды знішчаюць людзей, але ўсіх не знішчыш. Трасцу!

Зарагатаў Гітлер:

— А на ліха мне той розум? Я і без яго амаль усю Еўропу забраў дый палову Расіі прайшоў.

— Прайшоў, гэта яшчэ не ўзяў. Паглядзім, як ты будзеш назад уцякаць. I хваробу б ты гэтулькі прайшоў, каб знянацку не наскочыў. Нехта даў зяўка...

— А чым жа вы такія моцныя, што так упэўнены ў сабе?

— А пра гэта,— адказаў каваль,— калі на табе

чэрці на тым свеце будуць смалу вазіць, дык спытаешся ў тых, каго мы білі. Іх многа набярэцца...

— У вас жа і саюзнікаў людскіх няма. Англічане і амерыканцы ваююць да апошняга рускага салдата,— ухмыляўся Гітлер.— Яны з вас смяюцца...

— Пад Масквою вам і без дапамогі саюзнікаў далі па карку,— гаварыў каваль,— пад Сталінградам надламалі хрыбет, пад Курскам усыпалі ў хвост і ў грыву... А неўзабаве будзем біць звера ў яго ўласным логаве... Смяецца той, хто смяецца апошнім...

— Адкуль у вас такая вера?

— Мы ведаем такое слова, калі яго скажаш, дык у ворага сілы ўбавіцца, а ў нас прыбавіцца.

Бачыць Гітлер, што гэты чалавек нічога не баіцца, значыць, сілу мае вялікую. І пачаў ён прасіць каваля:

— Скажы мне, якое гэта слова? Можа, яно мне спатрэбіцца? Я цябе азалачу!

— Савецкага чалавека за грошы не купіш. Слова гэта такой сілы, што павяртае рэкі цячы ў другі бок, горы разбівае, сухавеі спыняе, балоты асушвае, караблі ў паветра пасылае. Яно крэпасці разбурае, сон у ворага адбірае. Гэта самае моцнае слова на свеце.

І, не чакаючы больш, як крыкне каваль:

— За Радзіму! Ура-а!

Ад краю і да краю ўзняліся людзі.

Паўстала і наша Беларусь-партызанка. Ажылі яе векавыя лясы, загаманілі бары, загулі, напоўніліся ляснымі салдатамі. Зямля стала гарэць пад нагамі фашыстаў.

Прыкладзіце вуха да зямлі і вы пачуеце крокі нашай вызваліцельніцы Чырвонай Арміі. Яна ідзе, яна хутка прыйдзе».

Дзед Архіп скончыў апавядаць, дзеці сядзелі як зачараваныя.

— Дзедка, а ці скора да нас чырвоныя прыйдуць? — пытаўся хлопчык.

— Хутка,— адказаў дзед Архіп.— Чакай і ты прычакаеш, партыя Леніна не пакіне нас у няволі...

На другі дзень у рабочым адзенні дзед Архіп раненька ішоў да млына, навокал якога раскінулася сенажаць. Далёка бачны быў лес, які прытуліў мноства партызанскіх атрадаў. У апошні час лютавалі карнікі. Шмат якія атрады, брыгады і нават злучэнні вымуша-

ны былі перабазіравацца з захаду на ўсход. Да Броварскага млына з усіх бакоў цягнуліся падводы, везучы збажыну. Спяшаліся пячы хлеб, некаторыя атрады зноў падаваліся на захад,— такі быў загад. Дзед Архіп быў у курсе амаль усіх спраў. Ён шмат ведаў людзей. Знаў, хто чым дыхае, у каго што баліць, з кім пра што гаварыць, каго чым зацікавіць. Сказаўшы, каб першы, хто быў у чарзе, засыпаў у кош зерне, дзед Архіп пачаў закурваць. Каля млына раўло, бушавала, быў вялікі напор вады, далёка ляцелі ад кола пырскі, бісерам рассыпаліся, пенілася вада, кружыла. Да дзеда Архіпа падышоў селянін:

— Дзед Архіп! А калі мне змелеш?

— Змялю, табе не да спеху,— паглядзеўшы на партызана, які быў у сялянскай вопратцы, адказаў дзед Архіп.— Адкуль будзеш родам?

— Здалёку. Можа, чуў калі пра Азярышча?

— А як жа, чуў. Добрае далёка чуваць. А як у вас на новым месцы з хлебам?

— Блага.

— Пад паўдня засыплем. Та-а-ак. Ладная ў вас у Азярышчы была дзяўчына.

— Гэта хто?

— Наста Свірчэўская. Шкада, што не дачакалася прыходу нашых. Такіх бы людзей больш!

— Ага,— згадзіўся партызан.— Праглынуць запіску. Яшчэ і цяпер Пясецкі не можа сабе гэтага дараваць. Цікава, адкуль была тая запіска і што ў ёй пісалася? Ты, пэўна, ведаеш?

— Важная была запіска,— зазначыў дзед Архіп і таямніча дадаў: — Устаноўкі з Масквы. Разумееш!

— Вось яно што!

— Дык як, дзед Архіп,— адклікаўшы ўбок, пытаўся селянін з вёскі Кубрыкі, які збіраўся ад'язджаць,— дасі мне «Партызанскую дубінку»?

— Старая.

— Нічога.

— Пабажыся, што не скурыш, а, прачытаўшы, перадасі другому.

— Дальбог жа, не скуру.

— А партызанам баба хлеба спячэ?

— Аб гэтым і гаворкі не можа быць.

— Тады другі інтэрас,— дастаючы з-за пазухі часопіс, гаварыў дзед Архіп,— чую голас гаспадара.

— А дзе ты ўсё гэта бярэш?

— Сарока на хвасце прыносіць,— хітра адказаў дзед Архіп.— Не будзь бабай!

— Гледзячы ў каго якая баба. Мая баба дык ого, колькі яна перапякла партызанам хлеба. Смачнейшага хлеба ў Кубрыках ніхто за яе не спячэ. Не баба, а золата! Але такі каб у яе крыху быў карацейшы язык, дык не блага было б...

— Крутая ў цябе жонка, але гаспадыня добрая. Прадукты ніколі не сапсуе. Другая зварыць капусту, дык хоць ты на сабак вылівай. Важная справа — гаспадыня ў хаце! Бачыў, якая тут дырэктыва: «Прачытаў — перадай другому». Не дай бог даведаюся, што скурыў, галаву адкручу!

— Ты такі, я цябе ведаю,— ад'язджаў кубрыкавец.

— Дык глядзі ж, каб язык трымаў за зубамі!

— Будзь пэўны!

Да млына на ўзмыленых конях пад'ехаў караедаўскі бургамістр Сымон Базылёвых. Ён злосна паглядзеў на сялян, якія, не давяраючы яму, разыходзіліся ў розныя бакі. Не стаялі разгарачаныя коні, яны грызлі цуглі, білі капытамі зямлю.

— А-а-а, дзед Архіп! — крыкнуў Сымон Базылёвых.— Дзень добры!

— Невядома яшчэ, якім ён будзе,— падышоў дзед Архіп.— Але пакуль усё добра. Якім ветрам блізкі свет занесла?

— Па справах,— бургамістр ціха сказаў: — Выдасі гарашчэнеўцам дзвесце пудоў хлеба.— Сымон Базылёвых дадаў: — Перадасі ім, што Пясецкі ў Караедах, прыехаў мяне рэвізаваць.

— Добра.

— А як убачыш таварыша Васіля, дык скажаш, што на «кангрэс» у Мінск, які праводзіцца па распараджэнню новага гаўляйтэра генерала Готберга, я не паеду.

— Чаму?

— Доўга гаварыць.

— Усё ж.

— Гэта не «кангрэс», а адзін смех. Ніхто дэлегатаў

не выбіраў, склікаюць усіх нацыяналістаў. А я да іх не належу.

— Аднак там трэба быць свайму чалавеку.

— Я не магу, жонка і дзеці ўзнялі такі лямант.

— Дык жа мы нічога не будзем ведаць.

— А што там ведаць: Статут так званай БЦР, якая будзе ўтворана на гэтым зборышчы, распрацаваны Готбергам, па якім будучы «прэзідэнт» гаўляйтэрам прызначаецца і адхіляецца.

— Выходзіць, немцы зматваюць вудачкі?

— Няўжо ж.

— Добра, скажу. Але ён абавязкова захоча, каб там нехта быў. Цікава, як усё будзе абстаўлена...

— Ну, а як рыба? — цяпер голасна гаварыў Сымон Базылёвых.

— Не даюць лавіць.

— І яшчэ я табе хацеў сказаць,— адклікаў убок старога Сымон Базылёвых,— каб ты быў больш асцярожным. А то не толькі мною, але і табою СД пачынае цікавіцца.

— Не было напасці.

— Ну, будзь здароў! Мне трэба ехаць.

— Куды так спяшаецеся? Можа, вып'еце соку?

— Магу.

Дзед Архіп частаваў бярозавым сокам.

— Ну і мацунак! А-ах!

Развітаўшыся, Сымон Базылёвых паехаў. Загрукацела брычка, пераязджаючы цераз мост. Неўзабаве бургамістр знік. Сяляне, не разумеючы адносін дзеда Архіпа з Сымонам Базылёвых, лаялі бургамістра на чым свет стаіць, а ў гэтым ім памагаў млынар.

— Чаго ён сюды прыязджаў? — запытаўся адзін з сялян.

— А ліха яго ведае, мусіць, хацеў фунты забраць,— хітрыў дзед Архіп.— Але хіба я яму аддам, лепей партызанам у лес адпраўлю. Унь гарашчэнеўцы без хлеба сядзяць. Хоць цяпер бы паслаў, але няма з кім.

— Не трэба аб гэтым вельмі званіць,— перасцерагаў селянін.

— Дык хіба ж я не ведаю, з кім маю справу,— адказаў дзед Архіп.— Ці раз вы мне рабілі паслугу. Хто згодны адвезці? Мне падвод з сем.

— Я,— пачуўся голас, пасля другі, трэці, чацвёрты...

— То грузі, мужчыны! Павязеце праз Раманавічы, Мохаеды, Кашары. У Лютаўцы запытаецеся дзядзьку Гальяша, скажаце, што везяце млынароў падарунак. Ён аддасць каманду вас на пароме перавезці і скажа, дзе згрузіць.

— Добра,— сяляне ад'язджалі.

Нагружаныя падводы адна за адной аддаляліся ад млына. Задаволены дзед Архіп праводзіў іх вачыма, пакуль яны зусім не зніклі з гарызонта. Гаманілі паміж сабою мужчыны, лаячы немца. Пачуўся конскі тупат, заляскалі падковы. Гэта прыехаў верхам у суправаджэнні аховы Васіль Мікалаевіч, пад ім быў добры скакун. Дзед Архіп выйшаў насустрач Васілю Мікалаевічу. Ветліва прывітаўшыся, Васіль Мікалаевіч спытаўся:

— Якія навіны?

— Толькі што па распараджэнню бургамістра адправіў гарашчэнеўцам дзвесце пудоў мукі.

— Гэта добра,— Васіль Мікалаевіч жартаваў.— Дык, можа, і мне які пуд змелеш?

— Завозна.

— А калі добра папрашу?

— Што з вамі зробіш, прыйдзецца памеркавацца. А што новага ў горадзе?

— Гледзячы якім? Быў я надоечы ў Прыяміне, дык, ці паверыце, на плошчы бачыў зайца. Вось да чаго дажылі! — падумаўшы, Васіль Мікалаевіч спытаўся: — А як літаратура?

— За літаратуру — хлеб пякуць партызанам.

— Дык сёння яшчэ будзе. А цяпер мне тэрмінова трэба адправіць пошту ў атрады. З кім бы толькі?

— З сямі атрадаў у мяне ёсць людзі. Хутка яшчэ будуць. Адпраўлю!

— Што яшчэ ў цябе новага?

— Нявыкрутка.

— А што?

— СД цікавіцца.

— Адкуль табе вядома?

— Бургамістр Сымон Базылёвых папярэдзіў. У Караеды прыехаў Пясецкі яго, Сымона Базылёвых, рэвізаваць. І над ім нявісла навала. А яшчэ...

Дзед Архіп перадаў размову з Сымонам Базылёвых адносна яго адмовы ехаць у Мінск на «кангрэс».

— Шкада,— задумаўся Васіль Мікалаевіч.— Што ж цяпер рабіць?

— Мо бацька Тарас пашле свайго «мужычка» хоць госцем,— падказваў дзед Архіп.

— Трэба будзе пагаварыць з ім,— згадзіўся Васіль Мікалаевіч.— Але туды не так лёгка будзе прайсці... Хіба гарадскія падпольшчыкі памогуць...

Забрахалі ў вёсцы Ганчары на ўсе галасы сабакі. Дзед Архіп насцеражыўся.

— Немцы,— прыслухаўшыся, паведаміў ён.

— Адкуль табе вядома?

— Чуеце, як заліваецца канцавога Івана сабака, тоненькім галаском брэша,— непакоіўся дзед Архіп.— Гэта ж ён так не любіць немцаў. Вы зараз жа едзьце. Рызыкаваць дарэмна не варта. Ваша галава, таварыш Васіль, патрэбна нам. З богам у дарогу. Едзьце ў лес, а там скіруеце, куды вам трэба. Усяго добрага!

Васіль Мікалаевіч, прышпорыўшы скакуна, прыгнуўшыся, маланкай пранёсся каля млына і хутка знік у хвойніку. Дзед Архіп вальней уздыхнуў, абмяркоўваючы, што яму рабіць, каб не трапіць у рукі СД.

Пачуўся стрэл, заенчыў сабака, перастаў брахаць — гэта немец яго ўлажыў. Вецер данёс плач дзяцей, гоман жанчын, крык мужчын. Над млынам мятнулася чарада галубоў, моцна б'ючы крыллямі. Дзед Архіп выпрастаўся, выставіўшы свае георгіеўскія крыжы.

— Хлопцы! — гукнуў дзед Архіп, ён, спяшаючыся, раздаваў сувязным пакеты.— Гайда ў дарогу, хутка! Ды ідзіце пагонам, усё ж хвойнікам спакайней. Скажаце атрадам, што млын больш не працуе. Даставіце дзядзьку Гальяшу для мяне распіскі аб атрыманні пакетаў. А ты, Хвядос, скажаш Пацяруху, каб прыслаў падводы, забярэм нямецкі хлеб. А ты, Мікола, аддасі гэтую пісульку асабіста Гарашчэню. А калі часам крута будзе, дык ведаеш, што трэба рабіць з запіскай?

— Ведаю.

— То ідзіце!

Партызаны хутка зніклі. Дзед Архіп, каб не паказаць усхваляванасці, прайшоўся на мост, закурыў, зацягнуўся некалькі разоў і кінуў цыгарку ў ваду;

яна ваўчком закруцілася ў віры. Да дзеда Архіпа падбег паліцай.

— Таварыш Васіль тут быў?

— Які таварыш Васіль?

— Такі вялікі, дужы, прыгожы, на гнедым скакуне — яму караедаўскі бургамістр жарабка падараваў.

— Не-е, нікога не бачыў.

— І бургамістр не прыязджаў на парцы вараных?

— Не,— паціснуў плячыма млынар.

— Брэшаш! — крыкнуў паліцай, схапіўшы млынара за каўнер.— Бургамістр ужо ў нашых руках. Кажы, дзе таварыш Васіль?

— Пастой! Задушыш, недавярак! — хрыпеў дзед Архіп, а потым, злаўчыўшыся, так смальнуў наском бота ніжэй жывата, што той, дзіка зароўшы, як мячык, ад яго адскочыў і, зламаўшы струхнелае пярыла, паляцеў з ім у ваду. Дзед Архіп з моста бултыхнуў у яго каменем. Паліцай, нешта замармытаўшы, пайшоў на дно. На паверхні асталіся кругі, іх падхапілі хвалі і разнеслі па рэчцы.

— Ну вось і канцы! — млынар, падабраўшы аўтамат, схаваў яго пад мостам. Сяляне здзіўлена глядзелі на дзеда Архіпа. Яны не паспелі і аглянуцца, як ён аходаў здрадніка.— Чаго глядзіце? Няма чым біць? А сякеры навошта! Самі немцы не пакінуць нашай зямлі, вельмі ж ужо сквапны кавалачак. Партыя патрабуе, каб усе мы ўзняліся, білі фашыста хто чым можа. А калі паўстане ўвесь народ, то ніякія ліхадзеі тут не ўтрымаюцца. З Украіны ўжо гоняць няпрошаных гасцей. Усходнія вятры ўжо даносяць гул гармат. Унь яшчэ з пасёлка бяжыць адзін... Калі ты не заб'еш фашыста, дык ён цябе заб'е. Цяпнем!..

Толькі эсэсавец параўняўся з сялянамі, як яны накінуліся на яго і, заткнуўшы горла нейкай анучай, завязаўшы назад рукі, разгойдаўшы, кінулі з моста ў рэчку. Немец, як тапор, пайшоў на дно.

— Амінь! — перахрысціўся дзед Архіп.— Святую справу вы зрабілі. Адным злыднем менш будзе.

Праз некаторы час з вёскі падышла цэлая група эсэсаўцаў, якія зусім неўзаметку для дзеда Архіпа акружылі млын. Да старога падышоў обер-яфрэйтар, запытаўшыся:

— Сюды пайшлі два салдаты, дзе яны?

Дзед Архіп, захоўваючы ўсхваляванасць, адказаў:

— Яны ўбачылі каля лесу нейкага на гнедым кані і туды пабеглі.

— А той коннік не быў тут?

— Ён ехаў сюды, але, пачуўшы стрэл, вярнуўся. А хто такі, не ведаю.

Обер-яфрэйтар аддаў па-нямецку загад, і ўсе салдаты з аўтаматамі наперавес рушылі ў бок лесу. Дзед Архіп, правёўшы іх вачыма, пасміхаўся ў вус, падумаўшы: «Нашы вашых заўсёды абдураць, хоць вы і выхваляецеся, што «вышэйшая раса».

Пад вечар да млына пад'ехалі партызаны з атрада Пацярухі, яны ўсе былі ўзброены аўтаматамі.

— Грузі, хлопцы, збажыну, ні каліва не пакінем немцу.

— Ёсць,— казырнуў дзеду Архіпу старэйшы партызан.

Да млына падыходзілі сяляне з пасёлка. З'яўленне тут эсэсаўцаў іх непакоіла. Дзед Архіп аддаваў апошнія распараджэнні:

— Калі прыедуць эсэсы, скажаце, што наскочылі партызаны, хлеб забралі і млын падпалілі. Ну, рэч вядама, і млынара з сабою забралі.

І дзед Архіп, асяніўшы крыжам будову, пусціў «пеўня». Далёка ад'ехалі партызаны ад млына, а полымя ўсё шугала. Дзед Архіп моўчкі ішоў, на яго твары яшчэ акрэсленей відаць былі глыбокія маршчыны. Пануры, ён пакідаў родныя палеткі, дзе хлапчуком збіраў кветкі, гуляў з дзецьмі ў коні і качаў па вуліцы кацёлку,— хоць і не бачыў маленства, бо з сямі год, калі трэба было вучыцца, пайшоў пастушком і там праходзіў навукі. Каля панскіх дзяцей ён крыху абцёрся, навучыўся грамаце. Яшчэ і іх вучыў. А таму ён так дорага цаніў здабытую свабоду, бо толькі пры Савецкай уладзе стары адчуў сябе чалавекам. Позна ўначы яны дабраліся да атрада Пацярухі. Ветліва сустракалі партызаны дзеда Архіпа, свайго сувязнога.

## 45

Цяжка было прабрацца ў Мінск Чыжу, якога бацька Тарас, па даручэнню Васіля Мікалаевіча, паслаў на «кангрэс», а яшчэ цяжэй яму было дастаць хоць гасця-

вы білет на зборышча нацыяналістаў. І каб не мінскія падпольшчыкі, Чыж бы не трапіў туды.

Мінскі гарадскі тэатр, у якім адбываўся «кангрэс», пільна ахоўваўся, вядома, там былі не толькі бургамістры, кіраўнікі «камітэтаў самапомачы», начальнікі паліцыі, рэдактары і некаторыя працаўнікі нацыяналістычнага друку, іх у народзе называлі — разбойнікі пяра, як Арсеньева, Віцьбіч, Ант. Адамовіч і іншыя, духавенства, але прысутнічаў на «кангрэсе» і яго ініцыятар гаўляйтэр генерал фон Готберг са сваёй хеўрай.

Пры ўваходзе ў фае стаялі пераадзетыя ў цывільную адзежу працаўнікі СД (гестапаўцы), яны ўважліва ўсіх правяралі, разглядаючы не толькі «мандаты» (дэлегатаў ніхто не выбіраў), але і заглядалі ў твары, сочачы, каб хто не пранёс узрыўчатку. Пакаранне народнымі мсціўцамі былога гаўляйтэра Вільгельма Кубэ, які ў сваёй кватэры ўзляцеў у паветра, іх многаму навучыла.

Чыж, у сінім касцюме, у белай сарочцы, з гальштукам, прайшоўшы кантроль, каб не маячыць, адразу пайшоў на галёрку. Яму хацелася там заняць месца ў першым радзе, але ледзь знайшоў месца ў апошнім радзе. На сцэне вісеў партрэт Гітлера, з чыйго дазволу склікан гэты «кангрэс», свастыка, а ўнізе герб нацыяналістаў «Пагоня». Зала ўпрыгожана бела-чырвона-белымі флажкамі. У глядзельнай зале першыя рады і ложы заняты немцамі. Чыж паглядзеў на твары нацыяналістаў і заўважыў асуджанасць і спалох, страх перад заўтрашнім днём, калі прыйдзецца адказваць за свае злачынствы. Вочы іх засмучаныя, відаць былі мукі сумлення. Рукі пачвар у крыві. Насы ў многіх ад беспрабуднага п'янства, як спелыя слівы. Рухі нервовыя. Па падліках Чыжа, фашыстамі, пры дапамозе нацыяналістаў, у Беларусі знішчана каля паўтара мільёна мірных грамадзян.

На галёрцы паціху размаўлялі:

— Унь працаўнік СД Хойзер пайшоў! На яго асабістым рахунку толькі за адзін год знішчаных каля 25 тысяч чалавек.

— Ого! А хто за ім ідзе?

— У вайсковай форме маёр Францішак Кушэль, камандзір 13-га карнага батальёна, а ў цывільнай —

Станіслаў Станкевіч, быў бургамістрам у Барысаве, і начальнік нясвіжскай паліцыі Уладзімір Сянько...

— Цішэй! — пачуліся галасы.

На сцэне з'явіліся члены прэзідыума «кангрэсу». Нікога з іх Чыж не ведаў, хоць прозвішчы чуў. Старшынствуючы дае слова Радаславу Астроўскаму. Вось падыходзіць да трыбуны прышчаваты чалавек, бледны, азіраецца па баках, як затраўлены звер, ён у чорным у белую палоску касцюме, з папкай у дрыжачых руках. Пачуліся слабыя воплескі.

Звярнуўшыся да духоўнага правадыра Адольфа Гітлера, паслаўшы фюрэру глыбокую падзяку за вызваленне Беларусі ад бальшавікоў, Астроўскі запэўніў, што ў барацьбе за новую Еўропу і за аднаўленне вызваленай Беларусі ён давярае яму, правадыру, сваю працу і сваё жыццё.

Прамоўца спацеў і выцер хустачкаю лоб і карак.

Потым Астроўскі, павярнуўшыся да гаўляйтэра генерала фон Готберга, гаворыць:

— Выношу вам падзяку за той давер, які вы нам даеце, і даю ўрачыстае абяцанне гэты давер апраўдаць сваёю працаю і нашым агульным ворагам — бальшавізмам.

Гаўляйтэр генерал фон Готберг яшчэ 20 студзеня 1944 года прызначыў «прэзідэнтам» так званай Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага. Цяпер, 27 чэрвеня 1944 года, па яго загаду, быў скліканы гэты «кангрэс», каб прыняць адпаведныя дакументы. Галоўнае, аддзяліць Беларусь ад Расіі. У гаўляйтэра ўсё яшчэ цяплілася думка мець Беларусь калі не ў саставе германскай імперыі, дык сваёй калоніяй.

Астроўскі, хвалюючыся, манатонна чытаў адрэдагаваны гаўляйтэрам генералам фон Готбергам даклад, дайшоўшы ў ім да геркулесавых слупоў, акрамя ўсяго іншага, абвясціўшы на гэтым зборышча здраднікаў і правакатараў, шпіёнаў і забойцаў, людзей з чорнымі душамі, аб аддзяленні Беларусі ад Расіі. Далей ён гаварыў:

— Беларусы здолеюць толькі пад нямецкім кіраўніцтвам развіць свае прадукцыйныя творчыя сілы і развіць сваю гаспадарку, галоўным чынам, у галіне земляробства і асабліва ў развіцці жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі.

Скончыўшы прамову, Астроўскі, ускінуўшы наперад руку, выкрыкнуў:

— Хайль Гітлер!

«Якая ганьба!» — падумаў Чыж.

Ён, калі быў абвешчан перапынак, не захацеў больш аставацца і адной хвіліны ў гэтым звярынцы. «Выродкі,— думаў Чыж.— Яны хочуць астацца жывымі ў ліку тых 25 працэнтаў анямечаных беларусаў, а што астатнія 75 працэнтаў беларусаў, калі б немцы асталіся ў Беларусі, былі знішчаны, ім да іх няма ніякай справы. Вылюдкі няшчасныя! Прыйдзецца ўсім вам у абозе фашыстаў, якія хутка будуць патураны з роднай зямлі, цягнуцца на захад, валачыцца па свеце і дзе-небудзь пад плотам загінуць. Туды вам і дарога! Чалавек без радзімы — жабрак».

І Чыж пакінуў тэатр.

46

Па начах усё выразней і выразней была чуваць кананада. Чырвоная Армія прасоўвалася на захад. У лагеры гарашчэнеўцаў было ажыўленне, з усіх бакоў хлынулі людзі ў лес, каб захаваць сабе жыццё. Немцы, адступаючы, маглі пагнаць з сабою. Перад партызанамі была пастаўлена задача — аберагаць мірнае насельніцтва. Гэта некалькі скавала дзейнасць партызан. У лесе можна было пачуць плач дзяцей, рыканне кароў, іржанне коней.

Гаманілі людзі, абмяркоўваючы падзеі на франтах. Рэха данесла гарматны стрэл. Дзед ад радасці перахрысціўся, пачаў цалаваць сваю старую.

— Адчапіся ты,— бубніла старая,— пасаромеўся б людзей. А каб ты спруцянеў!

Зусім незнаёмыя людзі ад радасці цалаваліся. Злучэнне Гарашчэні ў апошні час тысячамі адбівала ў немцаў людзей, якіх гналі ў Германію.

— О-ой! О-о-ой! — пачуўся душараздзіраючы крык жанчыны.

— Што такое? — занепакоіўся Гарашчэня.

— У Караедах немцы павесілі Сымона Базылёвых,— паведаміў Гальяш.— Нехта падказаў аб нашых з ім сувязях, пра тое, што ён уратаваў таварыша Васі-

ля. Гэта яго жонка плача. Яна з чарадою дзяцей уцякла. Просіць, каб знялі цела з шыбеніцы, памаглі пахаваць.

Гарашчэня зняў шапку. За гэты час ён значна змяніўся, асабліва далася блакада. Камандзір злучэння пастарэў, вядома, гэтулькі было клопатаў. У лагеры Гарашчэні было толькі мірных людзей больш за дзесяць тысяч. Многіх з іх трэба было карміць. У апошні час трохі падтрымаў Гарашчэню з хлебам Сымон Базылёвых. Пры яго дапамозе партызаны ўзялі ў немцаў шмат хлеба і мяса.

— Пашлі людзей,— звяртаючыся да Гальяша, распарадзіўся Гарашчэня,— каб знялі цела Сымона Базылёвых. Ён заслужыў таго, каб яго пахавалі як чалавека.

— Ёсць,— казырнуў Гальяш.

Перад партызанамі была пастаўлена задача — правесці аўтаматчыкаў па партызанскіх сцежках з тым, каб ударыць па немцах з тылу. Шпакоўскі і Пацяруха збіраліся ісці для выканання гэтага задання.

— А гэта што ў цябе? — пацікавіўся Гарашчэня, звярнуўшыся да Шпакоўскага, які трымаў у руках скрутак.

— Сцяг палка,— паведаміў Шпакоўскі.— Пры сустрэчы перадам камандаванню. Гэты сцяг незаплямлены. Мы з ім пойдзем у бой. Будзем Берлін штурмаваць. Возьмеш мяне ў полк?

Гарашчэня ад радасці пацалаваў Шпакоўскага. Падбегла заклапочаная Марыйка, яна, жартуючы, гаварыла:

— Што ж гэта вы, дзядзька Шпакоўскі, у мяне мужа адбіваеце?!

— Ого! Адаб'еш у цябе! Ды вас жа вадою не разальеш,— смяяўся Шпакоўскі і, звярнуўшыся да Гарашчэні, спытаўся: — Можна ісці?

— Ідзіце.

Шпакоўскі і Пацяруха, казырнуўшы, пайшлі, хоць у гэтым цяпер і не было патрэбы. Ужо чуваць былі ружэйныя стрэлы.

— Ці не ўскочыла ты, Марыйка, у саладуху?! — падсмейваўся Гарашчэня.— Дзе ты ўпэцкалася ў муку?

— Гэта ж я цеста мясіла, надоечы дзед Архіп прасіў спецыяльна спячы яму бохан хлеба, як даўней пяклі,

круглы, вялікі, Савецкую Армію сустракаць. Так цяпер яе называюць.

— Але.

Ударыўшы з фланга па немцах, Савецкая Армія з ходу авалодала горадам Караеды. Гэтая вестка хутка абляцела ўсе атрады Гарашчэні, увесь лагер, усе навакольныя вёскі. Народ лікаваў. З зямлянак павысыпалі і старыя і малыя. Шумелі лясы, гаманіў бор, спяваў гай, разносячы па зямлі людскую радасць, якой не было меры.

Пачуліся галасы:

— Вядуць!

— Каго?

— Пясецкага!

— Нарэшце! — усклікнуў Гарашчэня.— Давайце яго сюды, на суд народны. Папаўся, прадажны сабака! Шмат ён папіў людской крыві. А колькі праз яго праліта слёз! А мы пакляліся, што не даруем ні адной слязінкі.

Партызаны падвялі Пясецкага, у яго былі звязаны назад рукі. Ён увесь калаціўся ад страху, спадылба паглядаючы то на камандзіра злучэння, то на народ.

— Да пары збан ваду носіць: вушка адарвецца і збан паб'ецца,— гаварыў Гарашчэня.— Дзе ж вы яго ўзялі?

— З Караедаў уцякаў. Пасля яго «рэвізіі» Сымона Базылёвых арыштавалі. А потым...

— Што ж нам з ім рабіць? — перабіў Гарашчэня.

— Павесіць! — крычалі людзі.

— Чаго марудзіш, камандзір? — сурова загаварыў дзед Архіп.— Няма чаго з ім валаводзіцца. Па ім даўно плача горкая асіна...

— Даруйце! — прасіўся Пясецкі.— Збіўся з тропу... Выпраўлю памылку...

— О, не-е,— гнеўна гаварыў дзед Архіп.— Табе не мінуць народнай кары. Колькі ты людзей са свету звёў? Наста Свірчэўская... Мірон Грыневіч... Таварыш Сяргей... Дый усіх не пералічыш!.. Старыя, да мяне! Як ты скажаш, Міроніха, што з ім рабіць?

— Людзі ўжо сказалі, павесіць,— адказала Міроніха.

— Правільна! — падтрымалі старыя.

— Ну што ж, камандзір, вырашай! — гаварыў дзед Архіп.— Голас народа — голас божы.

— Імем народа,— паведаміў Гарашчэня,— вырашаю: Віктара Пясецкага як ярага ворага працоўных пакараць смерцю праз павешанне.

Пачуліся бурныя апладысменты.

Людзі схапілі Пясецкага, адвялі ўбок і на галіне асіны павесілі.

Старыя былі задаволены, што камандзір выканаў іх волю.

Сціхла кананада. Толькі сяды-тады чуваць былі стрэлы з кулямётаў, кароткія чэргі з аўтаматаў, рэдкія ружэйныя стрэлы.

Усхваляваныя людзі рыхтаваліся да сустрэчы Савецкай Арміі. Марыйка спякла хлеб. Мароніха падрыхтавала сальніцу з соллю.

— Нашы! — пачуўся радасны голас хлопчыка.

Паказалася разведка Савецкай Арміі, ішлі абветраныя ўсімі вятрамі байцы, у пыле, стомленыя, суровыя. Іх суправаджалі Шпакоўскі і Пацяруха.

— Вось яны, нашы вызваліцелі! — усклікнуў дзед Архіп.— Усё ж дачакаўся я іх, а цяпер не страшна і памерці...

Старыя, дзеці, мужчыны і жанчыны кінуліся насустрач байцам. Наперад, усхваляваны, са слязамі радасці на вачах выйшаў дзед Архіп з буханкаю хлеба і соллю на вышытым ручніку, а за ім Міроніха і Марыйка.

— Дарагія вы мае, родныя! — загаварыла Міроніха, яна не ў сілах была стрымаць слёз радасці.— Няўжо ж гэта не сон? Не! Такі гэта наяве. Доўга мы вас чакалі, кожны дзень успаміналі, нарэшце дачакаліся. Дзякуй вам, што вы нас вызвалілі з няволі, дзякуй роднай партыі!

— Добры дзень табе, любая наша бацькаўшчына Беларусь! — усхвалявана сказаў баец.

Падбеглі дзяўчаты, яны засыпалі разведчыкаў палявымі кветкамі. Людзі дзяліліся апошнім з салдатамі, абдымалі іх, цалавалі. На суровых салдацкіх тварах таксама былі слёзы радасці.

Доўга не бавячыся, разведка пайшла далей на захад. Іх вялі партызаны адным ім вядомымі сцежкамі.

Неўзабаве рушылі савецкія палкі, яны праклалі шлях проста па палетках. Канца-краю не было відаць войску. Сяляне дзівіліся сіле. А гэта ж была толькі невялікая частка магутнай Савецкай Арміі, якая ў жорсткіх баях узмужнела, загартавалася.

Шмат ішло тэхнікі, рухаліся танкі, вялікія і малыя, скрыгочучы гусеніцамі. Прайшлі самаходныя гарматы. Праехалі «кацюшы», якіх немцы баяліся як агню.

Пад'ехаў генерал на легкавой машыне, каля камандзіра партызанскага злучэння спыніўся. Да генерала падышоў Шпакоўскі, ён разгарнуў сцяг палка і перадаў яго генералу. Генерал моцна пацiснуў руку партызану. Адышоўшыся ўбок, генерал з камандзірам партызанскага злучэння паглядзелі на карту, а потым, спяшаючыся, селі ў машыну і, абганяючы калону, паехалі.

Правёўшы перадавыя часці Савецкай Арміі — салдаты выглядалі па-маладзецку,— сяляне выйшлі з лясоў са сваім скарбам, вяртаючыся па раскіданых гнёздах, каб пачаць жыць спачатку.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Позна ў той вечар Гарашчэня вярнуўся ў лагер. Камандзір злучэння паведаміў Васілю Мікалаевічу, што ён атрымаў указанне ЦК неадкладна прыступіць да аднаўлення завода.

Марыйка аставалася ў Міроніхі. Ім яшчэ трэба было чакаць вызвалення вёскі Азярышча. Шпакоўскі ішоў з Гарашчэнем у полк. Гальяша і Пацяруху пасля вызвалення іх родных мясцін меркавалі вылучыць старшынямі калгасаў.

Усіх узрадавала паведамленне, што бацька Тарас, які яшчэ быў у тыле ворага, захапіў раённы цэнтр Дрыгвічы і намеран утрымліваць да прыходу Савецкай Арміі.

— Вось дык «мужычкі»,— усміхнуўся Гарашчэня.

— Бядовыя! — задаволена прагаварыў Васіль Мікалаевіч.— Чыж напэўна прызначан камендантам горада. Падлічвае баланс...

Зноў чуваць была кананада, якая ўвесь час нарастала. Немцы чапляліся за кожны водны рубеж, за раней падрыхтаваныя ўмацаванні, пакідаючы іх толькі пасля таго, калі не ў сілах былі ўтрымаць. Неахвотна яны адступалі, фашыстаў гналі ў іх логава.

На другі дзень раніцою Васіль Мікалаевіч з Гаращчэнем развіталіся, умовіўшыся пасля вайны спаткацца.

Неахвотна разыходзіліся сябры, дружба якіх склалася ў сумеснай барацьбе за вызваленне народа, за яго шчасце і радасць, за яго будучыню.

*1944—1954*
*Масква — Мінск*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Ілья Данілавіч Гурскі нарадзіўся 14.4.1899 г. у вёсцы Замосце Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і.

У 14-гадовым узросце пачаў самастойнае працоўнае жыццё: батрачыў у маёнтку памешчыка, а ў 1916 г. паступіў рабочым на Абухаўскі завод у Петраградзе. Удзельнічаў у Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З 1919 да 1924 г. служыў у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у баях на Паўднёвым і Заходнім франтах, пад Растовам-на-Доне быў паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў у Мінску ў Галоўрэперткоме і Галоўмастацтве Наркамасветы БССР. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. З 1935 да 1941 г. быў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў у франтавым друку: рэдагаваў газету «За свабодную Беларусь» і сатырычны часопіс «Партызанская дубінка». Пасля вайны доўгі час быў рэдактарам часопіса «Беларусь».

Узнагароджан ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і медалямі.

Заслужаны дзеяч культуры БССР.

Памёр у 1972 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1928 г. Апублікаваў п'есы: «Новым шляхам» і «Дрыгва» (1928), «Сварка» (1929), «Качагары» (1930, пастаўлена ў 1931), аднаактоўку «Бальшавіцкая вясна» («Вясна», 1930), «Новы горад» (1932, пастаўлена ў 1931), аднаактоўку «На крэсах усходніх» (1932), «Маці» (1934), «Сваты» (1935, пастаўлена ў 1936), аднаактоўку «На варце» (1938), «Па-

трыёты» (1939), аднаактоўку «Клад» (1940, прэміравана ў 1939—1940 гг. на Усебеларускім конкурсе на лепшую дзіцячую песню і п'есу), «Валодзя Вярбіцкі» (публікаваўся ўрывак у 1937, пастаўлена ў 1941), «Свае людзі» (1950, пастаўлена ў гэтым жа годзе), «Хлеб» (1948).

Былі выдадзены кнігі апавяданняў: «Над Нёманам» (1945), «На родных гонях» (1948), «Зары насустрач» (1949), «Неспакойныя характары» (1955), «У вялікай дарозе» (1958), «Родная дарога» (1961); кніга апавяданняў для дзяцей «На берагах Нявы» (1968); аповесць «Лясныя салдаты» (1945); раман «У агні» (1952); раман-хроніка «Вецер веку» (1966); раман-памфлет «Чужы хлеб» (1971).

## ЗМЕСТ

### АПАВЯДАННІ

**Гурскі І.**

**Г 95** Лясныя салдаты: Апавяданні і аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 552 с., 1 л. іл.— (Б-ка беларус. прозы).

Рэвалюцыйныя падзеі Вялікага Кастрычніка, подзвіг савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, мірныя стваральныя будні роднай рэспублікі — такі тэматычны абсяг апавяданняў зборніка.

Аповесць «Лясныя салдаты» расказвае аб тым, як нараджаўся партызанскі рух у Беларусі, як гартаваліся характары народных мсціўцаў у суровых выпрабаваннях.

**Г $\frac{70303-131}{М\ 302(05)-79}$ 115—79**

**ББК 84 Бел 7**

**Бел 2**

Библиотека белорусской прозы

Илья Данилович Гурский

Лесные солдаты

Рассказы и повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. М. Макаль
Мастак У. М. Жук
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук
Карэктар Л. С. Мануленка

ІБ № 477

Здадзена ў набор 05.01.79. Падп. да друку 20.07.79. АТ 01231. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 28,98+0,11 укл. Ул.-выд. арк. 28,93. Тыраж 6000 экз. Зак. 1899. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.